УДК 908(476.1)
ББК 26.89(4Беи)
К44

Рэцэнзенты:
доктар геаграфічных навук, прафесар В.С. Аношка;
гісторык-журналіст, краязнаўца А.І. Валахановіч.

**Кісялёў, У. М.**
К44 Наднёманскімі пуцявінамі / У. М. Кісялёў. — Мінск : В. П. Ільін, 2009. — 432 с. : іл.
ISBN 978-985-6365-28-0.

Адбыўшы працоўны шлях, аўтар адчуў патрэбу вярнуцца на сцежкі маладосці, у край наднёманскіх вытокаў. Ён здзейсніў шэраг водных і старых трактавых падарожжаў. Падзівіўся прыгажосці сваёй Бацькаўшчыны, яе моцнай традыцыйнасці, культурным і духоўным дасягненням.

Так узнікла кніга “Пуцявінамі Наднямоння” (Полымя, 1994). Час ішоў і патрабавалася яе дапаўненне і дапрацоўка. І вось новая кніга перад чытачом. Яна прысвечана багатай гісторыі неднёманскага краю, дзейнасці яго выдатных творчых прадстаўнікоў.

Багата ілюстраваная, кніга разлічана на тых, хто цікавіцца каштоўнасцямі роднай зямлі, хто неабыякавы да нашай гісторыі і духоўнай спадчыны.

**УДК 908(476.1)**
**ББК 26.89(4Беи)**

ISBN 978-985-6365-28-0

*Прысвячаецца 2009 году, Году роднай зямлі*

# ПРАДМОВА

Чытач трымае ў руках кнігу-споведзь пра самае блізкае — Радзіму. Феномен яе ўшанавання спасцігае бадай што ўсіх нас. І да кожнага ён прыходзіць па-свойму.

Папярэдняя гэтаму выданню кніга "Пуцявінамі Наднямоння" пабачыла свет у 1994 годзе ў выдавецтве "Полымя" з падтрымкі тагачаснага дзяржаўнага камітэта па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю ў перыяд дзяржаўнага і грамадскага раздарожжа, калі многія прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі кінуліся шукаць адказы на адвечныя пытанні ў чужым ладзе жыцця. Аўтар жа, наадварот, у той складаны час зрабіў спробу вярнуцца ў наша мінулае, асэнсаваць наш гістарычны адвечны вопыт, разабрацца, што мы можам згубіць на шляху адрачэнняў, сумненняў і хістанняў.

Варыянт першага выдання кнігі рыхтаваўся ў сціслыя тэрміны і без затрымкі быў рэалізаваны выдавецтвам, у першую чаргу намаганнямі былога яго галоўнага рэдактара М.К.Іванова. Светлая яму памяць!

У наступнае дзесяцігоддзе кніжка прайшла выпрабаванне часам. На ёй сталелі вучні, яе фактурай карысталіся пры падрыхтоўцы афіцыйных матэрыялаў, яна ўручалася жыхарам наднёманскага рэгіёна на ўрачыстасцях. Даволі значны яе тыраж хутка разыйшоўся і яна перайшла ў катэгорыю рарытэтных.

І вось праз пятнаццаць гадоў, улічваючы прапановы аб перавыданні кнігі, аўтар зноў звярнуўся да каштоўнасцей роднай зямлі, узбагаціўся новымі ведамі, падзівіўся прыгажосці, непаўторнасці і багаццю Радзімы. Ён прайшоў абавязковыя этапы спасціжэння вобразу Радзімы і выкарыстаў іх у адпаведнай паслядоўнасці ў гэтай кнізе.

Пазнанне Радзімы ў яго ідзе праз паглыбленне ў вобраз і змест жыцця насельнікаў роднай старонкі, праз вяртанне да паўзабытых сцежак жыцця, ручаін, пагостаў, старых печышчаў.

Ідэя роднага краю, дэвіз якога: “Тут зямля такая!”, спадчына продкаў асэнсоўваецца праз вывучэнне няўхільных, пераходзячых са стагоддзя ў стагоддзе вераванняў і норм жыцця.

Узвышэнне зямлі ідзе праз раскрыццё таямніц, прачытанне яе новых старонак. У першую чаргу на прыкладзе павучальных для нашчадкаў выдатных асоб мінулага. Менавіта праз іх справы ўзбагачаецца інтарэс да роднага краю. Людзі, якія далучыліся да фенамена Радзімы, жывуць больш змястоўна і ўпэўнена.

Аўтарская тэндэнцыя дазволіла наблізіцца да зямляцкага кола аднадумцаў, апантаных, адораных людзей. Усе яны вылучаюцца ўстойлівай жыццёвай філасофіяй і актыўнай жыццёвай пазіцыяй.

Яшчэ раз пацвердзілася: Уздзеншчына — край выразна беларускі, адвечна сялянскі з шматвяковым неацэнным вопытам міжнацыянальнага суіснавання.

Адсюль выцякае і аўтарскае крэда: культурны кансерватызм, вернасць паданню, поўнае выкарыстанне іх у паступальным развіцці і прагрэсе нашага грамадства.

Непаказная сялянская высакароднасць, сціпласць, цнатлівасць, сапраўдная прыгажосць, усё тое, што складае вышэйшую праўду існавання, далучаецца аўтарам у скарбонку спасціжэння сутнасці Радзімы і пераходзіць на старонкі кнігі. У ёй аўтар настойліва шукае і прапагандуе спрадвечныя рэлігійныя, у першую чаргу хрысціянскія, каштоўнасці, прызнаючы іх за аснову маральнага жыцця вяскоўцаў.

За мінулае пятнаццацігоддзе ў Наднямонні адбыліся станоўчыя зрухі. Парадавалі сваімі працамі пісьменнікі Алесь Махнач, Лідзія Арабей, Васіль Шырко, Васіль Гурскі, настаўнік Міхась Лазар. Пашуковец В.Лычкоўскі стварае камп’ютарны інфармацыйны фонд наднёманскага побыту і культуры. Сур’ёзную асветніцкую дзейнасць працягвае раённая газета “Чырвоная Зорка” і яе творчыя аб’яднанні. І, канешне, вялікую выхаваўчую работу працягвае ў раёне выдатны настаўніцкі калектыў.

Сёння, калі зноў адчулася патрэба ў вяртанні да крытэрыяў нашай спадчыны, паглыбляецца цікавасць да ўшанавання і ўзвышэння годнасці продкаў, г. зн. да прац творцаў, краязнаўцаў. Да іх ліку залічвае аўтар і сябе.

У творчым жыцці яму шанцавала. Займаючыся асноўны час адрознымі ад вясковых спраў праблемамі гарадской гаспадаркі,

ён неяк умудраўся не адрывацца і ад вясковых гоняў. Дапытлівасць была ўзнагароджана незабыўнымі і павучальнымі сустрэчамі з людзьмі, якія вызначалі культурную палітыку часу, стаялі ў гушчы жыцця. У іх было і ёсць чаму павучыцца. Аўтар не прыхоўвае да іх сваёй сімпатыі і аддае ім у сваёй кнізе шчырую ўдзячнасць за саўдзел у стварэнні кнігі, за адкрытасць і бескарыснасць. Гэта супрацоўніцтва надавала яму надзею, апраўдвала жыццё.

Аўтар па-ранейшаму не прывязвае сваю кнігу да пэўнага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу. Яго дослед ахоплівае ўсё Наднямонне ў сэнсе адзінага вялікага фізіка-геаграфічнага ўрочышча на вадастоку Нёмана ў межах Мінскай вобласці. Таму і кніга захоўвае выразна мясцовы характар. Тым не менш яна прапануе роздумы і ідэі агульнадзяржаўнага плана і можа ўяўляць цікавасць для ўсіх беларускіх чытачоў.

Кніга — не працяг шэрагу выданняў на гэту тэму апошняга часу. Яна ставіць мэтай перадаць чытачу эмацыянальна-маралевую і духоўную складаючую вобразу насельнікаў нёманскіх вытокаў з даўніны да нашых дзён.

Пры падрыхтоўцы да выдання кнігі "Пуцявінамі Наднямоння" аўтар падзяліў, згрупаваў назапашаны матэрыял па трох накірунках:

Тое, што не перацярпела змен ад першага выдання — у асноўным звесткі пра далёкае мінулае, склала першую і асноўную частку кнігі.

Другі накірунак ахоплівае тое, што патрабавала развіцця і дапаўнення. Намі зноў скарыстаны матэрыялы даследаванняў пісьменніка Алеся Махнача, мастака-графіка Віктара Сташчанюка, краязнаўцаў Адама Александровіча, Станіслава Шкадзінскага, дакументы Уздзенскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея.

І, нарэшце, новыя матэрыялы, распрацоўкі на будучыню.

З першага выдання выключаны ці скарочаны шэраг эпізодаў і персаналій, бо яны атрымалі прадаўжэнне асобымі выданнямі. У той жа час уведзены новыя асобы і факты, значнасць якіх, магчыма, будзе ацэнена і папоўнена ў наступным глыбей.

...Мінулае дзесяцігоддзе не прайшло без страт. Адыйшлі добра вядомыя ў нас і ўшанаваныя ключавыя постаці распрацоўшчыкаў тэмы роднага краю А.Махнача, А.Александровіча, С.Шкадзінскага.

Прадаўжалі знікаць паросшыя травой забыцця святыя для кожнага з нас месцы нашай зямлі. Тое зафіксавана своеасаблівай "інвентарызацыяй" і ўдакладненнем нашых каштоўнасцей.

Не ўсяго ўдалося дасягнуць. Нягледзячы на значныя намаганні мы не змаглі ўнесці ў тапаніміку беларускіх гарадоў назву ракі Нёман. Больш за 20 гадоў ішло наша марнае безвыніковае змаганне за ўшанаванне нашай нацыянальнай ракі, што пачынаецца амаль што ў цэнтры нашай рэспублікі, паблізу яе сталіцы. Не дапамаглі спасылкі на ўвекавечанне нашай ракі ў назвах вуліц Санкт-Пецярбурга, Масквы, Кіева і іншых гарадоў. А ў той жа час ў Мінску прыблудзіліся з дзесятак назваў рэк з аддаленых тэрыторый былога Савецкага Саюза.

Аўтару шчыра і аддана дапамагалі ў падрыхтоўцы перавыдання кнігі былая загадчыца Уздзенскага раённага аддзела культуры Ганна Міхальчук, былы дырэктар Уздзенскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея Анатоль Папко, доктар біялагічных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Анатоль Федарук, знаўца Міншчыны і Уздзеншчыны гісторык-журналіст, пісьменнік Анатоль Валахановіч, былы рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" і серыі кніг "Памяць" Зінаіда Малейка, рэдактар раённай газеты "Чырвоная Зорка" Віктар Сабалеўскі і яго калектыў, настаўнік гісторыі з Узды Андрэй Ярмольчык, хатлянскі настаўнік-краязнавец Міхась Лазар, Беларускае Геаграфічнае таварыства і яго былы старшыня доктар геаграфічных навук, прафесар Валерый Аношка, доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс, старшыня Беларускага Фонда культуры Уладзімір Гілеп, доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Лыч, дырэктар Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Ала Галубовіч, дырэктар Уздзенскага гісторыка-краязнаўчага музея Тамара Лухверчык і іншыя.

Вялікі ім за гэта дзякуй!

Матэрыялы кнігі вядуць да пэўных высноў і меркаванняў. Яны без залішняй дакучлівасці раскіданы па старонках выдання. З завяршэннем работы аўтара над перавыданнем яго жыццёвыя хмары расчысціліся, неба праяснілася, але і сонейка ў яго ўжо пачало садзіцца. Таму і працу сваю ён перадае чытачу як справаздачу за жыццё.



# СЛОВА ПРА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

О, як бы я хацеў спачатку
Дарогу жыцця па парадку
Прайсці яшчэ раз, азірнуцца,
Сабраць з дарог камені тыя,
Што губяць сілы маладыя, —
К вясне б маёй хацеў вярнуцца.

*Якуб Колас*

Амаль у цэнтры Беларусі, непадалёку ад яе сталіцы Мінска, ляжыць Уздзеншчына. Не атрымала пакуль што гэта мясціна шырокай вядомасці. Уздзеншчыну абходзяць значныя транспартныя шляхі. Тыповая сельскагаспадарчая вытворчасць, мясцовая прамысловасць, абмежаванасць захаваных і даступных гістарычных помнікаў не прыцягваюць сюды пакуль што аматараў падарожжаў.

Хіба прамільгне калі звестка пра зямлю паэтычную, “беларускі Парнас”, пра працоўныя справы ўздзенцаў. Успомняць ветэраны геройскія ваенныя гады, скажуць цёплае слова ў памяць загінуўшых партызан, падпольшчыкаў, воінаў, мірных жыхароў. Прыадкрыюцца далёкія гады, і ў сённяшні час уварвецца голас мінулага.

Праходзіць час і ўсё вяртаецца на кругі свае. Мы зноў імкнемся на радзіму, на сцежкі свайго дзяцінства. Вяртаемся да роднай зямлі не як госці, падарожнікі, а як навучаныя вопытам, жыццём яе сыны, гатовыя яшчэ паслужыць ёй, сваёй маці, шчыра і бескарысліва. Далучыцца да дадатковага падмацавання ў складаным і часцей нялёгкім лёсе.

З гадамі прыходзіць усведамленне, што вялікія падзеі прыйшліся на нялёгкую долю нашай зямлі. Плённыя справы ладзяцца тут і сёння.

Вучоныя вызначылі, што нават у самым адукаваным, сучасным чалавеку ёсць нешта, што вынікае з яго прыродных родавых пачаткаў. Яно носіць рысы міфалагічнасці і найбольш яскрава праяўляецца любоўю да родных мясцін. А родная мясціна тая, што па-бацькоўску шануе, дапамагае прыпыніцца ў імклівым бегу часу. Яна ў той жа час беражліва ахоўвае, дазваляе абыходзіцца простым, у пэўным сэнсе першапачатковым уяўленнем.

Паняцце “родныя сцены” ўвасабляе на радзіме як дом, так і навакольную прыроду. Родныя сцены ўспрымаюцца, як свае. Тут чалавек абаронены, тут ён у бяспецы.

На роднай старонцы няма нязначнага, тут усё аднолькава дарагое. Людзі нярэдка імкнуцца да таго, што з пазіцый фармальнага сэнсу, логікі не вытлумачваецца. Некаторы час мы прыгнечвалі гэту патрэбу, і людзі недамагалі нейкай невысветленай хваробай. Перасталі наглядаць за пагостамі, прыбіраць магілы, не ведалі продкаў далей дзеда, адракаліся ад старадаўніх звычаяў, паняццяў, назваў, каштоўнасцей. Усё валілася з рук, бо патрэба да ведаў пра мінуўшчыну ўсё ж захоўвалася ў іх натуры.

Цяжка вызначыць, праз што мы адчуваем Бацькаўшчыну.

Вобраз Радзімы, Бацькаўшчыны ў кожнага з нас свой, адзіны і непаўторны. Яго няпроста ўвасобіць словамі. Ён не вылучаецца выразнымі, яркімі адметнасцямі. Ён расплывісты, як бы трохі прысмучаны, але адначасова ціхі, улагоджаны. У ім адсутнічае канкрэтнасць асоб, падзей, праяў пэўнага часу. Пераважае неакрэсленасць, агульны каларыт якой служыць нам усім бясконцай спажывай для роздумаў і ўяўленняў.

Менавіта такім паўстаў аднойчы для мяне заўважаны са слуцкай шашы і неяк адразу супаўшы з вобразам Радзімы вячэрні ўздзенскі краявід (пазней я даведаўся, што тут, на перасячэнні з дарогай, завяршаўся — зноў жа тысячагадовая даўніна! — лашанска-шацкі волак). Вобраз прайшоў праз гады і прадаўжае заставацца сімвалам, поўнасцю адпавядаючым сэнсу прыдадзенай яму назвы: “Тут мая Радзіма!”.

У агульным уяўленні вобраз Радзімы спазнаецца як бы ў напаўсне, прытомленасці, у няясным напаўзабыцці ад бярэдзячых душу падзей і трывог. Недзе тут прыхаваны прыкрытыя маўклівасцю часу нашы бясконцыя бядоты і радасныя хвіліны і спадзевы, простая



Тут мая Радзіма

прыцягальнасць нашае зямлі і яе людзей. Гэта не тая прыгажосць, што сёння ўпакавана ў сотнях яркіх альбомаў. У іх яна звычайна штучная, прыхарошаная. Яна, як правіла, не закранае, глыбока не хвалюе і не мае ў большасці адносін да вобразу Радзімы.

Толькі праз абстрагаваны, абагульнены, а, значыць, і няясны вобраз свайго краю, дзе радзіма заўсёды выступае на мяжы дыяметральных станаў быцця — святла і змроку, цяпельца і застыласці, маладосці і сталасці, неба і долу, былога і будучага, можна адасобіцца ад хуткаплыннай, пераменлівай рэчаіснасці і ўмясціць у адзіны вобраз тысячы і тысячы розных уяўленняў пра родную зямлю і тым ужо, рэальна да яе далучыцца.*

Такім, дарэчы, бачыў вобраз Радзімы і выдатны беларускі паэт Паўлюк Трус. У яго падобны стан даносіцца ў форме верша. “Я, здаецца, бачу сон. У гэтым сне трэба даць мінулае Беларусі. Адбіць праз сон рэвалюцыю, акупацыі. Пасля гэтага ўзыходзіць сонца, улівае мне ў душу гаючы бальзам, бо я ў сне адчуваю сябе таксама хворым, і я прачынаюся. Прачынаюся і перада мной урачыстасць жыцця...

---

*Гэты прыём удала выкарыстоўвае ў сваёй незвычайнай кнізе “Городские сны” Аляксандр Станюта. Дзякуючы яму ў настальгічных успамінах пра былое ўжо адышоўшага старога Мінска з яго насельнікамі з вуліцы Талстога, аўтар без папярэджання і перашкод для канвы павествавання пераходзіць у мінулы час.

Расцвіла ў нізінах
Ціхая ўрачыстасць,
Дацвіла на сцежках
Перад раннім сном...”

Вяртанне да вобразу Радзімы, роздумы пра яе — гэта і ёсць самая вялікая і хвалюючая ўрачыстасць. Спробе расшыфроўкі, раскрыцця феномену Радзімы ва ўсіх яе праявах і прысвечана наша кніжка...

Так сімвалічная палыновая сцяблінка на мяжы дайшла да нас з цемры вякоў як адзін з самых дарагіх і блізкіх патаемных вобразаў роднай зямлі. Палын з хатынскіх горкіх папялішчаў у вершах Максіма Танка — гэта таксама наш лёс. Палын у нашых душах паўстае нейкім грозным папярэджаннем ад стагоддзяў у вобразе Чарнобыля.

Аднак жыццё прадаўжаецца, і ўсе грозныя пахі пабівае пах свежавыкашанага духмянага сена. Пакуль што разносяцца па родным краі добрыя, адкрытыя, як дзіцячы погляд, песні. Бо жыць на радзіме і не заспяваць — нельга.

Невыпадкова Міншчына дала свету нямала таленавітых творчых людзей. Любяць сваю зямлю яе сённяшнія гаспадары. Яны гатовы падзяліцца сваімі здабыткамі, сваёй радасцю з госцем. А няпрошанага справаджваюць сурова вон.

Нічога дзіўнага, што хочацца пра гэту зямлю сказаць як мага больш. Запрасіць знайсці час парадавацца разам усіх тых, хто яшчэ не страціў пачуцця пашаны да роднага краю. Падзяліцца радасцю ўжо толькі таму, што яна ёсць. Што яна раскінулася на самых чыстых чалавечых і прыродных вытоках — крыніцах нашай Міншчыны, што яна, нягледзячы ні на што, жыве і квітнее.

У гэтых роздумах для аўтара галоўнае не сістэматызацыя падзей, дат, імёнаў людзей. Пра гэта можна даведацца пры адпаведным цярпенні з літаратуры, дакументаў. Для яго галоўнае — узнаўленне, рэканструкцыя адвечнага ладу жыцця, выяўленне духу, побыту родных людзей, атмасферы жыцця нашых продкаў. Парывы душы для аўтара галоўнае, бо розум адкрывае толькі тое, пра што душы ўжо вядома.

Што ж магло б стаць пуцяводнымі стужкамі ў гэтым няпростым роздуме-падарожжы, што магло б злучыць мінулае і сённяшняе, працу і песню, прыроду і людзей, яе часцінку? Такія стужкі-шляхі ёсць — гэта рэкі, дарогі. Калі так, то хутчэй у вандроўку!



# ЯКІ ЁН, НАШ НЁМАН?

Чым за морам віно піць,
лепей з Нёмана вадзіцу.
*Беларуская пагаворка*

## НЁМАНСКІЯ ЗГАДКІ

Жыццё здавён хінулася да рэк. На іх берагах раней мясціліся амаль усе паселішчы. Месцы каля рэк лічыліся ва ўсіх адносінах найбольш прыдатнымі для жыцця. Водныя багацці — асноўны сродак існавання першабытнага чалавека. Водныя артэрыі — сродак зносін, выдатныя транспартныя шляхі. Зімой гэта санны шлях, летам вада зноў жа нясе на сваіх плячах у чаўнах, плытах плён чалавечай працы. У той час як горы, лясы падзялялі народы — рэкі, водныя прасторы збліжалі і аб’ядноўвалі людзей, стваралі выдатныя натуральныя шляхі гандлёвых зносін. Адначасова рэкі, азёры як натуральныя перашкоды аберагалі чалавека ад варожых нападаў.

Няма іншай такой непаўторнай і адвечнай прыроднай з’явы, як рэкі. Таму ў народзе яны ўяўляюцца неўмiручым помнікам прыроды і гісторыі. Выдатны французскі географ Жан Жак Элізэ Рэклю вельмі ёмка вызначыў такі погляд: “Рэкі ў хвалях сваіх нясуць лёс і гісторыю народаў”.

Для першабытнага чалавека з воднай крыніцы пачыналася нялёгкая асэнсаваная праца па ўладкаванні зямлі. Ніколі не існавала іншай стыхіі, аб якой людзі выказалі б столькі пяшчотных слоў. І, відаць, было за што апаэтызоўваць рэкі.

Не абдзяліла прырода рэчкамі і Уздзеншчыну. Нёман, Лоша, Уса, Уздзянка, Неманец ды шэраг яшчэ іншых рачулак і ручаін бруяць па яе зямлі. Ці не яны прыдаюць зачараванне гэтаму краю? Вакол іх раскінуліся сотні і тысячы гектараў заліўных лугоў. Боль-



Нёман пачатковы. Фота В. Жураўкова

шасць гаючых траў "прапісана" менавіта на рачных берагах. Тут сцелюцца бясконцыя дываны мяты, незабудак, воднае люстэрка расквечваецца гарлачыкамі.

Берагі рэк ахоўваюць знакамітыя ў мінулым уздзенскія лясы — звонкія сонечныя гаі, змрочныя сырыя гушчары.

Беларусы не без падстаў ганарацца рэкамі Дняпром, Заходняй Дзвіной, Прыпяццю, Сожам. Аддаючы належнае іх велічнасці і непаўторнасці, мы памятаем, што яны толькі "транзітныя" — іх вытокі за межамі Беларусі. З вялікіх нашых рэк на тэрыторыі Беларусі атрымалі "нараджэнне" хіба толькі Нёман, Бярэзіна ды Вілія. Самая ж вялікая сярод іх — Нёман. Нёман для беларуса тое ж, што Волга для рускага, Днепр для ўкраінца, Вісла для паляка.

Пра Нёман, у тым ліку і пра яго частку ў межах Мінскай вобласці, можна гаварыць як пра раку — ўвасабленне лёсу беларускага народа, як пра раку-помнік, раку-сведку. Невыпадкова Нёман справядліва асацыіруецца з усім нашым нацыянальным, з беларускай прыродай, з Бацькаўшчынай.

А калі гэта так, то павінен быць у нас недзе і свой "Валдай". На карце не цяжка адшукаць месца вытоку Нёмана — гэта Уздзеншчына. Тут ён нараджаецца, набірае моц і, пакідаючы межы раёна, нясе свае воды да Стоўбцаў і далей на Гродзеншчыну. Але ж не

будзем забываць: пачатак ракі-працаўніка, карміцеля, песенніка, воіна — на Уздзеншчыне. А.Якімовіч небеспадстаўна адзначае, што менавіта ўздзенская зямля дае Нёману свае нескупыя дары, маладую сілу. Без гэтай жыватворнай сілы не разліўся б ён так магутна і шырока на зялёных прасторах Гродзеншчыны і Літвы.

З "Беларускай энцыклапедыі" ўдакладняем, што Нёман — адна з асноўных рэк Балтыйскага басейна, мае даўжыню 937 кіламетраў (120 міль, ці 841 вярсту), з іх на беларускі працяг прыходзіцца 459 кіламетраў (49 працэнтаў). Агульная плошча вадазбору — 98,2 тыс. кв. км, з якіх на тэрыторыю нашай рэспублікі прыпадае 35 тыс. кв. км (35 працэнтаў).

Пачынаецца Нёман адным са сваіх вытокаў — Неманцом — за 52 кіламетры на паўднёвы захад ад Мінска ля вёсачкі Верхнёман. Упадае ў Куршскі (раней — Кураньскі) заліў Балтыйскага мора на захад ад г. Савецка (былога Цільзіта). Сілкаванне ракі змешанае, у першую чаргу снегавое.

Рака дае прыстанішча многім відам каштоўных рыб: акуням, плоткам, ляшчам, ліням, карасям, стронгам, галаўням і інш. Нёман у сярэднім і ніжнім цячэннях — месца нерасту рэдкіх парод рыб Балтыйскага мора. Сюды заходзяць для адкорму і пераходу ў іншыя рэкі і азёры вугор, мінога, сіг, судак...

З басейнам Дняпра Нёман злучаны Агінскім каналам — часткай Дняпроўска-Нёманскага воднага шляху.

Цікавы цяпер ужо гістарычны факт. У пачатку 1950-х гадоў, г. зн. у гады "вялікіх будоўляў камунізма", на XX з'ездзе Кампартыі Беларусі ў 1952 годзе ў дакладзе старшыні Дзяржплана БССР была выказана ідэя аб злучэнні 300-кіламетровым каналам Нёмана і Прыпяці. Але час мяняўся і гэты грандыёзны праект застаўся не болей чым ідэяй.

З басейнам Віслы Нёман злучаны каля горада Гродна пабудаваным у 1824—1839 гадах Аўгустоўскім каналам даўжынёй 102 км (па тэрыторыі Беларусі — 22 км). Ён страціў гаспадарчае значэнне.

Цяпер двума бакамі Беларуссю і Польшчай завершана рэканструкцыя канала для мясцовых патрэб і турызму і ён уступіў у эксплуатацыю. З'яўляецца помнікам гідратэхнічнага будаўніцтва.

У 20-х гадах пазамінулага стагоддзя будаваўся таксама Вента-Дубіскі канал для пераходу з Нёмана праз раку Дубісу ў раку

Венту, упадаючую ў Балтыйскае мора ля горада Вентспілса. Аднак работы былі спынены ў 1839 годзе па невядомай прычыне.

З завяршэннем будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы ў 1976 годзе частка сцёкаў басейна Нёмана перакідваецца з ракі Віліі праз раку Свіслач у басейн Дняпра.

Ля вусця Нёман мае сувязь праз сістэму каналаў з Калінінградам (праз рэкі Дэйма і Прэгаля) і Клайпедай (праз рэчку Мінію).

У горадзе Гродна ў свой час быў створаны рачны порт, які ў пэўнай ступені мог бы прэтэндаваць і на марскі. Ад гродзенскай пристані на Балтыку адпраўлялася нямала грузаў — зерне, лес, машыны. Перавозка па рацэ, напрыклад, у Клайпеду, каля 4 млн. тон беларускіх грузаў з вялікай выгадай для нас і літоўцаў планавалася і на перспектыву.

Аднак водны шлях да мора для беларускага боку цяпер пакуль закрыты. Пабудаваная на Нёмане Каўнаская ГЭС не мае для гэтага судаходнага шлюза. Ды і празмерна нізкі мост цераз раку ў літоўскім горадзе Прэнай такая ж перашкода.

А цяпер некалькі слоў пра паходжанне назвы ракі. Нёман — гэта беларуская назва. Такі ж корань маюць і ўсе вытворныя ад асноўнай назвы: Неманец, Занеманец, Верхнёман, Наднёман. Па-руску гучыць Неман (раней Немен ад польскага варыянта назвы ракі).

У палякаў рака завецца Niemen, у немцаў калісьці Memel (па дакументах — Memole), у літоўцаў — Niemonas, Niemunas.

Старажытная лацінская назва Нёмана — Chronus — Chronius — Chronon — паходзіла ад грэчаскага слова і бажаства, увасабляючага час.

Паходжанне назвы ракі беларускі даследчык-географ Вадзім Жучкевіч тлумачыць балтыйскім naminis — г. зн. хатняя, “наша рэчка”. Некаторыя аўтары раней назву ракі звязвалі са словам “нямы”, г. зн. ціхі, маўклівы. Сапраўды, у межах Міншчыны гэта даволі ціхая і спакойная рака.

Слоўнік геаграфічны* спасылаецца на паданне, згодна з якім назва ракі ўзнікла ад імя выхадца з Італіі (?) Нямона (Немона), які першым вывучаў раку і прайшоў яе пехам ад вусця насупраць ця-

---

*Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowianskich. t. 1—14, 1880—1895, Warszawa.

чэння да вытоку. Натуральна, мясцовай мовы ён не ведаў, г. зн. быў нямы.

Польскамоўны часопіс “Kłosy”, што выдаваўся ў XIX стагоддзі ў Пецярбургу, трактуе паходжанне назвы ракі ад слова “niema» — “няма”. Менавіта тут, на сутоку супадаючых Усы і Лошы, кожная з рэчак перастае існаваць, даючы пачатак новай рацэ і новай назве — Нёману: іх болей няма. Гэта тлумачэнне трэба ацэньваць як мясцовае.

Рускі даследчык А.Пянькоўскі лічыць, што ў аснове беларускай назвы ракі ляжыць стараславянскае слова немыть, г. зн. нешырокі. А беларускі вучоны А.Рогалеў сцвярджае, што слова Нёман складаецца з дзвюх частак: адмоўя не- і каранёвай часткі -ман. Па яго версіі значэнне кораня -мен, -ман — “маленькі, тонкі”. Адсюль процілеглае паняцце Нё-ман — “не маленькі”.

Ёсць меркаванне, што на аснове назвы ракі ўтварылася слова “немень” — “мяжа, рубеж”. Нёман сапраўды з даўніх часоў выконваў ролю мяжы, якая аддзяляла ўсходніх славян, беларусаў, ад заходніх плямёнаў — балтаў, прусаў. Акрамя таго, у межах дзяржавы ён быў на значнай частцы натуральнай граніцай паміж намесніцтвамі, губернямі, ваяводствамі, паветамі.

Ад язычніцкіх часоў Нёману аддавалася божаская пашана, у яго гонар былі збудаваны святыні. Адно з капішчаў знаходзілася ў Літве паміж Мяркіне і Алітусам (Мерачам і Алітай) ля вёскі Неманайце. Менавіта тут высадзіўся той казачны Нямон, які даў назву рацэ і сам быў далучаны да сонму багоў. У ваколіцах Неманайце шмат старажытных магіл-курганоў. У літоўцаў таксама існуе паданне, што яны паходзяць ад нашчадка рымскага імператара Нерона — Палямона, які прыплыў у вусце Нёмана пасля падзення Рымскай імперыі.

Нам нічога не вядома пра адносіны да нашай ракі родапачынальніка сярэдневяковай сербскай дынастыі Неманічаў (XII—XIII ст.) Рашкі Стэфана Неманя́, які правіў у другой палове XII ст. Ён заклаў аснову адзінай дзяржавы ў Сербіі. Вядома толькі, што Нема́нічы ваявалі з Лацінскай імперыяй, адкуль да вусця Нёмана перабраўся некалі Палямон.

Відаць, імя біблейскага военачальніка Неемана (у перакладзе з яўрэйскага — прыемны), пазбаўленага ў старажытнасці пракам

Елісеем ад праказы (4 Цар. 5:1-27), таксама не мае дачынення да нашай ракі.

Аднак хацеў бы крыху спыніцца яшчэ на адной версіі паходжання нашых беларускіх продкаў, агучанай Валерыем Чудзінавым, акадэмікам Расійскай Акадэміі навук, старшынёй камісіі РАН па культуры старажытнай і сярэднявечнай Русі. Ён сцвярджае, што аналіз надпісаў на археалагічных знаходках сведчыць аб тым, што Заходняя Еўропа была рускай да пачатку германскай каланізацыі. Еўропа была пагружана ў старажытную рускую культуру, якая абагаціла іншыя мовы. Пры дэшыфроўцы этрускай мовы ён заўважыў блізкасць яе да беларускай. Па этрускай мове можна вывучаць старажытную беларускую мову. Паводле яго меркаванняў, палачане і крывічы з'яўляюцца продкамі этрускаў, г. зн. старажытных плямёнаў, што засялялі ў першым тысячагоддзі да н.э. паўночны захад Апенінскага паўвострава і стварылі там развітую цывілізацыю.

Падобная сітуацыя з распаўсюджваннем рускай мовы прасочваецца ў многіх еўрапейскіх краінах ад палеаліту да сярэдневечча, — сцвярджае В.Чудзінаў. Пакінем пакуль гэту думку на заключэнне вучоных спецыялістаў.

Характарыстыка воднага рэжыму ракі ў многім вызначаецца асаблівасцямі кліматычнай зоны на яе вытоках. Міншчына ўваходзіць у пераходны клімат умераных шырот, г. зн. клімат у значнай ступені вільготны, спрыяльны для развіцця лясоў, а значыць, і для сілкавання вытокаў Нёмана. Снег тут ляжыць каля 112 дзён і калі ён растае, то ў вусці назіраецца другая пазнейшая, так званая "руская" паводка.

Вышэй адзначалася, што вытокам Нёмана з'яўляецца Неманец, які бярэ пачатак ля вёскі Верхнёман. Супадзенне назвы ракі з назвай вёскі не выпадкова, бо і яно толькі пацвярджае месца былога вытоку. На карце відаць, што вёска ляжыць на паўднёвых схілах Мінскага ўзвышша за 6 км на паўночны захад ад населенага пункта Лоша. Паводле іншых ранейшых запісаў, выток Неманца знаходзіўся ў 4 км на паўночны ўсход ад вёскі Забалацце і пачынаўся на ўзвышшы 194,4 м над узроўнем мора.

У летапісе XVI ст. гаворыцца аб "Новогородской державе, над Немном лежащее", што прасціралася "ад Вилни аж до жродел Неменовых, где ся за Копылем пять миль починается". Усе гэтыя звесткі з большай ці меншай дакладнасцю адпавядаюць рэчаіснасці.

З Тапаграфічнага апісання Мінскай губерні, зробленага ў Мінску ў 1795 годзе: “Нёман арашае намесніцтва (Мінскае) і дастаўляе звыш суднаходства жыхарам гэтых месц велізарную колькасць рачной лоўлі.

Пачатак свой мае з лугавых месцаў ад рачных крыніц, якія знаходзяцца паблізу вёскі Даўгінаўкі, уваходзячай у Мінскі павет, і працякаючы невялікую частку яго, роўна як і паветаў Слуцкага і Нясвіжскага, з якіх у першым спалучаючыся пры вёсцы Крывічах з ракою Лошай, складае пачатковую аснову сплаўкі ў невялікай колькасці лесу, якая праходзіць побач мястэчкаў Пясочні, Магільны, Мікалаеўшчыны, Новага Свержаня і Стоўбцаў, ад якіх да сяла Жукава Барка складае паміж гэтай і Літоўскай губернямі мяжу...

Па гэтай рацэ за галоўную прыстань у Мінскай губерні палічыць можна з вышэй апісаных пасяленняў мястэчкі Стоўбцы і Новы Свержань, хаця суднаходства ў полую ваду прасцірацца значна вышэй; ад іх адпраўленне бывае на суднах, якія завуцца віцінамі і шугалеямі, рознага сорту тавараў...”.

Паводле іншых старых даведнікаў вытокам Нёмана лічылася рачулка Неманец, якая выцякала з былога ўладання Яна Завішы ў Кухцічах, затым упадала на землях маёнтка “Над-Нёман” у дзесяць разоў большую за яе раку Усу. Паводле другіх звестак рэчка выходзіла з лясоў Ігуменскага павета бліз вёскі Даўгінічы (Даўгінава).

Паводле “Слоўніка геаграфічнага…”, рака “выцякае з балоцістых лясоў Ігуменскага павета ля вёскі Дагінічы альбо Далгінічы ў ваколіцах вёсак Забалацце і Боркі. Праз 21 вярсту шляху ў паўднёва-заходнім накірунку прымае з левага берага раку Лошу, а праз адну вярсту далей пад мястэчкам Пясочным — з правага берага раку Ушу (Усу). Абодва гэтыя прытокі перавышаюць Нёман (Неманец) пры сутоцы з ім як па даўжыні, так і па паўнаводнасці, і таму верагодней бы лічыць Ушу (Усу) за пачатак Нёмана”.

Для вывучэння ўзроўню вады ў Нёмане ў граніцах Расійскай імперыі ў 1876 годзе наладжаны водныя назіранні і з 1 студзеня 1877 года распачаты пастаянныя замеры. Устаноўлена 15 назіральных станцый, з іх першага класа ў Стоўбцах, другога класа ў вёсцы Каладзіно, двары Мар’іна і інш. На станцыях першага класа назіранні праводзіліся ўвесь год тры разы ў дзень, на станцыях другога класа толькі ад лёду да лёду адзін раз на дзень.




Шляхі і дарогі Уздзеншчыны (схема), мал. В. Сташчанюка

А.Кіркор пісаў, што Нёман, які ў часы язычніцтва карыстаўся божаскімі пашанамі, выцякае з балот і лясоў Ігуменскага павета і працякае ў Мінскай губерніі каля в. Магільна...

У “Геаграфічна-статыстычным слоўніку Расійскай імперыі” пра Нёман пісалася, як пра выдатную раку, якая атрымлівае пачатак у Ігуменскім павеце і працякае ў Мінскай губерніі па працягу 89 вёрст. У яе ўпадаюць Лоша (44 в), Уса (77 в), Уша (63 в), акрамя гэтага Тур’я, Мытвіца, Молчадзь.

Звернемся да іншых дакументальных крыніц. Паводле даваенных абследаваннў, Неманец — гэта маленькі ручаёк, даўжынёй каля 25 км і водазборнай плошчай у 121 кв. км. Гэтую частку ракі можна лічыць вярхоўем. Каардынаты кропкі вытоку ракі 53°24′ паўночнай шыраты і 27°19′ усходняй даўгаты. Памеры нёманскага басейна па прамой ад вытоку да вусця складаюць каля 450 км.

Да 1939 года Нёман працякаў у межах СССР усяго каля 50 кіламетраў. Астатняя частка ракі прыходзілася на тэрыторыі Польшчы, Літвы і Германіі. Пасля далучэння Заходніх абласцей Беларусі і прыбалтыйскіх рэспублік у граніцах Саюза было ўжо 95 працэнтаў плошчы басейна Нёмана. Але каля 113 км ракі яшчэ адносіліся да Германіі. Да 1939 года дзяржаўная граніца СССР перасякала Нёман на 874 км ракі (ад вусця) і праходзіла ў 5 км ад вёскі Мікалаеўшчына (з боку СССР) і ў 15 км ад вёскі Магільна. Граніца часткова праходзіла па самой рацэ.

Верхняя частка басейна Нёмана дэталёва вывучалася ў 1933—1935 гадах. Былі сабраны звесткі агульнага характару аб глыбіні, шырыні, хуткасці цячэння, мастах, бродах, пераправах і г.д. Для назірання вады былі створаны вымяральныя пасты на Нёмане ля вёскі Яршы і на рацэ Лоша ля вёскі Мрочкі. Перад вайной быў выдадзены падрабязны даведачны матэрыял “Неман и его бассейн”. Дадаткова вяліся даследаванні вярхоўяў Нёмана ў канцы 1940-х гадоў пры распрацоўцы праекта меліярацыі гэтай зоны.

Для сярэдняй і ніжняй частак Нёмана ўласцівы шматлікія водмелі з камяністым, запоўненым валунамі дном. Рака месцамі цячэ сярод высокіх прыгожых стромкіх берагоў. Цячэнне часам бывае хуткае. Часта сустракаюцца лавы — валы пяску ў вадзе, рапы — жвірова-гліністыя водмелі, салы — камяністыя і жвіровыя водмелі.

Суднаходства на Нёмане было ненадзейнае, нягледзячы на неаднаразовае ўрэгуляванне, пачынаючы ад Жыгімонта II Аўгуста, ад часоў якога прамыскі харунжы Мікалай Тарло са Шчакарэвічаў ачышчаў сваім коштам раку ад камянёў. Рака ж прадаўжала заставацца небяспечнай і свой нораў не мяняла.

У 1553 годзе вядомы еўрапейскі паэт-лацініст А.Шротэр* у выдадзенай у Кракаве "Песні пра Нёман" выказаў пахвальную думку аб рацэ як важным водным і гандлёвым шляху. "Што мае Захад і Усход добрых купцоў, якія плённа служаць дзяржаве, вялікая заслуга ў гэтым свабоднага і раскутага Нёмана". У паэме ён ухваляе прадпрымальніка Тарло, які выконваў работы па паглыбленні і расчыстцы ад камянёў берагоў і русла Нёмана, па разборцы парогаў, і такім чынам прычыніўся да росквіту роднага краю. А.Шротэр ушаноўвае нягучную прыгажосць беларускай прыроды, глыбіню "марознага" беларускага краю, абкружанага з усіх бакоў непраходнымі лясамі.

Работы па расчыстцы ракі Нёман былі прадоўжаны ў 1771—1775 гадах спецыяльнай камісіяй. Былы выпускнік Віленскай езуіцкай акадэміі Францішак Меліконт Нарвойш па даручэнні вучонага магната падскарбія Антонія Тызенгаўза заняўся ў 1770 годзе ачысткай Нёмана і за тры гады паспеў яе зрабіць ад Гродна да Румшышак (каля Коўна). Магутнымі выбухамі, якія сатрасалі ўзбярэжжа Нёмана, было падарвана каля трох мільёнаў буйных камянёў. Затым Ф.Нарвойш быў абраны прафесарам вышэйшай матэматыкі, працаваў ва ўніверсітэце.

Пазней інжынер Лісоўскі вывучыў і апісаў Нёман у яго суднаходнай частцы. Ён выканаў новы праект урэгулявання ракі ад Стоўбцаў да прускай граніцы. Але гэты праект, як і праекты Жалязоўскага, Фалькане і іншых, не быў здзейснены.

У канцы мінулага стагоддзя русла Нёмана ў асноўным было вызвалена ад пнёў, асобных камянёў і дрэвавых завалаў.

Па меры расчысткі русла павялічваліся грузавыя перавозкі. Аднак з будаўніцтвам чыгункі роля рэк як транспартных шляхоў па-

---

*Шротэр Адам (каля 1525—1572) — паэт, польска-лацінскі перакладчык, аўтар элегій, эпіграм, панегірыкаў. Усеагульную вядомасць атрымалі яго апісальніцкія паэмы, якія ўспявалі раку Нёман. Пераклаў з нямецкай на лацінскую мову працы медыка Ф.Парацэльса.

чала зніжацца. Асабліва гэта тычылася вярхоўяў Нёмана, дзе працягвалася толькі плытагонства, ды і то ў час веснавых разліваў.

У перыяд найбольш шырокага выкарыстання рака Нёман лічылася судаходнай ад вёскі Новы Свержань, але практычнае суднаходства магло ажыццяўляцца толькі ў моманты высокага ўзроўню вады, г. зн. у вельмі абмежаваныя часы.

З “Тапаграфічнага апісання Мінскай губерні” ад 1795 года: “Абедзве гэтыя ракі (Вілія і Нёман) пры галоўных прыстанях, як то Вілейскай і Сталпецкай, шырынёю ў сярэднія воды бываюць не болей трыццаці сажань, глыбінёй ад двух, трох і да чатырох аршын, у полую ж ваду разліваюцца па нізінах Нёман пры Стоўбцах да трох і Вілія пры Вілейцы да дзвюх вёрст, хоць у некаторых месцах і агорнутыя пасрэднай вышыні палогімі гарамі, у іншых цячэнне маюць даволі хуткае; перашкаджаючых да суднаходства па гэтай губерні месц у полую і сярэднюю ваду не маюць”.

Па Нёмане — “божай дарозе”, як звалі раней рэкі, плытагоны вялі ў далёкія краіны згоны бярвенняў. Плыты абганяліся суднамі. Для суднаходства па Нёмане ўжываліся: ладдзі рознага роду, баркі і паўбаркі (неслі на сабе да 2000 пудоў), баты альбо галеры (да 2500 пудоў), байдакі (да 5000 пудоў), стругі (да 7000 пудоў) і віціны (ад 9000 да 12 000 пудоў).

Паміж Коўнам і прускай граніцай, а таксама паміж Гародняй і Друскенікамі, курсіравалі паравыя судны.

Стоўбцы і Новы Свержань адыгралі значную ролю ў Крымскай вайне (1853—1856 гадоў). Сюды ў той час з’ехалася каля 20 прамыслоўцаў I гільдыі. Тут перагружаліся прывезеныя хлеб, лён, пянька і далей адпраўляліся па Нёмане (у той час тут яшчэ чыгункі не было).

Сёння рэгулярныя транспартныя зносіны выконваюцца на працягу ракі ад вусця да горада Масты, г. зн. працягласцю 600 км. Даўжыня суднаходнай часткі Нёмана ў межах рэспублікі каля 75 км.

З даўніх часоў у вярхоўях Нёмана вяліся асушальныя работы. У невялікіх памерах яны выконваліся ў дарэвалюцыйны час і прадоўжыліся ў першыя гады савецкай улады. Аднак найбольшы размах меліярацыя атрымала ў пачатку 1950-х гадоў.

Паводле заказу Уздзенскага райвыканкама ў 1950 годзе былі выкананы пошукавыя работы і распрацаваны Белмеліярпраектам

тэхнічны праект узнаўлення асушальнай сеткі і новага асушэння балот і забалочаных зямель у вадазборы ракі Неманец Уздзенскага раёна Мінскай вобласці і Капыльскага раёна Бабруйскай вобласці.

Меліярацыя ахапіла вёскі Камяное, Ануфрова, Нізок, Прысынак, Світалаўку, Забалацце, Ясяное, г.п. Узду. Забалочанасць гэтай зоны складала 35 працэнтаў.

Комплексныя меліяратыўныя работы закранулі плошчу ў 5,2 тыс. гектараў. Праект прадугледжваў тры вялікія спрамленні ракі Неманец. Яго даўжыня скарацілася з 26,4 да 21,7 км, г. зн. на 4,7 км.

Вадазбор не меў натуральных водных крыніц, ад якіх падавалася б вада ў асушальную сістэму і такім чынам падтрымліваўся неабходны ўзровень грунтовых водаў у засушлівы перыяд. Часткова гэта мелася вырашыць сістэмай шлюзавання. Але на практыцы сістэма працавала толькі як асушальная, што нярэдка прыводзіла да пераасушвання зямель і, урэшце рэшт, невысокай эфектыўнасці іх выкарыстання.

Цяпер Неманца і Лошы як рэк ужо няма — засталіся ўсяго ломананыя сістэмы прамалінейных каналаў. Няма ўжо былой яшчэ на маёй памяці прывабнасці ручаёвых “выкрутасаў”, прыкрытых схіленымі вербамі і хмызнякамі. Адышлі ад ручаёў і лясы. І крынічак ужо няма.

Пра Нёман даволі многа напісана і пішацца цяпер. Першым даследчыкам ракі стаў наш вядомы паэт і пісьменнік Уладзіслаў Сыракомля (Л.Кандратовіч). Так сталася, што свой першы слынны верш “Паштальён”, двойчы перакладзены з польскай на рускую мову, а Янкам Лучынам — яшчэ і на беларускую, ён напісаў на мясцовым сюжэце ў фальварку Залучча на Нёмане (цяпер Стаўбцоўскі раён). Менш аднак вядома, што ён здзейсніў падарожжа па Нёмане, якое потым апісаў у выдадзенай у 1861 годзе ў Вільні кнізе “Нёман ад вытокаў да вусця” (“Niemen od źródeł do ujścia”). Гэта невялікае, вельмі змястоўнае і цікавае выданне. Мы на ім далей затрымаемся больш падрабязна.

Як піша аўтар, ён, прыступаючы да кнігі, меў на ўвазе стварыць цэласны вобраз Нёмана з уключэннем у яе тапаграфіі, гістарычнага апісання краёў, праз якія ён працякае. Аўтар ставіў мэту пазбегчы агульных апісанняў гарадкоў, вёсак, ручаёў, курганоў і нёманскіх прыстаняў, а зрабіць кнігу больш насычанай падрабязнасцямі.



Уладзіслаў Сыракомля.
Скульптурны вобраз работы Левандоўскага

Яму хацелася як мага дэталёва даць этнаграфію прынёманскага насельніцтва, апісаць землі, звяртаючы ўвагу на іх геалогію і сельскагаспадарчае выкарыстанне, уключыць падрабязнае апісанне мясцовага гандлю, даць замалёўкі мясцовых замкаў, пералічыць і разведаць для чытачоў хаця бы пару курганоў, памераць вышыню ўзгоркаў і глыбіню вод. Словам, звярнуць увагу на ўсялякія падрабязнасці, якіх тут хапае. Прыводзячы амаль поўнасцю ўступ да кнігі, мы павінны прызнаць, што маем тут выдатны прыклад краязнаўчага асэнсавання, якое было затым ў поўнай меры рэалізавана ў кнізе.

Пры рабоце аўтар шырока выкарыстоўваў гістарычныя архіўныя матэрыялы, таму яго твор можна лічыць і навуковым. А пісаў ён яго, “будучы зламаны хваробаю”.

У. Сыракомля шкадуе, што шмат чаго робіцца для гісторыі і страшэнна мала для геаграфіі ў сэнсе таго ж краязнаўства. Ён спасылаецца на кнігі старажытных аўтараў. Звяртае ўвагу, што жыццё

нашага краю лепей за ўсё выдае сябе ў рэках. Манаграфій жа на гэту тэму ўсё яшчэ мала. Ён спасылаецца на цудоўнае апісанне ракі Віліі (прытока Нёмана) графам Канстанцінам Тышкевічам, якое складзена апошнім паводле асабістых уражанняў ад падарожжа на простай баржы. Ён змог улавіць і выкласці на паперы і рух паветра, і гульню хваль, напевы і гаворку з берагоў, народныя паданні. Звярнуў увагу на гістарычнае значэнне таго, што ўбачыў. Словам, дэталёва вывучыў прадмет.


NIEMEN
OD ŹRÓDEŁ DO UJŚCIA.

1). MONOGRAFIJA
RZEKI NIEMNA
od jego źródeł do Kowna
PRZEZ
Władysława Syrokomlę.

2). PAMIĘTNIK PODRÓŻY
żeglarza Litewską wiciną z Kowna do Królewca
zredagowany i przerobiony, przez tegoż.

WILNO.
NAKŁADEM A. ASSA.
1861.

Гэта праца, як сцвярджае У.Сыракомля, надала яму смеласці зрабіць сваю кнігу. Дарэчы, сам У.Сыракомля адзначае, што апісанне К.Тышкевіча яшчэ не ўбачыла свет і знаходзіцца ў Віленскім музеі.[*]
Больш таго, У.Сыракомля перакананы, што яго матэрыял ніколі не ўбачыў бы свет, калі б у яго рукі не трапіў раней не публікаваны дзённік аднаго падарожжа літоўскага рачніка, які праплыў у 1829 годзе ад Коўна да Краляўца (Круляўца) і даў магчымасць дапоўніць матэрыял. Дзённік быў адрэдагаваны У.Сыракомлем у якасці другой часткі кнігі, г. зн. адрэзка падарожжа да вусця Нёмана.

Аўтар нагадвае творы Я.Кахноўскага і складае ў яго гонар верш пра Нёман. У памяць Фабіяна Себасц’яна Ацэрны (Кляновіча), аўтара “Плытагона”, прысвечаны яшчэ адзін верш, у якім ён параўноўвае літоўскіх і мазурскіх плытагонаў, лічачы іх братамі. Паэтычна апісвае дары, якія нам нясе стары і хуткі Нёман. Са сваіх плытоў людзі бачаць і маленькую каплічку, і ціхуткую вёсачку, і далёкую сядзібу з саламянай страхой. Часам узнікаюць на прырэч-

[*]Пазней, у 1871 годзе, гэта кніга ўсё ж выйшла пад назвай “Вілія і яе берагі”.



19

§ 1.

Dawne województwo, dzisiejsza gubernija mińska, jest kolebką naszego Niemna. W powiecie ihumeńskim, nieopodal wsi ***Dołhinowicz***, z błot i lasów, wypływa rzeka ***Łosza***, rozszerzając się prędko do wielkości rzek naszych spławnych trzeciego rzędu. W lekkich zakrętach, niemal prosto jak strzała, ubiegłszy dwie mile w kierunku południowym, następnie kręto zwraca się na zachód, potém od wsi ***Kruczki***, zasilona strumieniem, idzie na północ i zachód aż pod wieś ***Piaseczno***.

ных узгорках руіны старога замка ці старажытнага кургана, дзе як на варце спяць старыя рыцары. У канцы свайго верша-гімна людзям і рацэ ён жадае мазуру і ліцвіну шчаслівага завяршэння падарожжа, каб на іх мачтах заўсёды гарэла зорка надзеі.

Затым ідзе яго верш пра Нёман, у якім паэтычнымі радкамі ўзносіцца роля рэк у жыцці чалавека, сцвярджаецца, што воды хвалістых рэк — гэта кроў для сэрца края. Паводле яго думкі Нёман адна з магутных геркулесавых артэрый нашай Літвы (некалі пад ліцвінамі разумелі беларусаў).

У.Сыракомля зноў шкадуе, што небагата кніг на гэту тэму, некалькі асабістых успамінаў ды запісаў. Ён падае чытачам увесь яму вядомы матэрыял, які сам добрасумленна вывучыў.*

Спасылаючыся на літаратуру сённяшняга дня адзначым, што ў Літве ў 1970 годзе выдадзена на літоўскай мове ў палепшанай паліграфіі кніга пра Нёман вядомага літоўскага пісьменніка Чэслава Кудабы “Kur Nemunas teka” (“Дзе цячэ Нёман”). На яе 132 старонках выкладзены цікавы матэрыял у выглядзе падарожжа па гэтай рацэ. Да 29-й старонкі (разам з уступам) ідзе апавяданне з нашай Міншчыны. Тут змешчана каля 15 здымкаў на наднёманскую тэматыку. Улічваючы, што гэтым матэрыялам ужо амаль 40 гадоў, іх каштоўнасць неаспрэчная як першага наднёманскага пасляваеннага дакумента. Кніга багата аздоблена, у ёй змешчаны каляровыя здымкі, у тым ліку і рэпрадукцыі мастацкіх твораў пра

*Такое сцвярджэнне як нельга слушнае і цяпер. Нагаданы твор У.Сыракомлі не перакладзены і не выдадзены ў Беларусі. У Літве ён выдадзены на літоўскай мове значным тыражом.

Нёман. У дадатку дадзена пакіламятровая характарыстыка рачнога маршрута.




Дарэчы, Чэслаў Кудаба прадоўжыў пошукі. У 1985 годзе ён выдаў кнігу “Па Віліі”, якая была перавыдадзена ў 1992 годзе на беларускай мове выдавецтвам “Полымя” і амаль поўным тыражом пайшла на рэалізацыю ў Літву.
У выніку творчага супрацоўніцтва літоўскіх і беларускіх публіцыстаў у 1988 годзе ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” і адпаведным літоўскім выдавецтве ў Вільнюсе выдадзены на беларускай і літоўскай мовах зборнікі нарысаў і публіцыстыкі “Наш Нёман”.

26 тагачасных аўтараў узвышана і адначасова стрымана расказалі пра зямлю дзвюх рэспублік, раку Нёман, нашу агульную гісторыю і сённяшні дзень. Вельмі каштоўны па сваёй значнасці нарыс пра Нёман апублікаваў у зборніку пісьменнік і драматург Алесь Махнач.

Нарэшце ў 2001 годзе ў выдавецтве “Юнацтва” выйшаў зборнік вершаў, апавяданняў, нарысаў і эсэ, свайго роду хрэстаматыя пра нашу раку “Бацька наш Нёман”. Фінансаваў гэта ўнікальнае высокамастацкае выданне Фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва. Яго ўкладальнік, сам выхадзец з наднёманскіх берагоў, Яўген Хвалей уключыў у зборнік творы каля 150 аўтараў. Атрымаўся цудоўны гістарычны і культурны помнік нашай рацэ і народам, якія жылі і жывуць на яго берагах.

Праз усе творы, прысвечаныя рэкам, ад самых старажытных часоў праходзяць у той ці іншай ступені філасофскія роздумы. Людзі здавён імкнуліся знайсці рэальны зямны аналаг-вобраз увасаблення важнейшай катэгорыі, якая вызначала жыццё, — часу. У іх уяўленні час выступаў нябачным патокам, які захоплівае за сабой усё на свеце і ніколі не вяртае назад. Таму бег рэк атаясамліваўся з бегам часу.

Выдатнае параўнанне, выдатнае падабенства!







Яно перажыло стагоддзі і тым не менш захоўвае сваю значнасць і паэтычнасць у наш запрагматызаваны час, калі мы гэтыя самыя рэкі ўжо навучыліся-такі паварочваць назад.

Адначасова ў старажытных час — гэта семя, якое вяртаецца ў парадзіўшую яго зямлю.

Слова і паняцце часу увайшло ў творы пісьменнікаў, паэтаў, у тым ліку і як значная філасофская катэгорыя. Аглядваючыся ў мінулае, спашлемся на вершы Гаўрыіла Дзяржавіна:

Река времен в своем стремленье
Уносит все дела людей…

А вось радкі нашага часу Уладзіміра Папковіча:

Сплывае час —
Імклівая рака...

Але ж якое дачыненне маюць гэтыя адступленні да нашай ракі Нёман? Вобраз Хронаса-часу і яго ўвасабленне — бег вады — зыходзяцца разам у нашай нацыянальнай рацэ, старажытным Нёмане. Так!

Наш мудры і вялікі Нёман у старажытнасці зваўся Хронасам! Гэта адзначае ў сваім васьмітомным “Геаграфічным апісанні” Клаўдзій Пталамей (II ст. н. э.). На так званай “радзівілаўскай” карце, выдадзенай у 1613 годзе ў Амстэрдаме, наш Нёман мае падвоеную назву Chronon-Niemen. Выканаў карту гравіраваннем у сваёй майстэрні Гесэль Герытс. Загаловак на левай верхняй частцы ліста паведамляе, што гэта карта была складзена і выдадзена пры садзеянні і пад наглядам на сродкі Мікалая Радзівіла, нясвіжскага князя па празванні Сіротка, аднаго з найбольш адукаваных людзей свайго часу.




Нёман на “радзівілаўскай карце”.
Амстэрдам, 1613 г. Са збораў Л. Казлова

У кнізе “Нёман ад вытокаў да вусця” У.Сыракомля ўсклікае: “Гэта Хронас для старажытных, гэта наш Нёман!”

Дык вось... Хронас — час, Нёман — Хронас, рака часу... Вельмі многа вады ўцякло, неверагодна многа перамянілася са старажытных часоў, а рэчка як бегла, так і бяжыць, спраўна адлічваючы час.

Яшчэ адзін цікавы, на гэты раз міфалагічны сюжэт са старажытнасці. Рускі гісторык В.Турчыновіч пісаў: “Пасля разгрому Троі знакаміты Адысей не мога па волі ўзлаванага на яго Нептуна (Скалатраса) доўгі час знайсці дарогу на Бацькаўшчыну. Блукаючы з краіны ў краіну, дайшоў нарэшце ў цяперашнюю Беларусь — да крывічоў, якія пакланяліся богу Паліфему-аднавокаму. Аднавокаму, якому Адысей вырваў адзінае вока...”. Адкуль у аўтара такія звесткі — невядома.

Звяртаючыся да Нёмана, мы часта ўзвышаем яго адвечным. Прыгожы эпітэт, але рака існавала не заўсёды. Тэрыторыя Беларусі, як сведчыць у сваёй навукова-папулярнай кніжцы “Геалагічнае мі-

нулае Беларусі” акадэмік НАН Беларусі, ураджэнец Уздзеншчыны А.С.Махнач, за геалагічнае летазлічэнне Зямлі неаднаразова пакрывалася марамі і ледавікамі.

Добра аформленых рэчышчаў тады не было. Рэкі падзяляліся на мноства рукавоў, якія часта мянялі сваё месцаразмяшчэнне і нават цячэнне.

Толькі на працягу апошніх 10 тыс. гадоў ландшафты Беларусі прымаюць сучасны выгляд. У апошнія 4 тыс. гадоў утварыліся тарфяныя балоты. Рачныя даліны пашырыліся, левы схіл паўночных рэк стаў пакаты і расцягнуты, правы — круты. У познеледавіковы час Нёман “перапільвае” Балтыйскую граду і атрымлівае выхад да Балтыйскага мора.

Вытокі Нёмана “ўрэзаліся” ў басейн вадазбору Дняпра, перахапілі яго прытокі. З часу пасляледавікоўя малюнак рачной сеткі моцна змяніўся. Так, Нёман забраў прытокі вярхоўя Прыпяці, ракі Случ, “адабраўшы” іх у раку Усу. Шчара забрала шэраг рэк у Ясельды.

Вось што паведамляецца ў “Описании церквей и приходов Минской Епархии”, выдадзеным у Мінску ў 1875 годзе: “Цяпер старажытныя вытокі ракі Нёман, пры якіх знаходзіўся Капыль, не існуюць, але агромністыя паглыбленні каля Капыля, у выніку якіх Капыль як бы стаіць на высокай гары, сведчаць аб тым, што заглыбленні гэтыя былі некалі напоўнены вадой і Нёман з незапамятных часоў перамяніў сваё цячэнне, што пацвярджаецца таксама і мясцовым народным паданнем”.

На працягу пасляледавікоўя паступова ў большасці раёнаў Беларусі ўзніклі паселішчы чалавека. Пашыраецца рыбалоўства, людзі пачынаюць узводзіць па берагах рэк пастаянныя жытлы. 5,5 тыс. гадоў таму з’явіліся гліняны посуд, кераміка. Людзі навучыліся шліфаваць і свідраваць каменныя прылады. Такім чынам, у неаліце на вярхоўях Нёмана жылі паляўніча-рыбалоўныя плямёны з агульнай мовай.

Потым сюды прыйшлі продкі славян. Больш за 1 тысячу гадоў таму, у час вялікага перасялення народаў, тэрыторыя Беларусі запоўнілася славянскімі плямёнамі: крывічамі, дрыгавічамі і іншымі.

У сярэдзіне I тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі Беларусі пачынаецца земляробчы перыяд.

Аб гудах (гутах) — суседніх з літоўцамі ўсходніх славянах — упамінаюць Пліній Старэйшы, Тацыт і Пталамей. Апошні пісаў у 60-х гадах II ст., што гутоны (гудоны) жывуць на ўсход ад Віслы, ніжэй венедаў і прыбалтыйскіх фінаў, і называў іх "малым народам" (племем). У Плінія побач з Віслай упамінаецца вялікая рака Гутал (Гудал), якая ўпадае ў мора. Магчыма, што так зваўся тады Нёман. З захаду па ім у Беларусь прыйшлі крывічы. Прыстанішча яны абралі на поўнач ад Навагрудка. Гэта адзін з першых "астравоў", дзе пачыналася славянства і гісторыя беларускага народа. Месца нёманскіх вытокаў, цяперашняя Уздзеншчына, знаходзілася як раз на мяжы крывічоў і дрыгавічоў.

Асіміляцыя балтаў крывічамі, дрыгавічамі і радзімічамі стала рашаючым фактарам станаўлення беларускага этнасу.

Паводле Герадота абарыгены краіны за Дняпром — славяне. Вельмі магчыма, што дунайскія. Дунай, сам мала вядомы беларусу, часта ўпамінаецца ў яго песнях:

У нядзелю раненька
Ціхоніна маці плакала:
Ой, зяцю, зяцю Дунаю!
Да паволі ідзі, не гудзі,
Майго дзіцяці не тапі!

Цікава, што ў шлюбных песнях у Пінскім павеце часта згадвалася рака Дунай. Напрыклад —

"И ты, рычанька Дунаю!
Прибывай с жемчугою до краю,
Нам тая жемчуга потреба.
Старосты копыченьки коваты,
В дороженьку выезжаты —
В дороженьку щасную,
По дивоньку красную".
"Ой где ж нам дай подитыся?
Чи в Дунаю утопитыся?"

Старажытнасць гэтых песень несумненная, — сцвярджаў А.К.Кіркор у 3 томе "Живописной России" (1882).

У Клецкім раёне ёсць вёска Дунайчыцы. У беларусаў дунаем завуць часовы вадаём, які ўтварыўся ў дождж ці пры разліве рэк. Непадалёку ад Старыцы Капыльскага раёна месціцца пасяленне Дунаева. Паміж Салігорскам і Любанню паселішча Задоншчына.

Калісьці на землях крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў мясціліся Полацкае, Тураўскае і Мінскае княствы, якія ўваходзілі ў склад Кіеўскай Русі.

Пазнейшая назва "Белая Русь" паводле аднаго з меркаванняў пайшла ад нехрысціянскіх народаў. Менавіта папскія нунцыі стварылі першую карту, дзе землі паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіной назвалі "Белая Русь". Балты — гэта значыць — белыя. Бязбожны — белы...

Нёман доўгія гады заставаўся натуральнай мяжой паміж славянскімі народамі і пруска-нямецкім рыцарствам. У чэрвені 1656 года "Царем Алексеем Михайловичем велено в Минске острог подкрепить служилыми людьми, а об приходе немецких людей поставить на заставе реке Немонту служилых людей из русских и поляков, которым можно верить и от которых шатости не чаять, и тем заставным людям приказать накрепко, чтобы воинские люди через реку Немонт к Минску безвестно не пришли и уезду не повоевали".

Па нашай зямлі бясконцы лік разоў праносіліся войны. З даўніх часоў зямля Наднямоння перапоўнена ваеннымі пахаваннямі, курганамі-магіламі. "Курганы шмат чаго нам гавораць", — сказаў паэт. Нам трэба вучыцца гэтай адвечнай мове, каб зразумець веліч і трагедыю тых далёкіх часоў.

Але кожны раз жыццё зноў вярталася сюды. Людзі заставаліся людзьмі, нязменна захоўвалі добрыя адносіны, мяккі гасцінны характар.

Цяжкая гісторыя мінулых часоў на нёманскіх берагах знайшла адлюстраванне ў мастацкіх вобразах, захавалася ў памятных месцах і гістарычных назвах.

На барэльефе Аляксандраўскай калоны, скіраваным у бок Зімняга палаца, размешчаны дзве фігуры, уяўляючыя рэкі Віслу і Нёман (памяць аб фарсіраванні гэтых рэк рускай арміяй у час праследавання Напалеона). Гэтай жа тэме прысвечаны медальён у выкананні В.Глінкі.

У Маскве, у раёне Валакаламскай шашы ёсць Нёманскі праезд. Гэта новая вуліца, забудаваная шматпавярховымі гмахамі. У іх жывуць — берагуць свой "нёманскі" адрас — дзесяткі тысяч масквічоў.




Паўночны барэльеф з увасабленнем ракі Нёман
на Аляксандраўскай калоне на Дварцовай плошчы ў Санкт-Пецярбургу

У Санкт-Пецярбургу таксама палічылі неабходным ушанаваць нашу гераічную раку. “Прапіска” Нёманскага завулка на Васільеўскім Востраве паміж 15-й і 16-й лініямі пазначана 1859 годам. Гэта старэйшая вуліца з нёманскай назвай у паўночнай сталіцы была ўганаравана ў якасці сімвала рускага гераізму ў вайне 1812 года.

У Кіеве ёсць Нёманская вуліца (вулиця Неманська), ціхая невялічкая вулачка працоўных людзей. На ёй найбольш усяго дамоў узорнага парадку. Відаць, яе назва да нечага абавязвае.

Дзіўнае пачуццё ахоплівала мяне, калі я блукаў на далёкіх ад нашай зямлі нёманскіх вуліцах. З кім бы я ні гаварыў, усе з павагай і пашанай ставіліся да свайго нёманскага адрасу, мяркуючы, што ён не падвержаны кан’юнктуры.

А ў Мінску? У нейкай паўсотні кіламетраў ад вытоку свяшчэннай ракі не знайшлося месца нёманскай памяці...



Уцёкі Напалеона за Нёман
у 1812 годзе. Медальён В. Глінкі



Жылыя дамы
на Нёманскай вуліцы ў Кіеве



Жылыя дамы
на Нёманскім праездзе ў Маскве

Ушаноўваўся Нёман і ў даваеннай Польшчы. У аматара гістарычных даследаванняў беларускага Панямоння А.Госцева з Гродна давялося ўбачыць паштоўкі даваеннага часу на нёманскую тэматыку.

Сёння Нёман, той жа Хронас — злучае час, падзеі, людзей, тое, што мы ўяўляем як сінтэз мінулага, сучаснага і будучага — непарыўнасць жыцця.

Невыпадкова гэтай з'яве — увасабленню праз рэкі повязі часоў — аддавалі належную ўвагу творчыя людзі — мастакі, пісьменнікі, паэты. Многія з іх нарадзіліся на вытоках нашай ракі. Няма, напрыклад, чалавека, душу якога не кранула б мужная і пяшчотная мелодыя "Песні аб Нёмане" вядомага беларускага кампазітара, хормайстра, збіральніка беларускага фальклору Нестара Сакалоўскага.

Ад нас залежыць, ці будзе ўслаўлена наша адвечная і заўсёды маладая рака. Для гэтага пройдзем не спяшаючыся па яе берагах, пранікнемся яе веліччу, павагай да тых, хто жыў, жыве і працуе тут. Падумаем, што ж аб'ядноўвае такое незвычайнае паняцце — Надняmonne?

Дый не будзем затрымлівацца — хутчэй у шлях!

А пакуль у якасці першага кроку падарожжа ўзгадаем змешчаны ў 1918 годзе ў "Вольнай Беларусі" цікавы нарыс Язэпа Лёсіка "Нёман" у беларускім правапісе тых часоў:




І.Чыгрынаў з кіраўнікамі Уздзенскага раёна і калегамі на вытоку Нёмана

*“Ціха цячэ ў нас Нёман, ціха і сумна, як час па растанню. Ні імчыцца ён з рызыкай уперад, ні шуміць, ні гудзе і ні пышыцца сілай, а паволі, ступою, моў скуты журбою, — льецца, як срэбро па роднаму грунці. Чысты, як шкло, светлы, як дзень, сумны і пенкны, як хараство у задумі, ходзіць ён, смуклы юнак, на ўсе бокі, цешыцца, — песьціцца на матчыных грудзях, ліецца — нясецца, сумуе-журбуе і ні можа разстацца з роднай краінай...*

*Міл яму ціхі гаёк каля лесу, любы зялёныя доўгія ніўкі; мілы лясэ, пясчаныя выдзьмы, горы, вазёры, грудэ, сенажаці, люб яму і жоўты пясочак на ўласным беразі. Ды, як скованы думкамі вечнай разлукі, пахаджае ён смутна па роднаму краю, — усё разглядае, з усім размаўляе, усё ціха жагнае, моў цяжка ўздыхае. Падойдзе, засмучаны, к цёмнаму лесу, — сьцішыцца, змоўкне, замрэ й абамлее, а потым завернецца — падасца уперад ды зьнікне ў лесі. Там пагуляе, у цяньку сапачыне, пагамоніць. Задумліва з ёлкамі, соснамі — пазіхне, устрэпянецца ды выбяжыць ў поле, — зазьяе, як срэбро, заблішчыцьзасьмяецца на сонцы ды разальецца устужкай па квяцістаму лузі... І куды-б ні забег, дзе-б ні разліўся — скрозь, як пачэсная варта вяльможнага пана, бяжыць за ім ў сьлед і місіцца абапал зялёна-купчастая пушча. Лозы, алешнік, касацісты дзягіль, ажыннік, маліннік, аер з ачаротам, — усё пазраслось, зьліпло, сплялося і*



Малады беларускі лодачнік на Нёмане ў Мінскай губерні

*стаіць над вадою разгатай сьцяною. Сумны вярбняк, пастаўшы ў радок, моў тыя пратэсы ў азнаку пашаны, параскідаў галлё ва ўсё бокі і нахіліўся на ваду, а тонкае веццe яго пазьвісало уніз, як матчыны косы над дзіцячай калыскай. Чырвона каліна ірдзіцца на сонцы, трапечацца лісьце асіны ў паветры, с кустоў выглядае пурышка і глядзіцца у ваду, як красна дзяўчына крыёма ў люстэрку, а на ўзгорках — магутна, як вежы, уздымаюцца у небо дубэ... Птушкі сьпеваюць, конікі граюць і пчолкі гудуць, як арганы, у паветры...*

*І толькі вось там, дзе трапіцца плёсо, дзе жоўтае поле пяску разлягглося, — толькі там гэта пушча, як чуйная варта нябогі, нібы разступаецца, застаецца пазаду, як бы дзеля таго, каб Нёман пабегаў адзін, пагуляў на самоці ды каб потым ізноў абступіць, агарнуць, увабраць яго бокі ў зялёныя шаты...*

*Ужо ў самым пачатку, с першых крокаў свае падарожы, Нёман ні волен ад жыццёвых турботаў. Толькі парвуцца кайданы зімовай няволі, як слабым грудзям яго трэ`` ўжо напружацца і несьці ў чужыну багацце і пыху роднага краю. І ад самай вясны да халоднай восені плывуць ды ідуць жалобнай працэсіяй плытэ: то нізграбныя сухія і белыя, як чалавечыя косьці, курпатыя згоны, то хмурныя і цёмныя, як паучозна сінеючы навокал лес, дзябелыя, лавак у трыццаць, важкія плытэ. До толькі і чуеш, які з ранку да вечара магільнаю яхай раздаюцца выгукі-каманды:*

*“Гарнуй на барбару-у! За-кідай шыры-гу-у!”*

*А то рахубны купец-скупяндзя махне, пасьміхнуўшысь, рукой на забароны ды пусьціць шарось. Тагды чыстыя хвалі яго ўкрываюцца брудам, як чалавечыя грудзі каростай. У брод — ні прайсці, ні праехаць: коні храпуць, рыкае ад страху жывёла, крычаць аж да поўначы качкі, гусі дамоў ні прыходзяць, плача пастух і чуюцца ўсюды праклёны...*



Плытагоны на Нёмане

*А часам з прадвесьня, ў поўную ваду, з мэтай бадання, прымчыцца аднекуль жывец-параход: загудзе, залапоча чырвонымі крыллямі, чмыхне ды зьнікне, як бы пераканаўшыся, што:*

*"Квол яшчэ, браце, — ні ўздымеш віціны!"*

*А што тыдня, ў чацьвер, у пагоду й нягоду, у зімку і ў летку, — варочае нетры Нямніска скарбовы рыбак. Закінуўшы волак і пабраўшы вяроўкі на плечы, ухаюць, пнуцца рыбакі-небаракі, — стогнуць, ірвуцца з апошняе сілы, каб заможнае панства у зімку мело свежую рыбу да столу..."*

## У ПОШУКАХ ВЫТОКУ

Калі шукаць былое рэчышча Неманца — сына Нёмана, якога раней звалі яшчэ і Неманком — ад мяркуемага месца былога вытоку, то намаганні будуць дарэмныя. У цёмным лесе пад шчыльнай засенню дрэў роўны слой пачарнелага лісця, праз яго ніяк не праглядваецца хаця б і часовы след русла. Магчыма, што ў мінулым устойлівага рэчышча на пачатку слабенькай ручаінкі не існавала. Цяпер, праз шмат гадоў, сляды яго згубіліся беспаваротна.

Адно выйсце — пачынаць з асушальнай сістэмы Неманца ля вёскі Краснае. Калі падысці да ўскрайку лесу, які тут уразаецца ў поле, то можна ўбачыць у заходнім накірунку канаву. Прыкмет вады ў ёй пакуль няма. Праўда, далей за невялікім зараснікам канава злучаецца з яшчэ адной, праходзячай злева. Канавы даюць пачатак новаму, даволі глыбокаму каналу. Ён пралягае па ўскраіне вялікага лесу. Злева поле. Частка пад пасевамі, частка — пад выпасамі. За полем — вёскі Крастінтэрн, Ясянёва (Ясяное), Антанова. Ля некаторых з іх праглядваюцца рэшткі былых ліпавых і таполевых алей.

Паміж лесам і каналам — грунтовая дарога, якая праз канал ідзе на Антанова. Тут перакінуты і першы мост цераз канал, першы на ўсім шляху старажытнага Нёмана. Яго канструкцыя няхітрая — на некалькіх бярвёнах насціл з жэрдак. Вады пад мостам і тут не бачна.

Далей лес радзее, драбнее, і канал адхіляецца ўправа. Тут ужо пачынаецца вялікі лес. Над ускрайкамі схіляюцца яго шаты, у глыбіні — ён змрочны і сыры. Паўз лес канал абходзіць кут поля. Да гэтага часу маршрут канала ніяк не звязаны з былым рэчышчам Неманца, гэта зноў створаныя штучныя абудаванні, якія пракладзены па новых напрамках. Прызначэнне канала і канаў на гэтым адрэзку працягам каля двух кіламетраў — збіраць паверхневыя воды з навакольных палёў і часткова з лесу.

Аднак тут паблізу ўжо праглядваецца руславае паглыбленне — прамыіна, якая выходзіць з лесу і летам бяздзейнічае, запаўняючыся вадою толькі ў перыяд паводкі і ліўняў.

Вось тут, менавіта, і зыходзяцца штучныя збудаванні чалавека і былыя, створаныя самой прыродай, натуральныя водныя шляхі. Далей канал сцелецца паблізу былога русла Неманца, якое тут то цягнецца па краю леса, то збочвае ў яго, каб затым зноў вырвацца на прастор.

Значыць, тут пачынаецца сівы Нёман! У канале з'яўляюцца першыя праблескі вады. Яе нітачка перарываецца плямамі, прасветамі, адлюстроўваецца рудым бляскам. Але і гэта нясмелая вадзіца ўжо нясе жыццё. Зелянее трава, у ёй вочкі незабудак. Ваду паласуюць жучкі, у ёй пераліваецца адбітак страказінага рою. Тут ужо можна гаварыць аб пачатку вялікай ракі.

У адваротным напрамку адсюль шлях вядзе да былога вытоку. Прамыіна на ўскрайку лесу раздвойваецца. Адна кароткая знікае ў лесе, па ёй, відавочна, сцякаюць воды з балота. Другая — нейкі час ідзе ўздоўж дамбы канала, а затым паглыбляецца ў лес — чорны, дробны, няходжаны. Праз кіламетр русла ракі канчаткова губляецца. Наперадзе ўзнікае былое балота. Цяпер яго можна прайсці, там расце тыповая балотная трава, толькі ў рост чалавека. Магчыма, гэта балота і ёсць частка былога рэчышча. Мясцовыя людзі яго след суадносяць з прагалінай у лесе ўздоўж канала. Яна накіравана ў бок мяркуемага вытоку ля Верхнёмана. Але да яго яшчэ каля кіламетра.

Увага многіх калектываў і аматараў прыцягнута да ідэі ўзнаўлення вытоку Нёмана. То што ж трэба было б у такім разе лічыць яго вытокам сёння? Паказваць турысту ў якасці вытоку вялікай ракі новастворaныя каналы, якія нічога агульнага не маюць з сапраўдным рэчышчам Нёмана, было б у вышэйшай ступені недалікатна. У той жа час спасылацца на сапраўднае русла Нёмана, у якім — ні кроплі вады, таксама няма ніякіх падстаў. Гэтыя абодва варыянты цяжка тлумачыць, яны ненатуральныя, не жыццёвыя.

Але ж вялікая рака павінна мець свой пачатак! Хутчэй за ўсё менавіта тут, дзе злучаецца старое русла Неманца з каналам, дзе з’яўляецца першы струменьчык вады, можна адзначыць сапраўдны, рэальны выток Нёмана. Так хай жа ён будзе тут! Гэта найлепшы, здаецца, варыянт.

Калыска Нёмана... Яна дала свету моцнае дзіця, якое на тысячакіламятровым шляху набіраецца сіл і ператвараецца ў асілка, у волата.

Кожнаму, хто пажадае пабываць на вытоку Нёмана, захочацца абавязкова адведаць яго гаючай сцюдзёнай вадзіцы. Спадзяемся, што надыдзе час і ўзнікне яшчэ адна традыцыя — у дзень вяселля маладыя будуць наведваць нёманскі выток, каб пакаштаваць жыватворнай крынічнай вадзіцы і запамятаць гэту падзею на ўсё жыццё.

Дзеля гэтага варта было б абсталяваць невялікую свідравіну ля вытоку, правесці сюды дарогу, аздобіць альтанку, клумбу з мясцовымі простымі кветачкамі. І, канешне, паставіць адпаведны памятны знак з апісаннем месца вытоку і агульнай схемы Неманца.

Ёсць яшчэ адзін варыянт адраджэння нёманскай крыніцы. Яго прапанавалі спецыялісты-гідратэхнікі. Тапаграфія месца вытоку Нёмана дазваляе шляхам нязначных земляных работ адгарадзіць дамбай невялікую частку хмызняку і тым забалоціць яго. Такім чынам утворыцца верхавое балотца, яно ўвільготніць глебу і падыме ўзровень грунтовых вод. Потым з'явіцца і падземнае сілкаванне нёманскай крынічкі. Адродзіцца адвечная калыска Нёмана.

Прапанова надзвычай слушная. Праўда, прыдзецца трохі перарабіць верхавыя асушальныя каналы. Адны прадоўжыць да вытоку, другія прысыпаць. Бо пройдзе час і гэтага малога, што нам вядома пра Нёман цяпер, не застанецца ў памяці. Аўтару гэтых радкоў было вельмі няёмка суправаджаць дэлегацыю з Літвы на месца былога вытоку, якое тады не мела ніякай адзнакі.

Але ж дзе гэты выток быў раней? Для гэтага наведаем вёсачку Верхнёман. Яна месціцца недалёка ад лесу пры дарозе, што ідзе з Даўгінава на Цялякава. Верхнёман ніколі не быў вялікім пасяленнем, а з часам зусім пакінулі яго людзі і заставалася толькі ў адной хаце бліжэй да лесу старая жанчына Груня Казлова. Мы заходзілі да яе на пачатку 1980-х гадоў. Яна не мясцовая, пасялілася тут адразу пасля вайны (другіх карэнных жыхароў мы тут не сустрэлі). Прайшла ў час вайны праз нямецкія канцлагеры, бачыла ў жыцці шмат цяжкага і горкага. Яна нам і расказала, што ведала пра нёманскі выток. Наша цікаўнасць не здзівіла яе — сюды кожны год ідуць і едуць людзі, усё шукаюць гэты выток. Бывалі тут і вучоныя, ставілі палаткі і турысты з Літвы. Ужо пасля нашага падарожжа вытокі зацікавілі моладзь. Пры ўдзеле газеты "Чырвоная змена" адбылося некалькі навукова-турысцкіх вылазак. Атрыманы новыя дадзеныя на аснове аэраздымкаў мясцовасці. Ёсць меркаванне, што вытокі Неманца на самой справе не даходзілі да гэтага месца, недзе губляліся ў балотах, што праглядваецца на геадэзічных гарызанталях узвышэння пункта вытоку. Сюды маглі дайсці толькі вытокі Лошы і ракі Уздзянкі, прытока Усы.

Але нельга выкрасліць з памяці паданні пра гэта незвычайнае месца. Калі геадэзія і мае нейкую рацыю, то ўсё роўна цудоўныя паэтычныя легенды аб гэтай мясцовасці будуць жыць у памяці беларускага народа як выдатны прыклад увасаблення народнай творчасці.



Разам з Г. Казловай і яе ўнучкай на месцы былога вытока Нёмана

А ў тую сустрэчу Груня Казлова ахвотна паказала нам месца былога вытоку, яно ў метрах 600 ад вёскі, на ўскрайку лесу. Калісьці пасля вайны дробналессе і хмызняк даходзілі амаль да вёскі, цяпер тут поле. Па адзін бок стаяла, наколькі хапала вачэй, моцная роўная пшаніца, па другі — такі ж прыгожы, рослы авёс.

Стаім на месцы, дзе ў балоце з крыніцы калісьці выцякаў той сыракомлеўскі ручаёк:

Цячэ ручай, цячэ маленькі
З балота, з-пад каменя...

Гаспадыня расказала, што і раней пасля вайны ручай цёк не ўвесь час. У дажджлівую пару праяўляўся і весела бруіў, у сухую — хаваўся, знікаў.

— Так, — казала Г.Казлова, — быў тут камень, менавіта з-пад каменя і ручай выцякаў... Дзе дзеўся камень? А хто яго ведае?.. Жыў тут некалі чалавек стары, звалі яго Галавенчыкам Сымонам. Ён то напэўна ведаў усё як след, ды памёр ужо колькі гадоў назад, небарака...

І падумалася: зноў не паспелі! Добра, што ўдалося пабачыць Груню Казлову, бо і яе даўно няма. Як гэта горка даведацца, што па

матулі ў нас ёсць з Сымонам Галавенчыкам нейкае, хай і далёкае, але сваяцтва (дзявочае прозвішча нашай маці — Галавенчык).

Як ён выглядаў — наш адыйшоўшы родзіч — аўтар пазней удакладніў па нагаданай вышэй кнізе Чэслава Кудабы. Там ёсць яго здымак і хаты яго з сімвалічным калодзежным жураўлём. Хата стаяла першай ад лесу. Журавель у той першы прыезд нам удалося яшчэ застаць, цяпер і яго няма.

Як пісаў Максім Танк:

Мая хата — з краю,
Таму ў яе першую грукаюць
Вятры, збіўшыся з дарогі,
Хмары снежныя і дажджлівыя,
Птушкі пералётныя,
Сакавікі і лістапады,
Кірмашовыя дні,
Працавітыя будні,
Змораныя падарожнікі...



Сымон Галавенчык.
З кнігі Ч. Кудабы “Дзе цячэ Нёман”

Дык вось — Сымон Галавенчык ведаў усё аб гэтым вытоку, быў яго дабраахвотным грамадскім ахоўнікам. Былі ў яго дзеці. Адзін сын загінуў на вайне, другі — памёр, дочкі, як быццам, жывуць недзе ва Уздзе ці ў Мінску.

...Збіраў часам дзед Сымон дзяцей і, пакульгваючы, вёў іх да ручая. Паказваў ім незвычайную дзею-праяву. Каля каменя было чыстае акенца вады. Здавалася, што не рухаецца яна, замерла. Ды і навокал у цёмным лесе таксама панавала таемная цішыня. Браў стары Галавенчык трэсачкі і кідаў іх у сярэдзіну акенца. І — о, цуд! Спачатку

непрыкметна, затым усё хутчэй трэскі падзяляліся на дзве часткі: адна адыходзіла ўлева, другая — управа. Не адразу казаў дзед, у чым тут справа. Даваў дзіцячаму розуму падумаць.

А ўся дзея была ў тым, што выцякаў ручаёк на самай высокай кропцы гэтай мясцовасці. І цяпер, калі прыгледзецца да фізічнай карты, можна ўбачыць на агульным зялёным фоне навакольных нізін маленькі жоўты кружочак дамінуючага ўзвышша. Тут, непадалёк ад паўночнай часткі вёскі Даўгінава, стаіць лічба 200, г. зн. такая яго вышыня над узроўнем мора. І давялося крынічцы нарадзіцца ў месцы водападзелу. Направа — ніжэй, налева — ніжэй, наперад, назад — таксама ніжэй!

І не адзін выток з гэтай крыніцы атрымліваў жыццё, а адразу цэлых два! Калі глядзець ад вёскі — налева пайшоў выток Неманца, направа — Лошы. Воднае акенца давала жыццё адразу дзвюм ручаінам: Неманцу і Лошы. Яны разбягаліся ў розныя бакі. Унікальная з'ява прыроды мела сваё прадаўжэнне — воды Неманца і Лошы потым зноў зліваліся, што знайшло сваё ўвасабленне ў многіх легендах.

Тое, што Неманец і Лоша выцякалі з адной крыніцы, пацвердзіў былы рабочы меліярацыйнага канала, тады ўжо пенсіянер, Тарасевіч. Адным з першых гэту незвычайную з'яву апісаў у часопісе "Нёман" у 1969 годзе нястомны даследчык і прапагандыст Міншчыны, тонкі знаўца каштоўнасцей роднага краю Станіслаў Шкадзінскі.

Цяпер жа мы стаім на зусім сухім месцы, якое не падае ніякіх надзей знайсці хоць якую кроплю вады. Тут узвышаецца створаны рукой чалавека ўзгорак. Побач уздоўж лесу праходзіць глыбокі канал. Ён пракапаны так, што збірае ўсё, што ёсць воднага паблізу, і адводзіць як мага хутчэй направа ў басейн ракі Лошы. Так распарадзіўся чалавек. Узровень грунтовых вод панізіўся, і болей тут не заб'е сама па сабе крыніца. Мы зрабілі здымак на памяць аб гэтай цікавай сустрэчы.

Факт застаецца фактам: былое месца водападзела зрушылася ўлева на добрых два кіламетры.

Пазней мы не раз чулі легенды аб незвычайнай з'яве — вытоку з крыніцы адразу дзвюх рэк. Аб адной з іх апавядае ў задушэўным, цёплым і праніклівым нарысе "Мой Нёман" ураджэнец Уздзеншчыны Алесь Махнач.

...Даўным-даўно, гадоў тысячу назад, з-пад вялікага каменя, дзе б'е крыніца, нарадзіўся славуты асілак. Яго назвалі Нёманам. Жыў сярод лясоў дрымучых, лугоў шырокіх. Прыгожы, працавіты. Прыродзе, людзям і ўсяму жывому дабром плаціў. Па суседству жыла Лоша. Гультаяватая, ляжала ў цяньку, сабою любавалася. Нікому ад яе не было ні радасці, ні карысці. Лоша часта заглядвалася на свайго суседа. За маўклівасць празвала яго Неманцом.

Цяпер ніхто не ведае, за што Нёману прыглянулася тая красуня. Адно вядома — было вяселле. Гуляла на ім уся радня жаніха: і Сула, і Уса, і Шчара... Каго толькі тут не было! Пілі, балявалі, маладым шчасця ды добрай долі жадалі.

Скончылася вяселле, пачаліся будні.

Зноў Нёман не ведаў ні дня, ні ночы. Паіў, карміў, туліў усіх, хто да яго гарнуўся: і чалавека, і звера, і птаха, і рыбу, і жыўнасць усялякую. Цешыў сваім водным люстэркам прыбярэжныя лясы, палеткі, лугі, на сваіх магутных грудзях насіў чоўны, ганяў плыты.

Не раз запрашаў на шырокі прастор і сваю красуню ненаглядную. Толькі тая заставалася абыякавая, халодная да ўсяго, па-ранейшаму не хацела падзяляць нягоды і радасці свайго волата.

Не па душы было такое жыццё Нёману. Аднойчы цёмнай ноччу ён кінуўся ўпрочкі. Стараўся замесці след: дзе пад поплавам прабяжыць, дзе для перадыху вынырне плёсам, тоняй, азярцом, а затым зноў схаваецца. І толькі там, дзе цяпер стаіць Забалацце, асілак у адкрытую пайшоў да мора.

Прачнулася Лоша, а Нёмана няма. Пачала даганяць уцекача, ды не ў той бок кінулася. Па далінах ды па нізінах бегла. Ажно сіл не ставала. Ды не ведала, куды далей падацца. Гукала-клікала на дапамогу, але ніхто не прыйшоў — ні Пціч, ні Бярэзіна, ні Свіслач... Толькі Выня паспачувала гору сваёй сяброўкі. Выбеглі яны ўдзвюх да груда пясчанага, дзе сёння Пясочнае, і ўбачылі: Нёман праз долы і лясы дарогу сабе пракладае. Хвалямі горкіх слёз кінулася Лоша ў абдымкі да свайго асілка: адчула, што жыць па-ранейшаму, ды яшчэ адной заставацца, не варта — загінуць можна. Пачала дапамагаць Нёману. З цягам часу і людзі не абмінулі Лошу староною: паблізу пачалі будавацца. Так нарадзіліся вёскі Лоша, Мрочкі, Перавоз, Сасноўка, Рачыца, Пясочнае.

Нёман ніколі не забывае родныя мясціны. Кожную вясну, кожную дажджлівую восень вяртаецца да маці-крынічкі, якая цячэ з-пад вялікага каменя. Вяртаецца сюды, каб сустрэцца са сваёй Лошай. са сваёй маладосцю...

— Толькі вясною і ў дажджлівую восень, — удакладняе Алесь Махнач, — можна было ўбачыць верхнёманскую калыску дзвюх рэк. Трэба было толькі кінуць у крынічку прыгаршчы сухіх травінак — яны паволі рабілі круг і плылі адны ў Неманец, другія ў Лошу. Летам крынічка перасыхала. Заставалася сухое патрэсканае глінішча. Побач узнікала яшчэ некалькі крынічак, але яны былі аддзелены ад асноўнага вытоку і летам таксама перасыхалі. Паводле сведчання пісьменніка, легенда заканчвалася так: “А той камень вялізны, з-пад якога біла крынічка, даўно пад зямлю праваліўся”.

Паходзячы з Даўгінава вядомы на Уздзеншчыне настаўнік, выдатны краязнаўца Міхаіл Лазар удакладняе: “Нікуды той камень не правальваўся. У 30-х гадах у прыгранiччы будаваліся ваеннакамунікацыйныя дарогі. З палёў павызбірвалі ўвесь булыжнік. А каменя ўсё не хапала. Асабліва абвастрылася становішча пры будаўніцтве адрэзка дарогі з Валяр’янаў на Слуцк. Спецыяльная брыгада дарожнікаў ірвала нават самыя вялікія валуны. Дайшла чарга і да нашага валуна на вытоку Неманца. Яго ўзарвалі і вывезлі на машчэнне слуцкай брукаванкі”.

Відаць, што так.

Уздзенскі меліяратар У.Заяц расказаў другі варыянт легенды.

Начавалі аднойчы ў лесе брат Нёман з сястрой Лошай. Капрызнай была Лоша, пасварылася яна на адвячорку з братам, ноч не спала, раніцою, як толькі зышоў змрок, збегла ад яго, ды не ведала, неразумная, дарогі, пабегла ў другі бок. Прачнуўся Нёман, здагадаўся аб усім і памчаўся напрамкі, сустрэў змораную Лошу і прыняў яе ў свае абдымкі. Павінілася Лоша перад братам, і пабеглі яны далей ужо разам дружна да самага мора.

Яшчэ адзін варыянт легенды запісала настаўніца з вёскі Лоша Марыя Дубовік.

...У мудрага чалавека было два сыны Нёма і Лёш. Сыны любілі бацьку і ўвесь час падарожнічалі па беламу свету. Блукаючы, яны дайшлі да вёскі Красное. На краю балота ў хмызняку прылеглі ад-

пачыць. Стары адчуў сябе кепскавата. Ён папярэдзіў сыноў, што ў гэту ноч ужо памрэ, і папрасіў Нёма яго пабудзіць на золку пасля трэціх пеўняў. Ён абяцаў Нёму бессмяротнасць. Лёшу стары не любіў за непаслушэнства і зман, якія давялося яму несці ад сына ў жыцці. Лёш чуў просьбу бацькі да Нёма і раней тэрміну пабудзіў бацьку, каб атрымаць ад яго дар бессмяротнасці. Бацька развітаўся з Лёшам, палічыўшы яго за Нёма, ператварыў яго ў выток і даў яму накірунак прабівацца ракой праз лясы і лугі.

У прызначаны тэрмін Нёма пабудзіў бацьку. Толькі тут бацька даведаўся, што Лёш яго зманіў. Раззлаваўся бацька на Лёша і ператварыў Нёма ў выток, накіраваўшы яго па прыгожых палях апроч вёсак насустрач Лёшу, каб той адабраў у яго дарагую славу і бацькоўскі дар. А сам бацька ператварыўся ў камень. Той камень і цяпер ляжыць непадалёку ад вёскі Красное. З-пад яго б’юць два вытокі — пачатак вялікай ракі Нёмана і яго левага прытока Лошы. Каля вёскі Пясочнае Нёма апярэдзіў Лёша і прыняў яго воды ў сваё русла.

Ад імя Лёша атрымала сваю назву рака Лоша, ад ракі пайшла і назва населенага пункта...

Ураджэнец Міншчыны Генадзь Кляўко ў вершы “Нёман і Лоша” даў яшчэ адзін варыянт легенды:

Быў Нёман — прыгожы хлапчына,
Ён з Лошай каханаю цёк,
Узяўшы выток пад ляшчынай —
Жывучай крыніцы глыток.
Плылі на зялёным прасторы
Суладна і спеўна ўдваіх.
У іх заглядаліся зоры,
Каханню зайздросцячы іх.
Ды вось на змярканні аднойчы
Прылеглі яны адпачыць.
І Лоша рашыла той ноччу
Ад Нёмна цішком уцячы.
Драмаў яшчэ Нёман спакойна,
Устала яна да відна
І, убок скіраваўшы, павольна
Пабегла лугамі адна.

Пабегла між вербаў пахілых
Ціхутка па гладкім жвіры,
Мінуючы ўзгоркі і схілы,
Груды і крутыя яры.
А Нёман, прачнуўшыся ўранку,
Над гаем ледзь сонца ўзышло,
Гукаць стаў і клікаць каханку,
Ды побач яе не было.
А Нёман праз долы і горы
Пабег на шырокі прасцяг,
Дзе лугам квяцістым, дзе борам,
Наўпрост прабіваючы шлях.
Ніякая тут перашкода
Яго прыпыніць не магла:
Наперад імклівыя воды
Нястрымная сіла вяла.
І шчасце навек сваё Нёман
У гэтым імкненні знайшоў.
А Лоша — малой, невядомай
Рачулкай плыве з тых часоў.

Блізкі варыянт легенды змешчаны ў выдадзенай выдавецтвам “Мастацкая літаратура” у 1980 годзе кнізе “Дрэва кахання. Легенды, паданні”.

Яшчэ раз хацелася б падкрэсліць, што гэтыя легенды зыходзяць з рэдкаснага прыроднага выпадку.

Трэба ўдакладніць, што ў тутэйшых людзей здаўна вярхоўі рэк маюць дадатак “верх” — “Верхрэк”. Так завуцца, напрыклад, вытокі рэчкі Шаць (Шача). Верхмень — не што іншае як месца вытоку рэчкі Мень.

Крыніцам, рэкам і ўсяму, з імі звязанаму, заўсёды надаваліся рысы незвычайнасці, патаемнасці, а значыць, і легендарнасці. Такіх прыкладаў нямала. Рэкі звычайна выступаюць у чалавечых вобразах. Рэкі — браты і сёстры, мужыкі і жонкі, бацькі і дзеці. Яны любяць, раўнуюць, спрачаюцца, працуюць, як і людзі. Такія легенды мае не толькі Нёман, яны ўласцівы ўсім рэкам Еўропы. Волга і Вазуза, Дняпро і Сож, Дняпро і Дзясна, Дон і Шат...

У народаў розных часоў легендарныя волаты, іх жонкі, як правіла, разліваліся ў пэўны час шырокімі рэкамі. Не толькі рэкі, але і азёры, усялякія патокі вады здольны разумець, адчуваць, размаўляць. Самыя блізкія чалавеку бажаствы тыя, што жывуць у вадзе: вадзянікі, русалкі.

Я прыпомніў гэтыя легенды, калі ўглядаўся на барэльеф Аляксандраўскай калоны на Дварцовай плошчы ў Санкт-Пецярбургу. Нёман на ім выяўлены паўляжачай над вытокам атлетычнай мужчынскай постаццю. Здавалася, што ён увасобіў усе тыя самыя сыракомлеўскія геркулесавы артэрыі, узнік з беларускіх легенд. А Вісла на барэльефе здалася рэчкай Лошай.

Мы не мелі права згубіць месца вытоку Нёмана. Магчыма, не вернуцца сюды крыніцы. Згублены рэчышчы, якія і да меліярацыі часта знікалі, як бы правальваліся пад зямлю. Аднак патрэба ў адзнацы, якая б сведчыла аб знакамітай у мінулым крыніцы, заставалася. Напэўна, каб яе пакінулі ў свой час меліяратары, мы б толькі выказалі ім падзяку. Але таго не здарылася.

Летам 1995 года на Уздзеншчыне прайшла міжраённая навукова-творчая канферэнцыя “Рака Нёман: гісторыя і сучаснасць”. Планавалася павесці гаворку аб гісторыі, геаграфіі, краязнаўстве, літаратурных традыцыях і экалогіі Наднямоння. Аднак, адкрываючы канферэнцыю, намеснік старшыні райвыканкама (пазней яго старшыня, цяпер зноў намеснік старшыні) Яўген Шкель у якасці галоўнай вылучыў праблему захавання беларускай ракі. Гэта адразу вызначыла тэму асноўнага даклада ўсіх выступоўцаў — кіраўнікоў мясцовага, Стаўбцоўскага і Капыльскага раёнаў, загадчыкаў аддзелаў культуры, адукацыі, інспектараў экалогіі, музейных работнікаў, пісьменнікаў, журналістаў.

У той жа дзень Нёману выдалі свайго роду “пашпарт” аб месцы яго нараджэння — паклалі валун, прынесены сюды апошнім ледавіком. На ім прымацавалі мемарыяльную металічную таблічку са словамі: “З гэтых мясцін пад назвай Неманец бярэ пачатак славутая рака Нёман”. Побач пасадзілі тры дубкі — сімвалічную ўдзячнасць Нёману трох раёнаў, па тэрыторыі якіх цячэ рака.

Цяпер былы выток — месца пакланення людзей. І сапраўды, тут ёсць што шанаваць. Ніколі рака, якой бы яна не была вялікай і магутнай, не ўзвысіцца над сваім вытокам. У гэтым яго адвечная перавага і непаўторнасць...




Адкрыццё памятнага знака на месцы былога вытока Нёмана.
Адкрываюць Г. Міхальчук і А. Папко, 1995 г.

А эстаферу той канферэнцыі далей прыняў Стаўбцоўскі раён, за ім — Нясвіжскі, Карэліцкі.

Пазней мясцовыя раённыя і калгасныя ўлады вярнулі жыццё паміраючай вёсачцы Верхнёман. Сюды пракладзена добрая дарога, праведзена электрычнасць. Гараджанам, якія маюць тут нейкія карані, дазволена весці забудову. Усяго некалькі крокаў, а вёсачка ажыла! На пад’ездзе да яе вас сустракае дарожная шыльда з характэрнай і ёмкай назвай “Верхнёман”. Цяпер, спадзяемся, вёска і ўся звязаная з ёй гісторыя не загінуць!

У сярэдзіне 90-х гадоў XX стагоддзя Віктар Сабалеўскі ў карэспандэнцыі ў газеце “Чырвоная Зорка” апісаў гісторыю вёсачкі Новы Ручай паблізу вытока рэк Неманец і Лоша. Паводле звесткак тады 77-гадовай мясцовай жыхаркі Браніславы Францаўны Лукашэвіч гэта быў хутар з трох сядзіб, якія потым аб’ядналіся з вёскай Красное.




Прыбіўся нарэшце да ўласных вытокаў...
Аўтар кніжкі — краязнаўца У. Кісялёў. Здымак В. Сядых

Непадалёк ад паселішча працякаў Новы Ручай, ад якога пайшла назва і хутара. У час народных свят: у Юр’еў дзень, на Купалле сюды збіралася моладзь, на берагах ручая весяліліся хлопцы і дзяўчаты. Вадзіца ў ручаі чыстая, празрыстая, смачная. Яе бралі, каб асвяціць у царкве перад Вадохрышчам, Вялікаднем. Захоўвалі потым у бутэльках на працягу года — і ад пярэпалаху дапамагала, і апырсквалі ёй кожную новую будыніну, нават хлеўчык, варывеньку і скляпок.

Нам пашчасціла знайсці польскую ваенную карту канца 20-х гадоў XX стагоддзя, скапіраваную з расійскай ваенна-тапаграфічнай карты канца XIX стагоддзя, на якой як раз пазначаны гэтыя месцы з тагачаснымі назвамі. Фрагмент выкапіраўкі з яе мы змяшчаем у падмацаванне нашай версіі.




Фрагмент карты мясцовасці на маршруце шляху “з варагаў у грэкі” з урочышчам Пяцірэкі

Ёсць на ёй і фальварак Ручай непадалёк ад двара Красное. Там і сёння працякае знікаючы ручаёк, які ўпадае ў Неманец. Красное, відаць, назва яшчэ дарэвалюцыйная і перакладаецца на беларускую мову як прыгожае, красівае. Вёскі Весялое тады яшчэ не было. Яна, хутчэй за ўсё, узнікла падчас ссялення хутароў. Сённяшні Крастінтэрн (Крестьянский Интернационал) верагодней за ўсё гэта пасяленне на месцы былога фальварка Грабнікі. А чым дрэнная была назва!

А вось паўночней былога вытока Неманца і Лошы знаходзіўся засценак Пяцірэкі. Паводле нашых прыкідак — гэта сённяшні Верхнёман. Такім чынам, тры рэчкі і ручаі з пяці — Неманец, Лоша і Ручай — адшуканы. Можа калі ўдасца аднавіць і назвы астатніх...

У вёсцы трэба было б абсталяваць яшчэ турысцкую пляцоўку з усім патрэбным начыннем. Бо цікавасць да вытокаў Нёмана мае і свой адваротны бок. У гэтым цудоўным прыродным месцы разбіваюцца палаткі, сячэцца лес, застаюцца плямы кастрышчаў, смецце...

Нельга не сказаць некалькі слоў аб вінаватых у знішчэнні вярхоўяў Нёмана. Гэта справы ўсё таго ж былога суперміністэрства меліярацыі. Да апошняга часу яно было паўнаўладным гаспадаром, які за гіганцкія сродкі сам сабе вызначыў, што рабіць. Быў час, калі ва ўмовах Беларусі ўсё зводзілася да меліярацыі і толькі меліярацыі. Затым пачалі ўзнікаць вадасховішчы. Цяпер справа стаіць так: узнавіць, наколькі гэта магчыма, загубленае. Фінансаваць жа ўзнаўленне няма каму, і гэта карысная справа ўсё адкладваецца.

У свой час для Уздзеншчыны быў распрацаваны праект стварэння водаахоўных зон. Дзе-нідзе ён пачаў укараняцца. Але гэтыя памкненні настолькі нязначныя, што аб якім-небудзь зруху пакуль што гаварыць рана.

Мы ў многім недаацэньваем значэнне рэк у жыцці нашых папярэднікаў. Яны займалі ў свядомасці простых сялян значнае месца.

Выказваючы агульны настрой пачуццяў, мясцовыя жыхары правільна адзначаюць, што наш продак быў высокай культуры, да прыроды ставіўся з любоўю, як да маці. І ён, як толькі з'яўлялася магчымасць, здалёку спяшаўся на паклон да любімай ракі. Сустракаў з ёй усходы сонца, першыя зоры, вечарамі проста сядзеў на беразе і пад камарыны звон і жабіныя канцэрты слухаў шэпт

набягаючых на бераг хваляў, усплёскі рыбы. Рака павінна жыць, у адрозненне ад нас саміх, вечна. А цяпер рака. якая паіла, карміла і дапамагала знішчаць ворагаў, гіне.

І сапраўды, колькі тысячагоддзяў цёк гэты гаваркі ручаёк, але ж менавіта на жыцці нашага і майго пакалення ён знік. І гэта пячэ душу, бо ў мяне быў такі ручай — рачулка Лоша.

І як пісаў А.Пісарык:

З-пад каранёў арэшніку
З нажвіраных глыбінь —
Пульсуе ў ціхім рэчышчы
Крыніцы светлай плынь.
Каменьчыкі —
Сунічкамі
Мільгнуць
З-пад гладыша...
Тут чысцінёй крынічнаю
Асветлена душа...

Паўстае законнае пытанне, а ці не ствараць запаведныя месцы там, дзе прабіваецца гэты цуд нашага жыцця — крыніца, пачынаецца выток ракі?

...Пасля паварота ўлева правы бок Неманца ўзвышаны, у рэдкалессі. Тут Неманец "стрымаў" лес, канал ідзе амаль па яго былому рэчышчу, толькі крыху яго спрамляе. Неманец тут — ужо стужка вады шырынёй 0,6—0,8 м, пакуль амаль нерухомай. Перыядычна ў скосы канала выходзяць латкі — керамічныя трубы ад дрэнажных сістэм. У канал упадаюць дзве-тры канавы, адна з боку вёскі Антанова. Калі год сухі, то дрэніраваць няма чаго.

...Яшчэ адзін паварот, на гэты раз праваруч, і перад намі шлюз, першае гідратэхнічнае збудаванне на Неманцы. Як ужо ўпаміналася, у праекце меліярацыі шлюзаванне — аснова рэгулявання воднага рэжыму на Неманцы. Тут можна было яшчэ не так даўно ўбачыць тых, хто шукае прахалоду першай нёманскай вадзіцы і адпачынак пад раскідзістай вярбой. Так было раней. Цяпер тут ні прахалоды, ні вярбы, ні тых, хто іх шукае!

Шлюзы ў большасці выпадкаў спалучаюць і маставыя збудаванні. Невыпадкова, што з завяршэннем асушальных работ у гэтых месцах намнога палепшыліся транспартныя зносіны.

Далей канал ідзе амаль па прамой да перасячэння з дарогай Валяр'яны—Узда. Па шляху свайго бегу Неманец папаўняецца вадой ад дрэнажоў, крыніц. У мінулым, менавіта, тут былі асноўныя балоты, дрыгва. Яны сілкавалі вярхоўі Неманца. У балотах рэчышча часта перарывалася.

Цяпер цяжка ўявіць тое былое, таму звернемся да аўтарытэтнай дакументальнай крыніцы, якая захоўвае карціну мінулага, несумненна, аб'ектыўна. Гэта той самы "Тэхнічны праект узнаўлення асушальнай сеткі і новага асушэння балот і забалочаных зямель у вадазборы ракі Неманец". З самой назвы выходзіць, што меліярацыйныя работы праводзіліся тут і раней. Асушэнне вялося і да Кастрычніцкай рэвалюцыі, праўда, на вусцевай частцы Неманца. Людзі спрабавалі талакой высякаць лазу, капаць канавы і каналы, каб даць хоць які-небудзь сцёк вадзе. Але вады не рабілася менш, а на месцы высечанай лазы праз год вырастала новая, яшчэ больш густая. Рака была адрэгулявана ў 1927 годзе ад вусця на працягу 6,5 км.

Матэрыялы праекта сведчаць, што ад Забалацця да вытокаў рэчышча было моцна зарослае і звілістае, месцамі зусім гублялася. Пойма забалочаная, моцна парослая хмызняком. Шырыня яе 200—300 м, рэчышча — 1—3 м, глыбіня — 0,6—0,8 м. Цячэнне не адчувалася, бо рэчышча ў вярхоўях Неманца не было добра вызначана. У месцах, дзе быў сцёк вады, сустракаліся моцна насычаныя вадой тоні ды паасобныя вокны чыстай вады ў месцах яе выхаду на паверхню.


Першы масток на Неманцы

Раслінны покрыў на даліне бедны, прадстаўлены у асноўным рэдкай дробнай асакой. Некалькі ніжэй, супраць паўднёва-заходняй часткі вёскі Забалацце, даліна Неманца мела выгляд глыбокага рва.

Раслiннасць нізавых балот дрэвава-хмызняковая: вольхі — да 50 працэнтаў, бярозы — да 15 працэнтаў, вярбы — да 10 працэнтаў.

Ля дарогі Узда—Валяр'яны знаходзіліся самыя вялікія — Забалац-

кія балоты. Невыпадкова ўзнікшая ў далёкія часы тут вёска атрымала такую назву. У гэтым бясконцым балоце губляўся яшчэ слабы Неманец. Губляўся, каб потым зноў узнікнуць і з кожным разам мацнець. Потым ручаінка зноў гублялася ў густым хмызняку лазы, алешын, ракіт, чорных парэчак...

А.Махнач пісаў, што ў гэтых мясцінах некалі хадзіла пагалоска-выказванне: “Шукаць у балоце Нёман”. Ім карысталіся, калі хацелі падкрэсліць нешта заблытанае, у чым цяжка было знайсці якія-небудзь канцы. “...Недзе ў глыбіні, схаваўшыся пад мяккім травяніста-тарфяным покрывам, бруіўся Нёман. Часам даводзілася збочваць да вузкай палоскі мурожнага лугу, за якім пачынаўся шырокі палетак збажыны — Нёман раптам выглядаў з-пад зямлі азярцом, шырокім плёсам і перакрываў нам дарогу. Не прайшлі і кіламетра ад Забалацця, а такіх вадзяных прагалаў налічылі з паўдзесятка. Да некаторых было цяжка падступіцца. Гэта тыя плёсы, праз якія пралягло падземнае рэчышча. Вада была халодная, дно жвірыстае, усланае каменнем. Берагі на зыбучых плаўнях калыхаліся пад намі, нібыта мы ступалі на паралон, які, здавалася, з кожным крокам ўсё ніжэй апускаўся пад нагамі ў халодную рудаватую ваду”.

І далей ён піша: “Так і стаіць з тых далёкіх часоў у памяці бацька — па пояс у халоднай вадзе збівае касою няўежныя для жывёлы бабок, хвошч, асаку; правальваючыся па шыю ў дрыгвяністую твань, цягне ў начоўках да берага сырую траву маці. Здаралася, з такога надзелу ў дажджлівае лета нельга было выцягнуць і высушыць ніводнага бярэмца сена. Тады даводзілася ехаць кіламетраў за дваццаць на забытае, як кажуць, богам і людзьмі Галае балота. Адтуль іншы раз удавалася прывезці невялікі вазок збуцвелай травы...”.

Ад сябе дадам, што і мне даводзілася ў складзе і малых і старых на чале з дзедам Юркам хадзіць на гэта самае Галае балота нарыхтоўваць сена. Вывезці яго можна было толькі зімой.

А.Махнач прадаўжае:

Мясцовыя жыхары мне казалі, што ў гэтых непралазных нёманскіх тонях было шмат рыбы, а ў трысці, у траве вадзілася непалоханая птушка.

Берагі на няўстойлівых плаўнях калыхаліся, калі па іх ступала нага. Месцамі плаўні рваліся на ладныя кавалкі чорна-тоневых залысін. Яны былі без травы. Па іх ішлі асцярожна. Люстэрка вады

плёсаў месцамі было размалёвана жоўтымі гарлачыкамі, сустракаліся і белыя. Левы бераг некаторых плёсаў у сцяне трысця падыходзіў амаль да самага лесу.

Кожнай вясной у пойму Нёмана заходзіла на нераст шмат рыбы, нярэдка яна заставалася ў адрэзаных старых рэчышчах-старыцах.

Дакументы сведчаць, што балотныя сенажаці мелі нізкую аддачу — ад 5 да 13 цэнтнераў сена з гектара.

Пойменнае балота падковай абходзіла вёску і сядзібу. Забалацце было як на паўвостраве. Вясной вада залівала лугі, заходзіла на агароды, затапляла скляпы з бульбай.

Як сведчыць А.Махнач, Нёман на сваім шляху не даваў раскапусціцца рознай лазе, алешніку, ракітніку. Бывала, ў вялікую паводку з карэннем вырываў кустоўе і гнаў яго з вадою. Затое астатнія забалацкія балоты былі амаль усе ў дзікай непраходнай лазе. Гэта было царства ваўкоў, аваднёў, сляпнёў, вужак... У ліліпаўку завые воўк — і пачынаюць яму падпяваць з суседніх лазнякоў адзін, другі, трэці... (Аўтару таксама даводзілася неаднойчы чуць гэты жудасны енк...).

Успаміны відавочцаў вельмі каштоўныя. Гэта свайго роду дакумент таго, што адышло ад нас назаўсёды.

Цяпер у большасці аб тых часах можна толькі здагадвацца. Як людзям жылося тады? Канешне, нялёгка, але ніколі не даводзілася чуць нічога кепскага пра ваду і балоты. Цяпер на месцы былых багнішчаў імчыць страла канала, вакол якога пашы, кармавыя ўгоддзі, паводдаль — пасевы жыта, ячменю. На верхняй частцы Неманца зыходзяцца землі трох гаспадарак.

Але і аб нашым часе даволі цяжка мець усебаковае ўяўленне, бо няма, на жаль, па шляху Неманца выразнай інфармацыі з паказам ўсёй сеткі асушальнай сістэмы, з абазначэннем вытоку нашай вялікай ракі. Добра б было, каб былі паказаны ўсе пад'езды да гэтага месца, а магчыма, і некаторыя іншыя рэкамендацыі самадзейным вандроўнікам. Я мару аб тым часе, калі на вытокі славутага Нёмана накіруецца першы маршрутны аўтобус. А пакуль не сцякаюцца сюды пілігрымы, каб пакланіцца вытоку Нёмана і прыняць абрад духоўнага ачышчэння.

Не трэба адмаўляць таго, што меліярацыя наднёманскай тэрыторыі, зробленая ў 1952 годзе, прынесла гэтым пераўтварэнням

і нешта добрае. У абарот былі ўведзены значныя новыя плошчы ўрадлівых зямель. У вярхоўях Нёмана добра родзяць пшаніца, жыта, авёс, ячмень.

Слушна адзначае А.Махнач, што часам некаторыя людзі, асабліва аматары рыбнай лоўлі, паляўнічыя і дачнікі, якія час ад часу наязджаюць у Наднямонне, каб правесці свой адпачынак у вярхоўях ракі, бачаць у меліярацыі толькі адно: меней стала рыбы, на балотах перасталі гнездавацца качкі, болей не нарвеш чароту, не сплецеш кошык з ракітніку, лазы... І зусім не здатны адразу заўважыць усё тое добрае, што дала чалавеку меліярацыя сёння і што можа даць пры належным карыстанні заўтра.

Аднак ад меліярацыі ёсць і прыкметныя згубы. Яна збядніла ландшафт мясцовасці. Роўнымі ніткамі цягнуцца па ёй каналы з бедным струменьчыкам вады на донішчах, нічым не вылучаючы своеасаблівасць краю. Па берегах можна ехаць у розных кірунках, што таксама выкарыстоўваецца празмерна, знішчаюцца значныя плошчы тарфянікаў. Нярэдка з каналаў пояць жывёлу.

На працягу першых 8 кіламетраў Неманца мы не сустракалі рыбаловаў. У вадзе, акрамя малькоў, нічога няма. Качкі тут таксама вялікая рэдкасць. Можа таму некаторыя жыхары Наднямоння, разумеючы і ацэньваючы аб’ектыўна тое, што дала меліярацыя, не-не ды і ўспомняць мінулае, калі Неманец ізліваўся плёсамі, у іх вялася рыба, гнездавалася птушка, ды і наогул мясціны былі невыказна прыгожыя. Выходзіць, і гэта патрэбна людзям, не хлебам адзіным жыве чалавек.

...Забалацце — першы населены пункт у непасрэднай блізкасці ад Нёмана. У пойме ракі месцяцца вялікія плошчы пасадак гароднiны, буракоў. Шмат адводзіцца пад пашу. Тут някепска растуць сланечнік, кукуруза, буракі. У Забалацці буйны механізаваны жывёлагадоўчы комплекс. Пастух тут ганаровая і добра аплачваемая пасада.

“Слоўнік геаграфічны...” за 1897 год прыводзіць дадзеныя, што ў Забалацці было тады 24 сядзібы, грунты ж, вядома, лёгкія.

Сёння гэта вялікая, на дзве вуліцы, добраўпарадкаваная вёска, Злучаная дзвюма дарогамі з Уздой і іншымі населенымі пунктамі. Тыя “лёгкія” грунты — гэта перш за ўсё сотні гектараў асушаных урадлівых тарфянікаў.



Адноўленая могілкавая царква ў Забалацці



На сустрэчу да забалатцаў

У Забалацці ў апошні час намаганнямі мясцовых вернікаў і настаяцеля Уздзенскага храма Святых апосталаў Пятра і Паўла, уздзенскага благачыннага, пратаіерэя Грыгорыя (Чарапеннікава) адноўлена адыходзячая прыпісная могілкавая царква Пакрава Прасвятой Дзевы Марыі. Цяпер у ёй праводзяцца службы, адпяванні.

Самае цікавае ў Забалацці — гэта людзі. Як ў іншых вёсках Уздзеншчыны. Яны прыветныя, адкрытыя, надзвычай даверлівыя. Праз пяць—дзесяць хвілін гаворкі дзеляцца самым блізкім з да гэтага незнаёмым чалавекам. Людзі ў многім эмацыянальныя з паэтычным светаўспрыйманнем.



Незапланаваная спеўка забалацкіх жанчын

У гэтай вёсцы пачынаўся нялёгкі шлях беларускага пісьменніка, драматурга Алеся (Аляксандра Іванавіча) Махнача, заслужанага работніка культуры Беларусі. Пра яго будзе расказана далей.

Тут нарадзіўся і жыў просты селянін, але надзвычай разнабакова падрыхтаваны чалавек — Фёдар Пятровіч Бельскі (1900—1975). Ад прыроды развіты і цікаўны, з дзіцячых гадоў ён увабраў у сябе побыт беларускай вёскі, найбольш характэрныя рысы беларускага тыпу. Сын батрака, рана спазнаў галечу і цяжкасці. З 1915 года ў сапёрных войсках. Пасля вяртання ў родную вёску стаў старшынёй камітэта беднаты, сакратаром ячэйкі РКП(б). З 1919 года зноў мабілізаваны ў армію.

Потым Ф.Бельскі працаваў на Украіне, у Беларусі і зноў у сваім родным Забалацці. Сціплы, працавіты, узвышанай душы чалавек усюды абараняў інтарэсы працоўнага народа. У апошнія гады аддаваў шмат часу рабоце з моладдзю, вывучэнню гісторыі роднага краю, яе рэканструкцыі. На гэтай ніве праслыў і застаўся назаўсёды народным гісторыкам. Такога афіцыйнага статуса не існуе, гэта ганаровая, заслужаная грамадская катэгорыя.

Пасля смерці Фёдара Пятровіча засталіся яго шматлікія запісы, у якіх ён спрабаваў асэнсаваць жыццё і побыт продкаў, расказаць аб мінулым і сучасным роднай вёскі, аб звычаях яго суайчыннікаў,



Ф. Бельскі і настаўнік А. Рудамінскі
разглядаюць каменныя прылады мінулага

блізкіх, родных яму людзей, спадзеючыся, што гэтым ён раскрывае іх народную душу, філасофію іх жыцця. Пра Ф.П.Бельскага мы раскажам далей больш падрабязна.

Шмат малавядомых пакуль творчых людзей на уздзенскай зямлі. Мне ў час вандровак расказалі аб яшчэ адным незвычайным чалавеку, які жыў непадалёку ад Забалацця. Гэта сапраўдны падвіжнік, старэйшы метэаролаг-фенолаг аматар Іван Пятровіч Аляксейчык (1900—1982) з вёскі Баравыя, што каля Лошы.

Больш за ўсё ў дзяцінстве яго захапляла неба. Хлопчыку хацелася ведаць, адкуль бяруцца хмары і таямніча свецяць далёкія зоркі. Як толькі ён навучыўся чытаць, першай кнігай яго стаў настольны каляндар, дзе друкаваліся звесткі па астраноміі, метэаралогіі. На іх набыццё збіраліся сямейныя грошы.

З 1911 года, у 11-гадовым узросце, кожныя 10 дзён юны фенолаг дасылаў у Мінскую губернскую земскую ўправу статыстычныя паведамленні пра надвор'е, нябесныя і прыродныя з'явы. У хуткім часе яго залічылі карэспандэнтам Пулкаўскай астранамічнай абсерваторыі.

У радах Чырвонай Арміі І.П.Аляксейчык пад Кранштадтам быў паранены. У час Вялікай Айчыннай вайны прайшоў з баямі праз усю Еўропу.



Фенолаг І. Аляксейчык пад час назіранняў

Шмат гадоў ён вёў назіранні за сезоннымі і атмасфернымі з'явамі. Вынікі назіранняў здаваў кожны дзень у кантору свайго калгаса імя Ільіча. Падтрымліваў сувязь з гідраметэаралагічнай службай Беларусі, з сектарам феналогіі Геаграфічнага таварыства СССР і іншымі навуковымі ўстановамі. Вёў актыўную грамадскую работу, папярэджваў праўленне калгаса аб паяўленні на пасевах шкоднікаў, прымаў удзел пры вызначэнні найлепшых тэрмінаў сяўбы, касьбы, жатвы. Да яго прыязджаў на кансультацыі Ф.П.Бельскі.

У раённым музеі знаходзяцца частка кніг і дакументаў з яго некалі вялікай бібліятэкі. Ён меў у поўным складзе Энцыклапедычны даведнік Бракгаўза і Эфрона.

## ДА ВУСЦЯ НЕМАНЦА

Пасля перасячэння з дарогай Валяр'яны—Узда водны паток Неманца павялічваецца. Да чарговага шлюза ў яго ўпадае тры-чатыры многаводныя канавы і шырыня Неманца дасягае паўтара метра. Можна зрабіць высновы, што побач месцяцца значныя асушаныя плошчы. Праз невялікі адрэзак шляху Неманец праходзіць яшчэ пад адной дарогай Забалацце—Малінаўка. Ля шлюза за забалацкімі пашамі Неманец ідзе зігзагамі, у яго ўпадае яшчэ адзін каналі-

заваны прыток. Прынёманскія лагчыны тут засеяны сланечнікам, кукурузай.

Справа ўдалечыні на ўскрайку Узды праглядваецца цагельня. Злева ўздоўж леса размясцілася вёска Занеманец. Калі ехаць ад Узды, то вёска сапраўды будзе за Неманцом. Вёска невялічкая, хат на дзесяць з адной вулачкай, чыстай і прыбранай.

Мясціны навокал нізінныя, роўныя, пойма праглядваецца даволі далёка — на 3—4 кіламетры. Менавіта тут давялося назіраць вынікі паводкі Неманца пасля ліўня. Адчыненыя на пэўны ўзровень шлюзы не змаглі скінуць ліўневы паток. Узровень рэзка павысіўся, знёс-затапіў скошаную траву, забіў шлюзы, перапоўніў пойму і даліну. З-за неаператыўнасці меліяратараў былі панесены значныя страты.

Зноў перасячэнне з дарогай, на гэты раз Узда—Ануфрова. Ля яе вёска Камсамолец, ледзь паводдаль — Прысынак. Гэта незвычайнае найменне паходзіць ад назвы надзела, які адрэзваўся некалі ад сям'і сыну.

Вёска Прысынак вядома з XVI стагоддзя як сядзіба маёнтка з двума фальваркамі ў Слабадзе Пырашаўскай і Пырашаве. Са “Слоўніка геаграфічнага…” вынікае, што ў 1828 годзе маёнтак належаў Яну Булгарыну і яго жонцы Алене. Маёнтак ахопліваў вёскі Прысынак, Забалацце, Світалаўку і Хароміцкія. Уключаў 96 гаспадарак пад паншчынай на 55 валоках і чыншавыя гаспадаркі на 29 валоках.

Паводле А.Ельскага на сядзібе ў Прысынку стаяў жылы дом з брусу з чатырма вялікімі пакоямі, уключаючы памяшканне з камінам. Печы з зялёнай кафлі, падлогі з ліпавага дрэва. Акрамя таго былі ў доме каморы, калюгі, спіжарня. Каля дома знаходзіліся прасторныя флігелі, тры мураваныя скляпы, стайні, стадолы, гумны, ток. Уся сядзіба была агароджана частаколам-“шпорамі” з уязной брамай, якая на гарышчы мела вялікае памяшканне.

Побач на Неманцы стаяў млын і 5 рыбных ставаў. У маёнтку засявалася па 70—90 бочак азіміны і ярыны, нарыхтоўвалася да 1000 вазоў сена.

Пасля скасавання прыгону ў адным фальварку засталося 34 валокі зямлі, у другім — 50 валок.

Прысынак — песенная вёска. Тут жыў і тварыў адзін з цікавейшых людзей Уздзеншчыны — таленавіты арганізатар самадзейнай творчасці, народны кампазітар і паэт Павел Іванавіч Шыдлоўскі.

Выйшаў з бядняцкай сям'і. Давялося яму павучыцца ў пачатковай школе. Праз некаторы час, папрацаваўшы на гаспадарцы, Павел уладкаваўся на смалярню, а потым паступіў на завочнае аддзяленне рабфака пры Віцебскім педагагічным інстытуце. Пасля навучання застаўся ў Прысынку. Ініцыятыўны, энергічны, адукаваны хлапец адразу стаў важаком моладзі. Яго абралі загадчыкам адкрытай у вёсцы хаты-чытальні.

На пачатку свайго творчага жыцця ён спяваў на сельскіх канцэртах у Кухцічах разам з Паўлюком Трусам, за добры спеў іх выклікалі на "біс".

Сонца выплыве за крыніцаю,
Завіецца на травах туман,
Долу хіляцца лозы ніцыя,
Зажынаю палоску адна...

Павел Шыдлоўскі арганізаваў калгасны хор. Тады і напісаў ён сваю першую песню "А ў полі рабіна", потым з'явілася і "Жніўная". І неўзабаве на Першай усебеларускай алімпіядзе прысынкаўскі хор заняў другое месца. 43 гады кіраваў калгасным хорам Павел Іванавіч, аж тры пакаленні прысынкаўцаў адспявалі ў ім.

У час Вялікай Айчыннай вайны падтрымліваў сувязі і дапамагаў партызанам. Яны яго і выратавалі, забраўшы з сям'ёй у атрад. Там ён атрымаў свой баявы медаль "За адвагу".

Пасля вайны П.Шыдлоўскі ўзначальваў новы калгасны Дом культуры. Яго песняй "Прывітальная Маскве" адкрылася дэкада беларускага мастацтва ў сталіцы СССР. Яе выконваў хор з 500 чалавек пад кіраўніцтвам Генадзя Цітовіча.

Калоссямі нівы шумяць залатымі,
І рэкі гамоняць між лоз...

Усё новыя і новыя песні складаў амаль сляпы, шчырай і ўзнёслай душы чалавек: "Летняя ночка", "Квітней мой край, мая старонка", "Цячэ Нёман па пясочку", "Бой за вёску Александрова", "Мы не хочам вайны, не жадаем". Яны ўсе пра нас, пра нашу родную зямлю.

Пакуль жыў Павел Іванавіч, яго хата была заўсёды адчынена для людзей. Сюды наязджалі журналісты, вучоныя-фалькларысты. Наведаў яго Першы сакратар ЦК КПБ Кірыл Трафімавіч Мазураў...

Мілей за родныя мясціны нічога ў спевака ніколі не было. “Дзе нарадзіўся — там і згадзіўся”, — лічыў ён. Невыпадкова гукі роднай прыроды, усплёскі рэк, песні птушак навявалі яму матывы для новых твораў.

Так Павел Шыдлоўскі ўзвысіўся да ўсімі прызнанага народнага кампазітара.

Бацькавы песні засталіся назаўсёды з дзецьмі.

Сын Генадзь жыў у Мінску. Ён, палкоўнік міліцыі, быў добрым музыкантам, самадзейным кампазітарам. Пісаў таксама песні.

Анатоль скончыў музычна-літаратурны факультэт Мінскага педінстытута. Жыве ў Пінску. Да выхаду на пенсію ўзначальваў вячэнюю школу рабочай моладзі.

Малодшы сын Міхаіл адолеў ажно два музычныя вучылішчы — у Гродна і ў Мінску, потым яшчэ Мінскі інстытут культуры. Шэраг гадоў працаваў настаўнікам спеваў і музыкі Зенькавіцкай СШ. Да свайго скону працаваў дырэктарам Уздзенскай школы мастацтва. Школа гэта карыстаецца высокай папулярнасцю і аўтарытэтам. Уладкаваць у яе дзяцей — мара многіх уздзенскіх гараджан і жыхароў раёна.

Унучка Міхаіла Паўлавіча Таня таксама скончыла школу мастацтваў па класу домры. Другая ж унучка Юля прадоўжыла вучыцца ў ёй па класу баяна. Маці іх Людміла Міхайлаўна, дачка Міхаіла Паўлавіча, працавала завучам Уздзенскай сярэдняй школы № 3.

Старшая дачка Паўла Іванавіча жыве ў Мінску. Сын Уладзімір жыў у Кухцічах.

Вось такі творчы музычны род Паўла Іванавіча Шыдлоўскага.

Антось Трацэўскі — удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, камісар у гады грамадзянскай вайны, абараняў Радзіму ў званні палкоўніка ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Пазней працаваў у Мінскім лесатэхнічным інстытуце. Ён таксама родам з Прысынка...

За дарогай у канале плёскаюцца і старыя, і дзеці. Вады для гэтай “працэдуры” ўжо дастаткова.

Левы бок канала насычаны вадастокамі. Яны абсталяваны шлюзамі, маюць масты, так што праезд забяспечаны. Асушаныя палі ў

асноўным пад пашай. На паасобных участках даспяваюць капуста, бручка. Праз якія тры левыя прытокі на Неманцы ўзвышаецца мост са шлюзам. Праз яго па прасёлачнай дарозе можна прайсці ў Нізок, да якога адсюль каля трох кіламетраў. А да ранейшага ўпадзення Неманца ў рэчку Лоша застаецца яшчэ каля шасці кіламетраў.

Ля шлюза альтанка, невялікі кветнічак, невядома адкуль занесена срабрыстая таполька. Добра адпачыць у ценю над вадой, акінуць вокам спакойную далеч, вярнуцца да роздумаў аб Нёмане.

Яшчэ адно шлюзаванае ўпадзенне злева з маставым пераходам. На Неманцы зноў мост за шлюзамі, а праз яго яшчэ адна дарога на Нізок. Вёска злева поблізу носіць назву Камяное. Яна не выпадковая — на ўваходзе ў вёску ляжаць два вялікія камяні.

Каля 1 мільёна гадоў таму ў гарах Скандынаўскага паўвострава ўтварыўся гіганцкі ледавіковы шчыт. Ледавіковыя “языкі”, што спаўзлі з гор, паглыбілі катлавіну Балтыйскага мора і рушылі на раўніны Паўночнай Еўропы. Пасля таго, як ледавік растаў, ён пакінуў мноства валуноў.

Да нас ён, верагодна, “дапоўз” каля 20 тыс. гадоў таму. Камяні-валуны ўтварыліся пры выветрыванні горных парод, разбуральнай дзейнасці мораў, азёр, рэк, ледавікоў і іх талых вод.

Камяні-валуны рэдкіх горных парод адносяць да так званых кіроўных, па іх вызначаюць напрамкі руху ледавікоў з поўначы.

У старажытных славян з валунамі звязаны язычніцкі культ каменя. Пра іх узнікненне складваліся легенды і паданні, ім пакланяліся. Валунам надаваліся магічныя сілы і ў залежнасці ад таго, добрыя ці злыя ўласцівасці прыпісвала ім легенда. Яны называліся “Святы камень”, “Божы след”, “Чортаў камень” і г. д.

Вось і гэтыя камяні 20 тыс. гадоў таму пакінула вялікае абледзяненне. Вышыня аднаго з валуноў каля двух метраў. Гавораць, што некалі валуны былі яшчэ большыя, цяпер яны ўжо “ўраслі” ў зямлю, што раней яны складалі адзін цэлы камень. На ім некалі сяляне скакалі, пакуль яго не раскалола маланка (“Пярун разбіў”). Несумненна, што гэтыя ўнікальныя помнікі прыроды былі ў свой час аб’ектамі язычніцкага пакланення (валун-маланка). А сёння валуны ахоўваюцца дзяржавай. Камень меншых памераў можна таксама пабачыць і за вёскай.



Ледавіковыя камяні ля вёскі Камяное

Як пісаў М.Шаховіч:

Толькі хмары здалёк —
валацугі
На каменне
цкуюць перуны.
І маланкі —
балючыя пугі
З трэскам сцёбаюць
валуны...

Вядома ж, камень, дуб, вада, агонь — гэта ўсё “гаспадарка” Перуна.

Непадалёку адсюль вёска Жачкава. Дарога зноў збочвае да канала. У гэтым месцы добра бачна, што Неманец ідзе па старым рэчышчы, трохі перарobленым яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны. Дно ракі мяккае, іліста-тарфяное, тут можна ўжо плаваць. Ля Камянога і Жачкава ўздоўж поймы Неманца ўзвышаюцца лясы. Ёсць дадзеныя, што ўжо адсюль у мінулым па Неманцу ў час паводкі сплаўляўся да Нёмана лес.

На ўскраю лесу пахаваны забітыя фашыстамі і іх прыслугачамі жыхары вёскі Віркова. У адной магіле ляжаць дзве сям’і Нікановічаў і Ліхадзіеўскіх.

У кожным куточку нашай зямлі ёсць такія горкія пристанішчы. Для Уздзеншчыны — гэтыя сямейныя могілкі.

...Лес тут прыгожы, яго шаты нясуць цень і прахалоду, вядуць па дарозе ўсё далей і далей — на Нізок. Высачэзныя сосны, густы смалісты пах. Тут яшчэ прадаўжаецца старажытны промысел — падсочка лесу — здабыванне смалы-жывіцы, якой дрэвы залечваюць свае і наўмысна нанесеныя чалавекам раны-парэзы. Ён пачынаецца беспамылковым сігналам прыроды аб павароце да ўстойлівага цяпла, калі таполі выпускаюць свой трэці ліст. Са смалы робяць звыш 200 відаў прадукцыі: каніфоль, шкіпінар, шматлікія лекі і ншае. Колькі трэба цярпення, каб запоўніць гэтым сасновым бурштынам хаця б адну бочку, калі з аднаго надрэза выцякае ўсяго 25—30 грамаў жывіцы. Ці не адсюль яшчэ адна назва шікіпінару — тэрпентына? Цярпенне, цярпенне і яшчэ раз цярпенне!



Лясная дарога

Калі ўгледзецца ў мінулае, то, як адзначае беларускі лесавод С.Рублеўскі, лёс і побыт беларускага селяніна ў той час вызначаўся лесам. У хаце беларуса амаль усе прылады першай неабходнасці былі “ляснога” паходжання: бажніца, мэбля з двух-трох пастаянных ці пераносных лаў, стол, калыска для дзяцей, ступа, амаль увесь посуд (лыжкі, міскі, вёдры, цабры і г. д.). Большая частка рыбалоўных снасцяў, лапці, саха. Акрамя пералічаных вырабаў у кірмашовыя дні прадаваліся і іншыя прадметы з лесу. Напрыклад, лучніцы — сплеценыя з тонкіх яловых лучынак ці пласцінак скрынкі для пераносу тавараў; лубёнкі, севалкі ці сявенькі — круглы посуд з луба ліпы ці вяза; цыноўкі і рагожы, колы і дугі, ліпавыя вяроўкі, верацёны, палоўнікі, ночвы альховыя і асінавыя, кадкі для масла і

карыты. Дровы — галоўны прадмет ляснога гандлю, ён прыносіў мясцовым жыхарам асноўны заробак.

А везці і сплаўляць было што. Аўтару даводзілася неаднаразова бачыць сярод архіўных матэрыялаў планы т. зв. “карабельных гаёў” на Ігуменшчыне, якія знаходзіліся на асобым уліку. Адным толькі лесам ужо была багата наша зямля. Калісьці і паэт Адам Міцкевіч, апісваючы Міншчыну, адзначаў выдатныя лясныя масівы.

Асобныя карабельныя сосны яшчэ захаваліся ўздоўж дарогі з Лошы на Валяр’яны. Стромкія, роўныя быццам струны, прыгажуні ўзвышаюцца ў неба Уздзеншчыны, як сведкі слаўнага мінулага.

Якія лясы былі ў Наднямонні ў канцы 20-х гадоў XX стагоддзя, мы можам мець уяўленне па апісаннях краязнаўца Т.Гаўрыловіча.

Дрэвастаў на прытоках Нёмана агульнай плошчай 10—12 тыс. гектараў ён падзяляе на тры фармацыі:

хваёвую — асноўную (80 працэнтаў), на ўсім працягу Нёмана чыстыя хваёвыя лясы. У большай частцы маюць закамялістыя і значна сукаватыя стваліны невысокай вартасці, бо не падыходзяць пад будаўнічы матэрыял. Глебы пад імі з ігліцы, сучкоў і лішая. Радзей сустракаецца ястрабок, верас. Аднак лясы добрыя чыстым паветрам і грыбамі.

Далей ад Нёмана — лепшы дрэвастаў, дае нават экспартны матэрыял (ва ўрочышчы Карыціна, Нізаўской і Буднічнай дачах). На выдмах верасовы бор, брусніцы, чарніцы, на зямлі замест лішая зялёныя імхі, якія ўтвараюць зялёны дыван. У мінулым каштоўны драўнінны матэрыял сплаўляўся па Нёману ў іншаземныя краіны, асабліва ў Нямеччыну;

яловую фармацыю, меней значную (10 працэнтаў). Гэта астраўныя кавалкі лесу. Дзякуючы багаццю глебы маюць добрую вышыню. Тут пад елкамі сустракаецца граб, дуб, клён, часам асіна і іншыя. У падлеску арэшнік. Як можна бачыць ва ўрочышчы Тоўсты лес — гэта магутныя яловыя дрэвы вялікай каштоўнасці. На лясных палянах ягаднікі, майнік, баршчоўка, шыракаліставыя травы, зялёныя імхі. То тут, то там прыгожа раскінулася дзераза;

чарналесіцу (10 працэнтаў), гэта альховыя з прымессю елкі ці бярозы дрэвастава. Яны туляцца да крынічак і ідуць уздоўж іх стужкамі, тут вада не застойваецца. Яны адчуваюць сябе добра і даюць каштоўны матэрыял для фанеры. А там, дзе вада, паверхня глебы парушана жывёлай, чарналес дае больш дровы.



Лясныя здабыткі

У канцы 50-х гадоў XX стагоддзя 37,4 працэнта плошчы раёнаў Уздзенскага лясгаса была пакрыта лесам, у асноўным сасной. Пры пераважнасці тут пясчаных глеб лясы стрымлівалі працэсы іх размывання і выветрання.

Апрача чорнавольхавых дрэваў можна адзначыць невялікія астраўкі дубу на лугавой тэрасе Нёмана. Дуб расце на невялікіх грудах, але гэты дубовы тып нязначны, дратуецца быдлам, дрэнна расце і каштоўнасці не мае. Дае людзям хіба што добрыя бічы для цапоў.

Каштоўнейшай з'яўляецца хваёвая фармацыя. Трэба яе паляпшаць: замацоўваць лятучыя пяскі, аблесіць замацаваныя, забараніць пасвіць жывёлу. На ўсіх такіх выдмах замяніць сістэму рубкі, перайсці ў лесасечцы да добраахвотнай выбарнай. Такая сістэма патрабуе значнага догляду і сродкаў, але павінна даць у будучыні добрыя вынікі. Пры гэтай сістэме ў першую чаргу прымаюцца крокі да паляпшэння глебы (уводзяцца ў падлесках розныя шырокаліставыя дрэвы і хмызнякі), — завяршае свой артыкул Т.Гаўрыловіч.

Нешта ад былога дайшло і да нас. Пра тое, што змянілася, хай мяркуе сам чытач.

Вандруючы, мы не раз бачылі высечкі лесу. Яны ўяўляюць асаблівую цікавасць. Здаецца, некаторыя расліны, дрэвы і хмыз толькі і чакалі свайго часу. Выслабаненыя з-пад покрыва сталага лесу яны

імкліва захопліваюць свабодны прастор. Высечкі пустуюць нядоўга. Леснікі засаджваюць іх саджанцамі сасны, елкі. Дзеля гэтага высечкі пераворваюцца шырокімі стужкамі перавернутай зямлі. Інакш заглушыць, заб’е зялёнае нашэсце, не дасць узняцца слабаму, неўмацаванаму парастку.

Нешта падобнае я ўбачыў у Лашанскім лясніцтве падчас сустрэчы з яго кіраўніком Рыгорам Іванавічам Салаўём. Ён прывёз нас на былы пясчаны кар’ер побач з дарогай Лоша—Валяр’яны. Калі ў час падрыхтоўкі першага выдання “Пуцявін Наднямоння” нам давялося тут пабываць, нас уразіў нейкі незямны пейзаж. На агромністай прасторы раскінуліся разлогі парванай чалавекам зямлі, уяўляючы сабой нейкі месячны прывід. Здавалася, што гэта рана застанецца на нашай зямлі назаўсёды.
І што ж? Цяпер тут, наколькі можна акінуць вокам, стромка ўздымаецца сасоннік. На дзесятым годзе пасадкі сасны перавышалі рост чалавека ў паўтары—два разы. Прырост дрэў складаў па метру ў год. А паветра якое!

Адукаваны, высока падрыхтаваны, вопытны Рыгор Іванавіч і сам здзіўляецца: тут жа пры пасадках акрамя пяску нічога не было! І сапраўды — лясная флора і, будзем спадзявацца, і фаўна імкліва аднаўляюцца. Пад сасоннікам цягнуцца ўжо пацеркі малюсенькіх грыбочкаў. Пад дрэўцамі працінаюцца каліўцы святаянніка, падбела, мяты і шмат чаго яшчэ. Ужо нарошчваецца на пяску покрыў з ігліцы. Так што паверым паважанаму ляснічаму, гарантуючаму праз якіх 6—7 гадоў тут адменныя грыбкі.


На месцы былога кар’ера. Ляснічы Рыгор Салавей

Цяпер таксама не засталося і следу ад 100-мятровых высечак ваеннага часу ўздоўж дарогі, па якой мы дабіраліся сюды.

Ад лясоў ідзе сілкаванне і ўсіх грунтовых вод. Дзе блізка лясы, там

і добрая калодзежная вада. Таму, гаворачы аб крыніцах, нельга не сказаць і аб калодзежах.

У кожнай вёсцы і вёсачцы, нават там, дзе ёсць цэнтралізаванае водазабеспячэнне, застаюцца і студні. Кажуць, што вада з іх асаблівая — самая чыстая, самая халодная і самая смачная, бо ў большасці яна паступае з падземных крыніц. На Уздзеншчыне здаўна паважалася майстэрства будаваць студні. У тым жа самым Крастінтэрне стары чалавек, са студні якога даводзілася піць смачную крыштальную і халодную да ламоты ў зубах вадзіцу, з гонарам распавядаў, як яму ўдалося паставіць такую студню, для таго патрабавалася назапашанае ад продкаў уменне.

Чалавек, які мог будаваць студні, быў заўсёды паважаным і запатрабаваным. Аб гэтым нам казаў яшчэ наш дзед Рыгор Галавенчык у закінутай лясной вёсачцы Чамярычнае ў цяжкі пасляваенны час.

Неабходнасць у студнях не знікае і ў наш век і захаваецца, мусіць, назаўсёды. Месца ля студні — гэта і грамадскае месца, месца сустрэч, абмена навінамі, свайго роду вясковая агітпляцоўка. Гэта месца ля студні добра апісана Якубам Коласам у трылогіі “На ростанях”. Таму нельга недаацэньваць і іх абшчынна-калектыўнае значэнне.

Пра лясы, як і рэкі, складзена шмат легенд і паданняў. Адно з іх мае адносіны да Саўкавага лесу, што мясціўся ў вярхоўях Неманца ля вёскі Забалацце. Аб ім расказаў пісьменнік Даір Слаўковіч.

...Назва гэта паходзіць ад імя адважнага Саўкі, які не збаяўся лютага мясцовага пана Пвука. Пасля таго, як затаптаў пан коньмі яго брата, парашыў Саўка яму адпомсціць. Збіў яго да смерці, а сам пайшоў у лес. Падабраў сабе хлопцаў і стаў суд над панамі і падпанкамі вяршыць. Калі супраць яго выступіла цэлае войска, пайшоў ён на Дняпро да запарожскіх казакоў. Шмат вады з той пары ўцякло, а лес так і завецца Саўкавым. Але ж яго непадалёку ад Неманца ўжо большай часткай высеклі.

...Лес скончыўся, яшчэ крыху — і наперадзе вёска Нізок. Дагледжаныя ладныя хаты, акуратныя вулачкі, някепская крама. Нізок цікавіць многіх беларусаў, як своеасаблівы феномен творчасці. Ён даў Беларусі і ўсяму свету выдатных пісьменнікаў, паэтаў, акцёраў, вучоных. Адсюль выйшлі ў вялікі шлях Кандрат Крапіва, Лідзія Арабей, Паўлюк Трус. У Нізку нарадзіўся Анатоль Трус, акцёр, народны

артыст БССР. З Нізка камісар стралковага палка ў грамадзянскую вайну Лявонцій Трус. Тут адзін час жылі са сваімі бацькамі вядомыя рускія мастакі браты Сяргей і Аляксей Ткачовы.

Аб вялікім мінулым вёскі мясцовымі краязнаўцамі напісаны летапіс. Калісьці хаты стаялі ў іншым месцы, на ўзвышшы, але ж вельмі часта іх паліла маланка. І людзі перасяліліся ў нізок — бліжэй да прыгажуні Усы. Каля самой вёскі, ля дарогі — азярына з астраўком і вялікім каменем на ім. Ідуць адсюль тры дарогі, свайго роду жыццёвыя шляхі тутэйшых сялян. Пра іх пісаў Паўлюк Трус:

Разышліся пад гарою
Тры дарогі ў полі,
Па якой жа — тая доля,
Па якой — нядоля...

Яшчэ адным вядомы Нізок. У цяжкі час пачатку Вялікай Айчыннай вайны жыхары вёскі далі на колькі дзён прытулак Д.М.Карбышаву. Гэта сустрэча засталася ў памяці мясцовых жыхароў. І хоць некаторыя лічаць гэты факт выпадковым, нязначным, нам ён здаецца паказальным. Пачаць з таго, што ў былой Нізаўской школе ёсць невялікі музей Героя Савецкага Саюза Д.М.Карбышава. Давер да нізаўской зямлі сумленнейшага і вельмі гордага чалавека, якім быў генерал-лейтэнант, не выпадковы. Гэта найбольш яскравая выява славянскай годнасці і патрыятызму. Тут, у Нізку, беларуская зямля аддзячыла чалавека, які яе вельмі шанаваў, паважаў і аберагаў, пачынаючы яшчэ з часоў Першай сусветнай вайны. Менавіта тут распачаў Д.М.Карбышаў свой бессмяротны подзвіг, які дасягнуў апафеоза ў фашысцкім Маўтхаўзене.

Першую спробу дэталёвага апісання знаходжання Д.М.Карбышава ў Беларусі зрабіла вядомая пісьменніца Лідзія Арабей. Яна сабрала значны дакументальны матэрыял “з першых рук” — ад родных, блізкіх і саслужыўцаў вядомага генерала.

...7 чэрвеня 1941 года генерал-лейтэнант, прафесар, доктар тэхнічных навук, старшы выкладчык кафедры тактыкі вышэйшых злучэнняў Акадэміі генеральнага штаба Чырвонай Арміі Дзмітрый Міхайлавіч Карбышаў быў накіраваны Генеральным штабам Наркамата абароны СССР у Заходнюю Асобую ваенную акругу для тэрміновай іспекцыі ўмацаванняў і прывядзення іх у стан адпаведнасці ваеннаму часу.

Вайну Карбышаў сустрэў на Заходняй граніцы пад г. Гродна. Праз дзень быў ля Беластока ў 10-й арміі, якая 22 чэрвеня была акружана, але пад кіраўніцтвам генерала змагла прарвацца і выйсці да дарогі Нясвіж—Стоўбцы. Карбышава і палкоўніка Сухарэвіча бачылі ля Нясвіжа і потым паміж 1 і 5 ліпеня ў вёсцы Нізок. Тут яны змучаныя, стомленыя прыпыніліся ў мясцовага настаўніка П.Лычкоўскага ў будынку школы, некалькі дзён адпачывалі, падлечвалі скалечаныя ногі. Развітваючыся, Карбышаў пакінуў гаспадарам свой маскоўскі адрас. Паводле ўспамінаў Лычкоўскіх, генерал быў моцны, валявы чалавек. Ён не страчваў упэўненасці ў тым, што гітлераўцы будуць разбіты. П.Лычкоўскі пасля вайны напісаў пісьмо сям'і Карбышава, і, такім чынам, блізкія атрымалі адзіную і самую дарагую для іх вестку ад мужа і бацькі за ўвесь ваенны час. Дарэчы, менавіта на беларускай зямлі генерал знайшоў некалі і сваё сямейнае шчасце...

Сам Пятро Лычкоўскі далучыўся да падпольнай дзейнасці, а затым у 1943 годзе пайшоў у партызанскі атрад імя Б.Хмяльніцкага.

Як узгадвае ў сваім краязнаўчым нарысе "Хатляны" (Мінск, БелТА, 2008) настаўнік Міхась Лазар, пасля Нізка Дз.Карбышаў у сваім шляху на ўсход спыніўся з групай камандзіраў і салдат на адпачынак на хутары Жаўнякі каля Хатлян. Гаспадары хутара Міхайлоўскія пачаставалі іх блінамі з мёдам. Генерал распытаў пра дарогу і рушыў далей, імкнучыся хутчэй дайсці да лініі фронта.

У пачатку жніўня Карбышаў і Сухарэвіч разам з сапёрным батальёнам выйшлі да Дняпра ў раёне Магілёва. Паранены генерал пасля пераправы быў захоплены




План "карабельнага гаю".
Ігуменскі павет, 1853 г.

ў палон. Далей прайшоў жудасны ланцуг нямецкіх канцлагераў: Востраў Мазавецкі, Замосце, Хамельбург, Флосенберг, Майданек, Дахаў, Асвенцым, Заксенхаўзен... Гітлераўцы дамагаліся здрады генерала. Але чулі толькі ўпэўненае: “Я Радзімай не гандлюю!”

Такога яшчэ не бачыў канцлагер Маўтхаўзен у Аўстрыі, куды 18 лютага 1945 года прывезлі групу палонных. Іх на марозе ablівалі вадой да тых пор, пакуль яны не ператварыліся ў ледзяныя слупы. Сярод іх быў і генерал Дз.М.Карбышаў. Цяпер на месцы пакарання мужнаму генералу ўзведзены беласнежны мармуровы помнік. Беларусы і нізоўцы, у прыватнасці, аддаюць даніну глыбокай павагі гэтаму чалавеку. Для іх ён застаўся назаўсёды сімвалам стойкасці і нязломнага гераізму. А ці не такой жа была і наша Радзіма — Беларусь?!

...Мы развітваемся з Нізком, каб прадоўжыць шлях па Неманцу. Ён цяпер атрымаў новы накірунак. Чалавек у наш безадказны час не палічыўся з гістарычным, геаграфічным і культурным мінулым, хаця амаль ці не ва ўсіх апісаннях падрабязна аргументуецца, чаму меншая па вадатоку рака прызнавалася за асноўны выток Нёмана. Неманец быў знішчаны яшчэ раз, цяпер ужо перад сутокай з ракою Лоша. Ён атрымаў новы накірунак і быў адведзены непадалёку ад Камянога ў раку Уса. Што ж цяпер лічыць вытокам Нёмана — рэчку Уса?
Удакладнім, што ўяўляў сабой гэты ўчастак ракі раней, да меліярацыі. Для гэтага звернемся зноў да праекта меліярацыі вадазбору ракі.



Апошні масток на Неманцы

Прыкладна да вёскі Камяное дно ракі вельмі моцна забалочана. Рэчышча тут зноў перарывістае, сустракаліся “вокны” чыстай вады даўжынёй да дзесяці метраў, паміж імі былі тоневыя месцы. Ад вёскі Камяное пачынаўся пракопаны калісьці стары канал. Тут да Суткаўскага канала дно даліны сушэйшае. Канал добра захаваўся, і яго дзеянне ў пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя было, несумненна, эфектыўнае. Ля канала па схілах даволі суха. Найбо-



Месца былой сутокі Неманца і Лошы

лей забалочаны ўчастак даліны каля пасёлка Чырвоная Зара, тут узровень грунтовых вод амаль дасягаў паверхні, што тлумачылася багатым прытокам вады да гэтага месца з левага боку па бакавых каналах. Таўшчыня торфу тут каля трох метраў. Супраць вёскі Жачкава паміж рэчкамі Уса і Неманец захаваліся рэшткі даўнейшага рэчышча. На працягу ўсёй сярэдняй часткі з левага боку ракі схілы ў месцах выхаду ў даліну бакавых лажбін размытыя. І даліна тут зусім губляе сваю акрэсленасць. Лажбіны забалочаныя, маюць форму яраў і невялікі тарфяны покрыў. Па многіх з іх пракладзены каналы, але яны ў большасці заплылі і не дзейнічаюць.

Так было да 1952 года. Цяпер стан іншы.

## ТУТ ПАЧЫНАЕЦЦА НЁМАН

Нагадаем, што раней да свайго вусця Неманец праходзіў 26, а Лоша — 45 км. Лоша на сваім шляху прымае левы прыток — раку Выню, якая заходзіць сюды з Капыльскага і Нясвіжскага раёнаў, і правым прытокам раку Баравінку, што цячэ ад вёскі Пырашаўская Слабада. Паводле старых дадзеных, раней рэкі Лоша і Уса ўпадалі ў Нёман некалькімі вусцямі.

Цікавыя развагі аб паходжанні назвы Лоша ў Уладзіміра Караткевіча. Праўда, іншай Лошы, што цячэ на Астравеччыне, але

яна таксама ўпадае ў Ушу (Усу). Паводле яго меркавання, Лоша азначае па-літоўску стронгу, фарэль. Дзе імчыць Лоша, там віруе стронга. У беларусаў жонку лася — ласіху, ласіцу называюць сямтам “лоша”. П’е гарбаносай пысай ваду лось з гэтай рэчкі, і кроплі падаюць з цёплых вуснаў. Лоша — гэта рэчка, з якой п’юць ласіхі і ў якой гуляе стронга. “Ласінай” версіі прытрымліваўся і наш зямляк, аматар-даследчык Ф.Бельскі.

З’яднаная рака раздаецца ўшыр, у брод яе ўжо не пяройдзеш, патрэбен човен. Аднак тут імі не карыстаюцца.

Усё часцей і часцей трапляюцца рыбакі, сярод іх больш тых, хто тут на адпачынку, і аматары падарожжаў. Мясцовыя жыхары добра ведаюць абмежаваныя магчымасці сваёй ракі і пры патрэбе падаюцца на старыцы, што раскіданы на левым беразе.

Месца нараджэння Нёмана даволі прыгожае, таму яно шмат каго цікавіць. Гадоў з дзесяць таму ў лесе паблізу быў пабудаваны лагер-прафілакторый адной з мінскіх устаноў.

Праз метраў 400—500 па правым боку ў Нёман упадае рака Уса. Адрэзак ракі ад зліяння Лошы з Неманцом да далучэння ў іх Усы не меў назвы, хаця справядліва было б яго і лічыць пачаткам Нёмана. Цяпер такой праблемы няма: Нёман пачынаецца ад упадзення ў Лошу ракі Уса. Да вайны назва ракі ўдакладнялася: Усходняя Уса, каб не пераблыталі з другой Усой — правым прытокам Нёмана каля Любчы на Гродзеншчыне.

Так што Нёман цяпер ствараюць толькі дзве ракі.

Уса даволі вялікая рака: яе даўжыня 115 км, цяпер мае чатыры прытокі: рэчкі Вязенскую, Уздзянку, Неманец (злева) і Ператуць (справа). Вадаток значны — каля 10 куб. м за сек. На рацэ Уса непадалёку ад упадзення ёсць нямала цікавых месц — добрыя заліўныя лугі з цудоўнымі краявідамі, паселішчы баброў.

Назвы Уса, Вуса, Уша, Вуша даследчыкі атаясамліваюць, узводзячы іх да агульнай асновы ohsis — ясень. Не выключана сувязь з асновай вуж ці з назвамі Шаць, Шача (прыгожая, харошая, мураўка, трава). У-шаць — каля траўкі, луга. Магчыма, таксама пераўтварэнне са славянскага Шуя (левая), У-шуя — злева (калі ісці ад вусця Нёмана). Ф.Бельскі прытрымліваўся апошняга варыянта.

Пасля падмогі Усы памножаны паток адразу раздаецца, як бы расхінае сваю прастору. Адсюль бярэ ўжо адлік вялікі Нёман. Вось

аб такім Нёмане — не ручаінцы, а магутнай рацэ, У.Сыракомля выказаў паэтычнае слова ў паэме “Дабрародны Ян Дэнбарог”:

Ціха Нёман хвалі гоніць уздоўж родных лугоў,
І струмень яго гладкі бяскрыўдны для спрытных плыўцоў.
Летам носіць ён лодкі на хвалях сваіх,
А зімою ён дрэмле ў кайданах ледзяных,
Не раве з грознай сілай, не бушуе ён,
Паслухмяны, спакойны, як немаладзён.
Ды не вер хвалям скораным — пачакай, як зіхне
Промень весні, ён путы зімы разарве.
Гоман з розных бакоў...
На ўзбярэжжы дрыжаць хаты ўсіх рыбакоў.
Луг заліты... Разводзе... Рэха ў блізкіх лясах...
Міг яшчэ... і ўсё згіне ў яго бурных нартах...
Ды не помніць ён зла доўга, гнеў — як той птах...

*Пераклад Яўгена Хвалея*

Не абыйшоў Нёман песняй і Паўлюк Трус. Яго верш гучыць мажорна, успрымаецца глыбока і велічна:

То не гул завірухі мяцежнай
І не рокаты ўпартага мора, —
Гэта Нёман разліўся бязмежна
На грудзях Беларусі прасторнай.
Чую песні стыхіі — разводдзя,
Не стрымаць твае вольнае плыні!
Упусціла старое паводдзе,
Калі вір маладога нахлынуў.
І шумяцьаграмадзіны-крыгі,
Разганяюцца ўдаль безупынна!..
Анямелі мінулага ўздрыгі
Ў хвалях жыцця магутна-няспынных.
О, бурліва-кіпучыя хвалі!..
Вам не страшны пажар-навальніцы;
У прыгожа люстраныя далі
Разам з вамі і мне не спыніцца.
Адпіхнуўшы ад берага човен
І махаючы прысам кляновым,
Я плыву — і надзеяю повен,
Што спаткаю сусвет вольна-новы!

Менавіта тут, у месцы свайго нараджэння, Нёман раней “вырываўся з балот”. Прыўзнятыя над поймай берагі, велічныя лясы, бясконцыя заліўныя лугі здаўна прыцягвалі людзей — яны засноўвалі тут свае пасяленні. Яшчэ ў 1880 годзе іх адкрыў вядомы этнограф і гісторык А.К.Ельскі ў ваколіцах Пясочнага. Паводле некаторых звесткак у гэтым месцы ўжо ў VII—XI стагоддзях жыло племя дрыгавічоў, што пацвердзіў сваімі раскопамі і прафесар У.З.Завітневіч.

А.К.Ельскі адзначаў, што аб старажытнасці месца сведчаць крамянёвыя аскепкі і рознага роду каменныя дагістарычныя прылады, якія знаходзяць на беразе Нёмана. Ён лічыў, што для археолага гэта мясцовасць увогуле ўяўляе вялікі навуковы інтарэс.

Святар песачанскай царквы Мікалай Салаўевіч пісаў у 1869 годзе пра знаходкі старажытных прылад за вёскай Рачыцай ля засценка Навасады (былыя Бабылі). Сяляне і вольныя людзі, якія жылі паблізу гэтай мясцовасці, пачалі капаць гліну на свае патрэбы і выпадкова пад гліністым слоем зямлі знайшлі немалую колькасць розных каменных прылад: молатаў, іголак, сякер, долатаў, брусоў і адну пілу (у двух кавалках). Як дзівацтва, незразумелае для простага народа, рэчы гэтыя былі разабраныя празнымі асобамі, многае з іх пераломана дзецьмі, а яшчэ болей закінута, як рэчы, ні да чаго не прыдатныя. Выпадкова даведаўшыся аб такой знаходцы, святар наведаў жыхароў гэтай мясцовасці, і са знойдзеных каменных рэчаў яму дасталіся толькі брус, на якім абточваліся вострыя прылады, долата і малаток.

М.Салаўевіч каменныя прылады меўся пры першым зручным выпадку перадаць ў тагачасны Віленскі археалагічны музей (цяпер Гістарычна-этнаграфічны музей Акадэміі навук у Вільнюсе) як якасны доказ заселенасці людзьмі тутэйшай зямлі яшчэ ў самую глыбокую старажытнасць...

Мястэчка Пясочнае размясцілася ў самым пачатку Нёмана на левым яго боку. Паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу яно належыць Капыльскаму раёну (тут на некаторай адлегласці Нёман застаецца прыроднай граніцай паміж Уздзенскім і Капыльскім раёнамі). Пясочнае мае даўнюю гісторыю. Некалі яно ўваходзіла ў склад Слуцкага княжаства, у далейшым — феадальнай вотчыны-спадчыны князёў Алелькавічаў. Са шлюбам Сафіі Алелькавіч яно

перайшло пасагам да дома Радзівілаў. Пясочнае ўпершыню ўпамінаецца 12 лютага 1568 года ў дакументах караля Жыгімонта II Аўгуста на імя слуцкага ўладальніка Мікалая Радзівіла.

З 1823 года Пясочнае як вотчыну з належачымі яму землямі прыдбаў Ануфрый Ёдка, пазней — ігуменскі маршалак. З даўніх часоў слуцкія і капыльскія сяляне і мяшчане лічылі сябе “вольнымі людзьмі”. На працягу XVI—XIX стагоддзяў прадпрымаліся шматлікія намаганні абмежаваць іх правы, падпарадкаваць іх мясцовым уладальнікам.

Каб уявіць жыццё нашых продкаў, варта звярнуцца да дакументальных сведчанняў. Імі могуць стаць інвентары, якія складаліся ў другой палове 40-х гадоў XIX стагоддзя. Ёсць такі інвентар і па маёнтку Малыскаўшчына ці “Над-Нёман”.

У ім у той час налічвалася мужчынскага полу 276 душ, жаночага — 190. Яны складалі 80 цяглых двароў; агароднікаў, бабылёў і дваравых людзей было мужчын — 29 і жанчын 12 душ. Маёмасць сялян складалася з коней — 101, валоў — 174, кароў — 150, авечак — 320, свіней — 213, пчол — 18 вулляў. На кожны сялянскі двор прыпадала каля 12 дзесяцін арэнднай ворнай зямлі і сенажацей, усяго — 1128 дзесяцін. Сярэдні ўраджай — 6 зярнят (на адно пасеянае, ці сам-6).

У памешчыка Ануфрыя Ёдкі было ворнай зямлі 286, а сенажацей — 106 дзесяцін. На сядзібе апроч панскага дома (“панскіх пакояў”) былі: дом драўляны на каменным фундаменце, афіцына для дваровых людзей, аўчарня, стайня, амбар, валоўнік, хлеў, два скляпы для бульбы і варыва.

Дзве драўляныя карчмы дзейнічалі ў двары і ў Пясочным. Вадзяны млын на два колы з фолюшам (сукнавальняй) стаяў на рэчцы Капаніцы, дом для ваеннага паста быў на беразе Нёмана. Канюшня і манеж таксама драўляныя.

Павіннасць прыгонных сялян “па заведзенаму з даўніх часоў паслушэнству” складалі на год:

— з кожнага двара адслужыць паншчыны штотыднёва тры мужчынскія дні з вупражам і адзін жаночы з земляробчымі прыладамі;

— з кожнай арэнднай паўвалокі зямлі (10,68 га), плаціць 20 рублёў срэбрам і адбыць з вупражам па дзве дарогі ў год у Мінск;

— звыш паншчыны ў летні час адслужыць на ворыве 8 дзён гадавога прыгону, г. зн. талакі і гвалтаў. Выходзіць усёй сям'ёй, пакінуўшы толькі адну душу для пазбягання агню і прыгатавання ежы;

— штогод дарогі 21 вярсту ў дзень туды і назад з грузам на аднаго каня 20 пудоў;

— выстаўляць на панскі двор ахоўнікаў;

— выконваць шарваркаў з вупражам па рамонту дарог, мастоў, эканамічных пабудоў па шэсць дзён з рабочай душы;

— прыбываць заўсёды па запатрабаванні на паляванне і да рыбнай лоўлі;

— на арату выходзіць па запатрабаванні ўсім сялянам і вольным людзям;

— плаціць чынш з кожнага дыма паўвалочнага па 90 капеек срэбрам і па аднаму фунту нітак для вырабу рыбацкай сеткі;

— за дазвол збіраць грыбы, ягады даваць ад усякага двара па адной капе (60 адзінак) грыбоў, па аднаму гарцу (3,28 л) арэхаў і столькі ж ягад;

— ссыпаць на сельскі запасны магазейн штогод з кожнай душы па чатыры гарцы жыта і па два гарцы яравых;

— для хатняга карыстання браць гарачыя віны толькі ў корчмах, а ніяк не на старане. У іншым выпадку, калі хто з тайным прывозам злоўлены будзе, то эканомія будзе абавязана, адабраўшы ад прывозчыка правозімае віно, яшчэ спагнаць з кожнай кварты па 50 капеек срэбра, а з вольных людзей у два разы таго штрафу (гэта так званае, уласцівае толькі заходнім тэрыторыям Расіі, агіднае права "прапінацыі").

Адначасова дзейнічалі і нарматывы (урокі) работ на панскім двары:

працаваць летам ад узыходу да заходу сонца, узімку — ад дня да вечара;

узараць адну дзесяціну зямлі адной сахой за тры дні, забаранаваць дзесяціну парай коней у адзін дзень, сабраць з поля азімага і яравога жыта адну дзесяціну за пяць дзён, вымалаціць у дзень азімага хлеба 60, яравога — 80 снапоў, скасіць адну дзесяціну за тры дні, сабраць з яе сена з укладкай за тры дні.

Летнія дні павінны былі адпрацоўваць мужчыны ва ўзросце ад 15 да 60, жанчыны — ад 13 да 50 гадоў.

Акрамя гэтага, селянін сярэдзіны XIX стагоддзя павінен быў абрабляць, канешне, і свой надзел, ладзіць і ўтрымліваць пабудовы, нарыхтоўваць паліва і яшчэ шмат чаго.

Пры падрыхтоўцы гэтай кнігі ў аўтара ўвесь час узнікала вострая патрэба зразумець, як селяніну ў тых умовах удавалася захаваць і добры гумар, і весялосць, і жыццёвы аптымізм. Не сакрэт, што ва ўмовах страшэнных перагрузак ад знясільваючай працы сярэдняя працягласць жыцця ў канцы XIX ст., ужо пасля адмены прыгоннага права, была ўсяго 37,5 гадоў. Праўда, на гэту лічбу ўплывала перш за ўсё дзіцячая смяротнасць.

І ўсё ж быў нейкі нязгаслы стымул у тагачаснага беларуса, які дазваляў яму надзейна працягваць свой род, бачыць высокі сэнс ад свайго жыцця.

Паклон вам і слава ад сэрца народа,
Пясоцкія нашы дзяды!

пісаў зямляк, беларускі паэт Анатоль Астрэйка.

У пачатку XX стагоддзя ў Пясочным было ўжо каля 900 жыхароў. У мястэчку працавала прыхадская Свята-Пакроўская праваслаўная царква, узведзеная на месцы колішняй старажытнай. Яшчэ адна знаходзілася на местачковых могілках.

Мястэчка лічылася буйным гандлёвым і рамесніцкім цэнтрам. У Пясочным нарадзіліся вядомыя паэт-музыкант Адам Русак, паэт Анатоль Астрэйка. Адсюль быццам бы ад’ехаў з палякамі ў 1920 годзе вядомы беларускі паэт Алесь Гарун. У 1905 і 1917 гадах тут прайшлі рэвалюцыйныя выступленні сялян.

Аднак вернемся на правы бераг Нёмана ў Уздзенскі раён. Пясочнае і пасяленні правага берага надзейна злучаны добрай дарогай з Уздой і Капылём. Цяпер перабрацца цераз раку можна па вялікаму бетоннаму масту, перакінутаму над поймай Нёмана. Мост сапраўды адмысловы, зроблены з вялікім запасам, бо ён павінен устойліва забяспечыць пропуск самых высокіх вясенніх вод. Раней жа тут ладзіліся нізкаводныя ці наплаўныя масты, якія не вытрымлівалі значных паводак. Таму з вясны да восені тут часцей дзейнічала паромная пераправа-перавоз, а зімой раку пераходзілі па лёдзе. На час разліву зносіны правага берага з левым прыпыняліся.

Вясной рака разлівалася раздольна, па левым беразе — на цэлую вярсту. Вясенняя полая вада жыватворная, яна нясе рацэ, яе

берагам абнаўленне жыцця. Іграюць ільдзіны на сонцы, блішчаць на цёмных хвалях. Гудуць лагчыны, скідваючы воды на пойму. Грукочуць, коцяцца патокі расталай вады. Сцвярджаюць, што талая вада гоіць, лечыць. Шмат якія птушкі спяшаюцца на сваю радзіму, каб хутчэй закончыць пералёт, паспець адведаць снежнай вадзіцы. Такія прыкметы ідуць з далёкіх часоў, калі чалавек умеў назіраць і тлумачыць прыроду. Цяпер някепска было б даць з'яве і навуковае тлумачэнне.

І пад птушы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька Нёман
На хрыбце магутны лёд.
Зазвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Снег, размоклы ў час адлігі,
Змые з луга без сляда,

пісаў класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч.

Людзі таксама радаваліся пасля доўгай зімы абуджэнню прыроды, звароту цяпла. Маладыя вадзілі карагоды. На такія гулянні на прагрэтых схілах збіраліся старыя і маладыя, "гукалі вясну".

Уздзянка, Неманец і Лоша.
Вакол мурожныя лугі...
Якая тут была раскоша,
Як смачна пахнулі стагі!
Дубы пад Церахам, палянкі
І Нізаўскі, Падцацкі бор,
Надзей юначых пагулянкі,
Для салаўёў такі прастор...

захапляўся рэкамі, лугамі, барамі Анатоль Астрэйка.

У даўнейшыя часы, сведчыць "Энцыклапедычны слоўнік" Бракгаўза і Эфрона", тут, на пачатку Нёмана, была першая прыстань. На бераг траляваўся і складаўся прызначаны для сплаву лес. Тут жа вязаліся — "сплачваліся" — плыты. Адсюль далей яны транспарціраваліся водным шляхам да Балтыкі.

Плытагонскі промысел патрабуе свайго ўдумлівага і кампетэнтнага вывучэння, бо Мінская губерня з даўніх часоў лічылася асноўным пастаўшчыком сплаўляемага лесу.

Плытагонская цяжкая праца ў Беларусі нярэдка асацыіруецца менавіта з вярхоўямі Нёмана, дзе некалі фармаваліся плыты і набіраліся плытніцкія каманды. Транспарціроўка плытоў з-за звілістасці ракі была нялёгкай. Бывала так, што некаторыя плытнікі не вярталіся — іх назаўсёды паглынала халодная вада. Іншыя зараблялі сабе на ўсё жыццё хваробы...

Плытагоны ў мінулым — мужныя моцныя людзі, здольныя перанесці вялікія выпрабаванні і цяжкасці. Вярталіся дахаты яны даўней пехатой, шмат бачылі, ведалі і маглі расказаць блізкім нямала цікавага.

Гнецца плытнік у полі,
Мерзне ён ў холад,
Знае ён нядолю,
Знае ён і голад!

пісаў аб гэтых людзях смелай і цяжкай працы класік беларускай літаратуры Якуб Колас.

Канструкцыя, памеры і абсталяванне плытоў вызначаліся строгімі правіламі. Яны былі двух тыпаў: грабёнкі і пленіцы. У грабёнках бярвенні клаліся ўпоперак воднага струменя і замацоўваліся паміж сабой лазовымі хамутамі. Шырыня грабёнкі залежала ад шырыні ракі і складала звычайна ад 6,4 да 17 метраў. Даўжыня грабёнкі не магла быть звыш 38,4 метра.

Пленіца збіралася з бярвенняў уздоўж цячэння. Яе шырыня была не болей 25,6 м, а даўжыня — 38,4 м. Плыт па даўжыні мог быць з некалькіх пленіц.

Кожны плыт забяспечваўся неабходнай сігнальнай інфармацыяй і прыстасаваннямі. На два плыты мелася адна вялікая лодка (дуб) з рабочымі і дубавіком.

Дарагія партыі лесу (мачтавыя і інш.) сплаўляліся, перавязаныя ў лавы. Лавы складаліся з грабёнак з брусамі ўздоўж цячэння. На тры лавы прыдаваўся адзін дуб, на іх меліся мачты, будка.

На кожную пленіцу шырынёй да 17 м назначаліся тры плытнікі. Плыты загружаліся накатам да асадкі не болей 0,71 м. На асобай грабёнцы павінна было быць па два, на кожным плыце — па пяць рабочых. Кіраванне плытамі вялося з дапамогай вёслаў, лотаў, прысаў, якараў.

У канцы XIX стагоддзя ўжо выкарыстоўваліся плавучыя вязальна-сплотачныя машыны.

Асабліва ўзрушна было на пачатку Нёмана пад вясну: з бліжэйшых пушч да ракі сцягваўся лес. Замежныя гандляры прыдзірліва аглядалі кожнае бервяно. У вясенні час рух па рацэ быў найбольшы. Сотні плытоў і ўдзень і ўначы, накіроўваемыя спрытнымі і мужнымі плытагонамі, імчаліся па рацэ.

Быў рум калісьці ля ракі,
І ўдзень і ўночы плытагоны
Сасны стрыжнёвай камлюкі
Ля берага вязалі ў згоны...

расказвае А.Астрэйка.

Патрабуе ўдакладнення слова рум. Яно ад нямецкага Rumpf, што спачатку азначала штабель ці адносна лесаматэрыялаў — лесасклад. Румы знаходзіліся каля берагоў рэк, адкуль лес сплаўляўся за мяжу, у першую чаргу ў Прусію. Прымалі лес прадстаўнікі пакупніка — немцы, звалі іх яшчэ бракёры. Яны і прыўнеслі нам сваю арганізацыю працы, а з ёй і звычкі, тэрміны. На Нёмане, яго прытоках такіх складоў было некалькі: у Наднёмане, Магільне, Мікалаеўшчыне, але галоўная прыстань і склады знаходзіліся ў Стоўбцах. Захавалася назва вёсачкі на рацэ Лошы — Румок, што значыць — невялічкі рум.

Навакольныя сяляне вывозілі лес на бліжэйшы рум зімою, рыхтавалі перавяз.

Агульная працягласць сплаўных рэк у раёне перад Вялікай Айчыннай вайной складала 172 км, на іх было 12 плацін для рэгулявання стоку. Прыстаняў на рэках налічвалася 10. Галоўныя — Бярвіцы, Румок, Яршы. У 1897 годзе па Нёмане было адпраўлена 1525 плытоў.

У Мінскай губерні, сведчыць статыстыка, будавалася найбольшая колькасць розных суднаў. Вядома, што на Нёмане іх рабілі ў Стоўбцах, Новым Свержані, Магільне, Мікалаеўшчыне, і нават у "Над-Нёмане", хутчэй за ўсё невялікія судны — шугалеі. Тут маглі вырабляцца і чаўны, і лёгкія баркі на груз да 2 тыс. пудоў. Аднак на Нёмане галоўным чынам выкарыстоўваліся вялікія судны — віціны.* Польскі паэт Вінцэсь Каратынскі пісаў:

---

*Віціны — неад'емна нёманскае судна-карабель.




Агульны выгляд віціны

Сонца хмары адправіць,
І вясна загаворыць
З Нёманам мовай ласкавай —
Будзе неба і мір.
Мы тым шляхам-пуцінай
Паплывём на віціне.
Нам змагацца з вадою,
Не спалохаюць беды!
Хто адважны — стралою
Да Кралеўца, Клайпеды!
Як пра ластавак весніх
Пра віціны нам песняць.

За мяжу на віцінах вывозіліся беларускія тавары: футра, збожжа, кудзеля, пянька, ільняное і канаплянае семя, алей, сала, салёнае мяса, мёд, воск, смала, шэрсць, паташ, вугаль, гарэлка, спірт. На зваротным шляху дастаўляліся галантарэя, тканіны, прадметы раскошы, прамысловыя вырабы, тытунь, соль, селядцы, віны, т. зв. каланіяльныя тавары.

Паспрабуем з дапамогай добрага знаўца рачных перавозак з Гродна А.Жукоўскага ўзнавіць вонкавы выгляд знакамітай віціны. Гэта былі даволі вялікія караблі шырынёй 4—11, даўжынёй 30—35 метраў (па некаторых звестках шырынёй 12—20 локцяў, даўжынёй — 75—90 локцяў) з плоскім дном. Таму заглыбленне ў ваду ў яе было невялікае. Грузападымальнасць 70—100 тон (па іншых дадзеных — 10—14 тыс. пудоў). Кіравалі віцінай гаспадар, лоцман і абслуга ў колькасці 10—12 чалавек. Віціна мела дах, ветразі плошчай 80—150 кв. метраў. На ёй меліся якары, 6—10 вёслаў. Груз размяшчаўся па цэнтру віціны, наперадзе была кухня і абслуга, у кармавой частцы, у будцы-каюце знаходзіліся гаспадар і лоцман. Каштавала віціна нямала — 700—1000 рублёў срэбрам. Служыў карабель 6—10 гадоў. Пры ходзе ўверх выкарыстоўвалася конная, валоўя цяга. Поўны цыкл маршрута са зваротам дадому складаў 10—12 тыдняў. Калі ўніз па цячэнні адольвалася ў суткі да 50 вёрст, то ўверх — толькі 25.

Захаваліся і некаторыя іншыя дакументы пра гэтыя судны. 22 красавіка 1582 года віленскі купец Венцлаў Оель падаваў скаргу на няспраўнасць зафрахтаваных ім у Арнофля Брэскага віцін. Ён фрахтаваў іх на вываз свайго попелу ў колькасці 50 ластаў* з Мікалаеўшчыны. А.Брэскі паслаў спачатку адну віціну, а потым прыйшла другая новая віціна знізу, з ракі Усы. Калі ў яе паклалі 15 ластаў попелу, яна пачала патанаць. Попел замачыўся і папсаваўся. Віціну выратавалі, але 5 ластаў попелу недагрузілі.

А.Брэскі ў сваю чаргу паскардзіўся на мінскага мешчаніна Андрэя Малехну і абвінаваціў яго ў невыкананні абавязацельства па пастаўцы віціны. Па яго віне віціна прыйшла да Магільна толькі праз тры тыдні пасля тэрміну...

У 1897 годзе па Нёмане ў беларускай частцы было адгружана 9519 тыс. пудоў грузаў, сюды прыбыло іх 328 тыс. пудоў. Было адпраўлена 149 суднаў, прыбыло — 2.

Віціна настолькі ўшаноўвалася, што ўвайшла ў некаторыя гербы, напрыклад, горада Друя, дзе яна выяўлена з надзьмутымі ветразямі.

---

*Ласт — адзінка вымярэння вагі сыпкіх рэчываў, роўная 120 пудам.

Вейце ветры! Хутчэй у вярхоўе!
Станься птахаю, наша віціна!
Адпачнеш за зіму бесклапотна —
На рацэ запануе бязмоўе,
Каб далёкім не быць і самотным
І не здоўжыць разлукі часіну,
Я плыву, пакідаю чужыну...
Вейце ветры! Хутчэй ў вярхоўе!

*Вінцэсь Каратынскі*

Блізкія па канструкцыі да віцін былі берліны.

...У вярхоўях Нёмана дзейнічалі два вадзяныя млыны. Адзін яшчэ працаваў перад Вялікай Айчыннай вайной:

На стыку Нёмана і Лошы
Цагляны млын стаяў здаўна.
Малолі жорны, кош за кошам,
Вазы адборнага зярна,

засведчыў А.Астрэйка.

На правым беразе, на ўзвышшы мясціўся населены пункт Малыскаўшчына ці Над-Нёман — цэнтральная сядзіба аднайменнага маёнтка, у які ўваходзілі мястэчка Пясочнае і фальварак Хіначова (раней Атонава, цяпер — Сінячова). Назва “Над-Нёман” не гістарычная, але яна поўнасцю адпавядае сваёй тапаграфіі.

Ёсць падставы лічыць, што “сяло над Пясочнаю над Нёманам” з баярынам Яроцкім, сялянамі Мелькам Радзюковічам і Навумам Каралём, загаданае ў інвентары ад 29 лістапада 1592 года, гэта і ёсць сучасны Наднёман.

“Слоўнік геаграфічны…” за 1885 год падаваў: “Над-Нёман” — вёска Ігуменскага павета пры сутоцы Лошы і Усы, якія з’яўляюцца пачаткам Нёмана, у 1/2 вярсты ад мястэчка Пясочнае, у адной мілі ад Магільнага. Прыгожы палац, збудаваны Атонам Наркевічам-Ёдкам”.

Набытае Наркевічамі-Ёдкамі ўладанне ў Над-Нёмане было закладзена яшчэ ў XVI стагоддзі пры бровары, які тут дзейнічаў.

Загадкавыя лініі белакаменнага сядзібнага дома, якія хаваліся за густой зелянінай, прыцягвалі погляды ўсіх, хто тут праходзіў ці праязджаў. Над усім наваколлем дамінавала прымыкаючая да пабудовы 27-мятровая вежа. Яна выкарыстоўвалася як пажарная каланча і для метэаралагічных назіранняў. Кажуць, на ёй нават была ўстаноўлена  ветравая ці Эолава арфа.



Сядзібны дом у "Над-Нёмане".
Гравюра з малюнка Н. Орды
(меркавальна 1864 г.)

Цэнтральная частка дома была двухпавярховая з фігурным франтонам. З другога боку мясцілася шасцівугольная прыбудова. Сядзібны дом меў чарапічны дах, чыгунную лесвіцу, наборны паркет, каляровыя вітражы. У адзіным вырашэнні былі выкананы і іншыя забудовы, у прыватнасці, уязная брама. Сады, алеі, вялікі парк з рэдкіх парод дрэў удала дапаўнялі нягучную прыгажосць навакольнай мясцовасці.

Сёння тут рэшткі парку, разваліны сядзібнага дома і квітнее добра абсаджаны ліпамі, клёнамі, таполямі, бліжэй да вады — вербамі бераг Нёмана. Казалі, што яшчэ царская інспекцыя за разбурэнне берагу Нёмана і скідванне ў раку адыходаў вінакурні аштрафавала памешчыка Я.Наркевіча-Ёдку, закрыла бровар і абавязала яго азеляніць бераг Нёмана на тэрыторыі сядзібы. Якая тут сёння прыгажосць — чытачы могуць пераканацца і самі, наведаўшы летам Наднёман…

Мець уяўленне аб былой сядзібе мы сёння можам па гравюры з малюнка вядомага мастака Напалеона Орды, выкананай ў другой палове XIX стагоддзя пад назвай "Над-Нёман Мінскай губерні".



Наднёман апошніх часоў

Аб гэтым палацы пісаў і Паўлюк Трус у паэме “Развітанне”:

Мінулі млын... Сышлі ў даліну...
У даліне сон... І ў сне раса...
І ты згадала ва ўспамінах
Маёнтак воддаль ад прысад.
Згадала ў ростані Галена
Стары маёнтак, дзе жыла,
Дзе адцвілі гады маленства
У далі ад роднага сяла.
Служыла наймічкаю ў пана,
Гуляла з панскімі дзяцьмі,
І так жыццё сваё ад рана
Труціла горкімі слязьмі.
Стаіць палац... Маўчаць таполі,
Завялі астры пад акном...
І ўжо не вернецца ніколі
Краса, адцвіўшая даўно...

Пасля рэвалюцыі будынак выкарыстоўваўся пад школу калгасных кадраў, дзе рыхтаваліся паляводы, жывёлаводы, рахункаводы і іншыя спецыялісты. У летні час тут размяшчаўся піянерскі лагер.

У 1920 годзе на базе панскага маёнтка быў арганізаваны жывёлагадоўчы саўгас “Над-Нёман”.

У часы Вялікай Айчыннай вайны будынак сядзібнага дома быў спалены, потым людзі часткова разабралі яго на цэглу. Захавалася толькі вежа, але і яна — сімвал нашай беларускай дарэвалюцыйнай навуковай думкі — абрынулася ў адну з начэй у лютым 1995 года. За межамі тэрыторыі сядзібы і цяпер знаходзяцца некалькі хат, якія складаюць вёску Наднёман. На поўнач ад сядзібы перад лесам “панскія могілкі” — колішняе радавое пахаванне Наркевічаў-Ёдкаў.

Яно намаганнямі мясцовых улад і грамадскасці Уздзенскага раёна рэканструявана як помнік культуры ў канцы 2002 года да 155-годдзя з дня нараджэння вучонага Якуба Наркевіча-Ёдкі.

Сядзібны дом у Наднёмане, безумоўна, адзін з цікавейшых архітэктурных помнікаў мінулага Міншчыны.

Да нас нечакана трапіў з Кракаўскага народнага музея яшчэ адзін невядомы ў нас малюнак Напалеона Орды 1864 года з надпісам “Пясочна. Палац Ёдкаў”. Дапамог разабрацца ў ім жыхар вёскі Сінячова, былы дырэктар інтэрната, чалавек нялёгкага лёсу Фелікс Іосіфавіч Ермаліцкі. Ён удакладніў: гэта спалены ў вайну будынак фальварачнага дома Наркевічаў-Ёдкаў у Сінячове, што ўваходзіла ў склад маёнтка “Над-Нёман”. Тут пэўны час жыў пасля вяртання з-за мяжы вучоны, пазней прафесар Якуб Наркевіч-Ёдка. Ён тут заснаваў метэаралагічную станцыю, перанесеную пазней у “Над-Нёман”. Перад вайной тут быў інтэрнат для “цяжкіх” падлеткаў, у вайну жылі сем’і партызанаў. Тады ж ён быў спалены нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Фелікс Іосіфавіч гаспадарчым чынам на фундаменце гэтага сядзібнага дома ўзвёў будынак аднаго з карпусоў цяперашняга інтэрната.

Дарэчы, як высветлілася, і сам Фелікс Іосіфавіч мае кроўныя адносіны да рода Наркевічаў-Ёдкаў. Яго дваюрадны дзед, урач, быў жанаты на дачцы Івана Наркевіча-Ёдкі, уладальніка маёнтка Кацельнікі пад Капылём, і жыў там. Закладзены ім сад прыносіць свой плён і сёння.

А.К.Ельскі ў пачатку 1886 года пісаў пра Сінячова, тады фальварак Атонава: “Прыгожы драўляны дом, землі лёгкія, рассыпчатыя, ураджайныя, лугі над Нёманам вельмі багатыя і адборныя.




“Пясочна. Палац Ёдкаў”. Малюнак Н. Орды, 1864 г.



Ф.І. Ермаліцкі аглядае свіран,
узведзены ў Сінячове Я.А. Наркевічам-Ёдкам

Цяперашні ўладальнік Якуб Ёдка паставіў тут метэаралагічную станцыю 2-га разраду і праводзіць руплівую карэспандэнцыю з іншымі станцыямі ў краіне”. Гэта быў толькі пачатак слаўнага навуковага шляху нашага знакамітага навукоўца.

Ведаючы пра падборку ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусі адбіткаў з беларускіх малюнкаў Напалеона Орды, мы паспяшаліся са сваімі, можа і не лепшымі, рэпрадукцыямі новых, невядомых яшчэ малюнкаў і перадалі іх бібліятэцы для ўключэння ў ордаўскі збор.

У 2004 годзе ў выдавецтве "Беларусь" выйшаў альбом "У малюнках Напалеона Орды. Другая палова XIX стагоддзя". Аднак у ім сваіх знаходак мы не знайшлі. Дарэчы, там гродзенскае Магільна памылкова аднесена да ўздзенскага.

Наднёманскія мясціны даволі падрабязна апісаны ў адным з дакладаў старшыні метэаралагічнай камісіі пры Рускім геаграфічным таварыстве, прафесара А.І.Ваейкава, які тут пабываў па меншай меры тры разы. Ён пісаў: "Я.Наркевич-Иодко, с 1886 г. устроил у себя метеорологическую станцию 2-го разряда… Станция сначала была в другом его имении Оттоново, в местности совершенно ровной, верст 5-ти к югу от Немана. В 1889 г. станция перенесена в Над-Неман и находится в очень небольшом расстоянии от правого (северного) берега Немана, который отсюда становится сплавным. Местность вокруг довольно ровная, почва песчаная, реки и речки текут в неглубоких ложах, верстах в 3-х к востоку от имения начинается обширная полоса болот, несколько сот десятин их осушено… Все инструменты установлены вдали от строений и больших деревьев в саду… Флюгер установлен на довольно высокой башне над домом".

Яшчэ адна адметнасць. Вытокі Нёмана валодаюць прыцягальнай сілай для творчых людзей. Пэўную ўвагу ім аддаюць мастакі. Сярод іх — Раман Заслонаў і Андрэй Задорын. У час адпраўкі культурна-гістарычнай і спартыўна-экалагічнай воднай экспедыцыі "Наш Нёман" у 1989 годзе яны прывезлі і выставілі на беразе ракі свае творы. Частка з іх была на наднёманскую тэматыку. Уражанне засталося незвычайнае...

Яшчэ адзін феномен нёманскіх вытокаў. У гэтых месцах ніколі не адзначалася выпадкаў халеры, хаця суседнія вёскі ад яе пакутавалі. Навакольныя сяляне ў час халеры перабіраліся ў Магільна, Пясочнае. Вядомы і іншыя выпадкі, калі хворыя сухотамі пры пераездзе ў наднёманскую зону (напрыклад, у вёску Бабоўню на Капыльшчыне) вылечваліся і далей адчувалі сябе някепска. Аб гэтым

сведчылі знакаміты ўрач-акуліст В.А.Наркевіч-Ёдка і беларускі паэт Алесь Гурло. У Мікалаеўшчыне нам расказалі, як адна сям'я вымушана была пераехаць з Украіны з-за бясконцых хвароб. Цяпер яна ўжо колькі гадоў адчувае сябе няблага. Відаць, сапраўды наднёманскі клімат мае нейкія гаючыя ўласцівасці. А можа тут праяўляецца ўздзеянне эфекту роднай зямлі? Не сакрэт, што іншы раз чалавеку не дапамагаюць ні лекі, ні дактары. А варта яму вярнуцца ў тыя месцы, дзе ён нарадзіўся і вырас, як ўсё праходзіць літаральна ў лічаныя гадзіны. Так ці інакш, гэта месца па ўсіх дадзеных падыходзіць для арганізацыі адпачынку, у першую чаргу дзяцей.

Паводле звесткак у "Над-Нёмане" бывалі Уладзіслаў Сыракомля і Якуб Колас. Іх цікавіла багатая бібліятэка Наркевічаў-Ёдкаў.

Вядомасць гэтаму краю прынёс уладальнік маёнтка вучоны-ўрач Якуб Атонавіч Наркевіч-Ёдка.

...Мы прайшлі па невялікаму адрэзку Нёмана ад яго пачатку да Пясочнага і Наднёмана, усяго якіх-небудзь два—тры кіламетры. Але інфармацыі пра яго тут атрымалі бадай болей, чым аб папярэдніх 20 кіламетрах, бо тут вельмі багатае, як бы сканцэнтраванае, мінулае; значнае, змястоўнае сучаснае. Тут праяўляецца ў найбольшай ступені тое, што мы лічым нацыянальнымі асаблівасцямі сельскага побыту, жыцця вёскі цэнтральнай Беларусі.

Вынікае неабходнасць вылучыць гэту мясцовасць і надаць ёй гістарычна апраўданую назву. Нам здаецца, што яна ёсць. Ад выпадку да выпадку яна праходзіць на старонках друку, у гаворцы мясцовага насельніцтва. НАДНЯМОННЕ — так многія завуць вярхоўі Нёмана ў Беларусі, гэта значыць той часткі, што ляжыць на Міншчыне. У Гродзенскай вобласці прыжылася назва Прынямонне, край прынёманскі. Пара і на Міншчыне больш шырока карыстацца назвай Наднямонне. Тым болей, што частка дзеячаў культуры даўно прыбягае да яго. Наднямоннем зваў у сваіх артыкулах Уздзеншчыну і Стаўбцоўшчыну пісьменнік, акадэмік, віцэ-прэзідэнт НАН Беларусі Іван Якаўлевіч Навуменка. Спасылаецца на Наднёман ва ўспамінах Рыгор Няхай. П.Ліпай таксама лічыць Уздзеншчыну краем наднёманскага прыволля.

Гэты ёмкі выраз арганічна ўвайшоў у творы Паўлюка Труса. У незакончанай паэме "Сірата Алеся" галоўная гераіня, вясковая дзяўчына, сірата, якая вырасла ў горы і цемры —

Алеся, бедная Алеся,
Дзіця наднёманскіх нізін.

* * *

Алеся, родная Алеся,
Краса наднёманскіх дзяўчат!

Беларускі паэт Янка Лучына пісаў:

Людцаў спытайся, што на чужбіну
Былі закінуты лёсам,
Дзе напаткалі чары радзімы,
Чары наднёманскіх плёсаў?

Расстанне з роднымі мясцінамі будзіла ў памяці Якуба Коласа незабыўныя карціны дарагога наднёманскага краю:

Не-не ды ўспомню зноў
Той кут, дзе я даўно
Сагрэты быў пяскамі Наднямоння...

* * *

І з таго часу па сягоння
Мне сонцам свеціць Наднямонне...

З прыўзнятасцю пісаў пра наднёманскія коласаўскія дубровы і рускі паэт Аляксандр Пракоф’еў.

Пра Наднямонне ўзгадваў пісьменнік-дэмакрат Вінцэсь Каратынскі, маючы на ўвазе менавіта край на вярхоўях Нёмана. У прыватнасці, аб Наднямонні ён сказаў: “Ваколіца такая, што чым болей яе спасцігаем, тым мацней яна прывязвае; аддаленая, яна прыдае любові смутак, прыцягвае да сябе думкі, хаця б з таго свету...”

Паэт Антон Бялевіч мясціны на вытоках Нёмана таксама лічыў наднёманскімі.

НАДНЯМОННЕ — гэта землі Уздзеншчыны, часткова Стаўбцоўшчыны і Капыльшчыны.

Аўтар гэтых радкоў задаволены тым, што яго, выказаная ў “Пуцявінах Наднямоння” прапанова, атрымала належны станоўчы водгук, што яна прыжываецца. Ужо з’явіліся нават прадпрыемствы з наднёманскай назвай. Напрыклад, сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў “Наднёман”.

# ПА СТАРАЖЫТНЫМ НЁМАНСКІМ ШЛЯХУ

Прыйшоў час развітацца з гасціннымі Наднёманам і Пясочным, з пачаткам нашай слаўнай ракі. Водная стужка Нёмана вядзе далей у яшчэ нязведанае. Яна, як і ўсякая дарога, заве.

...Невялікі паварот рэчышча ўправа. Бег ракі няспешны, свабодны. Злева — вялікія заліўныя лугі, сапраўднае багацце гэтых мясцін. У іх упісаны шматлікія пазарастаўшыя аерам, трысцём старыцы, азёрцы. Месцамі па левым боку — забалочанае, сустракаюцца невялікія балотцы і праваруч. Але ўвогуле правы бераг вышэйшы, месцамі падмываецца, у раку спаўзаюць дрэвы. Высокі зрэз размытага берага — выдатная ілюстрацыя геалагічнай структуры зямлі. Бераг тут абжыты ластаўкамі, якія маюць адпаведную назву — берагоўкі. Імі тут збудавана безліч хатак-норак. Лес часам падступае да рэчкі, а затым зноў адыходзіць.

Апошні раз паказаліся за серпанцінам ракі векавыя ліпы і таполі Наднёмана.

Праз 3—4 кіламетры шляху з левага боку ў Нёман далучаецца прыток з ёмкай старадаўняй назвай Тур'я. Рэчка цячэ з Нясвіжскага і Капыльскага раёнаў, да вёскі Бузуны каналізавана. І хаця яе даўжыня ўсяго 32 кіламетры, а сярэднегадавы сток вады каля 1 куб. метра за секунду, мы павінны яе залічыць да рэк, якія нараджаюць Нёман.

У паходжанні назвы ракі сумненняў няма: яна — ад назвы даўнейшага першабытнага, вынішчанага цяпер, "ляснога быка" — тура, паэтычнага персанажа, аб'екта язычніцкага культа. Ад зубра ён адрозніваўся чорнай з белым паласой уздоўж хрыбта. Апошняя жывёліна была забіта ў Польшчы ў 1627 годзе. Тур упамінаецца ў "Слове аб палку Ігаравым", у Іпацьеўскім летапісе. З рога жывёлы рабілі музычныя інструменты, аздаблялі іх каштоўнасцамі. На ігрышчах вадзілі тура-сатану. У славян было вядома вясенняе свята турыцы, у якім упрыгожвалі свойскіх жывёл, частавалі іх. На турыцу насілі маскі тура. Беларусы гулялі ў "Буй-тура" ці "Яр-тура". Радзімічы на навагодняе свята "вадзілі тура". Дрыгавічы і вяцічы насілі галаўныя ўборы з "туравымі" рагамі. На Міншчыне ёсць шэраг назваў з "туравым" коранем: вёскі Ту́рын, Туры, Туркаўшчына, Тураўшчына. На жаль, услед за турам такі ж лёс неўзабаве напаткаў ланяў і балотных рысяў.

За месцам упадзення Тур'і па левым беразе Нёмана размясцілася вёска Касцяшы. Паходжанне назвы гаворыць само за сябе — тут некалі праносіліся кравапралітныя бітвы.

Вядома, што яшчэ ў 1592 годзе жыхары Касцяшоў і некаторых іншых вёсак плацілі ўладарам тутэйшай мясцовасці Пацам з кожнай валокі (адпавядала 21,36 га зямлі) 50 грошаў, бочку жыта, дзве бочкі аўса, воз сена, аднаго гуся, дзвюх курыц, дваццаць яек. Тры дні ў тыдзень яны працавалі на ўладальніка "дзе ўкажа". У прырэчных вёсках сяляне павінны былі па павіннасці "хадзіць на нерат". У 1868 годзе ў вёсцы налічвалася 78 двароў з 619 жыхарамі. Гэта вялікае сяло ўваходзіла ў Магільнянскую воласць.

Сёння гэта добраўпарадкаваная вёска, брыгада СВК "Наднёман". У ёй ёсць школа, магазін, клуб, бібліятэка. Прамой транспартнай сувязі Касцяшоў з Наднёманам ці Пясочным няма, і жыхары, калі трэба, ідуць наўпрост, пераадольваючы Нёман бродам. Праехаць жа туды можна наўкола — праз Магільна і Узду. А некалі тут быў паром, перавоз.

На тэму месца пераадолення Нёмана мастак Юзаф Пучынскі стварыў мастацкае палатно "Брод", сюжэт якога мы выкарысталі пры афармленні вокладкі кнігі.

Шмат чаго ведаюць пра вёску старажылы Касцяшоў Антось Бондар, Ігнась Пармон і іншыя. Вёска стала радзімаю вядомага ўрача-стаматолага, хірурга, доктара медыцынскіх навук, прафесара Уладзіміра Сільвестравіча Бондара. Мне выпаў гонар ведаць гэтага цудоўнага чалавека. Ён некалі ў маладосці пакінуў вёску, пайшоў выпрабоўваць сябе ў вялікі свет. Спачатку была служба ў Савецкай Арміі, потым ён скончыў Омскае ваенна-медыцынскае вучылішча, а ў 1963 годзе — стаматалагічны факультэт Омскага медыцынскага інстытута і паехаў працаваць на цаліну.

Арганізаваў упершыню ў Цалінаградзе лячэнне стаматалагічных хворых. Але галоўны яго ўклад тычыўся арганізацыі малавядомай у той час чэлюсна-тваравай пластычнай хірургіі.

У 1969 годзе У.Бондар абараніў на гэту тэму кандыдацкую дысертацыю. Далей узначаліў курс стаматалогіі і быў зацверджаны дацэнтам Цалінаградскага медыцынскага інстытута. У 1984 годзе ён ужо доктар медыцыны, з 1987 года прафесар, загадчык кафедры інстытута. Апошні час працаваў у Валгаградскім медыцынскім інстытуце.

Навуковыя працы У.Бондара (а іх болей за 90) па пластычнай і ўзнаўленчай хірургіі, якой ён, па яго словах, проста захапляўся, атрымалі вядомасць у краінах Заходняй Еўропы і ЗША. Многія яго пацыенты, якім ён пасля траўм "вярнуў" твар, засталіся ўдзячныя яму на ўсё жыццё.

У адным з лістоў Уладзімір Сільвестравіч прызнаваўся, што ў дзяцінстве сам моцна і доўга хварэў, і яго непісьменная матуля паклялася перад абразом, што, калі сын яе ачуняе, то ўсё далейшае жыццё будзе дапамагаць хворым. Пажаданні любай маці і прывялі яго ў хірургію. Далей ён пісаў: "І якое ж пачуццё адчувае няшчасны, калі пазбаўляеш яго ад дэфекту цела, узнаўляеш яго форму. Гэта асаблівы стан уздыму і пацыента і хірурга..."

У апошнія гады свайго жыцця У.С.Бондар далучыўся да вельмі важнай і пачэснай справы — выпрацоўкі ўрачэбных падыходаў да праблем умацавання сям'і, па сутнасці, прапагандаваў маральныя сямейныя каштоўнасці, той самы ісцінны гуманізм. Шэраг яго папулярных брашур "З гісторыі шлюбу і сям'і", "Псіхалогія сям'і і патомства", "Рэўнасць і здрада ў сям'і" быў выдадзен у Валгаградзе і карыстаўся незвычайным поспехам.

Амаль на сорак гадоў пакінуў Уладзімір Сільвестравіч вёску, каб потым вярнуцца славутым і па-ранейшаму сціплым чалавекам. Ён за гэты час не згубіў сувязей з касцяшоўцамі. Па-ранейшаму з многімі працягваў дружбу, даваў мне рэкамендацыі ў краязнаўчых пошуках, якія лічыў цікавымі і вельмі патрэбнымі для нашчадкаў.

Выдатны хірург лічыў за абавязак у час адпачынку, знаходжання на роднай зямлі дапамагаць сваім хірургічным вопытам вяскоўцам. Шэраг аперацый для землякоў ён выканаў на фельчарска-акушэрскім пункце ў Касцяшах, у Магільнянскай участковай бальніцы. А самую складаную аперацыю пасля апёку твару з перасадкай скуры ён зрабіў свайму земляку ў раённай бальніцы. Тут пазней ён апераваў трохтыднёвае дзіця.

Уладзімір Сільвестравіч добра памятаў даваенны Наднёман і паданні пра яго знакамітага ўладальніка Якуба Наркевіча-Ёдку. Ён упершыню зрабіў навуковы агляд урачэбнай дзейнасці вучонага ў спецыялізаваным часопісе.* Марыў аб аднаўленні сядзібы "Над-

---

*Киселев В.Н., Головач А.А., Бондарь В.С. Я.О.Наркевич-Иодко — основатель физиотерапии в Белоруссии // Здравоохранение Белоруссии, № 9, 1989. С. 76—78.

Нёман”, аб напісанні праўдзівага і ўсебаковага агляду вытокаў партызанскага руху на Уздзеншчыне.

З часам Уладзімір Сільвестравіч стаў часцей наязджаць з далёкага Валгаграда ў родны дом (бацька памёр у 1983 годзе), пачаў яго рамантаваць. У апошні прыезд у Касцяшы яго, вопытнейшага медыка, 3 мая 1991 года спасцігла ў бацькоўскім доме заўчасная смерць ад нейкага выпадковага тромба. Сапраўды ў сумленнага чалавека заўсёды толькі адзін круг: прайсці хай і нядоўгае, але яркае жыццё, каб потым вярнуцца назаўсёды да сваіх вытокаў, да сваёй калыскі. Усё застаецца людзям. Што можа быць пачэсней!

З Касцяшоў і вядомы беларускі юрыст, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, пракурор БССР, старшыня Вярхоўнага суда БССР у 1949—1984 гадах, заслужаны юрыст БССР Аляксей Георгіевіч Бондар.

...За Касцяшамі даліна па цячэнні Нёмана ў асноўным не мае ясна выражаных карэнных берагоў і ўяўляе сабой лугі, месцамі забалочаныя, якія непрыкметна пераходзяць у пясчаную раўніну. Берагі ў многіх месцах з торфу і настолькі нізкія, што шырыня ракі, пры меженным* узроўні 15—30 метраў, павялічваецца ў высокую ваду ў 20—30 разоў (да трох кіламетраў).

Пасля Касцяшоў лес і рака зближаюцца. Адчуваецца новае пашырэнне ракі, яна выкручваецца ўсё часцей — робіць да трох-чатырох звілін на кіламетр рэчышча. Усё больш схіленых над вадою вербаў.

І вось адкрываецца незвычайнай прыгажосці краявід: высокі пясчаны бераг з сасновым лесам, з паваленымі ў рэчку дрэвамі. Насупраць цераз рэчку — луг з пахілымі вербамі, лазняком.

На наступным павароце зноў раздольныя сенакосы, левы бераг высокі, лясісты. За 2 кіламетры да Яршоў на тэрасе ракі некалі стаяў фальварак “Святы Двор”, вядомы яшчэ з 1592 года. Узвышаны над Нёманам ён ствараў незабыўнае ўражанне. Тут знаходзілася і царква, сядзібныя пабудовы, якія належалі ў розны час Вышамірскім, Радзівілам, княгіні Гогенлоэ, з агульнай плошчай усіх раскіданых засценкаў (Калюга, Андрушы, Галавачы, Сокал, Лунін) 258 дзесяцін. Недзе паблізу быў хутар “Святагор’е”, фальварак “Праходы”.

---

*Межань — працяглае сезоннае стаянне нізкіх, інакш меженных, узроўняў вады ў рацэ.



На месцы былога маёнтка “Святы двор”

Дзед Пятрок Пармон з Касцяшоў расказаў, што іх аднавясковец Відук некалі прыслужваў тут, у “Святым Двары”, пану Вышамірскаму, потым і сам асеў на яго гаспадарцы. Жыў някепска. Уступіў у калгас. Потым яго раскулачылі і выслалі ў Сібір (сям’я засталася). У Сібіры апрацоўваў зямлю валамі.




План маёнтка “Святы Двор”, 1882 г.

У “Святым Двары” была царква, у ёй і Петрака хрысцілі. Ды потым яе камсамольцы разбурылі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны мужыкі вырашылі царкву ўзнавіць, зруб нават зрабілі, а потым, як на будаўніцтве знакамітай Вавілонскай вежы, у думках разышліся і справу спынілі. Вярнуўся дахаты і Відук. Дом перавёз са “Святога Двара” ў Яршы і сям’ю забраў. Так паступова і знік некалі вядомы “Святы Двор”.

Цяпер тут нічога гэтага няма, усё агарнулі сельскагаспадарчыя палеткі. Праўда, уважлівы погляд адзначыць дзе-нідзе прыкметы былога. На краі тэрасы праглядваецца прысыпаны надмагільны помнік — калісьці тут былі могілкі. Уздоўж прыгожай поймы (цудоўны куток!) — сведкі даўніны — кусты бэзу. У адным месцы абсталяваны спуск да ракі. Але і гэтыя рэшткі сёння ўжо адыходзяць у нябыт.

У.Сыракомля пісаў: “Прайшоўшы каля дзвюх міль (ад Пясочнага) заўсёды на паўночны захад, Нёман дасягае мястэчка Магільна, былую ўласнаць Пацаў, а пазней вотчынную ўласнасць нясвіжскіх ардынатаў, якая налічвае 750 душ...”

Так і ёсць: да вёскі Магільна па рацэ каля дзесяці кіламетраў. Больш-менш выразна даліна азначана ля вёскі. Тут яе шырыня ў нізкіх аблогах берагоў дасягае 1,5 км. Карэнныя берагі выяўлены суглінкамі і супесямі і маюць вышыню 3—4 метры, яны амаль зліваюцца з прылеглымі нізінамі. Пакрытыя месцамі лесам, большай часткай сасновым. Схілы часткова разараны. Як кажуць гідрагеолагі, камандным, як і раней, з’яўляецца правы бераг. Радовішчы торфу даходзяць да трох метраў. Паверхня парэзана старарэччамі. Месцамі ў раку ўпадаюць меліярацыйныя каналы.

Глыбіня ракі тут у межань 0,8—3,0 м, у час паводкі павялічваецца на 1,7—2,5 м. Скорасць цячэння ў межань 0,5—1,0 м/сек, у паводку — да 2,0 м/сек.

Дно ракі пясчана-гравійнае, месцамі глiністае.

Перад вёскай Магільна ўздоўж ракі раскінулася вёска Замосце. Сапраўды, ад дарогі Магільна—Узда яна стаіць з правага боку за мостам.

Вёска Магільна — адно з самых старажытных, вядомых па пісьмовых крыніцах, беларускіх паселішчаў. Гісторык і археолаг Міхась Чарняўскі даказвае, што, бадай, нідзе на Міншчыне на знойдзена так многа слядоў жыцця першабытнага чалавека, як на вярхоўях Нёмана. Паміж вёскамі Магільна і Мікалаеўшчына археолагамі выяўлены сляды каля трох дзесяткаў паселішчаў каменнага і бронзавага вякоў. Тут ледзь не на кожным сухім грудзе пасярод поплаву або па краях прырэчных тэрас у даўнія часы жылі нашы продкі.

Каля Кутца, Замосця знойдзены рэшткі паселішчаў з часоў неаліту (10—7 тыс. гадоў назад). Тут сабраны крамянёвыя нажы, скрабкі, наканечнікі стрэл.

Цэлыя групы пасяленняў часоў неаліту (6—4 тыс. гадоў назад) знойдзены непадалёку ад Кутца, Сверынава, Магільна. Сляды неалітычнага чалавека захаваліся і на паўднёвай ускраіне Прусінава, дзе знойдзены рэшткі жытла, прылады працы, чарапкі глінянага посуду — вострадонных гаршкоў з арнаментам.

На тых жа пясчаных грудах людзі жылі і ў раннім жалезным веку. Пад Прусінавым у верхніх пластах неалітычнай стаянкі знойдзена шмат ганчарнай керамікі, а каля Магільна вялікі сярэдневяковы могільнік. На жаль, яго знішчылі разам з размешчаным там замчышчам — помнікам XIII—XVI стагоддзяў.

У гісторыі гэтай вёскі, як у люстэрку, адбіліся ўсе складанасці беларускай зямлі перыяду ранняга сярэдневякоўя. Знаходзячыся ў выгадным геаграфічным становішчы, параўнальна блізка ад гарадоў Нясвіжа, Міра, Навагрудка, — Магільна было не раз месцам жорсткіх бітваў у бясконцых княжацкіх сутыкненнях. Пасля нейкай з такіх боек на месцы паселішча засталося папялішча. Там, дзе калісьці жылі і працавалі людзі, у IX—XIII стагоддзях паднімаліся курганы, рэшткі іх захаваліся да нашых дзён. Яны асабліва праглядаюцца ў паўкіламетры на захад ад вёскі Магільна ў сасновым урочышчы Лэнгі. Там выяўлена цэлая кургановая група каля дзесяці курганоў, помнікаў археалогіі IX—XIII стагоддзяў.

Людзі зноў вярталіся на былыя месцы. У паўнаводным Нёмане і раскінутых ля яго азёрах у дастатку вялася рыба, а ў лясах — дзічына. Адбудаванае паселішча народ назваў “Магільна”.

— Але, канешне, — сцвярджае ўраджэнец гэтай вёскі, знаўца даўніны, доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Міхайлавіч Лыч, — паселішча існавала яшчэ задоўга да гэтага. Людзі тут з’явіліся ў эпоху каменнага веку. Паблізу вёскі Магільна, ва ўрочышчы Замчышча, археолагі выявілі гарадзішча, якому не меней двух з паловай тысячагоддзяў. А ў XIII—XIV стагоддзях тут стаяў замак — сядзіба феадалаў, а побач з ім быў пасад-вёска. Замак належаў старажытнаму магнацкаму роду Пацаў. Згодна пісьмовай крыніцы — “Літоўскай метрыкі” — замак меў добрыя ўмацаванні: роў, вал і вежу з брамай-варотамі, да якой вяла брукаваная дарога. Пры земляных работах тут знаходзілі старажытны посуд, цэглу, вырабы з жалеза (цвікі, нажы), пячную кафлю з выявай раслінных арнаментаў. За межамі замка, на поўнач ад яго раз-

мяшчалася слабада — паселішча рамеснікаў і земляробаў. Пазней Магільна перайшло да Радзівілаў і складала з ваколіцамі частку Нясвіжскай ардынацыі.

Першае ўпамінанне пра Магільна аддалена да XIII стагоддзя, дакладней да 1235 года (па другіх звестках да 1284 года). Яно звязана з бітвай паміж войскамі вялікага князя літоўскага Рынгольда і паўднёварускіх князёў, на баку якіх выступілі і татара-мангольскія заваёўнікі.

Магільна адзначана ў аўтарытэтных крыніцах: "Іпацьеўскім летапісе", "Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай" і "Хроніцы Быхаўца".

Згодна з "Хронікай Літоўскай" бітва пад Магільна адбылася ў 1284 годзе. Прыводзім апісанне яе па "Хроніцы Быхаўца": "І згаварыліся паміж сабой князі рускія пачаць барацьбу супраць вялікага князя Рынгольда, маючы намер сагнаць яго са сваіх вотчын, рускіх гарадоў, перш за ўсё Святаслаў Кіеўскі і Леў Уладзімірскі і Дзмітрый Друцкі. Сабраўшыся, усе трое са сваімі палкамі пайшлі супраць вялікага князя Рынгольда. І ўзялі тыя князі рускія на дапамогу сабе ад цара Заволжскага некалькі тысяч татараў. І князь вялікі Рынгольд сустрэў іх на рацэ Нёмане ля Магільна і быў з імі бой люты, і біліся паміж сабой вельмі моцна, пачаўшы рана раніцою і да самага вечара. І памог Бог вялікаму князю Рынгольду, які разграміў князёў рускіх і ўсю сілу іх і арду татарскую ўшчэнт, і сам, атрымаўшы перамогу, з вялікай весялосцю, здабыўшы золата і срэбра і шмат скарбаў, вярнуўся дахаты і жыў шмат гадоў у Навагрудку, і памёр, а пасля сябе пакінуў на Навагрудскім княжанні свайго сына Міндоўга".

Рынгольд пад Магільна выступаў з аб'яднаным войскам: з арганізаваным рыцарствам Літвы і Жамойціі. Жамойцкае войска ішло наперадзе, літоўскае — з правага боку, а атрады навагрудцаў — па цэнтру. Паводле некаторых крыніц навагрудскі князь Рынгольд пасля вяртання ў Навагрудак "уробил трех сынов, да нет вядома каковое дело из этих сынов было". Паводле іншых звестак, Рынгольд пасля бітвы вярнуўся ў Навагрудак і там памёр, не пакінуўшы нашчадкаў: "умре без плоду, тут ся доконал род княжати римского Полемона".*

---

*Прыгадаем яшчэ раз вышэй прыведзеную легенду аб высадцы ў вусці Нёмана нашчадка рымскай арыстакратыі Палямона, які быццам бы даў пачатак княжацкаму роду.

У некаторых летапісах паведамлялася, што паўднёварускія князі загінулі ў гэтай бітве, тады як па асноўнай версіі яны збеглі з поля бітвы і прыбылі ў Луцк.

— Перамога Рынгольда над татара-манголамі, — сцвярджае Л.М.Лыч, — мела вялікае значэнне для вызваленчай барацьбы славянскіх і іншых народаў, у тым ліку для будучай перамогі ў 1380 годзе на Куліковым полі.

Тут трэба адзначыць, што некаторыя даследчыкі, у тым ліку і М.І.Ермаловіч, не лічаць дастаткова даказанай гэту падзею. Ёсць меркаванне, што няўдалы паход да Навагрудка ў 1274 годзе і паражэнне валынскіх сіл у 1277 годзе маглі стаць асновай для версіі аб разгроме татара-валынскіх войск з пераносам месца бітвы на Нёман ля Магільна.

Пазней Магільна і замак належалі вялікаму князю Вітаўту, які ў 1410 годзе ў час Грунвальдскай бітвы з Тэўтонскім ордэнам кіраваў беларускімі палкамі. Затым замак перайшоў князям Кобрынскім.

Пра Магільна 1592 года мы маем даволі падрабязныя звесткі ў сувязі з праведзеным з выпадку смерці яго ўладальнікаў інвентаром, зробленым возным Менскага павета Васілём Рыгоравічам. Гэты інвентар затым “для лепшое певности уписан был да книг гродскіх менскіх”.

У ім ідзе падрабязны пералік пабудоў з дэталізацыяй варот, дзвярэй, клямак, запораў, дахавых пакрыццяў, пячэй. Ёсць пералік лаў, зэдляў, стулаў, “матарасаў”, келіхаў, конаў, лыжак, кніг.

У свірнах перапісаны кадкі з мёдам, катлы кухонныя, друшлякі, гаршкі, місы, паўмісы, талеры. Не забыты і жорны з млынарскім начыннем, лазня з сеньмі над сажалкай. На стайні ўлічаны два цугі па шэсць коней кожны. Пералічаны клячы, гусі, куры, павы, збожжа ў гумнах.

Ёсць пайменныя спісы ўсіх жыхароў Магільна, у тым ліку і па вуліцах на Нясвіж, на Лунна (Луніна) і трэцяй, назва якой не захавалася. Тут жа ім ўсім пазначаны павіннасці.

Далей пералічваюцца ўсе сёлы. якія ўваходзілі ў маёнтак: Касцяшы, Яршэвічы (Яршы), Міхалевічы, Маньковічы, Сверынава, Галавачы, Андрушы, Сямёнавічы, Быковічы, Наскі, Сісуны, фальваркі Святое (Святы Двор), Гваздоўшчына.

У другім дакуменце ад 1582 года ёсць спасылка на пасведчанне вознага аб арышце Ярошам Корсакам 30 лаштаў попелу, які быў складзены ў маёнтку Магільна ў двары Занькі Чабатара.

З часоў другога падзелу Рэчы Паспалітай, з 1793 года, Магільна ўвайшло ў склад Расійскай імперыі як мястэчка, цэнтр воласці Ігуменскага павета. З XIX стагоддзя Магільна — уласнасць князёў Вітгенштэйнаў.

У 1861 годзе ў мястэчку налічвалася 147 двароў, адкрылася народнае вучылішча. “Слоўнік геаграфічны…” сведчыць, што ў 1885 годзе ў Магільне было 150 двароў, 800 жыхароў. Яно мела прыхадскую царкву, яўрэйскую і валасную школкі, шпіталь. У Магільнянскую валасць тады ўваходзілі 33 вёскі з 1300 жыхарамі, якія ўтваралі пяць староств. Тут жа быў абсталяваны перавоз праз раку Нёман. У пачатку вясны ствáралася прыстань для вязкі плытоў таварнага лесу. Аб гэтым адзначана і ў дзевятым томе “Россия. Полное географическое описание”.

Па дадзеных “Слоўніка…” Бракгаўза і Эфрона ў канцы XX стагоддзя ў Магільне было ўжо 158 двароў і 923 жыхары. Але хаця мястэчка па тых мерках было даволі вялікае, як піша Р.Няхай, яго звалі няйначай як “Каракумы”. Кепска жылося людзям на пясках. Нікога не маглі пракарміць бедныя глебы. Змагаліся людзі за жыта і бульбу, авёс і лён. Ішлі на лясныя промыслы, на нарыхтоўку і сплаў лесу, палявалі або адлучаліся на работы ў гарады.

Адыходныя промыслы ў тыя часы былі шырока распаўсюджаны. Сяляне працавалі на будаўніцтве, рамонце чыгуначных дарог, цяслярствавалі. Паводле апісання Мінскага ваяводства 1795 года: “Жыхары наймаюцца для сплаўкі па рэках розных суднаў і плытамі рознага страявога і дравянога лесу, а таксама брусоў і дошак рознага калібру”. Акрамя гэтага, займаліся пчалярствам, смалакурэннем, гналі дзёгаць, выпальвалі з дроў попел. Попел, шчолак-паташ выкарыстоўваўся для вырабу мыла, фарбаў, шкла і вывозіўся па Нёмане ў Польшчу і Германію.

Шчаслівым, хаця і цяжкім часам для магільнянцаў, лічыўся сезон лесасплаву. За шэсць—сем тыдняў плытагоны дасягалі Балтыкі і вярталіся пехатой з заробкамі.

Так і коласаўскі дзядзька Антось —

Хадзіў на сплаў ён, на віціны,
Разоў са два схадзіў у Прусы —
Куды не трапяць беларусы?

У Магільне толькі чатыры гаспадаркі мелі па 3,5 гектара зямлі, а астатнія — па гектары. Цяжка было селяніну вырашаць супярэчнасці жыцця. З аднаго боку, для выканання цяжкіх сельскагаспадарчых работ традыцыйна патрабавалася вялікая сялянская сям’я, шмат дзяцей. З другога боку, сем’і раслі, а надзелы ўсё болей драбніліся. Мала ў каго хлеба хапала да вясны. Ішлі ў заробкі, аддавалі на работу нават дзяцей. Толькі ў чатырох хатах былі драўляныя падлогі. Асвятленне, як і 100 гадоў таму, давала лучына, рэдка — газоўка. Непісьменнасць была амаль усеагульнай з’явай. Нярэдка сяляне, асабліва маладыя, кідалі вёску назаўсёды — падаваліся на прамысловыя прадпрыемствы Украіны, ад’язджалі за мяжу ў далёкую Амерыку.

Рэвалюцыя 1917 года разбудзіла вёску. Многія сяляне пайшлі ў Чырвоную Армію, змагаліся на франтах грамадзянскай вайны.

Новае жыццё, новая культура прыйшлі ў Магільна ў савецкі час. Загадчыкам аддзела асветы і ваенкомам Магільнянскага валаснога рэўкома ў 1920—1921 гадах быў будучы беларускі савецкі пісьменнік случчанін Васіль Сташэўскі. Літаратар зноў вярнуўся ў Наднямонне і працаваў у 1922—1923 гадах настаўнікам у Уздзенскай сямігодцы. Вучнямі яго былі П.Глебка і П.Трус.

Магільнянцы-драмгурткоўцы з Народнага дома ў 1921 годзе давалі п’есу А.П.Чэхава “Мядзведзь”. У 1926 годзе Магільнянская камсамольская ячэйка паказвала спектакль у карысць забастоўшчыкаў-гарнякоў з Англіі. Ад спектакля было выручана і пераслана дапамогі 5 рублёў 50 капеек.

У 1929 годзе ў мястэчку ствараецца калгас, які вызначаўся высокімі прыбыткамі. Тут была пабудавана новая сямігадовая школа, а перад вайной і бальніца, у якой працаваў нават зубны ўрач. Дзейнічалі Народны дом і дзіцячыя яслі. У школе, якая затым перарасла ў сярэднюю, вучылася 337 дзяцей.

Непадалёк ад Магільна, на правым беразе Нёмана ля дарогі Узда—Магільна, да 1939 года дзейнічаў вялікі лесасклад з лесазаводам, з якога ў перадваенны час пастаўляўся лес на экспарт. Адсюль вузкакалейная чыгуначная лінія ішла да Комалава на магістральную чыгунку Мінск—Негарэлае непадалёку ад Коласава.

Шырокую падвоенную каляю не дазволілі будаваць палякі — яна лічылася прыгранічнай ракаднай* дарогай.

Сюды сплаўляўся лес па Выні, Тур'і, Неманцу, Усе, Лошы розных памераў і прызначэння. Быў і кароткі і карабельны даўжынёй згодна стандарта 17 метраў. На лесаскладзе ён бракаваўся замежнымі пакупнікамі і пры неабходнасці праходзіў першапачатковую апрацоўку, далей вывозіўся на чыгунку.

Аб маштабах гэтага прадпрыемства можна мець уяўленне паводле наступных лічбаў. Былы бухгалтар нёманскай веткі Павел Жук расказаў, што ў год за мяжу адсюль перапраўлялася каля 1,5 млн. куб. м лесу. На заводзе і складзе працавала пастаянна 450 і сезонна 300 рабочых. У 1930 г. сплаўлялася 40 тыс. куб. м лесу, на лесасплаве працавала да 100 чалавек, у тым ліку штатных — 67 чалавек.

Паблізу размяшчаліся 4 інтэрнаты, 18 чатырох- і васьмікватэрных жылых дамоў. Працавалі сталоўка, кантора, клуб. Была нават школа фабрычна-заводскага навучання. Акрамя Германіі лес адпраўляўся ў Гродна, Коўна, Кёнігсберг. Рудстойка ішла ў Польшчу і ў Венгрыю. Для немцаў перад вайной быў выкананы спецзаказ на 25 тыс. куб. м бярозы (можна не сумнявацца, што яна хутка вярнулася назад у Беларусь у выглядзе вінтовачных прыкладаў). Гэтыя пастаўкі знаходзіліся пад пільным кантролем многіх інстранцый. Лесазавод падпарадкоўваўся Уздзенскаму леспрамгасу. Яму быў прыдадзены Пухавіцкі транспартны атрад.

Пасля верасня 1939 года пабудовы, механізмы і чыгунку перавезлі на новую граніцу, у Ломжу. Туды пераехалі на першы час і многія людзі. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны яны дабіраліся, як маглі, на радзіму.

Пры сплаве многа лесу затаплялася. Кажуць, адзін руплівы чалавек з дапамогай самаробнага трактара выцягваў лес з Нёмана і збудаваў з яго добрую хату.

У час вайны ў ваколіцах Магільна разгарнуўся партызанскі рух.

У памяць аб ахвярах мінулай вайны ў Магільне ўстаноўлены помнік. У клубе СВК "Наднёман" ёсць мемарыяльная дошка, на

---

*Ракадная — паралельная ў дадзеным выпадку савецка-польскай граніцы, магла мець ваеннае выкарыстанне

якую нанесены імёны герояў — 18 камсамольцаў, удзельнікаў Лаўскага бою.

Сёння Магільна — цэнтр сельсавета і СВК "Наднёман", у ім 172 гаспадаркі, 497 жыхароў. За апошні час карэнных сярод іх паменшала. Тут размешчаны лясніцтва, сярэдняя школа, сепаратарны пункт, узведзены будынкі дзіцячага саду-ясляў, двух-, трох- і васьмікватэрных дамоў. У 1951 годзе пабудаваны вялікі мост праз Нёман. У вёсцы працуюць прыёмны пункт камбіната бытавога абслугоўвання, сельскі клуб, паштовае аддзяленне, аддзяленне ашчаднага банку, прадуктовы, гаспадарчы, кніжны магазін і інш. У сярэдняй школе праходзяць сустрэчы з цікавымі людзьмі, у першую чаргу выхадцамі з Уздзеншчыны.

Шмат таленавітых людзей выйшла з Магільна! На тэрыторыі сельсавета нарадзіліся пісьменнікі Ілья Гурскі і Алесь Пальчэўскі, дактары навук гісторык М.Я.Шкляр і географ А.Х.Шкляр.

Абрам Хаімавіч Шкляр (1910—1977) — выдатная навуковая постаць, вядомы беларускі кліматолаг, фенолаг, географ, эколаг, доктар геаграфічных навук, прафесар БДУ, аўтар дапаможнікаў па геаграфіі для вышэйшых навучальных устаноў, адзін са складальнікаў атласа нашай рэспублікі.

Міхаіл Яфімавіч Шкляр (1910—1978) — беларускі гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР. Адзін з аўтараў шматтомніка "Гісторыя Беларускай ССР" (т. 2, 2-е выд., 1961) і іншых прац.

У Магільным нарадзіўся і правёў дзяцінства вядомы і ўшаноўваемы на Захадзе мастак-імпрэсіяніст Яўген Зак (1884—1926).

Творчая адоранасць — сямейная рыса дзяцей жыхаркі Магільна Яўгеніі Сямёнаўны Лыч. На працы доктара гістарычных навук Леаніда Міхайлавіча Лыча мы ўжо спасылаліся. Шэраг яго даследаванняў выкарыстаны ў гэтай кнізе. Генадзь Міхайлавіч Лыч — доктар эканамічных навук, акадэмік НАН Беларусі, былы дырэктар Інстытута эканомікі АН Беларусі; Анатоль Міхайлавіч Лыч — эколаг, кандыдат навук, загадчык лабараторыі НАН Беларусі, рана пакінуў нас.

Сапраўдным носьбітам і захавальнікам беларускага фальклору стала сястра нагаданых навукоўцаў Лідзія Міхайлаўна Цыбульская, якая жыве ў в. Магільна. Глыбокае разуменне каштоўнасці

вусна-паэтычнай творчасці як помніка культуры і важнага фактару духоўнага жыцця нашых сучаснікаў падахвоціла Л.Цыбульскую час ад часу запісваць вядомыя ёй песні. Казачны рэпертуар фарміраваўся пад уплывам маці, добрай казачніцы і выканаўцы народных песень.

Л.М.Цыбульская ведае казкі ўсіх тэматычных накірункаў: пра жывёл (“Як лісічка па бабцы плакала”, “Піражок”), чарадзейныя (“Піліпка”), сацыяльна-побытавыя (“Па мех”) і інш.

Амаль ва ўсіх казках, якія яна расказвае на традыцыйны сюжэт можна знайсці нешта новае, незвычайнае, нечаканае — вынік творчай апрацоўкі вядомага матэрыялу. У казках Л.М.Цыбульскай адчуваецца схільнасць да апісання прыроды, этнаграфічных замалёвак. Вельмі ўдала і да месца ўключае Лідзія Міхайлаўна ў свае казкі песні. Расказваючы казку “Піліпка”, яна хараша спявае “Калыханку” і яшчэ некалькі песень. Тройчы паўтараецца песенька ў казцы “Як па ягадкі сястрычкі хадзілі”.

Слухаючы казкі ў выкананні Л.М.Цыбульскай, міжволі прыгадваюцца словы дарэвалюцыйных даследчыкаў аб “жывым” жанры. Гэтаму садзейнічае і творчы падыход да спадчыны, і мастацкая культура казачніцы.

Запісы творчасці Лідзіі Міхайлаўны Цыбульскай набыў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора імя К.Крапівы НАН Беларусі.

Будучы міністр аховы здароўя БССР, заслужаны ўрач БССР, прафесар Іван Анісімавіч Інсараў пачынаў сваю кар’еру яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны ў Магільнянскай бальніцы.

І яшчэ. Калі каму-небудзь давядзецца наведаць на пачатку вуліцы Вызвалення ў Мінску будынак Мінскага Епархіяльнага ўпраўлення, то ён напэўна будзе ўражаны прыгажосцю вонкавага зялёнага і кветкавага афармлення яго маленькага дворыка. З вялікім густам аздоблены раслінамі інтэр’еры будынка. Гэта ўсё вынік стараннага шматгадовага паслушэнства пад началам Уладыкі Філарэта выхадца з Магільнага Уладзіміра Шытыкі.

Гісторыя Магільна хоць і нялёгкая, але вельмі адметная і значная. Таму цяпер трэба прызнаць непрадуманай, паспешлівай і зусім неабгрунтаванай замену гістарычнай назвы вёскі “Магільна” на “Нёман”, здзейсненай у 1979 годзе.

Час ішоў, але ў побыце выкарыстоўвалася ранейшая назва. Жыхары Магільна прадаўжалі лічыць сябе магільнянцамі. Логіка пазбаўлення ад усяго, што звязана з тэрмінам магіла ў імя больш спакойнага і шчаслівага жыцця стала логікай падману. Яна была скіравана на сцвярджэнне новых штучных і ў многім змройных стэрэатыпаў, на перарванне адвечнага ланцугу жыцця. Тое перахрышчванне прызнавалася толькі людзьмі, якія не мелі на гэтай зямлі каранёў. Праўда стаяла за большасцю, думкі якой адлюстраваў у сваіх выступленнях мясцовы настаўнік Сяргей Чэх. Ён даказаў, што людзі спрадвеку сяліліся ля старажытных могільнікаў, таму і паселішчы атрымлівалі адпаведныя назвы.



Паслушнік Мінскага
Епархіяльнага ўпраўлення
Уладзімір Шытыка

У народзе ўсё, што звязана з пахаваннямі, у тым ліку і тапанімічныя назвы, не лічыцца непрыстойным, немілагучным. Наадварот, да месц вечнага спачыну, пагостаў у той ці іншай форме праяўляецца павага і нават пакланенне, яны наведваюцца і захоўваюцца. Так што немілагучнасць не магла стаць прычынай перайменавання гэтай вёскі.

Дарэчы, назвы населеных пунктаў, паходзячых ад слова “магіла”, раней былі даволі частыя. Я налічыў у “Слоўніку геаграфічным…” іх каля пяцідзесяці. Большасць іх адышла са знікненнем саміх населеных пунктаў, але ж нямала і такіх, што былі знішчаны планамерна скажонай логікай бюракратыі. Змест слова “магіла” болей багаты, чым многія ўяўляюць аб ім сёння. Курган-магіла — гэта першапачаткова не месца пахавання, а своеасаблівы тапаграфічны знак на мясцовасці. Ланцуг курганоў-магіл, ці інакш курганоў-панталыкаў, дазваляў беспамылкова арыентавацца на мясцовасці пры далёкіх перамяшчэннях. Збіцца з панталыку — азначала некалі згубіць у час падарожжа ці перамяшчэння арыенціроўку.



Родны краявід

Так ці інакш, жыццё прывяло да адкрытага пратэсту і патрабаванняў вярнуць былую назву вёсцы. У 1989 годзе адбыліся два бурныя сходы, якія выліліся ў амаль адзінадушную падтрымку гістарычнай назвы. Пры гэтам людзі знайшлі сувязь паміж гульнямі ў перайменаванні і пагаршэннем эканамічных паказчыкаў калгаса. Тут вельмі адназначна была даказана ўзаемазалежнасць вынікаў працы ад маральнага настрою сялян. Яны нам падказалі, што акрамя адносна невялікіх страт на замену старых шыльдаў, знакаў, бланкаў ёсць яшчэ сацыяльна-эканамічны прыбытковы эфект, які намнога перакрывае гэтыя страты.

Адначасова крытыкавалася дзейнасць вучоных і мясцовага настаўніцтва. У вёсцы жывуць і працуюць 362 сталыя жыхары, ёсць сярэдняя школа, клуб на 180 месц, але няма хаця б невялічкага музея. Адкуль жа чэрпаць веды пра мінулае, адкуль з’явіцца яго ўшанаванне?

Некаторыя канцылярска-бюракратычныя недакладнасці ў афармленні папер прывялі да неабходнасці правядзення па гэтаму пытанню ўсеагульнага рэферэндума ў вёсцы. Дзве трэці падалі голас за Магільна. Вынікі былі бясспрэчныя, і барацьба закончылася перамогай.

Як бы там ні было — часы мяняліся, і 6 сакавіка 1991 года Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР былая назва — Магільна — вернута вёсцы. Сельсавет, школа, бальніца і інш. — па-ранейшаму носяць назву нёманскіх.

...Першая палова воднага шляху з Магільна да былой савецка-польскай граніцы ідзе па адносна роўнай мясцовасці. З правага



Наднёманская прыгажосць

боку на пясчаных узвышэннях да ракі падыходзяць рэдкія сасновыя лясы. Адкрытыя вятрам дрэвы нізкаҡрослыя, разлапістыя нагадваюць нечым прыморскія. Усё часцей сустракаюцца вербы — дастойнае упрыгожванне Нёмана. Праз кіламетры тры ўзнікае лес і леваруч, на луках растуць дубы.

Мясцовасць уздымаецца, і мы зноў далучаемся да вельмі прыгожага куточка, мусіць, аднаго з самых цікавых на Міншчыне. На стромкі левы бераг "наступае" сасновы лес. Правы ж больш нізкі, парос ліставымі дрэвамі. Шмат дубоў, сустракаюцца і векавыя вольхі-волаты. Шырокая нябесная прастора адлюстроўваецца ў свабодным разліве ракі, вакол — яркая сакавітая зяляніна. Знаходзіцца гэта месца на палове шляху паміж вёскамі Магільна і Сверынава. Сюды лепей ісці пехатой.

Далей за гэтым цудоўным прыродным кутком ідзе невялікі прамы адрэзак рэчкі. З берагоў коцяцца ў ваду і хутка саслізгваюць углыб нейкія невялічкія жывёлінкі. І не дзіўна — тут ёсць выдры, бабры.

Лес разыходзіцца, адкрываюцца калярэчныя даліны з адзінкавымі дубамі. Праваруч у двух кіламетрах вёска Прусінава.

За ваколіцай Прусінава некалі стаяў на ўзгорку былы маёнтак графаў фон Гутэн-Чапскіх. Адзін з прадстаўнікоў гэтага роду віцэ-губернатар ноўгарадскі граф Эмерык фон Гутэн-Чапскі сабраў у сваім станькаўскім палацы знакамітую калекцыю манет і медалёў, а таксама вялікую бібліятэку. Ён сябраваў з дзедам Аляксандра Блока Львом Блокам. Той бываў у графа Эмерыка фон Гутэн-Чапскага ў Прусінаве і Станькаве. Прусінаўская сядзіба складалася з панскага дома, сада, бровара, карчмы, аранжарэі і цяпліцы для вырошчвання ананасаў (анасарні). Кажуць, дзівосныя плады адсылаліся нават на Парыжскую выстаўку.

Сын Эмерыка граф Карл фон Гутэн-Чапскі знаходзіўся з 1890 па 1901 год на пасадзе гарадскога галавы ў Мінску, зрабіў многа для добраўпарадкавання губернскага горада і развіцця ў ім культуры. Сын апошняга, як і дзед таксама Эмерык, збіраў розныя старажытнасці, у тым ліку карты і атласы.

Лёс сям'і графаў фон Гутэн-Чапскіх, адпаведна і іх вялікіх калекцый, бібліятэкі (каля 20 тысяч кніг) склаўся даволі драматычна. Хто пажадае глыбей вывучыць радавод графаў фон Гутэн-Чапскіх, таго напэўна чакаюць цікавыя адкрыцці.

Радаводамі графаў фон Гутэн-Чапскіх, іх гістарычнымі заслугамі займаецца наш вядомы пісьменнік, журналіст, гісторык, краязнавец, асветнік Анатоль Іосіфавіч Валахановіч, аўтар кнігі "Графы фон Гутэн-Чапскія на Беларусі", якая выйшла ў 2003 годзе.

І яшчэ да адной важнай старонкі нашай гісторыі далучылася Прусінава, як і ўся Уздзеншчына і Міншчына.

Тут, у шасці кіламетрах ад Магільна, рака робіць паварот управа і стварае вялікую дугу, звернутую сваёй вяршыняй на поўнач, агінаючую ўзвышша, некалі званае Магільнянскім. Менавіта з гэтага месца на дваццаці з лішкам кіламетрах рака была натуральнай прыроднай граніцай з Польшчай, а яшчэ раней — мяжой з Ігуменскім і Мінскім паветамі.

17 гадоў паблізу Прусінава паводле Рыжскага мірнага дагавору 1921 года праходзіла дзяржаўная граніца паміж Польшчай і СССР, амаль што паўтараючы месцамі лінію фронта Першай сусветнай вайны.

Своеасаблівы прыгранічны побыт адлюстраваўся і ў звычках мясцовых людзей. Аўтару гэтага выдання яшчэ ўдалося заста-

ць подых таго незвычайнага часу...



Прусінаўская пагранічная “лінаванка”

У Прусінаве, якое стаяла на самой граніцы, яшчэ не так даўно заставаліся сведкі таго часу: каменныя слупы і сляды фундаментаў на заходняй ускраіне вёскі, непадалёк ад былога маёнтка графаў фон Гутэн-Чапскіх і цяперашніх майстэрань. Іх нам у 1988 годзе паказаў мясцовы жыхар Іван Аляксандравіч Каралецкі. Гэта былі рэшткі былога будынку пагранічнай заставы, абсталяванай ў ранейшым вінным складзе і бровары графаў фон Гутэн-Чапскіх. Сёння тут усё ўжо разбурылася і адыйшло ў нябыт. Цяпер толькі здымкі канца 1980-х нагадваюць адыйшоўшае. Ды яшчэ назва галоўнай прусінаўскай вуліцы “Пагранічная” нясе на сабе ёмкі пераканаўчы напамін пра той нялёгкі час.

Наперадзе, за ўзгоркам, за мяжой-тропам былой граніцы, мясцілася польская стражніца — “белы дом”. Мірны закінуты куток, той груд, дзе яна стаяла, — апошні след былога. Цяпер тое месца заўважыць далёка не кожны.

Наша падарожжа па ўскрайку Прусінава завяршылася аглядам вытокаў некранутай пакуль ручаінкі-рачулкі Мутвіцы, што нараджаецца тут з дзесятка крыніц. Яна непадалёк ад вёскі упадае ў Нёман.

Асоба І.А.Каралецкага адзначана нейкай стрыманай мудрасцю і міжволі прыцягвае да сябе ўвагу. Адразу ж прыкмячаецца яго неардынарнасць. Немногаслоўны, няспешны, вельмі ўважлівы да другіх. У яго выпадковых субяседнікаў міжволі ўзнікае думка аб няпростай яго жыццёвай дарозе.



Галоўная вуліца ў Прусінаве носіць і зараз назву “Пагранічная”



Фрагменты былой пагранічнай заставы



Сляды былой польскай стражніцы

Так яно і ёсць. Нарадзіўся І.А.Каралецкі ў Прусінаве ў 1927 годзе. Пасля арышту ў 1937 годзе яго бацькі як “ворага народа” старэйшы дзесяцігадовы сын працаваў у калгасе, усклаўшы на сябе турботы аб усёй сям’і.



У ваколіцах Прусінава. А. Александровіч і І. Каралецкі

У 1943-м, у час вайны, фашысты схапілі юнака і адвезлі ў Германію на работы. Там ён працаваў у баўэра ва Усходняй Прусіі. Вярнуўшыся, зноў працаваў у калгасе. А тут яшчэ падыйшоў прызыў у армію. Зволіўся ў запас камандзірам танка ў званні старшыны і застаўся жыць, дзе служыў — на Далёкім Усходзе. Штогод наведваў Прусінава. Прайшлі гады, браты і сёстры раз’ехаліся хто куды. Будучы ўжо пенсіянерам І.А.Каралецкі вырашыў вярнуцца ў Прусінава да маці. Праз нядоўгі час застаўся адзін.

Вось менавіта тады мы яго сустрэлі ў сваёй вандроўцы. І.А.Каралецкі расказаў нам з А.Я.Александровічам усяго толькі пра нямецкую няволю.

Пазней І.А.Каралецкі вымушаны быў па хваробе дажываць свае гады ў Нясвіжскім доме-інтэрнаце для інвалідаў. Ад нашай сустрэчы засталася не вельмі выразная фатаграфія з яго ўдзелам.

Нешта падобнае адбылося і з В.Л.Крэмезам з вёскі Каменка, якога пад час аблавы схапілі немцы. Васіль Лук’янавіч прайшоў лагер ў Шчэціне, Нямеччыну, Осла, Берген, Ардальстанген, зноў Осла, Швецыю, Выбарг, Мурам, Уладзівасток, Усць-Камчатку. Толькі праз пяць гадоў вярнуўся ён у сваю вёску Каменку.

Усяго з Уздзеншчыны было вывезена на катаржныя работы ў Германію 546 чалавек, у асноўным моладзь.

Часам здавалася, што тут нічога не напамінае пра былы падзел не толькі тэрыторый, але і ідэалогій, маралі, поглядаў, вобразаў

жыцця. Прыбярэжная трава сакавітая і водарная, лугі багатыя і квяцістыя, як і ў даваенныя гады. Толькі ўздоўж граніцы тады былі расстаўлены пагранічныя слупы. Калі хто пераходзіў на наш бераг, то ажывалі бліжэйшыя хмызнякі, адсякаўся шлях назад, парушальнік затрымліваўся. Але ў любым выпадку наша вінтоўка павінна была быць скіравана ствалом на ўсход, каб выпадковая куля не трапіла на чужы бок.

Пагранічныя заставы і пасты былі заўсёды фарпостамі, яны стрымлівалі ворага, прымалі на сябе першыя ўдары. Кожны баец ведаў і адчуваў, што парушальнік, дыверсант, тэрарыст, шпіён нясуць бяду. Усё гэта было суровай рэальнасцю.

...Наш рубеж акованы гранітам
І напят, як тонкая струна.
Ды спрабуй тую струну крані ты —
Адзавецца гукам перуна.
А пакуль спакойны зараніцы,
П’юць расу палеткі на зары —
Сцерагуць свяшчэнную граніцу
Ўсе таварышы, усе мае сябры!

пісаў перад вайной паэт Леанід Гаўрылаў.

Граніца стаяла на замку. Пагранічнікі выконвалі свае абавязкі, гарантавалі жыццё і мір краіне. Яны жылі адзінымі думкамі і пачуццямі з тымі, хто мацаваў тыл. Вайны не баяліся, але ж і не хацелі яе. “Чужой земли мы не хотим ни пяди, но и своей вершка не отдадим!” — гэта былі не толькі словы папулярнай па таму часу песні.

Ни ночью, ни ранней зарею
Врагу не нарушить границ…

Аб тым часе варта расказаць болей падрабязна. У літаратуры і ў мастацкіх творах даваеннае пагранічча амаль не выяўлена. Болей таго, гэты перыяд старанна замоўчваўся.

У выніку савецка-польскай вайны 1920 года і Рыжскага мірнага дагавору ад 18 сакавіка 1921 года Заходняя Беларусь перайшла пад уладу Польшчы. Падзел з Польшчай праходзіў як раз па заходняй граніцы сённяшняй Уздзеншчыны на працягу 38 кіламетраў. Уздзенскі адрэзак граніцы па поўначы пачынаўся ад перасячэння з чыгуначнай дарогай Мінск—Брэст усходней станцыі Коласава, якая



На былой савецка-польскай граніцы

адносілася ўжо да польскай тэрыторыі, і ішоў амаль на поўдзень праз лес да Прусінава, пакуль не ўпіраўся ў Нёман (каля 10 км). Далей граніца працягвалася каля 26 кіламетраў па рацэ. Непадалёку ад Русаковічаў насупраць вёскі Язвіны паварочвала на поўдзень і праз 2 кіламетры пераходзіла на Капыльшчыну, становячыся яе заходняю мяжою. Як відаць, у межах Уздзеншчыны дзве трэці дзяржаўнай граніцы прыпадала на натуральную мяжу — раку Нёман.

На пагранічнай карце гэта былі адзнакі: на поўначы — 780 км, на поўдні — 818 км.

Адпаведна на абодвух баках былі абсталяваны пагранічныя ахоўныя пункты: з нашага боку — заставы, з польскага — стражніцы. Пераліку нашых застаў адшукаць не ўдалося, а стражніцы мясціліся з поўначы на поўдзень у такім парадку: у Смалярні, Сафонаве, Лугавой, Іл́аве, Паласнянскім лесе.

Што ж можна было ўбачыць і адчуць, наблізіўшыся да граніцы? З нашага боку стаялі дзяржаўныя паласатыя чырвона-зялёныя пагранічныя слупы. На чыгунных дошках быў герб з сярпом і молатам і чатырма літарамі “Б.С.С.Р.”. Такі знак можна пабачыць і сёння ў Цімкавіцкім школьным пагранічным музеі.

З польскага боку слупы былі з малінава-белымі палосамі і выявай герба белага арла з надпісам “Rzecz Pospolita Polska”.

Прамежак зямлі паміж процілеглымі слупамі складаў роўна тры метры.

Адпаведна на нашым боку паставыя насілі ахоўнага колеру палявую ваенную форму з зялёнымі пятліцамі і з такім жа верхам шапкі-фуражкі. Зімой — кажухі, валёнкі, калі трэба было — лыжы. І знакамітыя трохлінейкі ў руках ці карабіны, калі былі на конях.

На тым баку шэра-зялёная уніформа, канфедэраткі.

Да граніцы прывыкалі, склаўся своеасаблівы прыгранічны лад жыцця. Усё часцей граніцу сталі зваць на польскі лад “кардонам”. Шырока выкарыстоўваўся характэрны выраз тых часоў “пайсці на кардон”, “пайсці за кардон”.

Некалькі слоў пра сістэму і структуру пагранічнай аховы, якая была ўвесь час у развіцці.

Спачатку ахова дзяржаўнай граніцы на Беларусі была ўскладзена на войскі Заходняга фронту, затым з 1924 года — на Заходнюю ваенную акругу. З 1922 года службу тут неслі 5-ы і 163-і стралковыя палкі. Яны сталі асновай для першага пагранічнага палка. З яго выдзеліўся потым асобны батальён, які ахоўваў участак у раёне Магільна—Коласава—Паланевічы—Лучыцы—Заслаўе—Радашковічы.

У верасні 1922 года было прынята рашэнне стварыць Асобы пагранічны корпус, які перадаваўся ў падпарадкаванне ГПУ, і выйшла пастанова аб узмацненні барацьбы з кантрабандай, бо яе паток значна вырас.

У лютым 1924 года ствараецца пагранічная Заходняя акруга, перайменаваная пазней у Беларускую.

У Беларусі, як сведчыць даследчык М.М.Акаловіч, мясцілася 7 пагранічных атрадаў (з поўначы на поўдзень): 12-ы Бігосаўскі, 13-ы Полацкі, 14-ы Плешчаніцкі, 15-ы Заслаўскі, 16-ы Койданаўскі, 17-ы Цімкавіцкі і 18-ы Жыткавіцкі.

Структурнае падпарадкаванне ішло ад акругі на атрады (палкі), далей на камендатуры і заставы. Камендатура кантралявала і тылавую тэрыторыю на глыбіню прыкладна 10—15 кіламетраў і рэгулявала на ёй прыгранічны рэжым. Для гэтага меліся пры штабах камендатур мабільныя групы.

На атрад у сярэднім прыходзілася 150—170 кіламетраў граніцы. Пад Магільна, дзе размяшчалася камендатура, быў сутык з сусед-



Святкаванне Першага Мая на мяжы з Польшчай, 1923 г.

нім Цімкавіцкім атрадам, на які прыходзілася 154 464 м граніцы, 4 камендатуры, 19 застаў. Нумары пагранічных слупоў адпаведна былі ад 832-га да 1063-га.

У пачатку 1925 года асобы батальён Беларускага пагранічнага атрада ператварылі ў 16-ы пагранічны атрад. Месцам яго дыслакацыі было вызначана Койданава. Пасля перайменавання ў 1932 годзе Койданава ў Дзяржынск адпаведна атрад атрымаў назву Дзяржынскага.

У 30-х гадах у прыгранічных акругах часта праводзіліся буйныя ваенныя вучэнні і манеўры.

Рэжым аховы станавіўся ўсё боле жорсткім. Манеўраныя групы ператварыліся ў баявы рэзерв пагранічных атрадаў. Узніклі кантрольна-следавыя палосы (КСП). Як гэта пачыналася?

Дакументы сведчаць, што восенню 1931 года ваенфельчар пагранатрада Дзярко і баец Гараднічы ішлі берагам Нёмана. На флангу адной з застаў сяла Луніна Уздзенскага раёна калгаснікі разаралі берагавы прынёманскі луг пад канюшыну. Зрабіўшы каля дзесяці баразён, яны работу спынілі, і засталася на беразе вузкая паласа свежай зямлі.

Гараднічы заўважыў на ёй сляды. Ваенфельчар заўважыў такія ж сляды і каля вады. Яны пачалі праследаваць парушальніка і затрымалі яго на ўскрайку лесу.

Узнікла думка: а ці нельга такую паласу ўзараць і на другім флангу заставы? Іх прыкладу паследавалі і суседзі. Потым узараная паласа прыцягнулася ўздоўж усяго ўчастка камендатуры. Хутка яна ахапіла ўсю заходнюю граніцу. Каля Прусінава (7-я застава) паласа ішла па сучаснай дарозе-лінаванцы на Коласава. Далей да ўпадзення ў Нёман яе перахоплівала першародная крынічная рачулка Мутвіца. Гэта ўжо 1935 год.

Спачатку і да 1927—1928 гадоў праз граніцу ў Польшчу і назад хадзілі даволі свабодна. Пад націскам заходніх дзяржаў польская дыфензыва ўзмацняла засылку сваіх агентаў. Адначасова пашыраўся кантрабандызм.

Толькі ў 1925—1926 гадах заходнія пагранічнікі затрымалі 32 160 кантрабандыстаў і адабралі тавараў на суму 5805 тыс. рублёў. У 1929 годзе на ўчастку 17-га Цімкавіцкага пагранічнага атрада былі затрыманы 394 парушальнікі граніцы, з іх 196 — агенты замежных разведак. Заставамі Заслаўскага атрада ў 1931 годзе затрымана 1412 парушальнікаў і адабрана кантрабанды на 708 тыс. рублёў.

Сумесна з камандзірамі, парторганамі, мясцовымі арганізацыямі камандаванне пагранічных войск займалася ўмацаваннем, як тады казалі, “баз садзеяння”, у якія ўключаліся прадстаўнікі рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыі. З імі вялася адпаведная прапагандысцкая, арганізатарская і выхаваўчая работа.

“Ахова граніцы, яе непарушнасць — агульная справа ўсіх”, — так разумелася пагранічная сітуацыя на Уздзеншчыне. Граніца паміж Захадам і Усходам была і яскравым палітычным процістаяннем, што асабліва падкрэслівалася нашым бокам.

Шлях праз Негарэлае — галоўны шлях Савецкай краіны на Захад. Дзяржаўная граніца была ў 12 кіламетрах ад вакзала. На перагоне да Стоўбцаў ляжалі два пуці з рознай шырынёй каляіны. З Негарэлага адпраўляліся цягнікі “Негарэлае—Хабараўск”, “Негарэлае—Уладзівасток”, “Негарэлае—Іркуцк”, “Негарэлае—Манчжурыя”. З польскага боку хадзіў цягнік “Стоўбцы—Пекін”.

Асабліва ўрачыста адбываліся сустрэчы прыбываўшых з захаду вядомых людзей на першай нашай чыгуначнай станцыі ў Негарэ-

лым. У 1928 годзе Максім Горкі пры вяртанні з Сарэнта, з Італіі, быў да глыбіні душы крануты сардэчнай сустрэчай, аказанай яму пагранічнікамі. У 1931 годзе Максіма Горкага зноў сустракаў ганаровы каравул. Пісьменнік гутарыў з пагранічнікамі. Усяго ён праязджаў праз Негарэлае чатыры разы. Дарэчы, у Негарэлым упершыню быў запісаны на грампласцінку яго голас.

Уладзімір Маякоўскі пад уражаннем беларускіх краявідаў напісаў:

На горизонте —
белое,
Снега
и Негорелое…

Праязджалі тут і заходзілі ў вакзальныя памяшканні Негарэлага Ф.Шаляпін, І.Бунін, А.Купрын, А.Талстой, А.Фадзееў, В.Вішнеўскі, Ю.Фучык, Р.Ралан, А.Барбюс, А.Серафімовіч, Ф.Гладкоў, Г.Уэлс, М.Кальцоў, падарожнікі Ф.Нансен, О.Шмідт, лётчыкі В.Чкалаў, Г.Байдукоў, А.Белякоў і многія іншыя. Больш за гадзіну перад сустракаючымі выступаў амерыканскі спявак Поль Робсан. Яшчэ нядаўна былі жывыя тыя, хто слухаў яго канцэрт.

Праз Негарэлае ў 1936 годзе прайшлі саставы з экспанатамі на сусветную выстаўку ў Парыж. На платформах была копія скульптурнай групы Веры Мухінай “Рабочы і калгасніца”. Пасля заканчэння выстаўкі скульптурная група была вернута ў СССР і ўстаноўлена ў Маскве на тэрыторыі ВДНГ СССР.

Замежныя цягнікі фарміраваліся ў Парыжы. Па дарозе да іх далучаліся вагоны на Далёкі Усход. Прыбыцця парыжскага цягніка ў Негарэлым чакаў кур’ерскі цягнік да станцыі “Манчжурыя” на тэрыторыі Кітая.

У адным з пакояў чыгуначнага вакзала Негарэлае працуе музей гісторыі і працоўнай славы станцыі Негарэлае. Экспазіцыя музея і яго афармленне распрацаваны пры актыўным удзеле А.І.Валахановіча.

Першым 7-ю Прусінаўскую пагранзаставу ўзначальваў А.В.Пякарскі, палітруком заставы быў З.В.Блюмін. Нашчадак апошняга, Г.З.Блюмін, як карэспандэнт часопіса “Огонек”, разам з шэфамі вёскі — Беларускім аптычна-механічным аб’яднаннем імя С.І.Вавілава — стварыў у Прусінаве Музей былой пагранічнай за-

ставы і гісторыі вёскі. У ім прадстаўлены матэрыялы пра вядомых ураджэнцаў вёскі.

І да гэтага часу не пакідае яго зацікаўленасць лёсам Прусінава. Яго звязвала дружба з ураджэнцам вёскі Алесем Пальчэўскім. Масквіч Георгій Зіноўевіч Блюмін не абмяжоўваецца праблемамі былога пагранічча. Ён, доктар тэхнічных навук, прафесар, выступіў і даследчыкам агульнай гісторыі гэтых мясцін — радзімы яго продкаў. Тут на мясцовых могілках пахавана яго бабуля. Ён вывучае радаводныя карані графа Эмерыка фон Гутэн-Чапскага і яго жонкі Эльжбеты з Меендорфаў. Працуе многа, выдаецца. Беларусі прысвяціў кампетэнтнае краязнаўчае даследаванне “Царская дарога” з аднайменным раздзелам па гісторыі пагранічча. Ад нас атрымаў першае выданне “Пуцявінамі Наднямоння”, чакае наступнае, перапрацаванае выданне. Яго падарожжам актыўна садзейнічае А.І.Валахановіч. У 2007 годзе ён наладзіў Г.З.Блюміну экскурсію па Станькаўскаму ключу з заездам у вёску Прусінава для ўстаноўкі крыжа на магіле яго бабулі.

Служба на граніцы была небяспечнай. Нарады, якія складаліся, як правіла, з двух байцоў, хадзілі ўздоўж граніцы па ім толькі вядомых сцяжынках у лесе, праз балоты, па мастках, кладках, арыентуючыся па буграх, незвычайных асобных дрэвах, закінутых хутарах, леснічоўках, смалярнях. Найбольшая пільнасць і ўвага была на золку, самым прыдатным часе для парушальнікаў. Здаралася, у час сутычак былі і параненыя, і загінуўшыя.

На ўчастак Цімкавіцкага пагранатрада прыходзілася найбольш здарэнняў. Так, уначы 4 жніўня 1933 года адбылася жорсткая схватка з парушальнікамі граніцы. За мужнасць, праяўленую ў баі 30 кастрычніка 1938 года, Ф.Найдзёнаў і Р.Кафанаў атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды. Пазней, 17 верасня 1939 года, Р.Кафанаў загінуў ад рук дыверсантаў. Ён пахаваны ў Цімкавічах. Яго імя насіла 5-я пагранзастава.

Сур’ёзная дыверсія адбылася 23 чэрвеня 1939 года. Дыверсанты прарваліся праз граніцу і дабраліся да вёскі Шыбіна, уварваліся ў хату Паўла Баня і забілі яго. Сын яго Мікола Бань выклікаў пагранічнікаў. Ужо ў час Вялікай Айчыннай вайны партызан М.Бань упусціў у ваду пры пераправе праз раку ўзнагароду за

гэты ўчынак — ордэн “Знак Пашаны”. Як сведчыць А.Махнач, пасля вайны гэты ордэн мужнаму юнаку Міколу Баню быў узноўлены.

Асабовы састаў пагранзастаў прымаў актыўны ўдзел у мясцовым жыцці. Камандзіры агітавалі сялян у калгасы. Як раз у пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя наступіла рэзкае абвастрэнне абставін. Камандзіры і байцы выязджалі на сходы ў вёскі, дзе тлумачылі палітыку партыі. Можа таму калектывізацыя ў прыгранiччы прайшла ў адносна кароткі тэрмін.

Затым пагранічнікі бралі шэфства над калгасамі: яны ўдзельнічалі ў сельскагаспадарчых работах, дапамагалі ў рамонце сельскага інвентару. Пагранічныя гаспадаркі былі, як правіла, лепшыя. Гэта не выпадкова. Трэба было паказваць прыклад польскаму селяніну, які ўважліва сачыў за пераменамі ў нашым жыцці.

На Міншчыне, як прыгранічнай вобласці, у гарадах і сёлах праходзілі масавыя мітынгі пратэсту, морам чырвоных сцягоў пярэсціліся вуліцы. Ішоў збор сродкаў у карысць МОПРа, на авіяэскадрыллю “Наш адказ Чэмберлену”. Дзеці Кастрычніка — піянеры ў чырвоных гальштуках хадзілі са скарбонкамі, распаўсюджвалі патрыятычную літаратуру. Ніхто не забываўся, што за Негарэлым і Заслаўем, за Плешчаніцамі і Капылём нашы аднакроўныя браты-беларусы вядуць барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Жыхары Міншчыны ўсведамлялі, што жывуць на граніцы, адчувалі ўсю адказнасць перад радзімай.

Масіраваная і ўсё ўзрастаючая прапаганда, бесперапыннае паднясенне насельніцтву вобраза ворага мелі і адмоўны бок. Чалавек мог быць лёгка западозраны толькі за тое, што прайшоў, не павітаўшыся (хоць уздзенцы пасля вайны яшчэ, сустрэўшы незнаёмага чалавека, віталіся, як правіла, першыя: такім быў іх адвечны звычай). Але тут у абставінах бязмежнай усеагульнай падазронасці небяспека перабольшвалася. На жаль, неабходныя перасцярогі ў адносінах да перабежчыкаў, шпіёнаў, кантрабандыстаў непамерна доўга заставаліся ў свядомасці мясцовых сялян, а мясцовыя ўлады мала рабілі для таго, каб развеяць гэты недавер у наступныя 50 гадоў. Нам даводзілася ўжо ў 80-х гадах XX стагоддзя, фатаграфуючы ці пытаючыся ў старэйшых, як праехаць ці прайсці, чуць зусім сур’ёзна: “А вы часам не шпіён?”.

Цікава сёння чытаць пагранічныя замалёўкі тых часоў. Яны нязменна псіхалагічна абвостраныя. Уступ у іх, як правіла, аднолькавы. Напачатку аўтару здаецца, што і граніцы тут ніякай няма. Той жа лес, тое ж балота, той жа дождж, тая ж цішыня, як і ў іншых месцах. Чалавеку на граніцы як нідзе цяжка ўявіць. як ціха тут па вечарах і ўначы. Яна, гэта цішыня, як перанацягнутая струна, здаецца, зачапі — і парвецца. Гэта цішыня здрадніцкая, чорная, як душа ка́та, як змяінае жала кулі, нож дыверсанта.

Сапраўды, новаму чалавеку здаецца, што там, за той парай слупоў, ужо зусім іншы і ў многім чужы свет. А вонкава гэта не пацвярджаецца. Нават пеўні праз кардон кукарэкаюць як свае. А вось калі ноччу загагоча пугач, то гэтым гукам не трэба давяраць. Пагранічнікі добра ведалі павадкі звяроў, птушак. Чалавек на граніцы быў у акружэнні прыроды.

Каля граніцы не праводзіліся вялікія гападарчыя работы, не высякаўся лес, не асушваліся балоты, на звера не палявалі. У падпарадкаванні камендатур існавалі нават водаахоўныя тэрыторыі.

Прыгажосць Наднямоння прыцягвала прыехаўшых сюды здалёк хлопцаў. Але яны ў любую пару года, сутак моцна трымалі руку на курку вінтоўкі. “Прывычна прыслухоўваецца баец скрозь камарыны звон і ўсплёскі рыб, падоўгу наглядае за жамчужным россыпам месячных водблескаў на водным люстэрку. Глядзіць на адлюстраванне зорак у застылай рачной раўніне. Палюбіўся байцу гэты край (камары толькі дапякаюць па начах). Палюбіўся лес, магутны, замшэлы, з гарамі шматгадовага павалу і бураломy, з непраходнымі нетрамі. Палюбіліся балоты — прытулак усякай дзічыны, і рэчка, і ласіны крык у глухую ноч...”

На заставах збіраліся ўсе маладыя — і байцы, і камандзіры. Усе былі моцныя, жыццерадасныя. Асаблівым клопатам заставы былі коні. Па стану коней, стайні, павозачных памяшканняў (хай толькі будуць не пабелены!) меркавалі аб гатоўнасці ўсёй заставы. І яшчэ былі ўсеагульныя любімцы — сабакі. Без іх і ахова граніцы была не такая надзейная і жыццё заставы меней змястоўнае.

Жыла застава на самаабслугоўванні. Самі нарыхтоўвалі дровы, пілавалі і калолі іх. Самі збіралі і салілі грыбы. Самі нарыхтоўвалі ў калгасах харч. Электрычнасці тады не было. Агеньчык газоўкі далёкай заставы зорка ўглядаўся ў начную цемру і быў добрым

арыенцірам. Рабоце на начным двары, у стайнях дапамагалі "лятучыя мышы".

Не было перапынку ў службе. Заняткі па агнявой, тактычнай, страявой, фізічнай падрыхтоўцы ішлі адны за аднымі. Асаблівая ўвага надавалася падрыхтоўцы каманднага саставу.

У начальніка заставы знаходзілася карта ахоўваемага ўчастка граніцы, тэлефон, партрэт Ф.Э.Дзяржынскага ці В.Р.Мянжынскага.

Кватэры камандзіраў тут жа, побач з кардонам, у невялікай асобнай хатцы. Сем'і камандзіраў жылі на граніцы. Яны таксама ўвесь час знаходзіліся пры справе, вучылі байцоў грамаце.

На заставах заўсёды было шмат кветак. Насенне выпісвалі з Мінску. Адсюль кветкі разыходзіліся па вёсках, якія ляжалі ўздоўж граніцы.

Пагранічнікам спадарожнічалі песні, адсюль яны распаўсюджваліся па ўсяму наваколлю. Завезлі на пагранічча некалі модную "Сербіянку". Яе пелі і танцавалі амаль усе. На ўлонні прыроды добра ўспрымаліся вершы А.Пушкіна, Я.Коласа...

Пагранічнікі часта сустракаліся з мясцовай моладдзю. Ведаць усіх у акрузе аж за 20 кіламетраў ад мяжы было іх службовым абавязкам. Вясёлыя танцы на беразе рэчкі звычайна заканчваліся сумесным смачным пачастункам.

Не абыходзілі ўвагай пагранічнікаў і вядомыя пісьменнікі, дзеячы мастацтва. У Цімкавічы, напрыклад, прыязджалі Л.Уцёсаў, М.Зошчанка...

Абавязковы элемент пагранічных застаў — бібліятэкі, клубы, кінаўстаноўкі, У чырвоных кутках гучалі першыя радыёпрыёмнікі. Выяўляліся таленты, праяўляліся музыканты, паэты, мастакі, спевакі. Спартыўныя мерапрыемствы займалі ці не галоўнае месца. Уздзенскія заставы ўдзельнічалі ў прабегу на айчынных веласіпедах уздоўж граніцы СССР. Праводзіліся зорныя прабегі з беларускіх застаў у Мінск.

У Прусінаўскай карчме пагранічнікі арганізавалі Народны дом, на сцэне якога ставіліся спектаклі для мясцовых сялян.

Але так ці інакш уся работа падпарадкавалася баявому рэжыму заставы. Тыя ж жонкі камандзіраў выдатна стралялі. Калі па трывозе іншы раз і повар спяшаўся з вінтоўкай на здарэнне, стравы даварвалі жанчыны з вінтоўкамі каля печы.

Некаторыя пагранічнікі на граніцы знаходзілі сваё асабістае шчасце. На мясцовай жыхарцы ажаніўся начальнік Прусінаўскай заставы В.Пякарскі, тут адшукаў сабе жонку і яго палітрук З.В.Блюмін.

Так вось і жыло уздзенскае прыгранічча ў 20—30-х гадах ХХ стагоддзя. На жаль, мы заўчасна адракліся ад павагі да тых часоў. Нічога дзіўнага: да 1939 года гэта граніца лічылася несправядлівай, таму належала як мага хутчэй гэтай несправядлівасці пазбыцца.

17 верасня 1939 года перад пагранічнікамі была пастаўлена задача расчысціць шлях для савецкіх войск, заняць масты, пераправы, стражніцы. У 4.00 раніцы на ўсім савецка-польскім адрэзку ўдарныя групы пагранічных войск прыступілі да выканання задання: займалі будынкі стражніц, раззбройвалі польскіх салдат.

У Мікалаеўшчыне нашых пагранічнікаў на местачковай плошчы сустракала каля тысячы жыхароў. У гонар вызваліцеляў была ўзведзена трыумфальная арка.

З гэтага часу Уздзенскі раён перастаў быць пагранічным. Аднак 16-ы пагранічны атрад у Дзяржынску заставаўся. А.А.Аляксееў пісаў: “Хоць 16-ы пагранічны атрад стаяў на старой граніцы, па лініі зоны пагранічнай загароды Радашковічы—Заслаўе—Негарэлае—Цімкавічы—Чырвоная Слабада, хаця да граніцы было болей за 400 км, вайна пачалася для нас таксама 22 чэрвеня”.

Суседні 15-ы пагранічны атрад з Заслаўя перабраўся на захад, а яго участак аховы перадалі 16-му палку. Штаб гэтага атрада заставаўся ў Дзяржынску. У мястэчку Радашковічы была камендатура.

У Маскве ёсць Музей пагранічных войск. Напэўна, там знаходзіцца нешта цікавае і пра нашу Уздзеншчыну. Ёсць там матэрыял і пра 16-ы Дзяржынскі пагранічны атрад.

Асобна ад пагранічных структур, як паўсядзённых ахоўных на працягу граніцы, ішлі ўмацаваныя раёны (УРы), прадназначаныя для вядзення абароны падчас ваенных дзеянняў.

Тэрыторыя Беларусі разглядвалася тады як адна з галоўных арэн маючых адбыцца ваенных дзеянняў. Асновай фартыфікацыі лічылася не столькі ахова пагранічный мяжы і крэпасці на ёй, колькі ўмацаванні з батальённымі раёнамі абароны. Глыбіня зоны дзеяння УРаў складала 1,5—3 км ад мяжы. Пазней асновай УРаў сталі вузлы абароны (ВА) з кругавой сістэмай абароны. Глыбіня УРаў павялічылася да 5—6 км.

Савецкі Саюз пабудаваў уздоўж заходніх граніц у 1928—1939 гадах 23 раёны ад Карэліі да Чорнага мора на працягу 2 тыс. км, праходзячых сёння пад назвай “Лініі Сталіна”. Цяпер на “Лініі Сталіна” можна ўбачыць, якая ж была граніца і яе фартыфікацыйныя ўмацаванні ў міжваенны перыяд на савецка-польскай граніцы СССР.

5 з іх знаходзіліся на тэрыторыі Расіі, 14 — у Украіне, 4 — у Беларусі.

На тэрыторыі Беларусі ў 1928—1934 гадах былі ўзведзены Полацкі, Мазырскі, Мінскі і Слуцкі УРы, уключаючыя каля 800 фартыфікацыйных аб'ектаў. Самым вялікім і магутным з усіх быў Мінскі УР. План яго будаўніцтва быў зацверджаны ў 1932 годзе па лініі Окалава, Плешчаніцы, Жукаўка, Заслаўе, Койданава, Станькава ў складзе 327 фартыфікацыйных даўгачасовых адзінак агнявых збудаванняў: кулямётных дотаў, артылерыйскіх паўкапаніраў, стацыянарных танкавых вежаў Т-26, рассяроджаных на працягу 140 км ад Плешчаніц да Дзяржынска (па 2,1 збудаванні на 1 км фронта).

У чэрвені 1938 года пачалося даўмацаванне Мінскага УРа. Планавалася ўзвесці дадатковы вузел абароны на левым флангу ў раёне Магільна з асобным апорным пунктам на рацэ Уса для прыкрыцця накірунку на Узду. У гэты час былі ўзведзены даўгачасовыя аб'екты ў раёне вёсак Саковічы, Паланевічы, Луніна, Магільна. Работы ў раёне Прусінава, Юльянавічы, Ляхавічы знаходзіліся на пачатковай стадыі.

Апошнім узводзіўся Слуцкі УР.

У кастрычніку 1940 года на лініі былой дзяржаўнай граніцы быў сфарміраваны 63 Мінска—Слуцкі УР. У гэтым жа годзе ў Заходняй асобай ваеннай акрузе ў трох УРах на старой дзяржаўнай граніцы мясцілася 856 доўгачасовых фартыфікацыйных збудаванняў (440 з іх у Мінска—Слуцкім УРы), ахову якіх забяспечвалі 4 асобыя батальёны.

У 1940 годзе ў Заходняй АВА пачалося ўзвядзенне яшчэ чатырох УРаў — Гродненскага, Асавецкага, Замброўскага і Брэсцкага.

Ад тых часоў у Беларусі захавалася каля 1000 фартыфікацыйных збудаванняў.

Да апошняга часу пра падзеі і рэжым прыгранічнай зоны амаль што не было сістэматызаванай інфармацыі. Толькі праз 75 гадоў



Артылерыйскі монстр у прынёманскім лесе

сталі з’яўляцца асобныя на гэты конт якія-кольвек даследаванні навуковага характару. У тым ліку і манаграфія гродненскага вучонага С.А.Піваварчыка “Белорусские земли в системе фортификационного строительства Российской империи и СССР (1772—1941)” (Гродна, 2006), якую нам шчыра прапанаваў настаўнік гісторыі з Узды А.М.Ярмольчык.

Сведкамі тых часоў і цяпер стаяць на Уздзеншчыне, на беразе Нёмана, па лясах панурыя шэрыя бетонныя монстры — артылерыйска-кулямётныя казематы. Каб іх пабачыць, трэба рухацца. Праз чатыры кіламетры ад Сверынава на левым беразе ракі вёска Луніна. Да яе можна дабрацца, не пераходзячы раку ад Магільнага. Тут мы і пабачым ва ўсёй велічы грозныя контуры казематаў. Яны сваёй непрыступнасцю і грознай сілай выклікаюць у кожнага натуральны і зразумелы інтарэс: а ці можа наогул іх адолець слабы чалавек?

На Уздзеншчыне такіх кропак налічваецца ў розных месцах 11. Большасць іх закрыў, схаваў ад людскога вока лес, што падняўся наўкола за прайшоўшыя 70 гадоў. Яны стаялі і будуць стаяць надалей, як спадарожнікі нашай нялёгкай гісторыі. Так здарылася, што тут гэтыя збудаванні ніхто ніколі не выкарыстоўваў.



Артылерыйска-кулямётны казамат на беразе Нёмана.
Вёска Луніна

Заслаўскія ж доты пратрымаліся ў пачатку вайны ад двух да чатырох сутак, затрымаўшы наступленне ворага на Мінск. А ў Рубяжэвічах захопленыя пагранічныя ўмацаванні спрабавалі выкарыстаць гітлераўцы.

У Луніне гэтыя казематы на беразе Нёмана прыкрыты шчытамі, абстаўлены дачнымі забудовамі. Прамога выхаду ад дарогі да Нёмана няма. Культавае старажытнае прыбярэжнае месца захоплена дачнікамі і купальскія святы цяпер праводзяцца за межамі вёскі. Так распарадзіўся чалавек. А дзе былі ў той час мясцовыя ўлады — невядома.

Вось мы і дабраліся да межаў Уздзеншчыны, але пакуль не развітваемся з Нёманам. І далей яшчэ на агульным працягу 26 кіламетраў свайго бегу ён будзе аддзяляць Уздзеншчыну ад Стаўбцоўшчыны. На гэтым адрэзку Нёман шчыльна сціснуты сцяной лесу. Адсюль добра праглядваецца абарончы комплекс.

Ад Пясочнага, Касцяшоў да Сверынава можна дайсці ад месца ўпадзення Тур'і ў Нёман па левым яго беразе. Цудоўная дарога праз лес выводзіць нас на Руднікі і далей прасекай у лесе на поўнач да Прусінава. Маршрут можа быць цікавы як прыгранічны.

Луніна амаль адзінае пасяленне на ўздзенскім беразе Нёмана, бо тут ён пераважна забалочаны. А вось стаўбцоўскі бок пясчаны, сонечны, вясёлы. У кіламетрах чатырох ад Сверынава ў прыгожых лясах схаваўся коласаўскі Ласток. Паміж Лунінам і Русаковічамі, дзе цягнуцца густыя хмызнякі і лугавіны, знаходзіцца знакамітае нёманскае курортнае месца Высокі Бераг.

Яшчэ кіламетраў пяць — і вось перад намі Русаковічы — прадмесце Мікалаеўшчыны. Адсюль амаль да Стоўбцаў увесь правы бок Нёмана — месца дзяцінства, юнацтва, пачатку жыццёвага шляху і барацьбы класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа.

Для нас жа тут у нейкім кіламетры да Русаковічаў заканчваецца Уздзеншчына, калыска вялікай беларускай ракі. Тут мы спыняемся, завяршаем водную частку падарожжа. Настаў час узважыць усё, што мы ўбачылі, аб чым даведаліся. Гэта будзе нейкі новы нёманскі экскурс у далёкую мінуўшчыну.

А ў Нёмана наперадзе вялікая працяглая дарога.

Добрага табе шляху, наша рака, наш Нёман!

* * *

А цяпер невялічкі дадатак да гэтага раздзела.

Так сталася, што пасля выхаду маёй кніжкі, яе ў адной з гродненскіх кнігарань набыў польскі журналіст, даследчык польска-беларускіх культурных сувязей Анджэй Кэмпфі.

Не ведаю дакладна, чым кніжка яму спадабалася. Можа тым, што я з павагай стаўлюся да польскага народа і каталікоў, іх ролі ў гісторыі беларускай зямлі. А, можа, тым, што я не закрываў вочы на складаныя часам адносіны паміж СССР і Польшчай, ніколі не пераносячы іх на нашы народы. Магчыма тым, што шырока выкарыстоўваў у ёй польскамоўныя крыніцы і працы польскіх даследчыкаў...

Вярнуўшыся ў Польшчу, Анджэй падрыхтаваў і апублікаваў у польскамоўнай газеце польскай дыяспары ў Літве “З над-Віліі” разгорнутую, вельмі благапрыемную і шчырую рэцэнзію на кніжку. Болей таго, паспяшаўся ва Узду і там атрымаў звесткі пра аўтара кніжкі. Потым у Мінску сустрэўся са мной і надалей паміж намі ўсталяваліся сяброўскія і творчыя сувязі.

Праз некаторы час ён зноў наведаў мяне і трохі збянтэжаны паказаў мне яшчэ адну рэцэнзію, аўтар якой, адзначаючы дадатныя

бакі, даволі рэзка ацаніў маю падачу пагранічных адносін паміж Польшчай і СССР у даваенны час. Болей таго, перакінуў кладку да гісторыі стварэння Койданаўскага нацыянальнага польскага раёна. Чаму, маўляў, яго трагічны лёс я абыйшоў сваёй увагай і не даў адпаведнай ацэнкі савецкім уладам той пары. Мае пісьмовыя тлумачэнні, што гэта выходзіла за межы тэмы працы, не былі прыняты да ўвагі і публікацыі. Такі лёс усіх самаапраўданняў.

Тым не менш у наш пагранічны матэрыял мы дадаём звесткі пра некаторыя асаблівасці працэса адміністрацыйнага ўладкавання ў прыгранiччы.

Па хадайніцтву працоўных мас Койданаўскі (цяпер Дзяржынскі) раён у сакавіку 1932 года быў рэарганізаваны ў нацыянальны польскі раён. Згодна з пастановай ЦВК і СНК БССР ад 23 сакавіка 1932 года адбыўся новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны яго падзел. Шэраг вёсак Уздзенскага, Заслаўскага раёнаў і Мінскага гарсавета былі далучаны да Койданаўскага раёна. Койданаўскі раён падзялілі на 17 сельсаветаў, з якіх 9 атрымалі статус нацыянальных польскіх.

Адпаведна Дзяржынскі раён быў рэарганізаваны ў Дзяржынскі нацыянальны польскі раён, як вынік “правильного осуществления ленинской национальной политики”. Шэраг беларускіх школ былі пераўтвораны ў польскія, адкрываліся новыя польскія школы.

Такім чынам была закрыта прыблізна палова беларускіх сельсаветаў і каля 30 беларускіх школ. У раён прыехалі людзі — выхадцы з Польшчы, эмігранты. Ім удалося давесці прырост польскага асяродка ад фактычных 12 працэнтаў да 49 працэнтаў, засноўваючы яго на прыналежнасці да веравызнання.

У адказ на гэтыя перагібы-пераборшчванні ў тонкіх пытаннях нацыянальных адносін, Койданаўскі нацыянальны польскі раён быў ліквідаваны, адноўлены беларускія школы. Па ўсіх узроўнях беларускага кіраўніцтва пракаціўся вал жорсткіх рэпрэсій.

У пасляваенны перыяд судовыя справы па гэтаму пытанні былі перагледжаны і прыцягнутыя да судовай адказнасці ахвяры рэабілітаваны.

Вось чаму цяпер пры кваліфікацыі сваёй кніжкі я спасылаюся на аўтарытэт А.Кэмпфі і адпаведна ўключаю прыгранічны раздзел у новае выданне без перапрацоўкі.

Нашы добрыя адносіны з А.Кэмпфі працягваліся. Ён сардэчна ставіўся да беларускага народа і вельмі хацеў станоўчага развіцця нашых адносін. Далей выявілася, што мы разам амаль паралельна распрацоўвалі асобу ўніяцкага, а потым праваслаўнага святара, польскамоўнага пісьменніка Плакіда Янкоўскага. У 2004 годзе яго рускамоўныя артыкулы былі намі выдадзены ў зборніку “Записки сельского священника”.

Неўзабаве А.Кэмпфі захварэў і пакінуў нас. А ў мяне яшчэ і сёння адзываецца яго апошні гукавы ліст са спевамі пацераў па нагодзе свят Божага нараджэння і Новага 1997 года з яго сардэчнымі пажаданнямі здароўя і поспехаў. Анджэй усё не пакідаў надзеі яшчэ раз наведаць Беларусь.

З нашай дапамогай у беларускай прэсе — часопісах “Адукацыя і Выхаванне” і “Спадарожнік” — прайшлі яго развітальныя артыкулы пра беларускія сцежкі і вытокі творчасці Адама Міцкевіча.

Светлая яму памяць!

## ПАДАРОЖЖА ЎГЛЫБ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

*Сярод прыхільнікаў праваслаўя з даўніх часоў існуе цікавае паданне. Быццам бы святы Апостал Андрэй, які быў накіраваны Ісусам Хрыстом у пачатку нашай эры на ўсходняе Прычарнамор’е для распаўсюджвання хрысціянскага вучэння, дайшоў да вусця Дняпра, падняўся па ім уверх. На месцы будучага Кіева паставіў крыж і благаславіў гэтае месца як цэнтр увядзення ў будучым хрысціянства на будучай Русі. Затым святы Апостал накіраваўся ў скандынаўскія краіны, па дарозе заснаваў манастыр на месцы будучага Ноўгарада. Пасля завяршэння сваёй місіі на скандынаўскіх землях ён вярнуўся па заходнім ўзбярэжжы Еўропы і Міжземным моры ў Рым, а потым у Грэцыю, дзе прыняў смерць пакутніка на так званым Андрэеўскім крыжы.*

*Калі ўсё было сапраўды так, то святы Апостал Андрэй не мог прамінуць у сваім місіянерскім падарожжы і Беларусь. У старажытнасці рэкі былі амаль адзінымі транспартнымі шляхамі. Таму пачатае святым Апосталам Андрэем Першазваным падарожжа па Дняпру магло яго давесці да ваколіц сённяшняй Оршы. Ад яе па*

*прытоках Заходняй Дзвіны шлях вёў у сістэму рэк Балтыйскага мора, а адтуль і ў Скандынавію.*

*Хутчэй за ўсё нагаданае падарожжа з'яўляецца рэфлексіяй больш позніх падзей — так званых "варажскіх падарожжаў". Аб гэтым выказваліся ў свой час вучоныя Кіеўскай Духоўнай акадэміі...*

"Варажскія" перамяшчэнні з'яўляюцца рэальным гістарычным фактам. Яны ўпамінаюцца амаль ва ўсіх школьных падручніках па гісторыі. Аднак звесткі аб іх вельмі няпоўныя і іх велічнасць уяўляецца сённяшнім пакаленнем не да канца. "Варажскія" падарожжы — адметная старонка гісторыі, асабліва ў адносінах да тэрыторыі Беларусі. Так сталася, што ўсё "варажскія" маршруты праходзілі праз нашу зямлю. Маюць яны дачыненне і да Уздзеншчыны.

Тэму волакавых месц на вялікіх водных гандлёвых маршрутах "з варагаў у грэкі" распрацоўвалі многія даследчыкі. У нас ёсць цікавы матэрыял, падрыхтаваны ў 1894 годзе віцебскім даследчыкам І.І.Гарбачэўскім для "Витебских Губернских Ведомостей".

Аднак першакрыніц аб "варажскіх" падарожжах да крыўднага мала, у апошні час такія пошукі былі наогул занядбаныя. Амаль не засталося звестак аб тым незвычайным часе, калі вельмі мужныя і дасведчаныя людзі бралі на сябе смеласць ісці ў шматгадовае рызыкоўнае падарожжа за некалькі тысяч кіламетраў, спадзеючыся толькі на сваю сілу ды на ўдачу.

"Варажскія" шляхі ўзніклі ў канцы VIII стагоддзя і выкарыстоўваліся ў якасці гандлёвых паміж поўначчу і поўднем, дакладней — паміж краінамі Скандынавіі і Чорнага (Рускага, Візантыйскага) мора. У іх былі зацікаўлены перш за ўсё скандынавы, ці інакш — нарманы, варагі ("вар" — ад індаеўрапейскага "вада", "вялікая вада"; вараг, варанг, варын, варыст — прадстаўнік народа, які жыве ля мора).

Калі спачатку на Русь імкнуліся скандынаўскія князі з дружынамі, то з XI стагоддзя — шукальнікі здабычы і прыгод, госці-купцы. На Русі роля нарманаў у большай ступені супадала з лёсам і патрэбамі краіны. Зямля Полацкая, як і Кіеўская, неаднаразова ўпамінаецца ў старажытных скандынаўскіх сагах.

Для нашых продкаў варагі былі людзьмі патрэбнымі, хоць і чужымі, маючымі, так сказаць, свой інтарэс. Прыведзеная вышэй




Схема маршрутаў “з варагаў у грэкі”

назва “варангі” датычылася больш рутэнаў, люцічаў, якія жылі раней на паўднёвым узбярэжжы Балтыкі, у тым ліку і ля вусця Нёмана. Таму трэба адрозніваць варагаў і нарманаў. Калі нарманы зведалі Русь не раней X стагоддзя, то “варагі” з Балтыкі былі тут у IX і нават у канцы VIII стагоддзя. Існавала варажская дружына і ў Полацку.

Найбольш вядомыя і ўвайшлі ў гісторыю тры варажскія маршруты:

Паўночны — пачынаўся ад нарманскіх берагоў, праходзіў праз Балтыку ў Фінскі заліў, далей па Няве, Ладажскаму возеру (у мінулым — Нево), Волхаву, Ільменю, Ловаці пераходзіў у раёне Віцебска ў раку Днепр. Па Дняпру шлях працягваўся з выхадам у Чорнае мора і далей уздоўж заходняга ўзбярэжжа да Канстанцінопаля (Царграда, цяперашняга Стамбула). Гэты маршрут нам вядомы з летапісу;

Паўночна-заходні — самы старажытны. Пачынаўся з Балтыкі і праходзіў па Заходняй Дзвіне. У раёне Віцебска перакідваўся ў Днепр. Існаваў яшчэ шлях у Заходнюю Дзвіну з ракі Бярэзіны Дняпроўскага басейна.

Заходні — пачынаўся з Балтыкі, з вусця ракі Нёман, праходзіў праз прытокі Прыпяці, рэкі Пціч ці Свіслач, у Днепр. Маршрут цікавы тым, што ён перасякаў усю Беларусь і быў карацейшы за іншыя.

Яшчэ вядома шэраг адгалінаванняў ад гэтых маршрутаў.




Вёска Валок, некалі канцавы пункт перавалачнай часткі шляху

Галоўным адрэзкам варажскіх шляхоў заставаліся вядомыя са старажытнасці волакі. Яны прыходзіліся галоўным чынам на водападзел паміж марскімі басейнамі. Волакі насілі некалі шырокі сэнс. Гэта былі і перашыйкі паміж рэкамі розных марскіх басейнаў, месца перавозу ці пераносу тавараў з адных рэк у другія, і месцы крайніх пагранічных пунктаў, а таксама вялікія незаселеныя лясныя тэрыторыі. Пераволока — гэта і гужавы шлях, пракладзены паміж сёламі праз дрымучы лес.

На падыходах да волакаў на малых рэчках тавары перагружаліся, як правіла, у меншыя судны і лодкі. Іншы раз яны перамяшчаліся праз волакі.

Непасрэдна на волаках судны і тавары перацягваліся ад адных у другія рэкі на спецыяльных прыстасаваннях. У адрозненне ад іншых месц волакі былі добра заселены. Ёсць звесткі, што яны ўтрымліваліся спецыяльнымі групамі людзей — “валачанамі”, над якімі стаялі цівуны. Яны абслугоўвалі волакі, расчышчалі іх, дапамагалі ў перавозе, бралі за гэта адпаведную даніну. Так што варагі ішлі па ўжо асвоенай адлажанай сістэме водных шляхоў.

Народныя вераванні лічылі волакі месцамі нячыстымі і праклятымі, дзе знаходзіліся магілы ліхадзеяў, злых волатаў. Усякі праходзячы тут павінен быў кінуць галіны дрэў, камяні, сена. І чым болей, тым лепей, каб волакі былі заўсёды ўзвышаныя і сухія. Здымаць і раскідваць нанесенае лічылася вялікім грахом.

Падрабязна Нёманска-Дняпроўскія і іншыя варыянты волакавых месц у свой час аналізаваў вядомы географ В.А.Жучкевіч. Ён аддаваў сярод іх перавагу Лашанска-Шацкаму варыянту.

М.Азбукін у артыкуле “Мястэчка Шацак” (“Наш Край”, № 1, 1927) прывёў дакладную схему перавалачнага адрэзку шляху з наступным апісаннем: “Ляжачы на рацэ Дняпроўскага вадазбору і пры гэтым блізка да пачатку Нёмну, Шацак мог быць ужо ў вельмі даўныя часы важным гандлёвым пунктам. Мясцовыя насельнікі апавядаюць, што праз Шацак калісьці пралягаў важны вадзяны шлях з Дняпра ў Нёман. Гэты шлях ішоў па Дняпры, Прыпяці, Птычы, Шачы да возера, ад якога цяпер засталося так зв. Шалёнае балота, адкуль па рэчцы да Пярэвалацкага балота, якое таксама было возерам, і далей волакам па лагчынцы ад Пярэвалакі да ракі Лошы каля мястэчка Лошы, затым па Лошы і Нёмне. Тубыльцы кажуць, што ў старыя часы Шацак быў вялікім горадам і зваўся Чорным Горадам або Старым Шацкам”. Паданні гэтыя запісаны мясцовай настаўніцай В.Селівончык і слухачом Мінскага педтэхнікума Адамам Пякарскім.

Лашанскі фенолаг І.Аляксейчык казаў пра Пераралоку, што яна ідзе ад часоў падарожжаў “з варагаў у грэкі”. На Пераралоцы было возера, якога цяпер няма. Нагадвае аб старажытнасці гэтых месц, аб былых водных шляхах і гісторык-аматар з Забалацця Ф.Бельскі.

Надзвычай падрабязна геаграфію, тапаграфію месц водападзелу паміж рэчкамі Лоша і Шаць вывучае ў цеснай сувязі з тапанімікай і курганнымі пахаваннямі хатлянскі настаўнік Міхаіл Канстанцінавіч Лазар.

Ад вёскі Валок (р. Шаць) да вёскі Лошы (р. Лоша) адлегласць складае каля 11 кіламетраў.

На скрыжаванні з дарогай рэчка Шаць даволі паўнаводная. Пачатак Шаці, як верх-рэк, губляецца недзе за вёскай Гута. Ён цяпер каналізаваны. Некалі там былі непраходныя балоты, як тады называлі — нетры. У яе затоках было шмат рыбы — налімаў, шчупакоў. Затокі перарываліся плывучымі дыванамі травы.




Схема Лашанска-Шацкага волакавага шляху

Валок (па думцы мясцовых жыхароў, яго назва паходзіць ад неабходнасці ў мінулым тут перавальваць для скарачэння шляху і часу плыты) гэта, несумненна, былы Волак — перавалачнае месца для тавараў і суднаў з ракі Лошы ў раку Шаць і наадварот. Далей рака Шаць ідзе вельмі павольна і марудна. Ход яе прытока таксама быў спакойны і павольны, адсюль Ход-ляны, Хот-ляны, Хатляны, Хатлянка — назвы ўпадаючай у Шаць рачулкі і бліжэйшай да яе вёскі.

У 1989 годзе аўтару давялося прайсці па маршруце былога волака ад рэчкі Лошы. Ён пачынаўся, калі арыентавацца па самых паглыбленых складках паверхні зямлі, ад Лашанскага вадасховішча на ўсходнім ускрайку вёскі і ішоў уздоўж дарогі ад майстэрань і збожжасховішча на Валяр’яны за 150—200 метраў ад яе. (Дарогі, як і каналы, амаль заўсёды будаваліся ўздоўж напрамку былых волакаў).

Па гэтым маршруце цяпер ідуць бесперапынныя высечкі лесу, паляны. На іх месцы зелянеюць новыя пасадкі, уздымаюцца бярозкі, стаўбунчыкі ядлоўцу. Кіламетраў праз паўтара сустракаюцца асобныя велічэзныя сосны, каля 40 метраў вышынёй, зрэзаныя “елачкай” з двух бакоў пад падсочку.

Яшчэ паўкіламетра — і з правага боку пачынаецца паніжэнне. У яловым векавечным лесе цёмна, сыра. Дзераза і верны спадарожнік балота — мох сфагнум. Гэта нізіна пераходзіць у лясное балота, якое цягнецца амаль да Слуцкай дарогі. Гэта і ёсць тое самае Перавалочнае месца, у мінулым — колішняе возера. Раней па гэтых азёрах, асабліва ў час паводкі, волак скарачаўся да найменшага прамежка.

Усё гэта знаёмыя нам у мінулым месцы. Тут, перад Вялікай Айчыннай вайной, праводзіліся нашы дзіцячыя сустрэчы ля вячэрняга кастра, тут спяваліся песні, дэкламаваліся вершы. Тут вясной рассыпаліся блакітна-фіялетавым дыванам кветкі сон-травы, летам — вабілі сунічныя духмяныя паляны, а восенню ўпарта лезлі моцныя пругкія баравікі. Амаль кожны год гэты лес запаўнялі тысячы ваенных з коньмі, фурманкамі. А ў час апошняй вайны тут партызаны брыгады “Буравеснік” М.Мармулёва знішчылі калону захопнікаў. Не дапамаглі стометровыя высечкі лесу ўздоўж дарогі.

Лашанска-Шацкі водападзел даваў нараджэнне мноству невялікіх рэк і рачулак. Калісьці тут, непадалёку ад вытоку Нёмана, быў нагаданы вышэй засценак з характэрнай назвай Пяцірэкі.

Як цяпер даказана, у перакладзе з угра-фінскага слова Літва — гэта “літ” — пяць і “ва” — рака, вада. Літва азначае — пяцірэчча. Пачатак гістарычнай Літвы ляжаў у верхнім цячэнні Нёмана. Магчыма, на яго вытоках. У карысць гэтай версіі засталіся тапанімы: Літва, Ліцвяны, Літавец. Многія беларускія прозвішчы маюць паходжанне ад літоўскага кораня.

Гандлёвыя сувязі з аддаленымі народамі былі агульныя. Аднак беларусы, як адзначае А.Кіркор, ні з кім не зліліся, захавалі сваю мову, норавы і звычаі... Недзе непадалёку было і ўрочышча “Паднімонец”, вымежаванае на 394 дзесяцінах у 1891 годзе з Парэцкай лясной дачы ўладання памешчыка Азмідава. Яно ўключала і ўрочышчы Вялікая і Малая Падзера, Пераналокі, Хартановыя, Яшкаў.

Пройдзена каля пяці кіламетраў. Гэта першая палова шляху па волаках з боку ракі Лоша. Па другі бок яшчэ такі ж адрэзак і нас сустракае рэчка Шаць з вёскай Валок. Ёсць меркаванне, што тут ад даўніны меліся нават невялікія прымітыўныя гідратэхнічныя збудаванні.

Вось такія тут цікавыя месцы!

Прыняты намі пошукавы падыход з арыентацый на пабудаваную ў 1930-х гадах XX стагоддзя ваенна-камунікацыйную дарогу Шацк—Валок—Валяр’яны—Лоша—Узда—Магільнае здаўся не зусім аргументаваным. Яна не мае прамых адносін да праходзіўшага тут старажытнага Лашанска-Шацкага пераходу. Гэта тварэнне пазнейшых часоў.

Тым не менш, у мінулым такая дарога ўсё ж існавала. Ад Шацка да Лошы і Узды дабіраліся праз Габрыелеўку, Хатляны. Пра гэта нам расказаў краязнаўца Міхаіл Лазар. Ад Хатлян яна цягнулася праз паселішчы Серадзіна, Салаўі, Малінаўка, праз узнікшыя пасля рэвалюцыі пасёлкі Гай і Бор, урочышча з адпаведнай яму назвай ужо знікшай вёсачкі Жаўнякі і далей уздоўж пароcлага даўнейшага канала да Пярэвалачнага балота і затым скіроўвалася праз лес да Лошы з выхадам на сённяшнюю дарогу паблізу лясніцтва. Яна даволі дакладна паўтарала маршрут былога волакавага шляху.

Мы ж тады, у пачатку 90- гадоў XX стагоддзя ставілі мэтай даследаваць толькі міжрэчча Лошы і ўпадаючага ў рэчку Шаць (Шача) яе прытока Хатлянкі. Неахопленым застаўся і адрэзак волаку за Слуцкай шашой, якая служыць граніцай падзелу паміж рэкамі Чарнаморскага і Балтыйскага басейнаў. Удакладненні Дз.Вінаградава не пярэчаць нашай гістарычнай канцэпцыі волакавых перамяшчэнняў. Маршрут былой дарогі з Хатлян да Лошы пацвярджаецца змешчанай тут схемай мясцовасці па стане на 20-я гады XX стагоддзя, узятай з часопіса “Наш край”.

Рэчавы “імпарт” і “экспарт” на прылеглых тэрыторыях дазволіў абгрунтаваць думку аб рашаючай ролі Дняпроўска-Нёманскай сістэмы ў рэалізацыі эканамічных сувязей паміж сярэднім Падняпроўем і Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкай.

Яшчэ ў IX—XIII стст. існавалі гісторыка-эканамічныя сувязі Кіева з Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкай праз Беларусь. Ёсць меркаванне, і гэта выяўлена кіеўскім вучоным У.Зацэнкам, што рашаючая роля ў іх прыходзілася на Дняпроўска-Нёманскі водны шлях. У карысць гэтага сведчаць тры значныя клады, выяўленыя ў раёне Мінска з манетамі VIII—XI стагоддзяў. Яны былі захаваны ў раёне рэк Пцічы і Свіслачы. У вёсцы Новы Двор, у прыватнасці, у 1871 годзе знойдзены клад як з германскіх, так і візантыйскіх манет. У

1958 годзе ў вёсцы Дзягцяныя знойдзены вялікі скарб старажытных манет і ювелірных вырабаў. Ён быў схаваны каля 1050 года.

У некаторых пісьмовых крыніцах захаваліся скупыя звесткі пра непасрэдныя сувязі ўладароў заходніх зямель з Візантыяй яшчэ ў XII—XIII стагоддзях. У тыя часы адбываліся падарожжы да святых месц. Мясцовая знаць раднілася з паўднёвымі дынастыямі. Адтуль пранікала на Беларусь манументальнае дойлідства. Асабліва многа прывазных рэчаў знойдзена ў Навагрудку. Шлях дастаўкі іх быў па Дняпры ў Нёман.

Хрысціянства ўсталёўвалася хутчэй за ўсё сярод гандлёвых колаў насельніцтва, гандаль паскараў яго пашырэнне. Шлях з "варагаў у грэкі" станавіўся для Русі шляхам з язычніцтва ў праваслаўе, з цемры да святла.

Улічваючы вялікую працягласць (2—4 тыс. км), падарожжа магло і не ўкласціся ў адзін сезон. Таму падарожнікі іншы раз зімавалі, часцей на месцы волакаў. Тут замежны госць лічыўся асобай паважанай і заўсёды ўшаноўваўся. У яго можна было прыдбаць рэдкага тавару, пачуць аб цікавых падарожных прыгодах, аб далёкіх краінах. Са свайго боку госці набывалі тут харч, скуплялі ў мясцовага насельніцтва футра, мёд, воск. На волаках, як адзначаў Л.В.Аляксееў, жыццё было заўсёды інтэнсіўнае.

Узнікае пытанне: чаму падарожнікі ішлі часам не праз Заходнюю Еўропу, па самым кароткім шляху? Адным з адказаў можа быць, што на Русі і прыбалтыйскіх землях ім быў забяспечаны, кажучы сённяшнімі словамі, рэжым "найбольшага спрыяння". У карысць гэтага сведчыць Дагаворная грамата смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам ад 1229 года (яна, дарэчы, з'яўляецца першым помнікам старабеларускай пісьменнасці). Тактыка рускіх князёў была адназначна накіравана на развіццё і ўмацаванне гандлю і гандлёвых шляхоў.

У апошні час узніклі не маючыя пад сабой ніякага падмацавання версіі аб жорсткіх змаганнях варагаў з мясцовым насельніцтвам на іх водным шляху праз старарускія землі. Знак тоеснасці паміж нарманамі-заваёўнікамі Заходняй Еўропы і гандлярамі-варагамі на Русі ставіць ніяк нельга. Невялікія сутыкненні ў час пракладвання маршрутаў варажскіх шляхоў на землях паўночных русаў былі. Аднак потым гэты маршрут наадварот ахоўваўся і абараняўся спецы-

яльнымі мерамі рускіх князёў, якія не гублялі сілы нават у час унутраных разладаў. Гандлёвыя перамяшчэнні былі для абодвух бакоў узаемавыгадныя. Перарваліся яны пазней і па іншай прычыне.

А вось у Заходнюю Еўропу нарманы ішлі як вікінгі, няўмольныя і бясстрашныя заваёўнікі, шукальнікі здабычы. Там іх жорсткасць і бязлітаснасць не мела межаў і шырока вядома даследчыкам.

На Русі, наадварот, нарманска-варажскія дружыны знаходзіліся на службе ў князёў. Такія дружыны мелі полацкія і кіеўскія князі. Скандынаўскія падарожнікі служылі ў Візантыі і Грэцыі. Гэта старонка гісторыі добра даследавана.

А што датычыць вялікай колькасці магільных курганных пахаванняў на Уздзеншчыне з падмацаваннем тапанімічных дадзеных — гэта яшчэ адно пераканаўчае сведчанне добрай заселенасці нашых волакавых месцаў. Аднак такое становішча адначасова і вынік кравапралітных разборак рускіх князёў, да якіх прыцягваліся татара-манголы. Да XIII стагоддзя рускія землі спасцігла амаль абсалютнае спусташэнне. На іх развалінах узнікла Вялікае княства Літоўскае.

Існавалі “варажскія шляхі” каля пяці стагоддзяў — з IX па XIII. Найбольшы рух на іх панаваў у X стагоддзі. У далейшым памылкі тагачасных палітыкаў стварылі бар’еры. Парваліся і зніклі гэтыя шляхі ў XIII стагоддзі з нашэсцем крыжакоў і татара-манголаў, далейшым феадальным падзелам Русі, з’яўленнем у Ніжнім Падняпроўі полаўцаў, а таксама ўсталяваннем гандлёвых сувязей Заходняй Еўропы з Бліжнім Усходам праз Міжземнае мора. Са стварэннем Вялікага княства Літоўскага роля “шыротных” перамяшчэнняў паменшылася. Пазней на шэрагу былых волакаў былі пабудаваны каналы.

Як не дзіўна, але і сёння ёсць магчымасць далучыцца да мінулага. А якім жа чынам? Цікавым метадам “мадэліравання” гісторыі можа стаць зварот да мінулага, свайго рода “падарожжа” ў яго. У гэтым сэнсе вельмі ўражлівымі застаюцца падарожжы па своеасаблівых маршрутах-помніках даўніны — нашых рэках. Гістарычны час — той жа паток.

Для моладзі падарожжы па былых варажскіх шляхах маюць сваю эмацыянальную, прыцягальную частку, без якой наогул немагчыма далучэнне да гісторыі. Асацыяцыі ўсплеску хваль у рачных берагах у акружэнні лясоў пераносяць нас у той час, калі тут




Арганізацыйная сустрэча па экспедыцыі “Нево-89” у Заслаўі.
Злева направа: Я. Садоўскі, Юрый Жвіташвілі, Данілаў, Г. Дзядзечкіна, Э. Навагонскі

павольна рухаліся цяжкія, гружаныя таварамі ладдзі, а з іх у цішы далёка разносіліся гукі чужынскіх песень, малітваў у гонар багоў на паспяховае пераадоленне рачных волакаў.

Падарожжа па рэках пры максімальным набліжэнні да старажытных умоў (згодна з правіламі “гульні” многія прадметы сённяшняй цывілізацыі “забываліся” дома) — толькі на вёслах, толькі пад ветразямі — дазваляе ўявіць сябе саўдзельнікамі далёкіх спраў і падзей. Гэта выдатная магчымасць адчуць на рачной стужцы подых далёкіх часоў, повязь пакаленняў і ўжо гэтым далучыцца да гісторыі.

З 1987 года рэалізавалася праграма падарожжаў па былых водных шляхах пад агульнай назвай “Нево”.[*] Узначальваў іх правадзейны член Геаграфічнага таварыства Расійскай Акадэміі наук, майстар спорту, урач-хірург Юрый Жвіташвілі з Ленінграда. Праграма “Нево” мела намер павярнуць людзей тварам да сваёй гісторыі.

---

[*] Яшчэ ў першыя гады Савецкай улады з Мінска, ад цяперашняга парку імя Максіма Горкага, па Свіслачы, адправілася лодачная экспедыцыя па дняпроўскім напрамку, якая паспяхова дайшла да Херсона.



Юрый Жвіташвілі і Сяргей Тарасаў
абмяркоўваюць план “варажскага” падарожжа

Адпаведна гэтыя падарожжы закраналі і тэрыторыю Беларусі. Па ёй яны праходзілі двойчы па рэках і волаках Заходняй Дзвіны і Дняпра. Новае культурна-гістарычнае падарожжа пад назвай “Наш Нёман” было арганізавана і прафінансавана сумесна з шэрагам арганізацый Беларускім фондам культуры і мела дэвіз: “Рэкі яднаюць народы”. Беларускую частку ўдзельнікаў экспедыцыі склалі выкладчыкі і студэнты Беларускага політэхнічнага інстытута.

Урачыстае адплыццё экспедыцыі адбылося 8 ліпеня 1989 года ад вытокаў Нёмана — вёсачкі Наднёман. Мясцовыя дзяўчаты ўручылі падарожнікам “каравай удачы”, фальклорны ансамбль з суседняй вёскі Касцяшы даў канцэрт, маладыя мастакі з Мінска паказалі выстаўку карцін, прысвечаных роднаму краю. Назаўтра на коласаўскім Высокім Беразе ля Мікалаеўшчыны да смелых падарожнікаў далучыўся экіпаж са Смаленска. Адсюль экспедыцыя ў поўным складзе пад кіраўніцтвам Ю.Жвіташвілі на шлюпках “Ял-4” апоўдні адбыла ў захапляльнае падарожжа.



Канцэрт на ўдачу падарожжа. Вёска Наднёман



Пачатак падарожжа адбываўся на байдарках. У далечыні в. Пясочнае

На шляху студэнты вывучалі культурна-гістарычныя, экалагічныя і іншыя праблемы, сустракаліся з мясцовым насельніцтвам, знаёміліся са славутымі мясцінамі.
Першыя сто кіламетраў праходзілі ў цяжкіх умовах. Толькі на Гродзеншчыне Нёман стаў болей праходны і даступны.



Вымпел падарожжа
“Нево-89” — Наш Нёман

Далей мы перадаем слова ўдзельніку падарожжа па Нёмане ў межах Беларусі, спецыяльнаму карэспандэнту газеты “Знамя юности” С.Ананічу.

“Сонца паліла неміласэрна. Ад уяўлення, што ўвесь аблеплены гарчычнікамі, не ратавалі ні “вятроўка”, надзетая на голае цела, ні купанне кожныя дзве—тры гадзіны. Рукі працавалі ў манатонным рытме: р-раз — з плёскам пагружаеш без малога дзесяцікілаграмовыя вёслы ў ваду, два-а — выцягваеш іх у гронках кропель.

Але вось пад кілем чуецца шорах і “ял” спыняецца — селі на чарговую мель бацькі-Нёмана. Чуецца каманда “За борт!”. Мы саскокваем у ваду і пад дружныя “раз-два, узялі” піхаем лодку на глыбіню. Нечага казаць, даставалася нашым далёкім продкам, якія пераадольвалі ў пошуках выгаднага гандлю нашы звілістыя рэчкі і рачулкі.

У некалькіх сотнях метраў ад месца сутокі рэк Неманец, Лоша і Уса, якія тут даюць пачатак Нёману, пачалася навукова-спартыўная экспедыцыя “Наш Нёман” па аднаму з магчымых варыянтаў знакамітага старажытнага шляху “з варагаў у грэкі”.

Гэта экспедыцыя стала састаўной часткай усесаюзнай праграмы “Нево”, у ходзе якой былі даследаваны ўчасткі старажытных Верхне-Дняпроўскіх і Дзвінскіх волакаў, пройдзены на “ялах” Заходняя Дзвіна, участак Балтыйскага мора ад Рыгі да Ленінграда і іншыя маршруты старажытных гандляроў.

На гэты раз у групу, якой належала прайсці каля 1000 кіламетраў на вёслах (увесь Нёман ад пачатку да канца плюс участак Балтыйскага мора ў Куршскім заліве — ад месца ўпадзення да

Клайпеды), увайшлі студэнты і супрацоўнікі Беларускага політэхнічнага інстытута, людзі з салідным турысцкім стажам, усяго шаснаццаць чалавек. Акрамя іх у экспедыцыі прыняў удзел экіпаж смалян, у якіх ужо за плячыма быў маршрут па Заходняй Дзвіне. Пасля доўгіх перадпаходных турбот і няўвязак (напрыклад, замест дзвюх шлюпак "Ял-6" і кацера з лабараторным абсталяваннем атрымалі ў сваё распараджэнне два парадкам падношаныя "Ялы-4") экспедыцыя на старце — у вёсцы Наднёман.

Сёння ў Наднёмане жывуць толькі чатыры сям'і, пятая хата стаіць з забітымі вокнамі. Аднак вёска ведала і лепшыя часіны — да рэвалюцыі жыло тут народу у некалькі разоў больш, меліся свой спіртзаводзік, лесапілка і нават "Кумысалекавая ўстанова". Мінеральная вада з крыніцы каля Нёмана славілася далёка за межамі павета.

Усё гэта дзякуючы дзейнасці аднаго з апошніх уладальнікаў сядзібы Якуба Наркевіча-Ёдкі. Гэты чалавек, што жыў у другой палове XIX стагоддзя, быў вядомы ўсяму еўрапейскаму навуковаму свету. Яго вопыты з электраграфічнай апаратурай, радыёхвалямі (у апошніх, па некаторых дадзеных, ён нават апярэдзіў першаадкрывальніка радыё А.С.Папова) прынеслі яму сусветную славу. Але, выступаючы з дакладамі ў сталіцах, Наркевіч-Ёдка для работы нязменна вяртаўся ў Наднёман.

Дарэчы, раней вёска называлася Малыскаўшчына, Наднёман — назва, прапанаваная родам Наркевічаў-Ёдкаў. Прыжылася яна ў народзе.

А замак-палац, закладзены яшчэ ў XVIII стагоддзі, у 1943 годзе спалілі партызаны. Разбурэнне працягвалася і ў пасляваенныя дзесяцігоддзі. Зараз болей-меней цэлыя засталіся дзве вежы і некаторыя гаспадарчыя пабудовы (па стану на 1989 год. — У.К.). Год назад высечаны сад, на месцы якога цяпер густа паросшы пустазеллем пустыр, не прапануе гаючай вадзіцы крынічка...

Мясцовы жыхар Мікалай Васільевіч Пармон, пенсіянер, дзеліцца:

— Ну і прыгажосць жа тут была!.. Дарослыя людзі прыязджаюць, школьнікі — паказваю, расказваю, што ведаю. Вось і мае дзеці ў адпачынак дамоў прыедуць — будзем разам крынічку шукаць і расчышчаць.

Вырашыўшы паблукаць па развалінах замка, я натыкнуўся на накарабаны на ўнутранай сцяне вежы надпіс невядомага жартаўніка: “Праверана, скарба няма!”. Як ён страшэнна памыляўся!..

І вось лодкі разразаюць срабрыстую роўнядзь Нёмана, накіроўваючыся па старажытнаму шляху, які звязваў цэлыя народы. А назаўтра раніцой экспедыцыя ўжо ў поўным складзе адправілася з турбазы “Высокі Бераг”. Хлопцы садзяцца на вёслы. Некалькі моцных грабкоў — і яны паціху набіраюць рух і... пачаргова садзяцца на мель. Нёман — рака з норавам. Цячэнне тут хоць і хуткае, але мялін і перакатаў на ім больш чым дастаткова. Потым, калі веславаць сталі зладжана, рулявыя вывучылі нораў ракі, ды і сам Нёман углыб і ўшыр пайшоў, лягчэй стала.

На другі дзень спыніліся каля вёскі Ярынічы. Увагу прыцягнуў напаўразбураны касцёл у некалькіх дзесятках метраў ад Нёмана. Мясцовыя жыхары расказалі, што касцёл быў разрабаваны адносна нядаўна — ў 70-х гадах чатырма п’янымі суб’ектамі. Ад тых часоў і няма за ім нагляду. Побач за пакошанай агароджай занядбаныя могілкі. Кажуць, што тыя чацвёра неўзабаве памерлі не сваёй смерцю. Яшчэ адна сумная напоўбыль-напоўлегенда нашага часу...

Мы, як і нашы продкі ў IX—XII стагоддзях, праходзілі на вёслах у дзень амаль па пяцьдзесят кіламетраў. На трэці дзень перад экспедыцыяй узнікла першая складаная перашкода — наплаўны мост перад вёскай Панямонь. Прайсці па вадзе не было ніякай магчымасці, заставаўся волак.

Старажытныя рэкапраходы гэтым майстэрствам валодалі ў дасканаласці, ды і ў месцах пастаянных волакаў дзейнічала свая “волакавая служба”. Ні навыкаў, ні загадзя падрыхтаваных падручных сродкаў у нас не было. Папрасілі ў аднаго з мясцовых жыхароў паўтара дзесятка пален-круглякоў і аб’яднанымі намаганнямі экіпажаў пакацілі па іх шлюпкі ў патрэбным накірунку.

Пад вечнае “раз-два, узялі”, упіраючыся ў карму “яла”, міжволі падумаў: а чаму б тут не пабудаваць нармальны мост на пáлях — і з ледаходам, і з ваганнямі ўзроўню вады праблем было б меней. Па папярэджанні дасведчаных людзей наперадзе нас чакала яшчэ пара-тройка такіх мастоў...

На начлег сталі на ўскрайку сасновага леса, на высокім беразе Нёмана. Адсюль адкрываўся выдатны від: раўнінныя прасторы

з сінеючымі на гарызонце лясамі, плаўныя выгібы ракі, вёска на прыгорку і купалы царквы, якія праглядваліся з-за крон дрэваў. Вячэрняе сонца перад заходам на хвілінку паказался з-за хмар, і гэтыя купалы ўспыхнулі залатым агнём. Усё гэта было настолькі заварожваюча, што мы вырашылі раніцою сходзіць за некалькі кіламетраў у Дубна і паглядзець на царкву паблізу. Бліжэй яна мела зусім іншы выгляд. Такіх мы нямала сустракалі на сваім шляху: абшарпаныя сцены ў падцёках сырасці, купалы, месцамі пакрытыя іржой...

Нёман на подступах да Гродна можна назваць зусім індустрыяльным: натужліва пыхкаючыя буксіры, штучна намытыя перпендыкулярна цячэнню косы са шчабёнкі — каб цячэннем не размывала берагі. Пакуль яшчэ рэдка, але ўжо ўсё часцей узнікалі бензінавыя плямы. Пасля Гродна ў раёне здабычы з рачнога дна пяску гэтыя плямы зліваюцца ў амаль суцэльную вясёлкавую плёнку. Калі дадаць сюды яшчэ масу “індустрыяльных прытокаў” у самім Гродне, то становіцца зразумелым, чаму падарожнікі аддаюць перавагу вадзе з калодзежаў прылягаючых вёсак, абы не браць яе з Нёмана.

У Гродне члены экспедыцыі наведалі Дом-музей М.Багдановіча. Ужо працяглы час грамадскасць дамагаецца ад гарадскіх улад, каб пад музей аддалі ўвесь дом, дзе жылі Багдановічы, але пакуль у распараджэнні музея толькі чатыры пакойчыкі. Не вельмі багатая экспазіцыя злёгку кампенсавалася цікавейшым экскурсійным суправаджэннем вядомай беларускай паэтэсы Дануты Бічэль-Загнетавай.

Але вось шпілі гродненскіх касцёлаў схаваліся за вершалінамі дрэў. З хвіліны на хвіліну павінна пачацца Літва. Рулявы, водзячы пальцам па карце, вылічвае, за якой жа павароткай Нёман стане Нямунасам... Наперадзе экспедыцыі засталося прайсці яшчэ амаль 500 кіламетраў на вёслах і пад парусам — да фініша, які адбыўся 4 жніўня.

Экспедыцыя аб’яднала ў адзінае цэлае масу цікавых заняткаў. Гэта і спорт, і знаёмства са сваёй рэспублікай, і прыцягненне ўвагі да прыгожых і цікавых куточкаў Беларусі... Не абыйшлося і без накладак: з аснашчэннем экспедыцыі, з інфармаваннем жыхароў населеных пунктаў, праз якія яна праходзіла. Відаць, як часта бывае, паспадзяваліся на стары добры энтузіязм адзіночак. Адзіночкі не падвялі, а ўсё ж каэфіцыент карыснага дзеяння экспедыцыі мог быць і вышэйшы”.

Нягледзячы на вялікую праграму даследаванняў, экспедыцыя змагла дайсці за няпоўны месяц да вусця Нёмана і 4 жніўня пасля Куршскага заліву яе сустракала Клайпеда.

Матэрыялы экспедыцыі былі апрацаваны з удзелам вучоных Ленінградскага ўніверсітэта. Аналіз спартыўнай часткі экспедыцыі паказаў, што шлях па Нёмане значна цяжэйшы, чым па Заходняй Дзвіне з-за хуткага цячэння ракі і вялікай колькасці перакатаў. Але калі ісці па цячэнні і ў час паводкі, то нёманскі шлях уяўляецца эканамічна выгадным, бо ён значна карацейшы. Пры гэтых умовах ён мог у мінулым выкарыстоўвацца даволі шырока.

Для ўдзельнікаў гэтага цікавага падарожжа на ўсё жыццё застанецца павага да вялікай беларускай ракі, да народаў, якія знайшлі прытулак на яе берагах, да нашых далёкіх продкаў “варажскага” мінулага. Такія падарожжы на справе прапагандуюць здаровы лад жыцця. Не выключана, што некалі маршрут можа быць выкарыстаны і для міжнароднага турызму.

Геаграфічнае таварыства Расійскай АН падвяло ў Ленінградзе вынікі нёманскай экспедыцыі і ўзнагародзіла юбілейным медалём М.Пржэвальскага шлюпачны экіпаж на чале з Ю.Берагавым і групу аршанскіх аматараў-падарожнікаў на чале з Э.Навагонскім. Асобныя ўдзельнікі атрымалі ганаровыя граматы таварыства.

На 1993—1994 гады была запланавана поўнамаршрутная міжнародная экспедыцыя па былых варажскіх шляхах са Скандынавіі (Стакгольм) праз С.-Пецярбург, Ноўгарад, Оршу, Кіеў, Чорнае мора, Стамбул да Грэцыі пад назвай “Транс’еўропа—Нево—Вікінг”. У 1993 годзе яна паспяхова дайшла да Ноўгарада і спынілася на зімоўку, аднак у 1994 годзе была перапынена.

А пакуль што, як толькі пацяплее, штогод ад розных структур, пераважна інфармацыйных, па варажскіх накірунках адпраўляюцца забаўляльныя псеўданавуковыя, не маючыя ніякай пазнавальнай каштоўнасці, экспедыцыі. Для зручнасці яны скіраваны выключна па цячэнні.

Можна сцвярджаць, што слаўнае нёманскае мінулае і сучаснае вымагаюць стварэння музея ракі Нёман. Па прапанове аматараў ён павінен мець дзве часткі: на вытоках ракі (хутчэй за ўсё на сядзібе Я.Наркевіча-Ёдкі) і ў Гродна, дзе Нёман пакідае беларускую тэрыторыю.



# І ЧУЕЦЦА ГОЛАС ГРЫМОТНАГА БРУКУ...

Ой вы, дарожанькі людскія,
Пуцінкі вузкія, крывыя!
Вы следам цьмяным снуяцеся
І ўсё блукаеце, бы ў лесе,
Вас горне шлях прасторнай плыні
І далягляд ружова-сіні,
Дзе так панадна свеціць сонца,
Дзе думка тчэ свае красёнцы.
Каб новы свет жыцця саткаць,
Заспакаенне сэрцу даць
І разагнаць яго трывогі!..
Прасторны шлях! Калі ж, калі
Ты закрасуеш на зямлі
І злучыш усе нашы дарогі?

*Якуб Колас.*

Дарогі, як і людзі, нараджаюцца, мацнеюць, уваходзяць у росквіт, затым прыходзіць час і яны гінуць.

На ўздзенскай зямлі дарогі існавалі з далёкіх часоў. Ёсць сведчанне таму, што старажытныя перамяшчэнні ішлі не толькі па рэках, але і ўздоўж іх. На вытоках Нёмана сярод бясконцых балот правы яго бераг лічыўся прыдатным для перамяшчэння. Але ў поўным сэнсе слова тут дарогі тады не было. Ішлі, ехалі па болей-меней зручнай мясцовасці, правы бераг быў вышэйшы, таму і болей

праходны. Магчыма, што з тых часоў стаяць і капцы-курганы ў гэтых мясцінах. Нагадаем, што першапачаткова яны прызначаліся для арыенціроўкі ў час такіх падарожжаў.

Пастаянныя дарогі на Уздзеншчыне пачалі будавацца значна пазней, чым на астатняй тэрыторыі Беларусі. Ф.Бельскі прыводзіць думку, што першая дарога з Узды на Замосце была пабудавана мясцовым князьком яшчэ ў дамангольскі перыяд. Хоць вялікіх рэк тут і няма, але шматлікія рэчкі і ручаі ў час паводак стваралі значныя перашкоды для пракладкі шляхоў. Таму гэту мясцовасць абыходзілі. Пераправы ладзіліся з дапамогай гацяў і іх увесь час прыходзілася ўзнаўляць. Пры някепскіх водных шляхах у Надняпонні не было добрых наземных шляхоў. Таму справядліва некаторыя лічылі гэты край забытым богам і людзьмі.

Дарогі пачалі будавацца пасля далучэння гэтай мясцовасці да Расійскай імперыі. Яны пракладваліся як ваенна-камунікацыйныя. Вось тады быў пабудаваны праходзячы побач з Уздзеншчынай праз Бабруйск—Старыя Дарогі—Слуцк знакаміты Кацярынінскі тракт.

Другая праграма дарожнага будаўніцтва была выканана ў перадваенны час. Зноў адыграла сваю ролю палажэнне Уздзеншчыны як прыгранічнага раёна. І, нарэшце, у наш час выконваецца праграма якаснага паляпшэння ўсіх шляхоў на тэрыторыі Уздзенскага раёна.

Звернем свой погляд на адносна недалёкі час, калі дзейнічаў яшчэ перасякаючы Уздзеншчыну шлях, званы сярод мясцовых сялян “Даўгінаўскім” ці “Мінскім”. Першая назва ўзнікла ад таго, што шлях праходзіў праз вёску Даўгінава (інакш Даўгінічы). Пачынаўся ён у Мінску, ішоў на Слуцк і далей на поўдзень.

Вядома, што, акрамя гэтага, быў яшчэ і другі Даўгінаўскі тракт, які браў накірунак з Мінска на поўнач у другое Даўгінава, што за Вілейкай.

На Мінска-Слуцкім тракце зімой і ўлетку цягнуліся панурыя балаголы з таварамі. Мясцовыя сяляне везлі па волі паноў зерне, лес у губернскі горад ці на прыстань. Абганяючы ўсіх, шпарка ляцелі паштовыя фурманкі. Па “гаспадаравай патрэбе” імчаліся коннікі.

Па гэтай дарозе ў цэнтр Беларусі пранікалі не толькі з добрымі помысламі. Шлях нёс, як казаў Янка Купала, і нягодных. У апошнюю вайну вораг прабіваўся да Мінска і па гэтаму напрамку.



Ля беларускай карчмы

Некалі дарога была добра абсталявана сістэмай заезных двароў і корчмаў. Аб іх месцы ў жыцці нашага народа і краю цяпер мала вядома, але і тое падаецца ў вельмі скажоным выглядзе.

Карчма існуе са старажытнасці ва ўсіх славянскіх народаў. Корчмы ставіліся на ўездах у вёскі, на скрыжаваннях дарог, ля паштовых станцый. Яны будаваліся ў комплексе з вадзянымі млынамі і паромамі.

Звычайна гэта была вялікая сялянская хата, у якой мясціўся і карчмар. Адметнай часткай пабудовы карчомнага двара была стайня ці стадола, дзе ставілі коней і фурманкі вандроўнікаў. Калі карчма аб'ядноўвалася са стадолай, то яе звалі заездам.

У корчмах звычайна ладзіліся скупшчыны, брацiны, бяседы, адзначаліся сезонныя святы, магічныя абрады, вяселлі, святкаванні пасля заканчэння нейкай працы. Абмяркоўваліся праблемы грамадскага жыцця, прымаліся рашэнні, а то правiўся і суд.

У карчме можна было падсілкавацца, пакарміць коней, адпачыць, адрамантаваць збрую, колы. Карчма ніколі на Беларусі не насіла таго значэння, якое мы заўжды ўкладвалі ў тэрмін “кабак”. Гэта хутчэй мясцовы культурны цэнтр, дзе весяліліся, абгаварвалі неадкладныя надзённыя патрэбы. Гарэлка тут іграла значную ролю.

Хаця і таварыствы цвярозасці, з поспехам дзейнічаўшыя ў канцы 50-х і пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя, мелі вялікае значэнне для грамадскай маральнасці. Хто меў ахвоту, то мог і перабраць меру, але такое не датычылася ні ў якім разе балаголаў. Чарка і не болей — наперадзе дарога, адказнасць за груз.

Падрабязнае апісанне адной карчмы па дарозе ў Крыжах зрабіў П.Шпілеўскі ў кнізе "Путешествие по Полесью и белорусскому краю", перавыдадзенай у 1992 годзе.

Калісьці мой школьны настаўнік, потым вядомы крытык і літаратар Сцяпан Александровіч звярнуў увагу на забытую цяпер, але раней распаўсюджаную, прафесію балаголаў. Увогуле балагол — гэта той, хто займаецца перавозкамі грузаў ці людзей на ўласнай фурманцы.*

У часопісе "Чырвоная Беларусь" за 1930 год Янка Шпандаровіч пісаў пра іх: "Яўрэя Каваленчыка я памятаю такім: быў у яго агарод, сеяў агуркі, прадаваў іх на рынку і з таго жыў. Быў і зараз яшчэ астаўся балаголам. У студзёную зімовую ноч, у дажджлівую восень, у вясенняе разводдзе едзе ён у падводы, шукае пасажыра, каб зарабіць рубель-другі на пражыццё. Такіх, як ён, у м. Капылі шмат. Яны едуць і ў Мінск, і ў Слуцк — гэта так званыя "штатныя" балаголы. Апрача іх ёсць і такія, што едуць ад вёскі да вёскі... А колькі краўцоў, шаўцоў, гарбароў, сталяроў з яўрэяў? Іх шмат".

Нялёгкая і небяспечная была гэта балагольская работа. Вазілі яны з сабой піку-дзіду для абароны ад мядзведзя, ваўкоў, а калі трэба, і ад людзей. У гады грамадзянскай вайны возчыкаў рабавалі і часам забівалі шматлікія бандыты.

Начавалі звычайна балаголы ў корчмах, але ўлетку нярэдка ўладкоўваліся непадалёк ад дарогі:

У вішнях вёска... На гасцінцы,
Чуваць, начлежнікі пяюць...

пісаў Паўлюк Трус.

---

*Балаголы — вельмі цікавая, даволі вялікая катэгорыя мясцовых працоўных людзей, што выконвалі прыватныя грузавыя і пасажырскія заказныя перавозкі. Гэта былі, як правіла, моцныя, вынослівыя людзі, звычайна яўрэі. Павозкі балаголаў умяшчальныя, закрытыя тэнтамі, запрэжаныя двума—чатырма коньмі. Балаголы выконвалі перавозкі ў любое надвор'е і пару сутак. У паслярэвалюцыйны час з развіццём аўтамабільнага і чыгуначнага транспарту балагольскі занятак скараціўся.



Былы даўгінаўскі шлях

У 30-х гадах XX стагоддзя у прыгранічны была створана сетка новых дарог, у прыватнасці новая, значна спрамленая і пашыраная, дарога Мінск—Слуцк. І з гэтага часу роля старога шляху пачынае падаць. А што ж з гэтай дарогай сёння? Цэласнага былога тракта цяпер не існуе. Ад Мінска да паўночных межаў Уздзеншчыны (вёска Жмакі) дарога ідзе амаль па старым напрамку. А вось ад паварота на вёску Гарбаты былы тракт ужо збочвае ўправа і чым далей, тым больш адхіляецца ад сённяшняй шашы. Адсюль былы тракт да паўдзённай мяжы праходзіць па Уздзеншчыне каля 35 кіламетраў, а ўсяго цягнецца амаль 48 кіламетраў.
Спачатку адгалінаванне прадстаўлена добра адсыпанай гравійкай. Але адразу ж пасля лесу з яе трэба павярнуць улева на прасёлак. Далей пойдзе грунтовая палявая дарога. На месцы той былой першапачатковай дарогі цяпер раскапаны вялізныя кар'еры. За імі пачынаецца лес, некалькі развілак. Трэба трымацца левага боку. Існі трэба ўздоўж поля праз высечкі, прагаліны, пакуль не пачнецца вялікі лес. Тут былое палатно дарогі шырынёй каля 8 метраў выяўлена някепска. Уздоўж яго часткова захаваліся прыдарожныя канавы. Яны з часам абваліліся, зараслі. Дарога ўся ў вялізных запоўненых вадойямінах, над ёй лясныя шаты зыходзяцца, злучаюцца і надаюць змрок. Людзей тут няма, відаць толькі колішнія сляды трактароў. Людзі, відаць, даўно пакінулі гэта месца.

Рухацца лепей пехатой. Лес тут нейкі чорны, пануры. Не бачна ні зеляніны, ні ягады, ні грыба, акрамя хіба чорнага грузда. Абапал прэлае лісце. У аграмадзістых лужынах водблескі пранікаючага

праз лістоту рэдкага сонечнага промня. Ад гэтай адгароджанасці ад святла, цяпла, ветра вельмі вільготна. Патрэбны нейкі вадасцёк, але і яго няма.


Подых дарожнай даўніны

Раней тут быў цяжкі кавалак шляху. Возчыкі ўбіваліся ў гразь, сцёбалі коней, падпіралі плячом драбіны, а яны ўвесь час правальваліся ў залітыя цёмнай жыжай каляіны. Крыкі, пануканне — і воз выбіраецца неяк наверх, каб праз дзесяць—дваццаць крокаў зноў зваліцца ў чарговую яму. Можа толькі ўлетку, у спёку, тут у прахалодзе адчувалася лягчэй і чалавеку і каню. Ды зімой лёд і снег якніяк раўняў дарогу і возчыкі спяшаліся, каб хутчэй пераадолець гэты кавалак і пазбегчы сустрэчы з ваўкамі, паспець да ночы ў Даўгінава.
Але ж усяму свой час — дарога ўздымаецца ў гару, адна-дзве сонечныя паляны з паасобнымі велічэзнымі соснамі і палаводдзем яркай зеляніны. Праз колькі соцень метраў нас сутракае раскошны малады дуб, за ім адгароджаны ў лесе і засаджаны квадрат зямлі. Бульбу абараняюць пудзілы, значыць, ёсць тут каму ласавацца. Непадалёк яблыня, у глыбіні ад дарогі яшчэ дзве антонаўкі. На галінах саспелыя бурштынава-жоўтыя злёгку празрыстыя яблыкі.

За сядзібай, на якой, відаць, жыў некалі ляснік, спускаецца глыбокі, парослы з’езд. Зноў прагаліны, але балот больш няма. Далей усё святочна ўрачыстае ў святле цёплага і ласкавага пачатку восені. На дарогу насыпаліся арабіны, на ўзбочыне ляжаць дзічкі. Закружыўся першы размалёваны дасціпным восеньскім мастаком ліст асіны.

Падумалася: няўжо ж так было заўсёды? Вось так і некалі, такія ж арабіны і дзічкі расціскалі колы скрыпучых вазоў. Толькі тады ў

асенні водар дарогі дамешваўся востры пах дзягцяной каламазі ды конскага поту.

Мы сёння яшчэ можам уявіць той час. Але тыя, хто прыйдуць пасля нас, — наўрад.

З Даўгінава ў Мінск балаголы
Па ім, бывала, дзень у дзень...
Ад дзёгцю пах, скрыпы ад колаў,
Шум ад людзей...
І ўсё як цень!

*Янка Купала.*

І ўсё як цень! Знік непаўторны вобраз нашага беларускага гасцінца! Калі па ім каціліся колы не з гумовымі і жалезнымі, а толькі з драўлянымі абадамі, калі ў Мінскай губерні на 100 жыхароў прыпадала 16 конікаў.

Дарога выходзіць на поле. Мы ўжо кіламетрах у трох ад асноўнай магістралі. Левае адгалінаванне перад вёскай Міколка вядзе на Слуцкую шашу. Паводле даўнейшых дадзеных, вёска Міколка, альбо Пясчанка, знаходзілася пры Мінска-Слуцкім гасцінцы (мы па ім ішлі) і ваенна-камунікацыйнай Ігуменска-Слуцкай дарозе. Далей гасцінец і ваенная шаша супадалі. Левая паваротка ішла праз Цеплень, Дудзічы, Рудзенск, Смілавічы на Мінск. Менавіта гэтым шляхам у 1812 годзе тут прайшлі галоўныя сілы корпуса французскага маршала Л.Н.Даву. Французы спяшаліся ў Мінск, валілі дрэвы ў гразкія лясныя пераправы, падсыпалі грэблі, якія потым насілі назвы "французскіх", як, напрыклад, пад Цепленем, Дудзічамі і ў далейшым напрамку гэтага тракту.

А.Ельскі адзначаў, што разам з Л.Н.Даву тут прайшоў са сваімі войскамі генерал князь Юзаф Панятоўскі, пляменнік польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, два дні стаяў ён у Дудзіцкім маёнтку.

Пры наступленні французы як быццам бы асаблівай шкоды мясцовым жыхарам не чынілі, калі не лічыць рэквізіцыю прадуктаў харчавання, коней. Але ад іх пайшла хвароба "пранцы" (па Я.Станкевічу французы ў беларусаў — гэта пранцузы). У Італіі яе называлі французскай ці іспанскай, у Францыі — неапалітанскай, у Англіі — хваробай з Бардо. Палякі сталі іменаваць яе нямецкай, а рускія — польскай. На Блізкім Усходзе хваробу палічылі "еўра-

пейскімі прышчамі”. А прыдбаных ад французскіх заваёўнікаў дзетак звалі на французскі манер “бэнсямі”.

Міколка ў канцы XIX стагоддзя была невялічкай вёсачкай, усяго на 4 сядзібы. Ва ўладанні яна пераходзіла ад Радзівілаў да Дамейкаў і Гарцінгаў.

Дарога далей ідзе праз вёску. Цяпер гэта вёска на дзве вулачкі і крыху разбудавалася. На высокім пагорку след ад былога дубавелікана. Тут як раз час спачыць і далучыцца да аднаго з самых значных сведчанняў нашай гісторыі, звязаных з пакланеннем гэтаму аб’екту.

Старажытных насельнікаў Міншчыны і суседніх з ёй рэгіёнаў асабліва прыцягвалі месцы пакланення незвычайным праявам прыроды. Усе такія мясціны з цудадзейнымі крыніцамі, камянямі, магутнымі дрэвамі былі звычайна прыхаваны ў мала даступных месцах — глухіх лясах, пад абрывамі, у правалах, балотах і называліся прошчамі. Гэтыя назва і паняцце ў сваёй аснове праславянскія і звязаны з маралевымі катэгорыямі прашчэння-прабачэння, прашэння.

Прошчы лічыліся дабрадайнымі месцамі. Да іх сяляне прыбягалі для атрымання адпушчэння грахоў, дапамогі ў бедах, паратунку ад хвароб. Прошчы залічваліся да ахвярных месц. З часам адбыўся пераход толькі на бяскроўныя ахвяры ў выглядзе паднясення рытуальных рушнікоў, стужак, вянкоў, падачы грошай — манет і г.д. Звычаі пакланення ішлі яшчэ ад язычніцкіх часоў і былі прадоўжаны хрысціянскімі святарамі для прыцягнення сялян у лона царквы. На месцах пакланення іншы раз узводзіліся паклонныя крыжы, часоўні, і нават храмы, выстаўляліся абразы, распяцці, ладзіліся набажэнствы, хрэсныя ходы, асвячалася вада.

...Яшчэ з адвечных часоў дуб ушаноўваўся за караля раслін, за святое дрэва. Культ яго існаваў амаль ва ўсіх еўрапейскіх народаў. Дуб лічыўся свяшчэнным дрэвам, прытулкам бога: Перуна — у беларусаў, Пяркунаса — у літоўцаў. Як і Пярун дрэва здавалася магутным, вечным, непадуладным часу. З дуба — “перуновага” дрэва — па паданнях здабывалі жывы агонь. Прытулкам Перуна — бога грома, маланак і навальніц, былі дрэвы, бо яны ўзвышаюцца сваімі галінамі ўверх да неба, насустрач ім ад Перуна ляцяць такія ж, толькі вогненныя, разгалінаванні маланак. Маланачны жывы

агонь уваходзіць у дрэва і знікае, хаваецца там. Але дзе? Лічылася, што ён знаходзіцца ў такіх жа разгалінаваннях, але пад зямлёй, у карэннях, у выглядзе залатога агню. Калі дуб вырваць з коранем, то пад ім абавязкова адкрыюцца незлічоныя скарбы срэбра і золата.

Ад тых часоў дубовае дрэва, асабліва сухое, лічылася свяшчэнным, цудадзейным. Б'юць маланкі — лепей падперці спіной дубовы касяк і яна цэлы год не забаліць. Рыхтавалася важная справа — трэба было пастукаць касцяком пальца па сухому дрэву і заручыцца падтрымкай заключаных там добрых духаў на паспяховае яе вырашэнне. Менавіта з сухога дубовага дрэва трэннем здабывалі першародны свяшчэнны жывы агонь. Я.Дыла апісвае рытуал вырабу ідала Пяруна іменна з разбітага маланкай старога дуба. Перад ідалам Пяруна звычайна падтрымліваўся нязгаслы жывы агонь на дубовых дровах.

У некаторых народаў гэтаму дрэву прыносілі ў ахвяру жывёл і птушак. Лічылася, што такім чынам можна заахвоціць дрэва дапамагаць чалавеку. На дубе навешвалі рушнікі, што было яшчэ адной адзнакай яго святасці.

Пры ўшаноўваемых дрэвах за шчыльнай агароджай знаходзіліся звычайна язычніцкія святыні — капішчы-гантыны. Паводле адных дадзеных, туды маглі заходзіць толькі старажытныя жрацы-капланы ды князі, астатнім уваход быў забаронены пад страхам смерці. Па іншых крыніцах, да культавага дрэва можна было наблізіцца толькі тым, хто складаў ахвяру, а таксама схавацца ля яго ад смяротнай небяспекі. Дзесьці каля адной з галоўных язычніцкіх святынь знаходзіўся вярхоўны жрэц — Крыва-Крывейт. Яго фігура ўяўляецца амаль міфічнай. Ён быццам бы з'яўляўся перад народам толькі ў асабліва важныя для лёсу краю моманты.

У старых дакументах сустракаецца ўпамін аб "перуновых" дубах, якімі адначасова адзначаліся межы ўладанняў. Тут яны выступаюць як выдатныя і надзейныя арыенціры.

У свой час агромністымі памерамі і ўзростам трымаў першынство жмудскі дуб "Баўбліс". Меркавалася, што ён меў веку болей за тысячу гадоў і ў язычнікаў быў "святым" дрэвам, увасабляючы гонар усіх жмудзінаў.

Як вядома, язычніцтва найбольш і найпазней захоўвалася ў лясістых мясцовасцях, у тым ліку і ў Беларусі. Можна з упэўнена-

сцю сказаць, што яшчэ ў канцы XIX стагоддзя рэлігійныя ўяўленні нашага продка на Міншчыне падзяляліся паміж хрысціянствам і язычніцтвам, схіляючыся нярэдка па сваёй сутнасці да апошняга.



Дуб-волат у Міколцы

Месца, дзе ляжала вёсачка Міколка, было вельмі глухое. На многія вёрсты тут цягнуліся непраходныя лясы. Былое вёскі добра апісаў яе жыхар Мікалай Карповіч. Яго цікавыя матэрыялы знаходзяцца зараз у раённым краязнаўчым музеі.

Тут была вялікая карчма, заезны двор, стадола. І ўдзень і ўначы, узімку і летам тут кіпела жыццё, не перарываўся няспынны рух транспартных караванаў. Тут адпачывалі балаголы, дзяржаўныя пасыльныя, паштавікі і навакольны люд. З пракладкай новай спрамленай дарогі на Слуцк Міколка засталася збоку і жыццё ў ёй прыціхла.

Але не толькі па названай намі нагодзе тут збіраўся люд. У народзе і да гэтага часу з пакалення ў пакаленне перадаецца глыбокая павага, я б сказаў, пачцівасць да гэтых месц. У сяле з далёкага мінулага да нашага часу захоўваліся аб’екты язычніцкага пакланення: на самым высокім месцы ў вёсцы стаяў стары дуб, а ў 2—3 кіламетрах на поўдзень бруіла цудадзейная крынічка. Тут жа знаходзілася ахвярнае месца і, хутчэй за ўсё, старажытнае капішча ў гонар Перуна. Як сведчыць выдатны беларускі краязнаўца А.Ельскі, наш дуб ушаноўваўся здавён. Яшчэ ў часы ўніі ў гэтай сувязі пад дубам была ўзведзена драўляная цэркаўка ў гонар святога Мікалая Цудатворца. Уніяцкая, а потым праваслаўная, яна была пабудавана з яліны ў выглядзе крыжа ў плане і, як быццам бы, з XVII стагоддзя не перабудоўвалася. Як бачым, уніяцтва аднеслася да аб’екта



Царква ў гонар святога Мікалая
пад дубам у Міколцы.
Здымак Л. Калядзінскага

язычніцкага пакланення цярпліва, вырашыўшы перацягнуць у свае лона вернікаў праз мірнае спаборніцтва, шляхам пераканання. Служба тут адбывалася двойчы ў год: на вясенняга заступніка нашага (22 мая) і зімовага (19 снежня) святога Мікалая. Цікава, што ў рытуалах сумяшчаліся як навейшыя хрысціянскія, так і мінулыя язычніцкія звычаі.

Што азначала гэта свята для беларуса, добра апісана ў сшытку “Адраджэнне” за 1922 год:

“На Міколін дзень пачынаюць вадзіць коні на начлег. Іх абкурваюць купальскай травою і абходзяць з яйцом. Гэта робіцца дзеля захавання іх ад пошасці і ад зладзеяў. Значыць, святы Мікалай таксама, як і святы Юрый, мае дачыненне да гадоўлі скаціны. Але ён таксама клапоціцца і аб ніве і мае нейкія правы над ёю: нават, як можна судзіць па беларускай прыказцы, уступае ў спрэчку са святым Юр’ем: “Юрый сказаў — жыта ўраджу, а Мікалай — пажджы, пагляджу”. Звычайна думаюць, што святкаванне ў чэсць Міколы памагае ад граду. Значыць, Мікола таксама выпаўняе функцыі даўнейшага паганскага бога, або асобнага ад таго, якога замяшчае Юрый, або ўдваіх з ім спаўняе абавязак аднаго даўнейшага бога”.

Царква працавала яшчэ і ў пасляваенны час. Потым тут быў склад. А затым зноўку людзі знеслі сюды абразы і адпраўлялася царкоўная служба.

Напярэдадні свят свайго заступніка навакольныя сяляне за дзесяткі вёрст збіраліся ў лесе непадалёку ад вёскі Міколка ва ўрочышчы “Берцы” на “водпуск грахоў”. Тут яны ўсю ноч палілі

агні, спявалі адвечныя песні. Святкаванне доўжылася амаль да белага дня. Заўзятая, празмерна гучная бяседа, гаворка іншы раз даходзіла да нястрыманай апантанасці, экзальтацыі. Затым натоўп перамяшчаўся да вёскі, дзе складаў сваю ахвяру ў царкву (!) і далей прадаўжаў святкаванне.

Ад сябе дададзім, што ад раніцы святары асвячалі ваду ў цудадзейнай крыніцы непадалёку ад месца начнога святкавання, і ўсе людзі адпраўлялі шэсце ад крынічкі да царквы, дзе пачынаўся малебен у гонар святога Мікалая.

Як бачым, усе асноўныя складаючыя язычніцкага пакланення тут у выразнай наяўнасці: дуб (хоць там і стаіць царква, таму невядома, каму складаюцца ахвяры — царкве ці дубу), вада (святая крынічка), агонь (начныя вогнішчы).

Застаецца яшчэ патлумачыць характэрную шумнасць усяго рытуалу святкавання і празмернае ўжыванне ў гэтыя дні спіртных напіткаў. Адказ зноў жа дае нам А.Ельскі. Ён лічыць, што вытокі гэтаму святу крыюцца яшчэ ў дагістарычных язычніцкіх часах, і звязвае іх з дубамі, якія памяталі эпоху крыва-крывейтаў, гэта значыць часы XIII—XIV стагоддзяў. Некалькі слоў пра таямнічую фігуру Крыва-Крывейта.

Для ваяўнічых літоўцаў храмам звычайна быў дубовы гай, дзе гарэў вечны агонь-зніч і правіў галоўны сярод жрацоў-вайдэлотаў свяшчэнны прадказальнік Крыва-Крывейт. Ён узносіў малітвы вярхоўнаму богу грома і маланак Перуну, спальваў целы памерлых, яго слова было законам для ўсіх — і для князя, прадвадзіцеля дружыны.

У Вільні па загаду Гедыміна быў пабудаваны грандыёзны язычніцкі храм з логавішчамі змей і вежай, з якой прапаведваў вярхоўны жрэц Крыва-Крывейт.

Ягайла разбурыў гэты храм, затушыў свяшчэнны агонь, загадаў забіць свяшчэнных змей і высекчы свяшчэнныя гаі. Вежу ён забаяўся разбураць. Там былі камяні са знакамі, якія папярэджвалі, што як толькі апошні камень будзе вывернуты са свайго месца, то загіне і будзе спынены ўвесь род вялікіх князёў літоўскіх.

Аднак У.М.Ігнатоўскі мяркуе, што слова “Крыве” хутчэй трэба разумець, як уласнае імя нейкага паважанага ў літвінаў жраца ці волхва, чым агульную назву асобы.



Хрэсны ход на святога Мікалая-вясенняга ў Міколцы. Канец XIX ст. Малюнак пяром В. Сташчанюка

А.Ельскі лічыць міколкаўскі дуб равеснікам згаданага намі вышэй дуба Баўбліса. Баўбліс (Бубліс) у язычніцкай Жмудзі азначаў наогул агромністыя свяшчэнныя дубы, са ствалін якіх у пэўныя дні прысутным даносіліся даўнія апавяданні, варожбы і прадказанні (у польскіх казках ёсць сюжэты, паводле якіх у вялікім дубовым дрэве жывуць вешчыя духі-дзевы). Некаторыя вучоныя дапускалі, што гэта назва паходзіць ад бога Бабілоса, заступніка пчол, што гняздуюцца ў дуплах ці борцях. Гэта божаства апякала, акрамя таго, бортнікаў і піваvараў. Было асабліва ўслаўляема ў гамонках сагрэтай пітвом грамады. Бога ўшаноўвалі спецыяльным рытуалам: разбівалі аб печ збан з мёдам у час малітвы, якая перарывалася крыкам і шумам, што імітавала шум шматлікага пчалінага рою. Празмерны шум у начных гамонках ва ўрочышчы Берцы таксама паўтараў шум тых жа пчаліных рояў. Божаства інакш звалі яшчэ Рагуцісам. Але летапісцы адрозніваюць Рагуціса (Рагута) ад Бабілоса, надаючы першаму асаблівую апеку над зброжанымі (сычанымі), гэта значыць алкагалізаванымі, мядовымі напіткамі, а другому — над прэснымі, салодкімі. Як бачым, такое пакланенне было і язычніцкаму заступніку, падобнаму ў нечым Бахусу. У русінаў над Дзвіной гэта божаства звалася Жозім (ці Зосім). Літоўцы гэтым богам пужалі дзяцей, гаворачы: “Бубліс ідзе, цябе возьме ці парве”. У літоўцаў божаства займала на сваё свята, якое прыпадала на люты, месца за сталом.

Выгляд Рагуціса апісаў Т.Нарбут паводле ўспамін канца XVII стагоддзя. Статуя таго знаходзілася ў прыхожай Мярэцкай ратушы. Бубліс меў выгляд маладога хлопца з кароткімі валасамі і двума рагамі. Твар яго акруглы, як быццам бы набраклы, губы малыя ва ўсмешцы, жывот вялікі, раздуты, у руцэ мядовая чарка.

Ён меў свае капішчы, ідалаў, жрацоў (капланаў)...

Сярод людзей хадзіла некалі легенда аб закапаным пад міколкаўскім дубам залатым скарбе, які звалі “французскім”. Але ніхто не наважваўся яго шукаць з-за страху наваропканай на кладзе смерці.

З часам да гэтага дуба далучыліся і хрысціянскія святыя. Сярод кроны дрэва пачалі заўважаць воблік Ісуса Хрыста. Уяўленне старажытнага божаства на гэтым дрэве змянілася пазнейшым. Але так ці інакш пашана да гэтага дуба выяўлялася праз сімвал святасці дрэва.



Ахоўны крыж перад в. Чамярычнае

Да апошняга часу месца пад дубам у Міколцы лічылася ахвярным. У час Вялікай Айчыннай вайны тут быў пастаўлены драўляны крыж у памяць ахвяр. Калі крыж струхнеў, то пры даволі актыўным процістаянні мясцовых сельскіх улад на яго месцы паставілі новы.
Ахвярныя (ахоўныя) крыжы на Уздзеншчыне — з'ява даволі звычайная. Іх можна сустрэць яшчэ і сёння. Такі крыж ёсць на перакрыжаванні ў вёсцы Тоўсты лес. У час вайны наш дзед Рыгор Галавенчык паставіў ахоўны крыж перад сваёй хатай на ўездзе ў пасёлак вёскі Чамярычнае пад назвай Новы Двор.

Цяпер некалькі слоў аб памерах дуба-волата. Яны былі сапраўды гіганцкія. Вышыня дасягала (на адкрытай прасторы дубы звычайна растуць каржакаватыя) 20 метраў, гэта значыць — вышыні 6—7-павярховага дома. Крона закрывала сабой звыш 300 кв. м плошчы пад дубам. Дыяметр ствала дасягаў 1,8 м. Сівы ўзрост яго ўжо праяўляўся. Некалькі галін былі сухія. Прыкарэнная частка пачала трухнець. У дапаўненне да звестак А.Ельскага дададзім: мясцовыя жыхары маюць дадзеныя, што на нейкай старой карце пазначаны гэты дуб і яго ўзрост — 600 гадоў. Хутчэй за ўсё, ён быў

гранічны, залічаны некалі ў межавыя ці ваенныя арыенціры, узяты на ўлік, абараняўся правам і таму захаваўся.

Аўтар яшчэ ў 1984 годзе выступаў у друку, звяртаючы ўвагу на незвычайнасць унікальнага дрэва і неабходнасць правесці яму аздараўленне і ўмацаванне.

Сёння тут ужо нічога няма. У 50-х гадах XX стагоддзя цэркаўку знёс кіраўнік мясцовага саўгаса. Ніякіх абмераў ці здымкаў перад гэтым не рабілася.

У маі 1987 года мы з журналістам Анатолем Паўлавічам Ярохіным, даследчыкам і добрым знаўцам культурных каштоўнасцей Міншчыны, наведалі Міколку.



Намоленае месца
пад Мінскам

Дуба тут ужо не было. Мясцовыя людзі расказалі, што яго скруціла і зламала наляцеўшая аднекуль віхура.

Гроза прошла — еще курясь, лежал
Высокий дуб, перунами сраженный,
И сизый дым с ветвей его бежал
По зелени, грозою освеженной.
А уж давно, звучнее и полней,
Пернатых песнь по роще раздалася
И радуга концом дуги своей
В зеленые вершины уперлася...

так пісаў некалі на смерць дуба расійскі паэт Фёдар Цютчаў.

Пры падзенні дуба з вершаліны выпаў штык, своеасаблівае сведчанне ваеннага мінулага, бо і сам дуб быў воінам і неаднаразова выкарыстоўваўся назіральнікамі. 29 чэрвеня 1941 года з яго кроны біў па ворагу кулямёт.



Рэшткі дуба-велікана.
Удалечыні каля пнішча А. Ярохін

Агледзеўшы раскіданыя рэшткі гіганта, мы заўважылі абгарэлую сэрцавіну яго пня. Нам трохі вінавата ўдакладнілі, што яе выпалілі дзеці ўжо пасля падзення дрэва. Яшчэ распавядалі, што мясцовы кіраўнік дадумаўся незадоўга перад тым пракапаць па яго карэннях глыбачэзны роў для адводы вады.

Позна было шукаць вінаватых: на рэспубліканскім, як і на мясцовым, уліку дрэва не значылася, хаця ўваходзіла ў першую пяцёрку найвялікшых дрэў Беларусі.

У той жа дзень мы з дапамогай мясцовых жанчын адшукалі і месца былой “святой” крынічкі. Зачынілася і высахла тая цудадзейная крынічка пад Міколкаю. Не стала больш яе надзейнага сілкавання — агаліліся навакольныя лясы.*

Вось так проста, непрыкметна пры жыцці ўсяго аднаго пакалення была перагорнута вялікая старонка нашай шматвяковай гісторыі, па-сутнасці, гісторыі кожнага з нас. Той стары дуб нёс на сваіх галінах нашу вялікую гісторыю, пачынаючы з часоў заснавання Вялікага княства Літоўскага.

Цяпер я лепш разумею мужны ўчынак нашага бацькі Мікалая (імя яму было дадзена падчас хрышчэння ў гонар святога Мікалая-вясенняга, потым ён леснічаваў у гэтых месцах), калі, ужо працуючы на Навагрудчыне на пасадзе ляснічага, выступіў супраць пракладкі праз векавечны дубовы гай кароткага праезда з суседняй вёскі і паступіўся пасадай. Нам думаецца, што ў той момант ён уяўляў сімвалам праўды міколкаўскі дуб.

*Па дайшоўшых да нас чутках святое міколкаўскае месца і яго крынічка быццам бы цяпер зноў “ажываюць”.

У тую паездку А.П.Ярохін шырынёй душы сваёй згладзіў трохі сапсаваны настрой тым, што ўзяў на сябе турботы па афармленні дадатковых ільгот мясцовым удавіцам, жонкам удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Не толькі ўзяў, але і давёў справу да канца. Такі ён быў. Быў, таму што меней чым праз восем гадоў і сам, вельмі моцны, здаровы, як той дуб, памёр на рабочым месцы галоўнага метадыста арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданні гісторыка-дакументальных хронік "Памяць" Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.



Анатоль Ярохін выслухоўвае просьбы жыхарак вёскі Міколка

А маю душу ад тых часоў усё бярэдзяць дасланыя ім шчырыя, прысвечаныя лёсу роднай старонкі і яе спадчыны, лісты...

Тады, на растанні, нам падаў нейкую надзею малады дубок-прыгажун. Ён прыняў на сябе былую святасць старога культавага дуба: вырас з яго жолуда! Нікому не замінаў, бо рос за мяжой сялянскіх сядзіб. І аўтар запісаў у паходны дзённік наступнае: "Сёння ён не вымагае асаблівай увагі і дапамогі людзей. Толькі б яго не пашкодзілі і далі перажыць наш ненадзейны час, а нашчадкі, я ўпэўнены, яго зберагуць і эстафера памяці будзе прадоўжана. Для гэтага трэба адшукаць і захаваць праз раённы гістарычна-краязнаўчы музей фотаздымкі адыйшоўшых у нябыт царквы і дрэва. Трэба паспрабаваць сабраць успаміны і матэрыялы аб гэтым цудзе прыроды. Знайсці паблізу новую крынічку і добраўпарадкаваць яе. Апрацаваць мясцовыя паданні, фальклор". Аднак нічога і блізкага пакуль не адбылося.




Дарога да асіповіцкай Прошчы

Але ёсць і іншы вопыт. У апошні час давялося займацца даследаваннем падзей апошняй вайны. Нашу ўвагу прыцягнуў яе пачатак, калі на Асіповіччыну ў балоцістыя лясы ў ліпені—жніўні 1941 года была перакінута з поўдня краіны для разбурэння тылавых сістэм ворага 32-я крымская кавалерыйская дывізія. Тут яна і загінула, а ўся тая трагедыя адбылася ў вядомай ад старажытнасці мясцовасці Прошча.

Гэта велічнае месца знаходзіцца на амаль круглай паляне, абкружанай шчыльнай сцяной векавечнага леса. Па цэнтру яе ўзвышаецца хрысціянскі храм. Тут пахавана частка астанкаў загінуўшых воінаў, выяўленых пры добраўпарадкаванні тэрыторыі царкоўнага двара. На магілах крыжы, прабітыя каскі, вянкі.

У асіповіцкіх ваколіцах Прошча вядома з 1864 года. Тагачасны пратаіерэй Грыгорый, настаяцель прыходскага храма ў імя Васілія Вялікага суседняй вёскі Карытнае пабудаваў у Прошчы прыпісную царкву ў гонар абраза Божай Маці.

У зборніку “Описание церквей и приходов Минской епархии” (1897, т. 3, с. 74—75) даюцца звесткі пра Карытнянскую царкву і царкву ў Прошчы. Указваецца на крыніцу поблізу Прашчанскай царквы, пра выпадкі вылечвання яе вадой двух сляпцоў.



Храм Прасвятой Уладычыцы нашай Багародзіцы,
названы “Жываносным Вытокам”

У канцы 20-х гадоў XX стагоддзя, калі разгарнуліся ганенні на вернікаў, царкву ў Прошчы спалілі. У канцы 50-х жанчына вёскі Ясень Яўгенія Сідарэвіч пабудавала тут невялікую драўляную цэркаўку, адразу ж знесеную мясцовымі ўладамі.

У канцы 80-х пасля дазволу на будаўніцтва храма ў Прошчы жанчыны сваімі рукамі за тры гады, дзякуючы Божай і добрых людзей дапамозе, узнеслі на гэтым месцы каменны храм.

29 жніўня 1992 года адбылося ўрачыстае асвячэнне адбудаванага храма ў гонар Божай Маці “Жываносная крыніца” мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі. Ад тых часоў у гэтым храме адбываюцца богаслужэнні па суботах, на пяці гадавых святах праводзяцца літургіі.

Тэрыторыю Прошчы і храм абслугоўваюць паслушэнствам сестры ў ва Хрысце сястрыцтва ў гонар новапраслаўленай блажэннай Валянціны Мінскай.

Першае, што ўражвае кожнага па прыбыцці ў Прошчу — цішыня і спакой. Тут ідзе зусім іншы адлік Часу, Часу Вечнасці. Стромкія дрэвы, сярод якіх узвышаюцца і дубы, як і крыжы на купалах

храма, скіраваны, імкнуцца ў Неба. Такое пачуццё далучэння да Вечнасці не пакідае паломніка ўвесь час. Кожны з нас мае магчымасць у любы дзень наведаць святое месца (сюды арганізуюцца аўтобусныя паездкі з Асіповічаў), увайсці ў храм, памаліцца, паставіць свечку, заказаць богаслужэнне, набраць святой вадзіцы з крынічнага калодзежа і абліцца ёй. Ад’язджае наведвальнік абноўлены, абнадзеены, упэўнены, улагоджаны душой.

І вось яшчэ што: з незапамятных часоў старажытные ахвярнае месца на самым пачатку вайны забрала тут у якасці ахвяр тысячы маладых жыццяў. Забрала іх у большай часцы не ў прамых баявых дзеяннях, а ў пакутах ахвярнай бездапаможнасці, каб яшчэ і праз гэту ахвяру здабыць праз чатыры гады ў найцяжэйшай вайне агульначалавечую перамогу.

Пра гэта сведчасць і сёння ў навакольных лясах шматлікія іх пахаванні, крыжы. Тут мала брацкіх магіл. А паасобныя безымённыя раскіданы пад кожным дрэвам і кустам. Пра гэта нагадваюць мемарыяльныя дошкі на царкве, помніках казацкай славы. Усе яны пастаўлены, узнесены мясцовымі ўладамі, святарамі, простымі людзьмі.

...Праз 18 гадоў адбылася чарговая сустрэча з Міколкамі. Доўга я шукаў тыя памятныя мясціны. І што ж убачыў? Той роў і цяпер працінае ўзгорак. Пнішча старога дуба знікла.

А як наш дубок? Сапраўды, узнёсся ён аж пад неба. Аднак на забытай Богам і людзьмі і зарослай пустырамі Міколцы не знайшлося для яго і соткі свабоднай зямлі. Вось і абклаў яго самадзейны “гаспадар” усялякім хламам, абрэзаў абы як яго галіны. І ўзносяцца тыя куксы ў неба з горкім папрокам: “Людзі, няўжо вам не хапае тут зямелькі? Чаму вы тут нічога не шануеце, ні мінулага, ні сённяшняга?”

І справа не ў тым, што той “гаспадар” не чытае маіх пісанняў. У душы ж Бог павінен быць у кожнага, бо толькі ён ахоўвае і працягвае абавязкі нашчадкаў перад продкамі.

Людзі ў Міколцы пакінутыя ўсімі, ходзяць у росквіце гадоў з апушчанымі галовамі без надзеі на якую-небудзь будучыню. То там “правіў” “Інтэграл”, то тут ладзіць справы Інстытут бульбаводства, а гаспадара як не было, так і няма. Цяжка паверыць, што ўсё гэта адбываецца ў пары кіламетраў ад слуцкай шашы, дзе некуды ляціць, імчыцца, губляючы галаву ад раскошы, тая самая цывілізацыя...



Скалечаны дубок у Міколцы

Не даюцца сёння чалавеку справы Вечнасці. Не прыжываюцца, не ашчаджаюцца перасаджаныя паспешлівымі рукамі чалавека дубкі.

Настаў час аднавіць у Міколцы былы храм у спадзеве на вяртанне з часам у людзей павагі да продкаў, радзімы, прыроды. Ды садзіць тыя дубкі памяці адвечным спосабам — жалудамі!..

А.Ельскі адзначыў, што мясцовасць у Міколцы заслугоўвае пільнай увагі археолагаў. Пашукаўшы тут, мы маглі б знайсці дадатковыя сведчанні, якія б лепей і даходлівей растлумачылі мінулае гэтага краю. У такім разе адбылося б неабходнае ўсім адраджэнне.

...Дарога ідзе ўніз, на ўзгорку праваруч камяні — месца, дзе стаяла ў мінулым вялікая карчма. Цяпер тут на сухім узвышаным месцы сяляне хаваюць бульбу.

Ля дарогі, ля далёкай
Каля крыжавой,
Спіць карчма там адзінока
З злупленай страхой.
Калісь гоманам шумела,
Людна ў ёй было,
Падарожных многа мела, —
Усё не раз сяло...

з жалем аб мінулым пісаў Янка Купала.

Вось і ўскраіна, далей лес. Пасля лужын вялікі, сухі, чысты, звычайны для Беларусі, лес-бор. Дарога звіваецца ўлева, управа, уверх, уніз. Апошнія ягады — чарніцы, маліна. Ды грыбы.

Лагодна і зладжана ў прыродзе ў гэты час. Адзін сапраўды беларускі краявід змяняе другі, на сэрцы наступае палёгка. Лес скончыўся, дарога выйшла на касагор поля. Па дарозе даўно ўжо не ездзяць, бо яна большай часткай перааранaя. У адным месцы макрэча. Вада з'явілася нядаўна. Парадаваўся, што не толькі знікаюць крыніцы, але і новыя прабіваюцца з глыбінь.

Успамінаю — калі пайсці направа ўздоўж лесу, то праз кіламетр з невялікім шляху мы будзем ля вёсачкі Верхнёман, ля былога вытоку вялікай ракі. Аб ім мы расказвалі вышэй.

Ад Цялякава да Верхнёмана каля 4,5 кіламетраў, ад уздзенскай дарогі — 8 км, ад Даўгінава — 2,5 км.

Вось, здаецца, і яно. Праз кіламетр—паўтара выбіраемся з поля на асфальтавую дарогу, яна ідзе з Цялякава. Вялікая вёска Даўгінава. Гэта яна ў паўсотні кіламетрах ад Мінска дае такую мясцовую назву шляху. Яна і раней была вялікая і доўгая. Таму, відаць, і назва такая. Даўней была вотчынай рода Шышкаў, а з 1864 года права спадчыны належала Чачотам. Зямлі мела вёска каля 650 маргоў (325 га). Насупраць дома Макарэвічаў, дзе некалі ўзвышаўся верставы слуп з адзнакай 48/48 (вёрст ад Мінска і ад Слуцка), стаяла карчма.


Завяршэнне старажытнага шляху

Узгадаў тут успаміны краязнаўца М.Лазара, як некалі людзі перанеслі на руках вясковую кузню з ускрайку да цэнтра пад дом каваля-яўрэя, каб яму было лягчэй дабірац-



Блізкія і родныя даўгінаўскія людзі

ца да сваёй кавальскай справы. Адтуль і пайшоў выраз — "Даўгінаўцы кузню ўзялі!"

Я ведаў, што адсюль выйшлі мой дзед па маці — Рыгор Галавенчык, а таксама той хавальнік вытоку Нёмана Сымон Галавенчык. Яго вялікая радня ўдакладніла мне, што дзед Рыгор яшчэ недзе на пачатку XX стагоддзя пасля службы ў мікалаеўскай арміі пайшоў адсюль у прымы на Панкратаўшчыну недзе каля Перавоза.

Як у свой дом трапіў. Адразу прызнаў даўгінаўцаў за сваіх. Адна бабуля як дзве кроплі вады — мая маці. Яшчэ адзін мой родны вугал, што хавае і беражэ мяне... Так што ж можа быць лепей сустрэчы з ім?

Зноў падлічваю: пасля Міколкі мы прайшлі каля 5,5 кіламетраў. Значыць, прыйшоў у заняпад кавалак былога Даўгінаўскага тракта агульнай працягласцю каля адзінаццаці кіламетраў. Няма цяпер на ім верставых слупоў, адышла ў нябыт яго нялёгкая і велічная гісторыя. Кажу аб гэтым таму, што пасля Даўгінава былы тракт прадоўжаны шырокай гравійкай.

Калі ёсць час, то варта збочыць і заехаць у вёску Госбішчы. Былы фальварак, а цяпер невялікая вёсачка непадалёк ад Слуцкай

шашы. Вы не пашкадуеце аб сваёй паездцы. Справа ў тым, што тут, непадалёку, метраў 300 ад вёскі, на бярозавым узлеску знаходзіцца "святы камень".

Вядомы беларускі вучоны Эрнст Ляўкоў, цікавы і аўтарытэтны чалавек, сведчыў, што сярод беларусаў яшчэ здаўна вядомы дзівосныя легенды і паданні аб камянях. Незвычайныя валуны былі аб'ектамі язычніцкіх пакланенняў. Напрыклад, валуны каля вёскі Камяное. Дзе-нідзе іх да гэтага часу завуць "божымі" камянямі. На некаторых з іх ёсць старадаўнія знакі і надпісы. Лёс многіх камянёў незвычайны. Раскіданыя па лясах і палях Беларусі, яны здзіўлялі людзей сваімі незвычайнымі формамі ці дзіўным каменным узорам.

Сярод камянёў-помнікаў ёсць і камяні-следавікі. Да такіх належыць і "святы камень" каля Госбішчаў.* Памеры яго невялікія — да 0,8 метра. Бліжэй да цэнтра на ім ёсць адбітак быццам бы чалавечай нагі. Кажуць, некалі Бог, спускаючыся з неба, ступіў на яго. У гэты "след" складвалі ахвяраванні, манеты, нагрудныя крыжыкі. Калі там былі мы, ахвяраванняў было больш як на два рублі (па тых, савецкіх, грашах!). Ні камень, ні манеты ніхто не чапае. Болей таго, ён пакрыты сучаснай дэдэронавай накідкай. Трактарысты, абворваючы гэты ўскрайчык поля, імкнуцца не зачапіць камень. Бо гэта грэх, вышэй якога няма. Цяпер ён абгароджаны. Грошы час ад часу забіраюцца і перадаюцца ў царкву. Вось так і з'ядналіся язычніцкія звычаі ўшаноўваць аб'екты прыроды, пакланяцца ім з царкоўным праваслаўным набажэнствам.

Мясцовыя настаўнікі добра ведалі гэтыя старажытныя звычаі, але трохі баяліся пра іх гаварыць, тым больш вучням. Павага да звычаяў нашых продкаў строга асуджалася і прызнавалася несумяшчальнай з працаю ў школе.

Ніякі варыянт вывучэння нашага мінулага, хай ён выходзіць нават толькі з паданняў, не трэба адкідваць. Ёсць меркаванне, што нашы продкі ўшаноўвалі так званыя тэкціты — аплаўленыя плоскія каменьчыкі, якія выпадаць з міжзорнай прасторы на зямлю, і клалі іх на магілы. Напрыклад, у Борках, як сведчыць А.Махнач.

---

*Гостбішча — па У.І.Далю гэта пір, "угощение"-пачастунак для гасцей, гандляроў. Тапаніміка ўтрымала ў сабе важнейшую падзею мінулага — тут быў пункт гандлю і адпачынку на старажытным гандлёвым шляху.



“Святы камень”-следавік каля в. Госбішчы



Асвячэнне айцом Рыгорам (Чарапеннікавым),
настаяцелем Свята-Петрапаўлаўскай саборнай царквы,
уздзенскім благачынным, “святога каменя” каля в. Госбішчаў

Для Беларусі не характэрны тэкцітныя выпадзенні, хаця ж такое здаралася над вёскай Дубай паблізу Пінска. Магчыма, некалі ў пэўных месцах Уздзеншчыны. Тым болей, што ёсць звесткі аб падзенні каля вёскі Пукава (цяпер — в. Камсамольск) каля 150 тыс. гадоў назад ледавіковага метэарыта-валуна. Месца падзення за 35 км на поўдзень ад Борак. Можа, менавіта, ён і прынёс нябесных гасцей — тэкціты. Людзі на магілы абы чаго класці не будуць...

Некалькі хвілін бегу машыны і пяць з паловай кіламетраў дарогі пераадолены. Мы на скрыжаванні з дарогай Валяр'яны—Узда. Па праваму боку непадалёк вёска Пырашава. Яна ў канцы XVIII стагоддзя, як і вёскі Світалаўка, Забалацце, Макраны, Кізевічы, Кунцаўшчына, Харуплей і Грыцэвічы, належала роду Булгарыных. Тут, на перакрыжаванні дарог Даўгінава—Слабада-Пырашаўская і Шацк—Узда, у дыяганальным накірунку ад вёскі Пырашава знаходзілася некалі сядзіба рода Булгарыных, у былым напісанні фальварак Перашава.

Пазней Пырашава перайшло да аднаго з прадстаўнікоў рода Наркевічаў-Ёдкаў. Яму належыў таксама і Прысынак.

...Далей ідзе някепская дарога да вёскі Слабада-Пырашава. Назва невыпадковая. На Уздзеншчыне ў былыя часы налічвалася каля паўдзесятка Слабод. А гэта была бліжэйшая да вёскі Пырашава. Вось і атрымала назву Слабада-Пырашава. У 1887 годзе мела 28 поўнанадзельных сядзіб, пасляўніяцкую царкву Прасвятой Дзевы Марыі. Народ тут апрача апрацоўкі зямлі займаўся вырабамі з дрэва, у тым ліку і колавым майстэрствам. На пачатку XX стагоддзя Слабада-Пырашава была набыта ў Радзівілаў Ануфрам Ёдкам. Слабадапырашаўцы спрадвеку дамагаліся вольнасці і незалежнасці.

Некалі ў сярэдзіне XIX стагоддзя па гэтай дарозе-брукаванцы праехаў з Хатлян П.Шпілеўскі. Ён пісаў пра памешчыцкі хутар па левым баку дарогі перад вёскай. І цяпер стаяць там старыя прысады. Ён адзначыў, што тут багата сенакосаў і ўрадлівых палёў. Яму казалі, што некалі тут планаваўся якісьці горад. Гэта месца вельмі прыстойнае. А царква ў ім добрая, асабліва прыстойная ўнутры. Падарожнік ухваліў дарогу на гэтым адрэзку.

Перад 1873 годам Слабада-Пырашаўская царква была абноўлена на сродкі прыхаджан. Стаяла яна ў прыгожым месцы. Вонкавы выгляд пакідаў прыемнае ўражанне. Пагост быў абнесены прыго-

жай агароджай. Прыхаджане, акрамя ўсяго, ахвяравалі ў царкву абраз святога князя Аляксандра Неўскага ў памяць 19 лютага 1861 года ў срэбранай рызе і звон у 10 пудоў.

Шмат разоў гэты шлях быў пройдзены аўтарам пасля вайны. Цяпер на месцы былога драўлянага будыначка нашай пасляваеннай школы-сямігодкі высіцца двухпавярховы каменны будынак васьмігодкі. Колішняй драўлянай царквы ўжо няма. У невялікім парку ад яе засталіся толькі падмуркі.

За ваколіцай, вядомай па колішняй вучобе ў сямігодцы, добрай дарогі няма. Сельскі грунтовы праезд коціцца па схілу касагора. Там унізе некалі стаяла смалярня. Гэты быў вельмі адметны арыенцір. Для мяне яна нясе іншыя ўспаміны. Мы нярэдка ў ёй грэліся, а іншы раз і начавалі, калі занадта ўсходзіліся наўкола ваўкі. Другі раз рабілі вялікія квачы, макалі іх у шкіпінар, запальвалі і такім чынам з агнём дабіраліся ў Чамярычнае. Часам клалі ў дротавы кошык смалякі і ішлі пад няпэўны чырвона-дымны бляск ценяў. Так было смялей. Невялікі кавалачак нашага шляху ішоў як раз па Даўгінаўскаму тракту.

Няма ўжо той смалярні. Застаўся ад яе толькі знак — невялікі груд на ўзвышэнні перад лесам. Пабудавана яна была, як сведчаць дакументы, Наркевічам-Ёдкам у 1863 годзе і мела назву: Слабада-Пырашаўскі смалакурны завод. Працаваў гэты завод увесь год без перапынку. Утрымліваў яго арандатар Мордух Разоўскі за 70 рублёў у год. Выдаваў у год 600 пудоў смалы і 50 пудоў шкіпінару на 212 рублёў і 50 капеек. На выпальванне 30 кубічных сажаняў сухіх сасновых карчоў ішло каля 50 куб. сажаняў дроў. Па другіх звестках адна закладка печы патрабавала 14 куб. метраў карчоў. Выхад смалы быў 730 кг, шкіпінару — 300 кг, вугалю — 1400 кг.

Ад старажытнасці на Уздзеншчыне смалярні былі ўзведзены і ў Ракашычах, Пілічах, Уздзе. Цяпер працуе з іх толькі адна — ва Уздзе. Канструкцыя гэтай смалярні ўключае дзве злучаныя пераходам печы. Такая сістэма дазваляе праводзіць бесперапынную яе работу. Раней смалярні працавалі на якасных сасновых карчах, якія нарыхтоўваліся на былых высечаных лясах, пазней карчы здабываліся праз падрыў іх малымі аманалавымі зарадамі. Цяпер яны паступаюць з распрацоўваемых тарфянікаў. У якасці эксперымента выкарыстоўваюць і сырыя пні. З адной загрузкі печы атрымліваец-



Старая смалярня



Дзеючая смалярна ва Уздзе

ца каля чатырох бочак дзёгцю, столькі ж шкіпінару. Акрамя таго, атрымліваюць яшчэ каштоўную сыравіну — драўняны вугаль, ён добра ідзе ў кавальскай справе. Апрача таго, у апошні час пашырыўся на яго попыт як на паліва для прыгатавання шашлыкоў. Шкіпінар вязуць на Украіну для перапрацоўкі. Паблізу ёсць яшчэ смалярня толькі на Дзяржыншчыне.

Наогул смаляны корч для беларуса вельмі значнае паняцце, нават вобраз. Карчом можна не толькі распаліць дровы ў печы ці сагрэцца недзе ў лесе, але і асвятліць хату. Памятаеце, у Якуба Коласа:

Ярка на камінку
Смольны корч палае...

Народная тапаніміка захавала нямала былых назваў на месцах такіх заводаў: Смалінец, Смольня, Смалярня, Смаляры, Дзягцяр, Дзегцяное. Някепска было б узнавіць карту іх былога размяшчэння. Тым болей, што гэта былі зачаткі нашай мясцовай прамысловасці.

У 50-х гадах XX стагоддзя на тэрыторыі лясгаса было яшчэ 8 смолзаводаў, здабывалася 95—100 тон жывіцы.

Што датычыць іншай мясцовай прамысловасці, то ў нас раней на гутах выраблялі шкло. Слова "гута" паходзіць ад нямецкага Hütte — што азначае плавільную вытворчасць, плавільны завод. Яно ў роўнай ступені датычыць заводаў металургічных і шкловарных. Наладжваць плавільную вытворчасць у Беларусі, у першую чаргу шкловарную, дапамагалі немцы. З тых часоў і засталіся на нашай зямлі мясцовасці з назвай гута.

Невялічкая вёска Гута ёсць і на ўсходзе Уздзеншчыны. Закінутая сярод глухіх лясоў, яна некалі належала Завішам. Пацверджаннем гэтаму ў накірунку дарогі на Таўкачэвічы ляжыць вёска Завішы. Завішы ў Гуце наладзілі вытворчасць шкла. Выпальвалі лес на вугаль, недзе паблізу бралі пясок. Астатнія рэчывы прывозіліся. На заходняй ускраіне вёскі, дзе дарога спускаецца да рэчкі Шаці, некалі і стаяла гэта гута. Цяпер тут збудаваў хатку рабочы Мінскага трактарнага завода Іван Майсюк. Ён пры нас раскапаў ускраек прыгорка і насыпаў нам жменю розных дзіўных шкляных аплаваў. Сярод іх кавалачкі цігляў, у якіх варылася шкло. Гаспадар ведае значэнне гэтага месца і абяцаў захоўваць усё цікавае, што тут удасца знайсці. Ён паказаў, як удала на шлакавых адыходах ад шкляной вытворчасці расце сёння цыбуля. Ёсць дадзеныя, што шкляная вытворчасць была тут прыпынена з-за вельмі вялікай траты на гэту справу лесу.

А які, кажучы сённяшнімі словамі, асартымент шкла выраблялі Завішы? Не сумняваюся, што на гэта пытанне адказ можна знай-

сці. Непадалёку ў вёсцы Лоша, на яе ўсходняй ускраіне, таксама некалі варылі шкло. Хто ж яны былі, тыя далёкія майстры?

Археалагічныя даследаванні сведчаць, што нашы продкі ў далёкія часы здабывалі балотную руду і на руднях пераплаўлялі яе на жалеза. З тых часоў сустракаецца шлак ад перапрацоўкі руды ды назвы Рудня, Руднікі. Узоры мясцовай аплаўленай руды ёсць у Хатлянскім школьным музеі. Акрамя гэтага, на Уздзеншчыне даволі шырока выпальвалася вапна.

Вось ужо колькі разоў, звяртаючыся да мінулага, мы спасылаемся на гістарычныя геаграфічныя назвы. Шмат якіх мы сёння не далічваемся, бо час няўмольны. Частка з іх перакрэслена занадта паспешлівымі людзьмі. Некаторыя назвы ўсё ж засталіся, яны нясуць дапытлівым даследчыкам водгук далёкай і вельмі каштоўнай інфармацыі. Спецыялістам меркаваць, у чым гэты феномен, але назвы Дзегцяное, Смаляная Печ, Руднікі, Перавалокі, Стары Нёман, Магільна сведчасць аб характэрных рысах мясцовасці, занятках нашых продкаў, гістарычных падзеях на нашай зямлі. Геаграфічныя назвы — каштоўнейшы дакумент, іх трэба берагчы. Нават у царскі час, калі да Расійскай імперыі далучаліся новыя землі, вучоныя настойліва дамагаліся захавання мясцовых, характэрных нацыянальных назваў і гэта патрабаванне няўкосна выконвалася. Новыя расійскія назвы даваліся толькі новым пасяленням.

Пазней гэта правіла было парушана. Уздзеншчыне пашанцавала трохі болей. У паслярэвалюцыйны перыяд толькі вёска Цесна ў 1924 годзе была перайменавана ў Калінінск, ды былая сядзіба Кухцінскага маёнтка атрымала назву Першамайск, акрамя нагаданага вышэй перайменавання Магільна. Многа ёмкіх назваў, якія далі людзі паселішчам, урочышчам, мясцовасцям у выніку гаспадарчай дзейнасці, было страчана. І хоць некаторыя назвы нагадвалі пра гароту, няшчасце, хоць яны засталіся толькі на старых картах ды ў дакументах, усё ж яны нашы, тутэйшыя — уздзенскія, капыльскія, пухавіцкія...

Ніжэй падаецца шэраг такога роду мілагучных назваў. Большай часткай яны ўжо зніклі, але ведаць іх нам патрэбна. Варта было б скласці мемарыяльны іх спіс з дакладным абазначэннем той ці іншай мясцовасці. Многія з іх сведчаць пра імя гаспадара таго ці іншага фальварка, засценка.

Вось яны: Азёры, Алехаўшчына, Аляксандраўка, Аляксандрова, Арэхаўка (ур.), Астапаўшчына, Аўчараўшчына, Баламутаўшчына, Баравіцы, Баравое, Баравыя, Баранаў Мост, Барок, Барсукі, Баруслаў, Белая Лужа, Берцы, Броды, Бярозавы Камень, Валодзічы, Валок, Валяр'янава, Ванікоўшчына, Ваўчэчына, Верх-Нёман, Воўкаўка, Воўчая Града, Вугалец, Выган, Выселак, Вялікі Мох, Вясёлы Вугал, Глінішча, Глінкі, Гнілое Балота, Градкі, Гумнішча, Гута, Гушчын (засц.), Данілавічы, Дзегцяное, Дзягільна, Дзягцяр, Дзямідавічы, Дзянісава, Доўгая Града, Доўгі Востраў, Заброд, Забродак (засц.), Заброддзе, Задвор'е, Заельнікі, Закалоддзе, Замаргоўе, Замкі, Зелень, Зяленне Ускае, Зялёнае Поле, Зялёны Бор, Занеманец, Заруднае, Захвойнікі, Іванаў Бор, Іванаўка, Ігнатаўка, Казакоў Вугал, Каліны, Капаніца, Капусны Агарод, Касцюкі, Кватэры, Княжнае, Койданава, Крутагор'е, Крывая Града, Курганы, Лавы, Лазараўшчына, Ласінае (ур.), Лежні, Лука, Лучня, Лысая Гара, Магільна, Малиннікі, Маркаўцы, Марцінаў Бор, Масевічы, Міхалёва, Муравішчына, Махавое Балота, Насельцы, Нёманне (засц.), Ніціеўскія, Новая Гута, Нягонава, Падбалоцце, Падградкі, Паддуб'е, Падзелень, Падоўб'е, Падсочка, Падхаткі, Пад'ямнае, Панкратаўшчына, Папкі, Пасекі, Пасечна, Пераваловкі (ур.), Перасінь, Праходы, Пярэймы, Пяцігор'е, Пяцірэчка (фальвар.), Рабінаўка, Ракітнік, Распуцце, Руднікі, Ручай (фальв.), Рэпішча, Сакалоўшчына, Сенна, Святы Двор, Сіняя Града, Смалінец, Смаляная Печ, Смалярня, Смаляры, Смольня, Стапілаўка, Старына, Стары Нёман (засц.), Старынкі, Тамашэвічы, Тур'я, Уласава Паляна, Урэчча, Харкаў Луг, Церахоў, Чорна Лужа, Чортава Града, Шабунёўшчына, Шабуні, Ямнае, Ямшчына, Ямяльянава, Ячанка.

Музыка! Як піша мясцовая паэтэса Н.Вайцяховіч —

Так мілагучна — Канапелькі —
Назваў мо' вёску паэт нейкі…

Аднак прадоўжым наш шлях. Наперадзе ручай Баравінка. Ён, здаецца, стаў меншы ды вузейшы. З правага боку была крынічка. Але ж ці знойдзем мы яе цяпер? Некалі пасля шляху па сонечнай спёцы мы спяшаліся завітаць на тое балотца, дзе пульсавала чыстае вакенца вады. Многа халоднай вадзіцы не вып'еш, але задавальненне атрымаеш.



“Святая крынічка” каля в. Язвіны.
Яе вывучаюць А. Александровіч і трактарыст М. Бондар

Такая ж крынічка ёсць і на захадзе Уздзеншчыны за вёскай Язвіны. Непадалёк пачынаецца Стаўбцоўшчына, месціцца Ліпава, аб якім пісаў Якуб Колас. Некалі крынічка была знакамітая, святая. На другі дзень Сёмухі тут адбывалася богаслужэнне. Крынічка, акрамя таго, лічылася і ахвярнай. Вось і хадзіў сюды наш вялікі паэт і піў яе вадзіцу. Мы тут пабывалі ўлетку, на ўскрайку лесу замест крынічкі ўбачылі даволі глыбокі калодзеж. Вада ў ім застаялая. Можа калі раней яна і цякла: ніжэй відаць невялікае ложа вытоку. Застаўся прыхілены да дрэва крыж з павязанымі хустачкамі-фартучкамі. У вадзе блішчаць манеты. Няма ў крынічкі цяпер той былой моцы. Узровень грунтовых вод у выніку гаспадарчай дзейнасці чалавека панізіўся, і многія крыніцы зачыніліся назаўсёды.

Аднак часы мяняюцца. У чэрвені 1996 года на трэці дзень Сёмухі на асвячэнне крыніцы ва ўрочышчы Ліпава даў згоду святар Уздзенскай царквы айцец Грыгорый. Людзі прыбралі калодзеж, упрыгожылі кветкамі крыж. На дзіва святочна было тут у тую нядзельку.

На асвячэнне крыніцы сабралася нямала вернікаў не толькі Уздзеншчыны, але і суседніх раёнаў.

У 12 гадзін разам з пеўчымі-вернікамі прыехаў святар. Правёў ля крынічкі святочную літургію, асвяціў ваду ў калодзежы, тры разы апусціў ў ваду крыж. Потым акрапіў сам калодзеж і драўляны трохметровы крыж. Затым асвечанай вадой частаваў усіх прысутных. Людзі бралі ваду, хто слоік, хто бляшанку, а хто і бітон. Мікола Нёманскі склаў з гэтай нагоды верш:

Празрысты ключ, як срэбра ўецца
У цішы з-пад каменя ў ляску.
Здаецца, ну адкуль бярэцца
Вада на горцы у пяску?..

Амаль прапала ў меліярацыйным канале рака маіх продкаў былая водная Воўкаўка на Панкратаўшчыне. Дзед Рыгор казаў, што рыбу ў ёй выбіралі кашамі.

Толькі ў адным месцы мне пашчасціла пабачыць сапраўдныя крынічкі і чысты, як сляза, ручай. Месца гэта за Прусінавым, па той бок былой граніцы. У ціхім цёмным лесе са схілаў сцякае вада. Тры крынічкі даюць пачатак ручайку. Сярод моху, торфу адбываецца цуд — працэс нараджэння рачулкі. З вады прыгатаваў кіпень-чай, лепшага і не ўявіць. І колькі ручаёк прабіваецца праз лес, столькі яго папаўняюць вытокі з навакольных схілаў.

Да ручайка спяшаюцца дзікі, ласі, тут іх сляды. Ніжэй вада разліваецца, гэта зрабілі плаціну бабры. За нейкія два з паловай кіламетры рачулка набірае моц. Але лес канчаецца, на паваротцы яна ўжо ўзята ў канал. Яшчэ трохі — і Нёман.

Вялікі знаўца Ігуменшчыны А.Ельскі ў сваім артыкуле ў “Слоўніку геаграфічным…” прыводзіць спіс невялікіх і не вельмі вядомых рэчак гэтага павета. Сярод іх можна ўбачыць існуючыя і сёння. Але назвы большай часткі з іх зніклі, і рэчкі забыліся. Прывяду іх у алфавітным парадку: Альхоўка, Асока, Аўсішча, Ачыжа, Бабінка, Балачанка, Банёўка, Беліца, Берчукоўка, Брасенка, Брусята, Бышынка, Валажоўка, Варок, Вожа, Волма, Восава, Выня, Вядзерка, Вяза, Галавішча, Ганутка, Гаць, Градзенка, Грэніца, Гусачок, Гутнёўка, Дабравода, Даўжанка, Дзій, Дубровіца, Дулеба, Жарноўка, Жужлянка, Жэсць, Задобра, Ігуменка, Кавалёўка, Каменка, Карэнец, Кікаўка, Кланоўка, Клева, Клевіца, Клубча, Крапіўніца, Крывіца, Курынка, Лашынец, Ліпаўка, Лоша, Ляшчынка, Міжрэчча, Міла, Млынок, Мытва, Мяна, Мясрэда, Нянчай, Нясвяча, Ня-

сета, Ольса, Падвалокша, Палоза, Паўлаўка, Пацеха, Пентрыца, Перакоп, Ржыца, Слоўсць, Суцін, Суша, Талька, Таўстуха, Тураметка, Тур'я, Ужанка (Ушонка), Уса Бярэзінская, Уса Нёманская, Уша, Харчоўка, Хатлянка, Хачанка, Целенка, Церабелька, Цітаўка, Шача, Шчанёўка, Шчанка, Шытайлаўка, Чарніца, Чарняўка, Яшка, Ячанка…

Закончваў пералік А.Ельскі наступным чынам: "Гэта шматлікасць бягучых вод характарызуе тапаграфічнае становішча краю і адначасова сведчыць аб яго эканамічных запасах, бо калі там шмат вады і багацце лугоў, прырода прадуктыўная, сродкі камунікацыі і фабрычная вытворчасць аблегчана".

Усемагутная карміліца наша — зямля — выток сіл і здароўя. Дае яна гаючыя крынічныя воды, яна ж надае і дорыць нам лекі. Тут усё жывое. Крынічная вада — гаючая, жывая. А жывая вада вяртае зрок. Асабліва каштоўнымі лічыліся "грымячыя" вытокі, якія паводле народнага павер'я ўзнікалі ад удару маланкі. Пры галаўным болю з крыніцы бралі пясок і прыкладвалі да галавы са словамі: "Як здарова зямля, так бы і галава мая была здаровая". Пясок таксама прыкладвалі да хворых вачэй, а крынічнай вадой прамывалі іх тры разы ў суткі. Вадзяніку за гэта ахвяравалі капейку.

Жыў вадзянік у глыбокіх вірах ці ў запрудах перад млынамі. Млыны ставіліся нават на невялікіх рачулках. Вытворчасць кожнага не вельмі вялікая, але іх было даволі многа на нашай зямлі і амаль не засталося цяпер. Два працавалі, як мы ўжо гаварылі, ля вусця ракі Лошы. Застаўся ў памяці народнай "партызанскі" млын у Буковічах. Ён стаяў над адным з пратокаў Уздзянкі і працаваў усю вайну на мясцовыя патрэбы. Скончылася вайна — ён таксама працаваў. А потым выдатны двухпавярховы будынак развалілі, толькі пáлі засталіся ды жорны валяюцца ля берага. Упэўнены — прыйдзе час, калі мы будзем шукаць тыя жорны і шкадаваць, што дрэнна зрабілі.

Ад млыноў пайшло добрае ёмкае слова "завозна". Каб змалоць муку, патрабавалася часам пастаяць не гадзіну і не дзве… Ну, а абсыпаны мукой млынар таксама вадзіў дружбу з таемнымі сіламі, асабліва з вадзянікам, бо як жа інакш пазбегчы разбурэння плаціны ў паводку ці паломкі таго ж вадзянога кола…



Былы будынак млына ў Буковічах

Мінулы млын не толькі дармовая энергія, але і прыгажосць, таямнічасць. У суседняй Эстоніі на адным са старых млыноў даюць канцэрты народныя ансамблі. Кажуць, ад турыстаў адбою няма…

Дзе цудадзейная крынічная вадзіца, там не можа не быць цудадзейных зёлак. Асабліва, калі іх збіраць пад раніцу на ўзыходзе сонца. У гэты час не толькі травы, але і раса на іх гаючая. Але той, хто будзе збіраць лекавыя зёлкі, павінен упасці долу і маліць маці сырую зямлю, каб яна дазволіла нарваць са сваіх грудзей усялякага зелля, бо гэтыя дары зачараваныя. Тады і адкрыюцца і знакамітая прастрэл-трава ці любісток. За ёй зара або лігустрыкум. Плакун-трава берагла ад слёз. Адалень-трава, звычайны гарлачык, хавала чалавека ў час падарожжа ў іншыя землі.

Наша цётка Прузына пераняла ад маёй няроднай бабулі па бацьку няпростую справу збору, сушкі, гатавання і выкарыстання народных лекавых траў. Для надання моцы сваёй справе яна брала пясок з магілы бабулі. Мяне ж яна навучыла шукаць лекавую траву зуброўку.

…Перадыхнулі, паразважалі і зноў у шлях. Наперадзе грунтовая дарога ў акружэнні сасновага лесу. Пасля Смалярні другая палова яе вельмі папсаваная. Ля яе выхаду да ракі Лошы распрацоўваліся тар-

фянікі і цяжкая аўтатранспартная тэхніка разбіла дарогу ўшчэнт. Так яно ў нас і вядзецца заўжды: адно ствараем, другое нішчым. Толькі ў самым канцы дарога ўзнаўляецца і выходзіць на Мрочкі, Перавоз, на добрую ўздзенскую шашу. Недзе ў кіламетрах трох да Перавоза, дзе цяпер лес, некалі было поле і стаяла карчма, якую трымаў яўрэй Кадола. Месца было ажыўленае. Кожны возчык свой шлях разлічваў ад карчмы да карчмы, ад аднаго заезнага двара да другога.

Важнае было тое месца. Але пры нашэсці 1812 года французы разабралі карчму і яе бёрнамі ўмацоўвалі гаці. Цяпер яны рыхтуюцца адзначыць 200-годдзе свайго авантурнага пахода на Расію. Запланавалі тое-сёе са сродкаў. Хай бы ўзнавілі ў якасці кантрыбуцыі тую кадолаўскую карчму… Але да іх ніхто і не звяртаўся.

Бліжэй да ракі Лошы ў лесе сустракаюцца курганы. Ёсць яны і на беразе ракі. Яшчэ адзін водгук мінулага, вялікага і значнага.

Зусім непадалёку ад былога тракту некалі знаходзілася Панкратаўшчына-Муравішчына. Цяпер гэта вялікая паляна ў лесе без усякіх слядоў мінулага жыцця. Для мяне яна нешта большае, чым для іншых.

Кажучы словамі Алея Пальчэўскага: “Пасля доўгае разлукі з роднымі мясцінамі я зноў наведаў іх. І зноў, як у дзяцінстве, завітаў на тую прасеку і напіўся крынічнае вады. І здалося няпраўдай, што ўжо столькі пражыта і перажыта. Нібы чароўнай рукой зняло з маіх плячэй цяжар гадоў. І зноў адчуў я сябе порсткім хлапчуком”.

Некалі тут былі чатыры сядзібы. Тут жылі мая бабуля Лізавета Казіміравa Шыдлоўская і дзед Рыгор Антонаў Галавенчык. Тут нарадзілася мая маці Стэфа Рыгорава і другія блізкія мне людзі. Не знайсці ад таго часу печышчаў, тым болей той лекавай жасцярыны, якая ратавала маіх продкаў. “Гэта вельмі дарагія, светлыя святыя для нас месцы”, — так сказаў унук Шыдлоўскай Яраслаў Галавенчык з Чамярычнага.

Некалькі слоў-раздумаў пра адыйшоўшыя вёскі, фальваркі, засценкі, хутары — родныя мясціны нашых продкаў. Цяпер тут пустынна і ціха. А калісьці на месцы былых сядзіб цякло жыццё. Людзі працавалі, вырошчвалі хлеб, гадавалі дзяцей, будавалі хаты, нешта набывалі, з нечым расставаліся, радаваліся, гаравалі. Адпраўлялі адсюль у далёкі невядомы свет маладых. Не аднойчы, бывала, адсюль ішлі на войны і не ўсе вярталіся.



Тут некалі знаходзілася светлая Панкратаўшчына

Пад ціхімі стрэхамі нараджаліся, паміралі. Тут гуляліся вяселлі, праводзіліся святы. Па вечарах людзі выходзілі пасядзець на прызбах, абменьваліся навінамі. Гучаў недзе гармонік, далятталі далёкія песні, і маладыя, забываючыся пра дзённую зморанасць, спяшаліся да сваіх аднагодкаў. Вярталіся пад раніцу. Ледзь задрамаўшы, зноў спяшаліся на сенажаць, на поле, да статка. Зімой адыходзілі на промысел, секлі і вазілі лес на румы. Ехалі ў горад на часовыя сезонныя работы.

Ішлі гады, змяняліся пакаленні. Людзі збіраліся, хто па добрай волі, хто пад прымусам, на цэнтральныя калгасныя сядзібы. Многія, паехаўшы ў горад, ужо не вярталіся. Старыя паціху дажывалі свой век. І аднойчы вокны яшчэ адной хаты зашываліся. На тых месцах заставаліся коміны, гурбы печышчаў. Паступова рушылася агароджа, уздымаліся крапіва, чарнобыль. Усё прыходзіла ў запусценне. Толькі ўпарта прадаўжалі сваё жыццё колішнія няхітрыя кветкі: наготкі, вяргінькі, мыльнік… Тыя сціплыя кветачкі — былое ўпрыгожванне палісадаў — неслі спакваля непрыкметную памяць аб тым далёкім, але і блізкім мінулым, аб нашых дзядах і бацьках.



Тут больш ніхто не жыве

Ёсць чары ў забытым, старадаўнім;
Прыемна нам сталеццяў пыл страхнуць,
Пажыць мінулым — гэткім мудрым, слаўным, —
Быццё дзядоў у смутку ўспамянуць…

пісаў Максім Багдановіч.

На амаль голых дзірванах былых падвор'яў працягвалі занадта смела і зазыўна цвісці старыя здзічэлыя яблыні і грушы. Сарвеш той яблык, адчуеш кісла-даўкі смак, і адзавецца твая душа на покліч часу. Нярэдка недзе ў старым лесе, пры дарозе, па вясне раптам заззяе, засвеціцца квеценню вішня. Відаць, і тут было калісьці жытло чалавека.

Шмат такіх, ціха дажываючых свой час, вёсак у Беларусі. Нямала іх знікла ў гады ваеннага ліхалецця…

Усё тое адбывалася і ў Наднямонні,

Дзе льецца Нёман срэбраводны,
Дубы дзе дружнай чарадою
Стаяць, як вежы, над вадою
Даўнейшых спраў вартаўнікамі
І ззяюць грозна жараламі…

творча сведчыць Якуб Колас.

Такім чынам, мы абследавалі кавалак мінска-слуцкага гасцінца ў межах Уздзеншчыны агульнай працягласцю каля 50 кіламетраў. Для мясцовых жыхароў — гэта Мінскі шлях. Можна сцвярджаць, што гэта гістарычная дарога, дарога-помнік, помнік эпохі гужавога транспарту. Можа настане час, і мы паставім на перакрыжаваннях памятныя дошкі, ці што яшчэ лепш — узновім былыя верставыя слупы. Нам след даведацца, якія ж знакамітыя людзі ехалі калісьці па гэтай дарозе, і занесці іх імёны на гэтыя дошкі, як гэта некалі зрабіў Г.А.Каханоўскі на Мінска-Маладзечанскім напрамку, каля вёскі Мясота.

Бярозы — як ветразі.
Памяць — той востраў,
Куды я ад скрухі ліхой уцяку.
За першыя крокі,
юнацкія вёрсты
Я ўдзячны Даўгінаўскаму бальшаку,

*М.Шаховіч*

Ёсць і іншыя аджыўшыя, закінутыя ўздзенскія дарогі. Перад вайной была пабудавана новая шаша Узда—Магільна. Былая, 18-кіламетровая, ідзе леваруч і выкарыстоўваецца для мясцовых перавозак. З Узды праз Першамайск, Сямёнавічы, Тоўсты Лес праходзіць на Стальбоўшчыну, Замосце. Праезны стан яе, асабліва на мяжы гаспадарак (вось нам ужо гэтыя “прыватныя” граніцы!), нездавальняючы. Аднак дарога досыць цікавая і прыгожая. Абсаджана старымі соснамі, а ў паслярэвалюцыйны час і бярозамі. Ля Першамайска яна мінае прыгожы парк былой сядзібы, дзе цяпер месціцца вучылішча, далей перасякае былы канал паміж Усой і Уздзянкай і саму Усу. Праходзіць праз прыгожыя гаі пад назвай



Па старой дарозе з Узды на Магільнае



Тоўсты лес

Тоўсты Лес. Непадалёк ад якога ёсць яшчэ і Красны Лес (хутчэй ад слова прыгожы, чым чырвоны). Дарога можа быць маршрутам турысцкага падарожжа да гістарычнага месца Магільна.



Зялёныя шаты над “новай” дарогай Узда—Магільна

І яшчэ адна дарога, на гэты раз некалі адзіная чыгунка — 14-кіламетровая ветка з былога лесасклада ля Магільна да чыгункі Масква—Брэст. Яна сцёрта сёння з твару зямлі. Можа быць наладжаны пошукавы маршрут па аднаўленні месц яе былой пракладкі. На ўсходзе Уздзеншчыны шашу на Шацк і на Хатляны перасякала яшчэ адна пасляваенная вузкакалейка, але па значэнні яна ні ў якім разе не можа параўнацца з коласаўскай веткай. Пракладзеная ад Гацука, месц распрацоўкі торфу ў вярхоўях ракі Шачы, да Рудзенска, яна мела агульную працягласць на тэрыторыі раёна ў 24 кіламетры. Зараз яна часткова разабрана мясцовым насельніцтвам. Гэты маршрут варта вывучыць і дакладна нанесці на карты, а таксама ўдакладніць месца далучэння вузкакалейкі да магістральнай чыгункі.



# НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА...

Разам з паважанымі чытачамі мы справілі два даволі вялікія падарожжы па ўздзенскай зямлі, не маючы папярэдне дастаткова поўнага ўяўлення аб ёй. І настаў час завітаць у гістарычны, эканамічны і адміністрацыйны яе цэнтр — горад Узда. Ён месціцца на паўночным захадзе ад геаметрычнага цэнтра тэрыторыі раёна на перакрыжаванні дарог Шацк—Магільна і Негарэлае—Капыль.

Тут, ва Уздзе, у нас будзе магчымасць адпачыць, узважыць убачанае і зведанае, дапоўніць яго дакументальнымі і статыстычнымі звесткамі і зноў вярнуцца хоць на час у старажытную і блізкую гісторыю.

Некалькі агульных дадзеных аб Уздзенскім раёне.

Тэрыторыя раёна плошчай 1,2 тыс. кв. км пераважна раўнінная, большай часткай знаходзіцца ў межах Стаўбцоўскай раўніны. З захаду на ўсход яго памер каля 80 км, з поўначы на поўдзень — каля 70 км.

У раёне 10 сельскіх Саветаў, 203 населеныя пункты, у якіх пражываюць 25 550 чалавек.

Утвораны раён 17 ліпеня 1924 года. У сувязі з гэтай падзеяй мястэчка Узда была пераведзена ў раённы цэнтр Мінскай акругі, з 1938 года — Мінскай вобласці. З верасня 1938 года мястэчку Узда нададзена катэгорыя гарадскога пасёлка. У той час у ім налічвалася 3,5 тыс. жыхароў.

На працягу ўсяго даваеннага часу граніцы раёна мяняліся і толькі з 1939 года прынялі сучасныя абрысы. 10 сакавіка 1999 года Узда атрымала статус горада. У 1989 годзе ў ім пражывала 8100, у 2005 годзе — 9435 чалавек.

Горад Узда размешчаны на рацэ Уздзянка (прыток Усы) за 22 км на поўдзень ад чыгуначнай станцыі Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы. Аўтамабільнымі дарогамі злучана з Негарэлым, Нясвіжам, Капылём і дарогай Мінск—Слуцк.



Уздзеншчына працоўная. Пшанічнае поле пад Стальбоўшчынай

Паселішча Узда па дакументах вядома з сярэдзіны XV стагоддзя, прычым аб ім гаворыцца як аб даўнім феадальным уладанні, у сувязі з чым можна с поўнай падставай лічыць, што гэта паселішча існавала і раней.

З дакументаў Літоўскай метрыкі вядома, што ўнучка аднаго з уладальнікаў Узды Васіля Корсака — Анастасся Андрэеўна выйшла замуж за прадстаўніка рода Корсакаў — Глеба Астаф'евіча. Ніжэй прыводзім самы старажытны вядомы нам дакумент з упамінам пра маёнтак а Уздза:

VI.9—13 9 мая 1494 г.

Привилей Богдану Толкачевичу на имение на Уздзе в Менском повете

Сам Александр*, Божию милостию.

Бил нам чолом дворанин наш Богдан Васкович Толкачевича и поведил перед нами, штож продок его Федко Глебович выслужил был имение, на имя Дворец, у Менском повете, на узде, на великом князи Жигимонте, и записал тое имение по своем животе жене своей Ульяне, матце его, з призволением отца нашего, короля е. м.; ино после того, как тот Федко умер, а матка его шла за отца его Васка Толкачевича, искали под нею того имения пасынки ее Харитон и Степан перед отцом же нашим и е. м. подлуг своего первого листу дозволенного матце его тое имение присудил, а тым ее пасынкам не велел в то вжо вступатися; и вказал перед нами обои тыи листы отца нашего произволеныи и судовыи, што е. м. призволил предку отца его Федку тое имение записати жене своей, матце его. И бил нам чолом, обыхмо тое имение Дворец на Взде потвердили ему нашим листом. И мы ему то потвержаем сим нашим листом подлуг листов отца



Памятны дарожны знак на ўездзе ва Узду

*Аляксандр — Вялікі князь літоўскі (1492—1506), кароль польскі пад імем Уладзіслаў III (1501—1506).

нашего, короля е. м. Нехай он тое имение держит за всим по тому, как и продок отца его и матка его держали. А тым пасынком матки его Харитону, а Степану в то вжо ненадобе вступатися.

Писан у Вильни. Мая 9 день. Индикт 12

*ЯНУШКО писарь*

Гэты прывілей — здабытак навукоўцаў пасляваеннага часу. Яго значэнне асабліва ўзрасло пры набліжэнні святкавання 500-годдзя Узды.

Да яе рыхтаваліся загаддзя. Быў выкананы значны комплекс работ па добраўпарадкаванні тады яшчэ гарадскога пасёлка Узда. Актывізавалася пошукавая краязнаўчая здейнасць. Асабліва шырока прыцягвалася да яе моладзь.

Нарэшце 25—26 чэрвеня 1994 года адбыліся святочныя мерапрыемствы. Святкавала Узда, святкаваў увесь раён. Гэтай падзеі радаваліся шматлікія госці, землякі, былыя ўздзенскія кіраўнікі. Прысутнічалі прадстаўнікі Дамадзедаўскага раёна-пабраціма Маскоўскай вобласці, прыйшло прывітанне ад выканкама Ставішчанскага раёна Кіеўскай вобласці.

Прайшлі ўрачыстыя паседжанні, літургія з удзелам мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.* Адбыліся шэсці, святочныя канцэрты, тэатралізаваныя прадстаўленні, спартыўныя праграмы, кірмашы.

Усё прайшло чынна, дастойна, узвышана. Важную дату ўздзенцы прынялі як сваю, важнейшую падзею канца XX стагоддзя.

Аднак у гэту ўсенародную дзею была прыўнесена і пэўная гарчынка. Напярэдадні свята была прапанавана яшчэ адна, больш ранняя і адным ужо гэтым альтэрнатыўная дата першага ўспаміну Узды — 1450 год.

Дыскусія па гэтаму выпадку прыняла неапраўдана востра-палемічны і адначасова малапрадуктыўны характар. За ёй не стаяла якога-небудзь канкрэтнага доказнага дакумента. Нават і цяпер, калі гэта дата прайшла ў даведнікі, энцыклапедыі, яго па-ранейшаму не стае. Магчыма, што яе выявіў наш зямляк, Шаблюк Валерый Іва-

---

*Яго Высокапраасвяшчэнства мае асаблівае прыцягненне да ўздзенскай зямлі. Ён нярэдка праводзіць набажэнствы ў Уздзенскай Святапетрапаўлаўскай царкве. Яно адбылося ў 1999 годзе, а потым і ў 2005, 2007, 2008 гадах. Пры гэтым Уладыка звычайна ўручае пастве царкоўныя ўзнагароды




Памятны знак у гонар 500-годдзя Узды

навіч, вучоны Інстытута гісторыі НАН Беларусі, што даследаваў Літоўскія метрыкі, уключаючы і іх архіўную, пакуль не апублікаваную частку. Але, на жаль, ён заўчасна ў росквіце творчых сіл пакінуў нас і гэта невыясненасць так і адыйшла разам з ім.

Мы ж, са свайго боку, можам толькі прапанаваць сваю версію ўзнікнення той альтэрнатывы, грунтуючыся на дакументах, якія знаходзяцца ў нашым распараджэнні. Вось яны, два запісы даравальных вялікакняжацкіх грамат Жыгімонта Кейстутавіча і Казіміра І Ягелончыка:

3. Пану Ивашку Вяжевичу на Узде дванаццаць чоловековъ Репины люди по тому даны, как пан Рачко держалъ. А даны у Троцох. — Правил панъ Михайло, канъцлер, а пис(ал) Якуб. Август(а) 12, инъдик 13.

5. Корсаковичамъ Михайлу, Васку, Ивашку король вернулъ потому, как Корсак отец их держалъ первей того Узду. Пр(иказал) п(а)н Михай(ло), канцлер, а писал Якубъ. Инъдик 13, у Новегородъку, июл(я) 19, коли корол третее из Ляхов приехал.

Не выключана, што рэч ішла аб распрацоўцы даты менавіта другога запісу, таму што яе сталі суадносіць з днём 19 ліпеня.



Уздзеншчына працоўная. Паша паблізу в. Яршы.
Фота М. Жылінскага

Калі зробім роспіс індыктавых 15-гадовых цыклаў-паўтораў і параўнаем яго з сённешнім летазлічэннем, то заўважым: 13-я гады індыктаў прыходзяцца на 1465, 1450 і 1435 гады. Магчыма, у даследчыка былі яшчэ і нейкія дадатковыя сведчанні, па якіх ён выбраў менавіта 1450 год.

Даты па першаму запісу будуць адпаведна на адзін год болей раннія. Так што "чытайце, уважліва чытайце..."!

Вернемся да вельмі змястоўнага і дакладнага прывілея вялікага князя літоўскага Аляксандра I ад 9 мая 1494 года. У ім прысутнічае важная спасылка на Федку Глебавіча, які выслужыў той маёнтак на Уздзе пры вялікім князю Жыгімонце Кейстутавічу. Жыгімонт Кейстутавіч уладарыў на Літве ў 1432—1440 гадах. Значыць, па меншай меры, ужо ў 1440 годзе, г. зн. на 10 гадоў раней, сцвярджаемага іншымі вучонымі першага ўпаміну Узды (1450 год), ён прымаў рашэнне па Уздзе.

Апошні дзень жыцця вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча датуецца 20 сакавіка 1440 года, калі ён быў забіты ў Трокскім замку князямі Чартарыйскімі.

Адсюль выцякае, што прынятыя Жыгімонтам Кейстутавічам рашэнні па Уздзе заставаліся правамоцнымі на Літве і 20 сакавіка 1440 года. Зыходзячы з лагічных меркаванняў можна аргумента-

вана і доказна сцвярджаць, што “дварэц на Вздзе” і яго ўладальнік афіцыйна пацвярджаліся адным з дзейнічаўшых на той час дакументаў Жыгімонта Кейстутавіча, згаданым як раз у прывілеі вялікага князя літоўскага Аляксандра І.

Цяпер час першага ўпаміну Узды мы маем права адлічваць з 20 сакавіка 1440 года.

Так будзем жа гэтай датай карыстацца!

“Отец наш, король е. м. (его милости)” — у адносінах да Аляксандра І яго бацька, кароль Казімір IV Ягелончык правіў у Польшчы ў 1447—1492 гадах. Акрамя таго ён пад імем Казіміра І — вялікі князь літоўскі (1440—1492). Будучы каралём ён двойчы прымаў рашэнні па маёнтку Узда.

Цяпер пра “дварэц на Вздзе”. Адкінем усе сумненні: гэта цэнтральная сядзіба былога маёнтка “Кухцічы” на рацэ Уздзянка, носячая сёння назву Першамайск, у 4-х кіламетрах ад г. Узда. Як дварцом ёй валодалі ў XV ст. Корсакі. Далей — Кавячынскія, Завішы, Красінскія, Радзівілы. Адзін час яго ўладальніцай была знакамітая беларуска-мецэнат Магдалена Радзівіл.

Вытокі ракі Уздзянка пачынаюцца ў Дзяржынскім раёне і носяць назву Жэсць. Уласна сама рака Уздзянка пачынаецца толькі ад месца сутокі ў Уздзенскім раёне рэк Жэсць і Алёхаўка. Вытокі іншаіменнай ракі Жэсць напэўна ніякага дачынення да “дварца на Вздзе” не маюць. Такім чынам, з 57-мі кіламетраў працягу Уздзянкі выключаюцца каля 30-ці кіламетраў, якія прыходзяцца на раку Жэсць. На астатніх 27-мі кіламетрах ракі да ўпадзення Уздзянкі ў раку Уса іншых дварцоў, акрамя Кухціцкага, не было.

Рэальнасць, менавіта, гэтага “маёнтка на Вздзе” пацвярджае яшчэ адзін пераканаўчы дакумент таго ж часу, прадстаўлены нам даследчыкам, гісторыкам, журналістам, краязнаўцам А.І Валахановічам:

“Лист наместнику несвижскому Матею Кавечынскому на вольное пречыщенье для порту реки Уси и Узды

Жигимонт Август*

*Жыгімонт II (Сігізмунд) Аўгуст (1520—1572), вялікі князь Вялікага княства Літоўскага (1544—1572) і кароль Польшчы (1548—1572).

*Князем, паном, воеводам, кашталяном, маршалком, кн(я)г(и)ням, панам, староствам, державцам и врадником земским поветовым, вдовам, земяном, и дворaном нашим, которые именья и кгрунты свои при реках Усе и Узде мають.*

*Бил нам челом наместник несвижъский воеводичов виленьских панов Радивилов Матей Кавечиньский и поведил перед нами, иж он маючи именье свое в повете Менском на Узде обачил то, иж быс(ть) там того краю реками Усою и Уздою порт был, которою бы витины и всякие товары лесные ходити могли, кгды бы только реки вычищоны были, чого он хотечи довести вжо тые реки выправовати был почал своим власным накладом не только ку своему але и ку всих пожитку которые имен(ь)я свои над тыми речъками мають, нижли дей некоторыи неуважаючи в том пожитку своего але упорно не хочут при кгрунътех своих рек вычишчать, шкоды наменшое собе в том не бачечи, кгдыж лете и зиме езы кождый на своем именьи вол(ь)но мети мает, только коли вода великая, тогды езы здержати весною и осенью не могуть, а млынов на них ничиих дей несть, а для того просил нас абыхмо ему дозволили власным накладом его тые реки выпратати и порт безъпенный вчинити без переказы от кажъдого стану.*

*А так мы, бачачи в том быти реч слушную, кгдыж он не тол(ь)ко собе, але и всем околицы тамошни порт новый отворити хочеть, а то не ест з шкодою вашою и к тому в мытах скарбу нашему прибудеть, тогды приказуем вам, иж бы есте тые реки Матею Кавечинскому везде, аж до самого устья Немон выправити и вычистити допустили и жадными причинами неслушными над права и вол(ь)ность земъскую того ему не забороняли, и переказы никоторое в том ему не чинили, але завжды добровол(ь)ный порт тыми реками кождому, хто бы им товары свои проводити хотел, пропушчали, и оттого жаден з вас ниякого мыта собе уставляти на том новом порте не смели, до чогобы се каждый з вас для пожитку вечного причинити мел. А он, того от вас не прагнучи сам один подыймуеться реки выпратати и таковы пожиток отворен(ь)ем порту вам накладом своим вчинити. Вед(ъ) же, естли бы вам шло о млыни и о езы, тогды то езом и млыном, звлаща лете и зиме ничего шкодити не можеть, одно бы есте ворота в езов и млынов хто бы их будовати хотел, мели, которыми*

*бы витины и товары лесные проходити могли, потому якося и на иных реках порътовых заховываеть.*

*Писан у Кнышине лет(а) бож(его) нарож(енья) АФ 23 (1567) м(е)с(е)ца февраля КА дн(я).*

*Подъпис руки г(о)с(по)д(а)рьское"**

Нам невядомы далейшы лёс гэтага партовага праекта на Уздзеншчыне.

Так што "маёнтак на Вздзе" мае выдатную гісторыю і добрую вядомасць. Шукаць тут яшчэ нейкі іншы маёнтак і дварэц на Вздзе няма аніякіх падстаў.

Узнікненню, менавіта, тут сядзібы садзейнічала і выгаднае геаграфічнае прыроднае становішча — месца сутокаў Уздзянкі (Узды) і Усы, а затым у 12 кіламетрах ніжэй Усы і Нёмана.

Народны гісторык Фёдар Пятровіч Бельскі, выдатна ведаўшы паводле народных паданняў і песняў старажытную гісторыю гэтых месц, нідзе не ўзгадвае ніякага іншага дварца, акрамя Кухціцкага. Пры гэтым пералічвае шэраг іншых населеных пунктаў на тэрыторыі Уздзеншчыны ўздоўж Уздзянкі: Чурылава, Зенькавічы, Кунцы, Забалацце. На складзеннай па стану на канец XVII стагоддзя вучонымі карце на вытоках Уздзянкі мясціліся вядомыя на той час паселішчы Дабрынёва, Данілавічы, Сямёнавічы і Кухцічы. І на гэтым іх спіс вычэрпваецца.

Да сярэдзіны XVI стагоддзя ўладанне "дварэц на Вздзе" і маёнтак Узда складалі адзінае цэлае і былі непадзельныя. Цэнтральная сядзіба маёнтка знаходзілася у Кухцічах.

Калі мы ўдакладняем, што ў 1572 годзе ва Уздзе пратэстанцкі асветнік Сымон Будны дапісваў пераклад і складаў сваё тлумачэнне да Бібліі, ва Уздзе ж ім і аддрукаванай, то маем на ўвазе ўсё ж тыя Кухцічы з такім дарагім пратэстантам Кухціцкім кальвінскім зборам, будынак якога захаваўся да нашага часу. Гэта цяпер ці не старэйшая пабудова на Міншчыне. Тут жа на цэнтральнай сядзібе знаходзіўся і сядзібны жылы дом (Дварэц) тагачасных уладальнікаў Кавячынскіх.

---

*Центральный государственный архив древних актов СССР (ЦГАДА СССР). — ф. 389 Литовской метрики, оп. 1, кн. 267, л. 125—126.

У сярэдневеччы не існавала строгай і дакладнай граматыкі, таму шукаць у рознасці напісання назваў і рознасць аб’ектаў на мясцовасці непрадуктыўна. Нават у адным і тым жа прывілеі Аляксандра І ад 9 мая 1494 года напісанні “Узды” і “Взды” розныя. Таму сцвярджаць, што месцазнаходжанне “дварца на Вздзе” ў наш час яшчэ не вызначана, больш чым памылкова.

Нешта падобнае наспявае цяпер і па сядзібе “Пырашава” ўладальнікаў Булгарыных. Некаторыя афіцыйныя асобы паставілі пад сумненне факт нараджэння ў ёй вядомага літаратара, крытыка і выдаўца Фадзея Венедыктава Булгарына. Маўляў, маглі быць і іншыя Пырашавы, маглі быць і іншыя Булгарыны.

Высновы, знаходкі і перакананні краязнаўцаў ні для каго не абавязковыя. Тым не менш іх распрацоўкі фарміруюць і падтрымліваюць духоўныя пачаткі народа. Гэта асабліва важна ў перыяд расхрыстанага лібералізма, якому нікольні не дарагія традыцыі мінулага. У перыяд усеагульнага наступлення бязбожнага глабалізма пра гэтыя асаблівасці даследчыкі не павінны забываць і зніжаць меру адказнасці за вынікі і доказнасць сваіх прац.

Многа цікавага нам даюць дакументы пазнейшых часоў. “Решением копы по спору о бортном дереве” ад 1 верасня 1592 года, копія якога знаходзіцца ў Уздзенскім раённым гістарычна-краязнаўчым музеі, возны гаспадарства Менскага Васіль Рыгоравіч вынес вырак па справе пана Стэфана Гладкага з панам Андрэем Корсакам. Тое спрэчнае бортнае дрэва знаходзілася ў маёнтку Уздзенскім Стэфана Гладкага ва ўрочышчы Вуглы і Боркі. Бортнікамі бакоў выступалі Грын Казловіч і Лук’ян Жадневіч. Сведкамі былі Міхаіл Сухарэўскі і Станіслаў Андрэевіч. Акрамя таго, тут прысутнічалі падданыя Яноха Кавячынскага Сцяпан Папрадуха, яго зяць Несцер, Юхно Баркоўскі, Васько Пільневіч з Нізу (Нізку), Яўхім Скобіч з Пырашава, ураднік пані Паўлавай Цішынай Васько Логвінавіч Плюшч, Марцін Кісель і падданы Васіля Балгарына Сенько Пракаповіч. Гэтыя прозвішчы з далёкага мінулага нам шмат чаго нагадваюць, з некаторымі чытач ужо пазнаёміўся, з іншымі пазнаёміцца пазней. Дарэчы, спрэчка пра бортнае дрэва была тады вырашана ў карысць Андрэя Корсака.

Упамінанні аб паселішчах Уздзеншчыны адносяцца да XVI—XVII стагоддзяў. У дакуменце, датуемым 1511 годам, гаворыцца

пра Пырашава і Даўгінічы (апошнія ў 1562 годзе былі цэнтрам Даўгініцкага войтаўства). Дакументы 1592 года даюць звесткі пра належачыя феадальным уладальнікам вёскі Кухцічы, Ячанка, Забалацце, Касцяшы, Галавачы, Сямёнавічы, Ніз (Нізок), Яршы (Яршэвічы), Бярвіца (Бярвішчы), Боркі, Вуглы. Прысынак упершыню ўпамінаецца ў 1628 годзе, Хатляны — у 1652 годзе.

У "Тапаграфічным апісанні Мінскай губерні 1795 года" ёсць упамінанне пра прыток Усы раку Узду, якая праходзіць побач з рознымі пасяленнямі, з якіх знакаміта больш іншых мястэчка Узда. Далей тут гаварылася: "Між іншым знакамітых гор, выключаючы тыя, што ляжаць пры берагах некаторых рэк і невялікіх прытокаў, таксама саляных азёр, мінеральных і лекавых вод, металічных руд, выключаючы жалезныя ў невялікай колькасці, якія збіраюць пры балотных месцах, як і агату, турфу зялёнага, каменнага вугалю нідзе не знойдзена. Таксама знакамітых па гістарычных падзеях выдатных мясцін не маецца". З апошнім наўрад ці можна пагадзіцца...

А вось што піша аб Уздзеншчыне пачатку XX стагоддзя ў томе 9 кнігі "Россия. Полное географическое описание нашего отечества" П.П.Сямёнаў.*

"К юго-востоку от ст. Негорелой вер. в 18, в Игуменском уезде лежит м. Узда; расположено это местечко у р. Уздянки, впадающей в р. Уссу. Жителей в Узде более 1.600 чел., причем большую часть их составляют евреи, но есть также и татары, занимающиеся выделкой кожи. Православная церковь св. Петра и Павла существует здесь с XVI в.; въ 1840 г. владелец местечка Фаддей Завиш построил в Узде на месте прежней деревянной прекрасную каменную церковь; кроме того в местечке есть сельское училище, магометанская школа, синагога, мечеть, деревянный костел и почтово-телеграфная станция. Местечко Узда в XVI в. принадлежало диссидентам Кавечинским, которые в соседней дер. Кухтиках имели кальвинский храм; когда потом Кавечинские возвратились в лоно католической церкви, то и храм этот был обращен в католическую каплицу. Позже местечко перешло к Завишам. В 1798 г. Казимир Завиш построил

*Сямёнаў (Сямёнаў — Цян-Шанскі) Пётр Пятровіч — (1827—1914) рускі географ, падарожнік, Ганаровы член Санкт-Пецярбургскай АН. У 1856—57 зрабіў падарожжа ў паўночныя і цэнтральныя раёны Цянь-Шаня. Кіраўнік шэрагу геаграфічных выданняў

большой деревянный костел в форме креста с башней; этот костел существует и в настоящее время. Вер. в 4 к ю.-в. от Узды, близ д.д. Заболотья и Борок находится исток р. Немана. Вер. в 12 к ю.-в. от Узды расположено м. Лоша при одноименной реке, с бывшей униатской церковью и еврейским молитвенным домом. В XVII в. Лоша принадлежала кн. Головчинским, а в XIX в. — Грабовским-Топорчикам. В окрестностях местечка водится много дичи и встречаются лоси и медведи. При Минско-Слуцкой почтовой и Игуменско-Слуцкой военно-коммуникационной дорогах расположено к северу от м. Лоши село и корчма Миколка с бывшей униатской церковью св. Николая; у церкви находится громадный дуб, почитаемый издавна и по настоящее время окрестными жителями; об этом дубе сохранилось предание, что под ним зарыт клад. В храмовые дни 9 мая и 6 декабря здесь собираются массы окрестного люда. В окрестных селениях есть смолокурни и терпентинные заводы, существующие здесь с незапамятных времен”.

А.Ельскі ў болей раннім апісанні сярэдзіны 90-х гадоў XIX стагоддзя прыводзіць дадатковыя звесткі. Мястэчка Узда складалася з 250 сядзіб з 1424 жыхарамі, пераважна яўрэямі. Тут знаходзілася і вялікая сядзіба татараў.

Каталіцкі прыход адносіўся да Койданаўскага наднёманскага дэканата, меў капліцы ў Таўкачэвічах, Кухцічах, Рабінаўцы, Старынках, Падсацкіх і на пахавальных могілках. Пад драўляным касцёлам Вызвалення св. Крыжа ў Уздзе месціліся мураваныя пахаванні-труны.

Прыходская царква мела прыпісныя цэрквы Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі ў Прысынку, Пакрава Прасвятой Дзевы Марыі ў Забалацці, св. Іосіфа ў Вялікай Усе і св. Тройцы ў Кухцічах. Акрамя таго, тут дзейнічала езуіцкая школа.

Уздзенская воласць уключала 26 вёсак, 7 засценкаў, 8 маёнткаў, 3 сялы, 10 фальваркаў, 24 урочышчы, 1 мястэчка. Воласць налічвала 845 сялянскіх дамоў з 4976 сялянамі мужчынскага полу на 11 647 дзесяцінах зямлі.

Узда з другой паловы XVI стагоддзя адносілася да галоўнай сядзібы Кухцічы ўладання Кавячынскіх, з XVIII стагоддзя — Завішаў, пазней графаў Красінскіх. Мела крамы і нядзельныя таргі. Яўрэі займаліся дробным гандлем і высечкай лясоў, татары — вырабам скур. У мястэчку працаваў млын.



Будынак былога палаца ў Кухцічах



Экскурсію на кухціцкай сядзібе вядзе Анатоль Папко

Першым з беларускіх навукоўцаў гістарычнае апісанне Уздзеншчыны зрабіў у 1974 годзе доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Пятровіч Грыцкевіч, тады яшчэ старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі. Мы з удзячнасцю выкарысталі яго матэрыялы пры падрыхтоўцы гэтай кнігі. Першае ўпамінанне аб Уздзе ён датаваў 1494 годам.

Магчыма, яго да гэтай распрацоўкі падштурхнула перапіска па пытаннях гісторыі мінулага Уздзеншчыны з Ф.П.Бельскім.

З поўным абгрунтаваннем можна сцвярджаць, што гістарычнае мінулае Уздзеншчыны пакуль вывучана недастаткова. Гэта датычыць і помнікаў матэрыяльнай культуры. Уяўная знешняя беднасць архітэктурных форм і збудаванняў не адпавядае надзвычай шматлікім гістарычным падзеям на гэтай зямлі. Праўда, войны, якія праносіліся тут у розныя часы, не спрыялі іх захаванню.

Сучасная Міншчына як бы засланіла Міншчыну мінулых тысячагоддзяў. Аднак, калі ўгледзімся ўважлівей у рэшткі помнікаў археалогіі, то зразумеем, якая на самой справе побач хаваецца даўніна.

Дакладна невядома, калі і адкуль узнікла назва Узда. Даследчыкі тлумачаць яе па-рознаму. Адно з тлумачэнняў выводзіць яе са слова “вуздэчка” (частка коннай збруі) і звязвае са старажытнай легендай. Другое тлумачэнне назвы Узда выводзіцца са старажытнага літоўскага слова “ўзла”, што азначае насціл праз балота — грэблю. Трэцяе тлумачэнне звяртаецца да татарскай мовы і звязвае яе са словаўтварэннем “паселішча на рацэ Уса” (па-татарску — Усда). Мае месца і яшчэ адна трактоўка, звязаная са старажытна-рускай назвай абарончых умацаванняў, якія будаваліся ў XIII—XVI стагоддзях на ўскраінах Русі для абароны ад набегаў качэўнікаў. Вядома, што ў другой палове XV стагоддзя пры Маскоўскім князі Іване III такія ўмацаванні, пабудаваныя ўздоўж рэк Акі і Угры, насілі назву “Вялікай Узды”.

Мясцовыя паданні звязваюць назву ракі і горада перш за ўсё з непасрэдным значэннем тэрміна “ўзда”, “вузда”, “вуздэчка”. Ветэран вайны і працы Канстанцін Кароль, былы старшыня гарпасялковага савета, перадаў мне адну з такіх легенд.

Нейкі татарскі военачальнік (верагодна — Койдан) у даўнія часы, перабіраўся праз раку, выпусціў нейкім чынам ў ваду апраў-

леную золатам дарагую аброць. Рака ў тыя часы была глыбокай і поўнаводнай. Прымусіў ён мясцовых жыхароў шукаць прапажу ў вадзе. Але як людзі не стараліся — некаторыя нават патапіліся — аднак аброць так і не знайшлі. Раку пасля гэтага сталі зваць "Вуздой", "Уздой", пазней "Уздзянкай", а разам з ёй і размешчанае на яе берагах пасяленне.

Яшчэ адзін варыянт падання: "Пад Койданавам (цяпер Дзяржынск) беларусы разбілі татар, а сам татарскі хан Койдан збег з поля бітвы. Але беларусы дагналі яго там, дзе цяпер Узда, і цяжка паранілі. Падаючы з сядла, Койдан схапіўся за узду (вуздэчку) свайго каня і сказаў: "Вось дзе мяне сустрэла смерць".

Сваю версію найменню горада даў Ф.П.Бельскі. Ён лічыў, што пад згубленай вуздэчкай трэба разумець гібель паблізу гэтых месц военачальніка Койдана-хана і яго бліжэйшага акружэння. Яны кіравалі мясцовым насельніцтвам з дапамогай умоўнай вузды, як коннік кіруе сваім канём. Згубіў кіраванне — згубіў аброць.

Акрамя таго, ён перадае яшчэ адну легенду, якую чуў у гады маладосці ад старых сялян вёскі Забалацце, — яна пераходзіла з пакалення ў пакаленне. Безназоўная да гэтага рака атрымала назву ад імя маладой дзяўчыны — нявесты маладога князя, пляменніка вялікага князя кіеўскага і князя тураўскага, якая патанула ў гэтай рацэ ў час купання спякотным летнім днём. Узрушаны князь, пакуль ішлі пошукі, кідаўся па беразе і клікаў сваю каханку. Толькі на наступны дзень дасталі цела тапельніцы з-пад карчагі. Пасля здарэння ў памяць сваёй нявесты — дзяўчыны з сялянскай сям'і — князь загадаў назваць раку яе іменем — Уздой (памяншальнае — Уздзянкай), а пасяленне — Уздой.

Сам жа Ф.П.Бельскі лічыць, што слова Уздзянка ўзнікла ад спалучэння уш — донка. Раку, якая па дне даліны ўпадала ў Усу, назвалі Ушдонкай. Першапачатковая назва трансфармавалася ў Уздзянку, але засталася за ракой. Затым была прысвоена пасёлку-прыгараду — Уздзянцы.

І зусім неверагодныя легенды перадаюць мясцовыя жыхары. Быццам бы праз Узду ў свой час праязджала царыца Кацярына II. Месцы тут былі глухія. Пры перацягванні карэты праз гаць на адным з коней парвалася аброць. Вырашылі спыніцца. Мясцовыя жыхары — татары — за ноч, пакуль царыца адпачывала, зрабілі

новую вуздэчку, умела аздобілі яе золатам. У знак удзячнасці царыца іх шчодра адарыла і загадала надалей лічыць шляхтай. Да гэтага часу ходзяць чуткі, што ў Уздзе недзе захавалася кніга ў скураным пераплёце з адпаведнай граматай царыцы. У былыя часы ўсе мясцовыя татары абавязкова залічвалі сябе да шляхты. Ну, а мястэчка з нагоды такой царскай міласці назвалі Уздой. Дададзім, што гэтыя, бытуючыя ў асяроддзі мясцовых жыхароў версіі, не маюць ніякай гістарычнай асновы.



Тут, на рацэ Лоша,
былі выяўлены каменныя прылады

Вельмі даўно ў гэтых месцах пасяліліся людзі. Яшчэ ў IV—III тысячагоддзях да нашай эры тут ужо існавала так званая Нёманская культура. Ёсць звесткі, што ад III стагоддзя да нашай эры тут пражывала насельніцтва балцкага паходжання. У VIII—IX стагоддзях па рэках чарнаморскага басейна сюды прыйшлі дрыгавічы, якія асімілявалі абарыгенаў.

Вядомы гісторык і этнограф А.Кіркор пісаў, што ўзбярэжжы Нёмана з іх многаводнымі прытокамі захавалі шмат дагістарычных помнікаў, якія сведчаць аб заселенасці Беларускага Палесся з глыбокай старажытнасці. У непраходных лясах налічваюцца тысячы магільных курганоў, рассеяных у розных месцах групамі, курган на кургане, па некалькі соцень.

Кожны курган у Беларусі ўзводзіўся над адным памерлым. У магілах болей за ўсё жалезных прадметаў, а таксама з бронзы, ёсць бусы. Нямала магіл каменнай эпохі. Іх узрост 800—1000 гадоў.

Найдаўнейшых гарадзішчаў таксама многа як пасяленняў, месцаў вечавых сходак, судзілішчаў, ахвярапрынашэнняў, збораў у выпадку нападу ворага. Яны былі ператвораны з часам у замкі і замковішчы.

Шмат дагістарычных помнікаў у Беларусі ўжо вынішчана, але болей, сведчыць А.Кіркор, няведаннем і абыякавасцю.

Намаганнямі вучоных Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прыадчынены праз самых старажытных сведкаў гісторыі — помнікі археалогіі — многія сур'ёзныя і важныя таемнасці нашага мінулага. На падставе дадзеных, выяўленых у 60-х гадах XX стагоддзя, навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі НАН Беларусі кандыдатам гістарычных навук Л.Калядзінскім у раёне знаходзіцца каля 20 такіх помнікаў у выглядзе месц стаянак чалавека каменнага і бронзавага вякоў, гарадзішчаў — умацаваных пасяленняў, а таксама паселішчаў і магільнікаў — курганоў раннефеадальнага часу.

Гарадзішчы — умацаваныя паселішчы людзей жалезнага веку — вядомы ля вёсак Алёхаўка, Гарадзішча, Цеплень. Час іх існавання — ад VII стагоддзя да нашай эры да V стагоддзя нашай эры.

Лепей захавалася гарадзішча Цеплень, вядомае сярод мясцовага насельніцтва згодна паданню як "шведская гара", плошчай каля чвэрці гектара. Яно знаходзіцца ля ракі Цепленка на высокім кургане. Гарадзішча было ўмацавана двума валамі вышынёй каля 2 і шырынёй каля 10 метраў, а таксама равом глыбінёй да 1,5 метра.

Цікавым у навуковым плане з'яўляецца гарадзішча ля аднайменнай вёскі Возерскага сельсавета. У культурным пласце гарадзішча сустракаюцца кавалкі абгарэлага дрэва — рэшткі старажытнага жытла, аскепкі посуду, косці жывёл. Выходзіць, жыхары часоў жалезнага веку займаліся жывёлагадоўляй і земляробствам.

Лепшым па захаванасці лічылася гарадзішча Алёхаўка — помнік археалогіі II—V стагоддзяў нашай эры, якое знаходзіцца паміж вёскамі Чурылава і Алёхаўка ля рачулкі Алёхаўка. Яго вышыня каля 8 метраў, памер пляцоўкі 82 х 92 метры. Тут меліся і ўмацаванні — вал і роў. Яшчэ ў 1868—1869 гадах невялікія раскопы на гарадзішчы праводзіў Ян Завіша — вядомы ўздзенскі аматар-краязнаўца. У выніку выяўлена шмат керамікі, гліняныя прасніцы, кавалкі шлака ад пераплаўленай некалі балотнай руды (сведчанне мясцовай металургіі) і вялікі кавальскі молат. Работы былі прадоўжаны ў 50-х і ў канцы 70-х гадоў XX стагоддзя. На жаль, у далейшым гарадзішча было разбурана і выкарыстана для будаўніцтва дарогі.




Курган пад Магільнам

Ад часоў Кіеўскай Русі IX—XIII стагоддзяў на ўздзенскай зямлі захаваліся курганы-могільнікі славянскага племя дрыгавічоў. Гэтыя помнікі вядомы сярод мясцовага насельніцтва пад назвай “капцы”. Узнікненне іх памылкова звязана з пахаваннямі шведаў. Курганы ўзводзіліся з суглінку ці пяску вышынёй 2—3 метры і дыяметрам у нізе 8—10 метраў.

Ля дарогі пад аховай сосен —
Курганы, як сведкі даўніны...

пісаў Міхась Шаховіч.

Такія курганы ёсць каля вёсак Касцяшы ва ўрочышчы “Дворны хвойнік”, каля вёскі Перавоз, Магільна ва ўрочышчы “Вішнякі”, каля вёскі Слабада ва ўрочышчы “Смалярня”, каля Вусы ва ўрочышчах “Падруччa”, “Глыбокі Брод”, каля вёскі Карпілаўка, уздоўж Слуцкай шашы, за Валяр’янамі, каля Таўкачэвіч, Хатлян. Сустракаюцца яны ў лесе ці сярод палёў як па аднаму, так і групамі. Самая вялікая група курганоў — да 180 насыпаў — размешчана ля Таўкачэвіч. Звычайна пры раскопках такіх курганоў выяўляюцца гаршчок ці яго аскепкі, у якіх знаходзіліся спаленыя косці нябожчыка. У канцы X — пачатку XI стагоддзя абрад трупаспальвання змяняецца абрадам пахавання нябожчыка ў труне, але доўгі час паводле традыцыі язычнікаў над нябожчыкам насы-

паўся курган, а ў труну клаліся неабходныя яму на “тым свеце” рэчы. Сярод знаходак траплaverse шкляныя пацеркі, упрыгажэнні з бронзы.

Аб умацаваных паселішчах XIII—XVI стагоддзяў ля Магільна гаварылася вышэй.

Мангола-татары ля Магільна, — сцвярджае Ф.П.Бельскі, — былі разгромлены з удзелам уздзенскай ваеннай дружыны. У якасці здабычы пераможцы забралі ў мясцовыя паселішчы татарскіх жанчын. Адна татарская сям’я трапіла і ў Забалацце. Яе нашчадкі і цяпер жывуць тут.

Некаторыя меркаванні Ф.П.Бельскага падмацоўваюцца здабытымі пры меліярацыі рэшткамі былой дзейнасці: ствaламі дрэў, каменнымі прыладамі. Яны ў спалучэнні з мясцовымі народнымі паданнямі дазволілі вылучыць неардынарную трактоўку мясцовай гісторыі.

У адносінах архітэктурных помнікаў гісторыя была да Уздзеншчыны меней прыхільнай. Першапачаткова пасяленне Узда ўпісвалася ў межы вуліц Вялікай (сучасная Ленінская) і Юрздыка (цяпер Пралетарская) побач з культавымі збудаваннямі Петрапаўлаўскай царквы.

Тут жа на сучаснай плошчы Свабоды знаходзіцца помнік архітэктуры XVIII—XIX стагоддзяў — касцёл Святога Крыжа. Пабудаваны ён быў з дрэва, меў высокія вежы. Алтарная частка і памяшканне для касцёльнага начыння былі багата аздоблены срэбрам. Пабудову апярэзвала каменная агароджа з варотамі. Вароты захаваліся ў першапачатковым стане. Яны ўяўляюць сабой 2 высокія слупы, узведзеныя ў форме каплічак, упрыгожаных стрэльчатымі нішамі і паскамі. Слупы выкладзены з чырвонай цэглы, кантрфорсы — з апрацаванага каменя. Своеасаблівую прыгажосць надаюць браме кутыя жалезныя весніцы, упрыгожаныя раслінным арнаментам. Зачыненыя, яны даюць завершаны малюнак і маюць каштоўнасць як арыгінальны твор нашых далёкіх продкаў. Сёння ў былым будынку касцёла размешчаны Дом культуры.

А нядаўна ў зборы Уладзіміра Ліхадзедава выяўлена паштоўка з поўным першапачатковым выглядам касцёла. Яе адбітак мы палічылі неабходным змясціць у нашым выданні.



Будынак старога касцёла ва Уздзе




Першапачатковы выгляд ранейшага касцёла святога Крыжа.
Са збораў У. Ліхадзедава

Гісторыя былога ўздзенскага касцёла азначана важнай падзеяй. Продкі Янкі Купалы з даўніх часоў жылі каля Магільна. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ёсць цікавы дакумент. Згодна з ім, 12 мая 1846 года ў будынку ўздзенскага касцёла быў учынены запіс аб нараджэнні Дамініка Ануфравіча — ба-



Дзеючы касцёл Святога Крыжа ва Уздзе

цькі песняра беларускага народа. Паводле дадзеных даследчыка А.І.Валахановіча, дзед Я.Купалы Луцэвіч Ануфры Дамінікавіч нарадзіўся ў 1814 годзе на Уздзеншчыне ў в. Забалацце. Ён арандаваў у Радзівілаў зямлю ў засценку Пяскі (інакш — Лазаравічы, Луцэвічы), які ўваходзіў у маёнтак "Святы Двор" і мясціўся паміж Запруддзем і Замосцем каля вёскі Літва, што непадалёк ад дарогі з Магільна на Узду.

Вось тут 4 мая 1846 года і нарадзіўся бацька Я.Купалы Дамінік. Сам Ануфры Луцэвіч пасля 20 гадоў безвыніковай спробы доказаў свайго шляхецкага паходжання быў прыпісаны ў 1869 годзе да мінскіх мяшчан. Затым ён арандаваў фальварак Камень ля Івянца. Тут у 1879 годзе яго сын Дамінік ажаніўся на Валерыі Зенькевіч з засценка Зенькавічы і аддзяліўся ад бацькі.

Аб адметным архітэктурным помніку — сядзібным доме ў Наднёмане — мы ўжо гаварылі вышэй.

Насупраць вёскі Кухцічы праз дарогу на Магільна ў маляўнічым месцы сутокі Уздзянкі і Усы на тэрыторыі былога маёнтка Яна Завішы (цяпер Першамайск, база Уздзенскага дзяржаўнага сельскагаспадарчага ліцэя) знаходзяцця рэшткі былога радзівілаўскага маёнтка. Цэнтральным збудаваннем Кухціцкага маёнтка быў храм — Кальвінскі рэфарматарскі збор — архітэктурна-рэлігійны



Будынак былога кальвінскага збора ў Першамайску

помнік абарончага тыпу сярэдзіны XVI стагоддзя. Узвядзенне на Уздзеншчыне гэтага збору звязана з пашырэннем у XV—XVI стагоддзях у Заходняй Еўропе новай, процістаячай каталіцкай царкве, рэлігіі кальвінізма — ад імя яе заснавальніка Жана Кальвіна. Праз беларускіх асветнікаў кальвінізм пранік у Беларусь, дзе набыў мясцовую нацыянальную афарбоўку.

Сціплы, але архітэктурна выразны храм-сабор сімвалізаваў моц новай рэлігіі і адначасова пры небяспецы мог схаваць сваіх вернікаў.

Беларускі род Кавячынскіх кальвінісцкі (у далейшым яны саступілі і ў канцы XVII стагоддзя вярнуліся да каталіцтва). Мацей Кавячынскі быў адукаванейшым чалавекам свайго часу. Ён скончыў Вітэнбергскі універсітэт у Германіі, добра валодаў як старажытнымі, так і тагачаснымі еўрапейскімі мовамі, вёў асветніцкую работу ў Беларусі.

Верагодна, што частка жыхароў Узды і навакольных сялян была ўцягнута ў кальвінісцкае веравызнанне. Дэмакратычныя элементы гэтай рэлігіі стымулявалі развіццё нацыянальнай культуры, навучання і друкавання кніг на беларускай мове. Таму кальвінізм



Магілкавая царква ў Кухцічах.
Фота А. Чанцова

знайшоў нямала прыхільнікаў у беларускіх гарадах.

Род Кавячынскіх, а таксама Кухціцкі кальвініцкі збор, цесна звязаны з распаўсюджваннем асветы і кнігадрукавання ў Беларусі, з дзейнасцю паслядоўніка Ф.Скарыны Сымона Буднага, аднаго з выдатных дзеячаў беларускага Адраджэння. Уся творчасць радыкальнага рэлігійнага рэфарматара XVI стагоддзя, выдатнага філосафа, тэолага, мысліцеля-гуманіста і педагога, таленавітага публіцыста і паэта была прасякнута ідэяй свабоды. Ён унёс свой арыгінальны ўклад у скарбніцу беларускай культуры і думкі.




Адзіны партрэт С. Буднага

Нарадзіўся С.Будны, паводле меркаванняў даследчыкаў, каля 1530 года. Многія факты сведчаць на карысць яго беларускага паходжання: добрае веданне беларускай мовы, жыцця, звычаяў беларускага народа. Скончыў Кракаўскі і, магчыма, Базельскі універсітэты. З 1558 года працаваў у Вільні, потым — пратэстанцкім прапаведнікам у Клецку. У сярэдзіне 60-х гадоў XVI стагоддзя С.Будны — адзін з ідэйных правадыроў радыкальна-рэфарматарскага руху — антытрынітарызму. З рацыяналістычных пазіцый ён крытыкуе дагмат тройцы, адстройвае натуральнае паходжанне Ісуса Хрыс-

та, адхіляе біблейскія цуды, бессмяротнасць душы і замагільны свет. Ён імкнецца падпарадкаваць веру розуму, прапагандуе давер да прыроды.



КАТИХИСІСЪ.
ТО ЕСТЬ,
НАУКА СТАРОДАВНАЯ ХРІСТІАНЬ
СКАЯ Ѡ СВЕТОГО ПИСМА, ДЛЯ ПРО
СТЫХЪ ЛЮДЕЙ ЯЗЫКА РУ
СКОГО, ВЪ ПЫТАНІАХЪ И Ѡ
КАЗѢХЪ СОБРАНА.

Ѿ ПЕРВЕЙШАГО СВЕТОГО АПОСТОЛА
Петра посланія Зачало

Тытульны ліст
“Катэхісіса” С. Буднага

Адпаведна і кальвінізм асацыіраваўся з простай і таннай царквой з набажэнствам, якое зводзілася ў асноўным да чытання Бібліі.

Па пытаннях веры С.Будны вёў перапіску з рускім праваслаўным багасловам Арцеміем, меў сустрэчы з Пятром Мсціслаўцам, Іванам Фёдаравым. Блізкім яго сябрам быў Васіль Цяпінскі. У 1592 годзе сумесна з нясвіжскім старастам Мацеем Кавячынскім і яго братамі, а таксама кальвініcцкім прапаведнікам Лаўрэнціем Крышкоўскім Будны заснаваў у Нясвіжы першую ў Беларусі друкарню. Пры ёй была пабудавана “паперня”, гэта значыць майстэрня па вырабу паперы. У гэтым годзе тут выдадзена першая друкаваная на тэрыторыі Беларусі кніга “Катихисісъ”, то естъ наука стародавняя христианская от светого писма, для простых людзей языка русского, в пытанияхъ и отказехъ собрана”.* У ёй С.Будны выклаў свае сацыяльна-палітычныя, рэлігійна-філасофскія і педагагічныя ідэі. Выданне аказала вялікі ўплыў на фарміраванне прагрэсіўнай думкі не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. “Катихисісъ” з’явіўся на 2 гады раней, чым “Апостал” І.Фёдарава. Набыты ў Вільні шрыфт “Катихисіса” вельмі блізкі да шрыфта, якім карыстаўся Ф.Скарына. Сапраўды:

Полска квитнет лациною,
Литва квитнет русчизною…

сцвярджаў Я.Пашкевіч.

За некалькі гадоў Мацей Кавячынскі сумесна з С.Будным надрукаваў некалькі кніг. Яны пачалі работу па перакладу з лацінскай мовы і выданню на беларускай мове Бібліі. Уступ да яе напісаў

---

*У 2005 годзе “Катихисісъ” С.Буднага перавыдадзены ў Мінску сучасным шрыфтам з перакладам на сучасную беларускую мову.




Медаль у гонар С. Буднага
работы Я. Струпуліса

С.Будны ў Уздзе і датуецца ён 1572 годам. Давесці распачатую работу ў Нясвіжы да канца ім не ўдалося, бо Крыштаф Радзівіл, уладальнік Нясвіжа, спыніў дзейнасць друкарні. Магчыма, апошнія лісты кнігі друкаваліся менавіта ў Кухцічах. Таму Біблію гэту цяпер некаторыя даследчыкі (С.Падокшын) лічаць нясвіжска-ўздзенскай. У карысць такой версіі сведчыць той факт, што браты Мацея Кавячынскага Гектар і Альбрэхт, якія жылі ў той час ва Уздзе, пісалі прысвячэнне да гэтага выдання. У такім разе Уздзеншчыну можна лічыць адным з першых месц беларускага кнігадрукавання.

Як і Ф.Скарына, С.Будны быў прадстаўніком беларускай педагагічнай думкі. Маральнае выхаванне маладога чалавека ён ставіў наперад адукацыі. У нашай мінуўшчыне С.Будны пакінуў след і як перакладчык, палеміст, філолаг. Яго творы закладвалі падмурак сучаснай беларускай літаратурнай мовы, усталёўвалі яе прэстыж. У звароце ў “Катэхісісе” да маладых князёў Радзівілаў ён пісаў: “Абы ваши княжицкие милости не только в чужоземных языцех кохали, але бы ся теж... и того здавна славного языка словенского розмиловали и оным ся бавити рачили”.

Сацыяльна-палітычная арыентацыя С.Буднага ўвасобіла галоўным чынам памкненні дробнай і сярэдняй шляхты, рамесна-гандлёвых слаёў гарадскога насельніцтва.

Некаторыя погляды С.Буднага не страцілі свайго значэння і да нашых дзён. Сярод іх можна назваць адносіны асветніка да вайны і міру, дзяленне войнаў на захопніцкія і справядлівыя (абарончыя).

Ужо ў той час С.Будны сеяў насенне дружбы паміж народамі. Прыхільнік духоўнага яднання ўсіх славянскіх народаў ён неаднаразова падкрэсліваў: “Наши братья-русаки, сербы, москвитяне и другие словяне”.




Памятны знак у гонар С. Буднага ў Першамайску

Памёр Сымон Будны 13 студзеня 1593 года ў вёсцы Вішнева ля Ашмян. Мы змяшчаем тут адзіны партрэт С.Буднага, які дайшоў да нас. Ён узяты з кнігі польскага тэолага Рэшкі, у якой С.Будны намаляваны ў пекле, па шыю ў смале.

Паводле А.Ельскага ў 1829—1830 гадах у Уздзе дзейнічала друкарня Э.Прэса. У ёй былі выдадзены кніжкі для набажэнства "Залаты алтарык" і "Набожныя песні".

Каштоўнасць у Кухцічах мае не толькі рэфарматарскі храм XVI стагоддзя, але і пазнейшыя сядзібныя пабудовы — помнікі былой прамысловасці і рэшткі ўмацаванняў — роў і вал са слядамі бастыёна. Яны непадзельна звязаны з кальвінскім зборам. Прыгожыя жылыя і гаспадарчыя каменныя будынкі, узведзеныя рукамі прыгонных сялян у XIX стагоддзі, ствараюць уражанне закончанага комплексу забудоў. Яны ўдала спалучаюцца са старым помнікам паркавай архітэктуры, дрэвам якога ля сотні гадоў.

Дзейнасць Мацея Кавячынскага выходзіць далёка за межы асветніцтва і вымагае асобнага зацікаўленага вывучэння.

Апісанне Кухціцкага маёнтка канца XIX стагоддзя пакінуў нам А.Ельскі. Гэта даўняя спадчына рода Завішаў герба Лебедзь. Землі



Палац Радзівілаў часоў Магдалены Радзівіл у Кухцічах (выгляд з усходняга боку). Са збораў В. Хурсіка

і лугі тут адмысловыя. Акрамя Кухціч з 60 сялянскімі сядзібамі маёнтак уключаў фальваркі Каменку, Уздзянку, Зосін, Слабодку і інш. Кухцічы мелі добрую лясную і сельскую гаспадарку, агародніцтва. У прыгожым палацы было шмат старадаўніх здабыткаў.

На пачатку XIX стагоддзя, калі забавы адурaлі галовы і сэрцы шляхты, палац адзначаўся асаблівым бляскам і прывабнасцю. Гэта было ў час валодання маёнткам генерала расійскіх войск Казіміра Завішы, жанатага з Ганнай Ліпскай — пані вялікай далікатнасці і гасціннага сэрца. Яе дом заўсёды адчынены быў для гасцей. Увесь гэты цуд скончыўся смуткам: генеральша раптоўна памерла. Генерал не меў сыноў, дачка Магдалена пайшла ў кроўны шлюб з Завішамі.

Дзяцінства выдатнай прадстаўніцы рода Завішаў Магдалены прайшло ў маёнтках Жорнаўка і Кухцічы. Бацька яе Ян Завіша-Кежгайла (1852—1887) быў вядомы археолаг і этнограф.

У 1882 годзе яна выйшла замуж за графа Красінскага, вядомага ў Польшчы конегадоўца. Пасля смерці бацькі Магдалена атрымала велізарную спадчыну, у тым ліку Жорнаўку і Кухцічы. У 1895 годзе Красінскі памёр.

Багатая ўдава прысвяціла сваё далейшае жыццё філантропіі і фундатарству. Узвяла касцёл у Варшаве, шпіталь у Мінску. Падарожнічала па Італіі, Францыі, Англіі. У Англіі пазнаёмілася з прабеларускі настроеным Мікалаем Радзівілам, з якім павянчалася ў 1906 годзе ў Лондане. Супругі вырашылі парваць з палякамі. У 1912 годзе Магдалена ў газеце “Минское русское слово” абвясціла: “Лічу сябе беларускай, як і муж мой, за польку сябе не лічу. Муж мой ніколі не ажаніўся б з полькай”. Сям’я пасяліліся ў Кухцічах.



Магдалена Радзівіл з дачкой.
Са збораў В. Хурсіка

Магдалена актыўна падтрымлівала беларускі нацыянальны рух. У Каменцы, Уздзе, Кухцічах трымала беларускія школы, дапамагала беларускаму гуртку пры Пецярбургскай Духоўнай акадэміі, суполцы “Загляне сонца і ў наша ваконца”, газетам “Наша ніва”, “Беларус”. “Вянок” М.Багдановіча і “Курганная кветка” К.Буйло выйшлі з яе падтрымкаю.

У 1914 годзе Мікалай Радзівіл загінуў у Прусіі. Цела яго было перавезена ў Кухцічы і з вялікім ушанаваннем пахована ў склепе Кухціцкага кальвінскага збору. Удава жыла то ў сваіх маёнтках, то ў Мінску, дзе ў 1915—1916 гадах у яе доме сустракаліся Р.Скірмунт, В.Іваноўскі, А.Уласаў, браты І. і А.Луцкевічы.

У 1918 годзе абвясціла сябе грамадзянкай БНР. У 1922 годзе ад’ехала ў Коўна, дзе зноў зблізілася з беларускімі коламі. Дапамагала беларускім студэнтам і арганізацыям у Вільні.

У 1932 годзе перабралася ў Швейцарыю і перайшла ў манастыр у Фрыбургу. Тут і памерла “дзівачка” Магдалена Радзівіл, выдатная прадстаўніца беларускага народа.

У савецкі час на базе маёнтка быў створаны саўгас “Кухцічы”, у 1938 годзе арганізавана МТС “Пагранічнік”, скасаваная ў 1958 годзе.

Сярод ураджэнцаў вёскі Кухцічы Герой Савецкага Саюза Уладзімір Рыгоравіч Карачун. У час апошняй вайны камандаваў штурмавым авіяпалком, зрабіў 133 баявыя вылеты. Адзначаны ў баях за вызваленне Крыма. З гэтай вёскі і Герой Сацыялістычнай Працы Канстанцін Васільевіч Шавель, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Анатоль Іванавіч Астапчык. У Кухцічах нарадзіўся беларускі паэт Кастусь Шавель (1912—1987).

На землях маёнтка на востраве сярод балот над рэчкай Алёхаўка знаходзяцца нагаданыя вышэй старажытныя земляныя збудаванні. Яны вывучаліся Янам Завішам, ён тут знайшоў шмат помнікаў даўніны.

Ад мінулага тут засталіся сляды канала — рэчкі-копанкі, які быў пракладзены паміж рэчкамі Усай і Уздзянкай. Ад больш узвышанай Усы ў тым месцы, дзе яна перасякае дарогу Узда—Магільна, зрабілі каналізаваны адвод вады на тэрыторыю сядзібы. Тут стварылі вадаём-накапляльнік, у якім як раз і спыняўся канал. Адведзеная ад Усы вада паступала на турбіну млына і шпарка круціла яе, як казалі мясцовыя жыхары, не толькі вышынёй падзення, але і сваёй хуткасцю, пасля чаго скідвалася ва Уздзянку. Канал даўжынёй каля 2,5 км цяпер не працуе, зарос, сажалка спушчана, толькі застаўся стары свіран пры млыне.

Помнікаў, адпаведных Кухціцкаму збору, захавалася цяпер толькі два: у Заслаўі (цяпер праваслаўная царква) і ў Смаргоні (там цяпер каталіцкі касцёл). Колішні Койданаўскі збор яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны быў знесены. Захавалася месца, дзе стаяў збор, яго муры-фундамент, які ахоўваецца дзяржавай і мае назву “Кальвіншчына”. Кухціцкі кальвінскі збор узяты пад ахову. У апошні час прымаюцца меры да захавання і рэстаўрацыі гэтага выдатнага помніка гісторыі, архітэктуры і культуры.

Побач у старажытным сяле Сямёнавічы знаходзілася некалі драўляная Крыжаўзвіжанская царква. Была пабудавана ў 1874

годзе на месцы больш даўняй. У прыход уваходзілі Сямёнавічы, 6 вёсак, 2 засценкі. Прыхаджан у 1874 годзе налічвалася 926 асоб мужчынскага і 842 жаночага полу. Царкоўнай зямлі было 40 дзесяцін. Святаром з 1867 года стаў Мікалай Любінскі.

Сямёнавічы ўвайшлі ў гісторыю і тым, што тут у 1857 годзе ў сям'і царкоўнага псаломшчыка нарадзіўся будучы галоўны садавод Расіі, выдатны памолаг — знаўца яблыневых парод — акадэмік Васіль Васільевіч Пашкевіч. Пра яго мы раскажам далей.



Настаўнік з Сямёнавічаў
Леанід Чумакоў

А ці ёсць сёння цікавыя сямёнаўцы? Ёсць! Тут мы стрэлі Леаніда Аляксандравіча Чумакова, настаўніка геаграфіі і біялогіі мясцовай сярэдняй школы.

Акрамя настаўніцтва ён трымае тут сваю гаспадарку. Ёсць у яго конік, добрая збруя, колы з панарадам. На даволі вялікім прысядзібным участку перад домам уздымаецца высокі кедр. А за домам амаль навуковыя гоні злакавых культур, якія перамяжаюцца лентамі пладовых дрэў. Сам гаспадар — паляўнічы, але дзейнічае ў поўнай згодзе з законам. Важнае месца ў яго жыцці займае грамадская інспектарская экалагічная служба. Яго, кажуць, не на жарт пабойваюцца як свае, уздзенскія, так і наезджыя начальствуючыя браканьеры.

Размову аб культавых забудовах Уздзеншчыны варта павесці далей. Мы ўжо гаварылі аб былой цэркаўцы св. Мікалая ў Міколцы. Дададзім, што ў 1873 годзе гэта царква, званая "Мікола", збірала народ з ваколіц на пакланенне мясцовага ўшаноўваемага абраза св. Мікалая, малога памеру, у меднай высрэбранай рызе, які мясціўся на ўз-

вышэнні. Царква гэта лядачая, звонку і ўнутры нядобрапрыстойная, мела іканастас грубай работы. У ім меліся толькі два абразы кепскага жывапісу. У суседнім Цялякаве была драўляная прыходская царква ў імя Пакрава Прасвятой Багародзіцы. пабудаваная яшчэ ў 1839 годзе. Да яе, менавіта, была прыпісана і Міколкаўская царква. У царкоўны прыход уваходзілі Цялякава, Ялаўка, Алёхаўка, Пясчанка (Міколка), Карпілаўка, Баравыя, Кругліца, Рабінаўка, Крыжы і Гарбаты.

Першая царква ў суседніх Хатлянах стаяла ўжо ў XVII стагоддзі на высокім кургане, магчыма яшчэ язычніцкім, за Малінаўкай. Тое месца і цяпер завецца Царкоўшчынай. У XVIII стагоддзі мясцовыя памешчыкі Завішы пабудавалі царкву ў цэнтры вёскі. Яна была драўляная без купалоў. Больш стагоддзя яна служыла прыхаджанам.

У царкве меўся пафарбаваны іканастас з царскімі дзвярамі залачонай разьбы. Ён складаўся з 13 ікон пасрэднага пісьма ў двух ярусах. Начынне мелася малакаштоўнае, за выключэннем двух дзіскосаў, двух паціраў і аднаго напрастольнага крыжа. Два Евангеллі, шэсць свяшчэнніцкіх адзенняў. У царкоўным архіве знаходзіліся з 1797 года метрычныя кнігі і прыходскія спісы. Званніца ўзведзена асобна ад царквы, у ёй тры званы: на 4 пуды, 30 фунтаў і 1/2 пуда.

Вось, менавіта, гэту царкву ў Хатлянах наведаў у 50-х гадах XIX стагоддзя вядомы этнограф і краязнаўца П.М.Шпілеўскі. Ён пісаў: “Царква стаіць на высокай круцізне, апушанай з усіх бакоў густым арэшнікам, чаромхай і ліпай”.

У царкоўным прыходзе пяць асобных могілак з капліцамі. Прыпісных і могілкавых цэркваў не было. У прыход уваходзілі: Хатляны, Таўкачэвічы, Валяр’яны, Азерцы, Гацукі, Крывая Града і Сетнае. Прыхаджан мужчынскага полу лічылася 1190, жаночага — 1175 душ, усе яны сялянскага саслоўя, займаліся большай часткай земляробствам і толькі нямногія — ганчарствам, бандарствам. Ступень рэлігійнасці прыхаджан здавальняючая. Прычт складалі настаяцель і псаломшчык. Настаяцелем з 1863 года быў святар Аляксандр Каржанеўскі з семінарскай падрыхтоўкай, апошняй узнагародай меў скуф’ю.

Пры царкве з даходам 100 рублёў у год было 70 дзесяцін зямлі. Сядзіба знаходзілася паблізу. Для святара меліся дом, два свірны, хлеў для жывёлы, коней, варыўня і гумно, для псаломшчыка — дом, гумно і хлеў.



Будынак царквы ў імя Пакрова Прасвятой Багародзіцы ў в. Хатляны

Працэнт пісьменнасці сярод прыхаджан нязначны.

У 1898 годзе быў пабудаваны на дзяржаўныя сродкі і асвячоны новы храм. Гэта быў пяцізрубны крыжова-купальны будынак чатырохяруснай складанай канструкцыі са шлемападобным завяршэннем. Па вуглах былі закладзены яшчэ чатыры купалы. Бакавыя прыбудовы дэкараваліся разьбой. Будынак царквы досыць цікавы як помнік псеўдарускай архітэктуры.

У 1930 годзе храм зачынены. Зноў прыход скасаваны ўжо пасля Вялікай Айчыннай вайны. Будынак доўгі час знаходзіўся ў кепскім стане.

Але мясцовы краязнавец Міхась Лазар не губляў надзеі і прыцягнуў увагу насельніцтва і ўлад да неабходнасці адраджэння царквы як культавага праваслаўнага збудавання і помніка архітэктуры. І вось у 1990 годзе пачалася рэстаўрацыя храмавага будынка.

Была створана праваслаўная абшчына. Людзі нават прадавалі сваю маёмасць, каб паспрыяць узнаўленню царквы. Мясцовы ўмелец Антон Ламака зрабіў дзверы для храма, выканаў асноўныя сталярныя работы. Жыхар Хатлян Анатоль Ахрамовіч зрабіў іканастас.

І вось 21 кастрычніка 2000 года адрэстаўраваны храм асвячоны Уладыкам Філарэтам. Многія, хто ахвяраваў сродкі на ўзнаўленне храма, атрымалі царкоўныя ўзнагароды.



Будынак Свята-Мікалаеўскай царквы ў в. Магільна



Будынак царквы ў імя Пакрова Прасвятой Дзевы Марыі ў в. Пясочнае

Мацнеюць у апошні час у Наднямонні пазіцыі Праваслаўя. Тое перш за ўсё праяўляецца ў адраджэнні праваслаўных храмаў.



Капліца ў імя св. Мікалая Цудатворца ў в. Падсацкія



Асвячэнне паклоннага крыжа на месцы былой царквы ў в. Ліцвяны

У 1996 годзе у Магільным узведзены храм у імя святога Мікалая. У 2008 годзе мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі асвяціў у Пясочным царкву ў імя Пакрова



Фрагмент былых літых варот былой Раджджаства-Багародзічнай царквы ў в. Ліцвяны

Прасвятой Дзевы Марыі і капліцу ў вёсцы Падсацкія ў імя святога Мікалая Цудатворца.

А цяпер слова пра праваслаўны храм, які заслугоўвае сваім мінулым асаблівай увагі.

Прыходская Раджджаства-Багародзічная царква ў Ліцвянах узведзена ад незапамятных часоў. Першыя звесткі пра яе сустракаюцца ў дакументах візіта (праверкі дзейнасці царквы) 1732 года. Царква тая была драўляная, па знешняму выгляду крыжападобная з адным глухім купалам і званіцай над франтоннай часткай. Страха яе з гонты, вокны ў двух ярусах.

Іканастас складалі 11 абразоў. У храме захоўваўся мясцова ўшаноўваемы, напісаны на палатне старажытны абраз Божай Маці са Спрадвечным Дзіцем, памерам у аршын і 10 вяршкоў. Існавала паданне, што ён быў знойдзены ў лесе. У архіве захоўваліся візітныя запісы 1752 і 1765 гадоў і копіі метрычных кніг, спісы прыхаджан, якія былі на споведзі, з 1843 года.

Мясцілася царква на самым высокім месцы. Паблізу знаходзіліся пабудовы святара: дом, восець, свіран, сенавал і хлеў для жывёлы.

Гадавога царкоўнага дахода збіралася да 30 рублёў, скарбоначны збор складаў да 100 рублёў у год. Усяго царкоўнай зямлі налічвалася 36 дзесяцін, у тым ліку сядзібнай — 8, ворыва — 22 і сенажацей — 6 дзесяцін. Адпаведнай гаспадаркай валодаў і псаломшчык.

У прыход Ліцвянскай Раджджаства-Багародзічнай царквы уваходзіла 7 паселішчаў: Ліцвяны, Ракашычы, Лісоўшчына, Старына ці Антосік, Губіна, Логвішчы і Макавішчы. Прыхаджан налічвалася 730 асоб мужчынскага і столькі ж жаночага полаў. Усе яны складалі сялянскае саслоўе. У рэлігійна-маральных адносінах задавальнялі патрабаванням веры.

У жніўні 1844 года Ліцвянская царква адзначыла важную падзею: у яе прыход быў перамешчаны святар Зянон Паўлаў Завітневіч. Ён, таксама сын святара, закончыў у 1843 годзе Мінскую Духоўную семінарыю і быў рукапакладзены ў сан святара тагачасным архіепіскапам Мінскім і Бабруйскім Антоніем. У далейшым айцец Зянон у працы і старанні правёў тут 16 гадоў. Атэставаўся нязменна здольным.



Выгляд храма ў імя святых Пятра і Паўла ў в. Возера

Размовамі з прыхаджанамі не толькі ў царкве, але і пры ўсякім зручным выпадку, ён паспеў у хуткім часе замяніць у прыходзе уніяцкія і язычніцкія звычаі праваслаўнымі. Акрамя таго айцец Зянон у свабодны ад гаспадарчых заняткаў час асабіста і ў сваім доме пачаў навучаць прыходскіх дзяцей-хлопчыкаў Закону Божаму, чытанню, пісьму, арыфметыцы і спевам. Потым, дзякуючы яму, у час богаслужэння на клірасе было чутно чытанне і даволі стройны спеў сялянскіх дзяцей, што ў тыя часы складала рэдкасць у сельскіх цэрквах.

Зянон Паўлавіч Завітневіч — бацька нашага выдатнага земляка, доктара царкоўнай гісторыі, прафесара Кіеўскай Духоўнай акадэміі, Уладзіміра Зянонавіча Завітневіча.

Царква ў другой палове XIX стагоддзя зусім прыйшла ў заняпад. Высілкамі айца Зянона, былі прадвырашаны пытанні будаўніцтва на яе месцы новай царквы. У 1866 годзе, ужо без яго, царква была перабудавана за кошт дзяржавы, стала моцнай і прыстойнай, агульныя яе рысы захаваліся. Вароты былі ўзведзены з чугуннага мастацкага ліцця. У званніцы былі ўзняты 4 званы. Пазней пры царкве была арганізавана царкоўна-прыходская школа.



Гаспадарчы дом у в. Возера




Уваходная брама на ўздзенскіх гарадскіх могілках.
Разьба па дрэве П. Глебкі

Пры Савецкай уладзе царкву закрылі, а ў 30-х гадах зусім разбурылі. Да гэтага часу ў вёсцы ходзіць паданне, што ўсе "разбуральнікі" за свае грахі атрымалі спаўна. На месцы царквы яшчэ да вайны быў узведзены першы ў раёне агромністы Дом культуры.

Калі мы былі першы раз там, то браты Глебкі ў яго скляпеннях стваралі драўляную скульптуру па хрысціянскіх матывах. Потым іх разьбой быў аформлены ўезд на уздзенскія гарадскія могілкі. Яны знайшлі асобныя элементы мастацкага ліцця былых варотаў з хрысціянскай сімволікай — адзінае матэрыяльнае сведчанне багатага тут царкоўнага мінулага.

Цяпер Пётр Глебка працуе адзін. Ён перабраўся ў Вялікую Вусу, дзе набыў будынак закрытай школы і выкарыстоўвае яго як майстэрню. Супрацоўнічае з вучэбнай гаспадаркай Негарэльскага лясгаса, дзе здабывае матэрыял для сваіх работ.

У пачатку 2004 года Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Беларускай праваслаўнай царквой уведзена ў дзеянне Праграма супрацоўніцтва ў галіне культуры і творчай дзейнасці, аховы, аднаўлення і развіцця гістарычнай і культурнай спадчыны. Патрабавалася яе папярэдняе апрабаванне на ўзроўні мясцовага рэгіёна. Выбрана была Уздзеншчына, багатая на творчыя і культурныя традыцыі. Пры гэтым арганізатары мерапрыемства кіраваліся думкай мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, што Царква дапамагала і дапамагае культуры пераступіць межы чыста зямной справы, нагадваючы дзеячам культуры пра іх прызначэнне ўзбагачаць душы людзей, аднаўляючы вобраз Божы ў чалавеку.

Мерапрыемствы нават па форме не ўкладваліся ў раней прынятыя рамкі. Гэта была канферэнцыя, падрыхтаваная ў выглядзе прэзентацыі — выставы-сустрэчы з прадстаўнікамі сельскай інтэлігенцыі і самадзейным краязнаўчым актывам. Задумка ўдалася: канферэнцыя мела і шырокае агульнарэспубліканскае прадстаўніцтва.

Сустрэча пачалася ў горадзе Узда 28 мая з малебна ў мясцовай Свята-Петрапаўлаўскай царкве за ўпакой свяшчэннапакутнікаў Праваслаўнай Царквы і іншых адыйшоўшых ад нас землякоў — даследчыкаў царкоўнай гісторыі.

Далей сустрэча працягвалася ў сценах Уздзенскага гісторыка-краязнаўчага музея. Вынікі сумесных даследаванняў апошніх часоў падсумавала прэзентацыя публікацый, выданняў, рукапісаў. Зала паседжанняў на час стала выставай абразоў з фондаў музея. Праграма сустрэчы прадоўжылася наведваннем адметных мясцін Уздзеншчыны.



Будынак Свята-Петрпаўлаўскай царквы ў г. Узда

У 2005 годзе адбылася яшчэ адна значная падзея ў рэлігійным жыцці Уздзеншчыны.



Прыхаджане на паперці царквы святых Пятра і Паўла ў г. Узда

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі асвяціў месца пахавання на Уздзенскіх могілках свяшчэннапакутніка Мінскай Епархіі, пратаіерэя Міхаіла Навіцкага.

Нарадзіўся ён у 1889 годзе у с. Азяраны Мазырскага павета. Скончыў Санкт-Пецярбургскі універсітэт, выкладаў у Мінскай мужчынскай гімназіі лацінскую мову. У час наступлення немцаў падчас Першай сусветнай вайны быў эвакуіраваны ўглыб Расіі. Пасля вяртання ў Мінск быў рукапакладзены ў сан свяшчэнніка і накіраваны настаяцелем царквы Святых Апосталаў Пятра і Паўла ва Уздзе, дзе праслужыў

15 гадоў. У 1933 годзе царква была зачынена і далей служба працягвалася ў могілкавай цэркаўцы.

У 1935 годзе святар быў моцна пабіты за невыкананне патрабавання аддаць царкоўныя каштоўнасці. Сваю апошнюю службу айцец Мікалай выконваў ужо лежачы і на трэці дзень Светлай Сядміцы 30 красавіка мірна адыйшоў да Госпада.

Старэйшы сын пратаірэя Георгій загінуў у савецка-фінляндскай вайне. Сын Васіль загінуў у Вялікай Айчыннай вайне. Яшчэ адзін сын Мікалай Навіцкі ў 1942 годзе здейсніў подзвіг, закрыўшы сабой амбразуру нямецкага дзота і стаў Героем Савецкага Саюза. На Ленінградскім фронце ваявала і дачка айца Міхаіла сяржант Наталля Шуканава.




Месца пахавання святога пакутніка пратаіерэя Міхаіла Навіцкага на ўздзенскіх гарадскіх могілках

І яшчэ адзін гістарычны аб’ект — каменная капліца пірамідальнай формы — пахавальня рода Завішаў XIX стагоддзя на ўздзенскіх могілках. У свой час яе разрабавалі. Яна таксама патрабуе рэканструкцыі і захавання. Дарэчы, дваранскі род Завішаў пачынаўся з XV стагоддзя. Ён аказаў у мінулым пэўны ўплыў на развіццё ўздзенскага краю.

Тут, ва Уздзе, на гарадскіх могілках пахаваны стрыечны брат вучонага Я.А.Наркевіча-Ёдкі Эдуард Зянонавіч Наркевіч-Ёдка (1841—1898), саўладальнік непадзельна са сваім братам Генрыхам Зянонавічам маёнтка Ануфрова.*

*Э.З.Наркевіч-Ёдка скончыў Маскоўскі ўніверсітэт з вучонай ступенню кандыдата юрыдычных навук, лічыўся на дзяржаўнай службе, жыў у Ануфрове. Іх агульны непадзельны з братам маёнтак налічваў 2475 дзесяцін ворнай зямлі ды яшчэ 275 дзесяцін няўдобіцы.

Г.З.Наркевіч-Ёдка скончыў таксама Маскоўскі ўніверсітэт з вучонай ступенню кандыдата фізіка-матэматычных навук. Знаходзіўся на дзяржаўнай службе ў Санкт-Пецярбургу чыноўнікам па асобых даручэннях пры дзяржаўным кантралёры ў чыне надворнага саветніка.



Капліца на ўздзенскіх
гарадскіх могілках

Непадалёк ад Бярвішчаў, кіламетраў за два на поўдзень, у сасновым лесе, знаходзіцца пакуль што мала вывучанае месца, якое сярод насельніцтва носіць назву “Царковішча”. Сюжэт паданняў традыцыйны — быццам бы тут некалі правалілася пад зямлю царква. Калі прыкласці вуха да зямлі, то ў пэўныя дні можна пачуць гукі званоў.

“Царковішча” — геаметрычна беззаганна круглы кратэр дыяметрам каля 50 метраў. Ідэальна правільныя і адхоны берагоў. Яны цяпер параслі лесам. Сам кратэр некалі быў возерам, потым моцна забалочаным месцам. Нейкі час у ім касілі сена. Цяпер яго можна свабодна пераходзіць — вільгаці стала меней.

Паводле чутак, па берагах кратэра некалі стаялі каменныя слупы, якія мелі выгляд чалавечых фігур. Потым іх, быццам бы, вывезлі пад фундаменты дамоў і скляпы. Разгадка гэтага ўшаноўваемага месца нясе шмат нечаканага.

…З канца XVIII стагоддзя і на працягу першай паловы XIX стагоддзя мястэчка Узда амаль не мянялася, колькасць жыхароў у ім заставалася ўстойлівай. Тады гэта было сярэдніх памераў паселішча, у якім цэнтрам гаспадарчага жыцця з’яўлялася рыначная плошча пасярэдзіне мястэчка. На плошчы туліліся невялікія лаўкі і дамы дробных гандляроў і рамеснікаў. Ад плошчы адыходзілі дзве вуліцы: адна з іх цягнулася ўздоўж дарогі, што вяла ад вёскі Валяр’яны праз Узду і далей на Негарэлае і Койданава, другая выходзіла на дарогу на Магільна і далей на Нясвіж. З Магільна водны шлях вёў да Стоўбцаў — важнага па тым часе рачнога порта, адкуль сельскагаспадарчыя прадукты, лес і мясцовыя вырабы сплавам накіроўваліся

на захад. Гандляры мястэчка акрамя прыдбаных у Мінску, Стоўбцах він, бакалеі (іх куплялі мясцовыя дробныя і сярэднія памешчыкі) займаліся набыццём невялікіх партый сельскагаспадарчай прадукцыі — мукі, сала, круп, мёду, лёну і адвозілі гэтыя тавары ў Мінск, Стоўбцы, збываючы іх буйным аптавікам. Вялікае значэнне меў гандаль лесам і ляснымі таварамі.



Мясцовасць “Царковішча” каля в. Бярвішча

Некаторы зрух рабіла і мясцовая прамысловасць. У К.Завішы ў пачатку XIX стагоддзя апрача фальваркаў меўся шэраг прадпрыемстваў. Акрамя бровараў, у яго пры вёсцы Задобрычча дзейнічаў жалезаробны завод, дзе выраблялiся розныя сельскагаспадарчыя прылады для сваіх патрэб, а таксама на продаж сялянам — сашнікі, косы, сярпы, нажы і т.п. У другога Завішы — Івана, уладальніка вёскі Пагарэлае, меўся паташны завод.

У мястэчку Узда ў сярэдзіне XIX стагоддзя налічвалася 14 сялянскіх прыгонных двароў, тры з іх — агароднікаў, два — бабылёў. Акрамя таго, у мястэчку жылі вольныя людзі — 102 яўрэйскія і 18 татарскіх двароў. У передрэвалюцыйны час Узда налічвала 250 двароў, пераважаў дробны гандаль і хатнія промыслы: ганчарныя, выраб палазоў, саней, вазкоў, драбін, колаў, рымарскія заняткі па апрацоўцы скур, пашыў адзення і абутку. На Уздзеншчыне з вапнавага туфу рабілі вапну, быў наладжаны выраб цэглы.

На тэрыторыі сучаснай Уздзеншчыны маёнткамі і зямлёй валодалі каля 35 памешчыкаў, якім у 70—90-х гадах належала каля 150 тыс. дзесяцін зямлі, у тым ліку 14 тыс. ворнай, ці 70 працэнтаў лепшых земляў. Памешчыкі мелі амаль 134 тыс. дзесяцін лесу. Вось

яны, уладальнікі буйных маёнткаў: князі Вітгенштэйны — 12 тыс. дзес., графы Завішы — звыш 11 тыс. дзес., графы Вышамірскія — звыш 11 тыс. дзес., бароны Гарцінгі — 3 тыс. дзес., Ёдкі — да 3 тыс. дзес., князі Радзівілы 546 дзес., Гутэны-Чапскія, Грабоўскія і інш. У Магільнянскай воласці князям Вітгенштэйнам належаў маёнтак “Святы Двор”, Мінкоўскім-Багушэвічам маёнтак Літва, у Слабада-Пырашаўскай воласці Ёдкам — маёнтак Ануфрова, графам Завішам у Уздзенскай воласці — маёнткі Каменка, Уздзянка, Данілавічы, Кухцічы.

З маёнтка Літва паходзіць мала вядомы Станіслаў Мікалаевіч Багушэвіч (1751—1819). Па А.К.Ельскаму, бацька яго, землеўладальнік Мінкоўскі-Багушэвіч, загінуў пад час сутыкненняў на сейміку ў Мінску.

Станіслаў вучыўся ў езуіцкім пансіёне ў Вільні. На 21-м годзе быў абраны ў якасці полацкага стражніка і ротмістра Мінскага ваяводства мінскім дэпутатам на раздзельны сейм 1773 года. Не маючы дастаткова сілы, каб пераадолець сваіх праціўнікаў на сейме, С.Багушэвіч у якасці пратэста супраць гвалту маніфестам склаў з сябе сеймавыя абавязкі. У 1784 і 1792 гадах засядаў дэпутатам Літоўскага Трыбунала. У тым жа годзе стаў мінскім суддзёй. У пазнейшыя часы быў залічаны палкоўнікам каралеўскага войска.

У 1790 годзе зноў выбіраўся паслом на вялікі сейм, аднак натоўп засценкавай шляхты гвалтам адцясніў яго і выправіў на сейм сваіх дэпутатаў. Цаніўся і ўшаноўваўся паўсюдна.

Быў жанаты з дачкой мінскага старосты Тэрэзай Іваноўскай. Меў семярых дзяцей, якія ў хуткім часе паўміралі.

Сам С.Багушэвіч пахаваны ў Івянцы ў скляпах пасляфранцысканскага касцёла, потым царквы. У наш час у памяшканнях былога манастыра мясцілася экспрыментальная база Мінскага праектнатэхналагічнага інстытута.

Тут варта хаця б коратка спыніцца на іншых старажытных пасяленнях Уздзеншчыны.

Вёска Таўкачэвічы ўпершыню ўпамінаецца ў 1582 годзе, некалі ўласнасць Карыбута Стэфана Грабоўскага, затым Радзівілаў. У 1617 годзе Таўкачэвічы былі прададзены праз Прушынскіх Янушу Быхаўцу. Да маёнтка тады адносіліся фальваркі Любяча, Хатляны, Кавалевічы, Сяргеевічы і Касцюкі. У другой чвэрці XVII стагоддзя Таўкачэвічы трымалі Заранкі. Затым праз шлюб яны перайшлі

да прускага афіцэра Вільгельма Грабоўскага. У другой палове XIX стагоддзя да маёнтка адносіліся: Хатляны, Валок, Валяр'яны, Цыцыліянаў, Журавель, Лоша, Гута і інш. Землі маёнтка амывалі рэчкі: Кавалёўка, Лоша, Любяча і іх малыя прытокі. Лясы славіліся багаццем дзічыны. Драўляны жылы сядзібны дом знаходзіўся ў акружэнні прыгожага парку. Рэшткі яго засталіся і сёння. У маёнтку мясціліся фруктовыя сады і аранжарэі. У 1860 годзе тут была ўзведзена драўляная капліца. Сёння Таўкачэвічы — цэнтр СВК. Ёсць лесапільня, швейная майстэрня, сярэдняя школа.

Вёска Хатляны на "дзікай палескай ваколіцы" знаходзілася ў XVII стагоддзі пад уладальніцтвам Галаўчынскіх, потым — дома Быхаўцаў. У канцы XVII стагоддзя разам з Таўкачэвічамі і Дудзічамі перайшла ў сумеснае карыстанне Заранкаў-Грабоўцаў герба Корчак. Каля 1748 года ўладальнікамі Хатлян сталі Заранкі. Адна з Заранкаў выйшла замуж за Завішу-малодшага і прынесла яму ў пасаг Хатляны з Таўкачэвічамі, а дачка іх, Завішанка, заручылася з Грабоўскім герба Тапор і перадала яму гэту ўласнасць. Землі тут бедныя, пясчаныя, багатыя толькі на лясы. У ваколіцах знаходзяцца курганы і валы над балотамі. Так апісвае ў 1880 годзе Хатляны "Слоўнік геаграфічны…".

А вось замалёўка 1873 года. "Сяло Хатляны сапраўдны закутак. Сялянскія пабудовы згорнуты разам на няроўнай нізіне, дзе няма ні выганаў, ні выпасаў для жывёлы; хаты іх не агароджаны нават заборам. Наогул месца тут сумнае, народ вялы і санлівы...".

У наш час вёска Хатляны — цэнтр аднайменнага сельсавета і СВК "Хатляны". Сярэдняя школа ў Хатлянах і яе настаўніцкі калектыў заслугоўваюць самай высокай павагі, а многія яе выпускнікі сталі вядомымі спецыялістамі ў розных галінах гаспадаркі, навукі і культуры.

Пад кіраўніцтвам дырэктара школы Мацвея Мікалаевіча Мацукевіча (працуе ў ёй з 1978 года) у школьным музеі праводзяцца "урокі памяці", тэматычныя мерапрыемствы. Усе яны трывала звязваюцца з мясцовай спецыфікай, побытам і гісторыяй. У вёсцы нарадзіліся акадэмік Аляксандр Махнач, паэт Антон Бялевіч. Тут бываюць частыя госці: замежныя дэлегацыі, экскурсанты з дзяржаў СНД. Зразумела, і з розных мясцін Уздзеншчыны. Мясцовыя школьнікі-краязнаўцы ў сваю чаргу знаёмяцца з гісторыяй роднай краіны.



На парозе Хатлянскай СШ.
Злева направа М. Лазар, М. Акулік, М. Мацукевіч, М. Кароль

Усё, ці амаль усё, пра Хатляны ведае былы настаўнік Міхаіл Канстанцінавіч Лазар. Гісторыя, культура, лёс гэтай зямлі знайшлі сваё месца ў створаным пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле школьным краязнаўчым музеі.

Хатлянскі школьны музей носіць званне народнага і гэта ганаровае званне да многага абавязвае. Яго высокі статус неабходна перыядычна пацвярджаць.

У 2003 годзе Міхаіл Лазар выдаў, а затым у 2008 годзе перавыдаў змястоўную, энцыклапедычнага характару, кніжку пра сваю вёску пад назвай "Хатляны". Рэдактарам кніжкі выступіла зямлячка і вучаніца аўтара па Хатлянскай школе Зінаіда Малейка (Хлапіцкая).

У 1-й палове XIX стагоддзя панскія гаспадаркі Беларусі былі ўцягнуты ў таварна-грашовыя адносіны. Тут даволі шырока ўкараняліся агратэхнічныя новаўвядзенні, выразна вызначалася гаспадарчая спецыялізацыя вытворчасці бульбы, лёну, канапель. На аснове шырокага развядзення бульбы павялічвалася вытворчасць гарэлкі і спірту. Памешчыкі адкрывалі прадпрыемствы па апрацоўцы воўны, лёну, вытворчасці цукру, шкла, посуду і г.д. Усё больш выкарыстоўвалася наёмная праца.



Сяляне Мінскай губерні. XIX ст.

На сялянскія двары даводзілася каля 37 тыс. дзесяцін ці на кожную гаспадарку па 3 дзесяціны ворнай і 1,5 дзесяціны сенажатнай зямлі. Прымусовая праца, вялікія падаткі, голад, галеча даводзілі народ да выступленняў супраць землеўладальнікаў. У 1809 і 1833 гадах жыхары Слабады Пырашаўскай са зброяй у руках аказалі супраціўленне Ёдку, які з дапамогай салдат спрабаваў прад'явіць свае правы на іх. У дакументах, якія былі даведзены да цара, гаварылася, што сяляне не пажадалі выконваць павіннасці панам сваім і "не толькі не падпарадкаваліся дзеянням земскай паліцыі, але і пагражалі вайсковай камандзе, якая была выклікана для заспакойвання". Зачыншчыкі былі асуджаны да "адпаведнага пакарання".

Паўстанне 1863—1864 годоў масавай падтрымкі тут не атрымала. Атрады гінулі адзін за адным. Дзе-нідзе ў лясах і балотах блукалі асобныя невялікія групы. Толькі атрад Свентаржыцкага змог пратрымацца да канца чэрвеня, але неўзабаве і ён быў разбіты.



Сялянская хатка ў в. Хатляны канца XIX ст.

У 1870-я гады ўзніклі хваляванні мясцовых сялян у маёнтках князёў Вітгенштэйнаў і Радзівілаў. Буйное хваляванне адбылося ў красавіку 1876 года ў маёнтку "Святы Двор", дзе 30 сялян-арандатараў панскай зямлі адмовіліся падпісаць кантракты, заявіўшы, што зямля — іх уласнасць і незаконна прысвоена ўладальнікам (памешчык павысіў арэндную плату на зямлю). Атрад паліцыі высяліў сялян.

У 1895 годзе за сялянамі на Уздзеншчыне лічылася 705 рублёў нядоімкі, 16 230 рублёў займу. Гэтыя лічбы адлюстроўвалі стан эканомікі селяніна. Зменшыліся даходы ад сельскай гаспадаркі ў выніку спусташэння зямлі, нізкага ўзроўню агратэхнікі. Паніжаліся пабочныя заробкі сялян.

У канцы XIX стагоддзя памешчыкі па зямельнай рэформе прадавалі былыя арэндныя землі. Узнікла і пачала расці катэгорыя заможных сялян. Ім належала звыш 5 тыс. дзесяцін сельгасугоддзяў. Бядняцкія гаспадаркі яшчэ болей нішчалі. Збяднелыя перасяляліся ў Паволжа, Сібір. Многія эмігрыравалі ў Амерыку.

Уздзенская воласць у канцы XIX стагоддзя складалася з 9 старостваў.

Мястэчка Узда набывала некаторае развіццё. У валасным цэнтры адкрылі шпіталь на 10 ложкаў з урачом і акушэркай. З 1890 года працавала аптэка. У 1894 годзе з'явілася паштова-тэлеграфнае аддзяленне.

Быў пабудаваны спіртзавод "Уздзянка", мукамольна-лесапільны завод, смалакурні "Закрэўшчына", "Слабада", "Міколка" і 12 паравых, вадзяных і ветравых млыноў. Магутнасць аднаго млына складала 15—20 конскіх сіл.

Усяго на саматужных прадпрыемствах воласці працавала каля 120 чалавек.

У народным вучылішчы ва Уздзе, адкрытым у 1864 годзе, адным настаўнікам навучалася 90 вучняў.

Пэўную цікавасць уяўляюць звесткі аб царкоўнапрыходскіх школках.

У Уздзенскім прыходзе (1885 чалавек мужчынскага полу і 1833 жаночага) былі школы граматы для хлопчыкаў:

Нізоўская, адкрыта ў 1884 годзе, мела сваё ўласнае прыдатнае памяшканне. Навучаў у школе селянін Пятро Герасімовіч, які скончыў курс народнага вучылішча, 35 хлопчыкаў з платаю 45 рублёў за зіму;

Каменская, адкрыта ў 1884 годзе у сваім уласным зручным доме. Навучаў у школе селянін Алесь Барысевіч 18 хлопчыкаў з узнагароджаннем 38 рублёў за зіму;

Прысынкаўская, адкрыта ў 1888 годзе, размяшчалася ў прыватнай нездавальняючай кватэры. Абучаў 12 хлопчыкаў селянін Пятро Шыдлоўскі з узнагароджаннем 30 рублёў за вучэбны год.

У Хатлянскім прыходзе (1431 чалавек мужчынскага і 1402 жаночага полу) былі змешаныя школы граматы. У Хатлянах школа адкрыта ў прыватнай нездавальняючай кватэры. Абучаў дзяцей селянін Алесь Селівончык з жалаваннем 16 рублёў за вучэбныя месяцы, а Закон Божы выкладаў мясцовы святар А.Каржанеўскі. Усяго навучэнцаў было 18 хлопчыкаў.

У Слабада-Пырашаўскім прыходзе (1124 чалавекі мужчынскага і 1067 жаночага полу) змешаныя школы граматы:

Стара-Маргоўская падзвіжная школа, адкрыта ў 1884 годзе. Абучэннем займаўся селянін Павел Гарылька з жалаваннем 20 рублёў за зіму;

Хароміцкая, працавала з 1884 года ў прыватнай нездавальняючай кватэры. Абучаў 9 хлопчыкаў у школе унтэр-афіцэр Мікалай Шакаль з жалаваннем 16 рублёў 80 капеек за зіму;

Канапельская, падзвіжная, працавала з 1888 года. 7 хлопчыкаў абучаў селянін Рыгор Чыгір з узнагароджаннем 25 рублёў за зіму;

Змешаная падзвіжная школа граматы ў вёсцы Міколка адкрыта ў 1889 годзе. Абучаў 5 хлопчыкаў і 2 дзяўчынак селянін Р.Дубовік з узнагароджаннем 1 рубель за навучэнца за зіму.

Хатка схіліўшыся, шыбы пабітыя,
Праслы гнілыя наўкола;
Дзверы і вокны ніколі не мытыя...
А! — Гэта сельская школа,

пісаў невядомы паэт пра тагачасную школу.

У 1886 годзе ва Уздзе быў адкрыты судова-міравы ўчастак.

У 1905—1907 гадах Ігуменскі павет адносіўся да паветаў з найбольш актыўным сялянскім рухам. Тут адбылося 50 сялянскіх выступленняў. Рабочы рух быў слабейшы. 9 кастрычніка 1905 года ў мястэчку Узда прайшла дэманстрацыя, у якой прынялі ўдзел рамеснікі, вучні народнага вучылішча, моладзь. Такая ж дэманстрацыя адбылася і ў мястэчку Лоша. У ёй прынялі ўдзел сяляне навакольных вёсак. Як даносіў мясцовы спраўнік, дэманстранты прайшлі са спевам рэвалюцыйных песень і антыўрадавымі лозунгамі.

Сацыял-дэмакратычная агітацыя мела свае вынікі. Пад яе ўздзеяннем сяляне вёскі Ліцвяны спынілі работу лесапільнага завода. Антыўрадавы сялянскі рух не спыняўся вясной і летам 1906 года. Забастоўка парабкаў у час пасеву і ўборкі ўраджаю ахапіла трэць маёнткаў воласці.

Жыхар Узды Адам Рэўтовіч распаўсюджваў пракламацыі сярод сялян вёсак Кухцічы, Сямёнавічы.

З канца 1906 года і ў 1907 годзе сялянскі рух пайшоў на спад, але хваляванні працягваліся. На Уздзеншчыне адбылося актыўнае выступленне сялян маёнтка князёў Радзівілаў. Сяляне пасвілі сваю жывёлу на панскіх землях. На спробы адміністрацыі прагнаць скаціну яны заявілі: “Калі згоніце скаціну, то заб’ём вас, а маёнтак агнём спалім”. У 1907 годзе сяляне вёскі Данілавічы не пусцілі панскіх парабкаў араць зямлю ва ўрочышчы Кляўкі, бо ёй карысталіся самі. Стражнікаў, якія хацелі прагнаць сялян, закідалі камянямі. Паліцыя пачала страляць, было забіта трое і паранена столькі ж сялян.



Герой грамадзянскай вайны, двойчы ардэнаносец П. Кучук

У 1912 годзе пачаліся хваляванні ў вёсцы Малая Уса. Як даносіў мінскі губернатар дэпартаменту паліцыі, сяляне "натоўпам каля 60 чалавек з'явіліся ва Успенскую лясную дачу, якая належала князям Радзівілам, узброіліся палкамі, рыдлёўкамі і пачалі з пагрозамі патрабаваць спынення пабудовы агароджы, якая аддзяляла лесапасадкі князя ад сялянскіх надзелаў". Так як у патрабаваннях ім было адмоўлена, то "натоўп сялян кінуўся да агароджы і знішчыў яе".

Савецкая ўлада на Уздзеншчыне была ўстаноўлена ў лістападзе 1917 года. Яе праваднікам стаў Уздзенскі мясцовы Савет рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. З лютага па лістапад 1918 года Уздзеншчыну акупіравалі нямецкія захопнікі, а са жніўня 1919 да ліпеня 1920 года — войскі буржуазнай Польшчы. У час акупацыі была спалена вёска Будкаў і расстраляны актывісты камітэта беднаты.

У гады грамадзянскай вайны многія ўздзенцы змагаліся з інтэрвентамі і белагвардзейцамі.

Павел Міхайлавіч Кучук (1896—1964) з вёскі Чурылава служыў у царскай арміі, удзельнічаў у штурме Зімняга палаца і ў абароне Петраграда. Потым камандаваў эскадронам у чапаеўскай дывізіі, змагаўся з белапалякамі. Меў шэраг баявых узнагарод. Працаваў у сістэме раённага гандлю. У час апошняй вайны быў партызанскім сувязным. Пасля вайны працаваў плытагонам.

Удзельнік Петраградскай канферэнцыі салдат і матросаў ураджэнец Уздзеншчыны Васіль Барысавіч Ліпай ахоўваў Смольны, затым

служыў у Чырвонай гвардыі і Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у барацьбе з Юдзенічам. У час Вялікай Айчыннай вайны разам з трыма сынамі ваяваў з фашыстамі. Дайшоў да Берліна і вызваляў Прагу. Двойчы быў паранены. Да свайго скону працаваў у калгасе пчаляром.

Сярод удзельнікаў грамадзянскай вайны былі А.Трацэўскі, Л.Трус і С.Нячаеў.

Ураджэнец вёскі Ракашычы Іван Якаўлевіч Трацցяк з малых гадоў пазнаў нястачу і цяжкую працу. У маладосці зблізіўся з рэвалюцыйна настроенымі студэнтамі, быў узяты пад нагляд паліцыі. Па гэтай прычыне выехаў у Германію, а затым у ЗША. Пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі ён, як і многія іншыя эмігранты, вярнуўся ў Расію праз Далёкі Усход. На Алтаі яго застала выступленне сялян супраць армій адмірала А.В.Калчака. І.Я.Трацяк стаў камісарам, а з 1919 года камандзірам горна-коннай партызанскай брыгады, якая да канца баёў кантралявала раён Горнага Алтая.

У мірныя гады ён працаваў на Алтаі на партыйнай і савецкай рабоце. У 1933 годзе ў Новасібірску выйшла яго кніга “Партизанское движение в Горном Алтае в 1919 году”. Іван Якаўлевіч Трацяк доўга хварэў на сухоты і памёр у 1933 годзе. Яго жыццё і дзейнасць даследаваў Анатоль Іосіфавіч Валахановіч.*

Стэфан Герасімавіч Булат нарадзіўся ў вёсцы Слабада-Пырашаўская. Настаўнічаў у Мінску і Дзешчанцы. У час белапольскай акупацыі быў на падпольнай рабоце. З 1920 года ў сістэме народнай адукацыі БССР, рэдактар газеты “Савецкая Беларусь”. У студзені 1921 года пачаў выдаваць газету “Белорусская деревня”. З мая 1921 года на партыйнай рабоце. На яго заўчасную смерць Янка Купала адгукнуўся вершам “На смерць Сцяпана Булата”.

---

*Анатоль Іосіфавіч Валахановіч — даследчык высокага ўзроўню і кваліфікацыі. У 1964—1966 гадах працаваў настаўнікам на Уздзеншчыне, узначальваў Ракашыцкую і Зенькавіцкую школы. Да гэтага часу яго памятаюць у раёне і запрашаюць на школьныя ўрачыстасці, на вечары-сустрэчы з выпускнікамі, у Уздзенскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей на навуковыя канферэнцыі і прэзентацыі кніг, прысвечаныя гісторыі культуры Уздзенскага раёна

А.І.Валахановіч працягвае плённа працаваць над мінулым Міншчыны. Ён добры знаўца архіўнай справы. Кансультант па складаных радаводных пытаннях. Добра ведае навейшую гісторыю. Усюды пажаданы і карысны чалавек. Як даследчык вельмі шчыры, адкрыты і даступны. Мы яму вельмі ўдзячны і абавязаны за каштоўныя матэрыялы, перададзеныя нам падчас нашага супрацоўніцтва.

Пасля выгнання ворагаў Савецкая ўлада здзейсніла значныя пераўтварэнні ў гаспадарцы раёна. У 1920 годзе на базе былых памешчыцкіх маёнткаў былі арганізаваны саўгасы “Уздзянка”, “Ануфроў”, “Наднёман” і “Кухцічы”.

Пачаў працаваць падпарадкаваны саўгасу “Уздзянка” спіртзавод. З 1922 года працаваў лесазавод “Закрэўшчына”, які пазней стаў базай прамкамбіната. У 1923 годзе арганізавана працоўная арцель “Сейбіт”, па сутнасці адна з першых у рэспубліцы камун. Першымі камунарамі сталі Соф’я Ачапоўская, Марыя Шырко, Кацярына Шырко, Іосіф Ачапоўскі, Алена Чарнавус.

У 1924 годзе было створана невялікае прадпрыемства з ліку саматужнікаў-аднаасобнікаў. Звалася яно “Працоўны калектыў”, у ім працавала 18 чалавек. Перад вайной было пераўтворана ў прамарцель “Кастрычнік”.

Адным з першых калгасаў быў “Чырвоны Кастрычнік”, арганізаваны ў 1926 годзе на базе пасёлкаў Камсамолец, Зорка, Язвіны, Занеманец. У вёсцы Сітнікі арганізаваны калгас “Будаўнік”. Цікавая гісторыя калгаса “Інтэрнацыянал”, створанага ў снежні 1929 года на месцы садова-агароднай арцелі. Назва была выбрана невыпадкова. У ім аб’ядналіся беларусы, яўрэі, рускія, палякі, татары. Калгас меў дзве паляводчыя брыгады — ва Уздзе і ў Дубінках (цяпер Тычынкі), жывёлагадоўчую ферму.

З 1929 года пачалося масавае ўступленне сялян у калгасы. У 1930 годзе калгасны сектар ахопліваў 40 працэнтаў усіх пасяўных плошчаў. У гэтым жа годзе з’явіўся першы трактар, а ў 1931 — створана ў Мангалінаве машынна-трактарная станцыя. У 1932 годзе ва Узду сваім ходам прыбылі тры трактары айчыннай вытворчасці. У 1934 годзе ў Возерскай, Уздзенскай і Пагранічнай МТС налічвалася ўжо 102 трактары і 16 камбайнаў. У 1937 годзе ў раёне існавала 69 калгасаў. К 1940 году было асушана болей 1000 гектараў тарфяных зямель. Малочнатаварныя фермы налічвалі 6,5 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы.

Да Вялікай Айчыннай вайны кожны калгас меў свае пасекі. Усяго ў раёне налічвалася 2080 пчоласямей.

Акрамя гэтага, дзейнічалі леспрамгас — лесхімгас з дзевяццю смолзаводамі, маслазавод, райпрамкамбінат і торфазавод. Усяго ў прамысловасці было занята 638 чалавек.






Будынкі старой Узды

Па лініі прамкааперацыі працавала 729 рабочых. Дзейнічалі шавецкая арцель “Эканомія”, пашыўныя — “Кастрычнік” і “Перамога”, кандытарская — “Чырвоны кандытар”, лесахімічная — “Рэкорд”, вышывальная — “Радзіма”, гузічная — “Новы шлях”, вяровачная — “Чырвоны вяровачнік”, кавальская — “Уперад”,

арцелі “Уцільшчык” і “Транспартнік”. Мясцовая прамысловасць забяспечвала патрэбы раёна, значная частка прадукцыі вывозілася за яго межы.

У 1927 годзе ўведзена ў строй электрастанцыя ў Закрэўшчыне і электрычная энергія ўпершыню пададзена ў жылыя дамы.

У 1934 годзе ў вёсцы Астравок, а ў 1935 годзе ў вёсках Макавішчы і Ліцвяны пабудаваны гідраэлектрастанцыі на рэчцы Уса магутнасцю 66 квт. Затым у Астраўку гідраэлектрастанцыя была пераабсталявана ў міжкалгасную магутнасцю 75 квт, што дазволіла электрыфікаваць 4 калгасы.

У 1937 годзе ў Магільна ўзведзена ў эксплуатацыю электрастанцыя на дрывяном паліве. У маі 1941 года і гарпасёлак Узда атрымаў электрычны ток ад газагенератарнай электрастанцыі агульнай магутнасцю 200 квт.

Мукамольную прамысловасць складалі 7 млыноў, з іх — 4 на гідраэнергіі ракі Уса, астатнія на дрывяном паліве.

Вяліся забудова і добраўпарадкванне гарадскога пасёлка. У райцэнтры, нягледзячы на прыгранічныя абмежаванні, узводзіліся грамадскія і прамысловыя будынкі, удвая павялічылася жытло, узніклі новыя вуліцы.

Да 1940 года былі пабудаваны дарогі з цвёрдым пакрыццём з Узды на Негарэлае, Валяр’яны, Магільна, Мрочкі. Пакуль пераважаў гужавы транспарт, але з 1936 года наладжваецца аўтобусны рух.

У 1920-х гадах ва Уздзе адкрыты беларуская, яўрэйская і польская школы, аб’яднаныя затым у адну сярэднюю. У 1940 годзе ў раёне працавалі 4 сярэднія, 14 сямігадовых і 44 пачатковыя школы. У выніку амаль поўнасцю была ліквідавана непісьменнасць.

Уздымалася культура сельскага насельніцтва. У 1920—1930-я гады ў масавым парадку ўзнікаюць народныя клубы, хоры, гурткі, групы народных умельцаў. З гэтага часу бярэ адлік знакаміты Прысынкаўскі народны хор.

Пашыраліся тэлефонная і радыёсетка, адкрываліся кінаўстаноўкі.

Гітлераўскае ўварванне перарвала мірнае стваральнае жыццё. Тэрыторыя раёна знаходзілася пад акупацыяй з 28 чэрвеня 1941 па 4 ліпеня 1944 года.

Акупанты разбурылі і спалілі большасць канюшань і ферм, сагналі з раёна 6,1 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, 2,2 тыс. коней. Калгасныя землі спустошаны, у значнай ступені парaслі хмызняком. У 1945 годзе ўраджайнасць у раёне складала ўсяго 4 ц збожжа, а бульбы 42,9 ц з гектара.

Усе прамысловыя прадпрыемствы, школы, бальніцы і ФАП былі разбураны, маёмасць разрабавана.

У пасляваенны час эканоміка і культура адноўлены. Ужо ў 1944 годзе далі прадукцыю торфазавод, спіртзавод, хімлесгас, леспрамгас, райхарчкамбінат, райпрамкамбінат, арцель імя К.К.Ракасоўскага, многія прамарцелі. К 1950 году прамысловасць у раёне перасягнула даваенны ўзровень. За пасляваенны час былі асвоены новыя віды вырабаў: шчолачна-воцатны парашок, шчапа, цэментна-пясчаная чарапіца, шыфер, мэбля і іншае. Былі адбудаваны і перабудаваны маслазавод і камбінат бытавога абслугоўвання, млын "Закрэўшчына", механізаваны шавецкая і пашывачная арцелі. У вёсцы Буковічы атрымала развіццё саматужная вытворчасць глінянага посуду.

Ажылі электрастанцыі ў райцэнтры, у Ліцвянах, Макавішчах і Закрэўшчыне. Пабудаваны новыя ў Астраўку, на цагельні, у Пагранічнай, Уздзенскай, Возерскай МТС, а таксама ў 11 калгасах, што дазволіла весці электрыфікацыю дамоў калгаснікаў.

У арцелі "Прагрэс" пасля Вялікай Айчыннай вайны арганізавалі новыя цэхі: канапны, абадоў, колаў, санак, мэблі (сталоў, крэслаў, шафаў і інш.). Выраблялася бандарная клёпка, тынковачная дранка, дахавая гонта.

Наладжвалася кандытарская вытворчасць патакі, варэння, пернікаў, цукерак і інш.

Узбуйніліся калгасы. У 1969 годзе іх лік скараціўся да 18. Былі ўзноўлены ўсе пасяўныя плошчы. У пачатку 1950-х разгарнуліся меліярацыйныя работы. Нагадаем яшчэ раз: тарфяныя балоты ў раёне ахоплівалі болей за 5 тыс. гектараў, ці 11 працэнтаў тэрыторыі. Дзевяць дзесятых з іх былі нізіннага паходжання.

Добрыя даходы гаспадаркам давалі тэхнічныя культуры, у тым ліку кок-сагыз, тау-сагыз. Пасадкі кок-сагызу канцэнтраваліся галоўным чынам у калгасах Цялякаўскага, Хатлянскага і Слабада-Пырашаўскага сельсаветаў.

Узнавілася правядзенне раённых штогадовых сельскагаспадарчых выставак, пачатак якім быў пакладзены з 1924 года. Да калектывізацыі яны зваліся Днямі ўраджаю.

Сёння да калгаснікаў далучаецца атрад новых гаспадароў зямлі — фермераў.

Хімічную прамысловасць прадстаўлялі пяць смолзаводаў ў вёсках Міколка, Слабада, Ракашычы, Цялякава і ва ўрочышчы Закрэўшчына. Вытворчасць смалы павялічылася з 15 тон у 1945 годзе да 291 тоны ў 1950, шкіпінару — адпаведна з 7 да 136 тон. Акрамя смолзаводаў працавалі 5 майстарскіх участкаў па нарыхтоўцы жывіцы.

Прадаўжаўся сплаў лесу праз Уздзенскі сплаўучастак Мінлеспрама БССР.

У 1960 годзе адкрылася транспартная кантора, якая мела 15 аўтобусаў і 58 грузавых аўтамашын.

У цяжкі пасляваенны час значныя сродкі адпускаліся на народную адукацыю, узнаўленне і будаўніцтва новых школ, у тым ліку ў Магільне і Лошы, была адначасова ўзноўлена і значна пашырана сетка медыцынскіх устаноў. Ствараліся новыя сельскія бібліятэкі, адкрываліся хаты-чытальні і клубы.

З 25 снежня 1962 года па 30 ліпеня 1966 года Уздзенскі раён быў скасаваны, а яго тэрыторыя падзелена паміж Дзяржынскім, Пухавіцкім і Слуцкім раёнамі. З 30 ліпеня 1966 года раён адноўлены і ўваходзіць у склад Мінскай вобласці.

209 населеных пунктаў аб'ядналіся ў дзевяць сельсаветаў. У 1950 годзе насельніцтва раёна складала 29 тыс. чалавек (па перапісу 1939 года было 38,4 тыс. чалавек) з сярэдняй шчыльнасцю 25 чалавек на 1 кв. км. У гэтым годзе ва Уздзе налічвалася 530 двароў, 16 вуліц.

Вялікае багацце Уздзеншчыны і на сённяшні дзень складаюць лясы, пад імі знаходзіцца каля трэці тэрыторыі раёна. Па лясістасці гэта другое месца ў вобласці. Асноўныя масівы лесу размешчаны на захадзе і ўсходзе. Паўднёвая частка раёна характэрна больш хваёвымі лясамі.

Лясы тут стрымліваюць, дзякуючы пераважнасці пясчаных глеб, працэс іх размывання і выветрання. Лясы на Уздзеншчыне ўплываюць, рэгулююць, ахоўваюць і падтрымліваюць водны рэжым Нёмана. Праект лесаўладкавання 1958 года ўлічвае фактар размяшчэння раёна на водападзеле рачных стокаў Балтыйскага і Чорнага мораў.







Фрагменты новай забудовы Узды




Куточак традыцыйнай забудовы Узды

Штогадовы прырост драўніны складае 3,7 куб. м на гектар лесу. Сустракаюцца ўнікальныя пасадкі елкі 1902 года на ворных у мінулым землях. Нямала стогадовых дрэў, бліжэй да Коласава сустракаюцца дубровы.

Уздзеншчына мае карысныя выкапні. Ёсць тры радовішчы торфу з агульнымі запасамі 39 млн. тон. Раён мае невялікія запасы гліны.

А цяпер прывядзем некаторыя дадзеныя аб Уздзенскім раёне з выдадзенага ў 2005 годзе інфармацыйнага даведніка “Уздзенскі раён”.

Раён па-ранейшаму застаецца сельскагаспадарчым. Сельская гаспадарка — вядучая галіна вытворчасці. Аграпрамысловы комплекс ствараюць СВК “Наднёман”, “Новае жыццё”, “Ліцвяны”, “Тычынкі”, “Уздзенскі”, “Асілак”, “Хатляны”, “Саўгас “Гарадок”, “АСБ Стальбоўшчына”, “Першая вясна”, “Міндаўг-агра”, “Малінавы”, “Сельскагаспадарчы комплекс ЗАТ “Вітэкс”, ААТ “Уздзенскі райаграсервіс”, “Племянны саўгас-камбінат “Белая Русь”, РУП “Эксперыментальная база імя Суворава”, РУП “Эксперыментальная база імя Катоўскага”. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь зацверджаны пералік будаўніцтва аграгарадкоў Уздзенскага раёна ў 2005—2010 гадах. Першы аграгарадок у вёсцы Дзешчанка ўжо ўзведзены.

Прамысловы комплекс раёна складаюць 5 прадпрыемстваў: УП "Уздзенская швейная фабрыка", УП "Уздзенскі каапрам", ААТ "Уздзенскі малочны завод", Уздзенскі лясгас, прадпрыемства "Волат-1".

Будаўнічая галіна ўключае 2 будаўнічыя арганізацыі, яны спецыялізуюцца ў жыллёвым будаўніцтве.

У раёне працуюць 17 сельскіх і 1 гарадское аддзяленні паштовай сувязі.

Гандлёвыя паслугі аказваюць 101 магазін дзяржаўнай і прыватнай уласнасці.

Сістэму адукацыі складаюць 14 сярэдніх, 3 базавыя, 5 пачатковых школ, 19 дашкольных устаноў, міжраённы вучэбна-вытворчы камбінат, завочная школа ў Уздзе, санаторная школа, дзяржаўны сельскагаспадарчы ліцэй. Ёсць дзіцяча-юнацкая спартыўная школа, Дом дзіцячай творчасці.

Ва ўсіх школах створаны і дзейнічаюць дзіцячыя і юнацкія арганізацыі. У 12 школах створаны музеі: гісторыка-краязнаўчыя, літаратурныя, баявой і працоўнай славы.

Медыцынскую дапамогу аказваюць цэнтральная раённая бальніца, раённая паліклініка, Возерская бальніца сястрынскага догляду, 22 фельчарска-акушэрскія пункты, 2 здраўпункты, Нёманская амбулаторыя агульнай урачэбнай практыкі, аддзяленне скорай медыцынскай дапамогі.

Уся сетка культуры складае 58 устаноў. З іх: 28 бібліятэк, 16 сельскіх Дамоў культуры, 7 сельскіх клубаў, Дзешчанскі цэнтр свабоднага часу, Калінінскі клуб-бібліятэка, Стара-Маргоўская бібліятэка-клуб, Нізаўская бібліятэка-музей, раённы цэнтр культуры, Уздзенскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей, дзіцячая школа мастацтваў.

Сярод клубных аб'яднанняў 79 калектываў мастацкай самадзейнасці, якія аб'ядноўваюць 825 чалавек. Сярод клубных устаноў 8 калектываў маюць ганаровае званне "народны" і "паказальны".

У раёне творча і плённа працуюць аматарскія самадзейныя калектывы: ансамблі народнай песні Лашанскага СДК, "Зарачанка" Стальбоўскага СДК, Прысынкаўскага СДК, вакальны квартэт і ансамбль народнай песні "Журавачка" Дзешчанскага ЦСВ, студыя эстраднай песні Каралеўскага СДК, вакальны квартэт "Гармонія" і

эстрадная студыя “Алмазны бераг”, танцавальныя калектывы, клубы выхаднога дня для розных катэгорый насельніцтва.

На тэрыторыі раёна праводзяць дзейнасць 12 рэлігійных абшчын, якія прадстаўляюць 4 рэлігійныя канфесіі. З іх — 5 праваслаўных і 1 рымска-каталіцкі прыход, адна абшчына мусульман, 5 пратэстанцкіх абшчын (2 абшчыны пяцідзесятнікаў і 3 — баптыстаў).

На тэрыторыі Уздзенскага раёна зарэгістраваны 4 партыі: раённая арганізацыя КПБ, раённая партыя ЛДП, Аграрная партыя, раённая арганізацыя БСДП (Народная Грамада).

Дзейнічае 20 грамадскіх арганізацый. Сярод уплывовых з іх нізавыя маладзёжныя і дзіцячыя: Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі і Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі, раённы цэнтр дзіцячага турызма і экскурсій. У школах раёна навучаюцца 3444 вучняў, у дзіцячых дашкольных установах выхоўваецца 966 дзяцей, у ліцэі — 620 навучэнцаў.

Настаўніцкі калектыў Уздзеншчыны — найбольш ушаноўваемая і ўплывовая частка мясцовай творчай інтэлігенцыі. Акрамя таго, што настаўнікі даюць трывалыя веды непасрэдна па розных адукацыйных накірунках, ад іх у значнай ступені залежыць агульнае выхаванне падрастаючай асобы. Яны замацоўваюць традыцыі, што назапашваюцца з мясцовага жыцця, фарміруюць погляды і духоўны свет, інтэлект маладога чалавека перад выхадам яго ў самастойнае жыццё. Праз настаўнікаў замацоўваюцца маральныя ўстоі, адносіны да дабра і зла, павага да патрыятызму, да бацькоў, сваёй зямлі, радзімы. А што яшчэ можа быць важней і вышэй?

Мы выказваем падзяку ўсім настаўнікам, у тым ліку і тым, каго ўжо няма, але плён іх намаганняў мы адчуваем і цяпер на сабе, за іх нялёгкую і самаадданую працу. Прыводзім з паклонам спіс Заслужаных настаўнікаў Беларусі па Уздзенскім раёне:

Армонік Алег Ціханавіч
Бардовіч Мікалай Майсеевіч
Берасневіч Аляксандра Панфілаўна
Васілько (Война) Валянціна Эдуардаўна
Гурскі Анатоль Іванавіч
Дзешчыц Ігнацій Адамавіч
Камашэнкава Людміла Іванаўна

Карачун Соф’я Сцяпанаўна
Коршук Канстанцін Фёдаравіч
Крэмез Сцяпан Адамавіч
Ліпай Лідзія Васільеўна
Лычкоўскі Пётр Міхайлавіч
Ляхаў Аляксандр Васільевіч
Мірончык Мікалай Міхайлавіч
Новікава Любоў Кузьмінічна
Панкевіч Валянціна Данілаўна
Трус Іна Іванаўна
Ус Фёдар Міхайлавіч
Язвінская Леаніда Антонаўна

Узда падзелена ракой Уздзянкай на два планіровачныя раёны: Усходні (Малая Узда) і Заходні, дзе месціцца асноўная частка жылой забудовы і грамадскі цэнтр (уздоўж Савецкай вуліцы). На паўночна-ўсходняй яе ўскраіне вырас новы мікрараён. Генеральным планам прадугледжана развіццё Узды ў паўночным напрамку з выхадам цэнтра да гарадскога парку, запраектаванага ў пойме ракі.

Цешаць вока новыя пасёлкі ў вёсках Сямёнавічы, Касцяшы, Кухцічы, Лоша, Ліцвяны, Хатляны.

Нацыянальныя адносіны ў раёне таксама наша, можа, самая каштоўная, спадчына. Нельга іх абысці і нам. Колькі б ні даводзілася гутарыць з татарамі, палякамі, яўрэямі, беларусамі, рускімі — ніводнага разу ніхто з іх не мог нагадаць складанасцей, якія б узнікалі ад сумеснага пражывання. Прадстаўнікі кожнай нацыянальнасці ў працэсе сумеснай дзейнасці знаходзілі сваё месца і прыносілі карысць, павялічвалі агульныя даброты. Характэрна, што ў былым мястэчку Узда адзначалася значная асіміляцыя жыхароў, але “растварэння” неяк не адбывалася. Пры выбары месца пад забудову ніхто не дбаў, каб жыць толькі сярод “сваіх”. Усе тут былі свае. Людзі ратавалі, дапамагалі адзін аднаму, не лічачыся з тым, які гэта сусед, хаця і прытрымліваліся сваёй рэлігіі, свайго ладу жыцця. Хто чытаў — шанаваў Біблію, хто — Каран, нехта ўглядаўся ў Талмуд, для некага настольнай кнігай былі польскія модлы.

На лёс Уздзеншчыны значны ўплыў аказалі татары. Цяпер ніхто добра не ведае, адкуль і калі яны прыйшлі сюды. У артыкуле “Татары на Беларусі”, змешчаным у 1927 годзе ў часопісе “Наш Край”,

аўтар В.Вольскі першыя звесткі пра іх адносіць да XIV—XV стагоддзяў. Ён пры гэтым спасылаецца на летапіс ордэна мінарэтаў (1324 г.), у якім адзначалася: “Нашы браты, якія былі пасланыя для залучэння ў хрысціянскую веру літоўскіх зямель, знайшлі, што ўвесь народ загруз у паганстве, кланяецца агню, між літоўцамі ёсць скіфы (scythos), якія прыйшлі з царства нейкага хана і якія ў сваіх малітвах ужываюць азіяцкую мову”. Пад імем скіфаў тады часта разумелі татараў.

Яшчэ з часоў Альгерда яны часткова добраахвотна, часткова як палонныя прыходзілі ў Вялікае княства Літоўскае і заставаліся там, асядаючы на землях, якія даваліся ім у спадчыннае ўладанне. Вітаўт пасля паходу ў 1397 годзе за Дон прымусова пасадзіў на Беларусі значную колькасць палонных татараў з жонкамі і дзецьмі, у тым ліку ў Навагрудскім і Мінскім паветах. Прыраўняў іх у правах да шляхты. Звольніў ад падаткаў, даў поўную рэлігійную незалежнасць, права ўступаць у шлюб з мясцовымі сялянамі.

У 1506 годзе татарскае насельніцтва зноў папаўняецца вайсковымі палоннымі. Міхаіл Глінскі, сам татарскага паходжання, пасля перамогі над крымскімі татарамі пад Клецкам рассяляў іх тут жа, у Клецку, Мінску і ў суседніх мястэчках.

Пры Жыгімонце III Аўгусце на татараў рабіўся рэлігійны ўціск. Яны часткова асіміляваліся, часткова эмігрыравалі ў Турцыю.

Да пачатку XX стагоддзя татары ў побыце нічым не адрозніваліся ад беларусаў. Іх аб’ядноўвала магаметанская (сунніцкая) рэлігія. У арабскіх рэлігійных кнігах часта даюцца беларускі ці польскі падтэкст у арабскай транскрыпцыі. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі магаметанскія вернікі падпарадкоўваліся сімферопальскаму муфцію.

У 1897 годзе ў тагачасным Паўночна-Заходнім краі было не больш як 14 тыс. беларускіх татараў. Усе яны гаварылі па-беларуску і лічылі гэту мову роднай. Беларускія татары зжыліся з мясцовым народам і выступалі сумесна супраць ворагаў. Але ж татарскія пасяленцы доўга захоўвалі і захоўваюць асаблівасці сваёй культуры, звычаі, абрады, веравызнанне.

Ігуменскі павет і менавіта Узда былі аднымі з буйных цэнтраў групавання беларускіх татараў. Ва Уздзе і паблізу вёскі Сямёнавічы ёсць старыя татарскія могілкі.

Многа цікавага і павучальнага можна сказаць і пра мясцовых яўрэяў. Паводле А.Кіркора, яўрэі прыйшлі ў Літву ў першай палове XII стагоддзя з Кіева, адкуль былі выдалены. У Літве ж яны абараняліся правам. У асноўным яны займаліся дробным гандлем. Сярод іх сустракаліся карчмары, рымары, шаўцы, мэбельшчыкі. Адносіны іх да мясцовага насельніцтва блізкія і шчырыя. Яўрэі любяць тутэйшую беларускую зямлю, лічаць яе сваёй радзімай.

Добрых і цёплых слоў заслугоўваюць і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей. На Уздзеншчыне падзелу па нацыянальнай прыналежнасці не адчуваецца. Усе яны адны, усе яны разам.

Як водгук шматвяковага ўзаемнага паважлівага суіснавання і цяпер у гарадскім пасёлку адзначаюцца святы вуліц. Варта пабачыць гэта цікавае і павучальнае відовішча, вялікае нефармальнае мерапрыемства.

Святы вуліцы... Дзесьці яны, не падмацаваныя жывым сэнсам і зместам, адышлі і болей не прадаўжаюцца. Скажам, жыхары Ленінскай вуліцы, старэйшай тады у гарадскім пасёлку Узда,* рыхтаваліся да свята задоўга. Праводзілі добраўпарадкаванне двароў, устанаўлівалі і абнаўлялі мемарыяльныя знакі. Гаспадыні пяклі пірагі, караваі і розныя іншыя пачастункі для святочных сталоў. Падбіраліся і складаліся прыпеўкі, прывітальныя словы, рыхтаваліся выступленні мастацкай самадзейнасці... Канешне, тут вялікі ўдзел прымалі і раённы Дом культуры, і музычная школа. Асноўныя ж турботы ляглі на плечы тагачасных гарпасялковага Савета і вулічны камітэт, які ўзначальваў Адам Якаўлевіч Александровіч. Да свята рыхтаваліся і калектывы фабрыкі жаночага абутку, міліцыі, райбыткамбіната, паліклінікі.

Нарэшце настаў дзень 1 чэрвеня. Вуліца ў святочным убранні, яна як бы памаладзела. Адкрыццё свята адбылося на мосце цераз раку Уздзянку, дзе пачынаецца вуліца. А.Я.Александровіч нагадаў дэвіз свята — “Родная зямля”. Адсюль, ад рэчкі, 500 гадоў назад пачыналася забудова мястэчка Узда.

Старшыня райсавета пераразае стужку, і вось шэсце пайшло па вуліцы. Ля кожнага дома чакаюць гасцей гаспадыні, каб выказаць самыя добрыя віншаванні. І, канешне, пачаставаць. Госці аглядаюць упрыгожанні, стэнды, дамашнія саматужныя вырабы.

---

*Тут намі апісваюцца святкаванні 80-х — 70-х гадоў мінулага стагоддзя.



Ветэраны вайны і працы Канстанцін Кароль і Генадзь Пацейковіч

Фаціма Міскевіч, Галіна Багдановіч, Дора Александровіч запрашаюць:

Дарагія нашы госці,
Не мінайце вы сталоў.
Мы для вас падрыхтавалі
Вельмі смачных калдуноў...

А што яны, гэтыя самыя калдуны, смачныя, ведаем самі. Гэта абсмажанае на алеі і потым стушанае ў падліўцы бульбяное цеста з мясной начынкай. Аднаго рэцэпта яшчэ недастаткова, патрабуецца прылажэнне руплівых дбалых рук уздзенскіх гаспадынь.

Рэгіна Мацкевіч і Эма Міскевіч частуюць кандытарскімі вырабамі. Бэла Слуцкіна і Марыя Сінькевіч — чаем з самавара на вуголлях. Насупраць — за прывабным сталом Вольга Бубянкова.

Успомнілі пра першую электрычнасць, самадзейнасць, калгас "Інтэрнацыянал", дзе разам дружна і зладжана працавалі татары, беларусы, яўрэі... Нагадалі, дзе некалі быў сельсавет, радыёвузел, цэхі абутковай фабрыкі "Эканомія", швейнай арцелі "Кастрычнік", канторы смаляроў.

Пелі жартоўныя прывітанні, выхаванцы дзіцячага сада выканалі практыкаванні з мячом, танцавалі, пелі песні.

Работнікі райбыткамбіната дэманструюць новыя мадэлі мод. У кінатэатры выстаўкі-конкурсы на лепшае рукадзелле, кветкі, пірагі. Некаторыя работы перадаюцца ў Уздзенскі раённы краязнаўчы музей.

У заключэнне ў кінатэатры адбыўся вечар-сустрэча "Ад усёй душы". Там прысутнічалі жыхары вуліцы ўсіх нацыянальнасцей.

У 1990 годзе такое ж свята адбылося на вуліцы Перамогі, якая забудоўвалася адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны франтавікамі. Яно было прысвечана 45-годдзю з дня Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Такія святы — праяўленне перш за ўсё павагі да нашых адвечных традыцый, галоўным чынам, фальклорных. І ці трэба бурыць іх у карысць чужынскага дзіджэйства?

Цяпер у раёне прымаюцца захады па ўзнаўленні фальклорна-этнаграфічных традыцый. Пачынаюцца яны з аднаўлення святкавання Купалля і Каляд.

Выкладзеныя тут матэрыялы адлюстроўваюць толькі невялікую частку гістарычнага наднёманскага мінулага. Болей поўна яны прадстаўлены ў Уздзенскім раённым гісторыка-краязнаўчым музеі. Цудоўны будынак музея быў узведзены на адным з лепшых месц у цэнтры гарадскога пасёлка па вуліцы Школьнай па ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле тагачаснага сакратара Уздзенскага райкама КПБ Зянона Кузьміча Ломаця.

Больш за 6 тысяч экспанатаў: гістарычных дакументаў, прадметаў побыту, асабістых рэчаў, археалагічных знаходак, твораў мастацтва захоўваюцца ў фондах музея. Сапраўднае падарожжа ў мінулае чакае кожнага наведвальніка ў прасторных 4 залах розных перыядаў гісторыі роднага краю. Акрамя таго, ёсць асобныя куток прыроды і выставачная зала. На тэрыторыі, якая прымыкае да музея, дзейнічае яшчэ адна экспазіцыя — экстэр'ер і інтэр'ер былога сялянскага жытла, гаспадарчых пабудоў, так званая "хатка ганчара".

Супрацоўнікі музея вядуць актыўную творчую дзейнасць, пашыраюць фонды, арганізоўваюць лекцыі, перасовачныя выстаўкі, дапамагаюць школам у арганізацыі краязнаўчай і музейнай работы.



Будынак Уздзенскага гісторыка-краязнаўчага музея



Госці музея




Наведвальнікі музея. Першы злева Хрысціян Наркевіч-Лейн з Чыкага



Хатка ганчара



Гаспадар “хаткі ганчара” Аляксандр Шамшэня

А пачыналася ўсё ў 1978 годзе, калі стварылі на грамадскіх пачатках Уздзенскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей. Адразу былі прыняты захады па ўзвядзенню будынка. Шмат цяжкасцей прыйшлося пераадолець раённым уладам і загадчыку аддзела культуры райвыканкама, затым дырэктару музея Анатолю Мікалаевічу Папко, каб у той няпэўны час узнёсся гэты двухпавярховы будынак, амаль ці не самая паважаная ў раёне ўстанова.

Над афармленнем музея шчыра папрацавалі мастакі: у памяшканнях утульна, прывабна, усе дэталі інтэр'ера адзначаны добрым густам, асабліва вітраж мастака У.Ткачова "Уздзеншчына — край цудоўных паэтаў і сялян".

Ці не самай галоўнай справай супрацоўнікі музея лічаць рэалізацыю "Спадчыны" — доўгатэрміновай праграмы захавання, асваення і прапаганды гістарычнай і культурнай спадчыны па Уздзенскім раёне, распрацаванай ў 1989 годзе. Адным з важнейшых заданняў па гэтай праграме работ было выданне кнігі "Памяць. Уздзенскі раён" — гісторыка-дакументальнай хронікі раёна.

Павага да музея — гэта ў першую чаргу павага да яго супрацоўнікаў. Мне даводзілася неаднаразова бачыць, як жыхары Мрочак, Жачкава, Забалацця, Магільна, справіўшы ў райцэнтры свае неадкладныя патрэбы, спяшаліся ў музей абмяняцца добрым словам, думкамі, успомніць нешта з мінулага, а то і расказаць пра сённяшні дзень Уздзеншчыны. Сюды нясуць і нясуць новыя знаходкі, цікавыя дакументы, рэчы, здымкі.

Анатоль Мікалаевіч Папко, былы дырэктар музея — па-сутнасці грамадская "раённая энцыклапедыя" — такім застаецца і сёння, ужо на пенсіі. Няма амаль ніводнага чалавека ў раёне, якога ён не ведаў бы імя, імя па бацьку, не змог бы сказаць пра яго нешта цікавае. Дзякуючы яму ў музеі ад самага пачатку ўсталяваліся дух супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі. Цяпер яго ўзначальвае выхаванка А.М.Папко Тамара Пятроўна Лухверчык.

Знакавай фігурай музейнага жыцця быў доўгія гады Адам Якаўлевіч Александровіч. Нас ён сустракаў заўсёды ў добрым настроі, увесь у пошуках, у справе. Яго лёсу можна па-добраму пазайздросціць. Прайшоўшы нялёгкае жыццё, ён не страціў аптымізму, веры ў людзей. Усё жыццё выхоўваў дзяцей, настаўнічаў. Усё, што ён ім даносіў, заўсёды было цікавае, змястоўнае, узнёслае і значнае. Дзецям ён быў і добрым дарадцам, падтрымкай у цяжкую хвіліну.



“Камень казака”

Важнае ўдакладненне. Свае пошукі краязнавец спраўляў за кошт свайго асабістага часу, пасля спаўнення службовых і хатніх абавязкаў, часта пераносячы іх на ноч, на адпачынак.

Асабліва тое датычыць сельскіх пошукаўцаў, на якіх ляжаць яшчэ сельскагаспадарчыя турботы. Яны нярэдка сваім сельскім плёнам яшчэ дапамагаюць і сваім гарадскім дзецям. Іх жыццё з-за таго неверагодна ўшчыльняецца. З боку сям’і за сваю апантанасць яны нярэдка чуюць папрокі. І ўсё ж ад свайго занятку не адракаюцца.

Прызнаюся, і мы з Адамам Якаўлевічам парою збягалі ад дабрэйшай яго Доры Якаўлеўны. Але, калі вярталіся змучаныя, галодныя, на стале ўсё ж стаяў добры абед. Вочы яе заставаліся пахмурныя, але яна ведала: яе муж непапраўны! Калі ў яго адняць яго захапленне — ён перастане жыць.

Слушна прагучала аднойчы ў адной з тэлевізійных перадач гутарка з жонкай другога такога ж апантанага ўздзенскага краязнаўца. Суседзі ёй рэкамендавалі, каб яна не чаплялася да свайго мужа. Хай, маўляў, займаецца сваёй справай, хай бегае, шукае — піць не будзе!

Так і ёсць — сапраўдны краязнавец пазбаўлены гэтага граху. На тое яму не хапае часу...





Дыпціх на тэму бегу жыцця.

А цяпер некалькі абагульняючых думак.

Беларусь, у тым ліку і Уздзеншчына, мае сваю вялікую і пачэсную гісторыю. Усе даследчыкі мінулага — выдатныя славісты, энтографы, гісторыкі — аддалі ёй сваю павагу. Тое, што мы ў нашай мове і культуры часам расцэньваем як анахранізм, нейкі закасцянелы ўзбоч, для шматлікіх нашых і замежных спецыялістаў — невычарпальны клад.

Вывучэнне гісторыі мае цікавую асаблівасць. Праходзіць час, і веды пра наша мінулае пераносяць нас міжволі ў будучыню. Мы на мінулым будуем сваё разуменне сучаснага і ствараем версію перспектывы.

Дзве небяспечнасці — своеасаблівыя Сцыла і Харыбда — падсцярагаюць таго, хто возьмецца за гістарычныя пошукі: духоўна адасобіцца ад свайго мінулага або паддацца яго ўладзе і растварыцца ў ім. У адным выпадку яно становіцца ўсяго наборам адляцеўшых фактаў, толькі "аб’ектам даследаванняў". У другім можа засланіць рэчаіснасць. Гэты занятак патрабуе яснасці думкі, сумлення і ў адпаведным сэнсе мужнасці.

Ніжэй мы паспрабуем асэнсаваць наша вялікае і павучальнае мінулае. Яно не абмінае нікога з нас, бо злучана бясконцымі сувязямі з сучасным, пераходзіць і жыве ў ім. Без уліку мінулага немагчыма развіццё ні асобы, ні грамадства.

Аднак мы не заўсёды можам разглядзець і дастойна ацаніць гэту спадчыну, нярэдка забываем, што стаім на падмурку папярэдніх пакаленняў і ў сваю чаргу будзем такім для нашчадкаў.

Некаторыя даследчыкі прытрымліваюцца высновы, што вытокі нашай, у першую чаргу славянскай, культуры ляжаць у дахрысціянскім язычніцкім часе. Таму зварот да мінулага — гэта зварот у першую чаргу да гісторыі і ладу жыцця земляроба. Побыт вясковага чалавека своеасаблівы, непаўторны, яго нельга было стварыць штучна. Светапогляд, культура селяніна заўжды ад вякоў вызначаліся ўзроўнем земляробства.

Вёска — гэта не толькі пэўнае сельскае месца. Гэта стыль, характар, лад жыцця. Гэта, маю смеласць сцвярджаць, вытокі нашай усеагульнай культуры, якая ў першапачатковым сэнсе гэтага слова — плён тысячагадовай дзейнасці чалавека-селяніна, лад яго жыцця.

Прыгадаем, што культура азначала на лацінскай мове калісьці догляд, апрацоўку зямлі. У шырокім разуменні культура вызнача-

лася ўзроўнем сельскай гаспадаркі, бо апошняя была і ёсць ці не адзінай крыніцай стварэння новых каштоўнасцей.

Культура заўсёды ідзе знізу, ад зямлі, ад вёскі, ад малога горада.

Усіх нашых продкаў-язычнікаў даўней раднiла рэлігійнае і міфалагічнае ўвасабленне прыроды, пры якім язычніцтва служыла формай захавання і перадачы вытворчага і сацыяльнага вопыту. Вера ў прыроду азначала і веру ў рэальныя каштоўнасці.

Мы тут не аналізуем ролі прагрэсу. Гэта не значыць, што яго не трэба ўлічваць, тым болей адмаўляць. Дыялектыка развіцця патрабуе ад нас паскарэння, бо чалавек павінен жыць лепей. Але нельга адмаўляць духоўную частку, а яна — з былога. На духоўнае самавызначэнне і абнаўленне павінен быць заўсёды час і адпаведныя ўмовы.

* * *

Кто б ни был ты, но, встретясь с ней,
Душою чистой иль греховной
Ты вдруг почувствуешь живей,
Что есть мир лучший, мир духовный,

падкрэсліваў пра духоўнасць чалавека Фёдар Цютчаў.

Любоў да родных мясцін — гэта хаця і ў пэўнай ступені міф, але ж і важнейшая неад’емнасць нашага існавання. Чалавеку не ўсё роўна, як і што адбываецца ў яго родным асяроддзі, бо яно клапоціцца аб ім. Шчаслівы той, хто мае Радзіму, двойчы шчаслівы той, хто можа яе наведаць, вярнуцца да яе ў цяжкую гадзіну.

...Заўсёды недзе ходзіць па свеце чалавек, які не забыўся пра свой родны край, сваю калыску. І вось вяртаецца ён, выбелены сівізной, стомлены жыццёвым шляхам, на месца свайго дзяцінства. Знаходзіць тут па яму толькі аднаму вядомым прыкметам свой былы куток. Падоўгу ўглядваецца сваімі слабымі вачамі ў кусцік бэзу, у непрыкметную сцяжынку. Наплывае на памяць туманнасць даўно мінулых дзён, а з імі і вобразы дарагіх яму людзей. Пакіне той чалавек нас — закрыецца яшчэ адна старонка нашай гісторыі.

...Мы належым да аднаго беларускага племені, наша ўзаемная сувязь — уся яго гісторыя. У ёй ёсць дні ясныя, зацішныя і плённыя, а ёсць і пахмурныя, перапоўненыя бедствамі. Такімі ж яны былі ў нашых бацькоў і дзядоў. І калі мы кладзем на іх магілы кветкі і пачастунак, то гэта не толькі сцвярджэнне нашай памяці, але і ўслаўленне таго жыцця, маленькага агеньчыка ў ланцужку вялі-

кай жыццёвай эстафеты, якое агарнуў кожны з іх. Далей і мы ўжо ў адзіноце, без старэйшых, будзем тварыць сваю гісторыю. І ўсё паўторыцца зноў...

Жывою драбніцай
У гэтым патоку
Спрабую прабіцца
Да ўласных вытокаў.
Закіданы нівы
Замшэлым каменнем.
Разблытваю звівы
Былых пакаленняў,

— пісаў беларускі паэт Максім Танк.

Сумленне, маральнасць — гэта зноў жа вопыт працягу рода. Нормы маральнасці вельмі эфектыўныя, хоць і нідзе не запісаны. Яны з’ява унікальная і непаўторная. У гэтым вопыце недзе хаваецца ісціна прызначэння чалавечага жыцця, бо старадаўняя мудрасць аднолькава была даступна ўсім.

І вось гэты здабытак, з якога выходзяць самыя каштоўныя для нас паняцці, мы цяпер можам згубіць назаўсёды.

Можа таму, адчуваючы надыходзячую пагрозу, развітваючыся з намі вялікі славянарускі гісторык і археолаг Барыс Рыбакоў пакінуў нам наказ: “З гісторыяй не разлучайцеся!”

І ў заключэнне. Упэўнены, што тэма вёскі, сельскага побыту, культуры патрабуе неадкладнага, больш глыбокага і ўсебаковага асэнсавання.

А аўтар, зазірнуўшы ў нашы духоўныя вытокі, звяртаецца да іх носьбітаў словамі беларускага паэта Янкі Сіпакова:

Прабачце, даўнія стагоддзі,
Што патрывожыў я ваш пыл…
І вось яна,
часіна тая,
Калі развітацца пара:
Камяк у горле — як гара,
Сляза шчымлівая такая.
Бывайце ж, даўнія стагоддзі,
Мы зноў вяртаемся ў свой час.
Дзе над галовамі у нас,
Як радасць, сонца светла ходзіць…



# ЖЫВЕ ЗЯМЛЯ РАСІНКАЙ КОЖНАЙ…

Прырода не разумее роўна аніякіх жартаў,
яна заўжды шчырая, заўжды строгая,
заўжды сур'ёзная, заўжды справядлівая;
памылкі ж і падман — прыналежнасць чалавека.

*І.В. Гётэ*

Суіснаванне Чалавека з Прыродай — галоўны змест яго быцця, бо і сам ён яе часцінка. Цыклы жыцця ў Чалавека і Прыроды адзіныя: нараджэнне, росквіт, адыход.

Для веруючых у Бога ўсяго так многа: і ўсходы, і заходы, і поры года, і кожны лісток… Звернемся да Бібліі:

"И сказал Бог: да произрастит земля зелень, траву, сеющую семя [по роду и подобию ее, и] дерево плодовитое, приносящее по роду своему плод, в котором семя его на земле. И стало так. И произвела земля зелень, траву, сеющую семя по роду [и по подобию] ее, и дерево [плодовитое], приносящее плод, в котором семя его по роду его [на земле]. И увидел Бог, что это хорошо. И был вечер, и было утро: день третий (Быт. 1: 11—13)".

Прырода дае падставы для філасофскіх асэнсаванняў. Яна творча бярэдзіць Чалавека, утварае. як трапна зазначыў акадэмік Дзітрый Сяргеевіч Ліхачоў, паветра для роздумаў.



Паслушніца Брацтва ў імя Трох віленскіх пакутнікаў Лідзія Кулажанка на вытоку Нёмана



Рака Уса ля Пад’ельнікаў

З яе выцякаюць паэтычнасць, песеннасць — паданні, легенды, спевы, танцы, казкі. Вобразы палявой былінкі на мяжы, жвіруючай крынічкі ў зацені хмызу, асацыяцыі горкага паху палыну, светлых цёплых сцежак юнацтва ў той жа час ці не самыя яркія праявы і ўвасабленні паняцця Радзімы.

Прыроднае хараство западае ў самыя глыбокія закуткі душы і яно рана ці позна так ці інакш запатрабуе свайго выяўлення словамі. Невыпадкова наша творчасць вынікае з прыроды. Менавіта там знаходзяцца яе нераскрытыя і непазнаныя тайны. Светапогляд старажытных не проста іх адносіны да акаляючай прыроды. Гэта і высокія паэтычныя ўяўленні аб Сусвеце, на іх трымаліся многія пакаленні паэтаў, песняроў, казачнікаў.

У атачэнні соцен ручаінак і бясконцых балот адкрываліся вялікія адвечныя таямніцы роднага краю. Пульсаванне пясчынак у жэрале крыніцы, карагоды зорнага неба, грозны подых ліпеньскіх навальніц, начны, пераходзячы ў гром, пошчак уздзенскіх салаўёў, прывіднае фасфаруючае святло старых пнёў-гнілякоў у золкую глухую восеньскую ноч, водар марознай восені з хрумсткім лядком у святле месячнай поўні, бялюткія зімовыя дываны — гэта ўсё варта пабачыць, адчуць.

— Прырода ёсць радзіма ўсіх талентаў, пачынаючы ад расінкі-сонейка, якая бліснула ўсімі агнямі, і канчаючы талентамі, якія пераходзяць у гісторыю культуры, — лічыў расійскі пісьменнік М.М.Прышвін.

У дваццаць гадоў наўрад ці можна з усім болем прыгажосці ўбачыць кропелькі расы на лістоце ў пагожую ліпеньскую раніцу, падзівіцца форме палявых красак ці ранішняй цішы жніўня,

паху апалага лісця, водблеску асенняга месяца ў прасёлачнай запоўненай вадой каляіне. Толькі ў крытычным узросце чалавек усведамляе гэтыя адзнакі і падрабязнасці наваколля ў поўнай меры і прыходзіць да высновы, што існуе існінная прыгажосць. Аднак прадумовы для таго закладваюцца да дваццаці.

Рэчка дзяцінства... У кожнага яна свая: вялікая ці маленькая, альбо звычайны ручаёк заградамі з пахам аеру, вербалозу, рачной мяты і мурагу. І якой бы ні была гэта рачулка дзяцінства, яна дае магчымасць убачыць упершыню і пазнаць прыгажосць зямлі, яе ціхі, лагодны ўтулак, родны сэрцу абсяг, захаваць надалей добры і непераходзячы ўспамін.

З часам чалавек прынізіў значэнне вытоку не толькі як воднай крыніцы, але і як маральнай катэгорыі. Вытокі водныя, вытокі жыццёвыя, вытокі маральнасцевыя ў многім падобныя. Іх трэба з аднолькавай пашанай пеставаць, у іх трэба вучыцца. Да іх чысціні і крытэрыяў беззаганнасці як жыццёвага эталона належыць часцей звяртацца.

Аднак, пакуль застаюцца ў сіле саркастычныя словы вучонага ў галіне торфараспрацовак акадэміка І.І.Ліштвана: “Калі па вашаму недагляду ці бяздумнаму распараджэнню будзе знішчаны векавы гай, будзе атручана вада ў возеры, можаце спаць спакойна — гнеў народны і строгасць закона вас не пабудзяць”.

Таму і цяпер ёсць неабходнасць паўтараць і паўтараць даўно ўсім ужо вядомае. Толькі на гэты раз мы абмяжуемся ў асноўным воднымі праблемамі рэгіёна. Яны для Наднямоння найбольш актуальныя.

Значны ўклад у распрацоўку гэтай тэмы ў пасляванные час, які не страціў сваёй актуальнасці і цяпер, унёс краязнаўца Станіслаў Шкадзінскі.

Тэрыторыя вадасцёку вытокаў Нёмана абмяжоўваецца з поўначы схіламі Мінскага, з захаду — Наваградскага ўзвышшаў, ад поўдня — Капыльскай градой, з усходу — вадападзелам паміж басейнамі рэк Чорнага і Балтыйскага мораў.

Зямля наднёманская ахоплівае тэрыторыю амаль у цэнтры Беларусі плошчай прыблізна ў 4,5 тыс. кв. км з абрысам эліпса памерам 60 на 80 км. Яна ўключае цалкам Уздзенскі і часткова Стаўбцоўскі, Капыльскі, Дзяржынскі і Пухавіцкі раёны. Мае значнае гістарычнае мінулае, адметны прыродны характар, захоўвае ў многім рысы традыцыйнага сельскагаспадарчага ўкладу.

Мы спыніліся на агульнай характарыстыцы Наднямоння для таго, каб далей засяродзіць увагу на важнасці і неабходнасці за-

хавання і аднаўлення каштоўнасцей гэтай мясцовасці. Такая дзея можа быць эфектыўнай толькі ў комплексе, у адносінах тэрыторыі ў цэлым. Захоўваючы Нёман, яго вытокі, мы захаваем і яго зямлю, археалагічную, архітэктурную, фальклорную і іншую культурную спадчыну. І гэтым самым непаўторны лад традыцыйнага сельскага жыцця, які найлепш выяўлены менавіта ў гэтых мясцінах.

У такім разе адыйдзем хоць на час ад дасціпных развяг, ад часам штучных межаў адміністрацыйнага падзелу і звязаных з імі прадузятасцей і звернем погляд на рэгіён, пакрыты сеткай рэк і рачулак нашага Нёмана. Ці не ёсць гэты край — Наднямонне — увасабленне, алегорыя ўсёй Беларусі? Калі гэта так, то ці не павінен ён стаць цэнтрам усеагульнага прыцягнення, запаведным краем?

Відаць, зусім невыпадкова ў чэрвені 2002 года тут, на вытоках Нёмана, у Пад’ельніках, Мінскім Цэнтрам гуманітарных ініцыятыў была праведзена 1-я Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя “Захаванне і аднаўленне прыродна-гістарычных ландшафтаў: праблемы і перспектывы”. Яе рэкамендацыі заслугоўваюць увагі. У іх рашуча заяўлялася аб неабходнасці неадкладнага прыпынення на наднёманскай зямлі спроставання і нівелізацыі наднёманскіх краявідаў, яе непаўторных ландшафтаў. Нельга дапусціць, каб з нашай зямлі адыйшла тая “чета белеющих берез”, што так лагодзіць душу, ля якіх можна падняць першую сунічку, сабраць букет рамонкаў, правесці добрую сустрэчу.

...Такое месца было і ў нас на саракавым кіламетры слуцкай шашы. Цяпер там куток адпачынку аўтамабілістаў. А некалі пры былой дарозе Мінск—Слуцк, побач з вёскай Рабінаўка, знаходзілася фальварачнае аддзяленне з такой жа назвай ад маёнтка цялякаўскага землеўладальніка барона Гарцінга. Яшчэ ў 80-х гадах XX стагоддзя побач з невялікім ляском царавала зеляніна. Уздоўж поля ішла невялікая ліпавая алея, буялі кусты старога бэзу, цвілі здзічэлыя кветкі — спадарожніка старых сядзіб — мыльніка лекавага ці разрыў-травы.

Менавіта, тут у канцы 20-х гадоў XX стагоддзя ў фальварачным будынку мясцілася аб’ездчыцкая леснічоўка. Тут, пасля зарэгістраванага ў маі 1930 года ў Слабадзе-Пырашаўскай шлюбу, жылі мае маладыя бацькі. Той пабудовы, як і бацькоў, ужо даўно няма. Але там моцна засела і ўсё цягнецца мая памяць пра былое, несумненна цяжкую, але ўсё ж адзіную і таму дарагую маладосць бацькоў.



Вясковы куточак

Ужо ў канцы 80-х гадоў XX стагоддзя гэты куточак быў знесены і прырэзаны да зямель суседняга калгаса. І доўгі час потым на апрацаваным полі выбіваўся з зямлі сярод пасеваў дзіўна квітнеючы, нетутэйшага паходжання, сведка мінулага траскун амурскі.

Нязгода з тым у мяне засталася, як і ўсведамленне, што рана ці позна гэты куток не вытрымаў бы навакольнага наступства і напэўна не ацалеў.

Цяпер толькі невялічкі гербарый захоўвае галінкі назаўсёды адыйшоўшых раслін. Галінку бэзу я вазіў з-пад Рабінаўкі на Навагрудчыну маёй старэнькай маці — яна ж адсюль, нарадзілася некалі на поўдні Уздзеншчыны паблізу Перавоза, яна жыла тут.

Наступальныя тэндэнцыі тым не менш замацоўваюцца: на змену заўжды гасціннай прыродзе прыходзяць бясконцыя палі без адзінай адзнакі самабытнасці, без дрэвавых і хмызняковых курцін. Рэчкі памяняліся на каналы-канавы, а спростаныя рэкі — ужо не рэкі.

Не просто так мне стало грустно.
Когда-то речка здесь текла.
У речки выпрямили русло,
Зато береза вкривь пошла,

з горыччу адзначаў расійскі паэт беларускага паходжання Ігар Шклярэўскі.



Вясковы надворак



Паляна спакою

У апошнія дзесяцігоддзі многія ручаі, рачулкі “згубілі” сваю заблытанасць, што прывяло да выраджэння іх экалагічнай ролі.

Прыродзе наогул не ўласцівы прамыя лініі і вуглы, квадраты плошчаў, ці кубы аб'ёмаў. У заблытанасці рознастайнасць: няма аднолькавых контураў дрэў, няма нават аднолькавых лісткоў, як і паўтараемых людзей. "Хараша, што каса, хараша, што крыва!", — заўважыў паэт.

Так прагну я ступіць на ролі
Сваіх падлеткаў, ніў благенькіх,
Дарог і сцежачак крывенькіх,
Што гожа ўюцца спомеж жыта
Або срэдзь лесу самавіта,

з замілаваннем пісаў Якуб Колас.

Шматпавярховасць зараснікаў, лясных раслінных ярусаў невыпадковая — у кожным з іх сваё непаўторнае жыццё. Вясной зелянее адно, летам — другое, зімой — трэцяе. Звівы рэк, пераходы ўзвышэнняў у нізіны, серпанцін сцяжынак — усё гэта прырода, а, значыць, і мы.

Для рэчак іх звілістасць не толькі прыгажосць: віры, плёсы і перакаты — ці не самая ідэальная ачышчальная сістэма, якую магла стварыць толькі маці-прырода. На перакатах, плёсах вада пераліваецца малымі дробнымі струменькамі: тут дасягаецца найбольшы кантакт вады з паветрам, насычэнне яе кіслародам. Віры, запруды — своеасаблівыя адстойнікі. Вясенняя паводка ачышчае іх ад усяго, што набралася тут за год.

Усё пачынаецца з крыніц. Даўней яны выступалі сімвалам чысціні. Людзі гэту алегорыю выкарыстоўвалі вельмі сумленна і асцярожна. Невыпадкова некалі на вяселлях маладым замест гарэлкі давалі крынічную ваду ў прыгожым збане ці чашы.



Вясковы падворак

У крынічнай гаючай вадзе паэтычная маладая душа можа адчуць і пах талага снегу, і смак спелых журавін, і водар бруснічнага лістка, і амаль няўлоўны пах маладой траўкі, і свежасць балотнага моху, і смалістасць сасновай іглiцы, і тонкую прэласць леташняй лістоты, і сок каранёў траў і дрэў. Тут чуецца і бяроза, і шыпоўнік, і чаромха, і рабіна, і парэчка. Усе пахі і смакі роднай зямлі сабраныя ў крынічнай вадзіцы.

Я б яшчэ дадаў сюды пах канапель. Не наркатычны, не дурманячы, а лёгкі і прыемны, якім ён быў многія стагоддзі для нашых продкаў. Гэту культуру паўсюдна вырошчвалі ў вялікіх калькасцях. І яна шкоды ніякай людзям не прыносіла, ёй ніхто не песціўся. Бяда нас "дастала" адначасова з цывілізацыйным апанаваннем.

Крыніцы агароджвалі, даглядалі. У цяню ля крыніц можна было перадыхнуць, хоць на хвіліну ўзважыць шпаркі бег дзён. Тут, ля вытока, людзі дазвалялі сабе прыпыніцца, адарвацца ад сваіх жыццёвых турбот і падумаць пра ўзвышанае, глыбокае, непераходзячае. Гадзінамі можна глядзець на карагод пясчынак на дне беспярапынна пульсуючай крынічкі...

Нельга сказасць, што прынёманскія крынічкі празмерна забруджаныя. У гэтым маглі пераканацца і нашы літоўскія суседзі, якія ў 1992 годзе на аўтобусе прыехалі праінспектаваць нёманскія вытокі. Няходжаныя месцы па пояс у траве — вось што сёння ўяўляюць вытокі Неманца. Некрануты куточак амаль першабытнай прыроды. Пытанняў не было і падарожнікі абмежаваліся толькі заборам проб вады з рэчкі Неманец на перасячэнні яе з шашой Шацк—Магільна.

Аднак доступа на выток Нёмана пакуль няма. Трэба пракласці да яго сцежку з адпаведнымі ўказальнікамі ад месца былога знікшага вытока да сённяшняга рэальнага, гэта значыць ад вёскі Верхнёман да вёскі Красное.

Знікаючая крынічка існуе ў двух кіламетрах за вёскай Язвіны. Калісьці яна струменіла і нават лічылася за культавую. І хоць ля яе месца ў лесе і паблізу няма меліярацыйных сістэм і збудаванняў — узровень вод і тут панізіўся. Далёка разыходзяцца неблагапрыемныя змены ў распарадкаванні падземных вод. Зразумела, ранейшых лекавых якасцей вада язвінскай крынічкі не мае.

А ў лесе за вёскай Прусінава выцякае і радасна бяжыць, булькоча пад надзейным прыкрыццём лясных шатаў цудоўная рэчачка Мутвіца (па некаторых вымаўленнях — Мытвіца):

Цякла тут з лесу невялічка
Травой заросшая крынічка,
Абодва берагі каторай
Лазняк, ракіты абступалі;
Бруіліся ў цяньку іх хвалі
І ў луг чуць значнаю разорай
Ішлі спакойна між чаротаў,
Рабілі многа заваротаў,
Аж покі ў Нёман не ўцякалі...

Як бы падглядзеў ля Прусінава гэтую мілую крынічку-ручаёк Якуб Колас. Апісанне нашай мясціны ў яго вершах паўтараецца амаль у абсалютнай дакладнасці!

У свой час У.М.Ігнатоўскі папярэджваў: "Клімат Беларусі вельмі вільготны. Лясы і балоты трымаюць гэту вільгаць. Вільгаць тэрыторыі і вялікая плошча, занятая балотамі, доўгі час лічыліся вельмі шкадлівымі недахопамі краю. Але з гэтым можна згадзіцца толькі часткаю. Справа ў тым, што багацце вільгаці бароніць тэрыторыю ад засухі, і на Беларусі немагчымы такія неўраджаі, як, напрыклад, на паўднёвым Усходзе Расіі. З другога боку, калі гаварыць аб культурных магчымасцях меліярацыі, то трэба заўважыць, што асушыць куды лягчэй, чым абвадніць, увільготніць".

Чуеце, паважаныя кіраўнікі, вучоныя?

Мяккая "посцілка" таксама валодае здольнасцю ўбіраць у сябе многа вады, таму верхні слой лясной глебы гэта не што іншае як вельмі эфектыўны "водны акумулятар".

Калі нейкі мясцовы землеўладальнік яшчэ ў 1902 годзе адводзіў свае ворныя землі пад пасадку ельніка, разлічваючы толькі на выгоду сваіх далёкіх нашчадкаў, то ад залясення рачных берагоў вербалозам мы мелі б вынік яшчэ пры сваім жыцці.

Час прыпыніць хай пакуль і не ўсеагульнае забруджванне аднай з адвечных стыхій — вады. Яна неўзнаўляльная. Наднямонне не мае права ні ў якім разе дадаваць сваю кроплю ў чашу агульнай атруты Нёмана! "Вада — жывая істота... Яна глядзіць на людзей скрозь мазутныя плямы, што плывуць па ёй, і бачыць жаніха

ў нячыстай кашулі і неахайную нявесту са смеццем у валасах, і нашы белыя хаты ў разводах бруду і мурзатую чаромху на строме". Лепей за Ігара Шклярэўскага не скажаш!

Знікае сёння адвечнае калодзежнае майстэрства. Усё менш дабротных калодзежаў у вёсках. Разам з імі сярод нас знікаюць уяўленні аб чысціні, смаку, халадку калодзежнай вадзіцы, адфільтраванай зямной глыбінёй і часам. Раней гэта вада мела амаль аптэкарскія, адзіна патрэбныя чалавеку дабаўкі раствораў.

Не берагуцца і болей глыбокія падземныя водныя гарызонты. Праязджаючы прыгледзьцеся да наваколля. Колькі непатрэбных тычак — ваданапорных вежаў раскідана па нашай зямлі! Кожная свідравіна — гэта рана зямлі, а з ёй і новае яе забруджванне, паніжэнне водных гарызонтаў, знікненне вады ў калодзежах. Чаго чалавеку яшчэ не хапае?..

Панізіўся ўзровень грунтовых вод і з ім тысячы крынічак зніклі. Зямлю пакідае жыццёвая турбота Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага — вільгаць. Якая зацятая спрэчка ішла ў літаратуры ў XIX стагоддзі па нагодзе памеру ўхілаў вадасцёкавых каналаў пры асушэнні Палесся! Вялікія ўхілы адвяргаліся і вучонымі, і практыкамі.

А вось тэхнічным праектам Белмеліярпраекта 1950 года "для забяспячэння нармальнай работы русла (Неманца) і найбольшага ўхілу па ўсёй трасе" (падкрэслена намі. — У.К.) запраектаваны тры вялікія спрамленні і, дзякуючы гэтаму "русла ракі прыняло прамалінейнае і плаўнае акрэсленне" з агульным ухілам і = 0005 і скарачэннем даўжыні ракі з 26,4 км да 21,7 км, ці на 4,7 км.

Не толькі людзі, але і прадстаўнікі флоры і фаўны нясуць страты ад нарастаючых пераўтварэнняў, у першую чаргу водных. І перш за ўсё "лакмусавай паперай" выступаюць пчолкі. У старажытнасці і цяпер пчалу называюць божай угодніцай, а мёд лічыўся яствам багоў, цароў і волатаў. І сёння яны першыя сігналізуюць пра экалагічныя непарадкі.

...Памятаю, як яшчэ перад вайной на леснічоўскі двор у Лошы прывезлі таўсценную шэра-зялёную асінавую калоду. Потым яе пілілі, калолі. Праз надрэзы па піле цякло нешта густое, цягучае. Усё рабілася бязмоўна і ўрачыста. Калі калода распалася, то ўнутры яе адкрыўся стары чорны дзікі мёд. Яго ў той калодзе было многа, невядома за колькі гадоў. І доўга яшчэ ў нас у хаце стаяла вяд-

ро з цёмнай мядова-пахучай, трохі згарчэлай вашчынай. Мёд тапілі ў чыгунках у гарачай печы. Такое ўжо напэўна не паўторыцца ні ў нашым жыцці, ні тым болей у жыцці нашых нашчадкаў. Адыйшоў назаўсёды велічны бортніцкі час на некалі багатай мёдам Ігуменшчыне.


Старажытная пасека

Калі зберагчы пчол, то яны аддзячаць не толькі мёдам, але і добрым ураджаем. Не выпадкова іх вобраз быў унесены ў герб былога Ігумена (1796) разам са снапком квітнеючага ільну.

Мы патроху прызвычайваемся, што незвычайныя прыродныя з’явы і аб’екты: камень-следавік у Госбішчах, спілаванае ў час узвядзення вадасховішча ў Лошы дрэва-сімбіёз сасны і дуба, былы агульны выток Неманца і Лошы — гэта толькі аб’екты дзяржаўнага захавання і цікавасці вучоных. Вядома, што інтарэс вучоных да гэтых спраў прыцягваецца толькі тады, калі выяўляецца гістарычная цікавасць да іх народа. Іх берагчы перш за ўсё нам. Такім быў і комплексны аб’ект нашай гісторыі і прыроды: дуб—крынічка—цэркаўка ў Міколцы.

Частковая кампенсацыя наносімых страт можа быць дасягнута за кошт удасканалення меліярацыйных сетак і стварэння на плошчах водасцёкаў запаведнікаў і заказнікаў. Яны могуць даць жыццё ручаям і рэчкам, лясным азёрам. На ахопленай імі тэрыторыі зберагуцца каштоўныя віды ягад — тыя ж журавіны, буякі ды рэдкія расліны.


Герб горада Ігумена

Цяпер так ці інакш мы вяртаемся да стварэння водаахоўных зон, да азелянення прыбярэжнай часткі каналаў. Настаў час стварыць шэраг

хаця б невялікіх водасховішчаў на вытоках рэк. Верхавыя балоты — іх асноўнае сілкаванне — зніклі.

Мы гаварылі, што ў передваенны час водаахоўнымі мерапрыемствамі на Нёмане займалася Магільнянская пагранічная камендатура. Як відаць, займалася някепска. Але тады былі іншыя, болей суровыя ўмовы. Прыродная пагранічная зона ахоўвалася і не выкарыстоўвалася для гаспадарчых мэт.

У апошні час грамадскасць усё часцей прыходзіць да неабходнасці дзяржаўнай аховы ўнікальных тэрыторый. Галоўнае ў гэтай ідэі — пераход ад аховы асобных помнікаў культуры, гісторыі, прыроды, да аховы тэрыторый цалкам, бо сама прастора вакол помнікаў насычана агульным гістарычным духам. У адным накірунку ідуць і намаганні па ўзвышэнні і паэтызацыі краю, фарміраванні яго культурнага асяродка.

Наднямонне якраз такая незвычайная тэрыторыя. Яно валодае дадатным уздзеяннем на выхаванне нашай самасвядомасці. Як гістарычны, культурны і прыродны комплекс яно павінна захоўвацца ў лепшых сельскагаспадарчых і культурных традыцыях.

Пад зберажэннем культурна-гістарычных ландшафтаў цяпер разумеецца захаванне комплекса іх элементаў, адначасова ўпрыгожваючых сельскую мясцовасць — гаёў, паркаў, сажалак, лесапасадак і інш. Замена ці прыпыненне неэфектыўных меліяратыўных сістэм, адраджэнне малых рэк, хутароў, вёсак, месц традыцыйнага адпачынку і абрадных дзеянняў, помнікаў архітэктуры, культуры, прыроды, развіццё промыслаў. Гэта і ёсць рэальная, сапраўдная экалагічная праграма, бо вёска з прылягаючымі палямі, рэкамі, лясамі і балотамі — месца пражывання, наш бацькоўскі дом, — павінны быць прыгожыя, зручныя і чыстыя. Многае з гэтага ўжо ўваходзіць у рэспубліканскія праграмы адраджэння сяла.

Там, дзе бацькоўскі дом, там звычайна не пазбаўляюцца сцежак, па якіх хадзілі продкі, там не асуджаюць бацькоў, старэйшых, іх звычаяў, ладу жыцця.

Унікальная тэрыторыя павінна выходзіць на самаўтрыманне. Развіццё эканомікі будзе абапірацца ў асноўным на традыцыі сельскай гаспадаркі. Спрыяльна для Наднямоння яго набліжанасць да цэнтра рэспублікі, што дазваляе лёгка наладжваць з улікам добрай сеткі дарог турысткія маршруты.

На ўнікальных тэрыторыях заахвочваецца даследчыцкая дзейнасць па вывучэнні роднай зямлі, збіранне фальклору і г.д. У кіруючыя органы тэрыторый прыцягваюцца прадстаўнікі сферы культуры, нефармальных грамадскіх аб'яднанняў і рухаў.

А каб пацвердзіць, што ў гэтай справе яшчэ робіцца мала, спашлюся на факты з жыцця.




Указальнік заказніка "Вытокі ракі Нёман"

...У 2001 годзе Геаграфічным факультэтам Белдзяржуніверсітэта выканана навукова-даследчая работа "Навуковае абгрунтаванне і праект стварэння ландшафтнага заказніка мясцовага значэння "Вытокі ракі Нёман" Мінскай вобласці". Гэта дастаткова арыгінальны праект, бо ён уключыў прыродны, гістарычны і культурны аспекты будучага заказніка. Яго прапанавалі ўтварыць на пакуль не вельмі закранутым дзейнасцю чалавека кавалку лесу плошчай 905 гектараў, размешчанага на прамежку паміж дарогай з Цялякава на Узду і лініяй былога рэчышча Неманца з боку вёсак Верхнёман, Краснае, Крастінтэрн.

Лес пакуль захоўвае ўнікальную флору, своеасаблівую фауну і мог бы стаць надзейным дадатковым водным сілкаваннем пачатку Неманца. На міжнароднай канферэнцыі ў Пад'ельніках у чэрвені 2002 года ён быў рэкамендаваны ўздзенскім уладам для рэалізацыі.

Прапановы былі заўважаны і рашэннем Уздзенскага райвыканкама ад 27 жніўня 2003 года ландшафтны заказнік "Вытокі ракі Нёман" створаны і перададзены ў карыстанне Уздзенскаму лясга-




Карта межаў заказніка “Вытокі ракі Нёман”

су. Цяпер з некаторай затрымкай пачата яго ўладкаванне. Будзем спадзявацца на благапрыемнае развіццё праекта. На прыкладзе гэтай мясціны ёсць магчымасць прадоўжыць добрую справу прыроднага захавання і адраджэння Наднямоння. На чарзе стаіць аднаўленне сістэмы вадастока на паўднёвай граніцы заказніка.



Землеўладкавальнікі на вытоку Неманца ў Верхнёмане

...На пачатку перабудовы на вытоках Неманца адбылася сустрэча з мінскімі спецыялістамі-землеўладкавальнікамі. Гэта былі вельмі цікавыя, дасведчаныя, ініцыятыўныя людзі, інтэлектуалы высокай пробы. Яны прапанавалі варыянт адраджэння колішняга вытока Неманца. Спасылаліся на вельмі дакладныя карты і даказвалі, што калі побач з



П. Худалей і М. Піхейчык ля ўзноўленай імі крынічкі

лясной дарогай з Верхнёмана на Цялякава ўзвесці невялічкую дамбу (дзень работы бульдозера), то ў створанай катлавіне затрымаецца вада і праб'ецца новая крынічка. На жаль, той час не спрыяў рэалізацыі гэтай ідэі.

Пазней вядомы беларускі прыродазнаўца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесар А.Т. Федарук таксама палічыў гэты варыянт слушным, бо тут і сёння застаецца даволі высокі ўзровень грунтовых вод, сведкамі чаго тут буяюць зараснікі трыснягу. Можа, усё ж паспрабаваць?

Ёсць і іншыя прыклады таму на Уздзеншчыне. Гадоў колькі таму пенсіянер з Узды Павел Худалей аднавіў на беразе Уздзянкі закінутую крынічку. Яму ў гэтай добрай справе дапамагаў Мікалай Піхейчык.

Раней з гэтай крынічкі пілі ваду тычынкаўцы і ўся паўднёвая частка Узды. З пракладкай водаправода крынічку закідалі ламаччам і смеццем. Аматары закапалі на месцы яе вытоку бетонны круг і засыпалі яго гравіем і каменнем, забетаніравалі верх. На ім прыладзілі шахту для адбору вады з гэтага крынічнага каптажа з надпісам "Увага! Лячэбная крыніца. Піце на здароўе!".

І пацягнуліся сюды людзі, каб паспытаць гаючай вадзіцы. Цудоўнае было гэта пітво ў спёку — чысцюткае, халоднае, аж зубы ломіць, — сцвярджаў у “раёнцы” Іван Сурман.

Нялёгкі жыццёвы шлях выпаў на долю гэтых сціплых, працавітых людзей. Адзін час Павел Худалей працаваў у трамвайна-тралейбусным упраўленні ў Мінску, дзе як раз пачынаў свой працоўны шлях і аўтар гэтага выдання. Цяпер П.І.Худалея ўжо няма. Але па фотаздымку мне здалося, што я некалі сустракаў яго па рабоце ў Мінску. Хай у гонар гэтых цудоўных людзей прагучаць паэтычныя радкі:

Вада струменіцца,
Іскрыцца —
Жывое сэрца ручайка,
Яшчэ жыве яго крыніца,
А з ёй жыве яго рака…

А раней, у 1994 годзе, ААТ “Лімнапраект” распрацавала навуковае абгрунтаванне заснавання ландшафтна-этнаграфічнага заказніка “Над-Нёман” на землях вадасцёку Нёмана ў межах Уздзенскага і Капыльскага раёнаў Мінскай вобласці. Ён ахоплівае і тэрыторыю вышэй згаданага заказніка. Работа гэта вельмі блізкая да ідэі адзінага Наднямоння, бо ўключае землі двух уздзенскіх тады калгасаў “Новае жыццё” і “Нёман” агульнай плошчай 1576 га ды 305 га ад калгаса “Прамень” Капыльскага раёна. Гэта значыць, уключае мясцовасць левага і правабярэжных прытокаў Нёмана. Праект носіць міжраённы комплексны характар і таму ён асабліва каштоўны. Магчыма, яго можна будзе выкарыстаць на наступным этапе рэалізацыі праграмы абвадненне Наднямоння.

…Пасля Наднёмана і Касцяшоў Нёман паварочвае ў паўночназаходнім накірунку і, слаба пакручваючыся, ідзе далей па шырокай даліне. Раней ён тут іншы раз мяняў сваё русла. Не даходзячы Яршоў, перад тым месцам, дзе некалі стаяў Святы Двор, ён набліжаўся да дарогі. Мясцовыя людзі, у прыватнасці, Мікалай Пармон, тлумачаць гэту з’яву “наступленнем” вербалозу на раку. Ён умацоўваў правы бераг і тым “прыціскаў” Нёман да лесу на левым узгорку перад дарогай. Урэшце асноўнае русла было заблакіравана, а воды адступілі на левы бок і ўтварылі Ω-падобную луку. Старое рэчышча зусім зарасло, а лука тая, падмываючы аблесеныя схілы, паступова стварыла цудоўную па прыгажосці мясціну. Мы яе паказалі на адным са здымкаў у першым выданні гэтай кнігі.



Адлучаная нёманская затока ля месца былой сядзібы Святы двор

Аднак чалавек дзеля асваення добрых сенакосаў унутры лукі заганяў сюды ўборачную тэхніку, высякаючы лазнякі на яе шляху, — старым рэчышчы.

Прыйшоў час і стварылася пагроза вяртання Нёмана ў старое русла і адпаведна страты гэтага запаведнага прыроднага куточка. Голас занепакоеных не быў пачуты і аднойчы пасля паводкі Нёман пайшоў па старому напрамку. Былая лука ператварылася ў непатрэбны застойны апендыкс, толькі з аднаго боку злучаны з Нёманам. Многія шкадуюць аб такім здарэнні і панесенай страце.

Цяпер трэба падумаць, каб вярнуць некалі папулярнае месца адпачынку людзям. Для гэтага прапрацаваць пытанне хаця б на прадпраектным узроўні. Сродкі для таго патрабуюцца мінімальныя.

Вернемся зноў да меліярацыйных пралікаў. Як вядома, на пачатку 50-х гадоў XX стагоддзя меліярацыйныя работы на Неманцы праводзіліся ў яго верхнім цячэнні, прыкладна ад Камянога дзейнічала ранейшая адноўленая меліярацыйная сетка. Яна пракладвалася тут да Кастрычніцкай рэвалюцыі памешчыкамі Наркевічамі-Ёдкамі, працягвалася і пасля рэвалюцыі намаганнямі новых улад.

Аднак з-за нейкіх тагачасных пралікаў з прывусцевых асушаных зямель вада кепска адводзілася. Тут, асабліва ў дажджлівыя поры года, аднаўлялася ранейшае балота.

Рэальнае становішча ўсё ж патрабавала неадкладнага ўмяшальніцтва. І вось згодна з праектам Неманец перад сваім вусцем быў адведзены ў болей высокае русла ракі Уса, якое праходзіла побач. Неманецкі апендыкс быў адсечаны ад Лошы дамбай. Для адбору вады з яго была пабудавана пад'ёмная (польдэрная) насосная станцыя, якая працуе па патрэбе, адкачваючы ваду ў раку Лоша.

Выйсце? Мусіць так. Але гэта і грознае папярэджанне бяздумству чалавека ў адносінах з матухнай Прыродай. З праявай гэтага праліку неяк памеркла ўся прыгажосць, прывабнасць былых легенд і паданняў пра мужа і жонку, брата і сястру Неманца і Лошу. Здрадзіў-такі Неманец сваёй каханай.

Прыведзеныя прыклады паказваюць, наколькі стан акружаючага нас наваколля, па сутнасці нашага дома, непасрэдна залежыць ад кожнага з нас.

Вісне скарга ўздоўж Нёмна,
Беларусі сына,

з горыччу зазначаў Якуб Колас.



# КРАЙ ТВОРЦАЎ...

*Калыска Нёмана... А дзе ж, калі не над калыскай, ствараюцца самыя задушэўныя, цудоўныя песні?*

*Сярод уздзенцаў ходзіць такая легенда:*

*...Ідуць тры вандроўнікі, ідуць дзень, ідуць ноч, а песня не змаўкае. Хтосьці іграе, хтосьці спявае, а хто іграе і спявае — не відаць.*

*— Вецер у лясных барах гудзе, — сказаў адзін з іх.*

*— А можа, Нёман на перакатах булькоча? — засумняваўся другі.*

*— Не, гэта калоссе ў полі звініць, — паправіў трэці, самы малодшы.*

*Хто з іх меў рацыю? Напэўна, усе. Бо сапраўды, тут спявае ўся зямля — гамоняць лугі, лясы, пералескі.*

Можа, і сапраўды таму так свабодна і шырока струменіцца і другая — творчая — рака. У звонкім яе патоку пераплялося амаль дзесятак галасоў.

Уздзенскія пісьменнікі вылучаюцца сярод іншых асабліва глыбокай павагай, сыноўняй любоўю і пяшчотай да роднага краю, яго працавітых людзей. Часта наведваюцца яны на сустрэчы з землякамі, прыязджаюць у творчыя камандзіроўкі, а то і проста пагасцяваць да родных, паблукаць па сцежках юнацтва, па роднаму лесу, ля любай рачулкі.

Яны дзеляцца з землякамі сваімі планамі і задумамі, уражаннямі ад далёкіх, іншы раз заакіянскіх, падарожжаў. І такія сустрэчы ператвараюцца ў сапраўдныя святы.

На літаратурныя вечарыны ў раённы Дом культуры ці ў сельскі клуб збіраюцца сяляне нават з самых аддаленых вёсак: з Магільна, Лошы, Віркова. Цёпла і сардэчна вітаюць яны сваіх песняроў, з павагай зберагаюць потым кнігі з памятнымі аўтографамі. Такая ўжо ў уздзенцаў любоў да роднага слова, да паэзіі.

...Паблізу Неманца, на Усе, ляжыць вёска Нізок, вёска пісьменнікаў, паэтаў, артыстаў.



Ушанаванне К. Крапівы
ля Нізаўскога музея-бібліятэкі

Кандрат Кандратавіч Крапіва (Кандрат Кандратавіч Атраховіч) (1896—1991) яшчэ да Першай сусветнай вайны атрымаў званне народнага настаўніка. Пасля дэмабілізацыі працаваў у школах Уздзеншчыны, а затым пераехаў у Мінск, дзе скончыў літаратурнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ.

Звыш 60-ці гадоў творчасць Кандрата Крапівы папаўняла скарбніцу беларускай культуры. Яго вострапалітычная, ідэйна-скіраваная сатыра заўсёды карысталася вялікім поспехам, фарміравала свядомасць людзей. Яго байкі засноўваліся на сялянскай мудрасці, на непаўторным народным гумары. Таму яго творы даходзілі да самых глухіх беларускіх вёсак.

Кандрат Крапіва аддаў большую частку свайго таленту тэме беларускай вёскі. Яго раман “Мядзведзічы” пра жыццё вёскі ў перыяд грамадзянскай вайны, узнаўленне разбуранай сельскай гаспадаркі, будні сялян перад калектывізацыяй быў зразумелы ўсім, бо ствараўся на жывым мясцовым матэрыяле.

Сваю літаратурную працу Кандрат Кандратавіч на працягу многіх гадоў спалучаў з навуковай, грамадскай і дзяржаўнай дзейнасцю. Як доктар філалагічных навук, акадэмік Акадэміі навук Беларусі і доўгія гады яе віцэ-прэзідэнт аддаваў шмат часу арганізацыі навуковай дзейнасці інстытутаў акадэміі. Значную работу Кандрат Крапіва праводзіў і як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, член Беларускага камітэта абароны міру.

Творчасць народнага пісьменніка БССР Кандрата Крапівы карыстаецца ўсенароднай любоўю і павагай мільёнаў удзячных чытачоў. З якой цеплынёй гаварылі землякі аб К.Крапіве на Уздзеншчыне пры жыцці ў дні яго юбілеяў! Яго імя прысвоена Уздзенскай сярэдняй школе № 2.






Святкаванне ўгодкаў Кандрата Крапівы ў Нізку

* * *

Дарагім брыльянтам бліснула творчасць нізаўскога паэта Паўлюка (Паўла Адамавіча) Труса (1904—1929). Тут, у краі “адвечных песень, казак”, упершыню прагучалі яго вершы, непаўторныя, крыштальна чыстыя, як нёманскія хвалі.

Кароткае жыццё было наканавана паэту — на яго літаратурную дзейнасць прыйшлося ўсяго сем гадоў. Аднак ён паспеў пакінуць адметны след у беларускай літаратуры. Яго паэтычная фігура на рэдкасць велічная і прыцягальная.

Некаторыя нізоўцы і цяпер памятаюць П.Труса, гавораць пра яго з вялікай цеплынёй. Невысокага росту, каржакаваты, з густой капой кучаравых валасоў, ён нагадваў коласаўскіх палешукоў, здатных на гумар, вясёлых, упартых і непакорных перад жыццёвымі нягодамі. Паэт вызначаўся імклівымі пачуццямі, пявучым голасам, звонкім смехам. Умеў захапляцца, добра маляваў. Здзіўляўся сонечным зайчыкам, зваў іх усмешкамі. Вятры ў яго плачуць у параненай дуброве, малатарня звініць гулкім рогатам. Яго бор смуглабрывы, а цені купаюцца ў даліне, плаваюць на лузе абветраным чоўнам. Усё ў творчасці паэта авеяна пачуццём радасці і любові да роднага краю, свайго народа. П.Трус увесь пафас творчасці накіраваў на ўслаўненне свайго народа-будаўніка.

Пры жыцці выйшлі два яго зборнікі: “Вершы” (1925) і “Ветры буйныя” (1927). Найболей значны твор паэта “Дзесяты падмурак”.

Вершы паэта і цяпер здзіўляюць сваёй чысцінёй і першароднасцю. Кажуць, паэт пісаў занадта проста. Але ж так размаўляў і пеў яго любы народ, ад якога ён ніколі сябе не аддзяляў. Песенная прастата — адметная рыса творчасці Паўлюка Труса.

Край легенд,
крыжоў, магіл-курганоў,
край тугі —
бальзам жывых крыніц...

* * *

Край паэм,
адвечных песень-казак —
дарагая сэрцу
Беларусь...

Асабліва цёплыя, лепшыя вершы прысвячаліся маці і яго блізкім.

Узлёт паэта прыпаў на перыяд выпакутаванага адраджэння, пераўтварэння беларускай зямлі. Яго творы пранізвае заклік да абнаўлення жыцця. Светлыя фарбы, урачыста-прыўзнятыя інтанацыі, узнёслая настроенасць, імкненне ў "сусвет вольна-новы" добра спалучаюцца з жаданнем паэта паскорыць рытм жыцця, перамагчы старое, кепскае:

Чую песні стыхіі-разводдзя,
Не стрымаць твае вольнае плыні!
Упусціла старое паводдзе,
Калі вір маладога нахлынуў.

Вершы паэта апярэджвалі час. Не выпадкова ў іх гучалі і другія грозныя прадчуванні-папярэджанні:

І ў муках крывавых
чыясьці рука
крывавыя піша законы.

Паўлюка Труса любілі за яго адкрыты, імклівы, рамантычны склад. Такім ён застаўся назаўсёды пасля заўчаснай смерці ад тыфусу. Беларускі народ беражэ і ўшаноўвае яго памяць. Шмат разоў перавыдаваліся яго творы, яны ёсць у многіх беларускіх хатах.


Калі яшчэ была жывая сястра
П. Труса Вера Адамаўна

Прызнаюся — і я аддаў даніну даследаванню творчасці П.Труса. Ужо вельмі яна імпануе маім поглядам на паэзію. Перачытаў усе выданні яго твораў. Былі мае публікацыі да 90-годдзя з дня нараджэння паэта. Выйшаў тады зборнік успамінаў пра П.Труса "Голас вясны далёкай", укладальнікамі якога сталі Н.Б.Ватацы і Я.І.Садоўскі.

У 2000 годзе ў серыі “Беларускі кнігазбор” выйшлі Выбраныя творы Паўлюка Труса з уступным словам Ганны Запартыкі “Сімфонія радасці і тугі”.




Помнік Паўлюку Трусу
на вайсковых могілках у Мінску

Паэт часта наведваў Нізок разам з П.Глебкам, іншы раз з М.Лужаніным. Разам з сялянскімі актывістамі выязджаў у суседнія вёскі — Прысынак, Падсацкія, Кухцічы — з канцэртамі мастацкай самадзейнасці. У іх прымаў удзел і П.Шыдлоўскі.

У зацені старых дрэў на Вайсковых могілках у Мінску стаіць сціплы помнік з барэльефам юнака работы Заіра Азгура. Ніжэй кароткі надпіс: “Паўлюк Трус. 1904—1929”. Якое кароткае жыццё, але як многа пакінута людзям!

Імя П.Труса носяць сёння Уздзенская раённая бібліятэка ды былая Нізаўская базавая сярэдняя школа, у якой цяпер адкрыты Літаратурны музей і бібліятэка.

* * *

З вёскі Нізок і Лідзія Львоўна Арабей, беларуская пісьменніца, кандыдат філалагічных навук. Цудоўная, гасцінная, спагадлівая, таварыская жанчына — яна заўсёды ў творчым пошуку. Піша апавяданні, аповесці, раманы. Пісьменніца належыць да пакалення, маладосць якога апаліла вайна. Гэтай тэме прысвечаны многія яе творы — раман “Іскры ў папялішчы”, “Сузор’е Вялікай Мядзведзіцы” і зборнікі прозы “Мне трэба ехаць”, “Паласа дажджу”. Месца падзей — беларуска-польскае пагранічча, гэта значыць — край, які яна добра ведае.




Лідзія Арабей на сустрэчы з землякамі ў в. Забалацце

Лідзія Львоўна амаль ці не першай прайшла нялёгкім шляхам генерала Дз.М.Карбышава ў Беларусі, сустракалася з яго сям'ёй у Маскве, з людзьмі, якія добра ведалі гэтага незвычайнага мужнага патрыёта. Вынікі яе пошукаў выкладзены ў нарысе "Дзень добры вам...".

Як навуковец Л.Арабей усебакова даследавала творчасць Цёткі (Алаізы Пашкевіч) і Хвядоса Шынклера, выдала пра іх літаратуразнаўчыя работы і дакументальныя аповесці.

Лідзія Арабей выдала ў 2005 годзе кніжку абразкоў-карацелек пад назвай "Пошукі ісціны". А ў 2006 годзе пабачыла свет і яе кніга-даследаванне пра жыццё і творчасць Цёткі "На полымі любві".

У 2008 годзе, на прылаўках кнігарань з'явілася яе кніга апавяданняў, успамінаў, абразкоў "Белае поле"...

* * *

Ад сялянскага хлапчука з Вялікай Усы да вядомага паэта, пісьменніка, вучонага, акадэміка АН Беларусі, грамадскага дзеяча прайшоў слаўны шлях Пятро Фёдаравіч Глебка (1905—1969).

Талент паэта прабудзіўся пад уплывам прачытаных у дзяцінстве вершаў, матуліных казак і маляўнічай прыроды Уздзеншчыны.

Якуб Колас пра яго пісаў: “Паэзія П.Глебкі простая, сціплая і мужная. Сапраўднае хваляванне не патрабуе ўпрыгожвання, яно ідзе ад сэрца, і ў гэтым магутная сіла ўздзеяння паэзіі…”.

У дзяцінстве паэт пазнаў нялёгкае сялянскае жыццё. Пасля заканчэння сямігодкі працаваў сакратаром сельсавета ў Каменцы на Уздзеншчыне. Закончыўшы літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне БДУ працаваў у рэдакцыях часопісаў, у час вайны — у франтавым друку.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1925 годзе, у перыяд вялікіх перамен у жыцці беларускай вёскі. Пісаў вершы пра воінаў Чырвонай Арміі, партызан, калгаснікаў, рабочых, інтэлігентаў, адраджэнне жыцця на вызваленай зямлі. Яго паэзія светлая, натхнёная і незвычайна чалавечная:

О, Беларусь, мая калыска,
Жыццё маё, прытулак мой!
З гарачаю любоўю нізка
Схіляюся перад табой.

Ваенныя вершы прасякнуты лірызмам, філасофскім роздумам, напоўнены шчырым і глыбокім пачуццём любові да Айчыны.

П.Глебка, абапіраючыся ў творчасці на літаратурныя і фальклорныя традыцыі, рамантычна паказаў новую рэчаіснасць праз спалучэнне дакументальных матэрыялаў з мастацкім абагульненнем.

Паэт спрабаваў сілы ў розных жанрах. Ён напісаў лібрэта да оперы “Андрэй Касценя”, сцэнарый да фільма, перакладаў творы рускіх паэтаў і пісьменнікаў на беларускую мову.

Артыкулы П.Глебкі па моваазнаўству, гісторыі, філасофіі, фальклерыстыцы, мастацтвазнаўству (ён узначальваў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі) — і сёння багаты матэрыял па гісторыі Беларусі. Яго лічылі энцыклапедыстам, бо валодаў ён рэдкасным дарам ахапіць з’яву, падзею, факт гісторыі, культуры не толькі розумам, але і сэрцам.

Пятро Глебка быў — і гэта адзначаюць усе даследчыкі аднадушна — чалавекам вялікай інтэлектуальнай сілы, добрага сэрца і высокіх пачуццяў. Незвычайна просты, сардэчны, ён сустракаў кожнага мяккай усмешкай і добразычлівым поглядам, гаварыў ціха, павольна ў добрай інтэлігентнай манеры.

Па сваёй натуры, характару быў мяккім і спагадлівым чалавекам. Людзі, якія акружалі Пятра Фёдаравіча, любілі яго за разважлівасць, сяброўскую цеплыню, сапраўдную чалавечнасць.

Імя Пятра Фёдаравіча Глебкі носіць школа ў вёсцы Ліцвяны.

* * *

Пра аўтарытэт Алеся Махнача, яго глыбокія, змястоўныя роздумы аб родным краі, пра яго нялёгкі лёс, сувязі з Уздзеншчынай мы раскажам ніжэй.

* * *

З Прусінава пачаўся жыццёвы шлях таленавітага беларускага празаіка Алеся Пальчэўскага. У 1931 годзе ён скончыў БДУ, працаваў у часопісах, пераважна дзіцячых, настаўнічаў.

Друкавацца пачаў з 1926 года. Але асноўныя яго творы прыходзяцца на 50—60-я гады. Таму былі свае прычыны.

Алеся Восіпавіча Пальчэўскага (1905—1979) не абмінуў цяжкі лёс рэпрэсіраванага. Ён быў сасланы і працаваў у 1936—1946 гадах у Горкаўскай вобласці, а з 1948 па 1955 год — у Краснаярскім краі. Разам з такімі ж ён валіў лес, спаў бок пры боку на голых нарах, дзяліўся апошнім сухаром, цыбулінай і драбком цукру.

Там ён знайшоў сваё асабістае шчасце, аб'яднаў сваё жыццё з чалавекам не менш цяжкай долі — Тамарай Рыгораўнай Цулукідзе, былой артысткай тэатра імя Шота Руставелі, потым членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пасля рэабілітацыі Беларусь стала для гэтай жанчыны княжацкага паходжання новай радзімай.

У вельмі сціплых умовах яна трымала нешта блізкае да літаратурнага салона. Іх сумесны дом быў заўсёды адчынены, цёплы, светлы і гасцінны. У ім жыло мастацтва, паэзія, літаратура…

Творы А.Пальчэўскага нельга чытаць без хвалявання, бо яны адзначаны высокай змястоўнасцю. Ён добра ведаў сялянскі побыт, псіхалогію селяніна, яго жывую мову. Заяміна, Барок, Румок — вось тыя месцы, дзе разгортваюцца падзеі жыцця яго герояў.

Пісьменнік сцвярджаў мастацкім словам любоў, дабрыню, справядлівасць. Усё, што выйшла з-пад яго пяра, у вышэйшай ступені чалавечнае. Родная зямля была для яго гаючай крыніцай. "Чалавечнасць праглядваецца і ў характары А.Пальчэўскага. Ён быў



Помнік Алесю Пальчэўскаму на могілках у в. Прусінава

уважлівым, даверлівым, з ім лёгка было сябраваць, — пісаў аб ім Янка Скрыган. — У яго была патрэба рабіць каму-небудзь дабро. Ён любіў простыя, усім вядомыя жарты. Не любіў ныцця, гледзячы на яго, хацелася жыць таксама, як ён — жыццесцвярджальна, чалавечна з адкрытым тварам".

У апошнія гады жыцця Алеся Восіпавіча пацягнула да бацькоўскай хаты. Ён уладкаваў і прывёў у парадак родны дом. Там жа ў Прусінаве на вясковых могілках і быў пахаваны побач з бацькамі. На помніку чырвонага граніту расчынена яго кніга "Сцежкі".

Т.Цулукідзе апошняе дзесяцігоддзе прысвяціла ўшанаванню памяці Алеся Восіпавіча, стварэнню музея на яго радзіме, збору і публікацыі яго твораў.

На жаль, яе завяшчанне аб пахаванні побач з мужам, Алесем Восіпавічам, не было здзейснена.

* * *

Пісьменнік Алесь Якімовіч (1904—1979) — адзін з тых, хто прыняў актыўны ўдзел у станаўленні сучаснай беларускай літара-

туры. Пачаўшы свой творчы шлях у незабыўныя 20-я гады мінулага стагоддзя, ён адразу ж вызначыў сваё высокае прызнанне — тварыць для юнага чытача.

Яго шчодры талент падарыў розныя ў тэматычных і жанравых адносінах творы. Яны шырока вядомы маленькім чытачам, займаюць ганаровае месца ў іх бібліятэках.

А.Якімовіч зрабіў вялікі ўклад ў літаратурную апрацоўку і папулярызацыю беларускіх народных казак. Кнігі казак, выдадзеныя пры яго ўдзеле, высока ацэнены на вартасць знаўцамі і аматарамі фальклору. Пісьменнік стварыў цыкл твораў, прысвечаных мінуламу: “Адкуль ліха на свеце”, “Кастусь Каліноўскі”, “Канец сервітуту”. За апошні твор пісьменніку ў 1974 годзе прысуджана прэмія імя Якуба Коласа. А.Якімовіч перакладаў вершы рускіх паэтаў.

З вялікай сыноўняй любоўю і павагай пісьменнік ставіўся да роднай зямлі, прыроды, жыцця. Радзіма А.Якімовіча — нічым не прыкметная вёска Чурылава на Уздзеншчыне, такіх многа на Беларусі. Аднавяскоўцы валілі лес, вазілі калоды, ганялі плыты. Бацька часта адрываў яго ад вучобы і браў з сабой у лес ці на рум. Менавіта гэта вёсачка з прасторнымі лясамі і палямі за ваколіцай заставалася самым дарагім месцам для пісьменніка. Ён казаў:

“Вядома, я не шкадую, што некалі прамяняў вёску на горад. Але нешта сялянскае, вясковае жыло ў мяне ўсе сорак апошніх гадоў. І я рады, што яно не пакінула мяне.

Усім вядома, што Уздзеншчына славіцца сваімі паэтамі і пісьменнікамі. Але адкуль яны бяруцца? — пытаюць многія. А і сапраўды — адкуль? Да рэвалюцыі пра пісьменнікаў мы і не чулі. Нават проста пісьменных было не густа. У нашым Чурылаве і школы не было амаль ці не да самай рэвалюцыі.

Пачыналася ўсё так. У 1916 годзе ў мястэчку Уздзе адкрылася вышэйшапачатковае вучылішча. Туды паступалі пераважна дзеці бяднейшых сялян, таму што заможныя вучылі сваіх дзяцей у гімназіі.

І што ж?

Гімназія не дала нашай літаратуры ніводнага пісьменніка. А з вучылішча, якое потым перайменавана было ў працоўную школу, выйшлі адразу тры: Паўлюк Трус, Пятро Глебка і я. Зацікавіў нас да творчасці, вядома, наш першы пісьменнік з Уздзеншчыны, ні-

заўскі настаўнік Кандрат Крапіва, які выступіў у друку са сваімі вершамі пасля вызвалення Беларусі ад белапалякаў. Свайго вучнёўскага захаплення літаратурай мы не пакінулі і далей".

Сваім сябрам і знаёмым гэты цікавы чалавек так рэкамендаваў Уздзеншчыну: "Будзе час, прыязджайце сюды, паглядзіце гэту зямлю і вы пабачыце, як станеце багацей і дабрэй".

* * *

Нямала прайшло часу з тых пор, калі Антон Пятровіч Бялевіч (1914—1978) з хатлянскай Дуброўкі, пачынаючы супрацоўнік раённай газеты, выступіў у друку са сваімі першымі вершамі. Ад самага пачатку ён спалучаў паэзію з журналістыкай, газетнай працай. У час Вялікай Айчыннай вайны супрацоўнічаў у перыядычным друку, накіроўваўся ў партызанскі тыл.

У сваёй творчасці А.Бялевіч выкарыстоўваў вусную народную творчасць, яе прыёмы і вобразы. Песенныя народныя інтанацыі, традыцыйная фальклорная вобразнасць — характэрныя рысы паэзіі А.Бялевіча.

Каля трыццаці кніг выйшла з-пад яго пяра. У 1943 годзе ў Маскве была выдадзена першая кніга вершаў у перакладзе "Человек из Дубровы". Асноўны матыў лірыкі — жыццё вёскі. Па-сапраўднаму была песенна-шчодрай душа ў Антона Бялевіча, які з гонарам любіў паўтараць: "Я з Дуброўкі!". І лепшыя свае паэтычныя радкі ён прысвяціў менавіта ёй, Уздзеншчыне. Вось яго пранікнёныя словы аб Радзіме:

"Ціха гарыць агеньчык, а са смалістага хвойніку цёплае паветра плыве, а ў тым паветры густы настой верасу, багуну, жывіцы. З вёскі далятаюць гукі гармоніка, песні плывуць на ўзлессе да начлежнікаў. Хораша, радасна на сэрцы ў людзей.

Землякі мае! За вас я рады,
Рады за Уздзеншчыну маю!"

А.Бялевіч ахвотна сустракаўся з людзьмі, ездзіў у самыя аддаленыя куткі Беларусі. Першым настаўнікам у яго быў бацька-паляўнічы, з якім хадзіў па лясных сцежках. Гэта пачуццё прыроды, усяго жывога ўдала перадаецца ў яго творах праз гоман лясоў і шэпат палёў, прыгажосць кожнай кветкі і травінкі. У паэта прырода натхняе — яна жывая.

Беларусь мая!
Твае каліны,
Арабіны, ясені ў гаю —
Шолахам і песняй жураўлінай
Заплылі ў мой лёс,
Душу маю.

* * *

Ілья Данілавіч Гурскі (1899—1972) пісьменнік гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы. Вялікія гістарычныя падзеі вывучаў не толькі па дакументах, ён сам быў актыўным байцом. У яго творчасці асобнае месца займае раман-хроніка “Вецер веку” ў чатырох кнігах. Ён прысвечаны гістарычным падзеям, звязаным з рэвалюцыяй ў Петраградзе і на тэрыторыі Беларусі.

Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Ілья Гурскі ў 1935—1941 гадах быў рэдактарам газеты “Літаратура і мастацтва”, у Вялікую Айчынную вайну — газеты “За свабодную Беларусь”, у 1944—1960 гадах — часопіса “Беларусь”.

Ён аўтар шэрагу п’ес. У пасляваеннай творчасці асноўная тэма — барацьба з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

* * *

Неяк раптоўна, хоць і запознена, увайшло ў грона ўздзенскіх пісьменнікаў імя Васіля Рыгоравіча Гурскага. Але чаму запознена? Бо ён, пляменнік вядомага Ільі Гурскага, не мог ад самага пачатку не знаходзіцца пад уздзеяннем аўтарытэту свайго дзядзькі і не паспрабаваць сябе ў літаратуры. Акрамя таго жыццёвы шлях яго быў насычаны вялікімі падзеямі. Ды й шматгадовае настаўніцтва садзейнічала творчаму ўдасканаленню. Пісаць пачаў пра вайну, лёсы дзяцей. Выдаў цэлы стос кніжачак.

Галоўнае было — не згубіцца на перакрыжаваннях часу, спасцігнуць і данесці да чытача ідэю таго найвялікшага ваеннага процістаяння. Аўтар адчуваў вайну ва ўсёй веліччы і трагічнасці. Партызанскі кулямётчык, падрыўнік, потым баец Чырвонай Арміі. А яшчэ — проста вельмі назіральны чалавек. Ён не мог прамінуць лёсам нададзеную яму магчымасць пакласці свае веды на слова.

Творы В.Гурскага ўспрымаліся неадназначна, калегі па партызанскім руху нешта пастаянна ўдакладнялі, часам абрушваліся з крытыкай. Ён цярпліва папраўляў матэрыял, нешта выключаў, нешта дадаваў. І ўсё глыбей абагульняў. І такім чынам стварыў свой варыянт гісторыі партызанскай вайны ў Наднямонні. Менавіта варыянт-версію, таму што ўсеагульны ахоп найвялікшых па свайму маштабу падзей — гэта ўжо гісторыя. А ўяўленне гістарычных падзей можа быць толькі суб'ектыўным. Так сцвярджаў наш зямляк, вучоны-гісторык Уладзімір Завітневіч. Так, дарэчы, лічыць і лаўрэат Нобелеўскай прэміі беларус Жарэс Алфёраў.

Мы ж сёння толькі здзіўляемся, наколькі аб'ёмная і непад'ёмная работа была выканана Васілём Рыгоравічам. Тое, што ўчора яшчэ хадзіла толькі ў версіях, чутках, ён дэталізаваў і прывязаў да пэўных месц, дат, асоб. І гісторыя партызанскай вайны ў яго ўяўленні загучала пераканаўча і доказна. Да таго ж свой матэрыял ён змог выкласці добрай, даступнай і простай літаратурнай мовай. Яго версія ўспрымаецца і засвойваецца, яму людзі вераць.

Магчыма, у яго працах маюцца недахопы. Аднак, хто яшчэ, акрамя В.Гурскага, змог бы яе выкласці больш даступна і займальна? Адыходзяць зараз непасрэдныя ўдзельнікі і сведкі таго жорсткага процістаяння. А пасля іх любая новая версія будзе яшчэ меней доказна. Тым болей, калі рэч будзе ісці пра дакументальна-літаратурную трактоўку.

Рэкамендуем чытачам, акрамя першай, яшчэ даперабудовачнай пары, кніжкі “Ля вытокаў Нёмана” (Мн., 1981), заключныя выданні: “Хмары над Міншчынай” (Мн., 2000), “Пушчы і дубровы славаю шумяць” (Мн., 2004), “Незабыўныя сцежкі” (Мінск, 2007), “Ухабістыя дарогі” (Мінск, 2008) і кнігу аповесцей і апавяданняў для дзяцей “Сірочая доля” (Нясвіж, 2005). Для іх, маленькіх ён раней выдаў кнігі “Бусел Цімка” (1995), “Пушыстая госця” (1995), “Разумная казуля” (2002), “Кучараўчык” (2004) і інш.

У яго чытачоў выклікае давер жывасць і нейкая празрыстая свежасць, прастата і шчырасць падачы матэрыяла, нярэдка ў жанры побытавай гутаркі. Пры ўсёй узвышанасці думкі аўтар не збіваецца на пераможны тон, не абыходзіць балючыя эпізоды, маштабы панесеных страт. Ён асэнсоўвае псіхалогію смяротнага паядынку.

Надзея на лепшае праходзіць чырвоным радком праз усю ваенную творчасць пісьменніка.

Пачынаў Васіль Рыгоравіч з раённага літаб’яднання “Неманец”. У 1997 годзе прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

* * *

Яшчэ адзін літаратарскі лёс уздзенца. Партызан, пехацінец з Нізка Мікола Кароль горда ступіў у фашысцкае логвішча. На свабодным месцы сцяны рэйхстага напісаў: “Белоруссия. Минская обл., Узденский р-н, пос. Ластовщина, Король Николай Константинович, партизан Белоруссии, отряд имени Богдана Хмельницкого”.

Вярнуўшыся дамоў сеў за парту. Узяў зноў у рукі скрыпку. Завочна скончыў універсітэт мастацтва імя Н.К.Крупскай у Маскве. Вучыў дзетак. Арганізаваў аркестр “Нізаўскія музыкі”. Выступаў у вёсках, у раённым цэнтры. У вершах аддаваў пашану свайму краю, героям вайны. Выдаў кніжку паэзіі “Дарогамі жыцця”.

І хоць гадамі я старэю,
Пакуль не згасне свет вачэй,
Я для цябе зраблю, што ўмею,
Каб прыгажэў ты, цвіў ярчэй...

Такімі простымі, але даходлівымі, словамі ён узвышае свой край.

* * *

Нядоўга, толькі дзесяць гадоў, працаваў на літаратурнай ніве Сымон Баранавых (Сымон Якаўлевіч Баранаў, 1900—1942) з вёскі Рудкова. Скончыў БДУ (1931). Друкаваўся з 1927 года. У апавяданнях (зборнік “Злосць”, 1930) узнавіў сцэны дарэвалюцыйнага вясковага побыту, сялянскай працы, эпізоды барацьбы супраць польскіх інтэрвентаў. Яго аповесці “Межы” (1930), “Новая дарога” (1929—1930), раман “Калі ўсходзіла сонца” (1935—1936) і сёння не страцілі мастацкай каштоўнасці. Яны, прысвечаныя беларускай вёсцы на крутым зломе гісторыі, — значная падзея літаратурнага жыцця.

Акрамя таго, С.Баранавых напісаў прыгодніцкую аповесць для дзяцей “Пастка” (1934) з рамантычна прыўзнятымі, яркімі вобразамі маладых герояў. Ён перакладаў на беларускую мову творы Максіма Горкага.

Пачатак 30-х гадоў быў для яго ўвогуле плённым і шчаслівым...

А ўжо ў 1933 годзе адзін гора-крытык, патрабуючы “бязлітасна выкрываць усё варожае, нацыяналістычнае, кулацкае на літаратурным фронце”, залічыў сюды і творы таленавітага празаіка, упэўнена заяўляючы, што “праяўленне кулацкай ідэалогіі, якое ўжо было ў творы С.Баранавых “Межы”, перарасло ў сістэму кулацкіх нацыянальна- дэмакратычных поглядаў у апошнім яго творы “Матчын сын” і інш.” Гэты так званы літаратурна-крытычны артыкул павярнуўся праз чатыры гады, у 1937-м, для С.Баранавых 58-м артыкулам крымінальнага кодэксу. Пачаліся яго “блуканні па пакутах”, дакладней па этапах — ад Магілёва да Калымы. Там яго і напаткала заўчасная смерць.

* * *

У пачатку 20-х гадоў паслалі вучыцца з вёскі Мрочкі на Слуцкі рабфак сельскага актывіста Віктара Іванавіча Казлоўскага (1905—1975). З 1925 года ў рэспубліканскім перыядычным друку з’яўляюцца яго вершы, а імя становіцца вядомым у літаратурным свеце. У гэты час ён заканчвае БДУ. У 1932 годзе выходзяць адразу яго кнігі паэзіі “Музыка працы”, “Слова аб юнай краіне” і паэма “Рахіль”. У гэты час ён перакладае на беларускую мову творы Я.Асеева, І.Уткіна, У.Кавальскага і інш.

Паэт выклікаў у чытачоў давер і павагу. На жаль неўзабаве ён цяжка захварэў. Саюз пісьменнікаў Беларусі паклапаціўся і паслаў яго ў Маскву на лячэнне. Але хвароба не адступала. В.Казлоўскі жыў у сваёй вёсцы пад апякунствам родных і сяброў, а пасля вайны — у хатцы, якую яму пабудаваў пры садзеянні Алеся Махнача Саюз пісьменнікаў Беларусі. Там ён і памёр.

Кажуць, што паэзіі В.Казлоўскага ўласціва ўскладненая метафарычнасць. Магчыма, што і так. Але вершы яго прыцягваюць нейкай асаблівай праўдзівасцю:

Прышрубоўваць
пайду
я рэйкі
да шпал
Ад Менску
да
нашых Мрочак.

І цягнікі
 праз балоты і бор
Прабягуць
 каля
 вёскі нашай.

У другім вершы “Плытнікі” паэт знайшоў нейкі асаблівы, незвычайны рытм верша:

Праз імглу,
 і туман,
 і змрок —
Голас
 і крок!
І ўдваіх узнялі
 бусакі над вадой
 — Маладосць!
Хвалі бухаюць
 аб берагі — Бу-х!
Грае музыка
 хваль
 і душы —
 — У-хх!
Якая шыр.

* * *

Спытайцеся ў любой уздзенскай хаце, а хто такі тут у вас Даір Фёдаравіч? Людзі адразу ж адгукнуцца:

— А як жа! Некалі бібліятэкар, цяпер — пісьменнік! Добры, шчыры чалавек...

Так, менавіта з Уздзеншчыны выйшаў дзіцячы пісьменнік Даір Фёдаравіч Слаўковіч.

Да вайны Даір паспеў скончыць толькі першы клас, а зноў прадоўжыць заняткі яму давялося праз многа гадоў. Голад і холад ваеннага ліхалецця, блакадныя дні і ночы, праведзеныя ў балотных лясах (бацькі былі партызанамі), не мінуліся бясследна. Калі яго аднагодкі бегалі ў школу, хадзілі ў лес, на рэчку — ён нерухома ляжаў у ложку.

Выручалі кнігі, да якіх яго прыахвоціў Алесь Махнач, тады вясковы бібліятэкар. Настаўнікі самі прыходзілі да хлопчыка. Вучыўся Даір старанна і атрымаў атэстат сталасці.

З 1954 года ён пачаў працаваць бібліятэкарам Уздзенскай дзіцячай бібліятэкі, адначасова вучыцца ў Мінскім педагагічным інстытуце на бібліятэчным факультэце. З 1962 па 1977 год — загадчык гэтай бібліятэкі. Працаваў многа і творча. Аднойчы ўзнікла думка стварыць пры бібліятэцы атрад чырвоных следапытаў (тады раённага музея яшчэ не было). Выстаўляліся экспазіцыі, рыхтаваліся новыя вандроўкі. Так з часам павялося, што ніводзін беларускі пісьменнік, які па той ці іншай нагодзе трапляў ва Узду, не мінаў дзіцячай бібліятэкі.

Работа з дзецьмі, іх радасці і засмучэнні, мары і імкненні падказвалі Даіру Фёдаравічу тэмы творчых матываў і сюжэтаў. Ён пачаў пісаць пра тое, што добра ведаў, — пра дзяцей і юнацтва. З пачатку 60-х гадоў у друку з’явіліся яго апавяданні, аб’яднаныя затым у першую кнігу з добрай назвай “Каласавічок”. Новая кніга “Я вярнуся, мама!” была прысвечана герою Вялікай Айчыннай вайны партызану Косцю Будніку. “Хвядосавы канікулы” ўводзяць юнага чытача ў сельскі побыт і прыроду Уздзеншчыны, апавядаюць пра сучаснае і мінулае роднага краю. Яго творы пра гераізм людзей у гады вайны і мірны час, пра сучасную вёску і яе праблемы, пра воінаў-пагранічнікаў і рабочую змену — навучэнцаў ПТВ.

Кнігі Д.Слаўковіча з цікавасцю чытаюць і дарослыя.

У канцы 1970 года Даіра Слаўковіча прынялі ў члены Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Пісьменнік не выдумляе сваіх герояў, тых сітуацый, у якія яны трапляюць. Героі прыходзяць да яго самі і самі ж расказваюць яму, што з імі здарылася, пра што думаюць, чым захапляюцца.

Далей былі творы “Па чым фунт ліха”, “Сцежкаю мужных”, “Алесік едзе ў Красабор”, “Алея невядомых салдат”, “Гвардзейскі знак”, зборнік гумару і сатыры “Фірменны сродак”, п’еса “Крутадух” і інш. Д.Слаўковіч пераклаў казку В.Гаўфа “Маленькі Мук”.

Яго творы ў сваю чаргу перакладзены на польскую, англійскую, нямецкую і іншыя мовы.

Чаго б не дасягаў у сваёй адметнай працы Даір Фёдаравіч, ён заўсёды крытычна асэнсоўвае зробленае: трэба рабіць болей, трэба рабіць лепш. Такі ўжо ён чалавек...

* * *

У вёсцы Цялякава ў 1887 годзе нарадзіўся пісьменнік Язэп (Іосіф Ігнатавіч) Мазуркевіч. Ён скончыў Вышэйшыя курсы беларусазнаўства ў Мінску. З 1924 года — выкладчык Віцебскага вячэрняга рабфака, у канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя працаваў у Віцебскім краязнаўчым музеі.

Язэп Мазуркевіч — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Віцебскага філіяла "Маладняка" і Віцебскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Друкаваўся з 1924 года ў альманахах "Пачатак", "Світанне", "Рытмы будавання", часопісах "Маладняк", "Полымя" і інш. Аўтар апавяданняў "Здзекі" (1924), "Бранявік" (1925), сцэнічнага абразка "За калгас" (1930), артыкулаў "Наш шлях", "Віцебскі філіял "Маладняка", "Літаратурны рух на Віцебшчыне" і інш., нарыса "Зорны злёт" (дзённік экскурсіі па Украіне ў чэрвені—ліпені 1928 года).

Быў рэпрэсіраваны ў 30-х гадах. Звесткі пра яго далейшы лёс не выяўлены.

* * *

Васіль (Васіль Аляксандравіч) Шырко — адзіны прадстаўнік уздзенскіх пісьменнікаў сярэдняга пакалення — родам з Чурылава. Пачынаў як прафесійны журналіст. Працаваў у газетах, на тэлебачанні, затым ў рэдакцыі часопіса "Полымя". Аўтар кніг "Зямлі бацькоўскай прыцягненне", "Манюкін не салжэ", аповесцей "Сцяжынка для людзей", "Хай людзі бачаць" і інш.

Творчасць В.Шырко прарываецца да людзей чыстым здаровым струменем народнасці, веры ў будучае нашай зямлі, яе шматпакутных людзей. Яна нясе чытачу праўду, шчырасць, ачышчэнне. Аўтар заўсёды знаходзіць жывую повязь паміж ураджайнымі палеткамі і творчым пачаткам чалавека, раскрывае сакрэт іх узаемазалежнасці. Адным з першых у наш няўдзячны час ён узяў на сябе смеласць рэабілітацыі нашых "чырвоных" сельскіх дырэктароў і старшынь.

Прыемна ўзяць у рукі яго дзіцячыя кніжкі, іх чытаюць і дзеці, і дарослыя.

В.Шырко — пісьменнік і публіцыст з ярка выражанай вострасюжэтнасцю твораў. Сфера яго прыцягнення — вёска, зямля. Адтуль вытокі яго неардынарнай творчасці.

Героі твораў — чурылаўцы, зенькаўцы, боркаўцы. Суровая праўда жыцця пераплятаецца з паданнямі, казкамі, анекдотамі. Такі ён і сам.

Васіль Аляксандравіч не пазбягае характэрнай мясцовай гаворкі. Чысціня душы яго землякоў, іх шчодрасць ад гаючых крыніц і траў, дабрыня і спагада ад дзядоў і бацькоў.

Праз В.Шырко мы раскрываем нанова і Паўла Шыдлоўскага, і Адама Русака, і Алеся Махнача. і Капыльскіх дудароў. Ён засведчыў сябе выдатным знаўцам музейнай справы. Яго духоўныя каштоўнасці замацоўваюць адвечны надзейны жыццедайны рад: Маці, Зямля, Абаронца, Працаўнік, Творца...

* * *

Кастусь (Канстанцін Міхайлавіч) Шавель (1912—1987) нарадзіўся і пражыў усё сваё жыццё у вёсцы Лошы. Працаваў рахункаводам у калгасе і кожную свабодную хвіліну (а ці многа іх у селяніна?) ён прысвячаў паэзіі. Пры жыцці выдаў некалькі зборнічкаў вершаў. Апошні пад назвай “Асеннія пракосы” выйшаў у 1983 годзе. Так сталася, што па шэрагу прычын не ўвайшоў у Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Аб чым пісаў гэты несумненна адораны талентам паэт? Аб тым напісана і наша кніга. Вось, напрыклад, радкі з верша “Роднае”:

Вакол Узды
Маіх палёў абрусы,
Вакол Узды
Маіх лясоў віток,
Радзіма Крапівы майго
І Труса
Лагоды і паэзіі
Выток.
Як хораша
Шугае ў нас тут лета!
Які ж прыгожы май
І лістапад,
Завеі зім!
І я, з душой паэта,
Люблю свой кут
Яму бязмежна рад.

Цвілі ў маленстве тут
Мае ўсмешкі,
Спявала ў накаволлі
Маладосць,
У будучыню
Пракладаў тут сцежкі,
Быў след мой чысты,
Чысты ён і ёсць.
Лагчыны, ўзгоркі —
Усё тут мне знаёма,
Мне, як браты, тут
Кожны дуб і клён.
Тут пачынае бег свой
Бацька-Нёман,
Што неба ўсё
Забраў сабе ў палон.
Абняўшыся ў Пясочным
З рэчкай Вусай,
Ён скрозь лясы,
Палеткі і лугі
Нясе ў Літву
Братэрства беларусаў,
Шырокі Нёман,
Родны, дарагі.
Як пояс дружбы
Нашай велічавы,
Звязаў ён Беларусь
З Літвой навек.
Спрадвечны сведка
Добрай нашай славы,
Наш прыгажун
Сярод прыгожых рэк...

* * *

Вядома, што рана памерлая сястра вучонага Якуба Наркевіча-Ёдкі — Анэля (у шлюбе Козел) была таленавітай паэтэсай. Гэта адзначаў А.Ельскі. Пакуль ніводнага яе верша не выяўлена. Трэба шукаць...

* * *

Аднак трэба шукаць і новыя творчыя парасткі. Можна адназначна сцвярджаць, што ў апошнія гады абмялелі паэтычныя крыніцы Уздзеншчыны. Меней ідуць з першым вершам, першай замалёўкай пачынаючыя творчасць юнакі, народжаныя пад досвіткавы перазвон кос у мурожных лугах, на берагах уздзенскіх рэк, пад говар салаўіных наднёманскіх гаёў, пад шэпатлівы ўсплёск хваль, пад пералівы жытняга поля. Дзе яны, дзе?

Добрую надзею нам падаюць выдадзеныя ў апошні час на Уздзеншчыне зборнічкі паэзіі мясцовых літаратараў ды шматлікія творчыя сустрэчы з чытачамі. Кіраўнік літаратурнага аб’яднання “Нёманец”, член Беларускага саюза журналістаў Віктар Сабалеўскі сам з’яўляецца аўтарам паэтычных кніжак “Чабаровая паляна” і “Абранніца”, перыядычна рыхтуе старонкі паэзіі ў газеце “Чырвоная Зорка”, праводзіць сустрэчы з чытачамі, арганізуе творчыя конкурсы.

Шаноўны аўтар прэзентаваў мне выдадзены ў 2003 годзе свой зборнік вершаў “Пра бабу Маню, дзеда Васіля і іншых”. Чытаючы лёгка напісаныя, простыя вершы, міжволі дзівішся, што напісанае ім можа быць адначасова і змястоўна, і цікава, і складана, як і тое вясковае жыццё — адкрытае, простае і вельмі глыбокае сваім сэнсам. Напісаныя ў жанры гумарыстыкі вершы прыцягваюць да сябе асаблівую ўвагу. Яны патрэбны, бо ў многім выступаюць антытэзай таму, што абвалілася на нас здабыткамі цывілізацыі. А пераклады з Уладзіміра Высоцкага — проста клад!



Раіса Фёдараўна Дубовік
у забалацкай бібліятэцы

Актыўны ўдзел у гэтых мерапрыемствах прымае і загадчык раённай цэнтралізаванай

бібліятэчнай сістэмы Клаўдзія Антонаўна Рогава. Людзі з задавальненнем слухаюць і чытаюць яе вершы, пазнаюць тонкі свет творчай натуры.

Добрым прадаўжэннем слаўных традыцый культурнага жыцця Уздзеншчыны сталі гасцінныя сустрэчы мясцовых літаратараў у былой Нізаўской базавай школе. Іх ладзілі дырэктар школы Дзмітрый Мікалаевіч Суткаленка і кіраўнік музея “Слова” Вольга Міхайлаўна Суткаленка. Абодва знаныя настаўнікі, яны пераехалі сюды з Чарнобыльскай зоны, знайшлі сабе тут прымяненне і заявілі сябе яшчэ і выдатнымі краязнаўцамі.

Прадаўжае заставацца багатым культурнае жыццё ў вёсцы Кухцічы і пасёлку Першамайск. Амаль 40 гадоў прапрацаваў у Кухціцкай сельскай бібліятэцы Міхаіл Пятровіч Туміловіч. З ім некалі праходзіла практычныя заняткі пазней добра вядомая, успетая Алесем Махначом, загадчыца Забалацкай сельскай бібліятэкі, яго пераемніца, цяпер пакінуўшая нас, Раіса Фёдараўна Дубовік.

У мясцовым коледжы выкладае беларускую мову і літаратуру Зоя Калкоўская. У 1977 годзе пабачыў свет яе першы зборнік вершаў у бібліятэчцы часопіса “Маладосць”. У ім жа прайшлі дзве яе аповесці. Дачка яе Зоя Сімагасціцкая з адзінаццацігадовага ўзросту пачала друкавацца ў рэспубліканскіх часопісах і газетах. Піша вершы, апавяданні, казкі. Яна стала пераможцай раённага конкурса “Ствараем казкі самі”, удзельніцай і лаўрэатам абласнога злёту юных талентаў і абласнога конкурсу на лепшы твор юных паэтаў. Гэта толькі невялікая часцінка таго, што робіцца і здзяйсняецца ў раёне.

Размову пра творчы свет радзімы нельга вычарпаць, не згадаўшы прадстаўнікоў прэсы. І сёння мы адшукваем “Минские Губернские Ведомости”, каб даведацца нешта пра Уздзеншчыну 150-гадовай даўнасці. Вялікую каштоўнасць складаюць нумары ўздзенскай даваеннай “раёнкі”. Людзі з павагай ставяцца да людзей, якія стваралі “Чырвоную Зорку”. Сярод іх А.М.Папко. І.І.Сурман, В.Ч.Сабалеўскі.

З “раёнкі” браў “разбег” і ўзвышэнне Мікалай Вікенцьевіч Кароль. Вучыўся ён у Мар’інагорскім саўгасе-тэхнікуме, працаваў у калгаснай трактарнай брыгадзе, служыў у Савецкай арміі. Скончыў завочна факультэт журналістыкі БДУ, працаваў на камсамольскай і партыйнай рабоце. Затым былі “Чырвоная Зорка”, “Мінская

праўда”. Цяпер узначальвае карэспандэнцкі пункт газеты “Рэспубліка” па Мінскай вобласці.

На ўсіх узроўнях М.Кароль лічыць сябе “прызваным на службу” інтарэсам вяскоўцаў, жыхарам райцэнтраў, малых гарадоў і пасёлкаў.

У сваіх карэспандэнцыях журналіст ніколі не карыстаецца моўнымі штампамі, абыходзіцца без папярэдніх сцэнарыяў-“загатовак” для таго ці іншага інтэрв’ю. Метады раскрыцця асобы, з’явы, падзеі выспяваюць у яго на месцы, у поўнай адпаведнасці з канкрэтнымі абставінамі. Ён аддае перавагу выяўленню большага праз раскрыццё частковага і асабістага, праз другасныя, здавалася б, дэталі. Гэта і прыцягвае да яго карэспандэнцый увагу чытачоў. І ў гэтым змест яго служэння справе.

Мікалая Вікенцьевіча іншы раз папракалі, напрыклад, пра яго работу ў “Мінскай праўдзе”, што не ўся Міншчына сходзіцца на Уздзеншчыне, а пра работу ў “Рэспубліцы”, што не ўся наша краіна вызначаецца Міншчынай. Але такі ён чалавек, бо не прыхоўвае сваёй шчырасці да роднага краю.

У апошні час Мікалай Вікенцьевіч выпусціў тры зборнікі сваіх твораў. Адзін — з найбольш вядомымі яго публікацыямі “На добры ўспамін”, другі — з нарысамі і інтэрв’ю розных гадоў “У времени на виду”, трэці — з вершамі для сябе — “Спеў і гнеў”. Не абмінуты творчым запалам аўтар, не абыйдзены ім і гэтыя кніжкі.

## Край артыстаў

У вёсцы Нізок нарадзіўся вядомы беларускі акцёр Анатоль Міхайлавіч Трус (1910—1989). З дзяцінства яго прыцягваў свет высокага мастацтва. Ён зачароўваўся песнямі маці, спевамі птушак, гукамі скрыпкі свайго школьнага настаўніка.

Прастор родных палёў, гушчар цёмнага лесу, шум дажджу абуджалі фантазію хлопчыка. Яго вабіў жывапіс і Анатоль браўся за пэндзаль.

У 1927 годзе ён едзе ў Віцебск і пастпае ў мастацкае вучылішча. Надзвычай багатае ў тыя гады культурнае жыццё горада захапіла хлапчука. Ён наведвае выстаўкі, канцэрты, удзельнічае ў дыспутах, далучаецца да тэатральнага жыцця. Добрым апекуном яго ў гэтай справе стаў Віталь Вольскі.

Да сваіх творчых вышынь Анатоль Трус ішоў паступова і ўпарта. Вялікім майстрам сцэны тэтра БДТ-ІІ ён стаў дзякуючы свайму "вечнаму вучнёўству". Артысту была ўласціва пастаянная творчая незадаволенасць. Вынікам работы ў тэатры на працягу 50 гадоў стала выкананне больш за 200 роляў. У іх ён праўдзіва і пераканаўча ўвасобіў нашага сучасніка.

А.Трусу падабаліся яго героі, нават адмоўныя. Былі сярод іх і зусім невялічкія ролі ў адну—дзве фразы. Але і іх ён выконваў глыбока і сканцэнтравана.

У тэатры Анатоль Трус вёў літаратурную частку, вызначаўся чысцінёй сваёй беларускай гаворкі. Для яго, маўчуна, была характэрна ўроджаная інтэлігентнасць. Майстэрству акцёра былі ўласцівы мяккія лірычныя фарбы, гумар, жыццёвая пераканаўчасць. З часам ён вылучыўся на становішча "караля" старых акцёраў.

Увесь тэатр нязменна сведчыў яму сваю любоў, ён быў яго душой. Пры ўспамінах пра яго творцы расплываліся ва ўсмешцы: "О, Трус!.."

Выдатны артыст, майстра і добры чалавек, Народны артыст Беларусі Анатоль Трус пакінуў след у беларускім сцэнічным мастацтве. Ён быў адным са стваральнікаў віцебскай тэатральнай традыцыі.

* * *

Яркай асобай у беларускім тэатральным жыцці прайшоў ураджэнец вёскі Даўгінава артыст, беларускі тэатральны дзеяч, заслужаны дзеяч культуры Беларусі Леанід Паўлавіч Валчэцкі (1913—1990).

Ён скончыў у 1931 годзе Мінскі педтэхнікум, затым тэатральную студыю пры Другім беларускім дзяржаўным тэатры. Удзельнік Айчыннай вайны. Быў артыстам, інспектарам сцэны, намеснікам дырэктара БДТ-ІІ, затым у 1951—1979 гадах — дырэктарам Брэсцкага абласнога тэатра драмы і музыкі імя Ленінскага камсамола (цяпер гэта імя адноўлена).

Ажыццявіў пастаноўку многіх п’ес беларускіх, рускіх і замежных аўтараў, у тым ліку і з класічнага рэпертуару. Упершыню выявіў вобразы самаахвярных абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Меў нязменна высокі аўтарытэт у творчых колах Беларусі.

* * *

Пра Паўла Іванавіча Шыдлоўскага з Прысынка мы ўжо гаварылі. Тут толькі дададзім, што ў раёне яго ведалі ўсе — ад малога да старога, ведалі за яго талент, творчасць, шчырасць, песні...

**Край мастакоў**

Зямля ўздзенская дала рэспубліцы многіх дзеячаў мастацтва.

Мастак, удзельнік Айчыннай вайны Сцяпан Адамавіч Андруховіч (1909—1989) з вёскі Губіна. Пасля заканчэння Уздзенскай сямігодкі, Сцяпан Адамавіч паступіў у Віцебскі мастацкі тэхнікум. Затым працаваў настаўнікам у школе. З 1933 года ён прысвячае сябе цалкам станкаваму жывапісу. З 1935 года ўдзельнічае ў мастацкіх выстаўках. Яго ўвага звернута да вёскі, да яе ладу жыцця, да сельскіх традыцый.

Карціны С.Андруховіча экспанаваліся ў Маскве ў 1940 годзе на дэкаднай беларускай выстаўцы. Палотны прысвечаны пераважна пасляваеннай вёсцы. Мастак стварыў шэраг выдатных, пранікнутых лірызмам сельскіх індустрыяльных пейзажаў. Тут “Веснавая сяўба”, “Коні на лузе”, “Жыта”, “Мінскае мора”, “Пейзаж з лодкай” і інш. Найбольш вядома яго палатно “Партрэт Янкі Купалы” (1979).

“На выстаўцы работ мастака сустрэў столькі мілага і дарагога сэрцу — жывога Янку Купалу, родныя лугі і пералескі — усё жывое водарнае, светлае і ласкавае. Столькі паэзіі і ўлюбёнасці ў родную зямлю і людзей!” — гэта словы паэта С.Грахоўскага, пакінутыя ў кнізе наведвальнікаў выстаўкі работ С.Андруховіча на яго радзіме ў раённым музеі.

Такім светлым і чыстым застанецца мастак у памяці людзей, яго землякоў.

* * *

Мастак Іван Аляксандравіч Салавей (1918—1988) нарадзіўся ў вёсцы Баравыя. У 1938 годзе закончыў Віцебскае мастацкае вучылішча. У час Вялікай Айчыннай на франтах абараняў Радзіму.

З 1947 года ўдзельнічаў у рэспубліканскіх мастацкіх выстаўках. Яго палотны “Уборка ўраджаю”, “Вываз угнаенняў”, “Калгасны каваль”, “На вадапоі” і інш. адлюстроўваюць духоўны свет і пра-

цоўнае жыццё пасляваеннага селяніна, велічную і непаўторную прыроду Уздзеншчыны. Пра гэта і яго творы “На досвітку”, “Кліч аленя”, “Насцярожыўся”, “Зубры”, “Бярозавы гай”, “Зімні вечар”, партрэты вяскоўцаў, нацюрморты.

Яшчэ пры жыцці І.Салавей падараваў некалькі карцін Лашанскай сельскай бібліятэцы. З адкрыццём новага памяшкання ў ёй працуе выставачная зала, дзе знаходзяцца цяпер сабраныя ў адно карціны мастака і іншыя пра яго матэрыялы. Некаторыя з карцін “перабраліся” ў залу з памяшканняў Лашанскага лясніцтва.

Не шукаў мастак для сябе пераваг сталічнага жыцця, жыў увесь час у сваёй вёсцы. Быў блізкі да людзей. Цяпер ім служаць яго творы.

Іван Салавей выявіў і даў дарогу самадзейнаму мастаку з Хатлян Антону Фёдаравічу Ламаку. Акрамя стварэння карцін, той выконваў складаныя сталярныя работы, вырабляў чучалы звяроў і птушак. Яго хата — своеасаблівы рукатворны куточак прыроды. Карціны А.Ламакі займаюць пачэснае месца ў мясцовым школьным музеі.

* * *

Беларускі графік і жывапісец Юзаф Вульфавіч Пучынскі нарадзіўся 19 снежня 1922 года ў Уздзе. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, член Беларускага саюза мастакоў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Жыў у Мінску. Працаваў у галіне станкавага жывапісу і кніжнай графікі, стварыў серыю каляровых лінагравюр. Аўтар ілюстрацый да многіх кніг. Яго працы адметны лірыкай, шырынёй тэматычнага ўвасаблення. У 1994 годзе ад’ехаў у ЗША.

Намі для афармлення вокладкі гэтай кнігі выкарыстана рэпрадукцыя яго высокамастацкага эмацыянальнага палатна “Брод” па наднёманскіх матывах (знаходзіцца ў фондах Уздзенскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея).

* * *

Нельга, ніяк немагчыма, абыйсці ўвагай складаны творчы свет Уладзіміра Віктаравіча Ткачова. Пра мастака сёння гавораць як пра таленавітага, адоранага манументаліста, жывапісца, у той жа час мысліцеля, здольнага адвечныя ісціны пераасэнсоўваць востра

і неардынарна. Яго мастацкі пасыл няпросты.
У характары і мастацкай манеры яго творчасці выкарыстоўваюцца і жывы натуралізм, і загадкавы сімвалізм, сюррэалізм з іх незямнымі вобразамі. Многія яго работы “сканструяваны” на аснове міфалагічных сюжэтаў, былін з выкарыстаннем метафар, гіпербал. Палотны мастака сацыяльна завостраны, пазбаўлены паказной благапрыстойнасці.



Уладзімір Ткачоў (у цэнтры) на яго юбілейнай выстаўцы ў Мінску

Ёсць меркаванні, што мастацтва У.Ткачова ідзе ад часоў Адраджэння. Можа і так. У сваіх фантасмагарычных, часам пачварных вобразах і істотах ён адлюстроўвае повязь часоў. Каб уявіць яго творчасць, трэба мець добрую агульную гістарычную падрыхтоўку з ухілам на гісторыю рэлігіі.

Урэшце рэшт усе гэтыя разнастайнасці зліваюцца ў адзіную абагульненую вось: дабро—зло. Калі яна праецыруецца ў часе, то ў ёй выяўляюцца дадатковыя тэндэнцыі. Перш за ўсё недасканаласць чалавечай натуры. Мінулае У.Ткачоў экстрапаліруе ў будучыню, не вельмі спыняючыся на хуткаплынных часах прывіднага сучаснага. А вось яго вобраз чалавека будучага дае нам мала надзеі і спадзеву.

Як манументаліст У.Ткачоў заўсёды імкнуўся знайсці вобразныя ўвасабленні сацыяльна значных падзей. А яны, — лічыць мастак, — ва ўсе часы ўздымаюцца адны і тыя ж.

Прыхільнікі Уладзіміра Віктаравіча — людзі неардынарныя, апярэджваючыя час. Надыйдзе пара, — верыць творца, — і малады глядач зразумее яго “Георгія Пабеданосца”, “Небяспечныя гульні”.

Вылучаючы сваім мастацтвам новыя жорсткія патрабаванні ў адказ на выклікі новага часу, У.Ткачоў застаецца тонкім лірыкам і непапраўным летуценнікам. Жаданне дапамагчы чалавеку разабрацца ў заблытаным цяперашнім свеце — рысы, якія вызначаюць у многім творчасць мастака.

Творы У.Ткачова вядомы ў нашай краіне і за яе межамі. Яго габелены ўпрыгожваюць залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі (“Музыка”), рэзідэнцыю Кабінета Міністраў краіны (“Беларусь”); вітражы — Беларускі тэатр юнага гледача (“Песні Беларусі”, “Поры года”), фае Уздзенскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея і інш.

Ствараючы новыя палотны мастак упэўнены, што выпеставаная ім ідэя будзе запатрабавана і зразумета з пазіцый адвечнай хрысціянскай маралі.

* * *

Мастак Міхаіл Вікенцьевіч Рагалевіч з дзяцінства ўвабраў у сябе ўсю многаграннасць няпростага сялянскага побыту Уздзеншчыны. Перажыў трагедыю рэпрэсіраваных родных і блізкіх. Высылаўся і сам з сям’ёй на поўнач. Потым быў дзіцячы дом. Тым не менш, не гледзячы на суровасць жыцця, не згубіў здольнасці захапляцца гаючай прыгажосцю наваколля, заўважаць у акружаючых людзях шчырасць, міласэрнасць.

Маладосць брала сваё. Папрацаваўшы фармоўшчыкам, падаўся ў Мінскае мастацкае вучылішча. Адразу ж вызначыўся ў сваім творчым накірунку — паказ жыцця простых беларускіх людзей і непаўторнай беларускай прыроды. Калі вы недзе ўбачыце на палотнах спакойных, трохі стомленых, і ўсё ж задаволеных прažытым днём, пройдзеным жыццём людзей, то ведайце: гэта творы Міхася Рагалевіча. Калі вас спыняць чароўныя адлюстраванні на фоне сіняга неба карункаў белых кучавых аблокаў, альбо шаты велічных сосен, квецень яблынь, прадоўжаная іх асеннім плёнам, то гэта зноў жа Міхась Рагалевіч.

Такі ён і сам — няспешна-задумлівы, сціплы, абярэжлівы да каштоўнасцей роднага краю, вельмі адзыўчывы да людской ласкі і спагады, як і празмерна ранімы чалавечай несправядлівасцю.



На юбілейнай выстаўцы твораў Міхася Рагалевіча

Міхась Вікенцьевіч шмат гадоў працаваў мастаком-афарміцелем у навуковай акадэмічнай установе. Мастак пранік у складаны творчы свет вучоных. Ён стварыў галерэю партрэтаў навукоўцаў. Сярод іх і вобраз нашага выдатнага земляка Барыса Бокуця.

Вяртаючыся да мінулага ў сваёй карціне “Наш славуты зямляк (Якуб Наркевіч-Ёдка)” зусім нечакана па-новаму, прыўзнята і светла інтэрпрэтаваў асобу нашага выдатнага вучонага, вынаходца, урача.

Міхась Рагалевіч любіць свой край. Час ад часу выбіраецца ў вандроўкі па Наднямонні. З’яўляюцца новыя творы з дарог, як, напрыклад, “Пра час і пра сябе” са старымі каржакаватымі соснамі на стромкім схіле перад нёманскай поймай.

У творах М.Рагалевіча гучыць глыбокая філасофія аўтара: тэма адвечнага кругазвароту жыцця — ад зараджэння з каліва да росквіту і да бясконцага мноства яблык, як зародка новага жыцця.

Мастак неахвотна расстаецца са сваімі творамі-дзецьмі: яны яго апора, благапрыемнае асяроддзе, яго ўпэўненасць...

* * *

У 2009 годзе адзначалася 125-годдзе з дня нараджэння мастака Яўгена Савельевіча Зака, пабачыўшага свет на берагах Нёмана ў старажытным мястэчку Магільнае. Пасля заканчэння ў Варшаве гім-




Аўтапартрэт Яўгена Зака

назічнай адукацыі, ён пераб-раўся ў Парыж, прымкнуўшы там да імпрэсіянісцкага асяродка “Парыжскай школы”.

Яўген Зак змог вылучыцца сваім адметным мастацкім стылем. Ад яго пазней узялі прыклад мастакі М.Шагал, Х.Суцін. У яго творах адчуваецца “дыялог традыцыі з сучаснасцю”, праявы экспрэсіянізму.

Незадоўга да канчыны ў 1926 годзе ён заснаваў у Парыжы “Галерэю Зака”, якая дзейнічала да канца 40-х гадоў XX стагоддзя.

Мы прыводзім тут аўтапартрэт мастака, 1911 года, змешчаны ў юбілейным плакаце, выдадзеным прадпрыймальнікам Аляксандрам Нікіткам.

* * *

Скульптар Уладзімір Міхайлавіч Лятун нарадзіўся ў вёсцы Смалінец. Працаваў у станковай і манументальнай скульптуры. Сярод яго твораў кампазіцыі, прысвечаныя моладзі, партрэты перадавых людзей сяла. У.Лятун выканаў некалькі помнікаў загінуўшым воінам Савецкай Арміі і партызанам.

Мастакі Уздзеншчыны адны з першых передалі некаторыя свае творы ў фонд Уздзенскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея для карціннай галерэі.

* * *

Імя Айшы Браніславаўны Александровіч вядома ў нашай краіне. Яна амаль ці не адзіны майстар сцэнічнага касцюма. Па яе эскізах і пры непасрэдным кіраўніцтве апрануты “Сябры” і “Песняры”, квартэт “Купалінка”, аркестр народных інструментаў імя І.І.Жыновіча, Дзяржаўны ансамбль танца. Носяць касцюмы “ад Айшы” многія артысты цырка, тэатра оперы і балета.



Айша Александровіч у гады свайго творчага ўзвышэння

У створаных ёю касцюмах арганічна спалучаюцца традыцыйныя беларускія строі з элементамі сучаснасці. Над стварэннем новага касцюма яна працуе нярэдка цэлы год, пакуль не будзе дасягнуты той адзіны сінтэз музыкі, харэаграфіі і строю. Толькі ў гэтым выпадку спасцігаецца сапраўдная гармонія і поспех.

А пачыналася ўсё, калі ва Узду прыехаў наведаць свае былыя мясціны мастак, ураджэнец райцэнтра Юзаф Пучынскі. Паглядзеўшы малюнкі дзяўчынкі Айшы, ён параіў бацькам скіраваць яе прыродны талент на ўдасканаленне майстэрства малюнка. Пасля Мінскага мастацкага вучылішся яна скончыла яшчэ Тэатральна-мастацкі інстытут. Да апошніх сваіх дзён выкладала малюнак і жывапіс у вышэйшых навучальных установах.

**Край вучоных**

Ёсць сярод уздзенцаў нямала вучоных.

Аляксандр Сямёнавіч Махнач адзін з вядучых беларускіх геолагаў, відны арганізатар навукі, акадэмік Акадэміі навук Беларусі, доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларусі нарадзіўся ў 1918 годзе ў вёсцы Хатляны. Удзель-

нік Айчыннай вайны. Узначальваў навуковую лабараторыю літалогіі і геахіміі Інстытута геахіміі і геафізікі АН Беларусі. Удзельнічаў у пошуках і адкрыцці радовішчаў калійнай і каменнай солі ў Беларусі. За адкрыццё і разведку нафты яму прысвоена Дзяржаўная прэмія Беларусі.

Аляксандр Махнач займаў доўгі час пасады галоўнага вучонага сакратара і віцэ-прэзідэнта НАН Беларусі.

Для Аляксандра Сямёнавіча характэрна шырыня навуковых інтарэсаў. Добра вядомыя яго навукова-папулярныя кнігі па геалогіі. Пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле вучонага ў 1957 годзе быў падрыхтаваны і выдадзены “Кароткі нарыс геалогіі Беларусі” — першая найбольш поўная геалагічная зводка па тэрыторыі Беларусі.

Аляксандр Махнач аказваў значную дапамогу ў вывучэнні геалагічнага мінулага нашага краю, у тым ліку і Уздзеншчыны. Многія звесткі аб дагістарычным мінулым Міншчыны для гэтай кнігі намі выкарыстаны з прац вучонага.

У паўсядзённым жыцці Аляксандр Сямёнавіч быў шчыры, просты, добразычлівы і сціплы чалавек.

* * *

Вёска Сакольшчына — радзіма яшчэ аднаго вучонага, беларускага фізіка, акадэміка НАН Беларусі, доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларусі Барыса Васільевіча Бокуця.

У час вайны ён актыўны ўдзельнік партызанскага руху на Беларусі, з 1955 года — навуковы супрацоўнік, загадчык навуковай лабараторыі Інстытута фізікі АН Беларусі. Доўгі час быў рэктарам Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, які ён і ствараў. Навуковыя працы вучонага датычылі крышталаоптыкі, узаемадзеяння магутнага выпраменьвання з крышталамі.

* * *

Канстанцін Іванавіч Шабуня — беларускі гісторык, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар. Нарадзіўся ў 1912 годзе ў вёсцы Даўгінава. Удзельнік Айчыннай вайны. У Інстытуце гісторыі АН Беларусі даследаваў гісторыю сялянства і сельскай гаспадаркі перыяду капіталізму.

* * *

Мы ўжо адзначалі, што з вёскі Магільна выйшаў відны беларускі эканаміст, акадэмік НАН Беларусі, доктар эканамічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, былы дырэктар Інстытута эканомікі НАН Беларусі Генадзь Міхайлавіч Лыч. Асноўныя яго работы маюць дачыненне да сферы павышэння эканамічнай эфектыўнасці меліярацыі.

Мы ўжо ўпаміналі дактароў навук з Магільна Міхаіла Яфімавіча і Абрама Хаімавіча Шкляраў, доктара медыцынскіх навук Уладзіміра Сільвестравіча Бондара і іншых навукоўцаў.

Хацелася б заставацца ва ўпэўненасці, што пералік слаўных імён у Наднямонні не абяднее, а, наадварот, папоўніцца новымі, не меней значнымі.

Такія ж творчыя і ўсе ўздзенцы, асабліва тыя, хто многа чаго бачыў і пераЖыў.

Адкуль жа яна, наднёманская творчасць?

Антон Бялевіч пісаў: “Пад ціхі шолах сасновых бароў, пад працяглы шум лазы і ракітніка ды чароту над Нёманам складаліся легенды і быліны аб маім родным раёне, які стаіць між салаўіных гаёў і дуброў”.

Павел Шыдлоўскі сцвярджаў, што паэтычны талент Паўлюка Труса таксама ад салаўёў, якія знайшлі сабе месца ў зарасніках на востраве пасярод Усы паблізу Нізка. Пра іх песні паэт успамінаў у сваіх вершах. Пераймалі паэты салаўіны спеў, неслі яго людзям Наднямоння.

З даўніх часоў лічылася, што натхненне паэтам і іншым творчым людзям пасылаецца багамі. Яны паілі сваіх абраннікаў салодкім напоем ведаў і гармоніі, намаўлялі ім цудоўныя песні. Салаўіны пошчак лічыўся сімвалам вясенніх гавараў-громаў бога-грамаўніка Перуна.

Цяпер салаўёў на ўздзенскай зямлі адчувальна паменела. Меней стала ўтульных пералескаў, сырых цёмных нізін. Наваколле амаль круглыя суткі забіваюць прамысловыя гукі, шум і гвалт бяздумных узмацняльнікаў.

Не хацелася б думаць, што ад гэтага паменела і творчасці ў нашым краі, беднейшымі сталі нашы душы.

# НЯЛЁГКАЕ ШЧАСЦЕ ПІСЬМЕННІКА

Многія гады мяне, непрафесіянала ў літаратуры, з Алесем Махначом, падрыхтаваным і вытанчаным літаратарам, звязвала добрае, ціхае зямляцкае сяброўства. Праз яго я займеў цудоўную магчымасць вучыцца жыццю, спасцігаць таямніцы творчага працэсу.

Цяпер, калі яго няма, ёсць патрэба паўтараць і паўтараць вопыт яго выдатнага жыцця ў якасці прыкладу для падрастаючых пакаленняў. Вось чаму мы працягваем трымаць пра яго слова ў нашай кніжцы.

Прызнаюся, мне давялося прачытаць новы твор пісьменніка "Савецкі конь" да выхаду з друку, у рукапісу. Гэта аповесць рыхтавалася Алесем Махначом як аўтабіяграфічная, дакументальная. Яна закранула сваёй спаведнасцю патаемныя струны, навеяла чыстую празрыстую смугу, бо яна пра нас, хто жыў і сталеў у першыя пасляваенныя гады.

Што гэта быў за час? На яго адназначна адказаць няпроста. Несумненна, гэта была пара станаўлення жыцця, вялікіх надзей для тых, хто выйшаў з пекла ваеннага ліхалецця, "дзяцей вайны". Людзі спяшаліся працаваць, нярэдка да знямогі, радавацца жыццю, спяваць. Так, у часы найвялікшых нястач людзі вельмі шчыра і многа радаваліся. І пабудаванай зямлянцы, і сваёй бульбіне. А тут настала адмена картак…

І ў маім жыцці было многае з нагаданага майстрам пяра: той жа збор насення лубіну на замерзлых гонях, удзел у першых баранавіцкіх спеўках (маглі ж тады рабіць такое!), знаёмства праз іх з Генадзем Іванавічам Цітовічам, майстраванне дэтэктарных прыёмнікаў, цяга да кніг, ведаў. Вучоба здавалася адзіным сродкам выйсця з галечы і неўладкаванасці.

Настальгічнаму ўспрыманню тых часоў у аповесці спрыяе добры мяккі гумар, які парой пераходзіць да гратэска, калі размова ідзе аб недарэчнасцях сталінскіх часоў. І ўсё ж жыццё перамагала, таму аповесць глыбока аптымістычная.

Аўтара, тады загадчыка Прысынкаўскай сельскай бібліятэкі, акаляла прыўзнятая творчая атмасфера. Яму пасчасціла быць добра знаёмым з народным спеваком, арганізатарам вясковага хору Паўлам Іванавічам Шыдлоўскім, аднавяскоўцам, народным гісто-

рыкам Фёдарам Пятровічам Бельскім, пачынаючым пісьменнікам Даірам Фёдаравічам Слаўковічам і з многімі іншымі выдатнымі людзьмі. Чытаючы гэту аповесць, міжволі ўсведамляеш, наколькі невычэрпны жыватворныя крыніцы сельскага побыту. Тут і трапнае слова, выраз, своісты толькі вяскоўцу ўчынак. Асабліва цёплыя словы аўтар прыносіць сваім землякам, блізкім, бацькам.



Алесь Махнач

Аповесць ахоплівае адносна невялікі, але плённы для аўтара, адрэзак часу ў 6—7 гадоў. Цяпер яна ўжо пад назвай “Запіскі сельскага бібліятэкара” працягвае каторы год пылавацца на паліцах выдавецтваў.

А да гэтага было выпрабаванне. Выпрабаванне, якое дастаецца хіба аднаму з тысячы.

У 1939 годзе А.Махнач разам з сябрам адыходзіў на вучобу ў ваеннае вучылішча. З гэтай нагоды ў клубе Прысынкаўскай хаты-чытальні адбыўся ўрачысты вечар з канцэртам. Завадатарам яго быў, як і заўсёды Павел Шыдлоўскі. Хутка праляцелі два гады заняткаў.

Ці мог тады прадбачыць 19-гадовы юнак, выпускнік Калінкавіцкага пяхотнага вучылішча, камандзір узвода 455-га стралковага палка 42-й стралковый дывізіі лейтэнант Алесь Махнач, які толькі што прыехаў у гарнізон Брэсцкай крэпасці, што ўсяго праз тры дні наступіць найвялікшы пералом у яго жыцці? Але так яму было наканавана лёсам. Пасля цяжкага ранення пры абароне Брэсцкай крэпасці (некаторы час Алесь Іванавіч камандаваў ротай, узаемадзейнічаючы з А.Наганавым) 26 чэрвеня трапіў у фашысцкі палон.

Далей пайшлі канцлагеры. Пашчасціла пазбегчы “лазні” — крэматорыя. Ён успамінае: “Кожны дзень туды прыводзяць цяжкапа-

раненых савецкіх салдат, іх адразу гоняць у “лазню”. Адтуль ніхто не вяртаецца. Я не магу падняцца, прайсці і трыста метраў. Гэта выратоўвае мяне ад крэматорыя, які ворагі называюць “лазняй для рускіх”.

Праз чатыры гады невыносных пакут у лагерах-філіялах Майданека—Замосці, Чэнстахаве, Бяла-Падлясцы яго, знясіленага, вызвалілі 9 красавіка 1945 года з канцлагера “Везуве”, што ў Паўночна-Заходняй Германіі, канадскія войскі.

І ўсё ж Алесь Іванавіч удзячны свайму лёсу, які парадніў яго пралітай сумесна крывёю на бастыёнах Буга з многімі выдатнымі гераічнымі людзьмі, у прыватнасці з камандзірам Усходняга форта маёрам Пятром Міхайлавічам Гаўрылавым.

Без заўваг прайшоў потым праверачна-фільтрацыйную камісію НКУСа. Было нават адноўлена воінскае званне, членства ў камсамоле. Два гады лячэння ў шпіталях, некалькі цяжкіх аперацый — і вось ён дома. Хацелася працаваць. Але якую работу мог выконваць інвалід вайны, што не рабіў і кроку без мыліц?

На здароўі адазваліся і сямейныя страты. Маці прыбілі немцы па даносу за сыноў-чырвонаармейцаў, і яна памерла. Хутка пасля вайны сканаў і бацька. А тут вестка аб загінуўшым на фронце браце-лётчыку…

Нарэшце ў жніўні 1947 года Алесь Іванавіч уладкоўваецца загадчыкам Прысынкаўскай сельскай бібліятэкі, якая хутка стала вядомай ва ўсёй рэспубліцы. Неаднаразова па выніках работы перамагала ў рэспубліканскім спаборніцтве. Справы наладжваліся, і Алесь Іванавіч усё часцей звяртаўся думкамі да сваёй даваеннай мары пісаць. Сам ён лічыць, што гэта патрэба была закладзена ў яго натуры ад пачатку (Наднямонне!). Пачаў ён друкавацца яшчэ да вайны, прадоўжыў пісаць на рускай мове ў вучылішчы. Пасля вайны стаў спрабаваць сябе на роднай мове.

Алесь Іванавіч пісаў сатырычныя сцэнкі, сцэнічныя абразкі, не адмаўляўся і ад прыпевак, вершаў. Некаторыя былі змешчаны на старонках раёнкі. Потым яго заўважылі К.Крапіва і М.Клімковіч. Яны і параілі Алесю Іванавічу вучыцца далей.

Творы А.Махнача прыняла газета “Літаратура і мастацтва”. Яго п’есы, сцэнкі, камедыі, інтэрмедыі, скетчы пачалі ставіць многія самадзейныя тэатры, яны ўвайшлі ў зборнікі.

Вучоба пасля Мінскага бібліятэчнага тэхнікума прадоўжылася ў Літаратурным інстытуце імя. А.М.Горкага ў Маскве. Потым ён быў запрошаны ў Мінск для работы ў “ЛіМе”.

Зразумела, што, перажыўшы драму Другой сусветнай вайны, пісьменнік не мог не пісаць пра яе. Праўда, аб некаторых абставінах трагедыі 1941 года да часу не прынята было гаварыць. Усё ж перамены падыходзілі, наступала “адліга”. Яна вылучыла пісьменніка С.С.Смірнова.

Многія яшчэ памятаюць той час, калі людзі пасля працы спяшаліся да нешматлікіх тады тэлеэкранаў, каб паслухаць зноў і зноў гэтага трохі стомленага, але па-юнацку неўрымслівага чалавека. А ён расчыняў усё новыя і новыя старонкі вялікага ваеннага процістаяння. Менавіта ён адкрыў для краіны неўміручы подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Першымі з жывых удзельнікаў тых цяжкіх баёў ён адшукаў Самвела Матэвасяна з Ерэвана, а затым у Мінску і Алеся Махнача. Гэта было ў жніўні 1954 года. Знаёмства перарасло ў дружбу, аб якой у кватэры Алеся Іванавіча нагадваў партрэт С.С.Смірнова з надпісам: “Майму дарагому Алесю Іванавічу, герою Брэста і добраму чалавеку, якога я вельмі люблю. 25.5.64. Мінск. Ваш С.Смірноў”. Сяргея Сяргеевіча Алесь Махнач лічыў самым вялікім сваім сябрам і настаўнікам у літаратурнай працы.

С.С.Смірноў натхняў А.Махнача на мастацкае ўвасабленне неўміручага подзвігу брэсцкіх герояў. Неўзабаве з-пад пяра А.Махнача выйшаў шэраг твораў на тэму Айчыннай вайны: гераічныя драмы “Шпачок” і “Гаўрошы Брэсцкай крэпасці”, дакументальныя аповесці “Дзеці крэпасці”, “Камандзір Усходняга форта” і інш.

“Алесь Махнач прыналежыць да таго пакалення пісьменнікаў, творчы і жыццёвы шлях якіх склаўся пад уражаннем нялёгкіх, але гераічных падзей мінулай вайны. Ён як удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці не мог не напісаць суровую праўду аб юных абаронцах пагранічнай цвярдыні над Бугам”, — так пісаў пра А.Махнача Васіль Быкаў.

Творы А.Махнача вучаць: абаронцам радзімы за сваю гісторыю не сорамна, бо яны абараналі зямлю, дзяцей. Усё, што здарылася ў іх жыцці, — гэта іх нялёгкая біяграфія, ад якой яны ніколі не адракуцца.



Алесь Махнач і Сяргей Смірноў (сядзяць)
з абаронцамі Брэсцкай крэпасці

Адметнай рысай творчасці А.Махнача з’яўляюцца абярэжныя адносіны да дзяцей, асабліва ваеннага часу. Ён рашуча абвяргае, што дарослыя бяздумна ахвяравалі імі, пасылаючы на смерць. У Брэсцкай крэпасці дзяцей трымалі ў самых надзейных і абараняемых казематах. Хоць, вядома, “калі загарыцца дом, то і дзеці без справы не сядзяць”.

Сённяшнія падлеткі павінны ведаць, якімі былі іх ваенныя героі-аднагодкі. Тэма подзвігу, біяграфій бацькоў і дзядоў — непераходзячая. Яе прыніжэнне дарма не праходзіць, б’е рыкашэтам па адносінах да радзімы, роднага краю. А.Махнач адстойваў пазіцыю, што ў дзяцей павінна быць дзяцінства.

Расказваючы аб самай жорсткай вайне, А.Махнач рашуча выключае яе з жыцця, бо занадта дорага каштавалі народам дзве сусветныя вайны на працягу ўсяго паўстагоддзя. Ён падкрэслівае: не забывайце, што яны абедзве выйшлі з Заходняй Еўропы.

Сёння ж трэба не ворагаў шукаць, а сумесна ўладкоўваць нашы агульныя справы. Кепска, калі народы адгароджваюцца і не размаўляюць. Ім жыць разам, падзяляючы гора і радасць.

Асабліва ярка творчасць Алеся Іванавіча выяўляецца ў драматычных творах. Ён сам лічыць сябе перш за ўсё драматургам, а ўжо

потым публіцыстам, празаікам. А.Махнач — творца ў літаратуры, які ішоў няпростым шляхам. Ён не з тых, хто заўсёды навідавоку.

"Няхай красуе жыццё" — так назваў пісьменнік томік сваіх выбраных драматычных твораў. Яго асабісты жыццёвы шлях засведчаны скупымі радкамі ў кнізе "Пра час і пра сябе", у аўтарскай біяграфіі "З пройдзенага".

Большасць твораў Алеся Іванавіча мае строгую дакументальную аснову, у іх аўтар выяўляе сябе і выдатным даследчыкам. Ён нагадвае, што гэта цяга да пошуку, пазнання пачалася са школы, з падарожжаў па мясцінах К.Крапівы, П.Глебкі, А.Якімовіча. Пад час пошукаў здружыўся з шэрагам краязнаўцаў. Асабліва шчырыя адносіны склаліся ў яго з вядомым краязнаўцам з Навагрудчыны, аўтарам шэрагу кніг І.Урбановічам.

Найбольш значнай працай аўтара сталі нарысы "Мой Нёман", "Цячэ рэчка" і "Ля родных крыніц", змешчаныя ў часопісе "Беларусь". Нарыс "Мой Нёман" быў пазней дапоўнены і надрукаваны ў часопісе "Нёман", а пасля ўвайшоў у беларуска-літоўскі зборнік "Наш Нёман". Гэта цудоўнае няспешнае апавяданне аб нечым вельмі блізкім — аб нашым славутым Нёмане, яго вытоках, аб людзях, якія знайшлі прытулак на яго берагах, і наогул пра Бацькаўшчыну. Такое трапяткое пачуццё да роднай зямлі яму перадалося ад продкаў.

Легенды, паданні сталі сілкуючым пластом у творчасці пісьменніка. Сакавітая мова цэнтральнай Беларусі, насычанасць жыццёвымі фактамі характэрны для твораў А.Махнача.

Прадзед Алеся Іванавіча родам з Нізка, меў прозвішча Шырко. Бабуля ўмела добра спяваць, расказвала казкі. У гэты час, сведчыць пісьменнік, яе твар свяціўся нейкімі незвычайнымі светлымі промнямі. Акрамя таго, яна "выганяла" пярэпалахі, "спыняла" кроў. Калі лячыла лішай, то прыгаворвала:

Лішай, свінням мяшай!
Кінь мешаніну, сам згінь!

* * *

Ішоў лішай цераз мост.
Мост праваліўся, лішай утапіўся!

Паўплывала на творчасць пісьменніка і наднёманская прырода — лагодная і паэтычная. Алесь Іванавіч лічыць, што Наднямонне — месца найболей яркага ўвасаблення беларускіх традыцый, бо сюды менш за ўсё пранікалі заходнія і ўсходнія ўплывы.

Уяўленні аб навакольным свеце ў Алеся Іванавіча ў многім ад продкаў. Пра звычай пакланення Сонцу, якое на Івана Купалу "гуляе". Нельга таму казаць нешта кепскае пра Сонца. Гэта грэх. Ад Сонца і агонь. На агонь нельга пляваць. У продкаў было нямала маральных норм, якія ўстанаўліваліся праз розныя пагаворкі, прыслоўі. "Не гавары кепска, бо карова ў балоце загразне", "Абувайся з левай нагі — зубы балець не будуць", "Жабу не бяры ў рукі — будзеш рабы", "Гнёздаў не бурь́ — будзеш, зноў жа, рабы"…

Алесь Іванавіч увесь час шукае, спрабуе пераасэнсаваць вядомае. У прыватнасці, асобу Фадзея Булгарына, які нарадзіўся на Уздзеншчыне. Тут па яго звестках прайшла частка жыцця і Тамаша Зана. Ён ахвотна дзяліўся сваімі знаходкамі, абы толькі гэта ішло на карысць людзям.

У сваёй апошняй аповесці Алесь Іванавіч піша: "Чацвёрты дзесятак гадоў жыву ў горадзе, але заўсёды мне сніцца родная вёска, яе тагачасная прырода, людзі. Дагэтуль, як з крыніцы, чэрпаю адтуль многія тэмы для сваіх твораў. У Забалацці, Світалаўцы, Прысынку, Бярвішчах, што ўваходзілі ў наш Прысынкаўскі сельсавет, жылі і жывуць людзі, якія сталі правобразамі герояў п'ес, камедый…". Вось адкуль яго вытокі, адносіны да роднай зямлі.

Зямлю пісьменнік лічыць асновай усяго, вытокам нашага багацця і дабрабыту, нават маральнай катэгорыяй. Ад яе нельга адрывацца. Яе не след перадаваць прышэльцу, бо на ёй жылі нашы продкі, якім яна была дарагой. Зямля не падлягае продажу, яе лепей здаваць у арэнду і толькі тую, якую самі апрацаваць не ў сілах. Няхай арандатары паступова ўкараняюцца і пакажуць сябе. У кожнай гаспадарцы зямля павінна быць ацэнена і падзелена на паі. Выйшаў з гаспадаркі — бяры сваю долю зямлі. Не след забываць горкі і павучальны вопыт, калі за зямлю ці якую мяжу брат ішоў на брата. Сёння зямля патрабуе дапамогі. Школа, грамадства павінны з дзяцінства прывіваць любоў і пашану да зямлі, з першых крокаў прывязваць да яе чалавека. Горад жа толькі нявечыць зямлю.

У Алеся Іванавіча было надзіва многа сяброў, асабліва сярод землякоў, сярод творчых людзей — В.Быкаў, А.Карпюк. Сярод

расійскіх пісьменнікаў — С.Баруздзін, Б.Васільеў, В.Распуцін і шмат яшчэ хто. Ён сябраваў з С.Шушкевічам-старэйшым, быў у добрых адносінах з Я.Еўтушэнкам. Гэта пераважна людзі, якія не пакланяюцца кан'юнктуры, маюць свой твар. Магчыма, іх збліжалі і аб'ядноўвалі перанесеныя ў жыцці выпрабаванні.

Асабліва цёплыя ўспаміны ў А.Махнача аб К.Паўстоўскім. Некалі пісьменнік, па трапнаму выразу Алеся Іванавіча — "паэт у прозе", выкладаў у літаратурным інстытуце імя М.Горкага. Затым па нейкай нязгодзе К.Паўстоўскага выдалілі з інстытута. Потым яны не раз сустракаліся, працавалі разам. Канстанцін Георгіевіч апякаў Алеся Іванавіча.

Аб грамадскай дзейнасці Алеся Іванавіча нагадвае пералік былых пасад у шэрагу арганізацый: Беларускага рэспубліканскага савета ветэранаў вайны, Таварыства па культурных сувязях "СССР—Алжыр". Ён быў абраны членам саветаў, камісій і калегій. Усюды патрэбна была яго мудрая, разважлівая парада. Ён трымаў перапіску з аднапалчанамі, якіх, на жаль, усё менела, дапамагаў аматарам-пошукаўцам, музеям.

Кватэра пісьменніка нагадвала экспазіцыю музея — столькі тут было сувеніраў. Так адзначаны сустрэчы і баявыя заслугі мужнага абаронца Брэсцкай крэпасці. Па іх можна прасачыць геаграфію яго ўкладу ў справу вызвалення народаў Еўропы і ўсяго свету.

Творы пісьменніка выдадзены ў большасці рэспублік былога Саюза. Асабліва ён ушаноўваўся ў Украіне. Выходзілі яго кнігі на Кубе, у Польшчы, Балгарыі. Драматычныя творы Алеся Іванавіча ішлі ў многіх таэтрах. У Беларусі яны ўпершыню прайшлі ў Гомельскім абласным драматычным тэатры. А вось на Украіне яго драмы ставілі болей за дзесяць тэатраў: у Львове, Данецку, Запарожжы, Луганску, Івана-Франкоўску, Цярнопалі, Вінніцы, Палтаве і інш. Львоўскі драмтэатр "Гаўрошаў Брэсцкай крэпасці" ставіў звыш 300 разоў!

Алесь Іванавіч Махнач заслужаны дзеяч культуры Беларусі, кавалер шэрагу баявых і працоўных узнагарод.

Сам ён, скалечаны вайной, меў патрэбу ў дапамозе. Але якраз з ёю спяшаўся ўсё сваё жыццё да іншых. Падтрымліваў моладзь, пачынаючых паэтаў і пісьменнікаў. Вельмі паважаў сельскую інтэлігенцыю, з якой выйшаў сам, у першую чаргу настаўнікаў, суп-




рацоўнікаў устаноў культуры, сельскіх бібліятэк. Неаднойчы запрашаў і мяне на цікавыя і павучальныя сустрэчы.

На збегу сваіх дзён Алесь Іванавіч аддаваў сябе справе краязнаўства. Такога руплівага і кваліфікаванага архівіста, як ён, цяжка ўявіць. Матэрыялы быццам ішлі да яго самі. Уся яго творчасць адметна сваёй строгай дакументальнасцю.

Алеся Іванавіча лашчыла прыцягальная і гаючая наднёманская прырода. За краязнаўчыя нарысы пра Нёман ён стаў лаўрэатам прэмій часопісаў. Ніхто не мог лепей за яго ўславіць нёманскія вытокі.

Алесь Іванавіч заставаўся ўсё жыццё ўлюбёным у сваю родную Уздзеншчыну. Яго прыцягвалі яе мужныя, таленавітыя і працавітыя людзі. У 1998 годзе выйшаў зборнік яго нарысаў пра слынных землякоў з вёскі Нізок.

І вось яго апошні твор-зборнік пра родную вёску Забалацце ў серыі “Ведаць свой край Беларусь”. Над ім Алесь Іванавіч працаваў доўга і старанна. У яго ўключана адзінаццаць асобных нарысаў.

За турботамі пра забалацкую кніжку ён і сканаў 8 жніўня 2001 года, не дажыўшы аднаго года да свайго васьмідзесяцігоддзя.

Пасля адпявання ва ўзноўленай забалацкай могілкавай цэркаўцы, ён знайшоў вечны супакой сярод дарагіх яму продкаў і аднавяскоўцаў. Абярнулася і яго кола жыцця.

Кніжка “Забалацце” выйшла намаганнямі прыхільнікаў творчасці Алеся Махнача ў 2004 годзе.

Творчасць выдатнага мастака, грамадзяніна, высакароднага і проста прыгожага чалавека Алеся Іванавіча Махнача будзе патрэбна не толькі тым, хто яго ведаў і любіць. Яна для будучыні.

Для ўсіх нас Алесь Іванавіч на доўгія гады стаў у поўным сэнсе старэйшынам. Не займаючы ніякіх афіцыйных пасад, ён заслужана карыстаўся правам апошняга голасу пры вырашэнні надзённых раённых спраў.



# СЦВЕРДЖАНЫЯ ІМЁНЫ

Уздзеншчына, як і ўсё Наднямонне, спрадвеку багата не толькі сваімі матэрыяльнымі каштоўнасцямі, але і значнымі культурнымі здабыткамі. Яна прыцягвала да сябе ўвагу этнографаў, географаў, фальклярыстаў, славістаў. Тым дзесяцігоддзямі вядома і слаўна. Культурнае багацце народа мела ў сваю чаргу і матэрыяльнае ўвасабленне.

Так і выхадцы з Уздзеншчыны — паэты, пісьменнікі, драматургі, акцёры сфарміравалі яе стойкі вобраз як “Беларускага Парнаса”. Яе культурны асяродак заявіў сябе шырока і ў навуковай сферы, спорце, самадзейнай творчасці. Уздзенцаў характарызуе выдатнае разуменне жыцця ва ўсіх яго праявах, засваенне тонкасцей і сакрэтаў творчага працэса, прыроджаная інтэлігентнасць.

Такой адметнасцю асабліва вылучаюцца паслярэвалюцыйны і пасляваенны часы. Гэту адоранасць Наднямоння аднолькава востра ўспрыймалі як самі творцы, так і простыя людзі.

Вось і мы ў першае выданне кнігі “Пуцявінамі Наднямоння” ўвялі некалькі тады не вельмі тады вядомых асоб з надзеяй, што яны абагацяць культурнае жыццё нашага краю, нададуць яму дадатковую вядомасць і аўтарытэт.

За прайшоўшыя 15 гадоў постаці нашых землякоў, прафесароў Якуба Наркевіча-Ёдкі і Уладзіміра Завітневіча сталі вядомыя не толькі ў нашым краі, але і далёка за яго межамі.

Болей таго, з выхадам у свет манаграфічных навукова-папулярных даследаванняў, яны атрымалі новае самастойнае жыццё, у многім цяпер незалежнае ад нас. Яшчэ і яшчэ мы атрымоўваем доказы таму, што наша зямля бясконца багата талентамі, неардынарнымі людзьмі. Іх толькі трэба настойліва шукаць, ім трэба следаваць. Праз іх справы мы ўсталёўваем так неабходную пераемнасць пакаленняў. Перакідваем ад мінулага ў сучаснасць повязь часоў і падзей. Ідэі першага з іх, цвёрдага матэрыяліста Якуба Наркеві-

ча-Ёдкі, і другога, духоўнага мысліцеля Уладзіміра Завітневіча, не згубілі сваёй актуальнасці і ў наш час. Яны перадаюць нам на зберажэнне і выкарыстанне адвечныя каштоўнасці, выступаюць для творчай часткі нашага грамадства настаўнікамі.

Першая з кніжак “Парадоксы “электрического человека” рыхтавалася пры актыўным саўдзеле навуковых інстытутаў Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, Беларускага фізічнага таварыства, калектыва Навуковай бібліятэкі НАН Беларусі. Да стварэння і кваліфікацыі кнігі далучыўся і прафесарскі састаў Ваеннай Акадэміі Рэспублікі Беларусь, вучоныя Беларускай Акадэміі медыцынскіх навук і іншыя аўтарытэтныя спецыялісты. Пра іх падрабязна гаворыцца ў кнізе. Імі пацверджана, што ў галіне газаразраднай плазмы, фізіятэрапіі, інтэгральнай медыцыны, радыёсувязі вучоны з Наднямоння выступае ў пэўным сэнсе нашым сучаснікам. Яго ідэі пакуль не вычарпалі сябе. Таму яго працы ўключаюцца ў даведнікі, энцыклапедыі, вучэбныя дапаможнікі, школьныя і інстытуцкія праграмы.

Манаграфія “Исследователь внимательный и трудолюбивый” пра прафесара Кіеўскай Духоўнай акадэміі Уладзіміра Завітневіча не магла быць падрыхтавана і выдадзена без сталай і кваліфікаванай дапамогі супрацоўнікаў Мінскага Епархіяльнага ўпраўлення, Кіеўскай Духоўнай акадэміі, без благаславення мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

Дапамагалі нам у распрацоўцы і станаўленні гэтых асоб архіўныя і бібліятэчныя ўстановы Санкт-Пецярбурга, Масквы, Кіева, Мінска, замежныя карэспандэнты.

Абедзве кнігі акрамя навуковага выкладання, усебаковага бібліяграфічнага падмацавання пры храналагічным падыходзе ў раскрыцці этапаў творчай дзейнасці героя ў, маюць дадаткі з дакументаў, твораў і публікацый. На іх прыкладзе адпрацаваны структурна-архітэктанічны метад падрыхтоўкі падобных твораў у далейшым.

Кнігі акрамя рассылкі па абавязковаму спісу ў межах рэспублікі перададзены аўтарам за мяжу — у ФРГ, Англію, ЗША, у бібліятэкі і архівы Кіева, Санкт-Пецярбурга, Масквы, Мінска, персанальна многім асобам. Атрыманы дадатныя рэцэнзіі і навуковыя заключэнні.

Кнігі прайшлі працэдуру прэзентацый. Першая з іх адбылася ў чэрвені 2007 года ва Уздзе і вёсцы Ліцвяны, дзе Высокапраасвяшчэннейшы Уладыка Філарэт асвяціў паклонны крыж на месцы былой царквы, у якой служыў святаром бацька Уладзіміра Завітневіча і дзе ён нарадзіўся сам. Тут, у мясцовай школе Уладыка даў благаславенне навукова-практычнай канферэнцыі з выпадку выхаду кніг, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі ўздзенскай і мінскай інтэлігенцыі. Далей яна мела працяг на былой сядзібе “Над-Нёман” Якуба Наркевіча-Ёдкі.

Чарговая прэзентацыя была праведзена Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэкай пад дэвізам “Беларускія імёны ў сусветнай навуцы” 29 чэрвеня 2007 года і праходзіла пад эгідай дзяржкамітэта па навуцы і тэхналогіях Рэспублікі Беларусь. Яна распачала спіс беларускіх вучоных імем Якуба Наркевіча-Ёдкі і атрымала шырокі водгук у сродках масавай інфармацыі.

І, нарэшце, прадстаўленне кніг у Навуковай бібліятэцы імя Я.Коласа НАН Беларусі 3 кастрычніка 2007 года. Яно прайшло пры самым высокім навуковым удзеле ад Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, Ваеннай Акадэміі РБ, Беларускай Акадэміі медыцынскіх навук. Прысутнічалі нашчадкі вучонага Я.Наркевіча-Ёдкі, прадстаўнікі Мінскага Епархіяльнага ўпраўлення, Беларускага фізічнага таварыства, Беларускага Фонда культуры, госці з іншых гарадоў. Ад Фізічнага таварыства прагучала прапанова перавыдаць кніжку пра Я.Наркевіча-Ёдку ў перакладзе на англійскую мову.

Асабліва прыязную рэакцыю выклікаў падрыхтаваны намі і выдадзены ў 2008 годзе ў друкарні АДА “Друк — С” каляровы буклет “Я.А.Наркевіч-Ёдка ў творах мастакоў і фотамайстроў”. Яго карыстальнікі аднадушна адзначаюць падачу ў ім відэарада дакументальных матэрыялаў, як адпавядаючай патрэбам часу і дадаткова раскрываючай асобу вучонага.

І, нарэшце, да 80-годдзя з дня заснавання НАН Беларусі атрымаў новае жыццё акадэмічны Музей гісторыі беларускай навукі. У ім на самым пачатку экспазіцыі атрымала ганаровае месца і асоба нашага славутага земляка.

У знак вялікага ўклада Якуба Наркевіча-Ёдкі ў развіццё ў нашым краі гідраметэаралогіі дэпартаментам па гідраметэаралогіі міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы акаляючага асяроддзя




Рэспублікі Беларусь цяпер разглядаецца прапанова аб наданні імя Я.Наркевіча-Ёдкі ўзводзімай каля Мінска буйной сучаснай метэаралагічнай станцыі.

Дадатная ацэнка спраў герояў узгаданых вышэй кніг выцякае перш за ўсё са значнага іх асабістага ўклада, не пабаімся сказаць, у сусветную навуку і культуру.

Немалаважна і тое, што ў працэсе ўзвышэння амаль невядомых да гэтага наднямонцаў была абыйдзена намі спакуса выкарыстаць прыёмы распаўсюджанага цяпер дзіджэйства з яго пошлым дэвізам "забаўляючы — навучаць".

Зыходзячы з вышэй сказанага, мы палічылі неабавязковым паўтараць ранейшыя матэрылы пра Я.Наркевіча-Ёдку і У.Завітневіча ў раздзеле "Абразкі з Наднямоння" гэтай кнігі. Абмяжуемся толькі некаторымі новымі звесткамі.

## НАРКЕВІЧЫ-ЁДКІ І ІХ РОД

Даследаванні рода Наркевічаў-Ёдкаў працягваліся. З кнігі Яна Цехановіча "Роды рыцарскія Вялікага княжаства Літоўскага" выцякае, што ён быў стагоддзямі вядомы ў Вялікім княжастве Літоўскім і на Русі. У прыватнасці: "1471 год. Станіслаў Іосіфавіч Ёдкавіч, зяць Катаржыны Мартусавай; 1528 год. Ёдка Савічавіч з ваўкавы-

скіх баяраў у акце Вялікага княжаства Літоўскага; Ян, баярын яго каралеўскай міласці Андрэй Міхайлавіч Ёдка, землеўладальнік Лідскага і Ашмянскага паветаў, яго жонка Малгажата Пятроўна. Іосіф Антоній Ёдка, падкаморы лідскі, староста дзісненскі, дэпутат трыбунальскі, 1757".

У XIX ст. Ёдкі валодалі маёнткамі Гіркі ў Лідскім павеце. У 1845 годзе віленская герольдыя пацвердзіла старадаўнюю шляхецкую прыналежнасць пражываючых у Лідскім павеце Андрэя, Рафаіла Іосіфава, Ігнація, Іосіфа, Карла, Марціна, Аўгусціна, Аляксандра, Станіслава, Каспера і другіх Ёдкаў.

З цягам часу члены гэтага рода аселі ў многіх паветах Віленскага, Гродненскага, Ковенскага ваяводстваў, а таксама ў іншых правінцыях Рэчы Паспалітай. І.А.Гільзен у сачыненні "Инфлянты" (Вільна, 1750, т. II, с. 19) сцвярджаў: "Ёдкі. Старадаўняе іх седлішча ў Лідскім павеце, дзякуючы шлюбам зацвердзіліся ў Інфлянтах".

У развіццё тэмы рода Наркевіча-Ёдкаў выспеў яшчэ адзін доследны матэрыял "Адкуль ёсць пайшла ў Мінску Ёдкаўская вуліца?".

Паводле дадзеных Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі намі ў пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя было адпрацавана генеалагічнае дрэва рода Наркевічаў-Ёдкаў, якое ўключала ў свае разгалінаванні да 200 імёнаў.

Да таго ж у нашых руках аказаўся не зусім ясны факт набыцця Ануфрам Наркевічам-Ёдкам у 1817 годзе праз падстаўную асобу — сяльчаніна Паўла Грушэўскага — ва ўладальніка маёнтка Цна пад Мінскам Талочкі 365 дзесяцін зямлі.

У наступным маёнтак атрымаў найменне Цна-Ёдкава ў гонар яго новага ўладальніка, з якім і ўвайшоў у "Кароткі тапанімічны слоўнік Беларусі" (Мінск, 1974). Назва гідроніма — рачулкі, што пачынаецца ў гэтых месцах, перайшла і на паселішчы Цна, Цнянка, Цна-Ёдкава.*

---

*Распрацоўшчык слоўніка В.А.Жучкевіч шукае тлумачэнне паходжання гэтых назваў у славянскім дзесна (правая) з трансфармацыяй яе ў дсна і далей цна. З пярэчанняў яго апанентаў вынікала, што ў рэальнасці прытокі ракі Цна амаль заўсёды левыя.

Гісторык-аматар з вёскі Забалацце Уздзенскага раёна Ф.П.Бельскі, які, дарэчы. перапісваўся з В.А.Жучкевічам па пытаннях тапанімікі беларускіх рэк, тлумачыў гэту неадпаведнасць у залежнасці ад таго, адкуль прыходзілі і куды затым перамяшчаліся па рэках першыя асвайвальнікі водных шляхоў і прылеглых да іх тэрыторый — ад вусця да вытока ці наадварот.

Паколькі праславянскія плямёны на нашы землі прыйшлі з поўдня па рэках ад іх вусцяў, то і рэчкі Цна, Дзесна выступалі на шляху іх перамяшэчння менавіта правымі прытокамі. Цяпер бок прытокаў вызначаецца толькі па арыентацыі ад вытока.

Паводле атрыманай намі ў 2006 годзе інфармацыі ад супрацоўніка Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, доктара фізіка-матэматычных навук У.С.Паўловіча ў вёсцы Цна па ініцыятыве мясцовых жыхароў рыхтавалася перайменаванне асноўнай яе вуліцы Рабочай у Ёдкаўскую. На карце Мінска 2007 года выдання Ёдкаўская вуліца ўжо нанесена і залічана ў спіс 1230 вуліц і завулкаў горада.* У прыкладзеным да карты пераліку вуліц значыцца і невыяўлены пакуль Ёдкаўскі завулак.

Такім чынам інфармацыйны бок звестак пра вёску Цна-Ёдкава і яе ўладальніка перайшоў у новую фазу і запатрабаваў дадатковых даследаванняў. Мы звярнуліся да грамадскага дырэктара створанага пры Мінскай гімназіі № 23 музея Савецкага раёна г. Мінска Г.С.Сасноўскай. З яе кампетэнтных тлумачэнняў выходзіла, што пасля маштабнай рэканструкцыі Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі вёска Цна апынулася ўнутры яе кальца на паўночным адрэзку дарогі.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 красавіка 2004 года вёска Цна перададзена разам з іншымі паселішчамі ў адміністрацыйнае падпарадкаванне Мінскіх гарадскіх Саветаў дэпутатаў і Выканаўчага камітэта.

Сярод пералічаных ва Указе вёсак, апроч Цны, перададзена гораду частка вёскі Цнянка. Тэрытарыяльна вёска Цна ўвайшла ў

---

*Яшчэ 7 кастрычніка 1993 года рашэннем мясцовых улад адна з новых вуліц тады гарадскога пасёлка (цяпер горада) Узда пайменавана імем вучонага Якуба Наркевіча-Ёдкі.

склад Савецкага раёна г. Мінска. Пры гэтым былы тапонім Цна-Ёдкава атрымаў найменне Цны.*

Для ўдакладнення асобы Ануфрыя Наркевіча-Ёдкі мы звярнуліся да радавода Наркевіча-Ёдкаў.**

Ануфры Мацвееў Наркевіч-Ёдка — дзед нашага, цяпер дастаткова вядомага дарэвалюцыйнага вучонага ў галіне атмасфернай электрычнасці, урача, прафесара электраграфіі і магнетызму Якуба Атонавіча Наркевіча-Ёдкі (1847—1905).

Родавыя дакументы сведчаць, што акрамя набытага маёнтка Цна, 6 гадамі пазней, у 1823 годзе, Ануфры Наркевіч-Ёдка выкупіў і сабе ў нясвіжскіх ардынатаў Радзівілаў фальварак Малыскаўшчына з 4500 дзесяцінамі зямлі, пераўтвораны потым у цэнтральную сядзібу маёнтка "Над-Нёман" на вытоку ракі Нёман.

Тое ж радаводнае дрэва паказала, што ў новага ўладальніка Цны, бацькі згаданага вышэй Рудольфа, Антонія Наркевіча-Ёдкі і Ануфра Наркевіча-Ёдкі быў агульны продак — прапрадзед Ілля, які некалі служыў у Наваградскім ваяводстве.

Польскія гербоўнікі сведчаць, што род Наркевічаў-Ёдкаў (Ёдкаў)*** у Беларусі пачаў рассяляцца з Лідскага павета. Род валодаў тады размешчанымі пад Навагрудкам маёнткамі Лапушня, Кусцін, Лагадкі, Моладава і інш. Верагодней за ўсё, Ануфры Наркевіч-Ёдка сам быў з былых уладальнікаў аднаго з гэтых маёнткаў.

У карысць гэтай версіі сведчыць падарожжа, здзейсненае нашчадкамі гэтага рода з ЗША на Навагрудчыну ў канцы 80-х гадоў XX стагоддзя. Спецыяліст у галіне архітэктуры і дызайна Хрысціян К.Наркевіч-Лейн і яго маці Шарлота Наркевіч-Лейн наведалі вёску Лапушня. Завіталі ў родавую каплічку і пасмуткавалі, што з яе знікла памінальная дошка, якая тут знаходзілася з выпадку заўчаснай смерці 15-гадовай прадстаўніцы рода. Шарлота ў маладосці ад'ехала за мяжу і выйшла там замуж за фіна Лейна. Цяпер яна ўжо адыйшла ў свет лепшы.

---

*Минский курьер, № 71, 15 красавіка 2004 г. Гл. прыкладзены фрагмент карты Мінска.

**Гл. фрагмент радаводнага дрэва.

***У сваім пераходзе па спадчыне прозвішча Наркевічаў-Ёдкаў нярэдка губляла ў паўсядзённым звароце і ўжыцці прыдомак "Наркевіч" і часцей гучала сваёй карэннай часткай "Ёдка".



Фрагмент радавода Наркевічаў-Ёдкаў
Илья
Василий
Доминик-Данила
Матвей
Петр
Онуфрий
Антон(ий)
Оттон-Антон
Рудольф
род. 12.09.1841
Цна
поступал
в университет
Леонард
род. 6.01.1847
Вятка
учился в университете.
В 1897 г. уже не жил
Северин
род. 18.03.1833
ум. 13.08. 1884
уроч. Дичь (Куропаты)
Подпоручик,
герой севастопольского
сражения
Яков-Сармат-Сигизмунд
Ванда
– представители одних поколений



Хрысціян Наркевіч-Лейн і Уладзімір Самуйлаў (злева)
на выставе ў Нью-Йорку

Нядаўна ў суседняй з Лапушняй вёсцы на адным з гарышчаў была выяўлена тая самая памінальная дошка. Яе прынёс у Навагрудскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей мясцовы жыхар. Пра гэта здарэнне было даведзена да старшыні Беларускага фонда культуры У.А.Гілепа і мы па двух розных каналах перадалі гэту навіну ў Чыкага нашчадку рода Хрысціяну Наркевічу-Лейну для прыняцця ім адпаведнага рашэння пра далейшае выкарыстанне дошкі. Гэта знаходка таксама пацвярджае наваградскія карані мінскіх прадстаўнікоў рода Наркевічаў-Ёдкаў.

Цяпер паспрабуем разабрацца ў магчымых прычынах узнікнення камбінацыі з падстаўной асобай. Мяркуючы па ўсім, у тую пару фактычна гаспадар Цны знаходзіўся далёка за яе межамі. Да гэтай пакупкі за ім лічылася толькі 235 дзесяцін нетраў урочышча з характэрнай назвай Дзіч, якое знаходзілася побач. Было ўдакладнена, што сёння гэта месца сумна вядомае як Курапаты.

Далучэнне ў 1817 годзе да ўрочышча Дзіч яшчэ і вёскі Цна з 365 дзесяцінамі пераважна ворнай і сенажатнай зямель была для яго ўладальніка істотнай прыбаўкай. Не выключана, што яна афар-

млялася нават не на самога Антонія (ён быў у той час яшчэ малалетні), а на яго бацьку Пятра і толькі затым перайшла ў валоданне Антонія. Таму маюцца некаторыя ўскосныя пацвярджэнні.

Ануфры Наркевіч-Ёдка слыў антырускім, прапольскі настроеным чалавекам і пры ўсякай магчымасці пацвярджаў гэта справамі. Пасля паўстання 1831—1832 гадоў ён, маршалак (прадвадзіцель дваранства) Ігуменскага павета, за садзеянне паўстанцам быў зняволены да канца дзён сваіх у межах маёнтка "Над-Нёман" без права пакідаць яго. Магчыма, Пётр і сын яго Антоній Наркевічы-Ёдкі таксама не пазбеглі адказнасці за ўдзел у паўстанні.

Сын Антонія Леанард нарадзіўся ў 1847 годзе ў Вятцы, што сведчыць пра новую магчымую ссылку бацькі за дачыненне яго да паўстання 1931 года. А тым, хто саўдзельнічаў у антыдзяржаўнай дзейнасці, абмяжоўваліся здзелкі з нерухомасцю.

Зразумела, гэта ўсяго толькі версія абставін набыцця маёнтка Цна.

Значна пазней здзелка 1817 года была легалізавана паасобнымі падзельнымі актамі і маёнтак Цна перайшоў у валоданне Рудольфа Ёдкі. Урочышча Дзіч было перададзена старэйшаму сыну Антонія Севярыну, падпаручніку, герою Севастопальскай бітвы.

Мы наведалі сённяшнюю вёску Цна. Ёсць у ёй вуліца Ёдкаўская, выразна вызначаная вулічнымі і дамовымі ўказальнікамі. Маладыя яе насельнікі тлучамаць назву, дружна апеліруючы да імя вучонага, прафесара Якуба Атонавіча Наркевіча-Ёдкі. У старэйшых гэта найменне асацыіруецца з імёнамі карэнных уладальнікаў маёнтка Цна.

Дасталася нам яшчэ адна своеасаблівая трактоўка асобы Антонія Ёдкі ў варыянце самадзейнага даследчыка Яўгена Лявонцьевіча Етчыка. Нам давялося ў далёкай маладосці супрацоўнічасць з ім у энергаслужбе Трамвайна-тралейбуснага ўпраўлення г. Мінска. Працуючы дзяжурным цягавай электрападстанцыі Я.Л.Етчык меў пэўны свабодны час, які выкарыстоўваў для апрацоўкі сваіх арыгінальных і вельмі займальных матэрыялаў. Яго заметкі-карацелькі на працягу многіх гадоў друкавала "Советская Белоруссия", грамадскім карэспандэнтам якой ён выступаў. Яўген Лявонцьевіч умеў "зачэпкі" ад жыцця, з вусных крыніц паглыбляць, развіваць і дапаўняць дадзенымі архіваў і бібліятэк. Нажаль, яго ўжо няма сярод нас.

Публікацыя Я.Л.Етчыка “Цнянскі дэмакрат”* пра Антона Ёдку міжволі вяртае нас да нашай тэмы. У ёй паведаецца, што ў сярэдзіне XIX стагоддзя Антон Ёдка са сваімі аднадумцамі ездзіў у Санкт-Пецярбург “угаварваць” царскія ўлады адмяніць прыгоннае права. Пасля вяртання “мінскай дэпутацыі” дамоў Антон, да гэтага ісцінны каталік, прыняў праваслаўе і пабудаваў у ваколіцах Цны дзве праваслаўныя царквы.

Паводле нашых меркаванняў, гэта паездка мела на мэце зусім не патрабаванне адмены прыгоннага права. Гэта пытанне ў сярэдзіне XIX стагоддзя ўжо было прадвырашана. Дзейнічаў сакрэтны падрыхтоўчы камітэт па сялянскай рэформе. На месцах падрыхтоўка рэформы праходзіла праз створаныя ў 1858 годзе дваранскія губернскія камітэты. Паездка насіла хутчэй за ўсё разведчы папераджальны характар па ўдакладненні зместу гэтых рэформ. Землеўладальнікаў асабліва турбавалі пытанні бескампенсацыйнага вызвалення дармовай да гэтага вытворчай сілы — іх прыгонных сялян і памер пакідаемай за памешчыкамі зямлі. У наступным неблагапрыемнае вырашэнне гэтых праблем выклікала ў іх асяродку, у першую чаргу землеўладальнікаў польскага паходжання, паўстанне пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага, якое дзіўным чынам, сваёй галоўнай задачай паставіла вызваленне сялян з-пад прыгону. Перадача ж памешчыцкіх зямель у валоданне сялян і рэзкае абмежаванне іх плошчаў у распараджэнні памешчыкаў — не з’яўляюцца вынікам паўстання 1863—1864 гадоў, а вынікам планамернай адмены царскім урадам прыгоннага права, рэалізацыі на справе сялянскай рэформы 1861 года. Паездка дэпутацыі мясцовых землеўладальнікаў у Санкт-Пецярбург стала запозненай спробай празандзіраваць болей прыдатныя для памешчыкаў умовы распрыгоньвання сялян. А для цнянскіх Ёдкаў трэба было яшчэ і благапрыемна прадвырашыць выкарыстанне па спадчыне нашчадкамі набытых не зусім ясным шляхам у 1817 годзе цнянскіх земляў. Вось тады, відаць, настойліва парэкамендавалі ў Санкт-Пецярбургу каталіцкім землеўладальнікам зрабіць у карысць праваслаўя такі шчодры жэст.

Ва ўсякім выпадку і да гэтага і пасля вяртання, ніхто з Ёдкаў не дамагаўся заўчаснай раздачы сваіх земляў, як гэта выцякала з

---

*Памяць, горад Мінск, кн. 2. С. 503—506.

публікацыі Я.Л.Етчыка. Калі б такая ініцыятыва ўзнікла, ёй ніхто б і не перашкаджаў. На такі крок не рашыўся і Антон Ёдка. Да 25 мая 1865 года, часу афармлення раздзельных актаў, усе землі ўладальніка былі ў поўнай наяўнасці, цэласці і захаванасці. Завяшчанне старэйшаму сыну Рудольфу (дакладней сярэдняму, 1841 года нараджэння) перададзены ўсё тыя ж 365 дзесяцін зямлі, Севярыну дасталіся 235 дзесяцін былога бацькаўскага ўрочышча Дзіч. Наўрад ці пасля гэтага мела сэнс (паводле Я.Л.Етчыка) частка завяшчання 1865 года Антонія Ёдкі з патрабаваннем абавязковай перадачы сынамі зямель у валоданне сялян.

Праз чвэрць стагоддзя, у 90-х гадах XIX стагоддзя, у Рудольфа Ёдкі заставалася ўсяго 30 дзесяцін, а ў Севярына (памёр у 1884 годзе) і таго менш — 20 дзесяцін, г. зн. у 3 разы менш дапусцімай адной трэці ад былой яе колькасці. Вось гэта розніца паміж абавязковымі для раздачы сялянам дзвюма трэцямі землеўладанняў ад памераў ранейшага надзела памешчыка, відаць, і была прымусова перададзена сялянам, ці як тады яшчэ практыкавалася, прададзена сялянскім багацеям. Але гэту негоцыю праводзіў ужо не “цнянскі дэмакрат” Антон Ёдка, а яго дзеці Рудольф і Севярын. Сын Леанард у падзеле маёнтка не ўдзельнічаў.

За перадаваемую сялянам зямлю памешчыкі атрымлівалі ад дзяржавы неадкладна выкупную кампенсацыю. Дзяржава ж папаўняла гэтыя траты выплатамі сялян за атрыманую ў растэрміноўку зямлю. У рэшце рэшт у крайніх засталася дзяржава: у 1905 годзе кампенсацыйныя растэрміноўкі былі адменены.

...У канцы XIX ст. на старонках мінскіх газет з’явіліся ў суправаджэнні гравюр аб’явы “Новы панскі дом з усімі зручнасцямі”. З подпісу да іх вынікала: “Прадаецца ці здаецца ў арэнду маёнтак Цна ў пяці вярстах ад гор. Мінска (паўгадзіны язды), 40 дзесяцін, што заняты лесам, паркам, пладовымі і ягадным садамі, цяпліцамі, сенажаццю і ворнай зямлёй. Мясцовасць прыгожая і здаровая, вельмі зручная для невялікай фермерскай гаспадаркі”.

У наступным панскі аднапавярховы драўляны дом быў аддадзены пад школу. У 60-я гады XX ст. ён згарэў. Дзеткі з вёскі Цна цяпер ездзяць у гарадскія школы Мінска.

Пры дапрацоўцы раздзела “Сцверджаныя імёны” да нас дазваніўся настаўнік Слабада-Пырашаўскай базавай школы-сада Сяр-

гей Уладзіміравіч Мацкевіч і паведаміў, што ім і яго вучнямі адкрыты новыя прадстаўнікі рода Наркевічаў-Ёдкаў, валодаўшыя ў сярэдзіне XIX стагоддзя Слабадой Пырашаўскай.

Па атрыманых з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі звестках уладальнікам Слабады Пырашаўскай у сярэдзіне XIX стагоддзя быў Віктар Антонавіч Наркевіч-Ёдка. Ён меў трох дачок: Эстэлу-Баніфацыю-Антаніну, 1835 года нараджэння; Аліну (у шлюбе Лапо) і Амелію (у шлюбе Грыцкевіч).

Калі намі была ўдакладнена адпаведнасць інфармацыі родаваму дрэву рода Наркевічаў-Ёдкаў, то яна поўнасцю ўпісалася ў радавод. Што важна — мужам Эстэлы быў падпалкоўнік расійскай арміі Зас Карнелій Карнелевіч, адзін з камандзіраў расійскага антырэвалюцыйнага пахода 1849 года ў Аўстрыю і Венгрыю. Жыццё К.К.Заса завяршылася ў Слабадзе Пырашаўскай і ён пахаваны на могілках у Загоршчыне ля былой сядзібы Булгарыных. Да гэтага часу пра яго геройства ходзяць легенды.

Вельмі добра, што да справы ўшанавання нашых продкаў далучаюцца і школьнікі. Яны шырока выкарыстоўваюць у пошуках “сусветнае павуцінне”, лепей нас выкарыстоўваюць сучасныя прыёмы даследаванняў.

З нагоды выхаду ў свет нашай кнігі “Парадоксы “электрического человека» газета “СБ. Беларусь сегодня” прыняла для публікацыі матэрыял пра героя кнігі Якуба Атонавіча Наркевіча-Ёдку. Далей нам давялося супрацоўнічаць з Адамам Восіпавічам Мальдзісам, нашым вядомым літаратуразнаўцам і крытыкам, доктарам філалагічных навук, прафесарам. Цяпер у гэтай газеце ён вядзе рубрыку “Суайчыннікі”.

Матэрыял, яго афармленне і падача не задаволілі вучонага і ён узяў на сябе працу па яго папраўцы, мала чаго пакінуў ад прапанаванага варыянта, дастасуючы яго да нагоды 160-годдзя з дня нараджэння нашага земляка. Як чалавек вельмі пунктуальны і педантычны, ён крытычна выверыў кожную дату, кожны факт. Перш за ўсё ён звярнуўся да фактуры, выкладзенай у кнізе, праверыў энцыклапедычныя дадзеныя, знайшоў асобныя недакладнасці. У выніку, як кажуць, не пакінуў “каменя на камені” ад таго, што меў пад рукамі.



Прылады, якімі карыстаўся ў доследах Якуб Наркевіч-Ёдка



Вандроўка мінскай інтэлігенцыі на пачатак Нёмана



Прэзентацыя новых кніг пра Уздзеншчыну
ў Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэцы



Прэзентацыя новых кніг
пра Уздзеншчыну ў Навуковай
бібліятэцы імя Я. Коласа
НАН Беларусі




Мемарыяльны знак у гонар
А.С. Папова на адной з вуліц
г. Мінска

Артыкул атрымаўся неардынарны, змястоўны, лёгкі на ўспрыняцце. Карацей, настолькі своеасаблівы, што мог выступаць за зусім самастойны і прэтэндаваць на заключны па асобе вучонага.

Далей ішоў наш подпіс пад матэрыялам з кваліфікацыяй аўтара-распрацоўшчыка як гісторыка навукі (высокі гонар!).

Да артыкула была дададзена для аблягчэння ўспрыняцця храналагічных звестак пра вучонага рубрыка “Шлях да прызнання”. Гэты артыкул мы рэкамендуем чытачам для азнаямлення.*

Хацелася б толькі падкрэсліць, што не ўсё з запланаванага здзяйсняецца. Як адзначае А.В.Мальдзіс у гэтай падборцы, адпраўляючыся ў сваю апошнюю паездку, Якуб Атонавіч ў хадайніцтве на імя мінскага губернатара аб выдачы яму заграпічнага пашпарта зрабіў такую прыпіску: “Часовае жыхарства маю — гор. Мінск. Еўрапейская гасцініца”.

*СБ. Беларусь сегодня. 26 студзеня 2008. С. 16—17.



Наследніца рода Наркевічаў-Ёдкаў доктар тэхнічных навук Алена Маркава і доктар медыцынскіх навук, прафесар Уладзімір Растоўцаў

Тое паслужыла нам асновай для распрацоўкі мастацкага мемарыяльнага знака-панно ў стылі інтэр’ера 7-га паверха гасцініцы “Еўропа” па ўзгадненні з галоўным архітэктарам яе будынка С.Г.Багласавым.




Аднак гарадскія структуры рашуча паўсталі супраць такой прапановы. Маўляў, панавешваюць тут абы чаго! Вось так!

Дарэчы, у даволі вялікім мемарыяльным спісе вядомых людзей, якія скончылі некалі ў суседнім будынку Мінскую класічную гімназію, імя Якуба Наркевіча-Ёдкі адсутнічае.

Згаданы артыкул ў “СБ” праілюстраваны трыма фотаздымкамі: партрэтам Я.А.Наркевіча-Ёдкі з “Нівы” за 1891 год; здымкам з выстаўкі ў Нью-Йорку з удзелам нашчадка рода




Асвячэнне родавых могілак Наркевічаў-Ёдкаў у Наднёмане
ксяндзом Сяргеем Дабрагостам (2008 год)

Наркевічам-Лейнам і беларускага вучонага з БДУ Уладзіміра Самуйлава, які цяпер працуе ў ЗША па кантракту, а таксама адбіткам з надмагільнага каменя ў памяць вучонага на рэстаўраваных могілках рода Наркевічаў-Ёдкаў. У ліпені 2008 года гэтыя могілкі былі асвечаны ксяндзом Уздзенскай парафіі Сяргеем Дабрагостам у прысутнасці вернікаў з навакольнай мясцовасці і з раённага цэнтра.

**Запаведны куток**

Вышэй мы пахвальна адзначалі плённы ўдзел у распрацоўцы рода Наркевічаў-Ёдкаў доктара біялагічных навук, прафесара Мінскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Анатоля Тарасавіча Федарука.

Няўрымслівы пошукавец валодае дарам пранікнення ў мінулую эпоху, аднаўлення памяці даўнейшых, ужо адыйшоўшых уладальніцкіх сядзіб, як цэнтраў колішняй культуры. Заўсёды акрылены і прыўзняты духам, знаўца мінулага, улюбёны ў пошукавы занятак, ён, не лічачыся з затратамі часу, перапоўнены сваімі незвычайны-

мі ведамі і адкрыццямі, пры сустрэчах адразу ж пагружае сваіх субяседнікаў у раскрыты ім незвычайны свет, у вадаварот падзей мінулага. Прафесар аддаў даніну і вывучэнню сядзібнай садова-паркавай і архітэктурнай спадчыны прадстаўнікоў рода Наркевічаў-Ёдкаў.

У гэтым бясконцым коле турборт вучоны прыкмеціў своеасаблівую мясцовасць непадалёку ад рачулкі Цна і вёскі Цна ў паўночна-усходняй частцы горада Мінска. Яго зацікавіла ўзвышша-выспа, якое цяпер, з завяршэннем тут комплекса гідратэхнічных работ і добраўпарадкаваннем навакольных мясцін, набывае новую якасць. Мінулае ён узнаўляе паводле апытанняў мясцовых жыхароў і даследаванняў на месцы рэшткаў сядзібных пабудоў. Галоўны яго аб’ект — тая самая выспа.

Падчас адной з сустрэч мы абмяняліся ўзаемнай інфармацыяй пра гэтыя мясціны і прыйшлі да неабходнасці з надыходам вясны сустрэчы непасрэдна на месцы, “калі тут зацвіце бэз”.*

І вось у адзін з днён канца мая мы накіраваліся ў гэты ўнікальны куток непадалёку ад заканчэння вуліцы Максіма Багдановіча і размешчаных тут мноства вуліц і завулкаў Кальцова.

Сама выспа плошчай каля 40 гектараў цяпер абкружана шырокім водным кальцом. Цяжка сказаць, ці мела сённяшняя водная сістэма пад назвай Цнянскае водасховішча якое-небудзь дачыненне да плошчы водазбора і русла ранейшай рачулкі Цна. Ва ўсякім разе цяпер каналізаваная Цна ідзе ўздоўж усяго паўночнага ўчастка берагу вадаёма за дарогай-дамбай у якіх-небудзь паўсотні метрах.

На гэты, цяпер ужо востраў, вядзе толькі адзін уезд, дакладней — уваход. Уся тэрыторыя цнянскага вострава цяпер пристасавана да адпачынку. Наладжана сістэма адпаведна абсталяваных пляжаў як са знешняй, так і ўнутранай частак вадасховішча. На поўначы ў невялікай адлегласці за рачулкай праглядваецца забудова вёскі Цна і яе самая працяглая Ёдкаўская вуліца. Масіў правай часткі вёскі — гэта ўжо сучасная шматпавярховая забудова з рознымі званічкамі ды дзівоснымі прыбудовамі.

*Звычайна на перыяд канца мая — пачатку чэрвеня, “калі цвіце бэз”, плануюцца розныя творчыя сустрэчы на месцах былых сядзіб і пасяленняў, бо ў гэты час тут у натуральных умовах лепш адчуваецца іх былая шчымлівая рамантычнасць.

Выкапіраўка фрагмента карты г. Мінска ў раёне Цнянскага вадасховішча

Водную перашкоду мы пераадольваем па невялікаму мастку. Анатоль Тарасавіч нас упэўнена вядзе па добра вядомаму яму маршруту — адзінай дарозе, якая працінае-перасякае востраў. Неўзабаве наш маршрут трохі адхіляецца ўправа і мы трапляем пад шаты разложыстай ліпавай алеі — звычайнай адметнасці даўнейшых сядзіб. Наш вучоны эксурсавод тлумачыць, што некалі гэта алея была светлай і чыстай з двух ліній стромкіх ліп. А потым, з іх старэннем, на каранявішчах пайшлі парасткі, ад якіх паўзняліся новыя ствалы, новыя разгалінаванні дрэў. Яны на ўсім працягу алеі закрываюць неба, ствараючы змрочную прытоенасць.

Але мы зноў выбіраемся на свабодны прасцяг і трапляем у царства зеляніны. Гэта ў асноўным новы дрэвастаў з украпленнямі ў яго даўнейшага дэкаратыўнага хмызу. Наш суправаджаючы паказвае прыкладнае месца сядзібнага дома. Тут непралазнымі сценамі ўзвышаюцца зараснікі таго самага бэзу. Цяпер ён у высокай светлаліловай і бледнаблакітнай квецені. Сёння мы маем выбар




Ёдкаўская вуліца ў раёне былой вёскі Цна

бэзавых колераў намнога большы. Але ж падкарэктуем нашы ўяўленні на мінулае.



Рэліктавыя сосны на цнянскай выспе

Паварочваем да берага. Схілы ў бок вады даволі стромкія. З вышыні добра праглядваецца водная прастора. На тэрасах схілаў узвышаюцца велічна-манументальныя, высачэнныя сосны-прыгажуні. На беразе ёсць усё для водных працэдур, ёсць дзе адпачыць.

Несумненна, гэта выспа-выдма і яе тэрыторыя і ёсць той самы “маёнтак Цна ў пяці вярстах ад горада, плошчай 40 дзесяцін, заняты лесам, паркам, пладовымі, ягаднымі садамі і ворнай зямлёй”, аб’ява пра які трапіла стагоддзе таму на старонкі мясцовых газет.



Нашчадак рода Наркевічаў-Ёдкаў Сяргей Ёдка і прафесар Анатоль Федарук аглядаюць востраў на цнянскім вадасховішчы



Цнянскую выспу акаляе водная прастора

Пазней у былым панскім доме мясцілася школа для цнянскіх дзяцей. Мясцовасць тут сапраўды прыгожая. Воблік ёй стваралі многія пакаленні працаўнікоў. Знешне яна добра дастасуецца да абарончых мэт з улікам і яе воднага акружэння.

Падчас нашых блуканняў на востраве нікога не было — ішоў дробны занудлівы дождж. Тым не менш ён настрою не псаваў — усё было цікава і значна ў запаведным кавалачку нашай зямлі, у межах цывілізацыі цяперашняга вялікага горада.

Расстаючыся мы падзякавалі Анатоля Федарука за цікавае суправаджэнне, а нашчадка рода Сяргея Ёдку — за транспартнае забеспячэнне нашай вылазкі. Дамовіліся, што і надалей будзем удакладняць гісторыю гэтай сталічнай "жамчужыны", што мы і робім, уключаючы гэту пазнавальную інфармацыю ў нашу кніжку.

## ЯШЧЭ АДНА ПОСТАЦЬ УГАНАРОЎВАЕ БЕЛАРУСЬ

На выхад кнігі "Исследователь внимательный и трудолюбивый" пра доктара царкоўнай гісторыі, прафесара У.З.Завітневіча адгукнуўся навуковым заключэннем вядомы беларускі археолаг, распрацоўшчык тураўскай даўніны, доктар гістарычных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Пётр Фёдаравіч Лысенка. Змяшчаем гэты водгук ніжэй да ўвагі нашых чытачоў.




*"Аўтар, даследчык-публіцыст Уладзімір Кісялёў выдаў з благаславення Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі манаграфічную кніжку, прысвечаную жыццю і дзейнасці нашага земляка, вучонага, гісторыка, багаслова, археолага, педагога, загадчыка кафедры рускай грамад-*

*зянскай гісторыі Кіеўскай Духоўнай акадэміі, прафесара, доктара царкоўнай гісторыі Уладзіміра Зянонавіча Завітневіча [2 (14). 4. 1853 — сакавік—красавік 1927]. Яе прэзентацыя адбылася непасрэдна на месцы нараджэння яго ў сям'і святара ў вёсцы Ліцвяны Уздзенскага раёна, дзе Уладыка асвяціў паклонны крыж на тэрыторыі былой Раждзаства-Багародзічнай царквы.*

*У.З.Завітневіч — скончыў Мінскае Духоўнае вучылішча, вучыўся ў Мінскай Духоўнай семінарыі (1870—1874), у 1879 г. скончыў Санкт-Пецярбургскую Духоўную акадэмію. 22 снежня 1883 г. абараніў магістэрную дысертацыю і ў кастрычніку 1884 г. па конкурсу быў зацверджаны на пасадзе дацэнта Кіеўскай Духоўнай акадэміі па кафедры рускай грамадзянскай гісторыі. Чытаў лекцыі глыбокія па зместу і эмацыянальныя па форме, якія карысталіся вялікай увагай слухачоў. З 1899 г. У.З.Завітневіч — прафесар Кіеўскай Духоўнай акадэміі.*

*Кніга У.М.Кісялёва з'явілася вынікам доўгай і адданай працы па збіранні асобых звестак аб жыцці і дзейнасці У.З.Завітневіча з розных крыніц — бібліяграфічных выданняў, энцыклапедый, архіваў, аглядаў, успамінаў. водгукаў, рэцэнзій. Пабудавана кніга на храналагічным прынцыпе з разглядам асноўных бакоў дзейнасці У.З.Завітневіча ў асобных раздзелах. У дадатках прыведзены пералік навуковых прац У.З.Завітневіча, спіс крыніц аб яго жыцці і дзейнасці, вытрымкі з яго найбольш вядомых твораў "Палинодия", "Владимир — Красное солнышко".*

*Аўтар адзначае, што У.З.Завітневіч у сваёй дзейнасці не абмяжоўваўся толькі чытаннем лекцый ў Кіеўскай Духоўнай акадэміі. У 80—90-х гг. XIX стагоддзя У.З.Завітневіч прыняў актыўны ўдзел у вывучэнні археалагічных помнікаў на тэрыторыі рассялення славянскіх плямёнаў ва Усходняй Еўропе. На тэрыторыі Беларусі ў гэты час праводзіліся даследаванні славянскіх курганных пахаванняў X—XIII стагоддзяў. У Верхнім Панямонні, Мазырскім, Рэчыцкім і Бабруйскім паветах Мінскай губерні ён раскапаў 672 курганныя пахаванні ў 82 могільніках усходнеславянскага племені дрыгавічоў. Атрыманыя матэрыялы давалі магчымасць удакладніць тэрыторыю рассялення дрыгавічоў і вызначыць этнічныя рэчы, характэрныя для гэтага племені. Археалагічныя даследаванні У.З.Завітневічам курганных пахаванняў дрыгавічоў да гэтага часу*

*застаюцца найбольш буйнымі і значнымі. І гэтым У.З.Завітневіч спрыяў вывучэнню гістарычнага мінулага сваёй бацькаўшчыны.*

*Кніга У.М.Кісялёва шырока раскрывае шматбаковую і актыўную дзейнасць У.З.Завітневіча ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў. Ён удзельнік розных камісій, навуковых устаноў, таварystваў, сімпозіумаў, у бурнай віхуры падзей таго часу. Удзельнічае ў распрацоўцы розных прапаноў і праектаў у час рэвалюцыйнага ўздыму пачатку XX ст. З гэтага відаць, што наш зямляк карыстаўся заслужанай павагай яго сучаснікаў і супрацоўнікаў".*

Далей аўтар рэцэнзіі адзначае, што з улікам шырокага дыяпазону пытанняў асабістага і творчага жыцця У.З.Завітневіча, шырокага ахопу розных гістарычных крыніц з упэўненасцю можна гаварыць, што ў выніку карпатлівай і самаадданай працы чытач атрымаў цікава напісанае, глыбока аргументаванае даследаванне аб адным з найбольш дасведчаных, актыўных і дзейсных прадстаўнікоў беларускай творчай інтэлігенцыі канца XIX — пачатку XX стст., нашым земляку і папярэдніку — Уладзіміру Зянонавічу Завітневічу. Такія кнігі, што засяроджваюць увагу на недастаткова асветленых пытаннях нашай гісторыі і культуры, несумненна патрэбны нашаму народу і дзяржаве. Кніга запаўняе пэўны прабел у нашай мінуўшчыне, узбагачае новымі ведамі аб вядомых яе сынах, часе, дасягненнях.

Перад здачай рукапісу выдаўцу мы атрымалі ліст з Кіева ад нашчадкаў рода Завітневічаў. Ім нас рэкамендаваў кампетэнтны даследчык гісторыі Беларускай Праваслаўнай Царквы Гардзей Эдуардавіч Шчаглоў, які аддаў пэўную даніну вывучэнню святарскай часткі рода Завітневічаў. З яго дапамогай Таццяна Уладзіміраўна Пальчэўская (у дзявоцтве Завітневіч) прачытала кніжку "Исследователь внимательный и трудолюбивый…" і засведчыла вялікую работу па яе падрыхтоўцы, выказала падзяку за яе ад усіх Завітневічаў. Яна сама, з'яўляючыся прадстаўніцай гэтага роду, аднячасова з намі вяла пошукавую работу па яго рэканструкцыі. І, канешне, у нечым дапоўніла наша выданне.

У 1907—1910 гадах У.З.Завітневіч быў старшынёй выставачнага камітэта Кіеўскага таварыства аматараў прыроды і выступіў арганізатарам 5 птушкаводчых выставак.

У 1909 годзе на тэрыторыі Батанічнага сада Кіеўскага ўніверсітэта ён заклаў заалагічны сад. Пазней пад яго быў выдзелены спецыяльны ўчастак, на якім сад месціцца і зараз.

У 1911 годзе ён, на становішчы старшыні Праўлення Таварыства па распаўсюджванню адукацыі ў народзе, дабіўся дазволу праводзіць для членаў таварыства экскурсіі ў Кіеве і яго ваколіцах.

Як старшыня Кіеўскага таварыства аховы помнікаў даўніны і мастацтва ён прымаў актыўны ўдзел у спрэчках па канструктыўных і архітэктурных асаблівасцях Залатых варот у Кіеве. У прыватнасці, ён лічыў, што дабудова варот была праведзена мясцовымі майстрамі ў 1043 годзе.

Т.У.Пальчэўская даслала новыя, невядомыя нам фотаздымкі з удзелам У.З.Завітневіча. На адным з іх па выпадку ўдзелу ў 1909 годзе ва Устаноўчым паседжанні Кіеўскага аддзялення Ваеннагістарычнага таварыства ён быў запрошаны ў прэзідыум.

На другім Уладзімір Зянонавіч разам з жонкай сярод сем’яў выкладчыкаў Кіеўскай Духоўнай акадэміі падчас прабывання на дачах ў Матавілаўцы пад Кіевам.

Далей Таццяна Уладзіміраўна прыводзіць звесткі пра згаданых у нашай кнізе святароў роду Завітневічаў.

Адраджэнне імя нашага слыннага суайчынніка прадаўжаецца…

## АДАМ КІСЕЛЬ — АСОБА ГІСТАРЫЧНАЯ

У першае выданне “Пуцявін...” былі ўведзены матэрыялы пра род Кісялёў, які атрымаў даволі шырокае распаўсюджанне і ў Беларусі, у тым ліку і на Уздзеншчыне. Пачатак жа яму быў пакладзены згодна з родавым паданнем, у пачатку ІІ тысячагоддзя ў Кіеўшчыне ў часы ўвядзення на Русі хрысціянства.

Праваслаўны род Адама Рыгоравіча, унука Гневаша Кісяля нізкініцкага з Брусілава ўсталяваўся на паўночна-заходняй Валыні, беручы свой пачатак з цемры стагоддзяў, калі іх продку, кіеўскаму ваяводзе (старасце) Святолду (Святолдычу), які паходзіў ад Рурыкавічаў і пазней загінуў у 1018 годзе пры абароне гарадскіх варот Кіева ў час нашэсця войск Баляслава Храбрага, вялікім князем



Кіеўскі ваявода Адам Кісель

Уладзімірам Манамахам быў быццам бы нададзены за ваенную кемлівасць герб у выглядзе бівака-шатра, аздобленага крыжом на залатым шары.

У сярэднявечча род Кісялёў рассяліўся на рускія, польскія і беларускія землі. Ад Кісялёў пачынаюцца вядомыя расійскія адгалінаванні графаў Кісялёвых і Брусілавых, а таксама польскае Кіслянскіх таго ж герба.

На тэрыторыі Беларусі найбольш ранні ўпамін пра род Кісялёў адносіцца да першай трэці XV стагоддзя. Яго прадстаўнікі перасяліліся ў Вялікае княжаства Літоўскае з Валыні за заслугі перад айчынай і памножыліся тут у патомстве. У Беларусь род прыйшоў трыма адгалінаваннямі ў Віленскую, Віцебскую і Мінскую губерні (ваяводствы). Перасяленцам у ВКЛ было пацверджана шляхецтва. Галоўнае іх седлішча аднак мясцілася на Віленшчыне, дзе яны заставаліся ў каталіцтве і польскасці.

...У маі 2008 года на Беларусі шырока і ўрачыста адзначалася 400-годдзе з часу канчыны ваяводы Кіеўскага, князя Канстанціна (у хрышчэнні Васілія) Канстанцінавіча Астрожскага (1527—21.03.1608), прыхільніка і змагара за праваслаўную хрысціянскую веру, стойкага барацьбіта з лацінствам і ўніяцтвам, арганізатара праваслаўных грэкаславянскіх друкарань і школ на Заходняй Русі.

Па гэтай нагодзе Беларускай праваслаўнай царквой быў арганізаваны шэраг мерапрыемстваў, у тым ліку ў маі 2008 г. праведзена Міжнародная навукова-багаслоўская канферэнцыя ў Тураве (месцы нараджэння князя-асветніка) з працягам яе ў Брэсце пры ўдзеле мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

На ёй з удзелам шырокага кола навукоўцаў і багасловаў была разгледжана і абмеркавана дзейнасць-подзвіг дабравернага князя ў абарону Праваслаўя на Русі, ідэя царкоўнага адзінства, выказаная ў яго філасофска-рэлігійнай спадчыне, у арганізацыі і забяспячэнні Праваслаўнай царквы ў XVI — пачатку XVII стагоддзяў. Было асветлена пытанне гістарычнай пераемнасці спраў князя Астрожскага. З дакладам "Князь Астрожскі і ваявода Кіеўскі Адам Кісель — духоўная пераемнасць" выступіў у Тураве аўтар гэтых радкоў. А.Кісель у яго трактоўцы — прадаўжальнік і стойкі абаронца закладзеных Канстанцінам (Васілём) Астрожскім праваслаўных традыцый на землях Рэчы Паспалітай.

Нам варта з павагай памятаць, што Адам Кісель ніколі не здраджваў сваёй веры і народнасці сярод усеагульнага захаплення каталіцкімі ідэаламі. Гэтую стойкасць ён пераняў і прадоўжыў ад продкаў.

Імя Адама Кісяля прывёў 1 верасня 1939 года ў дзень нападу Германіі на Польшчу і адпаведна пачатку Другой сусветнай вайны ў Першасвяціцельскім пасланні да веруючых Прадстаяцель Польскай Праваслаўнай Царквы мітрапаліт Дзіянісій. Ён сказаў: "У гэтай барацьбе служыць нам павінен прыклад адважных і адданых сыноў Рэчы Паспалітай, нашых продкаў — непераможнага гетмана Канстанціна Астрожскага, доблеснага ваяводы Кісяля і інш., якія здзейснілі для Айчыны вялікія і векапомныя подзвігі".

Калі імя першага — рускага Сцыпіёна князя Астрожскага-старэйшага як і яго сына Канстанціна (у хрышчэнні Васіля), абаронца праваслаўнай веры, дастаткова вядомы і ўшаноўваемы, што пацвердзілі і тураўскія чытанні, то імя другога, не гледзячы на шэраг манаграфічных і энцыклапедычных сведчанняў, не атрымала паўсюднай адназначнай вядомасці.

Род Кісялёў вывучалі акрамя ўкладальнікаў гербоўнікаў даследчыкі М.Каяловіч, А.Акольскі, П.Патоцкі, М.Кастамараў, І.Навіцкі, І.Любамірскі, пісьменнік-раманіст Г.Сянкевіч і інш.

Між тым, уклад польскага сенатара, кіеўскага ваяводы і многіх іншых тытулаў Адама Рыгоравіча Кісяля ў легітымнае ўрэгуляванне вынікаў увядзення на заходнерускіх землях уніі не раскрыта ў дастатковай меры, як і яго высілкі па абароне праваслаўя на тэрыторыі Рэчы Паспалітай у другой палове XVII стагоддзя.

Удзельнікамі канферэнцыі была ў цэлым падтрымана ідэя выдання хрэстаматыйнага зборнікам дакументаў і твораў пра А.Кісяля, дзякуючы якому, можна спадзявацца, будзе больш аб'ектыўна і доказна раскрыта шматгранная дзейнасць яго на карысць Праваслаўя. Будзем жа чакаць выхада гэтага выдання.

Канферэнцыя закончылася наведваннем велічнага горада-музея князёў Астрожскіх Астрога ва Украіне, дзе яе ўдзельнікі падпалі пад шчырае апякунства архіепіскапа Ровенскага і Астрожскага Варфаламея.

Адпаведна з гэтым раздзел пра Адама Кісяля скарачаецца.



# НОВЫЯ ІМЁНЫ

## ЗАЧЫНАЛЬНІК ЖУРНАЛІСЦКАЙ СПРАВЫ Ў РАСІІ

*Фадзей Булгарын — беларус, імя якога назаўсёды ўпісана ў гісторыю рускай літаратуры пушкінскай пары. Чым жа сын дробнага беларускага шляхціца здолеў выклікаць да сябе такое супярэчлівае стаўленне — рэзка варожае, альбо сяброўскае, але ніколі — абыякавае? Устойлівая рэпутацыя агента тайнай паліцыі — мала што тлумачыць чытачам.*

Род Булгарыных верагодна ўзыходзіць да часоў нацыянальнага героя Албаніі Георгу Кастрыоцы Скандэрбега (XV ст.). Пра гэта нагадвае допіс яго беларускага прадстаўніка Фадзея ў радаводнай кнізе Мінскай губерні: “Калежскі асэсар з князёў Булгарыных Фадзей Скандэрбег фон Булгарын”. Ён жа ўдакладняе паходжанне рода Булгарыных ад Северскага чашніка Васіля-Міхаіла Рыгорава Булгарына.

Продак Булгарыных Ісмаіл — напаўтурак албанскага паходжання — з’явіўся ў нашых краях у часы Вялікага княства Літоўскага і атрымаў 100 дзесяцін зямлі ў Слуцкім павеце. Два пакаленні прышэльцаў займаліся земляробствам, але яно не прынесла ім жаданага дастатку.

Бацька Фадзея Венедыкт Булгарын да нараджэння сына — мазырскі харунжы, ваенны камісар Навагрудскага ваяводства, дзед Міхаіл — смаленскі гараднічы, прадзед Іван — навагрудскі падваявода, прапрадзед Іван — сын родапачынальніка Васіля.

Пазней бацька служыў ляснічым у старшыні Слуцкага дваранскага сходу А.Непалойчыцкага, потым перайшоў да магнатаў Радзівілаў, з якімі ў 1774 годзе па прыкладзе сваіх гаспадароў перайшоў у каталіцтва і разам з жонкай распачаў такую ганьбу ўсяго рускага, што ў хуткім часе зрабіўся пасмешышчам ва ўсім Слуцкім павеце, які лічыўся спрадвеку аплотам праваслаўя.

Пасля таго, як у прыпадку ярасці Венедыкт Булгарын забіў генерала Волкава, які кватараваў у яго доме, забойца быў сасланы на вечнае пасяленне ў Сібір, але адтуль збег і потым аб'явіўся ў Еўропе, дзе выконваў даручэнне князя Станіслава Радзівіла аб выкрадані з поўдня Расіі княжны Тараканавай. Даручэнне ён выканаў і схаваў яе ў сваіх албанскіх родзічаў. З Албаніі бацька Фадзея вывез прэтэндэнтку на расійскі прастол у суседнюю Італію, дзе яе ў сваю чаргу па загаду Кацярыны II выкраў Грыгорый Арлоў.*

*Пад прозвішчам Тараканавай у расійскай гісторыі засведчаны дзве асобы.

Першая — Аўгуста (Цімафееўна), 1744 года нараджэння, меркавальна, дачка ад марганатычнага (няроўнага) шлюбу імператрыцы Лізаветы Пятроўны з Аляксеем Рыгоравічам Разумоўскім. Выхоўвалася за мяжой. Прымусова прывезена ў Расію, змешчана ў Іванаўскі манастыр, дзе пастрыжана ў манахіні пад імем Дасіфеі. Прабыла ў манастыры да скону ў 1810 годзе. Пахавана ў Наваспаскім манастыры.

Другая Тараканава, таксама выдаваўшася сябе за дачку імп. Лізаветы і Разумоўскага — невыясненага паходжання. Адукаваная, знаходлівая, валодаўшая мовамі, незвычайнай прыгажосці, яна аб'ехала і пакарыла ўсю Еўропу.

У пачатку 1774 года пад уплывам палякаў, акружаўшых Радзівіла, у прыватнасці магната Браніцкага, яна аб'явіла сябе дачкой імп. Лізаветы Пятроўны, сястрой Пугачова і прэтэндэнткай на рускі прастол. У пошуках сваёй "рускай спадчыны" яна нават перабралася на поўдзень Расіі. Адтуль яна рассылала свае "маніфесцікі" многім вядомым асобам, уключаючы і графа Арлова-Чэсменскага.

У сувязі з пэўнай небяспекай яе далейшага знаходжання на тэрыторыі Расіі, былі, відаць, прыняты захады польскага кола аб тэрміновым вяртанні яе на Захад. Такую місію ўзялі на сябе Радзівілы і ўсклалі яе выкананне на фанатыка Бенедыкта Булгарына. З ёй ён справіўся адмыслова. Але, калі гэтыя авантурныя справы зайшлі надта далёка, Радзівілы "здалі" яго расійскім уладам.

Па патрабаванні імп. Кацярыны граф Арлоў-Чэсменскі перахітрыў Тараканаву і арыштаваўшы, даставіў яе ў Расію, дзе яна была змешчана ў Петрапаўлаўскую крэпасць і дапытана. У хуткім часе нарадзіла сына і памерла ў крэпасці ад сухотаў.

Байка пра ўзнікненне прозвішча Тараканавых абавязана, як лічылі яе сучаснікі, Разумоўскаму, які, сапраўды, выхоўваў у Швейцарыі сваіх пляменнікаў Дараганаў-Дараганавых. Іншаземцы быццам бы перарабілі Дараганавых у Тараканавых, зрабіўшы ўпор на іх асобае паходжанне. Хаця нельга прамінуць і тое, што ў Расіі існаваў старажытны род Тараканавых.

Паданне пра гібель у 1777 годзе Тараканавай падчас паводкі ў Санкт-Пецярбургу, паслужыўшае сюжэтам карціны Флавіцкага, не пацвярджаецца фактамі. Яе жыццё не аднойчы служыла тэмай для раманістаў і апісальнікаў прыгод — Г.Данілеўскага, М.Мельнікава, В.Паніна, В.Руднева, Васільчыкава.




План-схема тэрыторыі сядзібы Булгарыных ля вёскі Пырашава

Калі ж В.Булгарын вярнуўся ў Нясвіж, то быў выдадзены князямі Радзівіламі рускай паліцыі і прыгавораны да пакарання смерцю праз павешанне. Землі маёнтка В.Булгарына перайшлі па суду ў 1794 годзе родным генерала Волкава.

Пазней маёнтак Пырашава з 800 дзесяцінамі зямлі ў апошняй чвэрці XIX стагоддзя належаў дваранцы, удаве па памерламу пасля 1849 года мужу Віктару Антонаву Наркевічу-Ёдку Юліі Феафілавай Наркевіч-Ёткавай. Ад іх засталіся дзеці — Юлія 1812 года нараджэння, Марыя-Амелія 1839 і Ляоня 1849 гадоў нараджэння.

У Венедыкта Булгарына і яго жонкі Анэлі Бучынскай на сядзібе Перышава 24 чэрвеня (5 ліпеня) 1789 года нарадзіўся трохіменны сын, ахрышчаны ў Уздзенскім касцёле Янам-Крыштофам-Тадэвушам (на рускі лад — Іванам-Хрыстафорам-Фадзеем). У 1795 годзе ён перабраўся разам з маці ў Пецярбург.

Да 1811 года Фадзей знаходзіўся на ваеннай службе ў рускай арміі, потым, выдалены з яе, перайшоў у французскую. Удзельнічаў у паходзе Напалеона на Расію ў 1812 годзе.



Партрэт Фадзея Булгарына

Пасля царскай амністыі Ф.Булгарын працаваў з 1816 года ў Вільні і Санкт-Пецярбургу. Цесна зблізіўся з літаратурным светам і сам хутка атрымаў літаратурную вядомасць. Сыйшоўся з маладымі братамі Бястужавымі, А.Карніловічам, В.Кюхельбекерам, К.Рылеевым і інш.

Прапагандаваў творчасць А.Грыбаедава. Пасля выхаду са зняволення ў сувязі з падзеямі 1825 года А.Грыбаедаў пасяліўся на дачы Булгарына ў Паргалаве, дзе напісаў нарыс “Загарадная паездка”. Ад’язджаючы ў Персію, падараваў Ф.Булгарыну спіс камедыі з надпісам: “Гора маё даручаю Булгарыну. Верны друг Грыбаедаў”. Ф.Булгарын падрыхтаваў першую біяграфію А.Грыбаедава. Асноўныя яе палажэнні не згубілі каштоўнасці да нашых дзён.

Ф.Булгарын падтрымліваў добрыя адносіны з А.Пушкіным, друкаваў яго творы ў сваіх выданнях. А.Пушкін у сваю чаргу залічваў Ф.Булгарына да “малога ліку тых літаратараў, вымовы якіх ці пахвалы могуць быць і павінны ўшаноўвацца”.

Высока ацэньваў Ф.Булгарын “Героя нашего времени” М.Лермантава. Ім жа быў станоўча ўспрыняты трактат А.С.Хамякова “Ермак”.

Пры даволі складаных узаемаадносінах з М.Гогалем Ф.Булгарын па ўсіх дадзеных падказаў яму сюжэт “Мёртвых душ”.

Добрае знаёмства з польскай і французскай літаратурамі, тонкае чуццё журналіста, які ведае патрэбы публікі, бойкае пяро дазволілі яму выступіць піянерам у асваенні шэрагу рускіх літаратурных жанраў: побытаапісальнага нарыса, фельетона, ваеннага апавядання, твораў утопіі і антыутопіі. Усе яны вылучаюцца адметнасцю, жывой, цікавай і прафесіянальнай падачай.

З часам Ф.Булгарын заняў трывалыя пазіцыі ў выдавецкай справе. Выдаваў часопісы “Северный архив” і дадатак да яго “Литера-

турные листки”, “Сын отечества”, “Эконом”, тэатральны альманах-каляндар “Русская талия”.



ВОСПОМИНАНІЯ
ѲАДДЕЯ БУЛГАРИНА.
ОТРЫВКИ
ИЗЪ ВИДѢННАГО, СЛЫШАННАГО И ИСПЫТАННАГО ВЪ ЖИЗНИ.

(Послесловіе къ Лѣтописи Нестора.)

ЧАСТЬ ПЕРВАЯ.

Изданіе М. Д. Ольхина.

САНКТПЕТЕРБУРГЪ.
1846.

Працуючы журналістам Ф.Булгарын пісаў раманы. “Иван Выжигин” меў працяг і спадабаўся расійскаму імператару Мікалаю І. У далейшым выйшлі гістарычная творы “Дмитрий Самозванец” (1830) і “Мазепа” (1833—34). Яны зрабілі значнае ўздзеянне на масавую гістарычную белетрыстыку. Дарэчы, Ф.Булгарына больш за іншых перакладалі на замежныя мовы.

На збегу жыцця ён напісаў свае шасцітомныя “Воспоминания Фаддея Булгарина. Отрывки из виденного, слышанного и испытанного в жизни”. Яны ўяўляюць вялікі інтарэс, у тым ліку як помнік беларускага жыцця на пераломе XVIII і XIX стагоддзяў.

Ф.Булгарын меў падтрымку зверху (ён ўсё жыццё працаваў чыноўнікам па спецыяльных даручэннях міністэрства асветы, ніколі не наведваючы сваю службу), у той жа час яго творы карысталіся шырокай папулярнасцю ў чытацкіх колах.

Ён выказваў сімпатыю да прадстаўнікоў сярэдняга класа грамадства, якіх нават супроцьпастаўляў вышэйшым колам.

Так ці інакш цэлае саракагоддзе з 1819 па 1859 год на нядоўгім да гэтага шляху рускай журналістыкі пазначана Ф.Булгарыным. Ніводная падзея таго часу, тым больш выхад у свет літаратурнага твора, не заставаліся па-за яго ўвагай.

Аднак у той жа час адным з першых з літаратуры ён змог зрабіць крыніцу дахода. З канкурэнтамі быў жорсткі і няўмольны. Ф.Булгарын прытрымліваўся ўмерана-ліберальных поглядаў, рабіў стаўку на манархічны шлях, скептычна ставіўся да рэвалюцыйных пераўладкаванняў. Поглядаў сваіх не прыхоўваў.

З ростам вядомасці і ўплыву Ф.Булгарына, узмацнялася і процістаянне з ім літаратараў пушкінскага акружэння. Аўтарытэт яго

праціўнікаў — буйнейшых літаратараў другой чвэрці XIX стагоддзя — быў выключна высокі і неаспрэчны. Прыгадаем: у той час сапраўднай годнасцю літаратуры і літаратара лічыліся сувязі з рэвалюцыйным рухам. Неблагапрыемная рэпутацыя Ф.Булгарына ствааралася яго апанентамі ў гарачцы літаратурнай палемікі, калі чуткі лёгка атаясамліваліся з фактамі.

Ф.Булгарын і яго жонка Алена Іванаўна фон Ідэ зарэгістравалі шлюб праз Пецярбургскі евангеліцка-лютэранскі касцёл у 1825 годзе. Мелі трох сыноў.

Памёр Фадзей Булгарын у 1859 годзе ў набытым за неверагодна вялікія грошы маёнтку "Карлава" паблізу Дэрпта ў чыне правадзейнага саветніка.

Прайшло паўтара стагоддзі. З 90-х гадоў XX стагоддзя адносіны да жыцця і дзейнасці Фадзея Булгарына пачалі пераглядацца. Да яго імя стала ўзнаўляцца цікавасць. Прыйшло вяртанне Ф.Булгарына як пісьменніка. Літаратурныя крытыкі А.Рэйнблат, Н.Львова, І.Залатускі, С.Кузняева, А.Фядута ў многім садзейнічалі яго рэабілітацыі.

Нямала зрабіў па прапагандзе творчасці Ф.Булгарына ў Беларусі яго зямляк, драматург і краязнаўца Алесь Махнач. Ён у бібліятэчных умовах перачытаў яго "Воспоминания". У архіве знайшоў судовую справу 1817—1826 гадоў аб эксдывізіі* маёнтка Перашава Ігуменскага павета памешчыка Т.Навамійскага.

Акрамя падрабязнага апісання перашаўскай сядзібы ў той справе яшчэ ёсць і карта-схема мясцовасці. Паколькі рэальна сядзіба ўжо не існуе, то гэтыя дакументы дазваляюць у прывязцы да могілак, якія засталіся ад той пары, вызначыць яе месца. Даследаванне і інвентарызацыя месца былой сядзібы дазволіла б выявіць многа чаго цікавага і нечаканага. А цяпер там нават і знака няма.

Шэраг твораў Ф.Булгарына — раманы "Иван Выжигин", "Дмитрий Самозванец", "Мазепа" перавыдаваліся ў апошнія гады рознымі выдавецтвамі. На паліцах магазінаў не залежваліся.

Часопіс "Нёман" адным з першых у №№ 10—11 за 1993 год апублікаваў вытрымкі з "Воспоминаний" Ф.Булгарына з вельмі змястоўным пасляслоўем Соф'і Кузняевай пад назвай "Той самы

*Узяцці пад апеку.

Булгарын…”. З публікацыяй рэкамендуем зацікаўленых чытачоў пазнаёміцца.

Нарэшце, у 2003 годзе ў “Беларускім кнігазборы” выдадзены паўнавартасны том “Выбраных твораў” літаратара з уступным словам іх укладальніка Аляксандра Фядуты.

А ў маёй асабістай бібліятэчцы стаяць падараваныя незабыўным Алесем Махначом томікі “Дмитрия Самозванца” і “Мазепы”.

* * *

Незадоўга да канчатковай рэдакцыйнай падрыхтоўкі і камплектацыі перавыдаваемай кнігі нам натрапіў даволі аб’ёмны і цікавы матэрыял “Тадэвуш Булгарын” у часопісе “Kraj” за 1906 год польскага літаратара В.Цехоўскага, які мы палічылі неабходным дадаць у перакладзе да матэрыялаў пра вядомага расійскага пісьменніка і крытыка.

Ten polak, przysiąg łamiac roty,
Podwójny cel osiagąe wraz:
Wybawił Polskę od niecnoty,
Braterstwem swojem splamił nas.

*Эпіграма А.Пушкіна (у перакладзе)*

Калі імя некалі вядомага расійкага пісьменніка і крытыка не засталося ў шырокай памяці, то толькі таму, што ў свой час ён меў шчасце ці няшчасце так дакучаць Пушкіну, што вялікі паэт высмеяў яго ў некалькіх з’едлівых эпіграмах. Можна смела сцвярджаць, што ўжо даўно Булгарына ў Расіі ніхто не чытае. Асудзілі яго бліжэйшыя нашчадкі тых часоў, наступным пакаленням не прыйшло ў галаву рэабілітаваць яго памяць альбо заняцца пераглядам яго спраў.

Вялікія людзі, самі абагатвораныя, не заўсёды бываюць справядлівыя да поглядаў сваіх крытыкаў і, здараецца, іх бязлітасна асуджаюць.

У 1870 годзе ў “Русской старине” з’явілася біяграфія Булгарына,* складзеная яго супрацоўнікам і шматгадовым паплечнікам, Грэчам, распачатая такім чынам:

---

*Біяграфічны нарыс пра Ф.Булгарына, складзены М.І.Грэчам, на самой справе быў апублікаваны ў 1871 годзе на с. 484—520 тома IV “Русской старины”. Аднак у гэтым, дасканала пераплеценым томе, згаданыя старонкі чамусьці адсутнічаюць. — У.К.

“У жыцці адны яго хвалілі, другія нішчылі, трэція — ненавідзелі: многія не пагаджаліся, іншыя палемізавалі з ім, але беспрычынна яму ніхто не процістаяў, хіба ў неагучаных у друку эпіграмах”.*

Несумненна яго з’едлівага пяра апасаліся. Пакуль пасля смерці крытык не стаў прадметам адкрытых кпінаў. Людзі, недастойныя яму чысціць абутак, пачалі процістаяць яму самым жорсткім чынам. Сабачкі не баяцца памерлага льва. І мы выконваем абавязак гонару і справядлівасці, накрэсліваючы ісцінны вобраз яго жыцця, дзейнасці і характару.

Здавалася б, што пры такім уступе артыкул Грэча павінен быць апалогіяй Булгарыну, а на самой справе ён стаўся ўсяго з’едлівым пасквілем. Аўтар сабраў у ім усялякія плёткі, вылучыў кампраметуючыя анекдоты. З той біяграфіі вынікае, што Булгарын быў баязліўцам, ілгуном, невукам, авантурнікам, машэннікам, махляром, жулікам, які абабраў і пакрыўдзіў ва ўзаемных рахунках самога Грэча.

Усё гэта не перашкаджае гэтаму пісьменніку ўшаноўваць і чціць свайго некалі прыяцеля. “Біяграфія” з’яўляецца неаспрэчным довадам, што Грэч быў недастойным чалавекам, пазбаўленым усялякага маральнага крытэрыя, адносіны з якім не дадавалі падтрымкі Булгарыну.

Аднак расійскае грамадства, якое адвергла Булгарына пасля смерці, пры жыцці было яму маткай, адорвала яго славай, павагай, заможнасцю. Ва ўсякім разе гэты паляк быў у свой час выдатнай постаццю ў Пецярбургу, іграў такую выключную ролю, што абыйсці яго ў нашых нарысах ніяк немагчыма.

Булгарын нарадзіўся, як адзначае Грэч, у 1789 годзе ў Мінскай ці Віленскай губерні. Яго бацька Бенедыкт адыгрываў выдатную

---

*Да такіх належыць і прыведзеная вышэй чатырохрадкоўе Пушкіна, аб’яўленае на польскай мове ў друку пасля смерці паэта і яго апанента.

Рускага арыгінальнага варыянта гэтай эпіграмы мы не знайшлі, таму даём вольны падрадковы яе пераклад:

“Той паляк, папіраючы прысягі закон,
Подвоеную мэту дасягнуў адразу:
Збавіў Польшчу ад ганьбы,
Але сваім братэрствам нас запляміў”.

ролю на Літве падчас паўстання Касцюшкі. За забойства генерала расійскіх войск Кацярына II саслала яго ў 1794 годзе ў Сібір, але Павел I неўзабаве па ўступленні на трон уласкавіў і вызваліў выгнанца. Падчас прабывання Бенедыкта Булгарына ў Сібіры, яго жонка пераехала з малым сынам Тадэвушам, імя якому было нададзена ў гонар Тадэвуша Касцюшкі, у Пецярбург, дзе ёй удалося ўладкаваць сына ў кадэцкі корпус. Пры гэтым яна пасияшалася скарыстаць спрыяльнае для яе згодна расійскіх законаў права і выйшла паўторна замуж. Жыла доўга і мела з другога шлюба двух сыноў і дачку. Які быў лёс Бенедыкта Булгарына, ці даведаўся ён пра не вельмі высокародны ўчынак жонкі — не ведаем.

Пасля заканчэння Тадэвушам школы кадэтаў, ён павінен быў служыць у артылерыі, але дзякуючы асаблівай увазе, якой адорваў яго вялікі князь Канстанцін, быў далучаны да палка ўланскай гвардыі.

Малады афіцэр карыстаўся поспехам у пецярбургскім атачэнні, бываў у першых дамах горада, але пры гэтым паводзіў сябе не лепшым чынам. Аднойчы з ім здарылася такая прыгода. Быў прызначаны дзяжурным і меўся адбыць варту ўначы недзе далёка за горадам. Лічачы, што нікому з начальства і ў галаву не прыдзе пракантраляваць яго, Булгарын, як толькі настаў вечар, пакінуў пост, прыехаў у горад, прыбраўся ў адзенне, падрыхтаванае раней, і падаўся на маскарад. Па дарозе наведаў калегу і ў тую хвіліну, калі выходзіў ад яго, спаткаўся вока ў вока з вял. кн. Канстанцінам. Той ведаў, што афіцэр павінен быць цяпер на службе за колькі вёрст ад горада і ўсклікнуў са здзіўленнем: “Булгарын, а ты што тут робіш?”. Булгарын ад нечаканасці застыў і тут князь заўважыў пад плашчом касцюм і, мала гаворачы, загадаў улану сесці з сабой у карэту ды завёз яго на нейкую вечарыну, дзе сабралася вялікае таварыства. Булгарын мусіў ісці за князем у касцюме Купідона, адпаведна ў трыко і з крыльцамі. Лёгка сабе ўявіць, які гэта ўсё выклікала эфект. Нацешыўшыся дурацкай мінай Булгарына князь загадаў яму ехаць на гаўптвахту і ад гэтага часу перастаў яго апякаць. Скончылася ўсё тым, што Булгарын пакінуў гвардыю і перайшоў у лінейныя драгуны.

Кавалерыстам ён прайшоў фінляндскую кампанію пад камандай гр. Каменскага і ўдзельнічаў у найвялікшай бітве, што адбылася

са шведамі пры Аравайзі (Orowajsi). У далейшым апісаў фінскую вайну, узносячы да нябёс дзейнасць расійскіх войск і здольнасці свайго генерала. Між іншым давёў, што па заканчэнні вайны якіясь іншаземцы сведчылі супраць шведскага генерала і гаварылі, што Каменскі здабыў выдатную перамогу, не раўнуючы, як Напалеон пад Марэнга.

— Выдатную, — казаў сам генерал, — бо Напалеон не ваяваў са шведамі.

Дасканала характарызавала стыль Булгарына яго вынаходлівасць. Ён ваяваў потым з французамі ў Германіі. На плацах і падчас перамір'яў неаднойчы спаткаўся з родзічамі з-пад напалеонаўскіх арлоў. Яго запрашалі пакінуць расійскае войска і ісці ў легіёны, але Булгарын на тое адказваў: цяпер не пара, трохі пазней.

Пара нарэшце надыйшла. Расія заключыла з Францыяй вечнае замірэнне* і Булгарын у 1809 годзе падаўся ў легіёны. Сам Грэч прызнае, што той крок не быў ні дэзерцірствам, ні здрадай. Францыя не вяла вайны з Расіяй, а знаходзілася з ёй у дружбе. Булгарын не мог дапусціць, што гэта дружба скончыцца так хутка. У якасці афіцэра легіянераў ваяваў у Італіі, у Іспаніі, а ў 1812 годзе служыў у корпусе маршала Oudinot'a і ўдзельнічаў у аперацыях французскіх войск супраць атрадаў Вітгенштейна.

Далей удзельнічаў у нямецкай кампаніі 1813 і 1814 гадоў і, паранены ў 1814 годзе, трапіў у самой Францыі ў расійскую няволю. Згодна з вайсковымі статутамі яму маглі пагражаць суд і кара, але ў такім становішчы як ён, знаходзілася многа афіцэраў і салдат расійскіх войск і ўсе яны ў 1815 годзе атрымалі амністыю. Булгарын едзе ў Варшаву. Там сустракае в. кн. Канстанціна, які стаў вярхоўным камандуючым польскіх войск. Той узгадаў даўняга ўлюбёнага афіцэра і хацеў даць адпаведнае становішча пад сваёй камандай. Пры Напалеоне Булгарын даслужыўся да звання капітана, якое атрымаў як адзнаку з рук імператара ва ўзнагароду за адмыслова выкананае даручэнне пад Bautzen. Мог такім чынам перайсці, і нават з авансам, у расійскія войскі. Чаму Булгарын не прыняў прапановы князя, чаму не застаўся ў Варшаве — не ведаем. Грэч гаворыць, што ён адмовіўся ад прыняцця намінацыі, бо

*Цільзіцкі мір 1809 года. — У.К.

вымушаны быў упарадкоўваць свае маёнткавыя інтарэсы ў Літве. У 1820 годзе знаходзіўся зноў на Няве. Грэч сцвярджае, што прыехаў сюды весці нейкі стары і складаны працэс свайго дзядзькі з Тышкевічамі і Парчэўскімі аб 8 тыс. душ, за што меў атрымаць у выглядзе ганарару 400 душ. У Пецярбургу аднавіў старыя знаёмствы, змог здабыць падтрымку ў зганьбаванага рэакцыянера “мярзотнага Магніцкага, нарванага Руніча і дурніцу Каверына” — так ганаруе Грэч вялікіх тагачаснага свету, сумеў падабацца Аракчэеву. З Грыбаедавым звязвалі Булгарына сувязі блізкай прыязні. У свой час Булгарын напісаў пра Грыбаедава цікавыя ўспаміны, якія, здаецца, зусім не вядомыя аўтарам шматлікіх манаграфій пра таго пісьменніка.

Булгарын выйграў працэс, пасля чаго застаўся ў Пецярбургу і нібы займаўся адвакатурай, як бы тое назвалі цяпер. “Бачачы, аднак, што праз літаратуру можна дайсці да славы і маёмасці, забраўся ў яе…”. Тут Грэч па меншай меры перабаршчыў: бо ніколі і нідзе літаратура не была дарогай простай і надзейнай, прыводзячай да багацця, а, значыць, “прыяцель” стараецца даказаць, што Булгарын заўсёды і ўсюды кіраваўся толькі практычнымі імкненнямі. Аднак гэта занадта выразна разыходзіцца з праўдай.

Булгарын дэбютаваў у расійскім пісьменніцтве перакладам з Гарацыя і атрымаў поспех. У 1822 годзе пачынае выдаваць свой “Северный архив”, а затым разам з Грэчам, газеты “Сын отечества” і “Северная пчела”. Утрымліваемыя Булгарыным выдавецтвы задавольваліся заўсёды вялікім матэрыяльным поспехам.

Паслябулгарынская літаратурная спадчына змешчана ў сямі вялікіх тамах, з якіх пяць уключаюць вялікія гістарычныя і звычаёвыя аповесці, два — зборы яго фельетонаў. Некалі, вельмі даўно, калі аўтар гэтага нарыса праглытваў кожную кніжку, што трапляла ў яго рукі, і чытаў у польскім перакладзе чатырохтамовую аповесць Булгарына “Петр Иванович Выжигин”, добра памятае, што яна зрабіла на яго вялікае ўражанне. Прачытаўшы яе ад дошкі да дошкі некалькі разоў, ужо пазней, калі чытаў Талстога “Войну и мир”, здзівіла яго падабенства таго шэдэўра сусветнай літаратуры да памянёнай аповесці адвергнутага аўтара. Пацвярджае і цяпер тое ўражанне, што “Война и мир” у сваёй аснове тая, што і “Выжигин”. Абодва аўтары ставілі адну мэту: выявіць расійскае

грамадства перад і ў часе вялікай вайны 1812 года. Фабула двух твораў вельмі збліжана, хоць, натуральна, падрабязнасці апрацаваны зусім па-рознаму. Апрача “Петра Выжигина” напісаў яшчэ Булгарын “Ивана Выжигина”, які ў пэўнай ступені ўяўляе паследаванне Жыль-Бласу (Gil-Blas) у тым сэнсе, што герой, як і яго французска-іспанскі прататып, з простых людзей, які блукае на працягу дзесяткаў гадоў па ўсёй дзяржаве, бываючы і на возе, і пад возам. Выступае ён пачаргова лакеем, чыноўнікам, афіцэрам, мае сувязі з асобамі разнастайных становішчаў і сфер, якія апісваюцца маляўніча і цікава. Абодва творы мелі агромністы поспех: “Петр Выжигин” на працягу двух гадоў разыйшоўся ў колькасці 7 тыс. паасобнікаў. За грошы, заробленыя пяром, Булгарын набыў сабе маёмасць пад Дэрптам, Карлаўкай. У апошняй правёў старасць і памёр.

Булгарын напісаў многа аповесцей: “Мазепа”, “Помнік Чухіна”, “Уцёк Ляшчынскага з Гданьска”, “Эстэрка”, “Філасофскі камень” і г.д. Аднак найбольшым поспехам карысталіся яго невялікія нарысы, змяшчаемыя ў амаль кожным нумары яго часопісаў. Гэта фельетоны, як бы мы назвалі сёння той раздзел літаратуры. Ад сучасных фельетонаў Булгарына адрознівае незвычайная разнастайнасць і багацце тэм. Ён меў пра што пісаць, бачыў нямала людзей і земляў, ведаў асабіста в. кн. Канстанціна і Напалеона і ўмеў захапляюча падаваць гэта ў фельетонах.

У Зборы сваіх пісем Булгарын змясціў толькі хронікі, якія лічыў за найлепшыя. Не трапілі туды з’едлівыя крытычныя нататкі, якімі нарабіў сабе столькі ворагаў у жыцці і пасля смерці. Як мараліст, а заадно і апартуніст, вельмі абрыдзеў прагрэсістам і вольнадумцам тых часоў.

Яго фельетоны празвалі па-просту даносамі. Паданне настойліва сцвярджае, што незалежна ад формы даносаў, займаўся імі непасрэдна, будучы ў сувязях з трэцім аддзелам асабістай канцылярыі Я.Ц.М., г. зн. кіраўніцтвам палітычнай паліцыі. Грэч дарэчы сведчыць, што Булгарын не займаўся шпіёнствам, як тое відаць з уласных успамінаў таго літаратара… Грэч падрабязна тлумачыць, адкуль пайшлі плёткі пра сувязі Булгарына з трэцім аддзяленнем. “Было тое праз пару дзён пасля той дурацкай гісторыі з сямёнаўцамі. Сустрэўшыся з Булгарыным звярнуўся да яго з жартам, каб

яго застрашыць: можа пан думае, што я забыўся пра нашу размову, у якой узгадвалася, што панская кузіна была на сходзе ў Рылеева. Булгарын збялеў, схапіў мяне за руку і пачаў заклінаць, каб я яму сказаў, што менавіта данёс Бенкендорфу, каб ведаць, як яму бараніцца". Пазней гэта здарэнне прывяло да таго, што Булгарын пабег да розных сваіх уплывовых знаёмых тлумачыць і адракацца, што яму лёгка было зрабіць, бо супраць яго не было ні абвінавачванняў, ні падазрэнняў. Аднак у тым часе кузіна Булгарына, афіцэра гвардыі, была арыштавана і асуджана на паўгода крэпасці. Уся яе радня была перакананая, што данёс на яе сам пан Тадэвуш, тым болей, што ён не так даўно пасварыўся са сваімі кроўнымі. Адсюль і ўзнікла пагалоска пра даносы Булгарына.

Грэч тлумачыць таксама, якім чынам паўстала нянавісць Пушкіна да Булгарына. Сам Грэч расказаў яму, што Дэльвіг мае намер заснаваць пры саўдзеле Пушкіна часопіс і несумненна ўсё выдавецтва Булгарына ад гэтага рухне. "Прыяцель" такім чынам меўся настрашыць выдаўца, а той узяўся за пяро і заўчасна высмеяў Дэльвіга. Дасталося з гэтай аказіі і Пушкіну, які ў той час рыхтаваўся да тытула камер-юнкера. Булгарын узгадваў пра пэўную асобу, не называючы імя Пушкіна: "што дэманструе праз свае апавяданні сваё вольнадумства, а сам поўзае ля высокіх ног, абы яму далі блішчасты мундзір".

Для характарыстыкі палітычных поглядаў Булгарына аўтар нарыса дадае пару вытрымак з яго пісьмаў. Першы свой том Булгарын прысвячае "усім расіянам добрай волі". Тут жа, у тым прысвячэнні змешчан ліст да гр. Закрэўскага, тагачаснага міністра ўнутраных спраў. "Узіраючыся на свет філасофскім поглядам, — піша Булгарын, — цешуся тым у маёй нікчэмнасці, што годныя людзі, якіх ведаў некалі, дайшлі да высокіх грамадскіх становішчаў, дзякуючы сваім заслугам, а таксама імкненню да грамадскага дабра. Задавальненне маё не зацікаўленае. Нічога не шукаю, нічога не прашу, апрача павагі годных людзей, апрача падтрымкі публічнасці, якую стараюся адшукаць праз мае працы і праз маё спакойнае жыццё…". Піша не міністру, якога ўшаноўвае, а да чалавека, якога любіць ад усёй душы. "Прымі, пан мілы, гэты ліст ад старога салдата, што змяніў шаблю на пяро, каб змагацца за праўду, згодна са сваім разуменнем".

Далей Булгарын выказвае сваё profession de foi (прафесійнае крэда), стараючыся ўзаконіць сатырычны накірунак сваіх лістоў, і робіць тое досыць арыгінальным чынам, даказваючы, што і Пётр I, і Кацярына II, і іншыя манархі прызнавалі сатыру добрай волі. Тут уражвае наступны абзац:

“Наш мудры ўрад дбае пра асвету, дбае пра маральнасць і прызнае вольнасць. Прававы закон, зацверджаны манархам 22 красавіка 1828 года, — найлепшы доказ таму. Гэта найтрывалейшы помнік міласці да асветы і праўды нашага абагаўлёнага манарха, помнік, годны нашай эпохі і моцы Расіі”.

Нічога дзіўнага, што такіх слоў не маглі даравацъ Булгарыну калегі па пяру, якія баючыся гаварыць адкрыта, ненавідзелі цэнзуру тых дастойнікаў і лад, так узвышаемы ім. З гістарычных матэрыялаў, змешчаных у “Русской старине”, відаць, што і сам Булгарын не спачываў на ружах, што і яго прыгнечвала цэнзура, што пакутваў ён на гаўптвахтах за свае фельетоны.

Адзін том сваіх лістоў Булгарын прысвячае расійскай публіцы ў доказ сваёй павагі і ўдзячнасці, і ў прысвячэнні піша між іншым: “Вер, каханы чытач, што горача люблю Расію, што ўдзячны ёй за ўсё добрае, што тут адчуў, што жадаю ёй дабрабыту, сілы, але адсюль не вынікае, што меў любіць і яе прэтэнцыёзнасць, злоўжыванні. У кожным народзе ёсць добрыя і злыя бакі. Мы імкнемся супольнымі сіламі пра памяншэнне злога ў нашай дарагой Расіі і пра павелічэнне добрага. Поспех маіх сціплых прац ёсць найлепшы доказ, што ўсе добрыя і адукаваныя людзі на маім баку, што ў благаславеннай Расіі ёсць ў тысячы разоў больш добрых, чым злых. Хвала Богу…”.

Аўтар нарыса спасылаецца на вядомага яму некалі паэта, смуткуючага напоўвар’ята, які гаварыў аднойчы, паказваючы падраныя боты і плашч, у якіх хадзіў зімой і летам: “помнікі мне будуць ставіць па смерці!.. Далі б мне лепей наяўнымі цяпер на тое, што не магу выдаць”. Грамадства ўзнагароджвае выдатных людзей альбо пры жыцці, альбо пасля смерці.

Ф.Булгарын спаўна атрымаў пры жыцці наяўнымі ўсё, што яму належала. Няма толькі помніка.

Можа, калі які дацэнт літаратуры зоймецца дзейнасцю гэтага пісьменніка, адарве яго імя ад ганебнага слупа, пад якім ён стаіць

паўстагоддзя з лішкам (адносна нашага часу — звыш 150 гадоў. — У.К.), разбярэцца, што ўсё-такі аўтар першых аповесцей на рускай мове мае пэўныя заслугі, што навучыліся чагосьці і мы ад яго, што зрабіў ён нейкі ўплыў на развіццё пісьменства. Ф.Булгарын быў палякам толькі з назвы, па-польску не пісаў і няма яго імя ў польскай літаратуры. Пакінуў край, шукаў новай Айчыны, прысвяціў сваё пяро чужому пісьменству…

Ад аўтара. Цяпер ад нас залежыць справа зберажэння рэшткаў сядзібы Булгарынаў як гістарычнага і культурнага помніка беларускага народа і адраджэння імя Фадзея Булгарына як значнай культурнай з'явы першай паловы XIX стагоддзя.

## ЁН БАЧЫЎ РАДЗІМУ Ў САДАХ

*Не перапыняецца жыватворная крыніца вядомых беларускіх імёнаў. З даўнішніх даваенных фотаздымкаў да нас звяртаецца чысты, спакойны погляд добрага, мудрага і патрабавальнага чалавека, прадстаўніка адной з самых высокародных прафесій Васіля Васільевіча Пашкевіча…*

У 1940 годзе пачаў выходзіць акадэмічны часопіс "Веснік сацыялістычнага раслінаводства", які быў закліканы асвятляць навуковую дзейнасць Інстытута раслінаводства (цяпер — імя М.І.Вавілава) Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук (ВАСХНИЛ).

Уступ і наступныя тры артыкулы былі прысвечаны памяці акадэміка Васіля Васільевіча Пашкевіча. Самы змястоўны і ў многім нефармальны з іх быў падрыхтаваны тагачасным дырэктарам Інстытута раслінаводства, відным batанікам-раслінаводам, генетыкам-селекцыянерам, географам, першым прэзідэнтам Усесаюзнай Акадэміі сельскагаспадарчых навук, акадэмікам Акадэміі навук СССР Мікалаем Іванавічем Вавілавым (у ранейшых энцыклапедыях адзначалася, што ў гэтым жа, 1940-м годзе яго навуковая дзейнасць была перапынена, бо быў рэпрэсіраваны).



Партрэт
Васіля Пашкевіча


Васіль Пашкевіч за працай

Для нас асабліва важна, што згадваемае ў артыкулах імя В.В.Пашкевіча мае непасрэднае дачыненне да Беларусі, да Міншчыны, а яшчэ дакладней — да Уздзеншчыны.

Васіль Васільевіч Пашкевіч нарадзіўся 10 студзеня 1857 года ў вёсцы Сямёнавічы тагачаснага Ігуменскага павета, цяпер — Уздзенскага раёна, у сям'і царкоўнаслужыцеля — вясковага псаломшчыка.

Па волі бацькоў Васіль скончыў Духоўную семінарыю (хутчэй за ўсё Мінскую), але далей аддаў перавагу свецкай адукацыі — паступіў на фізіка-матэматычны факультэт па прыродазнаўчаму аддзяленню Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта, са сцен якога выйшаў у 1882 са ступенню магістра (кандыдата) прыродазнаўчых навук пасля абароны дысертацыі на тэму: "Флора кветкавых раслін Мінскай губерні". Потым гэты накірунак будзе прадоўжаны і развіты ў яго працах па культуры кветкавых і лекавых раслін.

Яшчэ студэнтам ён распачаў навуковую дзейнасць, у прыватнасці, адкрыў наяўнасць крышталяў у лістоце. Ужо ў той час яго інтарэсы пачалі схіляцца да садаводства.

У 1883 годзе В.В.Пашкевічу пашчасціла атрымаць ад Дэпартамента земляробства практыку ў адной з лепшых замежных устаноў — Гензейгеймскім інстытуце пладаводства і вінаградарства на Рэйне (Германія). Тут, хутчэй за ўсё, малады вучоны канчаткова вызначыўся са сваёй садаводчай спецыялізацыяй. Пазней асноўную працу свайго жыцця "Агульная памалогія" (1930) ён прысвяціў памяці свайго нямецкага настаўніка ў галіне пладовага сортаводства, былога дырэктара Гензейгеймскага інстытута пладаводства і вінаградарства на Рэйне, у той час ужо нябожчыка, Рудольфа Гётэ, які "ўмеў усяляць у вучняў і слухачоў любоў да прадмета, закладваць у іх пачаткі трывалых ведаў — як шляхам павучальных гутарак і чытанняў, так і шляхам практычных работ на памалагічныя (звя-

заныя з вывучэннем сартоў пладовых дрэў) тэмы", чым і займаўся ў далейшым сам В.В.Пашкевіч. Тут ён выказаў таксама асаблівую падзяку М.І.Вавілаву. Калі першы быў для В.В.Пашкевіча Настаўнікам не толькі ў пладаводстве, але і ў жыцці, то другі быў яго самым адораным і ўплывовым Вучнем. Тады наш вучоны прайшоў практыку яшчэ і ў Аўстрыі.

Пры вяртанні ў 1885 годзе ў Расію, В.В.Пашкевіч атрымаў прызначэнне выкладчыкам Уманскага вучылішча земляробства і садаводства, а праз сем гадоў ён пераводзіцца ў Нікіцкі батанічны сад (Крым) на пасаду галоўнага садавода і выкладчыка Нікіцкага вучылішча садаводства. З 1894 года — ён галоўны садавод Пецярбургскага батанічнага сада, а з 1894 года — спецыяліст па садаводству дэпартамента земляробства.

На гэтай пасадзе ён знаходзіўся да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Менавіта гэта становішча адкрывала яму найшырэйшыя магчымасці для азнаямлення са станам садаводства ў Расіі, удзелу ў выстаўках, экспертызах і інш. Ім былі дэталёва абследаваны і вывучаны ў 1896—1911 гадах садаводствы ў Варонежскай, Сімбірскай, Саратаўскай, Астраханскай, Пензенскай, Ніжагародскай, Казанскай, Вяцкай, Валынскай і Мінскай губернях; пазней — у Азербайджане. Багацейшы матэрыял апрацаваны, сістэматызаваны і выдадзены асобнымі выпускамі. Ён ахопліваў прыродна-кліматычныя і эканамічныя характарыстыкі рэгіёнаў, апісанне найбольш характэрных для іх садоў і сартоў. На працы В.В.Пашкевіча спасылаўся і У.І.Ленін у рабоце "Развіццё капіталізма ў Расіі" (Соч., 4-е изд., т. 3, с. 260—261).

Адначасова В.В.Пашкевіч вёў шырокую выкладчыцкую дзейнасць. Болей за 20 гадоў ён выкладаў у школе садаводства пры Галоўным Батанічным садзе, на Сцебутаўскіх вышэйшых жаночых курсах, Каменавостраўскіх курсах. Ён кіраваў школай садаводства пры Расійскім таварystве садаводства. З 1895 па 1905 гады быў першым сакратаром гэтага таварыства. Выступаў з лекцыямі ў сельскагаспадарчым музеі ў Саляным гарадку ў С.-Пецярбургу.

Набыўшы вопыт выкладання В.В.Пашкевіч распрацоўваў праграмы школ садаводства. У часопісе "Пладаводства" за 1895 год апублікавана яго праграма практычных і тэарэтычных заняткаў па садаводству ў народных школах. Ён выдаў "Падручнік садаводства

для ніжэйшых школ садаводства”. Ім жа выпушчана кніга “Сялянскі пладовы сад” і выдатны падручнік па садаводству ў трох частках (1902 г.).

За актыўную і плённую працу ў таварыстве В.В.Пашкевіч абраны ганаровым сябрам Расійскага таварыства садаводства, Рыжскага аддзела гэтага таварыства, Маскоўскага таварыства аматараў садаводства.

Пры яго ўдзеле створаны першыя вопытныя станцыі па садаводству — Сочынская, Сухумская, Салгірская.

З імем нашага земляка звязана апублікаванне ў 1894 г. першага рускага дапаможніка па культуры лекавых і духмяных раслін. Заклік больш поўна выкарыстоўваць айчынныя прыродныя лекавыя сродкі ў той час не быў пачуты. Але з пачаткам вайны ў 1914 годзе дэпартамент земляробства даручыў яму напісаць нарыс “Лекавыя расліны” з рэкамендацыямі па распаўсюджванні ў Расіі іх промыслаў. У 1916 годзе даследчык прымаў удзел у арганізацыі нарыхтоўкі лекавых раслін для арміі і насельніцтва. Кніга па лекавых раслінах выходзіла трэцім і чацвертым выданнямі ў 1915 і 1916 гадах, а затым, перапрацаваная, — у 1924, 1930 і 1934 гадах. Вучоны ў 1925 годзе прымаў удзел у рабоце I Усесаюзнай нарады на лекавых раслінах і лекавай сыравіне, у 1926 годзе арганізаваў навуковадаследчыя работы па лекавых раслінах у ВАСХНІЛ. Тым не менш у шматлікіх беларускіх выданнях і перавыданнях кніг па лекавых раслінах няма нават згадкі ці спасылкі на імя В.В.Пашкевіча.

Кастрычніцкую рэвалюцыю В.В.Пашкевіч прыняў шчыра і з надзеяй. Яго асноўныя працы адносяцца да паслярэвалюцыйнага перыяду. У 1918 годзе ён працуе вучоным спецыялістам у Сельскагаспадарчым вучоным камітэце (тагачаснай вышэйшай навуковадаследчай установе па сельскай гаспадарцы). У тым жа годзе Камісарыят земляробства камандзіраваў В.В.Пашкевіча ў Крым і ён там працаваў тры гады ў якасці спецыяліста па пладаводству пры Салгірскай вопытнай станцыі, а затым у якасці прафесара кафедры пладаводства Крымскага ўніверсітэта.

У 1922 годзе В.В.Пашкевіч выбіраецца ў сябры Сельскагаспадарчага вучонага камітэта, пераўтворанага ў Дзяржаўны інстытут вопытнай аграноміі. Уваходзіў у склад Аддзела прыкладной батанікі і селекцыі ў якасці загадчыка пададдзела пладаводства, пра-

цягваў займаць гэту пасаду пасля рэарганізацыі яго ва Усесаюзны інстытут раслінаводства і працаваў на ёй да свайго скону, адначасова вёў кафедру пладаводства ў Ленінградскім сельскагаспадарчым інстытуце. Яго шматлікія вучні забяспечылі ў значнай ступені развіццё садаводства ў былым Саюзе.

У 1934 годзе ва ўзросце 77 гадоў В.В.Пашкевічу нададзена ступень доктара біялагічных і сельскагаспадарчых навук. У наступным годзе Васіль Васільевіч уваходзіць у склад Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук у якасці правадзейнага члена — акадэміка. У 1935 годзе ён атрымлівае званне заслужанага дзеяча навукі РСФСР.

М.І.Вавілаў удакладняе, што нарыс дзейнасці В.В.Пашкевіча (у дадзеным артыкуле дапоўнены намі і з іншых крыніц) складзены ім на падставе падрыхтаванай Васілём Васільевічам аўтабіяграфіі. Але... Намнога глыбей і вобразней, працягвае ён, унутраны змест гэтага жыцця. І далей ідзе нефармальны выклад асобных адметнасцей прафесійнага жыцця В.В.Пашкевіча.

Васіль Васільевіч жыў і працаваў у эпоху прамысловага развіцця айчыннага садаводства. Яна вылучыла плеяду выдатных дзеячоў айчыннага садаводства, у тым ліку і І.В.Мічурына. У канцы XIX стагоддзя ўзнік вялікі попыт на пасадачны матэрыял, каб замяніць малакаштоўныя гатункі тыпу “мядунічак”, “мірончыкаў”, “дулек” і “паддулек”. Неабходны былі школы самых ніжэйшых тыпаў, кароткатэрміновых курсаў садаводства ў настаўніцкіх семінарыях.

З асобай В.В.Пашкевіча асацыіруецца эпоха барацьбы за навуковае пладаводства. Ён — яго піянер у Расіі — бачыў магчымасць укаранення сваёй сістэмы праз стварэнне кафедр па садаводству пры вышэйшых сельскагаспадарчых інстытутах, праз разгортванне вопытнай справы.

Не складае сумнення, што ў Расіі ніхто так добра не ведаў гатункаў пладовых раслін як В.В.Пашкевіч. Ён — айцец савецкай памалогіі. У гэтай галіне многае ён прапанаваў і распрацаваў упершыню. Яго сцвярджэнні карысталіся аўтарытэтам, бо ён сам прайшоў выдатную школу рускіх батанікаў. Да яго безупынна паступалі пасылкі з усёй Расіі для вызначэння і апісання гатункаў. У экспертызах на ўсіх выстаўках яму належаў рашаючы голас.

З часам у В.В.Пашкевіча выспеў унутраны план даследаванняў, па якому ён паслядоўна ішоў праз усё жыццё. З 1922 года ў яго падпарадкаванні знаходзіўся вялікі калектыў даследчыкаў. Праз іх ён і рэалізоўваў свае задумы.

Выключна агромністыя веды ён назапасіў па яблынях. Яго цікавілі пытанні біялогіі пладовых, спецыфіка іх цвіцення і апылення, выяўленне прычын бясплоднасці (самастэрыльнасці) гатункаў. Даследаванні вяліся паслядоўна і строга ў розных кліматычных і прыродных умовах, у 26-ці пунктах краіны. Ім вызначаны гатункі пладовых, якія маглі высаджвацца аднароднымі масівамі, а таксама гатункі, якія не здольны апладняць адзін аднаго. Ён прадвызначыў распаўсюджванне ў паўночным пладаводстве форм, якія здольны слацца на зямлі. Ён жа даказаў, што акліматызацыя паўднёвых гатункаў праз шматразовую перапрывіўку (да сямі разоў) можа дастасаваць іх да зімоўкі нават без укрыцця. Васіль Васільевіч лічыў, што “Садавод, які садзіць сад, павінен быць мастаком сваёй справы...”. Даследаванні завяршаліся яснымі практычнымі рэкамендацыямі.

В.В.Пашкевіч уважліва сачыў за поспехамі генетыкі, фізіялогіі, біяхіміі і сістэматыкі. За працу “Дасягненні і перспектывы ў галіне прыкладной батанікі, генетыкі і селекцыі” (1930) М.І.Вавілаў аднёс яго да ліку найбольш выдатных распрацоўшчыкаў у раслінаводстве, у прыватнасці, у генетыцы і селекцыі.

Частка абследаванняў і вопытна-даследчых работ В.В.Пашкевіча была праведзена на радзіме, у Беларусі. Так, яшчэ ў 1898 годзе ў “Весніку Расійскага таварыства садаводаў” з’явілася першая публікацыя вучонага “Пладаводства і агародніцтва ў Мінскай губерні”. У маёнтку Гаруцішкі Койданаўскай воласці ў яго быў вопытны сад і на падставе праведзеных там даследаванняў з’явіўся сур’ёзны звод пад назвай “Бясплоднасць і ступень ураджайнасці ў пладаводстве ў залежнасці ад гатунка апыляючага” (1930 г.).

Калі наша перавыданне праходзіла рэдакцыйную дапрацоўку, выявіліся новыя звесткі пра сядзібу Гаруцішкі. З брашуры даследчыка А.І.Валахановіча “Путчынскі сельскі Савет” (Дзяржынск, 2005) нам стала вядома, што яна знаходзілася ў Койданаўскай воласці і належала братам Пашкевічам. Сядзіба ляжала на ускрайку вёскі ля дарогі Дзяржынск—Заслаўе. Да яе прымыкалі два вялікія

паркі прамавугольнай кампазіцыі з лінейнымі пасадкамі ліпы, дуба, ясеня, піхты і іншых рэдкіх парод.

Пры вывучэнні рода Пашкевічаў было ўдакладнена, што царкоўны псаломшчык з вёскі Сямёнавічы Васіль Пашкевіч — гэта бацька будучага акадэміка Васіля Васільевіча Пашкевіча. Было вядома, што ён быў перамешчаны з Сямёнавіцкай царквы, але куды?

Вельмі верагодна, што некаторы час ён падвышаў сваю духоўную адукацыю, бо ў 1870 годзе стаў ужо святаром перабудаванай мясцовымі вернікамі Гаруцішкаўскай Свята-Петрапаўлаўскай царквы. Сюды ж прыязджаў на адпачынак у летні час і студэнт Санкт-Пецярбургскага універсітэта В.В.Пашкевіч. Па мясцовых матэрыялах ён падрыхтаваў і абараніў дысертацыю на ступень магістра прыродазнаўчых навук. З'явілася яго публікацыя на тэму пладаводства і агароднiцтва Мінскай губерні.

У 1915 годзе дэпартамент земляробства Расійскай імперыі спрабаваў арганізаваць тут па прапанове В.В.Пашкевіча гадавальнік лекавых траў для франтавых медыцынскіх патрэб.

У канцы 20-х гадоў XX стагоддзя вучоным быў закладзены ў Гаруцішках вопытны сад. У адным з паркаў В.В.Пашкевіч сабраў значную колькасць разнастайных пладовых і дэкаратыўных раслін. У перадваенны час маёнтак быў перададзены дзяржаве і ператварыўся ў вопытную гаспадарку, дзе праходзілі выпрабаванне акрамя пладовых дрэў, агароднінныя і іншыя цеплалюбівыя расліны.

Праблема бясплоднасці вывучалася і ў садах Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горы-Горках пад кіраўніцтвам прафесара Бурштэйна. Паралельна праводзіліся работы ў Беларускім аддзяленні Усесаюзнага інстытута прыкладной батанікі і новых культур, на яго вопытнай станцыі.

У 1927—1928 гадах ён абследаваў сады Беларусі. Тэрыторыю рэспублікі ён падзяліў на тры раёны: Паўднёвы — Палесскі ў басейне рэк Прыпяць і Сож, які ахопліваў Слуцкую, Бабруйскую і Рагачоўскую акругі і ўсю Гомельскую губерню; Сярэдні — Мінска-Магілёўскі і Паўночны — Віцебскі. Ацэньваючы мясцовыя гатункі ён прыходзіць да высновы аб неабходнасці абуджэння мясцовага пладаводства.

Ацэньваючы паводле вынікаў абследаванняў мясцовыя пладовыя культуры, вучоны даў апісанне 15 гатункаў яблык, вылучыўшы

лепшым Антонаўку, і 12 гатункаў груш, адзначыўшы сярод іх Сапежанку. У працах В.В.Пашкевіча ёсць дадзеныя пра сад саўгаса “Вусце” Аршанскай акругі, былога маёнтка Н.І.Кургі. Пасля смерці вучонага засталася неапублікаваная яго праца “Яблыкі Беларусі”.

В.В.Пашкевічам аддадзена даніна вывучэнню дзікіх сародзічаў дрэў і хмызнякоў. Па гэтай сістэме ён падзяліў гатункі яблынь на пяць груп. Іх разглядаў як “запасны капітал” для стварэння новых культурных форм. Здзейсніў экспедыцыі ва Узбекістан і Кіргізію, у ачагі натуральнага распаўсюджвання дзікіх яблынь і іншых пладовых дрэў. У Кіргізію ён паехаў ва ўзросце 73 гадоў.

Даследчык непасрэдна ўдзельнічаў у арганізацыі Магілёўскай вопытнай плантацыі лекавых раслін і кіраваў работамі па нарыхтоўцы лекавай сыравіны ў Беларусі і Украіне ў час Першай сусветнай вайны.

Пэўную ўвагу аддаў В.В.Пашкевіч вывучэнню і ўдасканаленню гароднінней культуры. Ён уважліва вывучаў вопыт айчынных агароднікаў і выступаў за арганізацыю айчыннага насенневодства і насеннага гандлю. У гады грамадзянскай вайны з’явілася яго брашура “Дзікарослая гародніна Сярэдняй і Паўночнай Расіі, яе збор і выкарыстанне” (1918).

Васіль Васільевіч — буйны кветкавод. У 1895—1896 гадах выходзяць яго публікацыі “Садовы альбом” па дэкаратыўных раслінах, галоўным чынам аранжэрэйных і цяплічных. У 1897 годзе з’явіўся артыкул “Кветкаводства на адкрытым паветры”. Яго “Кветнікі”, як і многія іншыя матэрыялы, увайшлі ў “Поўную энцыклапедыю рускай сельскай гаспадаркі”.

В.В.Пашкевіч вызначаўся рэдкай працаздольнасцю і даўгалеццем, ахапіўшым шэсць дзесяцігоддзяў яркай навуковай творчасці. Яго працавітасць уражвала ўсіх. На дзевятым дзесятку гадоў ён акуратна прыходзіў у сваю лабараторыю і працаваў, працаваў, перакананы, што жыццё — гэта перш за ўсё праца, а жыццё без працы — проста бессэнсоўнасць.

За некалькі тыдняў да скону ён выступаў на нарадзе па садаводству ў Ленінградскай вобласці. Яго прамова-заклік ператварыць Радзіму ў квітнеючы сад прагучала як запавет.

В.В.Пашкевічам напісаны сотні прац (па некаторых звестках, каля трох соцен) — на прыкладна 17 тыс. старонках. Працы гэ-

тыя выдадзены большай часткай без сааўтарства. Асноўная частка іх — кнігі, створаныя на строга дакументальный аснове. Яны — вынік апрацоўкі справаздачных дадзеных з вопытных станцый і ўчасткаў, звестак, вынікаў, высноў і прапаноў, зведзеных у яго рабочыя сшыткі.

Сярод кніг капітальныя працы "Пладовае сортаводства або памалогія на новых пачатках" (1911), "Вопыты назіранняў па пладаводству", "Агульная памалогія або вучэнне пра гатункі пладовых дрэў" (1930), "Бясплоднасць і ступень ураджайнасці ў пладаводстве ў залежнасці ад гатунка апыльваючага" (1930), "Гатункавывучэнне і гатункаводства пладовых дрэў" (1933). Да 100-годдзя з дня нараджэння В.В.Пашкевіча былі выдадзены "Выбраныя творы па пладаводству" (1959), не згубіўшыя актуальнасці і на дзень сённяшні.

Эрудыцыя В.В.Пашкевіча па пытаннях пладаводства, як і наогул раслінаводства, была выключнай. Ён даваў заўсёды ясныя адказы на іншы раз складаныя і заблытаныя пытанні, асабліва па замежных крыніцах.

Валодаючы велізарнымі ведамі, В.В.Пашкевіч да канца сваіх дзён заставаўся чулым да ўсяго новага, да руху думкі, творчасці, імкнуўся пастаянна вучыцца і перадаваць свае веды іншым. Ён адным з першых ацаніў дзейнасць І.В.Мічурына. Іх адносіны складваліся няпроста. У свой час І.В.Мічурын адхіліў перададзеную В.В.Пашкевічам прапанову дэпартамента земляробства ўзяць на ўтрыманне мічурынскую гаспадарку — з апасення апекі над творчай дзейнасцю. Але потым яны перараслі ў шматгадовую прыязнь. Калі І.В.Мічурына яшчэ не прызнавала афіцыйная навука, Васіль Васільевіч прысвяціў яму працу, у якой дзейнасць селекцыянера атрымала высокую ацэнку і падтрымку.

Вучоны быў заўжды дабразычлівым і чулым да моладзі, да яе памкненняў, быў гатовы бясконца дапамагаць усім. Ён быў высокародны, праўдзівы і сціплы чалавек незвычайнай сумленнасці, прастаты і лагоднасці. "Жыць і працаваць з ім было выключна лёгка", — заключыў М.Вавілаў свой некралог, падкрэсліваючы бессмяротную яго заслугу перад чалавецтвам.

На 83-м годзе жыцця буйнейшы пладавод таго часу, акадэмік Васіль Васільевіч Пашкевіч ціха спачыў у ноч на 14 ліпеня 1939 года ў доме адпачынку пад Ленінградам.

Яго пісьмовы стол у невялікім кабінеце-пакойчыку пасля яго адыходу ў вечнасць заставаўся запоўненым кнігамі, часопісамі, рукапісамі: ён збіраўся яшчэ працаваць!

Для нас жа ён пакінуў зварот да 1 мая, які змясціў у інстытуцкай настеннай газеце. Словы яго здаюцца здзіўляюча маладымі і жыццерадаснымі:

“Май — гэта сімвал развіцця ў раслінным свеце, які мы імкнемся ахапіць, абняць ва ўсім яго аб’ёме і пранікнуць у глыбіню яго, раскрыць таемнасці з’яў, што ў ім адбываюцца, і звярнуць іх на карысць... усіх працоўных зямной кулі, што шукаюць дабра і ісціны. Усёперамагаючая ісціна ды будзе спадарожніцай і кіраўніцай, і з ёю, ідучы наперад, “дзейнічайце”, калі адчуеце цвёрды грунт пад Вашымі нагамі... Не пакідайце ні малейшага куточка, не асветленага навуковым аналізам — і Вы не саб’яцеся з прамога шляху ні направа, ні налева і пажняце плады Вашых майскіх красак”.

## АКАДЭМІК Л.В.КАНТАРОВІЧ І НАДНЯМОННЕ

Кантаровіч Леанід Вітальевіч [6 (19). 1. 1912 — 7.4.1986] — выдатны савецкі вучоны, матэматык, эканаміст. Яго працы датычылі тэорыі функцый сапраўднага пераменнага, функцыянальнага дыягназа і яго дастасаванняў у вылічальнай матэматыцы, прыбліжаных метадаў вылічэнняў, выкарыстання матэматычных метадаў у эканоміцы. Вучань Г.М.Фіхтэнгольца.

Нарадзіўся ў Ленінградзе ў сям’і ўрача. Навуковую дзейнасць распачаў у 15 гадоў. У 1926 годзе ён паступае ва ўзросце 14 гадоў у Ленінградскі універсітэт. У 18 гадоў скончыў матэматычнае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта Ленінградскага ўніверсітэта. Выкладаў у вышэйшых навучальных установах.

З 1934 года — прафесар, з 1935 — доктар матэматычных навук (без абароны дысертацыі). З 1941 па 1948 год служыў на флоце, інжынер-палкоўнік. У 1932—1941 і 1944—1960 гадах загадчык кафедры Ленінградскага ўніверсітэта. З 1960 года намеснік дырэктара Інстытута матэматыкі Сібірскага аддзялення АН СССР. З 1971 па 1986 год супрацоўнік Дзяржаўнага Камітэта па навуцы і тэхніцы. З 1986 года дырэктар Інстытута сістэмных даследаванняў АН СССР.

З 1958 года член-карэспандэнт, а затым з 1964 года акадэмік АН СССР. Дзяржаўная прэмія СССР у 1949 годзе; Ленінская прэмія — 1965 года; Нобелеўская прэмія — 1975 года.

Ёсць пэўныя звесткі, што карані продкаў вучонага Гразоўскіх-Кантаровічаў выходзяць з Беларусі — Мінска і Наднямоння.

Гразоўскі Зелік Міхлевіч (1878—1939) жыў у мястэчку Пясочнае (цяпер Капыльскі раён). У 1923 годзе эмігрыраваў у Францыю. Загінуў у Парыжы пад час Другой сусветнай вайны. Яго жонка Эстэр Шэвелеўна Кантаровіч (1872—1942) выехала з Пясочнага ў 1930 годзе ў Ленінград, дзе і загінула.

Іх дачка Міхля Зелікаўна Гразоўская са сваёй дачкой Арыяднай пабудавалі ў Пясочным над Нёманам маленькую хатку і праводзілі тут кожнае лета. Цяпер іх ужо няма. Аўтар гэтых радкоў быў асабіста знаёмы з Арыяднай. Цяпер сюды на адпачынак прыязджае сын Арыядны са сваёй сям’ёй.

З.М.Гразоўскі пры Конрадзе Якубавічу Наркевічу-Ёдку займаў у 1913 годзе на службе ў маёнтку пасаду загадчыка метэаралагічнай станцыі першага разраду “Над Нёман”.

Ёсць сведчанні, што ў час грамадзянскай вайны ў Расіі сям’я Л.В.Кантаровіча пераязджала ў Беларусь. У Мінску жылі яго бабуля і дзядуля Майсей Кантаровіч. У 1922 годзе памёр яго бацька будучага вучонага Віталь Кантаровіч, пакінуўшы сына на выхаванне маці, уроджанай Паўліны Сакс.

Пра радство Л.В.Кантаровіча з яго песачанска-уздзенскімі продкамі пісаў былы вучань Уздзенскай школы Шлефрын, які цяпер жыве ў ЗША.



# ЗНАЎЦЫ ТАЯМНІЦ РОДНАГА КРАЮ

Для жыхара Уздзеншчыны няма чалавека аўтарытэтнейшага за краязнаўца. Яго слухаюць, чытаюць. З ім сустракаюцца, абменьваюцца думкамі. Усе краязнаўцы — асобы самадзейныя. Іх ніхто краязнаўчай справе не вучыць. Яны самі ствараюць і ўсталёўваюць свой аўтарытэт. Яны — ахоўнікі нашай зямлі.

Сярод краязнаўцаў ёсць і пэўная спецыялізацыя. Некаторыя з іх вылучаюцца і атрымліваюць вядомасць у пэўных накірунках дзейнасці. Так, на наднёманскай зямлі ўзвысіліся народныя фенолагі, гісторыкі, кампазітары, казачнікі...

Пра прадстаўнікоў гэтага творчага ўздзенскага грона мы і раскажам.

## НАРОДНЫ ГІСТОРЫК

Фёдар Пятровіч Бельскі (1900—1975) нарадзіўся ў вёсцы Забалацце. З дзяцінства захапляўся гістарычнымі рэканструкцыямі. Калі ў сваім гістарычным паглыбленні дайшоў да перыяда ўвядзення на Русі хрысціянства, яго захапіла загадка, адкуль прыйшлі на вярхоўе Нёмана яго далёкія продкі.

Фармальна, афіцыйна адукацыя Ф.П.Бельскага адносна невысокая — пачатковая. Далей ужо жыццё давучвала Ф.П.Бельскага, кідаючы яго ў гушчу падзей Першай сусветнай, а потым і грамадзянскай войн. Суровыя ўмовы гадоў рэвалюцый, акупацый, цяжкасцей аднаўлення рана сфарміравалі яго жыццёвую пазіцыю.

У чэрвені 1917 года адзін з салдат-франтавікоў падараваў Фёдару Пятровічу газету, дзе былі надрукаваны ленінскія “Апрельские тезисы” і “Задачи пролетариата в нашей революции”, а таксама кніжку У.І.Леніна “Материализм и эмпириокритицизм”.

Гэту кніжку малады Ф.П.Бельскі чытаў і перачытваў, як сам сцвярджаў, дзесятак разоў. Яна стала першым падручнікам, які тлумачыў яму пабудову свету, маленькай часцінкай якога з'яўляецца чалавек. Яна стала для яго сапраўднай навукай усіх навук — матэрыялістычнай філасофіі, якую ўдзячны чытач засвоіў на ўсё жыццё, а У.І.Ленін стаў яму настаўнікам у ідэалогіі, палітыцы і практыцы, блізкім, кампетэнтным і патрэбным чалавекам. І надалей ён следаваў яму праз усё жыццё.

І цяпер гэта адзіная філасофская работа У.І.Леніна многімі спецыялістамі лічыцца класічнай і бездакорнай. Сцвярждэнні аўтара, што "пытанне аб уладзе — гэта пытанне нумар адзін таксама і ў філасофіі, бо філасофія ў рэшце рэшт ёсць палітыка", не могуць нікім быць аспрэчаны.

Так Ф.П.Бельскі стаў бальшавіком. У гады Савецкай улады быў выключаны з партыі і нават некаторы час сядзеў у турме за яго нязгоду, як старшыні калгаса, прымяняць у мясцовых умовах прапануемую афіцыёзам агратэхналогію.

Жыццёвую пазіцыю Ф.П.Бельскаму патрабавалася ў наступным развіваць. Сваіх высокіх ведаў ён, як і многія яго сучаснікі, дасягнуў упартай самаадукацыяй. Колькі жыў — столькі і вучыўся.

Калі ў дні "палучкі" і свят у Забалацці, паводле яго слоў, "стаяў па ўсім сяле п'яны чад-угар да дурноты" і ў іншых сем'ях узнікалі калі-нікалі "гарэлачныя спрэчкі", то ў доме нумар 80 Ф.П.Бельскага размова ішла з нагоды празмерных выдаткаў гаспадара на набыццё літаратуры.

Для ацэнкі і карэкціроўкі сваіх ідэй ён звяртаўся да высокіх вучоных аўтарытэтаў, да прац Герадота, С.М.Салаўёва. Яго не заўсёды глыбока сістэматызаваныя працы тым не менш абавязкова абапіраюцца на навуковы падмурак. Іх глыбіню пачынаеш разумець з кожным новым зваротам да яго высноў і меркаванняў. Вельмі развітая інтуіцыя, заснаваная на засваенні народнай спадчыны — песень, паданняў, легенд, яго ніколі не падводзіла.

Вось таму матэрыялы пра Ф.П.Бельскага мы пераносім з мінулай сваёй кніжкі ў катэгорыю асноўных і ўключаем іх у "Абразкі".

У час службы ў Чырвонай арміі Ф.П.Бельскаму давялося ваяваць, а потым і працаваць ва Украіне. Паводле яго ўспамінаў ён прайшоў паўз Днепр да Запарожскіх парогаў і вывучаў іх “праз цэйсаўскі бінокль”.

Перапоўнены паданнямі пра выратавальную для беларусаў паўднёвую зямлю, ён уважліва прыглядаўся да яе, заўважаў на ёй надзвычай многа блізкага, радзіннага. Прыслухоўваўся да падняпроўскіх геаграфічных назваў, знаходзіў сугучныя з беларускімі.

Назвы рэк, урочышчаў, беларускіх і украінскіх месяцаў, жывёл, казурак гавораць, на яго думку, пра аднолькавую працоўную дзейнасць нашых продкаў, перадаюць іх агульную гісторыю. З гадамі прыйшоў да высновы, што на нашу зямлю продкі прыйшлі з поўдня. Адным з першых доказаў таму паставіў у цэнтр увагі тапанімічныя сходствы нашых ключавых назваў.

Развітая з дзяцінства назіральнасць, глыбокае веданне праяў народнага характара, стабільнасці паводзін свайго народа, стойкасці яго звычаяў дазвалялі рабіць яму доказныя абагульненні. “Вось такія матэрыяльныя дакументы-помнікі ў спалучэнні з мясцовымі народнымі паданнямі я маю ў сваім распараджэнні для ўсведамлення, для творчага асэнсавання іх у рабоце над стварэннем мясцовай гісторыі, старажытнай гісторыі Уздзеншчыны, Узды і навакольных сёл”, — пісаў Ф.П.Бельскі.

Добрае паразуменне ў сваёй працы ён знаходзіў з мясцовым настаўніцтвам, у прыватнасці, з настаўнікам з Мрочак А.Рудамінскім.

У сваіх пошуках далучаўся і да вялікай навукі, шырока карыстаўся навуковымі працамі. Перапісваўся “для падмацавання сваёй інтуіцыі” з вучонымі: К.І.Шабунем (яго земляком), Э.М.Загарульскім, А.П.Грыцкевічам, В.П.Лемцюговай. Асабліва плённым было яго супрацоўніцтва з вучоным-географам В.А.Жучкевічам.

Але некаторых навукоўцаў не здавальняў і нават раздражняў навуковы падыход Ф.П.Бельскага, адрозны ад акадэмічнага, заснаванага толькі на дакументальнай аснове. Самадзейны гісторык не пагаджаўся і з тэзісам “Няма дакументаў — няма і гісторыі”, адносячы яго да буржуазнага.

Сапраўды, у сваіх развагах і высновах ён адштурхоўваўся не толькі ад фактаў, якія ведаў і шырока выкарыстоўваў, пачынаючы са спасылак на старажытных гісторыкаў, але і ад народных згадак і паданняў, інтуіцыйных меркаванняў. Нам неаднаразова даводзілася пераконвацца ў слушнасці такога падыхода, бо яго навукова-даследчы прыём ішоў ад зямлі, ад жыцця, у якім абы-што ў якасці эталонаў не выкарыстоўваецца.

Такі метад пазнання можна залічваць у пэўнай ступені да доказна-дакладнага. Нам давялося знайсці супадзенне і адзінства навуковага метада селяніна Ф.П.Бельскага і яго земляка, прафесара Кіеўскай Духоўнай акадэміі Уладзіміра Зянонавіча Завітневіча (1853—1927). У сваіх працах кіеўскі вучоны карыстаўся таксама археалагічнымі знаходкамі, паданнямі, легендамі і тым своеасаблівым жанрам пазнання, які ім адносіўся да меркаванняў, згадак, казак і гаданняў, зразумела, навуковых.

У распараджэнні даследчыка, — лічыў У.З.Завітневіч, — застаюцца і іншыя шляхі пазнання вельмі абмежаванага звесткамі мінулага: асабістая думка, набытая шляхам напружанай разумовай работы. Яна разлічана на адны чалавечыя сілы, што выцякаюць са здабытага вучоным погляду, яго асабістага вопыту, звароту да праяў народнай памяці.

“У шырока дасведчанага гісторыка, — пісаў ён, — ёсць свая ўнутраная крытыка, якая стварае такое перапляценне дадзеных, пры якіх асобна выступаючыя факты падтрымліваюць, адзін за аднаго ручаюцца…”, “…але ў гэтых дагадках ён не мае аніякага права выходзіць за межы лагічнай верагоднасці…”.

Ф.П.Бельскі, як і У.З.Завітневіч, лічыў, што гістарычнае цячэнне працэсаў у многім вызначаецца першапачатковымі перадумовамі ўзнікнення таго ці іншага этнаса, народа. На гэты пачатак як бы накладваюцца наперад прадвызначаным чынам усе наступныя працэсы, уключаючы і духоўныя.

Прафесару У.З.Завітневічу ўдалося вызначыць паўночныя межы пасялення скіфскіх народаў на рацэ Сула ў Роменскім павеце (тут некалі скіфы былі спынены). Потым яны падвергліся нападу прыдунайскіх плямёнаў. Сулічы (племя на рацэ Сулá) аселі паміж Бугам і Дняпром. Затым увайшлі ў склад Кіеўскага княжаства.

Дрыгавічы паводле У.З.Завітневіча займалі вобласць ад Прыпяці да вярхоўяў Заходняй Дзвіны, мяжуючы з Усходу з Дняпром, з Захаду — з вярхоўямі Нёмана і яго прытокаў. Гэта адпавядала прыкладна граніцам Мінскай губерні. У далейшым тэрмін дрыгавічы стаў больш прымяняцца адносна Тураўскай зямлі.

Паводле Ф.П.Бельскага (ён працамі У.З.Завітневіча не карыстаўся) продкі першабытных усходніх славянаў жылі на тэрыторыі, прылягаючай да ракі Днестр ад яе вытокаў і да ўпадзення ў раку Днепр.

Гісторыя продкаў-славян на Уздзеншчыне паводле яго меркаванняў пачалася пасля іх перасялення сюды ў II—III стагоддзях н.э. Плямёны з поўдня прынеслі на нашы землі сваю культуру, у тым ліку і тапанімічныя формы.

Спрабуючы рэканструяваць мінулае Ф.П.Бельскі выкарыстоўвае археалагічныя сведчанні, паданні, успаміны старых людзей, народныя песні, казкі і тапанімічную спадчыну.

Народная памяць, яе сведчанні ў галоўным, самым істотным, неверагодна ўстойлівая. “Народная маса наогул непадатлівая на рэзкія перамены ў яе жыцці і сапраўдная мудрасць заўсёды лічылася з гэтым фактарам жыцця народа”, — прызнаваў У.З.Завітневіч.

Хрысціянства пранікла на землі цяперашняй Беларусі ў першую чаргу на Тураўшчыну, рачнымі шляхамі з Кіева па Дняпру і Прыпяці, якія невыпадкова атрымалі статус “божых дарог”. Тыя шляхі заставаліся адначасова і шляхамі праўды, веры. Такія меркаванні несумненна “ручаліся адзін за аднаго”.

Ф.П.Бельскі ўспамінае, што ў 1913 годзе праваслаўны святар Юшкевіч на ўроку Закона Божага ў Уздзенскім народным вучылішчы паведаў ім, вучням трэцяга класа, гісторыю свайго Уздзенскага прыхода “па дакументах Св. Сінода і Патрыярха”. Паводле яго слоў праваслаўная рэлігія дайшла сюда, наУздзеншчыну, праз сто гадоў пасля хрышчэння кіеўлян, прыкладна ў канцы XI стагоддзя.

Кіеўскага вялікага князя пляменнік, ён жа старшы дружыннік, Васко (Васіль) з дружынай жыў тут, ахоўваючы паўночна-заходні рубеж княжаства, славянскае насельніцтва ад набегаў з літоўскіх лясоў рознамоўных рабаўнікоў. Збіраў тут даніну: скуры, футра, сушаную рыбу, мёд і дастаўляў па рэках князю ў Кіеў. З Кіева на Уздзеншчыну прывозіў соль, металічныя вырабы — сякеры, косы і іншае.

Па зімняму шляху Васко прывёз аднойчы ў Узду чатырох праваслаўных святароў. Яны хрысцілі насельнікаў Уздзенскай воласці і сумежных сёлаў і кіравалі будаўніцтвам царквы ў сяле Вузда (Узда). Царкву зрубілі з бёрнаў на тым месцы, дзе цяпер стаіць мураваная.

Ускоснае пацвярджэнне аб распаўсюджванні хрысціянства на нашай зямлі Ф.П.Бельскі знайшоў у “Гісторыі Расіі са старажытнейшых часоў” С.М.Салаўёва.

Ф.П.Бельскі лічыў уздзенскімі продкамі славянскія народы з ракі Дзесна, спасылаючыся на кнігу Герадота.

Цікавыя яго запісы народных песень і паданняў. Сваёй напеўнасцю падкупляе паэма аб часах казацкага паўстання пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага (атамана Хмеля), у атрады якога адыходзілі здабываць вольную мясцовыя забалацкія хлопцы:

Не сцярпелі нашы хлопцы
Горкай той нядолі:
Апусцелі нашы сёлы —
Пайшлі шукаць волю.

Няма хлопцаў нашых мілых,
Якіх мы любілі.
Усе паехалі далёка
К сёстрам ва Украіну.

Паехалі нашы хлопцы
За Дняпро, за Дзесну.
Нам сказалі: “Падрастайце
На другую весну…”

Запісваючы гэту песню, Ф.П.Бельскі спытаў 80-гадовую старую: ад каго ў яе тая песня? Бабуля адказала: “Мая бабуля казала, што гэту песню пела маці яе бабулі”.

У сваіх роздумах Ф.П.Бельскі вяртаецца ў глыбокую гісторыю, апісвае Уздзеншчыну XII—XIII стагоддзяў. Збірае і апрацоўвае паданні ад самых далёкіх часоў татара-мангольскага нашэсця, бачыць там важны для нашай зямлі рубеж. Узгадвае па пераказах вяскоўцаў паходы Суворава і Кутузава. Апісвае падарожжа-вяртанне аднаго з рэкрутаў пасля 25 гадоў службы ў царскай арміі.

Згодна з паданнямі, яго родная вёска Забалацце ўзнікла яшчэ тады, калі мясцовы князь па паляўнічых сцежках сярод лясной

глушы пачаў пракладваць дарогі. З Узды ён перасяліў на Неманец некалькі сямей, даручыўшы ім узвесці па забалочаным лузе драўляную гаць, а праз раку пабудаваць і ўтрымліваць мост. Падзею гэту аўтар залічвае да пачатку XII стагоддзя.

Рэшткі тоўстых сасновых пнёў, спарахнелых балотных насцілаў і маставых збудаванняў, здабытых на паверхню пры асушцы балот і расчыстцы руслаў Неманца і Лошы, для самадзейнага даследчыка — важнейшыя неацэнныя матэрыяльныя сведчанні пра побыт і працоўную дзейнасць продкаў. Сярод паднятых з балота знаходак ён адшукаў і апрацаваныя каменныя пліты.

Фёдар Пятровіч склаў своеасаблівы мартыролаг на жыхароў Забалацця, пачынаючы ад пачатку XIX ст.: хто, калі і дзе жыў, калі памёр ці загінуў. На яго планах-схемах было пазначана, дзе стаялі хаты, хто і калі ў іх жыў.

Ф.П.Бельскі склаў падрабязныя матэрыялы аб станаўленні на вёсцы Савецкай улады. То быў яго час, час найвялікшых пераўтварэнняў і найбольш дзейснай часткі яго жыцця.

Ёсць у Фёдара Пятровіча цікавыя замалёўкі пра першага каваля, пра першы на вёсцы плуг, горкую сіроцкую долю.

Ён запісаў шэраг народных паданняў і сказаў. З асаблівай цеплынёй занатоўваў абрады сельскага жыцця. Апісанні народных свят, у прыватнасці Купалля, уздымаюцца да паэтычнага ўзроўню. Яны перапоўнены ў многім ужо адыйшоўшымі і падзабытымі трапнымі і праўдзівымі сведчаннямі. Асабліва дакладна апісаны былы прыродны свет.

Нязначна апрацаваная намі яго “Купальская ноч на рацэ Ушдонцы” ўключана ў выданне “Памяць. Уздзенскі раён” (2003).

Далей наш гісторык сцвярджаў, што некаторыя вучоныя неаргументавана звязваюць паходжанне назвы Узда з іншаплямённымі народамі-качэўнікамі. Ён рашуча адвяргаў прапанаваную навукоўцамі версію тапаніма “Узда”, як запазычанага ад татар: Уз-да, — маўляў, “размешчаная на Усе”.

Бо, —

па-першае — Узда размешчана не на Усе, а на Уздзянцы;

па-другое — усе назвы нашых мясцовых пасяленняў да-татарскія. Іх прынеслі з сабой на нашы землі старажытныя славяне з Поўдня яшчэ ў II—III стагоддзях н.э. Першае ж татара-манголь-

скае нашэсце на тэрыторыю сённяшняй Беларусі адбылося толькі ў XIII стагоддзі. Таму звяртацца да татарскай, як і да індаеўрапейскай, ці паўночна-іранскай этымалогій тут няма ніякай патрэбы, — заключаў Ф.П.Бельскі.

Роднае для нас і блізкае гукавое спалучэнне “дн” прыйшло да нас з поўдня і паходзіць ад слоў “доно”, “дно”, г. зн. доннае рачное ложа. На гэтым гукаспалучэнні ўзніклі назвы Днепр, Дон, Днестр, Дзесна. Паніжаныя ж месцы, дзе магла збірацца вада, атрымалі назву лотаў, долаў, далін і донаў. Праўда, Дн-е-пр дапаўняецца гукам “пр”, што азначае парогі, а Дн-е-стр — гукамі “стр”, што значыць стромкі, хуткі (як і ў назве ракі Стрый).

Там, дзе працякаюць такія рэкі, там наша прарадзіма. Вось чаму здавён у пошуках веры і шчасця нашы людзі імкнуліся на поўдзень, па сутнасці да продкаў, пад іх сакральную абарону.

Слова “рака” ўзнікла пазней, калі на водных шляхах у час Вялікага перасялення народаў на фоне акаляючай усеахопнай цішы загрымеў людскі говар, рэч. Ад рече, рек пайшла новая назва река, рака.

Дзесна, уша — азначала левы. Левы — часцей меншы прыток ракі. Пры гэтым назва выцякала не столькі з накірунку цячэння рэк, сколькі з напрамку перамяшчэння падарожнікаў-перасяленцаў.

Што ж датычыць уздзенскіх рэчак, то ў іх праходзіць агульны гукавы рад “Уша”, “Вуша”, Вуса”, што азначала зноў жа левы прыток ракі, дона, дна. Па нізоўю ракі ўтварылася і яе назва: “у Ушу”, “Вуша”, “Вуса”, сёння—“Уса”. У сваю чаргу ўпадаючая ў яе злева малая рэчка таксама мае такую ж назву, але яшчэ з памяншальным прыдаткам “дона” — “донка”. Так узнікла, — лічыць Ф.Бельскі, — назва рэчкі “Вушдонка”. З часам і пасяленне на рэчцы назвалі “Вушдонка”.

Далей ён спасылаецца на паданне продкаў: “…Васіль (Васко) за воз даніны атрымаў ад Кіеўскага князя воласць, сам стаў князем (князьком) і сказаў: “Дзяўчына стала жонкай. Вушдонка будзе Вуздой”. З таго часу сяло быццам бы прыняло назву Вузда. Пазней пісцы-каморнікі, што перапісвалі мясцовыя маёнткі, недачулі назву “Вуша”, “Вусша” і перайначылі на “Вусу”. Далей пайшла сучасная назва гэтай ракі. Вось якая, мяркуйце самі, цана дакладнасці ці недакладнасці некаторых дакументаў.



Фёдар Бельскі з піянерамі.
Здымак Адама Александровіча каля дома Ф. Бельскага ў Забалацці

Можна сказаць без ваганняў: лагічна, доказна і прыгожа будуе версію мясцовай гісторыі Ф.П.Бельскі. Яму можна верыць. Ён нідзе не здраджвае сваёй унутранай крытыцы і свайму прыроджанаму чуццю.

Ф.П.Бельскі доўгі час плённа супрацоўнічаў з аддзяленнем феналогіі* Геаграфічнага таварыства пры Акадэміі навук СССР. Атрымліваў адтуль бланкі-формы для запаўнення звесткамі аб стане прыродных з'яў. Рэгулярна дасылаў таварыству справаздачы.

Калі ў 1975 годзе дачка Фёдара Пятровіча паведаміла Геаграфічнаму таварыству аб сконе іх пастаяннага карэспандэнта, адтуль прыйшло глыбокое спачуванне па нагодзе гэтай страты і прапанова прадоўжыць справу бацькі.

Ф.П.Бельскі, як усебакова творчы чалавек, пісаў вершы. Бясхітрасныя і шчырыя, яны вобразна перадаюць пафас пераўтварэнняў вясковага жыцця. Адно з іх напісана на ўкраінскай мове 7—12 мая 1940 года ў Забалацці:

Мое солнце — на Вкраїні!
Щири молодици,

*Феналогія — навука аб сезонных з'явах у жывой прыродзе.

Росщимлене мое сэрцэ
Лечить чаривници!
Там шукайте великую
Та людськую правду,
Приголубтє покривдженіх
Недолей, неправдой.
Кохаю вас, мої сестри,
Мої рідні, милі!
Як кохає мати щира
Рідную дитину…

Большасць яго несумненна ўнікальных матэрыялаў знаходзіцца ў фондах Уздзенскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея. Цяпер яны наш агульны здабытак.

Лепей ад іншых раскрыў для нашчадкаў асобу Ф.П.Бельскага ў сваіх нарысах яго аднавясковец, драматург і краязнаўца Алесь Махнач. Публікацыі праходзілі ў раённай газеце, часопісе "Беларуская думка", краязнаўчым нарысе "Забалацце" ў серыі "Ведаць наш край".

Не спрабуючы ні ў якім разе пераўзыйсці Алеся Іванавіча, мы гэтым артыкулам толькі ўдакладняем некаторыя менш вядомыя і асэнсаваныя старонкі творчасці Фёдара Пятровіча Бельскага.

## НАДНЁМАНСКІ ЭКОЛАГ

Са Станіславам Адольфавічам Шкадзінскім я пазнаёміўся ў 1975 годзе, калі толькі пачынаў свой пошук у Наднямонні. Даведаўшыся пра маю зацікаўленасць наднёманскай сядзібай, ён пасляшаўся адшукаць мяне і перадаў матэрыялы па ёй тады малодшага навуковага супрацоўніка Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора АН БССР С.Г.Багласава (цяпер вядомы праектант-рэстаўратар). Да свайго ліста ён прыклаў выкананы ім асабіста недзе на пачатку 30-х гадоў каштоўнейшы здымак сядзібнага дома, зняты, як ён казаў, адным з першых савецкіх фатаапаратаў (здаецца, пад назвай "Камсамолец"). Здымак потым абыйшоў многія выданні.

Першыя матэрыялы па гісторыі і архітэктурным вобліку сядзібнага дома былі няпоўныя і мелі шэраг недакладнасцей, аднак



Станіслаў Шкадзінскі

дзякуючы дадатковым прапрацоўкам ад іх удалося ў значнай ступені пазбавіцца.

У далейшым даследаванні Няднямоння вяліся пры сур'ёзнай дапамозе і кансультацыі Станіслава Адольфавіча. Пра гэта ў мяне засталіся сведчаннем яго лісты, парады і крытычныя заўвагі. Мы з ім сістэматычна абменьваліся новымі звесткамі, знаходкамі, публікацыямі.

Ад самага пачатку здзіўляўся заўсёды яго неабсяжнай эрудыцыі. Родны край, радзіму сваю Уздзеншчыну, ён ведаў дасканала, нейкай глыбокай спадчыннай памяццю. Пачаў ёй цікавіцца з дзяцінства, яшчэ з канца 20-х гадоў. Яму прапанавалася ўвайсці ў сааўтарства кніжкі "На истоках неманских". Але, будучы чалавекам празмернай сціпласці і інтэлігентнасці, ён ад гэтай прапановы мякка, але рашуча, адказаўся.

Ад яго я даведаўся, што сядзібу "Над-Нёман" наведвалі ў свой час У.Сыракомля, Я.Колас, французскія вучоныя. Што Я.Наркевіч-Ёдка матэрыяльна дапамагаў арганізацыі далёкаўсходняй экспедыцыі У.Арсен'ева, лячыў людзей музыкай…

Станіслаў Адольфавіч Шкадзінскі нарадзіўся 2 ліпеня 1921 года на поўдні Уздзеншчыны, у вёсачцы Бабылі з 10 двароў. Яна была потым, з 1925 года перайменавана ў Навасады, бо ранейшая назва асацыіравалася з беднасцю, галечай, адзіноцтвам. Тут і прайшло, як ён сам выказваўся, яго басаногае дзяцінства.

Паводле звесткак даследчыка гэтыя мясціны раней належалі Радзівілам, потым Наркевічам-Ёдкам. У суседняй вёсцы Адрынішчы яшчэ да 1960 года жыў былы кучар і лёкай пана Якуба Ёдкі. У даваенны час у некаторых жыхароў гэтых месц захоўваліся прыгожыя кнігі з панскай бібліятэкі. Мы нешта з ім яшчэ спрабавалі адшукаць. У Бабылях бываў і сам пан. Праязджаючы, ён даваў сялянам парады. Вобраз незвычайнага вучонага пана паводле паданняў старэйшых моцна запаў у душу юнака.

У Навасадах Станіслаў скончыў пачатковую школу. З ім разам вучыўся яго аднавясковец, цяпер жыхар Мінска, Чэслаў Шмігельскі з хутара Муравішчына Уздзенскага раёна, дзе нарадзілася маці Станіслава Адольфавіча. Ён з вялікай цеплынёй узгадвае пра дружбу са Станіславам Шкадзінскім. Той быў выдатным музыкантам, самадзейным арганізатарам культурнага жыцця на вёсцы. Адмыслова іграў на многіх інструментах, лепш за ўсё на гармоніку. У школе выступаў бясплатным грамадскім цырульнікам, меў адпаведнае для гэтага начынне. Усё рабіў весела…

Потым, яшчэ да вайны, прайшоў нейкія прафсаюзныя курсы. З канца 1940 года служыў у Чырвонай арміі, спачатку курсант, потым палітрук танкавага падраздзялення. У жніўні 1941 года атрымаў раненне. З 1942 года і да канца вайны старшына коннага эскадрона палка механізацыі чыгуначных работ. У 1945—1946 гадах — на далечванні пасля раненняў. У 1946—1949 — загадчык райкультпрасветаддзела, у 1947—1949 гадах — студэнт школы профруху. Па яе заканчэнні — інструктар рэспубліканскага камітэта прафсаюза. Затым ён інспектар аддзела кадраў АН БССР, кансультант кабінета палітпрасветы Мінскага гаркама КПБ. У снежні 1956 года залічаны на пасаду эканаміста Міністэрства камунальнай гаспадаркі БССР. Потым, да выхаду на пенсію — выкладчык кафедры эканомікі Беларускага політэхнічнага інстытута.

У сваім грамадскім пошуку С.А.Шкадзінскі спецыялізаваўся на вывучэнні праблем захавання, зберажэння прыроды, у першую чаргу штучных і прыродных вадаёмаў. Ён быў упэўнены, што нешта змог зрабіць у гэтым накірунку. У той жа час атрымліваў нямала незаслужаных папрокаў за сваю настойлівасць, у тым ліку і ад спецыялістаў. Аднак заставаўся ў цвёрдым перакананні, што ахова роднай прыроды, прапаганда яе каштоўнасцей, проста яе прыгажосці — наш агульны абавязак.

Усяго ў друку прайшло каля 1 тысячы яго артыкулаў. Яшчэ больш не апублікавана, адсылалася “на рэагаванне”. Матэрыялы С.А.Шкадзінскага знаходзілі месца на старонках рэспубліканскіх газет, часопісаў “Нёман”, “Беларусь”, “Сельское хозяйство Белоруссии”, “Жилищное и коммунальное хозяйство Москвы” і іншых.

Пачаў друкавацца ў 1935 годзе ў 14 гадоў. Першая, вядомая мне, яго публікацыя прайшла ў газеце “Калгаснік Уздзеншчыны” ў лютым 1938 года пад загалоўкам “Вячэрнія школы не працуюць”. Яму тады было няпоўных 17 гадоў. Апошнюю яго публікацыю “Любіце птушак, душа палагаднее” з “Мінскай праўды” я пераслаў Станіславу Адольфавічу незадоўга да яго канчыны ў кастрычніку 2003 года, праз яго суседзяў. Мне ён яшчэ гаварыў, што адзін з яго вялікіх артыкулаў быў надрукаваны недзе за мяжой.

Станіслаў Адольфавіч заўсёды выступаў вельмі падрыхтаваным і дасведчаным чалавекам. Ён быў асабіста знаёмы са многімі выдатнымі паэтамі і пісьменнікамі Беларусі. Аднойчы я яго сустрэў у бібліятэцы, дзе ён праглядаў кніжкі цяпер мала вядомага даваеннага англійскага публіцыста Эрнста Генры “Гитлер над Европой” (Масква, 1934) і “Гитлер против СССР” (Масква, 1937), у якіх дэталёва прадказваліся ўсе прадстаячыя ваенныя падзеі ў Еўропе і СССР.

У апошнія гады С.А.Шкадзінскі з задавальненнем далучыўся да дзейнасці Геаграфічнага таварыства і надалей усе свае карэспандэнцыі сведчыў сваім сяброўствам з ім.

Толькі ў канцы яго жыццёвага шляху мы амаль выпадкова прыйшлі да нашых агульных каранёў. Удалося дакументальна ўдакладніць, што маці Станіслава Адольфавіча Ганна Казіміраўна, у дзявоцтве Шыдлоўская, і наша бабуля па маці Лізавета Казіміраўна, таксама Шыдлоўская ў дзявоцтве, гэта родныя сёстры. Маці ж наша Стэфаніда Рыгораўна і Станіслаў Адольфавіч — дваюродныя сястра і брат. Агульны іх радзінны выток — Панкратаўшчына-Муравішчына.

На адным са здымкаў С.А.Шкадзінскі па дарозе на радзіму прыхінуўся да старога дрэва. На другім ён узіраецца ў акно вясковай хаткі: ці жыва яшчэ там яго маці? А вось і сімвалічны здымак 1977 года дарогі з Глінак ў Муравішчыну. А тут і ён сам у Муравішчыне. Яго Шыдлоўскія родныя пахаваны на могілках у Смалярах, дзе ляжаць і мае Галавенчыкі.

Адным словам, мы са Станіславам Адольфавічам блукалі па адных і тых жа сцежках. Нас чаравалі адны і тыя ж краявіды. Мы іх добра адчувалі. Калі не маглі перадаць словам, то замацоўвалі фатаграфіямі. Бясхітрасныя, яны найбольш дакладна ўвасабляюць наш нялёгкі час.



Станіслаў Шкадзінскі каля роднай хаты ў в. Навасады

Сваю маці Станіслаў Адольфавіч любіў самай гарачай і адданай сыноўняй любоўю, як і свой куток у Муравішчыне і Навасадах. Бацька яго Адольф Шкадзінскі памёр рана.

С.А.Шкадзінскі неаднаразова падказваў мне ідэю — напісаць аповесць пра Я.Наркевіча-Ёдку. Я ж адмаўляўся, застаючыся ў перакананні, што сёння самае галоўнае — раскрыць усю глыбіню таемнага свету вучонага з пазіцый высокай навукі. Нельга ў каторы раз абрынуць яго ў забвенне.

С.А.Шкадзінскі рэкамендаваў мне звярнуцца і да такіх значных постацей, як Эдвард Вайніловіч, Алесь Гарун. Першы быў вядомы на Міншчыне як буйны землеўладальнік, старшыня Мінскага таварыства сельскіх гаспадароў, член Дзяржсавета Расійскай імперыі. Я прачытаў выдадзеныя ў Вільні ў 1931 годзе яго польскамоўныя “Успаміны”, аднак да канкрэтнай распрацоўкі яго асобы справа так і не дайшла. Другі, па яго інфармацыі, ад’ехаў разам з адступаючымі палякамі з Пясочнага незадоўга да сваёй смерці.

С.А.Шкадзінскі лічыў сябе асобай шляхетнай, інтэлігентнай і прытрымліваўся адпаведнага вобразу жыцця. Трохі старамодны, але заўсёды падцягнуты, добра паголены, чыста апрануты, ён трымаўся ў грамадзе неяк адасоблена, не адразу адкрываўся. Толькі ў выключных выпадках пад натхненнем ён выдаваў цэлы фейерверк жартаў, каламбураў, цікавых гісторый, а часам і кпінаў.

У асабістым жыцці ён мала вядомы. Упэўнена працягваў лічыць, што акаляючы свет яму процістаіць, стрымлівае і не давярае яму. У яго быў няўдалы шлюб, ад якога засталося трое сыноў. Прадметам асаблівага яго гонару быў Вячаслаў, 1951 года нараджэння, лётчык высокага класа, камандзір экіпажа самалёта Ту-154 на міжнародных авіярэйсах. Незадоўга да канчыны бацькі ён і сам раптоўна сканаў на сняданні ў Улан-Батарскім аэрапорце. Гэта няшчасце канчаткова падарвала здароўе Станіслава Адольфавіча, яго ён так і не змог перанесці.

Дзяржава ж С.А.Шкадзінскаму, як удзельніку Вялікай Айчыннай вайны, яе інваліду, давала магчымасць падлячыцца і адпачываць у ваенных шпіталях, шпіталях інвалідаў вайны, у розных санаторыях былога Саюза. Яна дадатна вырашала і іншыя яго жыццёвыя праблемы.

Апошнія гады ён жыў ва Уруччы разам з сынам, работнікам аднаго з мінскіх прамысловых прадпрыемстваў. Адносіны ў іх не складваліся. Аднойчы ў снежні 2003 года бацьку знайшлі памерлым у сваім пакоі. Знайшлі не адразу.

А для ўсіх нас Станіслаў Адольфавіч Шкадзінскі назаўсёды застанецца краязнаўцам, першым наднёманскім эколагам, чалавекам высокага кшталту, шчыра аддадзеным сваёй Бацькаўшчыне, яе ідэалам.

## ЖЫЦЦЁ ДЛЯ ІНШЫХ

Нарадзіўся Адам Якаўлевіч Александровіч 6 студзеня 1923 года ў горадзе Узда Мінскай вобласці ў беднай сялянскай татарскай сям’і. У 1940 годзе скончыў Уздзенскую СШ і паступіў на 1 курс Юрыдычнага інстытута ў Мінску. Аднак з-за недахопу сродкаў вымушаны быў перайсці на шасцімесячныя педагагічныя курсы гісторыкаў пры БДУ, працягваючы завочна займацца ў юрыдычным інстытуце. Курсы скончыў у чэрвені 1941 года, яны давалі права выкладаць гісторыю ў 5—7 класах сярэдніх школ.

З пачаткам вайны вярнуўся ў Узду. У 1941/1942 навучальным годзе працаваў у Магільнянскай няпоўнай сярэдняй школе, потым — на сельскай гаспадарцы. У час акупацыі ўключыўся ў



Адам Александровіч

дзейнасць падполля, быў сувязным партызанскага атрада "Патрыёт Радзімы" брыгады імя К.Я.Варашылава. Перадавы атрад Чырвонай Арміі Адам Якаўлевіч сустракаў у чэрвені 1944 года канцэртам мясцовай мастацкай самадзейнасці.

Нягледзячы на інваліднасць А.Я.Александровіч пайшоў у Чырвоную Армію, амаль бесперапынна ваяваў у франтавых умовах на тэрыторыях Беларусі, Польшчы і Германіі, атрымаў два раненні. Узнагароджаны дзяржаўнымі баявымі медалямі, меў падзякі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.

Пасля дэмабілізацыі ў 1945 годзе працаваў два гады выхавацелем Уздзенскага спецдзетдома. У 1946 годзе паступіў у БДУ на завочнае аддзяленне геаграфічнага факультэта, якое скончыў у 1951 годзе абаронай дыпломнай работы "Эканамічна-геаграфічны нарыс Уздзенскага раёна" па спецыяльнасці "Эканамічная геаграфія". Яго работа здзіўляе сваёй паўнатой, яна і цяпер можа служыць каштоўнай інфармацыйнай крыніцай стану раёна на той час.

З 1947 года працаваў выкладчыкам Уздзенскай СШ № 1, з 1949 года — выкладчыкам па сумяшчальніцтву Уздзенскай сярэдняй школы рабочай моладзі і як выдатны спартсмен — трэнерам аддзялення гімнастыкі Уздзенскай спартыўнай школы. З 1959 па 1983 год ён выхавацель і настаўнік Уздзенскай школы-інтэрната. У 1951 годзе ўступіў у шлюб з жыхаркай Узды Дорай Якаўлеўнай.

Адам Якаўлевіч валодаў выключнымі арганізатарскімі здольнасцямі. У спецдзетдоме ўзначальваў самадзейныя гурткі, якія карысталіся вялікай папулярнасцю ў жыхароў раёна. Прыроджаны музыкант і спявак ён прымаў актыўны ўдзел ў далучэнні вучняў і настаўнікаў да высокага свету мастацтва.

Заўсёды імклівы, спартыўна-падцягнуты, А.Я.Александровіч у час працы ў Уздзенскай СШ вёў фізічнае выхаванне і астраномію. Урокі фізкультуры праводзіў жыва і цікава, адказваў за ўвесь комп-

лекс спартыўных мерапрыемстваў. Пад яго кіраўніцтвам школа на фізкультурных спаборніцтвах нязменна займала агульнае першае месца.

Заўжды гатовы служыць людзям, на палажэнні грамадскага актывіста выступаў з лекцыямі і дакладамі на навуковыя і палітычныя тэмы. Далучыўся да дзейнасці Таварыства па распаўсюджванні палітычных і навуковых ведаў.

Выразней за ўсё засведчылі няўрымслівы характар настаўніка-выхавацеля, арганізатара школьнай работы, краязнаўца А.Я.Александровіча афіцыйныя дакументы-характарыстыкі тых часоў. З іх вынікае, што ён карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод вучняў, настаўнікаў і бацькоў. Адам Якаўлевіч — педагог з вялікім вопытам работы — глыбока разумеў змест і ідэі навучальных праграм. У працэсе вучобы прыцягваў даступныя разуменню вучняў матэрыялы з сучаснага яму эканамічнага і палітычнага жыцця, прывіваў вучням здольнасць супастаўляць і аналізаваць факты і з’явы, ажыццяўляў прынцыпы політэхнізма, праводзіў прафарыентацыйную работу. Значнае месца на ўроках геаграфіі займала выкананне школьнікамі пад яго кіраўніцтвам практычных работ.

Адам Якаўлевіч умела выкарыстоўваў метад эўрыстычнай гутаркі, што стварала ўмовы для актыўнай работы думкі, засваення матэрыяла непасрэдна на ўроку. Ён уключаў у канву ўрока звесткі па новаму матэрыялу, вучыў школьнікаў карыстацца навукова-папулярнай і даведачнай літаратурай, ствараў благапрыемныя ўмовы для іх самаадукацыі. Інфармацыя настаўніка аб поспехах працаўнікоў прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў раёна садзейнічала фарміраванню ў вучняў пачуцця гонару за працоўныя здзяйсненні бацькоў. Ён шмат зрабіў у справе выхавання школьнікаў у духу савецкага патрыятызма.

Пазакласная работа (завочныя падарожжы і паходы па роднаму краю, экскурсіі, сустрэчы з вядомымі людзьмі, канферэнцыі, віктарыны) пашыралі кругагляд школьнікаў, садзейнічалі выхаванню абярэжных адносін да прыроды, павагі да людзей працы. Адам Якаўлевіч на працягу некалькіх гадоў працаваў без другагоднікаў.

Плённая праца ветэрана вайны і работа на працягу 40 гадоў у дзіцячым доме, сярэдняй школе і школе-інтэрнаце суправаджалася актыўнай краязнаўчай дзейнасцю.

Адам Якаўлевіч неаднаразова ўзначальваў турысцкія паходы, арганізоўваў раённыя краязнаўчыя злёты, агляды.

Ён прымаў актыўны ўдзел у жыцці школ і раёна, з'яўляўся кіраўніком раённай секцыі і метадычнага аб'яднання настаўнікаў геаграфіі, праводзіў турысцка-краязнаўчую работу, з'яўляўся адным з арганізатараў і пастаянных удзельнікаў абласных турысцка-краязнаўчых канферэнцый, зрабіў пэўны ўклад у стварэнне Летапісу народнай славы і раённага гісторыка-краязнаўчага музея. Выхаваўчае ўздзеянне на вучняў аказвала і сама асоба настаўніка: яго адкрытасць, чалавечнасць, дабразычлівасць, сціпласць, тактоўнасць. Яны самі маглі служыць эталонам чалавечых адносін.

Ён паважаў людзей усіх узростаў, быў ім добрым дарадцам і памочнікам у нялёгкую хвіліну. Не было на Уздзеншчыне куточка, дзе б яго не чакалі. Сустракалі ж з вялікай радасцю. Неаднойчы мне даводзілася быць сведкам яго незвычайнай папулярнасці.

Вось такі ён быў — Адам Якаўлевіч! Скрозь афіцыйнасць і напластаванні фармальнасці выразна прабіваюцца чыстыя словы ўдзячнасці і павагі да Настаўніка. Хаця галоўным было больш-менш станоўча прайсці чарговую атэстацыю, тым не менш Адам Якаўлевіч па іх выніках атрымліваў яшчэ абласную ці раённую грамату!

А.Я.Александровіч вучыў другіх і сам вучыўся:

Дзеля авалодвання майстэрствам спеву прайшоў спецыяльную падрыхтоўку — у 1963 годзе скончыў музычны факультэт завочнага Народнага ўніверсітэта мастацтваў Міністэрства культуры РСФСР і атрымаў пасведчанне кіраўніка калектываў мастацкай самадзейнасці. А да гэтага, яшчэ ў 1951 годзе, вёў заняткі па музычнаму выхаванню ў Уздзенскім дзіцячым садзе № 1.

Было ў краязнаўца яшчэ адно захапленне. Шмат гадоў ён удзельнічаў у раённым хоры, пазней — у хоры ветэранаў. З такімі ж апантанымі аматарамі даваў штогод 20—30 канцэртаў, не мінаючы самых аддаленых вёсак.

Кожны ўздзенец ведаў пра адданасць А.Я.Александровіча нумізматычнаму калекцыяніраванню. Частку свайго багатага збору Адам Якаўлевіч пры жыцці перадаў раённаму гісторыка-краязнаўчаму музею.

У 1967 і 1976 гадах займаўся на вочна-завочных курсах павышэння кваліфікацыі па геаграфіі пры Мінскім абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў.

Краязнаўствам Адам Якаўлевіч заняўся адразу пасля вяртання з фронта. На ўсім амаль сакарагадовым настаўніцкім шляху вёў краязнаўчыя пошукі. Доўгі час кіраваў раённай секцыяй выкладчыкаў-географаў. Заклікаў настаўнікаў шырэй выкарыстоўваць у практыцы краязнаўчыя матэрыялы. Узначальваў турысцкія паходы па роднаму краю, кіраваў раённымі краязнаўчымі злётамі, спаборніцтвамі, смотрамі. Удзельнічаў у абласных краязнаўчых спаборніцтвах, канферэнцыях, семінарах. Адным словам, не баяўся браць на сябе абавязкі і адказнасць.

Першую экспедыцыю А.Я.Александровіч правёў у чэрвені 1947 года з групай выхаванцаў Уздзенскага спецдзетдома ў складзе 21 чалавека. Маршрут 10-дзённага пахода пралягаў ад Верхнёмана да Стоўбцаў па рэках Неманцу і Нёмане і ставіў мэтай шырокае азнаямленне з прыродай, гаспадарчай дзейнасцю і гісторыяй Наднямоння. Затым паходы праводзіліся не толькі ў летніх, але і ў зімовых умовах. Па яго маршрутах праз 40 гадоў прайшлі і мы.

Пасля выхаду на пенсію на працягу 12 гадоў Адам Якаўлевіч прадаўжаў пошукавую работу на палажэнні супрацоўніка Уздзенскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея, у стварэнне якога ён унёс дзейсны асабісты ўклад.

Як пазаштатны лектар Уздзенскага РК КПБ па краязнаўчай тэматыцы актыўна саўдзельнічаў і ў грамадскім жыцці раёна, горада. У раённай газеце "Чырвоная зорка" і іншых перыядычных выданнях сістэматычна публікаваў свае краязнаўчыя артыкулы. Апошнім яго заняткам сталі пошукі звестак пра вядомага эканаміста, акадэміка АН СССР Леаніда Вітальевіча Кантаровіча.

Многа, незвычайна многа прыадчынілася з дапамогай Адама Александровіча шукальнікам наднёманскіх таямніц. Не было выпадку, каб на тое не ставала ў яго часу. Колькі разоў мне даводзілася завітваць па дарозе да Адама Якаўлевіча з невырашанымі пытаннямі. Заўсёды атрымліваў ад яго вычарпальныя адказы.

Прыгадваюцца блізкія і далёкія куточкі краю, дзе пры яго дапамозе было выяўлена нешта новае, не прачытанае і не асэнсаванае дагэтуль.



Сустрэча ў лесе, пасярэдзіне Адам Александровіч

Тут і крынічка за Язвінамі, і шкловарня ў Гуце, і месца былога маёнтка "Святы Двор", і "святы" камень у Госбішчах, і "царковішча" пад Бярвішчамі.

Насупраць кінатэатра "Кастрычнік" прама пад асфальтавай дарожкай пахаваны былы калодзеж каптажнага тыпу. З яго доўгі час карысталіся чысцейшай вадой людзі і коні. Яго памеры ўражваюць: глыбіня каля 20 метраў, плошча зруба ў плане — 2,5×2,5 метра. Не здзейснілася мара краязнаўца ўзнавіць яго для ўсеагульнай карысці і зрабіць помнікам гаспадарчай гісторыі і культуры.

І яшчэ. На Кастрычніцкай вуліцы за грэбляй (раней — Загрэбельная вуліца) захаваўся ўросшы ў зямлю стары каменны пахавальны помнік з выявай крыжа. У тутэйшых людзей існуе павага да помніка як да месца пахавання казака. На Уздзеншчыне гэта паняцце вельмі значнае. Вуліца ўсё пашыралася і побач з помнікам імчаўся транспарт. Нарэшце споўнілася зразумелае жаданне А.Я.Александровіча і помнік перанесены ў музейны скверык.

За поспехі ў навучанні і выхаванні школьнікаў, шырокую краязнаўчую работу Адам Якаўлевіч узнагароджаны знакам "Выдатнік народнай адукацыі БССР", Ленінскім юбілейным медалём, шматлікімі




Месца пахавання Александровічаў

ганаровымі граматамі рэспубліканскага, абласнога і раённага узроўняў, дыпломамі. Але больш за ўсё ён радаваўся поспехам іншых.

У студзені 2003 года грамадскасць Уздзеншчыны і рэспублікі пры ўдзеле Беларускага грамадскага аб'яднання татараў “Зікр уль-Кітаб” і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання рэспублікі ўрачыста адзначыла ў горадзе Уздзе 80-годдзе з дня нараджэння Адама Якаўлевіча Александровіча. Аднак сам ён не дажыў да гэтай падзеі — памёр 5 мая 2000 года, пахаваны ва Уздзе на гарадскіх могілках.

Памяць пра нашага Настаўніка, сябра, светлага, усебакова дасканалага, цудоўнага чалавека, гонара Уздзеншчыны застаецца ў нашых сэрцах назаўсёды. Вялікі дзякуй яму за тое, што ён быў, за тое, што пакінуў пасля сябе! І калі яшчэ лёс нашле нашаму краю такога даследчыка.

## ВЯСКОВЫ НАВУЧЫЦЕЛЬ

Галоўным жыццёвым прызваннем для Міхаіла Канстанцінавіча Лазара стала настаўніцтва ў самым высокім яго разуменні, як справа, здольнасць настаўнічаць, настаўляць, навучаць, усведамляць. Настаўніцтва ён не разумее фармальна. Ён яму аддае ўсю энергію

падзвіжніка, раскрывае таямніцы жыцця і каштоўнасці роднага края. У гэту грамадскую справу ён далучае аднавяскоўцаў, вучняў…



Міхась Лазар

Нарадзіўся М.К.Лазар 2 студзеня 1924 года ў вёсцы Даўгінава. Вучыўся там у пачатковай школе, потым у Лашанскай няпоўнай сярэдняй школе, у 1941 годзе закончыў Уздзенскую школу. У 1943-м вывезены ў Германію, правацаў у трох лагерах. Пасля вайны служыў у Чырвонай Арміі, працаваў настаўнікам, завучам, дырэктарам Цялякаўскай, потым Слабада-Пырашаўскай сямігадовых школ. У 1954 годзе закончыў Мінскі педінстытут імя М.А.Горкага. 1 верасня 1953 года прызначаны завучам Хатлянскай СШ. На гэтай пасадзе працаваў 17 гадоў. Затым настаўнічаў там жа да выхаду на пенсію і яшчэ 5 гадоў звыш.

Выдатнік народнай асветы. Вывучае гісторыю Хатлян і ўсёй Уздзеншчыны. Апублікаваў шэраг артыкулаў у раённай, абласной і рэспубліканскіх газетах. Арганізаваў рэстаўрацыю ў вёсцы Хатляны помніка архітэктуры XIX стагоддзя Свята-Пакроўскай царквы.

Адна з адметнасцей светапогляду Міхаіла Канстанцінавіча — добрае адчуванне каштоўнасці роднай зямлі, яе простых вясковых людзей. Ясна ўсведамляе высакароднасць, бясконцасць і самаадданасць гэтай справе, рыхтуе для яе падрастаючую змену.

Як Настаўнік імкнецца ўвайсці ва ўнутраны свет, усвядоміць асаблівасць дзіцячай асобы. Вылучае трапным словам, выразам, параўнаннем яе адметнасць, прыдае ёй надзею.

У сваёй рабоце не пераацэньвае адміністрацыйнасць. Толькі некаторы час ён займаў кіруючыя пасады дырэктара Цялякаўскай ды добра вядомай нам па 1945/46 гадах Слабада-Пырашаўскай сямігодак. Сцвярджаўся перш за ўсё як выхавацель. Менавіта на гэтай працы зарабіў удзячнасць жыхароў вёсак Цялякава і Слабада-Пырашава.

Міхаіл Канстанцінавіч Лазар не на словах, а на справе складаў і выконваў праграму ўздыму культурнага жыцця на вёсцы. Важным этапам стала стварэнне ім школьнага музея на мясцовых здабытках даўніны. Разам са школьнікамі ён уклаў у зробленыя ім экспазіцыі і фонды ўсё сваё творчае захапленне. Разам з імі ён выступае ахоўнікам і памнажальнікам каштоўнасцей роднага краю.

Асобнае месца ў яго пошуках складае выяўленне і ўлік курганнай групы на месцы пабудовы транспартнай развязкі каля вёскі Валяр'яны. Дзякуючы яму ў час правядзення тут маштабных работ не было страчана ніводнага курганнага пахавання.

Міхаіл Канстанцінавіч дэталёва вывучаў адрэзак даўнейшага волакавага пераходу з Пярэвалацкага балота праз Слуцка-Мінскую шашу да рэчкі Хатлянкі. Выявіў тут старажытныя гідратэхнічныя збудаванні.

Свае грамадскія справы Настаўнік удала спалучаў з выкарыстаннем вяскова-земскай абшчыннасці, праз якую адбываецца паяднанне сумленнасці людзей. Мінулае раскрываецца не толькі праз дакументальныя сведчанні, якія руплівa сабраны ў цяпер перавыдадзенай кніжачцы "Хатляны", альбо ў музейным школьным зборы, але і ў вялікай падборцы народнай памяці — мясцовых легендах, паданнях, казках, прымаўках, песнях.

М.К.Лазар ніколі не навязвае сваю думку, свой погляд субяседнікам. Ён дае магчымасць ім дайсці самым да правільных высноў. Так пазнаюцца прайшоўшыя праз напластаванні стагоддзяў каштоўнасці нашых продкаў.

Ён мілуецца выпрацаванай сялянамі памяркоўнасцю, своеасаблівым інтэрнацыяналізмам ва ўзаемным сужыцці. Бачыць у тым аснову далейшага суіснавання народаў на нашай зямлі.

Спадчына М.Лазара неацэнная. Цяжкі, няпросты і ў той жа час зайздросны лёс у Міхаіла Канстанцінавіча!



# НАПЕРАДЗЕ МІР?

Пры падрыхтоўцы гэтай, вельмі неабходнай, на наш погляд, часткі ўздзенскай і ўвогуле беларускай гісторыі, перад аўтарам узніклі няпростыя пытанні: па якому шляху ісці, як паступіць? Далучыцца да сонму навукоўцаў, якія бяруць адлік гісторыі па ваенных падзеях, ці заняцца асэнсаваннем, што наогул нясуць людзям войны?

Такія роздумы пасеялі ў душы нязгоду з меркаваннямі, што ваенныя сутыкненні мелі нейкае дадатнае лёсавызначальнае значэнне для простых людзей. Сумненні прывялі да высноў, што пачынаючы ад глыбокай старажытнасці і да нашых дзён толькі нязначная часцінка войн мела нейкую народную падтрымку, у якіх удзел беларусаў быў свядомы і апраўданы.

Ва ўсіх жа астатных войнах беларуская зямля залівалася патокамі нявіннай крыві нашых сыноў ці то ад княжацкіх “разборак”, ці ад змоў узаемна залежных і непрыязных палітычных груповак і кааліцый.

## I

Хвалямі праносіліся над нашай зямлёй варожыя нашэсці. Менавіта праз нас Усход і Захад, Поўнач і Поўдзень увасаблялі сілай свае амбіцыі. Такія войны пакідалі неперахоадзячыя горкія сляды ў нашым доме, які знешнія сілы спрадвеку лічылі няйнакш, як толькі сваёй “прыходжай”.

Тут схадзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць.
А нас цяжка ў сэрца раніць,
Пад прыгон узяць навек,
Нашы скарбы апаганіць,
Душу вынесці на здзек,

Каб у віры той ашукі
Знішчыць нашы ўсе сляды,
Каб не ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды,

пісаў Якуб Колас.

Шэраг войн цягнецца з дагістарычных часоў як вынік процістаяння пыхлівых, пераблытаных узаемным радством і абавязацельствамі, якія час ад часу трэба было выконваць, розных князёў і князькоў. Свае спрэчкі яны вырашалі ў крывавых пабоішчах сіламі і коштам падпарадкаваных ім народаў. Не цяпер былі выказаны словы: “Сярод князёў няма міру, няма адзінства. Цалуюць крыж адзін перад адным, а з храма выйдуць і горла здольны перагрызці…”

Цяжка мне, не гісторыку, даказваць сваю пазіцыю. Але мне ў гэтым добра дапамаглі ў пэўным сэнце гісторыкі мінулага, асабліва У.М.Ігнатоўскі сваёй кнігай “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі”. Ён нефармальна прасачыў усе страты, якія панесла наша зямля за амаль усе бесперапынныя войны. Яго выказванні будуць далей прыводзіцца ў двукоссях без спасылкі на аўтара.

Полацкая зямля пашыралася агнём і мячом, бо кожны, з узнікшых у глыбокай даўніне дзяржаўна-рэлігійных цэнтраў славянства — Полацк, Кіеў, Ноўгарад, хацеў кіраваць усім славянскім светам.

IX стагоддзе. На Полацкай Русі людзям “Найчасцей прыходзілася весці ваяўніцкую працу: яны баранілі тэрыторыю і яе маетнасць ад ворага і рабілі з сваёй дружынай паходы на суседнія варожыя валасці і на чужаземныя краі”.

X стагоддзе. Полацкі “Рагвалод скарыстаў слабасць Кіеўшчыны ў часы Ігара, Вольгі і Святаслава і стаў пашыраць свой уплыў на поўнач, стараючыся адарваць Ноўгарадчыну ад сувязей з аслабеўшай Кіеўшчынай. Ён значна пашырыў тэрыторыю полацкага ўплыву на поўдзень, атрымаўшы верх у Тураўскім княстве, каторае дагэтуль цалкам залежала ад Кіеўшчыны”.

XI стагоддзе. “Пасля таго, як у 1015 годзе памёр Уладзімір, Святаполк як старэйшы ў родзе атрымаў права заняць велікакняжацкі пасад… Паміж імі (братамі) і Святаполкам узнялася барацьба вельмі крывавая”.

“З часу Брачыслава Полацкага змаганне паміж тэрыторыямі становіцца несупынным і бесперапынным… як барацьба паміж кіеўскімі Яраслававічамі і полацкімі Ізяслававічамі”.

У 1067 годзе Усяслаў (з Полацка) заваяваў Ноўгарад. Ізяслаў кіеўскі, Святаслаў чарнігаўскі і Усевалад пераяслаўскі, каб адпомсціць Полаччыне, забралі Мінск. “Мужчынскае насяленне было пагалоўна перабіта, а жанчыны і дзеці былі раздадзены як здабыча дружыннікам кіеўскіх князёў. На Нямізе 3 красавіка яны сустрэліся з войскам Усяслава.

Вось радкі са “Слова аб палку Ігаравым”:

На Немизе стелют снопы головами,
Молотят цепами булатными,
Жизнь на току кладут,
Веют душу от тела!
Кровавые бреги Немизы не добром были посеяны,
Посеяны костями русских сынов!

Праз многія стагоддзі ў гэтых радках чуецца плач пра загубленых, пра цяжкі лёс Полацкай і Кіеўскай Русі.

Могуць спытаць, а якое дачыненне мае ўсё гэта да Уздзеншчыны, Наднямоння? Уздзеншчына, калі знаходзілася ў складзе Мінскага княства і Кіеўскай Русі, ляжала на мяжы з Полацкім княжаствам. Адсюль ішлі яе лепшыя сыны на барацьбу за чужыя інтарэсы. Ускоснае аб гэтым сведчанне праходзіць у тым жа “Слове”:

На седьмом веке Трояновым
Бросил Всеслав жребий о девице ему милой.
Он, подпершись клюками, сел на коня,
Поскакал ко граду Киеву
И коснулся древком копья до златого престола киевского.
Лютым зверем в полночь поскакал он из Белграда
Синею мглою обвешенный,
К утру ж, вонзивши стрикузы, раздвинул врата Новуграду,
Славу расшиб Ярославову!
Волком помчался с Дудуток к Немизе!

Вось менавіта тыя Дудуткі, згодна М.Арцыбашаву, А.Кіркору і А.Ельскаму, не што іншае, як сённяшнія Дудзічы Пухавіцкага раёна на мяжы з Уздзеншчынай. Усяслаў не выпадкова наведаў Ду-

дуткі. Тут ён атрымаў падмацаванне і рушыў з дудуцкімі воінамі на Нямігу.

У 1084 годзе Уладзімір Манамах узяў зноў Мінск і зруйнаваў яго дашчэнту. Воі Уладзіміра, як кажа летапіс: "не оставиша ни челядника, ни скотины, все разграбиша и пажгоша".

Далей Уладзімір Манамах робіць новыя паходы на Полацкую зямлю і руйнуе гарады, у тым ліку і Капыль.

Які ж лёс спасціг далей гэтых зацятых ваёўнікаў? У.М.Ігнатоўскі тлумачыць:

XIII стагоддзе, пачатак. "Увесь край (Полацкі) быў знішчаны і дайшоў да руіны. Гарады і вёскі пусцелі. Палі, кінутыя працоўнай рукой, зарасталі лясамі і аграбленыя насельнікі зямлі забіраліся ў няволю… Такім спосабам мясцовая буржуазія таго часу і чужаземная палітычная ўлада, маючы на ўвазе толькі сваю карысць, руйнавала Полацкі край".

"Але калі Полаччына аслабла ад бесперарыўнага змагання з Кіеўшчынай і ад таго бязладдзя, якое ў ёй пачалося пасля Усяслава, то, разумеецца, адносіны да яе Літвы сталі зусім іншымі… Наступ на захад павінен быў прыпыніцца".

"Кіеўшчына ў гэтыя часы сама была зруйнавана і знішчана дашчэнту як хатнім бязладдзем, так і набегамі паўднёвых стэпнякоў-манголаў — раней полаўцаў, а потым татар".

Адна з першых бітваў на тэрыторыі Уздзеншчыны, пра якую нам вядома з "Хронікі Быхаўца", адносіцца да 1235 года. Гісторык Восіп Вікенцьевіч Турчыновіч пісаў:

"…Рынгальд шчаслівы воін у 1235 годзе разбіў на правым беразе Нёмана каля вёскі Магільна нашчэнт злучаных князёў: Святаслава Усеваладавіча, брата вялікага князя Рурыка, Льва Данілавіча Валынскага, Дзімітрыя Друцкага і Давіда Луцкага, з якіх два апошнія палі ў гэтай крывапралітнай бітве смерцю мужных. У 1236 годзе новая перамога над крыжакамі ва ўрочышчы Камень…"

Пасля перамогі Рынгальд адправіўся на княжанне ў Навагрудак. А на зямлі ўздзенскай засталіся курганы і адпаведна вёска Магільна.

Але чаму і як апынуліся паўднёварускія князі і татара-манголы менавіта тут, на Уздзеншчыне?

У непраходнай прадпалескай частцы Беларусі правы бераг Нёмана, сцяты паміж ракой і бясконцымі непраходнымі багнамі, быў

амаль ці не адзіным прыгодным для перамяшчэння на паўднёвы ўсход. Па ім, быццам бы, ішоў на захад і адзін з прадвадзіцеляў татара-манголаў — Койдан.

Што далей? За кошт аслабленых дарэшты Полаччыны і Кіеўшчыны пры дапамозе збройнай сілы расло і набірала экспансіяніскую моц Вялікае княства Літоўскае. Але гістарычныя перспектывы лёсу ВКЛ былі прадвырашаны ў самы магутны яго тэрытарыяльны ўзлёт. Трохі пазней "на ўсходзе рос моцны супернік літоўска-беларускаму гаспадару ў асобе маскоўскага гаспадара, каторы пачаў ужо рабіць тую самую справу збірання Русі, якую рабіла і Літва". У пастаянных войнах з Масквой княства губляла тэрыторыю за тэрыторыяй.

XV стагоддзе. Найцяжэйшым выпрабаваннем для Вялікага княства Літоўскага стала грамадзянская вайна XV ст. (у час выступлення Свідрыгайлы), дынастычная вайна 1432—1436 гадоў беларускіх і ўкраінскіх феадалаў за свае палітычныя правы ў ВКЛ. У 1433 годзе Свідрыгайла спустошыў Літву.

Супярэчнасці памнажаюцца і абвастраюцца. Узмацненне суседніх дзяржаў і іх прэтэнзіі на чужыя ці раней захопленыя землі выклікалі абавязкова цэлы ланцуг крывавых войн, якія вялі да бясконцага перадзелу сфер уплыву.

XVI стагоддзе. "У 1508 годзе перабег з Літвы ў Маскву варожа настроены да Жыгімонта II (Старога) князь Глінскі. Літоўска-беларускі гаспадар увесь час быў незадаволены тым, што Масква прыняла ўцекача. Глінскі з свайго боку падбіваў маскоўскага гаспадара на вайну з Літвою. Зноў маскоўскія войскі ўварваліся на Беларусь".

Імперыю Вялікага княства Літоўскага, затым Рэчы Паспалітай, лягчэй было стварыць, чым утрымаць.

У 1513 годзе маскоўская армія зноў уварвалася на тэрыторыю Беларусі. Пад Оршай у 1514 годзе князь Астрожскі атрымаў дзве перамогі над маскоўскім войскам і гнаў яго аж да Дарагабужа. "Трыццаць тысяч трупаў беларусаў, літвінаў і маскоўцаў заслалі ўсю гэту дарогу. Змаганне безупынна ідзе і далей. Перамога перакідваецца то на тую, то на другую старану, пакуль яна зусім не пяройдзе на старану Масквы".

Ці ж маглі каго ўсцешыць, акрамя шляхты ды магнатаў, такія перамогі? У.М.Ігнатоўскі і на гэта дае адказ: "Мы ўжо і не злічым,

які страшэнны лік вёсак, невялічкіх мястэчкаў быў зруйнован за часы гэтага змагання. Усё тое, што зрабіла многавяковая праца народных нізоў, гібне ў часы імперыялістычнага змагання. Зямля зарастае частым лесам. Людзі бадзяюцца па лясах, хаваючыся там ад забойства і рабавання. Прыпыняецца народная творчасць. Насельнікі краю, бачачы, што барацьбе няма канца-краю, кідаюць сваю родную зямлю і бягуць на Ўкраіну. А барацьбе ўсё ідзе. Войны аднаўляюцца ў 1516, 1518, 1519, 1534 і 1536 гадах”.

XVII стагоддзе. У час вайны Расіі і Рэчы Паспалітай 1648—1667 гг. насельніцтва Беларусі скарацілася з 2,9 да 1,4 млн. чалавек. Загінуў кожны другі беларус. Народ быў адкінуты ад магістральных шляхоў развіцця нацыянальнай культуры. Беларусу не стала месца на сваёй зямлі.

“…З цягам часу ўсё больш і больш народу шукала паратунку ад уціску на поўдні, і к пачату XVII ст. паўднёвыя стэпы сабралі вялікую грамаду казацкага люду. …У складзе ўкраінскага радавога простага казацтва быў значны працэнт казакоў, каторых выгадавала беларуская вёска і выгнала з роднай хаты няволя на Беларусі”.

У мяне могуць зноў спытаць: добра, а ці было якое іншае выйсце, ці можна было пазбегчы ваеннай барацьбы ў гэтых крывавых рысталішчах? Думаю, што не. Але я за тое, каб зрабіць правільны вывад з гэтых звад для нашага часу.

Такі быў знешні вораг. Звернемся зноў да У.М.Ігнатоўскага. Вось якая характарыстыка прыводзіцца ім для аднаго з літоўскіх князёў XIII стагоддзя: “Война кожны дзень забіваў па тры ці чатыры чалавекі. Калі ў які дзень яму не было здарэння забіць каго-небудзь, то ён рабіўся вельмі сумным і засмучаным, а калі ён забіваў, то быў надта рады”. Уступаючы ў спрэчку з летапісцам, У.М.Ігнатоўскі заўважае: “Усё ж такі летапіснае паданне дае нейкую адзнаку таго, што тварылася ў тыя часы… Войшалк рабіў забойствы не дзеля капрызу, а дзеля палітычнай мэты”. Такія ўчынкі цяжка апраўдаць нават дзяржаўнымі інтарэсамі.

Асабліва злачыннае ў сярэднявеччы было тое, што мірных часоў у ім амаль не бачна. Карыслівыя магнаты-землеўладальнікі не спыняліся дзеля дасягнення сваіх памкненняў і перад выкарыстаннем зброі. Гісторыя захавала таму нямала прыкладаў. Спашлёмся на дзве звады, якія маюць адносіны да Наднямоння.

Недзе ў 1620 годзе Андрэй Вінка распачаў межавыя спрэчкі з Быхаўцамі з выпадку далучэння да апошніх вёскі Таўкачэвічы (цяпер Уздзенскага раёна). Ён збройна напаў на маёнтак Быхаўца, знішчыў Таўкачэвічы і Кавалевічы, замардаваў людзей Быхаўца і яго самога забіў.

У спрэчцы Радзівілы і Сапегі пеставалі кожны свае прэтэнзіі на Слуцка-Капыльскае княства. Радзівілы нават выкупілі маёнткі ў Слуцку, Капылі, Раманаве, Старобіне, Пясочным, Леніне, Любані разам з 32 фальваркамі. Сапегі ж зайшлі ў сваёй нязгодзе так далёка, што ў маі 1695 года ваявода віцебскі Казімір Сапега наехаў у Капыль, выкарыстаўшы харугвы рэгулярнай арміі. Аднак князь Караль Станіслаў Радзівіл з дапамогай свайго нясвіжскага войска ў вялікім кровапраліцці забраў назад Капыль ад Сапегаў. Кароль Ян Сабескі мусіў пагадзіцца з вынікамі той справы.

Вось так і жылі ў той самы, быццам бы бясхмарны, век нашы беларускія гаротныя сяляне. Зусім не дзіўна ў такіх абставінах узнікненне народных хваляванняў, у тым ліку і ў Слуцку ў часы казацкага паўстання Багдана Хмяльніцкага.

“Зноў пачаліся войны паміж Масквой і Рэчаю Паспалітаю, а руйнавалася паводлуг звычаю зноў Беларусь, на тэрыторыі каторай ішло імперыялістычнае змаганне. Руйнаванне Беларусі ішло… з 1654 да 1667 году”.

XVIII стагоддзе. “У часы кіравання караля Аўгуста III на абшарах Беларусі, Украіны і Вялікарусі адбывалася добра вядомая ўсім Паўночная вайна. І тут паплацілася Беларусь за чужыя інтарэсы. Пётр I, каб лепш падгатавацца да вайны ў сваіх межах, паслаў свае войскі на Беларусь, каб яны тут затрымлівалі шведаў. З 1701 аж да 1709 года Карл завязнуў у Польшчы і на Беларусі. Зноў руйнаваліся гарады і вёскі, зноў Беларусь была тэрыторыяй вайны”.

“Гаспадарства ў часы кіравання Аўгуста III (1733—1764) перажывае хатнюю анархію, будуючы сабе труну”.

XIX стагоддзе. На зямлі Уздзеншчыны французы ў пачатку вайны праследвалі адступаючага генерала Баграціёна і атамана Платава. Былі спустошаны Узда і вёска Азёры. “Вайна 1812 года дашчэнту спусташыла тэрыторыю Беларусі і пакрыла яе трупамі. Беларусь зрабілася нейкай сусветнай трупярняй. Вядома, напрыклад, што на адну вярсту той дарогі, па якой выходзіла з Масквы напалеонаўская

армія, прыходзілася ў сярэдным больш за сто трупаў. На Беларусі пачынаецца голад, насяленне вымірае ад тыфусу, цынгі і халеры".

Воляй палітыкаў кроўныя браты-славяне нярэдка станавіліся па розныя ваюючыя бакі. Пра ўдзел беларускіх войск на баку Расіі ў 1812 годзе вядома. Аднак у арміі Напалеона акрамя саксонцаў, прусакоў, галандцаў, аўстрыйцаў, італьянцаў ваявалі палякі і частка беларускага, пераважна акаталічанага, дваранства. З іх быў сфарміраваны 5-ы корпус, на чале якога стаў прыгаданы вышэй Юзаф Панятоўскі. У корпусе Ю.Панятоўскага былі тры дывізіі, некалькі палкоў і эскадронаў з мясцовай шляхты Гродзенскай і часткова Мінскай губерняў.

Нешта падобнае здарылася і ў апошнюю вайну…

Даўгачасовыя вынікі гістарычнага развіцця былі самыя неблагапрыемныя для беларускага народа. Найбольш трапна гэта падсумаваў у 1857 годзе ў "Обозрении истории Белоруссии с древнейших времен" Восіп Турчыновіч:

"…Неотрадна ее (Беларусі. — У.К.) прошедшая судьба: вечное поприще военной брани, при которой беззащитный здешний землевладелец беспрестанно переходил с новоселья на пепелище. До принесения сюда света христианства и с ним первых лучей гражданственности это был край наживы и покормки для соседних народов; потом кровавое позорище братних междуусобий; затем новые движения ратей, оставлявших за собой кучи пепла и потоки крови. Это поприще вековых состязаний, это перепутье могучих соперников, беспрерывно ратовавших и ходивших друг на друга; это великая могила их ратей несметных; могла ли она зародить в себе стихии порядка, образованности и благосостояния — что есть уделом стран счастливых…"

Дададзім сюды ваенныя беды тых 150 прайшоўшых з дня напісання гэтых слоў гадоў. Яны поўнасцю пацвердзілі вешчую сілу думкі гісторыка.

За гэты час зноў адгрымелі войны з удзелам беларусаў. Шэраг з іх пранеслася па-за межамі нашай зямлі. Ад гэтага нашы згубы не меней цяжкія і горкія. Зямля Беларусі зноў колькі разоў тапталася заваёўнікамі Першай і Другой сусветных войнаў.

Беларусь у каторы раз апынулася заложніцай глабальнай палітыкі процістаяння Усходу і Захаду. Такая роля ёй гонару не дадавала.

А ўсе заваёўнікі пакідалі пасля сябе ў нашым доме доўга не зажываючыя раны.

Беларусь доўгія стагоддзі была ўсяго пастаўшчыком чалавечых і эканамічных рэсурсаў на карысць пражэрлівага молаха вайны, здавальняючыся хіба арэолам бескарыслівай пакутніцы. Гэты сумніцельны гонар рос па меры павелічэння загінуўшых беларускіх ратнікаў, колькасці вялікіх і малых магіл.

Імкненне да самазахавання і жорсткія законы вайны прымушалі і беларусаў браць зброю ў рукі.

У выніку бесперапыннага выпрабавання беларус загартаваўся. Ён усведамляе сваёй адвечнай мудрасцю і разважлівасцю далей і глыбей іншых. Вопыт яго вучыць: усё наноснае, як і заваёўнікі, толькі на час. Любая навала пройдзе, усё вернецца на кругі свае. Як яму ні цяжка, ён казаў і кажа: “Неяк будзе!” Некаторыя бачаць у гэтым рысы адсталасці, забітасці, пасіўнасці. Але ж праходзіць час і праўда беларуса сцвярджаецца.

Народ наш кожны раз выжываў, адраджаўся і больш таго — захоўваў у сабе цярплівасць, дабрыню і сардэчнасць. Ёсць чаму вучыцца ў яго і сёння. Выхаваны ў такіх гістарычных умовах беларус уражвае сваім бясстрашшам у небяспецы і амаль абыякавасцю да цяжкасцей жыцця. Гэтыя якасці складваліся вякамі, яны наша нялёгкая спадчыннасць.

XX стагоддзе. Апошнюю вайну мы не можам паставіць у агульны шэраг усіх папярэдніх войн. І не толькі маштабамі забойстваў і разбурэнняў, а і тым, што раны 1941—1945 гадоў яшчэ і цяпер не загаіліся. Шмат яшчэ на зямлі тых, хто не ў пераказе ведае пра яе непамерныя ахвяры.

А калі ў адносінах да Уздзеншчыны, то ў гады вайны яе жыхары дастойна, адважна і ўмела рушылі гітлераўскую ваенную машыну, паскаралі вяртанне мірнага жыцця на родную зямлю.

Гарадскі пасёлак Узда быў заняты захопнікамі 28 чэрвеня 1941 года — праз шэсць дзён пасля пачатку вайны.

На наступны дзень, 29 чэрвеня 1941 года, каля вёскі Лоша ў лесе ля бальніцы, што побач з лясніцтвам, праходзіў бой нямецкіх войск з заняўшым абарону падраздзяленнем маладых лейтэнантаў.

29 снежня 1986 года адбылося перазахаванне семярых невядомых воінаў, якія палеглі ў той дзень. Сем касак, знойдзеных у магіле, захоўваюцца назаўсёды ў музеі Лашанскай школы.

Сведкам таго далёкага бою быў ветэран вайны жыхар вёскі Лоша Іван Балашэвіч. Ён прымаў удзел у гэтым пахаванні.

Некалькі слоў аб не вельмі вядомай падзеі пачатку вайны. Адступаючы пад націскам ворага, 24-я стралковая дывізія пад камандаваннем Кузьмы Мікітавіча Галіцкага 30 чэрвеня 1941 года прайшла праз Налібоцкую пушчу дзвюмя калонамі на Негарэлае і Дзяржынск, і рана 4 ліпеня перасекла з боем дарогу Стоўбцы—Дзяржынск, і ў гэты дзень выбіла немцаў з Узды. Часці дывізіі згрупаваліся ў лясах на поўдзень г.п. Узда паміж поймамі рэк Неманца і Лошы. 7 ліпеня дывізія, закапаўшы гаўбіцы (пасля вызвалення Уздзеншчыны яны былі зноў выкарыстаны ў ваенных дзеяннях), з боем перасекла шашу Слуцк—Мінск і пайшла адным маршрутам на Тураў, другім — на Слуцк — Мазыр. Так што Узда ў ліпені 1941 года была яшчэ на два дні вырвана з палону акупацыі.



Ветэраны вайны і працы
Павел Валожын і Алесь Махнач на святкаванні 500-годдзя горада Узда

У ліпені 1941 года былі створаны першыя падпольныя групы ў г.п. Узда, вёсках Бярвішчы, Возера, Магільна, Кухцічы, Цялякава. Падпольшчыкі вялі агітацыйную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі і савецкія газеты, пазней зрывалі мерапрыемствы ворага па вывазе жыхароў Уздзеншчыны ў Германію. Больш за 150 раненых камандзіраў і байцоў Чырвонай Арміі выратавалі ад смерці ў Уздзенскай райбальніцы Э.Раецкая, Т.Зайцава (Андрушэўская), Л.Кухарчык

і інш. Цялякаўская падпольная група здзейнісла шэраг дыверсій, псавала тэлеграфна-тэлефонную сувязь, спаліла лесазавод у Рысеўшчыне.
Актыўным арганізатарам падполля быў П.Ф.Валожын, ураджэнец вёскі Нізок, затым ён знаходзіўся на партыйнай рабоце. Выдавалася раённая падпольная газета “За Савецкую Радзіму”. Усяго выдадзен 51 нумар газеты агульным тыражом 11,5 тыс. экземпляраў.

Адным з першых (пры ўдзеле закатаванага немцамі, а пасля вайны несправядліва абвінавачанага ў здрадніцтве, сакратара Мінскага падпольнага ГК КПБ(б) І.Кавалёва), створаны партызанскі атрад М.М.Нікіціна на цяжка даступным Доўгім Востраве каля вёскі Александрова. На яго рахунку быў шэраг паспяховых аперацый на чыгунцы і шашы Мінск—Слуцк.

14 чэрвеня 1942 года атрад у Аляксандроўскім лесе правёў бой з карнікамі. 120 партызан за 8 гадзін 45 хвілін адбілі 21 атаку ворага. Не дабіўшыся поспеху, карнікі спалілі Аляксандрова і расстралялі 22 мірных жыхароў.

У вядомым Лаўскім баі 3 снежня 1942 года 18 партызан пад камандаваннем В.Драздовіча, прыкрываючы эвакуацыю шпіталя з вёскі Лавы, адбілі 8 атак і загінулі, знішчыўшы 85 карнікаў. У іх ліку былі ўраджэнцы вёсак Магільна, Яршы, Касцяшы. Партызанскі паэт-уздзенец Павел Паўлавіч Ліпіла прысвяціў героям “Песню аб Лаўскім баі”.

Вясной 1943 года на Уздзеншчыну прыбыла партызанская брыгада “Беларусь” з атрадам “Буравеснік” пад камандаваннем М.Г.Мармулёва. Атрад разграміў фашыстаў у вёсцы Міколка. Паблізу вёскі Любяча знішчыў калону з афіцэрамі, у ліку якіх былі нямецкі абласны камісар, начальнік абласной жандармерыі і ўрадавы інспектар.

Вясной 1944 года Магільна падверглася бамбардзіроўцы фашысцкай авіяцыі. Загінулі мясцовыя жыхары, згарэла шмат хат. Тады ж былі скінуты бомбы на сядзібу Наднёман, вёску Пясочнае.

У студзені 1944 года брыгада “Буравеснік” вытрымала жорсткі бой у раёне Каладзінскага лесу.

На пачатку лета 1944 года партызаны брыгады М.Г.Мармулёва падсцераглі каля вёскі Лоша калону аўтамашын з 36 грузавікоў, якая ўначы рухалася з Узды на Валяр’яны. Толькі тры апошнія

машыны змаглі развярнуцца і ўцячы назад ва Узду. Удзельнік гэтага бою С.Кашкан з Праходаў прайшоў потым баявымі дарогамі Польшчу, Германію, Чэхаславакію, Аўстрыю і вярнуўся на родную зямлю, якой аддаў яшчэ шмат гадоў працы.

За ўвесь час брыгадай было праведзена больш за 150 баявых аперацый. 28 чэрвеня 1944 года брыгада вызваліла Шацк. Каля вёскі Цеплень партызаны разам з часцямі Чырвонай Арміі дабівалі адступаючага праціўніка. Далей яны ўдзельнічалі ў ліквідацыі варожай групоўкі на ўсход ад Мінска. За гэтыя поспехі многія партызаны атрымалі баявыя ўзнагароды, а М.Г.Мармулёву было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Сілы партызан папаўняліся ў асноўным з мясцовага насельніцтва. З Нізка пайшло ў партызаны 30 сем'яў. 20 кастрычніка 1942 года людзі з вёсак Нізок, Буковічы, Бярвішчы, Забалацце, Сямёнавічы і іншых сабралі 100 падвод бульбы, збожжа. Гэты абоз пайшоў у Вялешынскі лес да партызан атрада імя Катоўскага.

У партызанскім руху ўдзельнічалі прадстаўнікі практычна ўсіх нацыянальнасцей, у тым ліку многія іншаземцы.

Іосіф Іосіфавіч Слацік — чэх. У 1933 годзе пайшоў служыць у армію буржуазнай Чэхаславакіі. У 1943 годзе ў Польшчы перайшоў да партызан. Быў залічаны ў адзін з атрадаў брыгады імя К.Я.Варашылава.

Пасля вайны працаваў сталяром, затым у Закрэўшчыне на пілараме. Знайшоў сваю маці і з'ездзіў на радзіму да яе. Пазней пазнаёміўся з дзяўчынай з вёскі Боркі, ажаніўся і перабраўся да яе. Працаваў у калгасе. Ад першага шлюбу меў трох дзяцей. Пасля смерці першай жонкі ажаніўся зноў і прыжыў яшчэ двух дзяцей. Пахаваны на беларускай зямлі. Быў напэўна шчаслівым чалавекам, бо пусціў у нас глыбокія карані: меў 11 унукаў і нават аднаго праўнука.

Сярод уздзенскіх партызан было 12 чэхаў, 5 французаў (чатыры з іх працавалі на электрастанцыі), некалькі немцаў (двое працавалі потым у Уздзенскай бальніцы). Сярод іх тут памятаюць прозвішчы француза Альфрэда Стрэйта, немца Герхарда Трушкіна, аўстрыйца Франца Керчэля.

У складзе 200-й імя К.К.Ракасоўскага партызанскай брыгады змагаўся піянер Марат Казей. 13-гадовым юнаком ён уступіў у

партызанскі атрад. У цяжкіх умовах паспяхова выконваў даручэнні камандавання. У баі каля в. Станькава ў снежні 1943 года здабыў варожыя карты і планы.

11 мая 1944 года ён разам з начальнікам разведкі брыгады пры адыходзе з вёскі Харомiцкія загінуў у баі з карнікамі батальёна Дзірлівангера. За подзвіг юны разведчык быў удастоены звання Героя Савецкага Сюза. У вёсках Харомiцкія, Станькава і ў г. Мінску яму ўзведзены помнікі.



Помнік Марату Казею ў Мінску

Таксама героем загінуў і юны партызан Косця Буднік. Яму прысвечана аповесць Д.Ф.Слаўковіча “Я вярнуся, мама!”

У вёсках Уздзеншчыны ствараліся партызанскія камендатуры, групы і атрады самаабароны. К канцу 1943 года партызаны кантралявалі ўжо 80 працэнтаў тэрыторыі раёна.

У розны час на Уздзеншчыне дзейнічалі партызанскія брыгады: 1-я Мінская, 2-я Мінская, 3-я Мінская імя С.М.Буддзённага, 27-я імя В.І.Чапаева, 95-я імя М.В.Фрунзе, 225-я імя А.В.Суворава, 300-я імя К.Я.Варашылава, “Беларусь” імя М.І.Калініна, імя С.М.Кірава, імя М.І.Кутузава, імя В.І.Чапаева і партызанскія атрады “Баявы” імя Дунаева, імя М.І.Калініна, імя І.В.Сталіна, “Мсціўцы” і “Мясцовыя”.

Партызанамі прадпрымаліся неаднаразовыя спробы захапіць Узду. Так, 21 верасня 1942 года пасля паспяховага бою партызанам замацавацца ў Уздзе перашкодзілі налёты нямецкай авіяцыі і наступленне танкаў з боку Слуцкай шашы.

У ноч з 28 на 29 чэрвеня 1944 года партызаны 300-й брыгады імя К.Я.Варашылава (камандзір В.Яроменка) занялі Узду і чатыры дні ўтрымлівалі да падыходу часцей Чырвонай Арміі.

3 ліпеня партызаны і насельніцтва Узды сустракалі воінаў 37-й гвардзейскай дывізіі (палкоўнік Марозаў) і 96-й стралковай дывізіі. Аб гэтым цёпла ўспамінаў былы камандзір 96-й стралковай дывізіі генерал Фатых Булатаў: “Вайна робіць салдат суровымі, яны ўмеюць хаваць свае пачуцці. Але тут, калі мы бачылі слёзы радасці на вачах сустракаўшых нас жанчын, старых і дзяцей, у кожнага салдата падціскаўся камок да горла”.

Пасля злучэння з войскамі партызаны брыгады ўдзельнічалі ў ліквідацыі варожых груповак. Многія партызаны ўліліся ў шэрагі Чырвонай Арміі, другія ўключыліся ў аднаўленне гаспадарчага жыцця.

І сёння будзе зразумелы высакародны ўчынак Паўліны Фёдараўны Гурскай. Яна ўсю вайну хавала бюст Леніна, які раней знаходзіўся ў клубе пагранічнай заставы. Цяпер ён выстаўлены ў Уздзенскім раённым гістарыка-краязнаўчым музеі.

Ураджэнцу вёскі Кухцічы У.Р.Карачуну, вёскі Старыя Маргі І.С.Козічу і былому навучэнцу Уздзенскай СШ, сыну святара, настаяцеля Уздзенскай царквы св. Пятра і Паўла, пратаіерэя, свяшчэннамучаніка Міхаіла Навіцкага, Мікалаю Міхайлавічу Навіцкаму за баявыя подзвігі прысвоены званні Герояў Савецкага Саюза.

Уздзенец Павел Стрыгельскі абараняў Маскву, потым вызваляў Беларусь. У баях пад Масквой удзельнічалі М.Макарэвіч, І.Дубовік, І.Бокуць. Апошні таксама ўдзельнік баёў за Сталінград.

Пётр Толсты быў удзельнікам парада войск на Чырвонай плошчы 7 лістапада 1941 года. Далей у яго былі Сталінград, Курская дуга і сустрэча свята Перамогі ў Будапешце.

А вось ураджэнец вёскі Хатляны ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны Уладзімір Рудзік прайшоў на парадзе Перамогі на Чырвонай плошчы ў Маскве 24 чэрвеня 1945 года.

У трох войнах удзельнічаў ўраджэнец вёскі Нізок Алесь Нісцюк. У 1920 годзе ваяваў з басмачамі, у 1939 годзе — на савецка-фінляндскім фронце, а затым прайшоў дарогамі Вялікай Айчыннай.

Глафіра Суслава прымала ўдзел у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Спачатку ў мінскім партыйным падполлі, а затым кіраўніком падпольнай групы ў Уздзенскім раёне і сувязной партызанскага атрада імя М.І.Кутузава. Пасля вайны была доўгі час на гаспадарчай рабоце.







Стэлы гонару і памяці ў пас. Першамайск і ў горадзе Узда

Партызан брыгады “Буравеснік” Іван Максімавіч Сакольчык у мірны час стаў будаўніком, брыгадзірам Белэнергамантажа. За поспехі ў рабоце атрымаў званне Героя Сацыялістычнай Працы.

У вёсцы Дзешчанка нарадзіўся военачальнік, удзельнік апошняй вайны, а затым выкладчык ваеннай акадэміі генерал Уладзімір Тумас.



Будынак французскай ваеннай місіі ў Маскве

У 1991 годзе пабываў у раёне контр-адмірал, Герой Савецкага Саюза Валянцін Холад з вёскі Пятровічы Мінскага раёна. Бацька яго загінуў на вайне, а хлопец трапіў пасля вайны ў Уздзенскі спецдзетдом. Скончыў у 1954 годзе сярэднюю школу імя А.С.Пушкіна. Быў камандзірам атамнай падводнай лодкі, камандзірам злучэння падводных лодак. З 1988 года — контр-адмірал. Яго жонка таксама выхаванка Уздзенскага спецдзетдома.

Хоць і не прама, але Уздзеншчына звязана яшчэ з адной важнай падзеяй апошняй вайны.

У знак слаўных перамог на адным з маскоўскіх дамоў — раней французскай ваеннай місіі — устаноўлена французскімі ўладамі мемарыяльная дошка ў гонар авіяпалка “Нармандыя—Нёман”. На ёй акрамя знака “Нармандыя—Нёман” знаходзіцца дошка ў памяць аб загінуўшых лётчыках гэтага авіяпалка.

Полк быў створаны ў красавіку 1943 года і ўпершыню вызначыўся ў бітве на Арлоўска-Курскай дузе. Закончыў баявы шлях у маі 1945 года каля Гданьска. Усяго ім праведзена 869 баёў, збіта 273 фашысцкія самалёты. З 148 лётчыкаў і тэхнікаў палка загінулі 42, чатыром прысвоена званне Герояў Савецкага Саюза. Напачатку полк насіў назву “Нармандыя”. Калі баі перайшлі на тэрыторыю Беларусі і Літвы, за паспяховыя дзеянні пры фарсіраванні савецкімі войскамі ракі Нёман авіяпалку прысвоена ганаровае званне “Нёманскі”. Ён стаў з таго часу звацца “Нармандыя—Нёман”. Так рака Нёман з вытокамі каля Узды прылучылася да міжнароднай славы і гонару.

І цяпер ёсць у Францыі асацыяцыя ветэранаў палка “Нармандыя—Нёман”, і цяпер існуе паветранае злучэнне-авіяэскадрылля пад той жа назвай. Яно прадаўжае традыцыі авіяпалка. Кожны год да будынка французскай ваеннай місіі ў Маскве прыходзяць баявыя таварышы па былому злучэнню:

В небесах мы летали одних,
Мы теряли друзей боевых.
Ну а тем, кому выпало жить,
Нужно помнить о них и дружит,

так спяваецца ў песні.

Калі Маскву наведаў прэзідэнт Французскай Рэспублікі Ф.Мітэран, ён таксама ўшанаваў былую славу палка, усклаў вянок да мемарыяльнай дошкі палка…

Аднак што гэтыя традыцыі па-ранейшаму высокія і слаўныя — таго цяпер не скажаш: французскія лётчыкі палка “Нармандыя—Нёман” у 1999 годзе 73 дні бамбілі югаслаўскую зямлю. Ад авіяцыйных і ракетных налётаў загінула больш за 3,5 тыс. ваеннаслужачых, паліцэйскіх і мірных нявінных грамадзян. Колькі з іх ад налётаў французскіх лётчыкаў — сказаць цяжка.

Ад крыважэрнага мінулага наша Наднямонне празмерна часта пазначана самымі гораснымі слядамі — пахаваннямі вядомых і невядомых рыцараў, ваяроў, салдат, байцоў, партызан, мірных жыхароў паасобку і ў такім вынаходстве вайны як брацкія магілы ўздоўж дарог, у лясах, на палях, сярод балот. Пакуль яшчэ іх памятаюць па часах апошняй вайны. Яшчэ жывуць сведкі самай бесчалавечнай з войнаў. Таму на нашай зямлі не гасне іх горкі сум за нязбытыя мары і надзеі.

Некалькі радкоў з Кароткага агляду гісторыі Беларусі (Кліўленд—Нью-Йорк—Талін, 1990):

“Заміж каб змагацца супраць партызанаў, нямецкія (і дапаможныя чужацкія) аддзелы “кара́лі” Беларусаў. Даведаўшыся, што ў дадзеным сяле партызаны атрымалі дапамогу ад сялян (часта вымушаную тэрорам), немцы палілі гэтае сяло ўлучна і з жыхарствам. Аднаго злоснага даносу было даволі, каб зьнішчыць цэлае сяло. Прыкрываючыся змаганьнем супроць партызанаў, немцы вынішчалі беларускі народ, каб магчы пазьней лягчэй каланізаваць Беларусь. Апрача таго, сяляне, што здолелі выратавацца ад нямецкае “кары”, а таксама запалоханыя жыхары суседніх вёсак, уцякалі ў лес і хоцькі-няхоцькі далучаліся да партызанаў”.









Мемарыялы памяці ў г. Узда

Сапраўды, фашысты з першых дзён акупацыі Уздзеншчыны праводзілі палітыку масавага вынішчэння мясцовага насельніцтва, не выключаючы старых, жанчын, дзяцей. Усяго імі ў Уздзенскім раёне загублена і вывезена ў рабства 5599 чалавек.



Мемарыял памяці ў вёсцы Лоша

Паводле няпоўных звестак у раёне на працягу 1941 года гітлераўцы знішчылі 1740 яўрэяў, да гэтага сагнаных з навакольных вёсак у створанае для іх ва Уздзе па вуліцах Ленінскай, Пралетарскай, Кастрычніцкай гета. У лістападзе 1941 года на месцы масавых пахаванняў на ўскрайку Узды па дарозе Узда—Прысынак было расстраляна 408 байцоў Чырвонай Арміі — ваеннапалонных. У маі 1942 года фашысты знішчылі 638 цыган, якія, уцякаючы з Заходняй Еўропы, спыніліся табарам ля вёскі Літва. Іншага месца з такой колькасцю ахвяр цыганаў на Беларусі няма. У красавіку 1944 года былі расстраляны яшчэ 75 чалавек ваеннапалонных і партызанскіх сувязных.

Фашысцкія карнікі знішчылі 18 вёсак раёна, з іх дзве — Рудкова і Астравок — разам з жыхарамі.

У снежні 1941 года (студзені 1942 года?) была спалена вёска Старына Мінскага раёна. Пасля расстрэла ўсіх жыхароў быў сцёрты і яе след. Могілкі са Старыны перанеслі ў уздзенскую вёску Валодзькі. На месцы ж спаленай вёскі пасаджана 47 дрэўцаў у памяць аб кожным пакутніку.

У пачатку 1944 года на Уздзеншчыну быў перадыслацыраваны батальён О.Дзірлівангера.



Мемарыяльны комплекс у памяць вёскі Астравок і яе жыхароў

Вёска Астравок сцёрта з зямлі тым жа карным батальёнам, які год таму "адзначыўся" хатынскай расправай. Дзірлівангераўцы разам з жандармерыяй і паліцыяй палілі яе ў красавіку 1944 года. 76 яе жыхароў былі сагнаныя па вопыту Хатыні ў хлеў і жывымі спалены.

Цяпер на ўскраіне адноўленага Астраўка разбіты мемарыяльны парк. Высаджаныя ў ім бярозы паўтараюць размяшчэнне былых знішчаных хат.

Усяго ў раёне было знішчана 1178 двароў, забіта 1166 жыхароў.

Месцы масавых пахаванняў цяпер атрымалі статус мемарыяльных.

Больш грунтоўна і ўсебакова акупацыйны рэжым у Уздзенскім раёне паказаны ў творах В.Р.Гурскага.

## ТУТ ЗЯЗЮЛІ МАЎЧАЦЬ
## І ПАДСНЕЖНІКІ ПЛАЧУЦЬ…

За месяц да вядомай хатынскай трагедыі на Уздзеншчыне адбылося, можа менш маштабнае, але не менш жудаснае і шалёнае забойства мірных жыхароў, сярод якіх у асноўным былі дзеці…

Даследчык У.Кашынскі сабраў каштоўны матэрыял, які паслужыў адпраўным для далейшых пошукаў. З дапамогай КДБ Рэспублікі Беларусь у архіве была выяўлена следчая справа, цэнтральнай падзеяй якой быў расстрэл пад Камяным. Паспрабуем удакладніць акалічнасці гэтай крывавай трагедыі…

Па даносу аднаго з паліцэйскіх аб'яднаны атрад войск нямецкай службы бяспекі СД (у некаторых дакументах — СС) і паліцэйскіх Уздзенскай раённай паліцыі агульнай колькасцю да 30 чалавек на трох падводах у ноч на 24 лютага 1943 года выехалі ў вёску Віркова, што на поўдні Уздзеншчыны.

На золку былі арыштаваны "за сувязь з партызанамі" ў поўным складзе сем'і Ліхадзіеўскіх і Нікановічаў. Трохі пазней быў арыштаваны яшчэ Іосіф Пармон.

Для дастаўкі 17 арыштаваных карнікамі былі прыцягнуты чатыры падводы з возчыкамі з мясцовых сялян. Каля 11 гадзін раніцы атрад рушыў на Узду. Прыкладна праз гадзіну жыхары вёскі Віркова пачулі беспарадкавыя стрэлы з боку вёскі Камяное. Яшчэ праз дзве гадзіны ім паведамілі, што ўсе арыштаваныя і возчыкі расстраляны.

Некалькі чалавек з вёскі пайшлі ў Камяное. Па дарозе сустрэлі падводу з забітымі возчыкамі Софіяй Пармон, Вікенціем Сіняковічам і Апанасам Астрэйкам. На месцы яны ўбачылі жудасную карціну. Акрамя вывезеных возчыкаў тут ляжала 14 трупаў членаў сем'яў Ліхадзіеўскіх і Нікановічаў. Іосіфа Пармона сярод іх не было, як і возчыка Івана Пармона. Пазней стала вядома, што Іосіфа Пармона расстралялі ў Уздзе. Іван Пармон застаўся жывы.

Па гарачых слядах жудасных падзей удалося ўдакладніць, што непадалёку за Камяным, калі падводы падышлі да паляны, адтуль, дзе рухалася падвода з паліцыяй бяспекі, раздалася каманда "Страляй!". Быццам бы па прычыне таго, што Франц Ліхадзіеўскі зрабіў спробу збегчы ў лес. Усе пачалі страляць па санях з арыштаванымі. Падняўся страшэнны крык і плач. Калі стрэлы сціхлі, са снегу паднялі І.К.Пармона і затым ля вёскі Бярвішча адпусцілі другой дарогай да Віркова, загадаўшы перадаць запіску да віркоўскага солтыса, каб сем'і Ліхадзіеўскіх і Нікановічаў былі пахаваны на месцы расстрэлу, а возчыкі — на могілках.

Іван Францавіч Ліхадзіеўскі, тады 12 гадоў узросту, ацалеў у час расстрэлу разам з малодшым братам Алесем 6 ці 4 гадоў. Ён паказаў, што іх везлі праз Адрынішчы і Камяное. На ўзлеску па іх пачалі страляць з кулямёта. Дзеці пападалі на зямлю. Ім загадалі падняцца зноў на павозкі і пачалі забіваць. Конь раптам панёс. Яго паліцэйскі стрымаў і загадаў малому Івану бегчы наперад, пасля чаго стрэліў у яго. Хлопчык кінуўся на снег, хоць куля яго не кранула. Паліцэйскі пайшоў страляць яго братоў. Па завяршэнні расстрэлу ўсіх абышоў немец.

Іван з параненым Алесем праляжалі на снезе нерухома болей гадзіны. Калі хлопчыкі прыйшлі ў сябе, то Іван узяў сабе на рукі босага Алеся і панёс яго ў Нізок праз лес, маючы намер дабрацца ў Кухцічы да дзядулі Мікалая Барэйшы. Так яны прайшлі 5 кіламетраў да вёскі, саграваючыся разам на прыпынках.

Хадзіла і другая версія гэтага расстрэлу: быццам бы пры ўездзе ў лес разведка (якая?) данесла аб засадзе наперадзе партызан (тым не менш пазней атрад не пабаяўся гэтым маршрутам ехаць да Узды). Па заведзенаму звычаю паліцэйскія пасля “ўдалай” аперацыі ўчынілі вялікую папойку.

Бяда на гэтым не закончылася. Праз два дні былі арыштаваны ў тым жа Віркове дзеці Пармон Валянціны, пляменнікі забітага І.М.Пармона — Уладзімір 7 гадоў і Марыя 2 гадоў. Іх расстралялі ў Уздзе 9 сакавіка 1943 года на могілках масавых пахаванняў.

Пасля гэтай бяды чулыя нізоўцы адправілі Івана і Алеся Ліхадзіеўскіх да дзеда з бабуляй, якія жылі ў Пясочным. І тут іх не мінула бяда. У час нямецкай бамбёжкі Пясочнага адна з бомб трапіла ў хату, дзе жылі малыя. Дзед, бабуля і малы Алесь загінулі.

Ці ж мелі Ліхадзіеўскія і Нікановічы сувязь з партызанамі? Такіх пэўных звестак у справе няма. Але вядома, што вёска Віркова лічылася партызанскай, і да іх сапраўды заходзілі партызаны. А да каго яны не заходзілі ў кантралюемай імі зоне?

Цікавыя меркаванні па гэтаму выпадку выказаў знаўца Уздзеншчыны ветэран Айчыннай вайны і працы Станіслаў Шкадзінскі. Ён асабіста ведаў старэйшых Ліхадзіеўскіх і Нікановічаў, як і тых паліцэйскіх.

Ф.Нікановіч і Ф.Ліхадзіеўскі былі да вайны адметнымі людзьмі на Уздзеншчыне. Франц Ліхадзіеўскі вярнуўся з грамадзянскай вай-

ны параненым, таму трохі кульгаў. Быццам меў нейкі вельмі важны дакумент, які пацвярдждаў яго заслугі перад Савецкай уладай. За розум, актыўнасць вельмі паважаўся сярод сялян. Дзякуючы сваёй вядомасці, абраў ён сабе ў жонкі першую прыгажуню Марыю. Жылі ў сярэдзіне 20-х гадоў у Навасадах, здымалі палову дома Шкадзінскіх. Потым, працуючы лесніком, пераехаў на жыхарства ў Віркова. Меў добраахвотных памочнікаў у сваёй справе сярод вясковых хлапчукоў. Арганізоўваў з імі ў лесе месцы для кармлення і паення звера.

Фёдар Ніканові́ч — актыўны ўдзельнік мерапрыемстваў Савецкай улады на сяле, у тым ліку і ў час калектывізацыі. Жыў у пачатку вёскі Віркова з боку Узды. Цяпер таго дома ўжо няма.

Адным словам, вядомыя, перадавыя людзі вёскі, яе гонар, цвет. Вядома, што ад бяссілля фашысты і іх памагатыя сваю злосць спаганялі на мірных жыхарах, адбіраючы на помстлівае катаванне лепшых, аўтарытэтных, пераважна многасямейных. Вось так, хутчэй за ўсё, і паў "выбар" на сем'і Ліхадзіеўскіх і Нікановічаў.

Лёс арыштаваных быў вызначаны адразу пасля арышту. Версіі "нападу партызан" ці "спробы ўцёку" былі толькі прыкрыццём і апраўданнем гэтага дзікага забойства для карнікаў.

Іван Францавіч Ліхадзіеўскі затым жыў у Ануфрове, дзе і памёр у 1990 годзе. Але што гэта было за жыццё чалавека з пакалечанай зломанай псіхікай? Ён жыў і чакаў таго часу, калі далучыцца да бацькоўскай сям'і, да свайго перарванага роду. І яго апошняя воля была выканана. Цяпер іх сям'я, за выключэннем Алеся, нарэшце ўз'ядналася.

На помніку на магіле ля Камянога занесены тыя, хто мог бы жыць яшчэ і сёння:

| | |
|---|---|
| **Ліхадзіеўскія** | **Нікановічы** |
| Франц | Фёдар |
| Марыя | Стэфаніда |
| **Дзеці** | **Дзеці** |
| Уладзімір | Міхаіл |
| Марыя | Іван |
| Валянціна | Аляксандр |
| Лідзія | Уладзімір |
| | Анатоль |

Побач помнік на магіле Івана Ліхадзіеўскага…




Мемарыял памяці загінуўшых членаў сямей
Нікановічаў і Ліхадзіеўскіх ля вёскі Камяное

Вядомыя нам і невядомыя людзі, наведайце могілкі! Схіліце галовы перад нявіннымі ахвярамі, як і перад усімі закатаванымі ў той бязлітаснай вайне! Гэта будзе лепшым праяўленнем нашай памяці і папярэджаннем. Папярэджаннем сённяшняму дню, бо пасля той жудаснай вайны бясслаўная афганская вайна забрала яшчэ двух нашых маладых землякоў.

Працоўныя Уздзеншчыны захоўваюць памяць аб загінуўшых у апошняй вайне. У Уздзе ўзведзены ў гонар воінаў, падпольшчыкаў і партызан, якія ўдзельнічалі ў вызваленні раёна, мемарыяльны помнік-стэла, ля якой заўсёды кветкі. Абеліск устаноўлены на магіле падпольшчыкаў М.Валчэцкай, А.Ліпай, А.Шакаль.

У раёне вядзецца ўлік усіх помнікаў і памятных мясцін з апошняй вайны. Іх налічваецца 95, пра некаторыя мы расказалі ўжо ў гэтай кнізе. Працягваецца карпатлівая работа па прывядзенні і падтрыманні на іх парадку, па выяўленні новых. Поўны іх пералік ёсць у кнізе “Памяць. Уздзенскі раён”.

## Мая Радзіма

Мая Радзіма,
Любая, святая…
Палітыя крывёй
Твае палі…
Шчымлівы крык
Здалёку далятае…
То плачуць
Над пагостам жураўлі…
А мо, Айчына,
Гэта ты галосіш
Па ўсіх любімых
Дочках і сынах?
О, колькі іх!..
Як пад сярпом
Калоссе…
Не іх віна…
І не твая віна…
Яны ляглі
За гонар твой і славу.
Цябе да скону
Дадзена любіць.
А крык ляціць,
Крык падае на травы:
“Не жыць…
Не жыць…
Нам без цябе
Не жыць…”
О, мілая,
О, светлая Айчына!
Чаму ж такая доля у цябе?
Быць на крыжы…
Шляхоў?..
Чаму павінна
Схіляцца першай
У горкае журбе?..

. . .

…Крык жураvоў
Над апусцелым полем
Танюткай павуцінкаю
Плыве..,

жаласліва, шчымліва і пранікнёна пісаў Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь беларускі паэт Міхась Башлакоў.

…Беларускі народ заўсёды абараняў, пеставаў сваю нацыянальную самасвядомасць. Верыў, што некалі яна прывядзе да самастойнасці. Верыў і дачакаўся свайго. Выток такой веры ў патрыятызме, любові беларусаў да свайго кутка. Плён са сваёй самастойнасці (так вучыць гісторыя) мы будзем мець, калі не ўцягнемся ў новыя звады. Чаго варта будзе тады наша самастойнасць?

Хопіць крывавець нашай зямлі. Беларусь можа вырвацца з горкага кола папялішчаў і магіл. Нягледзячы на цяжкі лёс, наш народ кіруецца ў жыцці сімваламі міру.

Вельмі хацелася б, каб у загалоўку гэтага раздзела не было пытальніка. Лепей было б, каб ён праходзіў з клічнікам —

Наперадзе мір!

## Змест

